УДК 94(476)(082)

Укладальнік:
Аляксандр Фядута

Пад навуковай рэдакцыяй
доктара філалагічных навук прафесара *Т. Я. Аўтуховіч*
і доктара гістарычных навук прафесара *З. В. Шыбекі*

Укладальнік выказвае шчырую падзяку
Надзі і Янку Запруднікам, Лізе Літаровіч,
Валянціне і Сержу Трыгубовічам,
без дапамогі якіх гэты том альманаха
не быў бы надрукаваны

У чарговым томе беларускага біяграфічнага альманаха «Асоба і час» чытач знойдзе матэрыялы, якія апавядаюць пра Антонія Тызенгаўза, Яна Баршчэўскага, Уладзіміра Дубоўку, Міколу Равенскага ды іншых выдатных людзей, якія прынеслі гонар Беларусі. Асобныя раздзелы альманаха прысвечаны 200-годдзю таварыства філаматаў, «Вялікаму тэрору» сталінскіх часоў і дзейнасці беларускай эміграцыі.

ISSN 2218–2039

# МОДНЫ ІМПАРТ У РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ АПОШНЯЙ ЧВЭРЦІ XVIII СТАГОДДЗЯ: парыжскія пакупкі Антонія Тызенгаўза і «польскіх» модніц

На працягу XVIII стагоддзя Рэч Паспалітая (а для ўсёй Еўропы таго часу папросту Польшча) знаходзілася ў цэнтры моднай карты кантынента. Для расіян у сярэдзіне стагоддзя паездка ў Варшаву давала магчымасць разжыцца багатымі прэзентамі. «Я мяркую, што вы і ў Варшаве можаце добрых шаўковых тканін знайсці» —так падказвае віцэ-канцлер М. Л. Варанцоў сваёй дачцэ, баранесе А. М. Строганавай, ідэю падарункаў для імператрыцы Лізаветы Пятроўны[1]. Рэпертуар модных фасонаў гэтага стагоддзя нязменна адсылае да польскай сукенкі, альбо паланэза. На пачатку стагоддзя агульную вядомасць набывае накідка з футровай аблямоўкай, безрукаўная альбо з кароткім рукавом. Гэтым уборам выхваляюцца, напрыклад, «Летуценніца» (1715–1717) і «Палячка» (1717) Жана Антуана Вато. Іншы фасон польскага строю набыў асаблівую папулярнасць ад Парыжа да Пецярбурга на мяжы 1760–1770-х гадоў[2]. Ён складаўся з двух выразна адасобленых слаёў: верхняя сукенка з доўгай спадніцай у зборкі, крыху падцягнутай у некалькіх месцах, накрывала яшчэ адну, ніжнюю сукенку (малюнак 1). У 1795 годзе расійскія модныя часопісы рэкламуюць жаночы варшаўскі каптур — невялікі галаўны ўбор, што нагадвае салдацкі капялюш[3].

Гэтыя хвалі цікавасці да «польскіх» строяў маюць выразную палітычную матывацыю. Паланэз з'яўляецца на вялікасвецкай сцэне падчас хваляванняў, звязаных з Барскай канфедэрацыяй і першым падзелам Польшчы. 20 студзеня 1774 года княгіня Тэафілія Сапега трапляе ў цэнтр увагі парыжскай публікі дзякуючы свайму ўбору: «...паехалі ў Булонскі лес, спыніўшыся ў Ла Мюэт агледзець каралеўскі дом... Заспелі там вялікую вясельную вячэру і безліч людзей... Багата народу выйшла з-за стала паглядзець на мяне ў маім польскім строі»[4]. Мода на варшаўскі каптур звязаная з задушэннем паўстання 1794 года і апошнім падзелам Рэчы Паспалітай — ягонае падабенства да расійскага салдацкага галаўнога ўбора і «сувораўскага каптура» (le chapeau à la Souvarov) павінна было зрабіць ясны намёк на новыя геапалітычныя рэаліі.

Так, «польскія» строі выклікалі ў Еўропе зацікаўленасць і пераймანні, але ці былі яны аўтэнтычнымі — складанае пытанне. Некаторыя даследчыкі гісторыі моды, напрыклад Франсуа Бушэ, лічаць, што сукенку на польскі манер ніколі ў Польшчы не апраналі[5], але працытаваны вышэй пасаж з дзённіка княгіні Сапегі супярэчыць гэтаму меркаванню. Дакладней будзе сказаць, у XVIII стагоддзі ішла складаная гульня модных тэндэнцый і культурных знакаў, асноўнымі правіламі якой былі

---

[1] Архив князя Воронцова. Т. 4. — М.: Типография Ф. Иогансон, 1872. — С. 472 (ліст ад 10.06.1761).

[2] Бордэриу, К. Платье императрицы. Екатерина II и европейский костюм в Российской империи. — М.: НЛО, 2016. — С. 30–31.

[3] Магазин общеполезных знаний и изобретений: С присовокуплением Моднаго журнала, раскрашенных рисунков, и музыкальных нот. № 1. — СПб.: Типография И. К. Шнора, 1795. С. 61. Гл. таксама: Бордэриу К. Платье императрицы... — С. 108–109.

[4] Княгіня Тэафілія з Ябланоўскіх Сапега. Фрагменты дзённіка за 1774 год // Асоба і час: Беларускі біяграфічны альманах. Вып. 7 / уклад. А. І. Фядуты, В. А. Трыгубовіч. — Мінск: Лімарыус, 2016. — С. 13.

[5] Boucher, F. Histoire du costume en Occident : de l'Antiquité à nos jours. — Paris: Flammarion, 1965.

абмен і стварэнне «свайго» з асвоенага «чужога». Пра тое, якім чынам і па якіх каналах гэтае «чужое» дабро, а найперш самае запатрабаванае, французскае, трапляла ў Рэч Паспалітую, пойдзе гаворка далей. Разгледзім два характэрныя выпадкі з эканамічных і культурных практык апошняй чвэрці XVIII стагоддзя.

## Эпізод першы.
## Парыжскія справы Антонія Тызенгаўза

Без перабольшвання можна сцвярджаць, што граф Антоній Тызенгаўз, падскарбі надворны літоўскі з 1765 да 1780 года, адкрывае рынак Вялікага Княства Літоўскага для эканамічных зносін з усёй Еўропай. Яму і каралю Станіславу Аўгусту Панятоўскаму належыць ідэя заснавання ў Гродне персіярні, суконнай, шаўковай, залататкацкай, камлотнай, панчошнай, капялюшнай, карэтнай і яшчэ некалькіх фабрык. Іх адкрыццё суправаджаецца стварэннем дзвюх кантор, камерцыйнай і мануфактурнай, якія павінны былі спрыяць наладжванню больш цесных і шырокіх замежных гандлёвых дачыненняў. Іх кіраўнікамі былі прызначаныя французы браты Бекю, Жан Луі і Жак[6]. Шмат французаў працавала і на мануфактурах. Найбуйнейшую з іх, шаўковую, узначальваў Вэнсан Дзюпінэ з Ліёна, самага буйнога і слаўнага еўрапейскага цэнтра вырабу і апрацоўкі шоўка. Большасць з яго падначаленых таксама паходзіла з Ліёна[7].

Задача мануфактур Тызенгаўза была падвойная: стварэнне якасных уласных прадуктаў і замяшчэнне надзвычай дарагога імпартнага тавару. Дарэчы сказаць, што на пачатку 1770-х гадоў эканоміка Рэчы Паспалітай знаходзілася ў катастрафічным становішчы: у 1772 годзе дэфіцыт гандлёвага балансу складаў 6 мільёнаў польскіх дукатаў, а праз чатыры гады ён узняўся ажно да 26,5 мільёна[8]. Зразумела, што першы падзел Рэчы Паспалітай моцна паўплываў на крах эканомікі дзяржавы двух народаў, таксама як і бясконцыя войны, канфедэрацыі, хваляванні і г. д. Аднак асноўнай прычынай заняпаду была састарэлая сістэма эканамічных адносін.

Станіслаў Аўгуст і Антоній Тызенгаўз імкнуліся выправіць дысбаланс яшчэ з сярэдзіны 1760-х гадоў. У 1766 годзе інструкцыя шляхты Гарадзенскага павета, якая, на думку Юрыя Гардзеева, была складзеная Тызенгаўзам, тагачасным старостам гарадзенскім, прапанавала ўвесці эмбарга на ўвоз парыжскіх тканін, брабанцкіх карункаў, ювелірных вырабаў і фарфору[9]. Але спатрэбілася дзесяць гадоў, каб сейм прыняў закон, які забараняе пакупку за мяжой прадметаў раскошы. У сваім ліставанні з дырэктарам мануфактурнай канторы Жакам Бекю кароль неаднаразова спасылаецца на гэты закон, каб падкрэсліць, якую важную ролю

---

[6] Аб эканамічнай дзейнасці мануфактур: Гибянский, И. Г. Граф Антоний Тизенгаузен и гродненские королевские мануфактуры: Очерк по экономической истории Польши в эпоху Станислава Августа (1764–1795) на основании архивных источников. — Петербург: Петроградский политехнический институт Императора Петра Великого, 1916; Kula, W. Szkice o manufakturach w Polsce XVIII wieku, vol. 1 (część pierwsza: 1720–1764, część: druga 1764–1780). — Warszawa: PWN, 1956. — P. 374–448; Kościałkowski, S. Antoni Tyzenhauz: Podskarbi nadworny litewski: 2 t. — Londyn: Wydawnictwo Społeczności Akademickiej Uniwersytetu Stefana Batorego, 1970–1971; Гардзееў, Ю. Рамантык эпохі Асветніцтва: Антон Тызенгаўз. — Мінск: Тэхналогія, 2008.

[7] Гл. «Спіс вытворцаў і рабочых, што працуюць на мануфактурах Яго Вялікасці ў Гродне» (*Liste des fabricants et ouvriers travaillant dans les manufactures de Sa Majesté à Grodno*), Biblioteka Książąt Czartoryskich, ms. 719-IV, s. 359–361.

[8] Гибянский, И. Г. Граф Антоний Тизенгаузен... — С. 8–10.

[9] Гардзееў, Ю. Рамантык эпохі Асветніцтва... — С. 25.

адыгрываюць гарадзенскія фабрыкі ў эканамічным і палітычным жыцці краіны. Жак Бекю добра разумеў ідэі Станіслава Аўгуста. Апраўдваючыся за заганы тканіны, дасланай да варшаўскага двара, дырэктар мануфактурнай канторы тлумачыць каралеўскаму сакратару Станіславу Бадэні: «Я не асмеліўся б вам яе даслаць, калі б не цешыў сябе думкай, што добрая патрыётка даруе маладой фабрыцы і з меншым задавальненнем будзе насіць тканіну, высокая якасць якой робіць гонар толькі самой фабрыцы, чым той выраб, што робіць гонар самой даме і, нягледзячы на невялікія недасканаласці, спрыяе рамёствам на яе радзіме»[10].

«Маладосць» гарадзенскай фабрыкі была не адзінай прычынай цяжкасцяў яе станаўлення і дзейнасці, недасканаласці вырабаў. Не хапала сыравіны, прыходзілася завозіць кваліфікаваных майстроў з-за мяжы, каб потым яны навучалі мясцовых працаўнікоў, а таксама капіраваць з іх дапамогай узоры замежных тканін і «пазычаць» тэхналогіі. Менавіта такія задачы вырашаў у сваім еўрапейскім ваяжы 1777–1778 гадоў Антоній Тызенгаўз.

Гэты эпізод з жыцця падскарбія надворнага літоўскага з'яўляецца сур'ёзнай лакунай у вывучэнні ягонай біяграфіі. Польскі даследчык Станіслаў Касцялкоўскі рэканструяваў этапы вандроўкі па ўскосных дадзеных, карыстаючыся перш за ўсё карэспандэнцыяй варшаўскага двара і людзей з атачэння Тызенгаўза[11]. Дакументы з французскіх архіваў, да якіх С. Касцялкоўскі не звяртаўся, дазваляюць праліць новае святло на камерцыйныя матывы Антонія Тызенгаўза і скарэктаваць ацэнку гэтай паездкі, якую сучаснікі графа лічылі бессэнсоўнай і разаральнай[12].

Падскарбі надворны літоўскі ўпершыню пакідае радзіму ўвосень 1777 года. Ён праязджае праз Нямеччыну, спыняецца ў Нідэрландах, бавіць два месяцы ў Англіі і з'яўляецца ў Парыжы ўвесну 1778 года. Інкогніта Тызенгаўза настолькі ўдалае, што парыжская паліцыя застаецца ў няведанні аб ягоным прыбыцці. Увагу на падазронага вандроўніка звяртае міністр замежных спраў Францыі Шарль Граўе дэ Вержэн. Ягоны ліст да інтэнданта паліцыі Жана Шарля П'ера Ленуара адсутнічае ў паперах ведамства, але калі меркаваць па адказе, то ягоны тон павінен быў быць вельмі заклапочаны. Шэф парыжскай паліцыі намагаецца заспакоіць міністра: «Пане, я атрымаў ліст, якім Вы мяне пачцілі, наконт графа Тызенгаўзэна, вялікага падскарбія Княства Літоўскага, які прыбыў у Парыж і схаваўся пад імем Батлер. Я аддаў загады, каб пастарацца выкрыць матывы ягонага знаходжання тут, даведацца аб ягоных паводзінах, сувязях і перашкодзіць міграцыі рамеснікаў, якіх ён можа мець намер у нас выкрасці. Я не праміну, Пане, даць Вам справаздачу аб усім, што я змагу выявіць у гэтай сувязі»[13].

Граф Вержэн меў усе падставы для хвалявання. Вядомы ўжо нам паплечнік графа Тызенгаўза Жак Бекю рабіў намаганні рэкрутаваць кваліфікаваных рабочых падчас свайго побыту ў Парыжы ў 1772 годзе. За гэта ён трапіў у Бастылію і быў вызвалены толькі дзякуючы захадам пані Жафрэн, даўняй сяброўкі караля Станіслава Аўгуста[14]. Але ў 1778 годзе складаецца іншая сітуацыя. Двух дзён даследаванняў хапае

[10] Biblioteka Książąt Czartoryskich, ms. 719-IV, s. 431–432 (ліст з Гродна ад 12.02.1778).

[11] Касцялкоўскі выявіў у польскіх архівах толькі тры лісты Тызенгаўза з-за мяжы, толькі адзін з іх адрасаваны каралю: Kościałkowski, S. Antoni Tyzenhauz... — T. 2. — S. 340–354.

[12] Pamiętniki Michała Zaleskiego, wojskiego Wielkiego Księstwa Litewskiego, posła na sejm czteroletni // Rocznik Towarzystwa historyczno-literackiego w Paryżu, 1873–1878. — T. 2. — Poznań: J. K. Żupański, 1879. — S. 52–74.

[13] Archives du Ministère des affaires étrangères (AMAE), Contrôle des étrangers, vol. 22, f. 67 r° (ліст ад 30.05.1778).

[14] Гибянский, И. Г. Граф Антоний Тизенгаузен... — С. 25.

паліцыі, каб выявіць прычыны, па якіх падскарбі вялікі літоўскі з'яўляецца ў французскай сталіцы. Ленуар перасылае графу Вержэну падрабязны рапарт інспектара Лешэнцье Дэлонпрэ ад 1 чэрвеня 1778 года. Прывядзём яго тут з невялікімі купюрамі.

> ...Я правёў расследаванне ў адносінах пана графа Тызенгаўзэна, падскарбія вялікага літоўскага і першага міністра польскага караля, якога адшукаў у гатэлі «Імператар» на вуліцы Турнон, дзе ён спыніўся 27 красавіка гэтага года пад інкогніта пана Ромера, польскага гандляра.
>
> Гэты пан правёў чатыры месяцы ў Галандыі і Англіі, адкуль і прыехаў. Ён купіў там на суму ў 4000 луідораў вырабаў са сталі, якія адаслаў у Польшчу.
>
> Людзі, якім можна даць веры і якім вельмі добра вядомыя ўсе ўчынкі пана графа Тызенгаўзэна, запэўнілі мяне, што ён зусім не мае намеру наймаць якіх-небудзь рабочых і не гэта было ягонай мэтай, калі ён накіроўваўся сюды. Ён збіраўся наведаць мануфактуры і наладзіць прамыя камерцыйныя стасункі паміж Францыяй і Польшчай, калі ён знойдзе выгаду для сваёй дзяржавы.
>
> У пятніцу 29 траўня ён быў у кампаніі з нейкай асобай, якая будзе ягоным карэспандэнтам тут, на мануфактуры Габеленаў, назваўшыся гандляром, і вытаргаваў вігоневага і пунсовага сукна. Вігонь яму прадалі па кошце ў 72 ліўры за локаць, а пунсовае сукно — па 36 ліўраў. Вось адзіныя вырабы гэтай мануфактуры, якія ён пераправіць у Польшчу.
>
> Затым ён з'явіўся на вуліцы Мантрэй у прадмесці Святога Антонія ў спадара Рэвеёна, вытворцы шпалераў. Ён агледзеў усе ўзоры, і паколькі цэны і якасць яго задаволілі, ён будзе атрымліваць іх цяпер ад спадара Рэвеёна замест таго, каб здабываць у Расіі, дзе і якасць іх значна ніжэйшая, і цана нашмат вышэйшая, чым у нас.
>
> Адсюль, безумоўна, вынікне сапраўдная выгада для Францыі... <…>
>
> Ён вязе адсюль з сабою толькі вучня краўца і вучня цырульніка, каб зрабіць іх сваімі лёкаямі.
>
> У мяне ёсць сродкі даведацца, што пан граф Тызенгаўзэн можа зрабіць насуперак інтарэсам Францыі, аб чым я буду мець гонар паведаміць Вам, пане[15].

Як нам ставіцца да гэтай інфармацыі? Не заўсёды дадзеныя, якія атрымлівала аб чужаземцах парыжская паліцыя ў XVIII стагоддзі, былі дакладныя. Але ў гэтым разе памылак няма. Вядомыя нам дакументы падцвярджаюць і тэрмін побыту Тызенгаўза ў Галандыі і Англіі, і момант прыбыцця ў Парыж, пазначаныя інспектарам Лешэнцье Дэлонпрэ. Дакладна таксама і тое, што граф не мае намеру «спакушаць» французскіх рабочых і прапаноўваць ім працу на мануфактурах у Гродне. «Рэкрутынгам» займаўся Жан Луі Бекю, які суправаджаў Тызенгаўза некаторы час у еўрапейскім падарожжы. Аб гэтым сведчыць ліст ягонага брата Жака да караля. 24 кастрычніка 1777 года дырэктар мануфактурнай канторы піша з Гродна Станіславу Аўгусту, праслаўляючы публічную падтрымку каронай прадпрыемстваў Тызенгаўза: «Наступствы яе [падтрымкі] адчуваюцца нават за мяжой і далі майму брату магчымасць за кароткі час наняць у Саксоніі шэсць сямей рабочых і рамеснікаў, вельмі карысных для нас і якіх нам бракуе»[16].

---

15 AMAE, Contrôle des étrangers, vol. 23, f. 2 r°-4 r° (ліст ад 1.06.1778).

16 Biblioteka Książąt Czartoryskich, ms. 719-IV, s. 367.

Між тым найбольшую цікавасць пры азнаямленні з рапартам паліцыі выклікае той факт, што граф Тызенгаўз выдаваў сябе за гандляра і паводзіў сябе ў адпаведнасці з прынятай роллю. Толькі адзін учынак падскарбія вялікага літоўскага праходзіць па-за ўвагай паліцыі, але і ён мае цалкам легальны характар і не выбіваецца з шэрагу дзелавых візітаў. 30 траўня 1778 года Антоній Тызенгаўз падпісвае дамову з парыжскім банкірам Жоржам Гранам. Згодна з дакументам, гарадзенская камерцыйная кантора павялічвае свой капітал на 50 000 ліўраў і становіцца адным з найбуйнейшых фінансавых інстытутаў Вялікага Княства Літоўскага, калі не ўсёй Рэчы Паспалітай[17].

Пагадненне з Жоржам Гранам — безумоўны поспех еўрапейскай місіі графа Тызенгаўза і Жана Луі Бекю. Але, на нашу думку, ягоныя не менш шчырыя інтарэсы выяўляюцца ў пакупках, перш за ўсё шыкоўных тканін. На гарадзенскіх фабрыках не выраблялі ні вігоні, ні пунсовага сукна. Прымаючы да ўвагі іх кошт, не забываючыся на закон супраць раскошы, цяжка паверыць у версію, згодна з якой падскарбі вялікі літоўскі ўсур'ёз думаў аб увозе ў Рэч Паспалітую гэтых тканін для продажу. Хутчэй за ўсё, яны купляліся як узоры для капіравання. Гэтую гіпотэзу можна падтрымаць некалькімі фактамі і паведамленнямі з ліставання паміж Жакам Бекю і Станіславам Аўгустам і каралеўскім сакратаром Станіславам Бадэні.

Першы факт мяжуе з махлярствам. 15 красавіка 1778 года кароль атрымлівае ліст з Ахена, з якога даведваецца, што нейкі Бекю купіў 800 штук белага сукна для дастаўкі ў Вялікае Княства морам праз Любек. Станіслаў Аўгуст не мог не здзівіцца: навошта казна павінна плаціць за процьму тавару, што і так выробляецца ў Гродне. Адказ трымае Жак Бекю: «Бекю, аб якім гаворыць ліст з Ахена, сапраўды можа быць мой брат, і не буду адпірацца перад Вашай Вялікасцю, што мы разам зладзілі гэтую спекуляцыю... з завозам белай тканіны, каб абрэзаць і пафарбаваць яе тут і зрабіць яе прадметам вытворчасці. А такое невялікае круцельства не толькі практыкуецца на ўсіх іншых маладых фабрыках, але і агульна вядома, што некаторыя з іх мелі і дагэтуль маюць на яго выключнае права»[18]. Шчырасць Жака Бекю перад каралём раскрывае намеры гарадзенскіх прадпрымальнікаў падчас еўрапейскага ваяжу і іх звычаі весці справы.

Другі факт — супастаўленне двух узораў тканін, якія захоўваюцца сярод папер Станіслава Бадэні. Гэтае супастаўленне дае рэдкую магчымасць ацаніць на ўласныя вочы якасць гарадзенскіх ткацкіх вырабаў, параўнаць іх з еўрапейскімі арыгіналамі і суаднесці якасць з цаной (малюнак 2). Як бачна, тканіна з Гродна (злева) саступае венскаму арыгіналу (справа) як па акуратнасці малюнка, так і па каляровай насычанасці. На розніцу ў цэнах можна нават не звяртаць увагі: локаць[19] гарадзенскай тканіны каштаваў 2,21 злотага без транспартных выдаткаў, у той час як за венскі арыгінал трэба было плаціць 2,6 злотага з улікам транспарціроўкі.

Нарэшце, трэці факт, амаль прызнанне, знаходзіцца ў лісце Жака Бекю да Станіслава Аўгуста з Гродна ад 25 лістапада 1779 года. Гэты ліст падводзіць рысу пад шэрагам дакладаў дырэктара мануфактурнай канторы каралю аб розных спосa-

[17] Bibliothèque polonaise à Paris, fonds 40, f. 177 r°—180 v°. Банкір Жорж Гран, сярод кліентаў якога знаходзім графіню Ганну Тарэзу Патоцкую, графа Міхала Казіміра Агінскага, абата Рэйналя, некаторых буйных і ўплывовых рускіх вяльмож, — фінансіст з выдатнай агульнаеўрапейскай рэпутацыяй: Lüthy, H. La Banque protestante en France de la Révocation de l'édit de Nantes à la Révolution. — Vol. 2. — Paris : SEVPEN, 1961. — P. 618.

[18] Biblioteka Książąt Czartoryskich, ms. 719-IV, s. 527 (ліст ад 15.06.1778).

[19] Маецца на ўвазе так званы варшаўскі локаць — мера даўжыні, прынятая ў XVIII стагоддзі, роўная 59,6 сантыметра.

бах хімічнай апрацоўкі тканін і валокнаў. У пошуках якасці дзеля ткацкіх вырабаў у Гродне спалучаюцца разам эканімічная зацікаўленнасць, навуковыя веды і, вельмі верагодна, алхімічныя эксперыменты[20]. Апрабаваўшы чарговы метад, Жак Бекю паведамляе каралю: «Гэты сродак надае жоўтае і вогненнае адценне пунсоваму колеру, але вельмі няўстойлівае, яно толькі і прыдатнае, каб падмануць вока пакупніка. Калі па гэтай методзе мы не можам зраўняцца з пунсовымі тканінамі Габеленаў, то, магчыма, з той жа прычыны ў Ліёне не могуць здабыць парыжскі чорны колер, а мы не можам варыць англійскае піва. Вада, паветра, нарэшце, клімат маюць вялікае значэнне для ўсіх гэтых аперацый, надаюць кожнай краіне асаблівыя перавагі, у якіх адмоўлена іншым, і яднаюць іх разам вузамі жыватворнага абмену»[21].

Нельга адмовіць Жаку Бекю ў выдатным разуменні эканамічнай тэорыі. Цяжкасць у тым, што яно не можа ніяк дапамагчы на практыцы маладым гарадзенскім прадпрыемствам. Не маючы ні сродкаў, ні досведу, каб зраўняцца ў якасці з французскімі таварамі, яны вымушаны ўвозіць іх кантрабандай у Вялікае Княства Літоўскае і тут падрабляць. Па злой іроніі лёсу, словы парыжскага паліцэйскага інспектара Лешэнцье Дэлонпрэ набываюць прарочую моц: «Адсюль, безумоўна, вынікне сапраўдная выгада для Францыі». Сапраўды, у такіх зносінах выгада відавочна на баку краіны-экспарцёра, а імпарцёр усё роўна, нягледзячы на ўсе хітрыкі, застаецца ў пройгрышы.

Хоць еўрапейскі вяжж Тызенгаўза і сапраўды даволі значна аблегчыў казну, ён ні ў якім разе не можа быць прызнаны бессэнсоўным і супрацьлеглым грамадзянскім і службовым абавязкам падскарбія. Галоўная праблема, з якой сутыкаецца граф Тызенгаўз, з'яўляецца невырашальным парадоксам. Для таго каб узняць эканоміку Вялікага Княства Літоўскага, стварыць краю добрае рэнамэ ў еўрапейскай прасторы, трэба адмовіцца ад сталых эканамічных звычаяў, пераймаць, пазычаць, уводзіць і ўвозіць новае і чужое. Шэраг недаравальных учынкаў і няміласць, у якую трапляе ў выніку Тызенгаўз у 1780 годзе, хуткі заняпад каралеўскіх эканомій — усё гэта нібыта даводзіць, што эканамічная і культурная палітыка графа была памылковая. Але ці магла яна ўвогуле быць інакшай у тых абставінах? За барацьбой і маленькімі хітрыкамі Тызенгаўза супраць часовых цяжкасцяў бачыцца спрэчка паміж патрыятычнымі пачуццямі і бязлітаснай і нябачнай рукой рынку.

### Эпізод другі.
### Кліенткі з Рэчы Паспалітай у Розы Бертэн

Тая кантрабанда раскошных тавараў, якой займаўся Антоній Тызенгаўз дзеля дзяржаўных інтарэсаў, была справай асабістага прэстыжу для прыватных асоб — графавых суайчыннікаў. Пакупкі ў славутых модных крамах Парыжа — найпрыемнейшы і адзін з першых абавязкаў кожнай заможнай вандроўніцы напрыканцы XVIII стагоддзя. Не былі выключэннем і палячкі з ліцвінкамі, некаторыя з якіх, як мы памятаем, сумняваліся, што трэба насіць сукенкі з падробных гарадзенскіх тканін і рабіць гонар айчынным мануфактурам і краіне, а не выхваляцца

[20] Не забудземся, што браты Бекю, таксама як і некаторыя іншыя падначаленыя і супрацоўнікі Тызенгаўза ў Гродне (Жан Эманюэль Жылібер, Джузепэ дэ Сака, Францішак Нарвойш, Міхал Сухадолец), былі членамі масонскай ложы «Шчаслівае вызваленне», якая працавала на французскай мове паміж 1781 і 1809 гадамі. Гл.: Швед, В. В. Масоны і ложы на землях Беларусі (канец XVIII — першая чвэрць XIX стагоддзя): біябібліяграфічны слоўнік. — Гродна: ГрДУ, 2007. — С. 30–32, 100–101.

[21] Biblioteka Książąt Czartoryskich, ms. 719-IV, s. 700 (ліст ад 25.11.1779).

дарагімі еўрапейскімі абновамі. Але хто з іх лічыў менавіта так і аддаваў перавагу французскім арыгіналам? Якія модныя тавары маглі быць выраблены з тых тканін, што падрабляліся на фабрыках Тызенгаўза? Архівы французскага Нацыянальнага інстытута гісторыі мастацтва (INHA) разам з дакументамі з Нацыянальнага архіва Францыі і Архіва горада Парыжа даюць частковыя адказы на гэтыя пытанні і разам з тым дазваляюць спазнаць атмасферу, у якой апынуўся Антоній Тызенгаўз падчас свайго парыжскага побыту. Спачатку дадзім звесткі аб дакументальных крыніцах, якімі карысталіся[22], а потым пяройдзем да знаёмства з «польскай» кліентурай самай знакамітай прадаўшчыцы мод свайго часу Розы Бертэн.

Мары-Жанна Бертэн, больш вядомая як Роза Бертэн, з 1770 года трымала краму пад назвай «Вялікі Магол» непадалёк ад Пале-Раяля. У 1783 годзе крама пераязджае на вуліцу Рышэлье, таксама побач з каралеўскімі рэзідэнцыямі. У 1774 годзе Роза Бертэн становіцца пастаўшчыцай модных вырабаў для Марыі-Антуанэты, а з цягам часу набывае статус «міністра моды» пры французскай каралеве. Зразумела, што любы заказ у «Вялікім Маголе» меў для замежных пакупніц высокае сімвалічнае значэнне.

Заняткі Розы Бертэн на сучасны погляд — гэта праца стылісткі. Яна складала агульны малюнак туалету, падбірала тканіны і аздобы. Што датычыцца ручной працы, пашыву і падгонкі ўбору, то ёй займаліся выключна швачкі і рознага кшталту рамеснікі, якія прадстаўлялі да 35 цэхавых карпарацый. Такім чынам, прадаўшчыца мод знаходзілася ў цэнтры сапраўднага сеціва, якое аб’ядноўвала пастаўшчыкоў і працоўных-падрадчыкаў, а таксама — і кліентаў паміж сабой.

Справавая і фінансавая дакументацыя такога прадпрыемства абяцае, здаецца, шмат неацэннай інфармацыі. Аднак цалкам бухгалтэрыя «Вялікага Магола» да нас не дайшла. Ні «Памятная кніга» (*Livre Mémorial*), куды ўносіліся запісы аб усіх камерцыйных пагадненнях, ні «Падзённая кніга» (*Livre Journal*), дзе ў храналагічным парадку фіксаваліся завершаныя справы, не фігуруюць у якіх бы то ні было архіўных фондах. Між тым некалькі соцен спраў, заснаваных на «Вялікай кнізе» (*Grand livre*), адклаліся ў бібліятэцы Нацыянальнага інстытута гісторыі мастацтва (INHA). Яны датычацца такіх замоў, што засталіся неаплочанымі на момант смерці Розы Бертэн (1813). Дакументы, з якіх складаюцца гэтыя справы, утрымліваюць дакладны вопіс кожнай замовы, фіксуюць візіты кліентаў і захоўваюць ліставанне наконт аплаты. Адрасы карэспандэнцыі раскінуты па ўсёй Еўропе ў адпаведнасці з маштабам славы Розы Бертэн. Пошук лістоў у архівах краін, з якіх паходзілі кліенты і кліенткі парыжскай мадысткі, можа значна ўзбагаціць веды аб «модных сувязях». Такая праца была ўжо праведзеная ў дачыненні замоў вялікай княгіні расійскай Марыі Фёдараўны, і матэрыялы знайшліся ў Расійскім дзяржаўным гістарычным архіве ў Санкт-Пецярбургу[23]. Не марна было б ажыццявіць падобнае даследаванне і ў адносінах польскай кліентуры, аб якой пойдзе гаворка далей.

Перш чым перайсці да ідэнтыфікацыі польскіх аматарак мод, разгледзім склад іхніх замоў. Ці можна лічыць іх рэпрэзентатыўнымі? Альбо наадварот — незвычайнымі ў параўнанні з іншымі? Як правіла, модныя замовы 1770-х гадоў абмяжоўваюцца стужкамі і карункамі, што прадаваліся мерамі ў локаць для аздаблення ўбору дома альбо ў краме. Але першыя пакупніцы з Рэчы Паспалітай

---

[22] Упершыню гэтыя дакументы былі ўведзены ў навуковы ўжытак французскай даследчыцай Мішэль Сапары: Sapori, M. Rose Bertin, ministre des modes de Marie-Antoinette. — Paris: Editions de l’Institut français de la mode; Edition du Regard, 2003.

[23] Бордэриу, К. Платье императрицы... — С. 26–29, 65–70.

з'яўляюцца ў «Вялікім Маголе» толькі з другой паловы 1780-х гадоў, калі рэпутацыя Розы Бертэн ужо ўсталёўвалася. У адрозненне ад наведвальніц з Расіі, якія робяць замовы з 1773 года, пакупкі палячак абумоўлены перш за ўсё пытаннем прэстыжу. Пачынаючы з 1780 года ў памятных запісках крамы «Вялікі Магол» усё часцей з'яўляюцца цэласныя ўбранні: найбольш моднымі мадэлямі становяцца левіты (малюнак 3), сукні ў турэцкім стылі, сукні-сарочкі. Калі верыць дакументам, рэдкія пакупніцы з Рэчы Паспалітай маглі дазволіць сабе ўбор ад Розы Бертэн. Аднак яны ахвотна набываюць аксесуары: шэйныя хусцінкі (фігуруе ў замове княгіні Любамірскай), веееры, фурнітуру, штучныя кветкі гірляндамі альбо галінкамі, а таксама касметычныя вырабы[24].

У 1780-я гады галаўныя ўборы займаюць значнае месца ў пакупках польскіх падарожніц, дарэчы, у гэтым яны не адрозніваюцца ад іншых адносна сціплых замоў. Гэтая прыхільнасць мае сваё тлумачэнне. Капелюшы каштуюць танней за іншыя раскошныя тавары і першымі рэагуюць на змены моды, аб чым сведчаць тагачасныя перыядычныя выданні для жанчын. Сярод галоўных мадэляў — капелюшы, каптуры, пуфы, шапачкі. 3 сакавіка 1786 года княгіня А. Патоцкая (так у рукапісы: «la princesse A. Potoska») замаўляе ў Розы Бертэн саламяны капялюшык з падшэўкай з чорнага аксаміту за 144 ліўры, які дапаўняе шмат таннейшы (27 ліўраў) «другі капялюш з чорнага газу»[25]. Гравюры часопіса «Модны кабінет» (*Cabinet de modes*) паказваюць, што менавіта такія фасоны насіліся ў той час.

Іншы прыклад знаходзім у справе княгіні Любамірскай. 15 кастрычніка 1790 года яна набывае ў «Вялікім Маголе» паміж іншых рэчаў каптур-капелюш з газу ў фіялетавую палоску і сярэдняга памеру каптур залацістага колеру з трыма палоскамі. Гэтая замова сведчыць не толькі аб княгінінай схільнасці да палосак[26], але таксама аб даволі распаўсюджанай практыцы дыстанцыйнай куплі. Запіска ўдакладняе, што замова была «выслана» («envoyé»)[27]. Насамрэч шматлікія замовы, як, напрыклад, замова расійскай падданай баранесы Лізаветы Чаркасавай, адпраўляюцца марскім шляхам і перавозяцца з Парыжа ў Руан. У такім выпадку кошт пакупкі павышаецца на 78 ліўраў з улікам мытнага збору і выдаткаў на ўпакоўку.

Нарэшце, у замове графіні Патоцкай, жонкі Севярына Патоцкага (la comtesse Sewrin de Potowska), ад 9 студзеня 1792 года знаходзім пуф з ружовага атласу з гарнастаевай аблямоўкай, капялюш-пуф, капялюш з блакітнага атласу і шаль. Разнастайнасць тавараў прыводзіць да пытання: прызначаліся яны для адной ці для некалькіх асобаў? Зазначым між іншым, што важнасць гэтага пытання ўзрастае, калі звярнуць увагу на замовы, у якіх адначасова фігуруюць некалькі аднолькавых тавараў. Пакупніцы з Рэчы Паспалітай не рабілі такіх замоў, але яны сталa прысутнічаюць у справах расійскіх кліентак. Можна дапусціць, што палячкі і ліцвінкі купляюць пераважна для сябе і толькі ў рэдкіх выпадках — для свайго бліжэйшага атачэння.

На працягу двух дзесяцігоддзяў, 1780-х і 1790-х, кліенткі Розы Бертэн усё часцей аддаюць перавагу цэласным уборам замест аздобаў. З прадаўшчыцы разнастайных

[24] Так, графіня Плятэр набывае 27 жніўня 1786 года «бляшаначку румян ад пані Марэн» за 24 ліўры: INHA, Mf 1, Dossier 566, f. 5354.

[25] Ibid., Dossier 577, f. 576, f. 5462.

[26] Мода на палоскі рэгулярна ўзнаўлялася, і адначасова абнаўлялася кола значэнняў, якія прыпісваліся палоскам. Гл.: Pastoureau, M. L'étoffe du diable: une histoire des rayures et des tissus rayés. — Paris: France loisirs, 2005. — P. 78.

[27] INHA, Mf 1, Dossier 436, f . 4125.

дробных тавараў парыжская мадыстка ператвараецца ў стваральніцу. Пакупка княгіні Любамірскай ад 22 сакавіка 1791 года адлюстроўвае гэтую тэндэнцыю. Княгіня набывае камплект у стылі, які мы сёння назвалі б «вольным». Ён складаўся з сукні п'еро (малюнак 4) і спадніцы з лёгкай накідкай з вышыванай кісяі. Строй дапаўняецца адным шалем з набіўнымі бліспчынкамі і другім белым шалем таксама з набіўной тканіны, сярэдняга памеру каптуром з газу, высокім капелюшом. Разам усё каштавала 894 ліўры.

Самы яскравы ўзор гэтай моды знаходзіцца ў справе графіні Патоцкай. У ліпені 1789 года яна замаўляе ў Розы Бертэн туалет, цана якога набліжаецца да раскошных убораў самой Марыі-Антуанэты — 1957 ліўраў. Адразу ўзнікае пытанне аб прызначэнні гэтага строю. Верагодней за ўсё, у такім туалеце графіня Патоцкая павінна была з'явіцца пры двары, зразумела не пры французскім, якому пагражала рэвалюцыя, а пры іншым замежным. У любым выпадку ягоны кошт параўнальны з коштам французскага параднага ці ўрачыстага строю, які можа ацэньвацца ў 4500 ліўраў, ці рускага строю, які каштаваў 1000 ліўраў[28].

Гэты ўбор з атласнай тканіны ў палоску колеру блышынага брушка (іншымі словамі, чырвона-бурага) дапаўняўся гірляндай з матылькоў, пуфам, шэйнай хусцінкай, якая завязвалася на грудзях, і аздабляўся доўгім, да краю спадніцы, воланам з карункаў. Да яго далучаліся таксама чаравічкі з белымі абцасамі. Падобны туалет вымагаў вялізарных выдаткаў і быў звязаны з нейкай значнай падзеяй — ён застаецца ў замовах графіні выключэннем, у той час як у кліентак вышэйшага рангу ён сустракаецца часцей. Так, схільнасцю да пышных і дарагіх камплектаў вылучалася вялікая княгіня Марыя Фёдараўна.

Гэты ўбор можна таксама разглядаць як тыповы ў адлюстраванні коштаў і выдаткаў. Тканіны, што пайшлі на сукню, ацэньваюцца ўсяго ў 400 ліўраў, у той час як фурнітура, вопіс якой займае ў рахунку восем радкоў, каштуе ўдвая больш — 900 ліўраў. Звяртае на сябе ўвагу і «прыгажосць» круглых лічбаў, якія падказваюць, што пад імі няма ніякіх дакладных разлікаў і што маржа, закладзеная мадысткай, была надзвычай вялікая.

Намер упісаць пакупкі палячак і ліцвінак у агульны спіс замоў у краме Розы Бертэн сустракаецца з некаторымі цяжкасцямі. Безумоўна, слушным было б параўнанне памятных запісак аб набытках графінь Плятэр і Патоцкай з інфармацыяй аб замовах расійскіх арыстакратак, даўгі якіх, калі верыць натарыусу Гранжэрэ, што вёў спадчынныя справы Розы Бертэн, складалі пятую частку дэфіцыту «Вялікага Магола» і паспрыялі яго банкруцтву[29]. Аднак, разглядаючы гэтыя падлікі, лёгка выявіць іхную непаўнату. Справы датычацца толькі нядобрасумленных крэдытораў ці тых, хто па няпамятлівасці альбо няўважлівасці пратэрмінаваў плацёж. Гэта значыць, што трэба з недаверам адносіцца да даўгавых сум і не блытаць іх з агульным коштам пакупак. Напрыклад, на момант смерці Розы Бертэн княгіня Любамірская была вінавата 849 ліўраў, а насамрэч набыла тавару на большую суму. Яе завінавачанасць гасілася некалькімі траншамі, як сведчыць аб тым наступны дакумент.

Памятная запіска аб фурнітурах, пастаўленых з 28 лістапада 1786 года да 15 лістапада 1787 года на суму ў 2610 ліўраў

Аплочана 27 верасня 1787 года

[28] INHA, Mf 1, Dossier 292, f. 2803; РГИА, ф. 759, оп. 1, д. 220, л. 53.
[29] INHA, Mf 1, Dossier 1, f. 21.

Памятная запіска аб фурнітурах, пастаўленых з 22 сакавіка 1787 года да 21 верасня 1789 года… 5396.10 ліўраў

Аплочана 30 красавіка 1789 года

Памятная запіска аб фурнітурах, пастаўленых 20, 24 траўня і 9 чэрвеня 1789 года… 75 ліўраў

Аплочана 25 ліпеня 1789 года

Памятная запіска аб фурнітурах, адпраўленых у Мюрвіль (?)

Замова (?) ад 6 кастрычніка 1789 года… 567.10 ліўраў

Аплочана 30 лістапада 1789 года 1449 ліўраў

Памятная запіска аб таварах, адпраўленых у Жэневу 15 лістапада 1790 і пастаўленых 22 сакавіка 1791 года

Сума 894 ліўры

Не аплочана[30].

Вялікая княгіня расійская таксама не мела магчымасці цалкам пагасіць сваю завінавачанасць, пры тым што архіўныя дадзеныя сведчаць аб добрай волі і намаганнях яе давераных асоб і значных сумах, выданых ім для гэтага[31]. Трэба думаць, што Роза Бертэн (альбо яе падначаленыя) не спяшаліся закрываць пазыковыя справы дзеля фінансавай выгады прадпрыемства — да таго часу, пакуль не збяруцца 6 % гадавой пені. Так, у справе «княгіні А. Патоцкай» мы бачым, што 175 ліўраў, якія яна была павінна ў 1786 годзе, ператвараюцца ў 708 ліўраў у 1818, калі натарыус Гранжэрэ патрабуе розніцу. Аднак у адпаведнасці з заканадаўствам пачатку XIX стагоддзя, пеня за такі доўгі тэрмін не павінна была налічвацца.

Ад разгляду памятных запісак «Вялікага Магола» пяройдзем да карэспандэнцыі, звязанай з ягонай дзейнасцю. Ліставанне натарыуса Гранжэрэ з нашчадкамі кліентаў і замежнымі дыпламатамі мела першай мэтай ідэнтыфікаваць пакупніцу і дабрацца да яе альбо да плацежаздольных членаў сям'і. Ідэнтыфікацыя была зусім не лёгкай справай. Па-першае, цяжкасці ўзнікалі з-за таго, што іншаземныя прозвішчы і імёны ў дасье «Вялікага Магола» запісваліся на слых, то бок маюць шмат скажэнняў. Таму часта можна сустрэць некалькі розных спраў, якія насамрэч адносяцца да адной і той асобы. Па-другое, маюць уплыў, так бы мовіць, дэмаграфічныя фактары. Вось што адказвае, напрыклад, адзін з прадстаўнікоў роду Патоцкіх на запыт Гранжэрэ: «Што датычыцца графіні Патоцкай, якая, па Вашых словах, была жывая ў 1789 годзе, то без дадатковых дадзеных аб ёй я не змагу Вам даць падрабязных звестак, бо мой род вельмі вялікі, а ягоныя прадстаўнікі часта спыняліся і жылі ў Парыжы»[32]. Па-трэцяе, падчас сваіх расследаванняў Гранжэрэ атрымліваў супярэчлівыя звесткі. Нават калі ён звяртаўся да патрэбнай асобы, то рэдка атрымліваў добразычлівы адказ. Законным нашчадкам не надта падабалася ідэя плаціць па бабуліным ці цётчыным рахунку, якому споўнілася трыццаць гадоў.

Сёння дзякуючы дадатковай крыніцы — паліцэйскім рапартам канца XVIII стагоддзя — можна дакладна вызначыць імёны некаторых кліентак Розы Бертэн. Графіня Плятэр, якая рабіла пакупкі ў «Вялікім Маголе» ў жніўні 1786 года, з'яўляецца ў той жа час у полі зроку паліцыі: «Пятніца 25 жніўня 1786 года. Пан граф Плятэр, паляк, сын памерлага ваяводы мсціслаўскага ў Літве, і пані графіня ягоная жонка прыехалі некалькі дзён таму і спыніліся ў гатэлі "Каралева" на вуліцы Нэв

[30] INHA, Mf 1, Dossier 436, f. 4109.
[31] РГИА, ф. 759, оп. 1, д. 162, л. 10–41.
[32] INHA, Mf 1, Dossier 577, f. 5467.

дэ Бонз Анфан»[33]. Бясспрэчна, што гаворка ідзе аб жонцы Юзафа Вінцэнта Канстанціна Плятэра, Кацярыне (каля 1741—1832), народжанай Сасноўскай, дачцэ ваяводы полацкага Юзафа Сасноўскага. Адзінае несупадзенне — месца жыхарства ў Парыжы. Замест гатэля «Каралева» на вуліцы Нэв дэ Бонз Анфан, якая сёння завецца вуліца Радзівіл, у дасье Гранжэрэ пазначаны гатэль «Варшава»[34].

Здаецца, што можна з вялікай доляй упэўненасці ідэнтыфікаваць княгіню Любамірскую са спраў Розы Бертэн як славутую маршальшу Ізабэлу Любамірскую (1736—1816), мецэнатку, калекцыянерку і модніцу. Яе сталы побыт у Парыжы прыходзіцца на канец 1780-х гадоў, і нават пасля падзення Бастыліі яна не пакідае сувязяў з французскай сталіцай[35].

А вось тры кліенткі (альбо гэта адна ці дзве асобы?) з адным прозвішчам, запісаным у трох варыянтах (Potoski / Potoska / de Potowska) ставяць перад Гранжэрэ цяжкую задачу. У першым выпадку, самым раннім па часе, маецца дадатковая інфармацыя, занесеная на вокладку справы: «княгіня А. Патоцкая, народжаная Сапека» («Princesse A. Potoska, née Sopieka»). Дасье зусім тонкае, бо натарыус так і не здолеў дабіцца адказу ад прадстаўнікоў сям'і. Ён толькі выйшаў на след князя Францішка Сапегі, аб чым сведчыць запіска ад аднаго з інфарматараў: «Пане, я атрымаў Ваш ліст ад 20 сакавіка і пасля неабходных даследаванняў пераканаўся, што ў 1780 годзе ў Парыжы знаходзілася княгіня Сапега, жонка канцлера вялікага літоўскага, якая пакінула па сваёй смерці сына і чатырох дачок. Князь Францішак Сапега, старэйшы прадстаўнік роду, жыве цяпер у сваіх землях у Дзярэчыне, непадалёк ад Мінска, на Літве»[36].

Магчыма, гэты след і не памылковы. Адзіная вядомая ў другой палове XVIII стагоддзя «А. Патоцкая, народжаная Сапега» — Ганна Тэафілія Сапега (1758—1813), у першым шлюбе Сангушка. Яна сапраўды была дачкой канцлера ВКЛ Аляксандра Міхала Сапегі, аднак стала графіняй Патоцкай не ў 1780 годзе, а ў 1785, калі пабралася шлюбам з Севярынам Патоцкім, родным братам славутага пісьменніка, вандроўніка і даследчыка Яна Патоцкага. Яе кандыдатура не падыходзіць у дадзеным выпадку, але да яе мы разам з Гранжэрэ яшчэ вернемся. Зараз жа звернем увагу на той факт, што згодна з інфармацыяй парыжскай паліцыі 6 жніўня 1780 года ў сталіцу Францыі з Італіі прыбылі граф Станіслаў Костка Патоцкі і ягоная жонка Аляксандра (1760—1831), народжаная княгіня Любамірская, дачка Ізабэлы Любамірскай, і заставаліся амаль два месяцы, да 29 верасня[37]. У сакавіку 1786 года, калі былі зроблены пакупкі, у Парыжы таксама жылі вышэй памянуты Ян Патоцкі і ягоная жонка Юлія (1767—1794), родная сястра Аляксандры Патоцкай[38].

Цікава, што звесткі аб «княгіні Патоцкай» Гранжэрэ дабывае падчас пошукаў іншай кліенткі з тым жа прозвішчам — графіні Патоцкай. Яна замаўляе Розе Бертэн той самы раскошны парадны туалет улетку 1789 года, у самы разгар рэвалюцыйных падзей. Згодна з першай і, здаецца, беспамылковай гіпотэзай натарыуса, графіня паходзіла з роду Любамірскіх. Граф Францішак Патоцкі інфармуе мэтра Гранжэрэ, што ў 1789 годзе ў Парыжы знаходзіліся дзве графіні Патоцкія, народжаныя Любамірскія, — Юлія, жонка Яна, і Аляксандра, жонка

33 AMAE, Contrôle des étrangers, vol. 61, f. 81 r°.
34 INHA, Mf 1, Dossier 566, f. 5353.
35 AMAE, Contrôle des étrangers, vol. 75, f. 29 r° (рапарт ад 30.10.1789).
36 INHA, Mf 1, Dossier 576, f. 5463—5464.
37 AMAE, Contrôle des étrangers, vol. 35, f. 45 r°—v°, 89 v°, 104 r° ; vol. 36, f. 17 r°—v°.
38 Rosset, F.; Triaire, D. Jean Potocki. Biographie. — Paris: Flammarion, 2004. — P. 115—117.

Станіслава Косткі. Першая, як мы ведаем, памерла ў 1794 годзе, а другая пражывала ў 1818 годзе ў Варшаве.

Натарыус робіць некалькі спробаў, у красавіку, ліпені і жніўні 1818 года, усталяваць кантакт з графіняй Аляксандрай Патоцкай, жонкай Станіслава Косткі, «наконт гэтай невялічкай сумы ў 1957 ліўраў»[39]. Нарэшце 18 кастрычніка мэтр Гранжэрэ атрымлівае адказ ад графіні, якая выбачаецца за спазненне, звязанае з ад'ездам у вёску, і адхіляе ўсякую мажлівасць разліку. Яе доказы вельмі простыя: па-першае, яна заўсёды плаціць па рахунках; па-другое, яна, натуральна, не была адзінай Патоцкай у Парыжы ў той час! Атрымаўшы па просьбе копію памятнай запіскі для высвятлення справы, графіня «забываецца» адказаць натарыусу. Урэшце, таму так і не ўдаецца спагнаць з Аляксандры Патоцкай 1957 ліўраў.

Дасье яшчэ адной Патоцкай уяўляе з сябе ўзор адначасова простай і далікатнай справы. Простай, таму што асоба гэтай кліенткі хутка высвятляецца — Ганна Тэафілія, народжаная Сапега. Далікатнай, таму што запазычанасць, 602 ліўры за пакупкі, зробленыя ў «Вялікім Маголе» ў 1792 годзе, так і застаецца непагашанай. У 1818 годзе графіня Ганна Тэафілія Патоцкая ўжо не жыве, таму Гранжэрэ вядзе беспаспяховае ліставанне з мужам, Севярынам Патоцкім, на той час значным вяльможам пры двары Аляксандра I, сенатарам і дзейным тайным дарадцам. Вось абагульняльная табліца, складзеная на падставе архіўнай справы[40].

| **Дата** | **Адпраўшчык і адрасат** | **Змест ліста** |
|---|---|---|
| 26 лютага 1818 года, 4 ліпеня 1818 года, 24 лістапада 1818 года | Мэтр Гранжэрэ піша на парыжскі адрас графіні | Напамін аб завінавачанасці перад мадысткай (яе нашчадкамі), просьба аб аплаце |
| 29 сакавіка 1819 года | Мэтр Гранжэрэ піша на пецярбургскі адрас графіні | Тое самае |
| 29 красавіка 1821 года, 23 чэрвеня 1821 года | Атрымаўшы звесткі ад Францішка Патоцкага, натарыус піша графу Севярыну Патоцкаму ў Санкт-Пецярбург | Тое самае |
| 15 ліпеня 1821 года | Граф адказвае мэтру Гранжэрэ | Спадчына нябожчыцы не дазваляе аплаціць рахунак ад Розы Бертэн |
| 21 жніўня 1821 года | Натарыус піша генеральнаму консулу Францыі ў Варшаве | Просьба аб дапамозе |
| 1 кастрычніка 1821 года | Консул піша мэтру Гранжэрэ | Адна з дачок графіні хутка будзе ў Варшаве, магчыма, перамовіць з ёй аб матчынай завінавачанасці |
| 31 ліпеня 1822 года | Мэтр Гранжэрэ піша консулу | Напамін аб абяцанні, шкадаванне, што справа не зрушылася з той пары |

[39] INHA, Mf 1, Dossier 577, f. 5453.
[40] INHA, Mf 1, Dossier 578, f. 5473–5476.

Кліентак з Рэчы Паспалітай у Розы Бертэн было не шмат, але іхныя замовы можна смела назваць і разнастайнымі, і рэпрэзентатыўнымі на фоне моднага гандлю канца XVIII стагоддзя. Але галоўнае не ў гэтым. Як цікавасць графа Антонія Тызенгаўза да шыкоўных тканін з мануфактуры Габеленаў, так і хуткае следаванне графінь Патоцкіх і графіні Плятэр за зменамі парыжскіх строяў сведчаць аб тым, што модны імпарт у Рэч Паспалітую быў для іх нечым большым за кантрабанду рэдкіх і дарагіх тавараў. Разам з таварамі ехалі ідэі, паняцці і сімвалы французскай арыстакратычнай культуры, якія дастасоўваліся да грамадзянскіх пачуццяў, эканамічных інтарэсаў і эстэтычных схільнасцяў шляхты ВКЛ і Польшчы, але часам і супярэчылі ім. Аднак гэтая супярэчнасць, калі даваць веры законам дыялектыкі, толькі спрыяла жыццяздольнасці мясцовай культуры.

*Ксенія БАРДЭРЫУ,*
*Дзяніс КАНДАКОЎ*

# ШТРИХИ К БИОГРАФИИ ЯНА БАРЩЕВСКОГО: «ОТ ТО МОЕ ВЫ БРАЦІХНЫ…»*

*А что, у отца-то большая семья?*
Н. А. Некрасов

Определяющую роль в формировании личности человека играет его происхождение, семья, в которой он появился на свет, и ближайшая родня. И потому при исследовании биографии Яна Барщевского невозможно обойти вниманием то окружение, в котором прошло его детство. Ранее уже было установлено имя и отчество отца писателя, выяснено социальное положение этого человека и описаны некоторые примечательные обстоятельства его жизни[1]. Произошло это благодаря обнаружению клировых ведомостей Мураговской униатской церкви Св. Ильи, в которой священник Иван Фёдорович Барщевский на протяжении многих лет служил в должности местоблюстителя, а также его рапорта о переходе окормляемого им прихода в латинский обряд. Изученные в последнее время источники из Национального исторического архива Беларуси и Российского государственного исторического архива, имеющие отношение к церквям Полоцкого, Невельского и Себежского уездов, дают возможность более широко взглянуть на среду, из которой вышел юный Янкó, и получить новые сведения о его биографии. Ниже мы приводим копии наиболее важных из изученных документов и их тексты.

Если расположить собранные источники в хронологическом порядке, то первым из них окажется рапорт[2], составленный местоблюстителем Соколищенской церкви Св. Георгия Иваном Фёдоровичем Барщевским (отцом писателя) в ходе визитации греко-католических церквей Полоцкой епархии, начатой в 1797 г. Следует отметить, что самые ранние из известных протоколов визитаций церквей Полотчины датируются 80-ми гг. XVII ст. С тех пор в среднем каждые десять лет полоцкие архиепископы инициировали полную сплошную проверку и инвентаризацию подведомственных храмов. Сохранность сведений, однако, оставляет желать лучшего — до нашего времени дошла едва ли десятая часть этих ценных документов. Визитация 1797 г. является первой, материалы которой сохранились полностью, и первой же, которая фиксирует среди духовенства Полотчины представителей рода Барщевских.

Рапорт Ивана Фёдоровича Барщевского был написан в самом начале 1798 г. Хотя дата в нём не проставлена, её можно установить с точностью по датировке других аналогичных рапортов. Всего в указанном деле содержится 66 рапортов от священников Полоцкого уезда, в 36 из них даты нет, в четырёх указан только месяц — январь, точные же даты проставлены в 26. Эти данные позволяют

* Авторы считают своим приятным долгом высказать искреннюю признательность Станиславу Генриховичу Козлову-Струтинскому за помощь в получении доступа к использованным в данной статье документам Российского государственного исторического архива и в работе над ними.

[1] Виноходов, Д. О. Штрихи к биографии Яна Барщевского: Ян, отец Яна // Асоба і час: Беларускі біяграфічны альманах. — Вып. 5. — Мінск, 2013. — С. 6–22.

[2] Визиты (отчётные сведения) униатских церквей Полоцкой еп. за 1797 г. // Российский государственный исторический архив [далее — РГИА], ф. 824, оп. 2, д. 113, л. 179 – 179 об.

проследить маршрут, по которому следовала визитационная комиссия: 12 января 1798 г. она посетила Домницкую церковь; 13 января — Сосницкую и Новозамшанскую; 14 января — Бабчанскую, Борковичскую, Бельскую, Воронечскую, Губинскую, Замшанскую, Каменскую, Мосарскую, Паульскую, Пышнянскую, Черсвятскую и Юревичскую; 15 января — Заполоцкую, Головчицкую, Городецкую, а 16 января — Россонскую. Второй выезд комиссии состоялся с 4 по 5 февраля 1798 г. и затронул Бортницкую, Давидковскую, Мартиновскую, Струньскую, Ульскую, Усвейскую и Хоминскую церкви, находящиеся в южной части Полоцкого уезда. Взглянув на карту, легко убедиться в том, что Соколищенская церковь должна была оказаться на пути комиссии во время следования из Заполотья в Головчицы 15 января 1798 г. — так мы и будем датировать рапорт отца Барщевского.

Почерк, которым написан документ, довольно специфичен и в целом напоминает почерк в клировых ведомостях Мураговской церкви 1806 и 1813 гг., текст на русском языке.

[Помета на полях:] *№ 107*

*Его высокопреосвященству господину архиепископу Полоцкому Римско Унитских церквей и кавалеру Ираклию Лисовскому*

*Белорускай губернии, уезда Полацкаго,*
*Прихода Соколискаго священника Ивана Фёдорова сына Барщевскаго*

*Репорт*

*В следствие указа Государственной Естиц колегии из римско католическаго Департамента к Вашему Высокопреосвященству последовавшего, и мне в копии указа объявленнаго, сим доношу* $1^{е}$ *Белорускай губернии, уезда Полоцкаго, в селе Соколище во владении Его высокопревосходительства господина Естинияна Щита и разных орденов кавалера приходская церковь во имя Святого мученика Егоргия, деревянная ветхая малая без неякаго порядка* $2^{е}$ *фундаций*[3] *при оной кроме под поселением огорода никакой неймеется, атолко нижеписанной священник с семейством и церковно служителями милостивым и доброхотным подаянием от помещика и прихода даже и нужнаго пропитания не имеет,* $3^{е}$ *При сей же церкви приход состоит в 138 домов, имеется во оном душ приобщающихся святым тайнам мужеска пола 280, женска 264; малолетних мужеска 200, женска 224; итого мужеска 480, женска 488 и в прошлам* $1797^{м}$ *году родившихся мужеска 14, женска 19, браком сочетавшихся 24 пары; умерших мужеска 17, женска 13;* $4^{е}$ *При сказанной церкви нахожусь я ниже подписанный Священник Иван Фёдоров сын Барщевский, 37 лет издворян, обучен в полацком училище ксендзов езуитов класа фтараго, руку-паложен в священники* $1789^{го}$ *года Вашим Высокопреосвященством к приходу неведрянскому в уезде себежском, а по присоединению онаго прихода к благочестию, к нынешнему приходу в место-блюстителя, определён полацкой унитской консысторией в* $1796^{м}$ *году, где и без отлучно пребываю. Жена Анна 27 лет; дети сыновья* $1^{й}$ *Василий 7 лет* $2^{й}$ *Иван 5 лет; Дячок Андрей Барысевич 50 лет из причётников церковных обучен поруске и пополске; жена Аксинья 28, сын Юстин 10 лет, дочери* $1^{я}$ *Марта 4;* $2^{я}$ *Ульяна 2 лет, панамарём Славецкий 18 лет из причётников церковных, обучен поруске.* $5^{е}$ *ис приходу в* $1797^{м}$ *году*

[3] Фундация (фундуш) — имущественный фонд, переданный основателем храма в его собственность для обеспечения средствами функционирования храма и потребностей клира и причта.

# ЮЗЭФА АБЯЗЕРСКАЯ І ЯЕ ЎСПАМІНЫ «ПАКУТНІЦКІЯ ГАДЫ» ПРА ПАЎСТАННЕ 1863–1864 ГАДОЎ

Мемуарная спадчына ўдзельнікаў і сучаснікаў паўстання 1863–1864 гг. складае асобны пласт айчыннай літаратуры. Сутыкнуўшыся з невядомымі для сябе падзеямі і абставінамі, шматлікія майстры пяра апісвалі свае ўражанні ад перажытага. Гэта рабілася як адразу пасля паўстання, што характэрна пераважна для тых, хто апынуўся ў эміграцыі, так і праз шмат гадоў і нават дзесяцігоддзяў[1].

Якую карысць маюць падобныя мемуары для правядзення гістарычных даследаванняў, ужо не раз пісалася ў навуковых працах, таму не варта спыняцца на гэтым падрабязна. Дастаткова сказаць, што менавіта мемуары нярэдка з'яўляюцца адзінымі крыніцамі для высвятлення шматлікіх абставінаў падзей, падаюць фактаграфічныя звесткі, якія не трапляюць у афіцыйныя дакументы пра тых ці іншых дзеячаў, і пакідаюць каштоўныя характарыстыкі іх асоб альбо дзеянняў у цэлым.

Пласт польскамоўных мемуараў пра паўстанне ў Беларусі да гэтага часу застаецца пераважна недаступным для чытача, які не валодае польскай мовай. Пра патрэбу актыўнай перакладчыцкай дзейнасці ў гэтым кірунку ўжо таксама не раз пісалася, і праблема працягвае заставацца актуальнай. І не толькі для шырокай грамадскасці, але і для прафесійных даследчыкаў. Напрыклад, у нядаўна абароненай дысертацыі Сяргея Глазырына «Паўстанне 1863 года ў Віцебскай і Магілёўскай губернях» ніжэй прыведзеныя ўспаміны нават не згаданы. Хоць пэўныя станоўчыя зрухі ў вырашэнні праблемы неабходна адзначыць, напрыклад нядаўні выхад перакладу аб'ёмных мемуараў камандзіра ашмянскага паўстанцкага атрада Зыгмунта Мінейкі[2]. У некаторых выпусках альманаха «Асоба і час» ўжо было надрукавана некалькі перакладаў польскамоўных мемуараў пра падзеі паўстання[3], таму ніжэй прыведзены тэкст успамінаў Юзэфы Абязерскай «Пакутніцкія гады» будзе з'яўляцца своеасаблівым працягам папярэдніх публікацый.

* * *

Біяграфічных звестак пра Юзэфу Абязерскую ўдалося выявіць няшмат. Магчыма, таму што яна не належала да найбольш выбітных удзельнікаў альбо арганізатараў паўстання. Яе імя адсутнічае і ў «Польскім біяграфічным слоўніку», і ў «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі», і ў іншых вядомых энцыклапедычных выданнях. Аднак пры бліжэйшым разглядзе бачна, што яе роля ў сучасным ёй грамадстве была не такая непрыкметная, каб забыццё пра яе было ажно настолькі вялікім.

Урыўкавыя звесткі пра яе біяграфію змешчаны пераважна ў архіўных дакументах і ў яе ўспамінах. Дата нараджэння Юзэфы дакладна невядомая. Хутчэй за ўсё, гэта

[1] Пра перадумовы з'яўлення вялікай колькасці мемуараў пра паўстанне 1863–1864 гг. гл.: Матвейчык, Д. Ч. Успаміны Вандаліна Чэрніка як крыніца па гісторыі паўстання 1863–1864 гг. у Беларусі: спроба крытычнага аналізу // Białoruskie Zeszyty Historyczne — Беларускі гістарычны зборнік. — № 42. — Białystok, 2014. — S. 59–79.

[2] Мінейка, З. З тайгі пад Акрополь: Успаміны з 1848–1866 гадоў / пераклад, укл., прадмова, камент. М. Запартыка. — Мінск: Лімарыус, 2017. — С. 568 с.: іл. — (Беларуская мемуарная бібліятэка).

[3] Броэль-Плятэр, Я. Успаміны за 1863 год / прадмова, пераклад і каментары Д. Матвейчыка // Асоба і час: Беларускі біяграфічны альманах. — Вып. 6. — Мінск: Лімарыус, 2015. — С. 48–66; Нарбут, М.-Б. Лідскі павет у сярэдзіне XIX стагоддзя / пераклад Г. Лаўрэш, каментары Л. Лаўрэша // Асоба і час: Беларускі біяграфічны альманах. — Вып. 6. — Мінск: Лімарыус, 2015. — С. 106–124; Шукевіч, В. Успаміны 1863 года / прадмова, пераклад, каментары Д. Матвейчыка // Асоба і час: Беларускі біяграфічны альманах. — Вып. 7. — Мінск: Лімарыус, 2016. — С. 61–70.

адбылося каля 1847 г. Яе бацькамі былі буйныя памешчыкі Мечыслаў Свентарэцкі (сенненскі павятовы маршалак у 1860–1862 гг.) і Алімпія Аскерка, якія валодалі маёнткам Канстантова Сенненскага павета, што складаўся з двух фальваркаў (Канстантова і Шыркоўка) агульнай колькасцю больш за 180 валок зямлі. У сям'і мелася яшчэ некалькі дачок — Алімпія, Марыя, Тэадозія і Эвяліна. Пасля смерці Мечыслава Свентарэцкага маёнтак перайшоў у валоданне шматлікіх прадстаўніц сям'і. Юзэфа і яе маці Алімпія ўзялі ўдзел у падрыхтоўцы паўстання, а Канстантова было адным з апорных пунктаў передпаўстанцкай канспірацыі ў павеце. Пра некаторыя абставіны свайго жыцця ў 1863 г. Юзэфа сама распавядае ва ўспамінах (уцёкі ад сялян у Віцебск, зняволенне ў Магілёве і інш.). Непасрэднай нагодай да арышту стала яе дапамога доктару Міхалу Аскерку — паўстанцкаму кіраўніку канспірацыі ў Магілёўскай губерні ў апошні перыяд яе існавання. У прыватнасці, яна з маці спрабавалі дапамагчы яму перабрацца ў Санкт-Пецярбург для далейшых уцёкаў за мяжу, але 28 кастрычніка 1863 г. усе трое былі арыштаваны ў г. Востраў Пскоўскай губерні і перавезены ў Магілёў.

У зняволенні Юзэфа знаходзілася ў адносна больш лёгкіх умовах у параўнанні з іншымі арыштантамі. Па-першае, яна была размешчана ў будынку магілёўскіх богаўгодных устаноў (ці «ўстаноў дабрачыннасці» ў яе тэрміналогіі), якія лічыліся, нягледзячы на словы самой Свентарэцкай, больш камфортнымі за перапоўненыя магілёўскі турэмны замак і казармы батальёна ўнутранай варты. Па-другое, яна знаходзілася ў камеры толькі са сваёй маці, а потым увогуле адна. Па-трэцяе, 24 снежня 1863 г. маці і дачка атрымалі дазвол на ўтрыманне пад арыштам на прыватнай кватэры і перасяліліся ў дом купца Шэндэра. 5 студзеня 1864 г. Алімпія нават падала прашэнне магілёўскаму губернатару (на французскай мове) аб дазволе дачцэ прагульвацца па горадзе для паляпшэння здароўя, хоць невядома, ці было яно задаволена. Падставай для такога стаўлення ў зняволенні з'яўлялася, найбольш верагодна, высокае сацыяльнае становішча Свентарэцкіх і наяўнасць у іх грашовых сродкаў, якія дазвалялі ім утрымлівацца за свой кошт, а не за дзяржаўны.

Канфірмацыяй М. Мураўёва ад 8[4] красавіка 1864 г. Алімпія і Юзэфа прысуджаны да адносна мяккага (у параўнанні з іншымі паўстанцамі) пакарання — ссылкі «адміністрацыйным парадкам» (значыць, без пазбаўлення саслоўных правоў і канфіскацыі маёмасці) на жыхарства ў Пермскую губерню. На іх маёнтак быў накладзены секвестр, які зняты толькі ў 1866 г. Паводле ўказа ад 10 снежня 1865 г.[5], ён падлягаў абавязковаму продажу, аднак прададзены так і не быў[6].

[4] Сама Ю. Абязерская паведамляе (гл. ніжэй) пра дату 24 красавіка. Аднак гэта тлумачыцца простай розніцай паміж датай вынясення канфірмацыі і датай фактычнай высылкі з Магілёва.

[5] Пра ўказ гл. каментары 124 і 125.

[6] Матвейчык, Д. Ч. Удзельнікі паўстання 1863–1864 гадоў: біяграфічны слоўнік (паводле матэрыялаў Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі). — Мінск: Беларусь, 2016. — С. 513; НГАБ. Ф. 2586. Воп. 1. Спр. 116. — Указы і цыркуляры Віцебскага губернскага праўлення, вышукныя артыкулы і да т.п. аб пошуку ўдзельнікаў паўстання 1863 г., маёмасці іх, якая падлягае секвестру, асоб, якія ўхіліліся ад рэкруцтва, даўжнікоў і інш. 10.01.1865–28.12.1866. — Арк. 498 адв.; Ф. 3257. Воп. 1. Спр. 1. — Матэрыялы аб заснаванні і дзейнасці Магілёўскай следчай камісіі, спісы паўстанцаў і звесткі пра кіраўнікоў паўстанцкіх атрадаў у Магілёўскай губ. Абвяшчэнне Магілёўскай губерні на ваенным становішчы ад 15 траўня 1863 г. і правілы, усталяваныя для мясцовасцяў, абвешчаных на ваенным становішчы, зацверджаныя 5 жніўня 1861 г., загад па войсках Магілёўскай губерні № 24 ад 15 чэрвеня 1863 г. аб уступленні на пасаду камандуючага войскамі генерал-маёра Яшвіля і іншыя матэрыялы. Сапраўдная распіска правадыра горацкага паўстанцкага атрада Л. Тапара (Звяждоўскага) з абавязальніцтвам заплаціць 200 руб. за коней і вупраж (пол. мова, арк. 35). 12.05.1863–11.03.1864. — Арк. 171 адв.; Ф. 3257. Воп. 1. Спр. 34. — Матэрыялы камісіі: распараджэнні віленскага генерал-губернатара, і магілёўскага губернатара, распараджэнні камандуючага войскамі ў Магілёўскай губерні, пратаколы дазнанняў, рапарты,

Пра абставіны жыцця Юзэфы ў ссылцы звестак засталося таксама няшмат. Вядома, што ў Пермскай губерні яна разам з маці была паселена ў г. Чардынь, дзе знаходзілася невялікая група сасланых за дапамогу паўстанцам. І менавіта тут яна ў 1865 г. выйшла замуж за іншага ссыльнага — Іаахіма Абязерскага, пра якога затым будзе згадваць ва ўспамінах.

Звестак пра яго дзякуючы ананімным пасмяротным успамінам, выдадзеным у 1883 г. у газеце «Тыдзень», захавалася нашмат больш. Іаахім Абязерскі нарадзіўся 22 лютага 1837 г. у маёнтку свайго дзеда па маці Лазавіца Брэсцкага павета Гродзенскай губерні ў сям'і палкоўніка польскіх войскаў і інспектара школ Цэлястына Абязерскага і Пелагеі Брындзы. Пачатковую адукацыю атрымаў у Марыямпалі. Затым з 1848 г. вучыўся ў Полацкім кадэцкім корпусе, у 1854–1857 гг. — у Канстанцінаўскім ваенным вучылішчы і ў 1860–1862 гг. — у Акадэміі Генеральнага штаба расійскай арміі, якую скончыў з чынам штабс-капітана. У Санкт-Пецярбургу ён уваходзіў у склад гуртка польскіх афіцэраў пад кіраўніцтвам Зыгмунта Сераkоўскага і Яраслава Дамброўскага. Магчыма таксама, што яму належала частка маёнтка Дзеравянчыцы Слонімскага павета Гродзенскай губерні[7]. У 1863 г. ён належаў да паўстанцкай канспірацыі, аднак невядома дакладна, у якой якасці. Паведамленне Ю. Абязерскай (гл. ніжэй) пра тое, што ён павінен быў узначаліць паўстанцкі атрад у Інфлянцкім ваяводстве, з'яўляецца адзінай крыніцай, якая пра гэта гаворыць. Тым не менш у траўні 1863 г. ён быў арыштаваны ў Віцебску і затым сасланы ў г. Чардынь. Там займаўся навукова-публіцыстычнай дзейнасцю і выдаў некалькі артыкулаў па тэорыі эканомікі[8].

Калі дакладна сямейная пара пакінула ссылку — невядома. Найбольш верагодна, гэта адбылося ў другой палове 1860-х гг. у выніку імператарскага маніфеста ад 13/17 траўня 1867 г., паводле якога сасланыя ў «адміністрацыйным парадку» атрымалі магчымасць перасяліцца ў Каралеўства Польскае. Сям'я пераехала ў Варшаву, дзе І. Абязерскі пачаў зарабляць як прыватны педагог і адчыніў свой пансіянат, які прыносіў пэўны прыбытак. Аднак у 1870-я гг. сітуацыя пагоршылася з прычыны яго хваробы, атрыманай яшчэ ў 1863 г. (хутчэй за ўсё, сухотаў). У 1878 г. яму была ампутаваная правая рука, што не дазваляла працаваць у ранейшым напружаным рытме і прывяло да змяншэння колькасці вучняў у пансіянаце. Жонка ўвесь час таксама працавала як педагог і дапамагала мужу, аднак 3 студзеня 1882 г. ён памер. Юзэфа засталася з чатырма малагадовымі сынамі[9].

Яе далейшы лёс вядомы толькі ў некаторых фрагментах. Другі раз замуж яна больш не выходзіла і, найбольш верагодна, вярнулася на радзіму ў свае спадчынныя ўладанні. У 1908 г. яна з'яўлялася ўладальніцай фальваркаў Канстантова (жыло 28 чалавек), пасёлкаў Дабранка (9 чалавек) і Бароўка-Баравая (19 чалавек)[10]. Хутчэй за ўсё, яна працягвала браць удзел у грамадскім жыцці, пра што сведчаць яе

---

перапіска пра ўдзельнікаў паўстання, правілы спатканняў з палітычнымі арыштаванымі ў месцах зняволення ў Магілёўскай губерні, склад камісіі. 08.01.1864–18.03.1864. — Арк. 212 – 215 адв., 243 – 245 адв., 300, 366–367.

7 У цяперашні час — вёска Глоўсевіцкага сельсавета Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці Рэспублікі Беларусь.

8 Дьяков, В. А. Деятели русского и польского освободительного движения в царской армии 1856–1865 годов (биографический словарь). — Москва: Наука, 1967. — С. 123–124; Ś. p. Joachim Obiezierski. (Wspomnienie pośmiertne) // Tydzień. — 6(18) marca 1883 r. — № 11. — S. 2–4; 13(25) marca 1883 r. — № 12. — S. 2–3.

9 Ś. p. Joachim Obiezierski...

10 Список населенных мест Могилевской губернии / под редакцией и. д. секретаря Губернского статистического комитета Г. П. Пожарова. — Могилев, 1908. — С. 169. Прозвішча памылкова перададзена як «Абызерская».

кантакты з выдаўцамі ўспамінаў Якуба Гейштара ў 1913 г., якім яна дапамагала пры іх каментаванні, падаючы некаторыя звесткі пра сучаснікаў[11]. У 1906 і 1908 гг. яна апублікавала некалькі мемуарных артыкулаў[12].

Значна большую вядомасць набыў сын Ю. Абязерскай Міраслаў (1876–1933) — удзельнік краёвага руху ў Беларусі. Яшчэ напярэдадні Першай сусветнай вайны ён з'яўляўся прадстаўніком польскай грамадскасці Магілёўскай губерні. Удзельнічаў у заснаванні ў Магілёве ў 1906 г. Польскага таварыства асветы і дабрачыннасці і Польскага клуба[13], 1–2 верасня 1907 г. — у з'ездзе дэлегатаў губернскіх выбарчых камітэтаў дзевяці «заходніх» губерняў, дзе падпісаў выніковую рэзалюцыю. У гэтым жа годзе ён удзельнічаў у Мінску ў стварэнні Польскага дэмакратычнага саюза Белай Русі і ўвайшоў у склад яго Галоўнага камітэта[14]. У 1913 г. з'яўляўся сябрам-карэспандэнтам ад Магілёўскай губерні Польскага краязнаўчага таварыства. Браў удзел у польска-савецкай вайне (1919–1921 гг.) на польскім баку, аднак толькі на яе ідэалагічным фронце, для чаго ўвосень 1918 г. выступіў адным з арганізатараў Камітэта абароны ўсходніх правінцый (пол. — Komitet Obrony Kresów Wschodnich), а ў 1920 г. выдаў нават прапагандысцкую брашуру агітацыйнага характару[15]. Ужо пасля яго смерці былі выдадзеныя яго ўспаміны пра польска-савецкую мірную канферэнцыю ў Рызе ўвосень 1920 г., у якой ён браў удзел у якасці эксперта[16]. У далейшым жыў у Варшаве і належаў да крайне правага (манархічнага) крыла польскіх дзеячаў.

Лёс іншых дзяцей Юзэфы і Іаахіма Абязерскіх невядомы.

Дата смерці Юзэфы Абязерскай таксама невядомая. Адзінае магчыма сказаць, што яна памерла пасля 1917 г.

* * *

Каб лепей зразумець сэнс успамінаў Ю. Абязерскай, варта бліжэй прыглядзецца да выдання, у якім яны надрукаваны. Невялікі польскамоўны зборнік «Нашыя правінцыі. Магілёўшчына» (пол. — «Nasze kresy. Mohylowszyzna») прысвечаны помніку ў Гомелі князю Юзафу Панятоўскаму — актыўнаму ўдзельніку напалеонаўскіх войнаў, якога яго сучаснікі прарочылі на месца караля будучай адроджанай Рэчы Паспалітай. Самая аб'ёмная публікацыя ў брашуры — артыкул «Магілёўшчына (гістарычны нарыс)» аўтарства Міраслава Абязерскага (с. 9–30). З іншых аўтараў найбольш аб'ёмных твораў варта згадаць Меланію Чапкоўскую

---

[11] Gieysztor, J. Pamiętniki z lat 1857–1865. — T. 1. — Wilno: Bibljoteka Pamiętników; nakł. Tow. Udz. «Kurjer Litewski», 1913. — S. 394; T. 2. — S. 290.

[12] [Obiezierska J.] Na Białorusi // Dziennik Wileński. — № 12. — 14(27) września 1906 r. — S. 2–3; [Obiezierska J.] Ostatnie chwile Michała Oskierki // Goniec Wileński. — № 1. — 5(18) lutego 1908 r. — S. 2; № 3. — 7(20) lutego. — S. 2; № 4. — 8(21) lutego 1908 r. — S. 2. Абодва гэтыя творы падпісаны крыптанімам J. S., які расшыфроўваецца як Юзэфа Свентарэцкая (Józefa Świętorzecka). Публікацыя іх перакладу плануецца ў наступным выпуску гэтага альманаха.

[13] Polskie Towarzystwo Oświaty i Dobroczynności w Mohylowie // Dziennik Wileński. — № 58. — 8/21 listopada 1906 r. — S. 2; Jurkowski R. Polskie Towarzystwo Oświaty i Dobroczynności oraz Klub Polski w Mohylowie w latach 1906–1910. Fragmenty do dziejów oświaty, dobroczynności i organizacji polskich na Białorusi w początkach XX wieku // Annales Universitatis Mariae Curie-Skłodowska. Sectio F, Historia. — 2010. — Vol. 65, z. 2. — S. 99–121.

[14] Смалянчук, А. Ф. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864 — люты 1917 г. — Выд. 2. — Санкт-Пецярбург: Неўскі прасцяг, 2004. — С. 215, 238.

[15] Obiezierski, M. Polska, jako strażniczka cywilizacji zachodniej, i cele naszej obecnej wojny z bolszewikami. — Warszawa: Druk. Józefa Maij, 1920. — 13 s.

[16] Obiezierski, M. Wspomnienia z polsko-rosyjskiej konferencji pokojowej ryskiej dla ułożenia preliminariów pokojowych (wrzesień-paźdz. 1920 r.). — Warszawa: P. Szwede, 1938. — 33, [1] s.

(нарыс «Сянно», с. 33–36) і калегу М. Абязерскага па культурна-асветніцкай дзейнасці Уладзіміра Дварачка («Польская зямельная ўласнасць на Магілёўшчыне», с. 38–44). Ва ўсім іншым пераважаюць невялікія літаратурныя творы (вершы і эсэ), яшчэ некалькі публікацый апісваюць дзейнасць на Магілёўшчыне Польскага таварыства дапамогі ахвярам вайны (с. 63–65) і Цэнтральнага грамадзянскага (пол. — obywatelskiego) камітэта (с. 65–67). Праца выдадзена прадстаўнікамі польскага руху ва Усходняй Беларусі з выразнымі прапагандысцкімі мэтамі. Таму ўсе публікацыі маюць адпаведную танальнасць і накіраваны на зацвярджэнне польскай прысутнасці ва Усходняй Беларусі ажно да ўваходжання яе ў склад будучай польскай дзяржавы. У цэлым складальнікі пазіцыянавалі свой зборнік як *«новы відавочны вузел, які злучае тых, што сёння прыйшлі сюды з берагоў Віслы і Нёмана, з тымі, што, жывучы адвечна на берагах Дняпра, палюбілі Польшчу...»* (с. 2).

З іншага боку, гэты польскі кірунак кнігі не мае агрэсіўнай настроенасці супраць беларускага нацыянальнага руху. У артыкуле М. Абязерскага на гэтую тэму маецца асобны абзац: *«Мы маем права з гонарам адзначыць, што першыя творцы беларускага пісьменства выходзяць з колаў польскай інтэлігенцыі. Гісторыя нацыянальнага адраджэння Беларусі запіша калі-небудзь, несумненна, залатымі літарамі прозвішчы Дуніна-Марцінкевіча, Чачота, Вярыгі і шэрагу тых, што, палюбіўшы просты народ, сярод якога жылі, стараліся выхаваць у ім пачуццё прыгажосці яго ўласнай мовы»* (с. 29).

Брашура з’яўляецца сапраўдным помнікам свайго часу — 1917 года. Для яе выхаду супалі шматлікія акалічнасці выключна палітычнага характару. Па-першае, падзеі Першай сусветнай вайны прывялі да акупацыі Каралеўства (Царства) Польскага, часткі Літвы, Беларусі і Украіны нямецка-аўстрыйскімі войскамі, што выклікала вялікую хвалю эміграцыі бежанцаў углыб імперыі, у тым ліку на Магілёўшчыну. Па-другое, такая адкрытая польская прапаганда стала магчымай толькі пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. і знішчэння Расійскай імперыі, што прывяло да практычна поўнай ліквідацыі (праўда, на кароткі перыяд) палітычнай цэнзуры на яе абшарах. Па-трэцяе, выданне брашуры, дзе вялікая ўвага надаецца прысутнасці і станоўчай ацэнцы польскага памешчыцкага землеўладання ва Усходняй Беларусі, было б проста немагчымым ужо пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. і прыходу да ўлады бальшавікоў. Тым больш гэта было б нерэальным пасля адраджэння ў канцы 1918 г. незалежнай польскай дзяржавы і пачатку польска-савецкай вайны.

«Польскасць» вельмі выразна праяўляецца ў «Пакутніцкіх гадах» Абязерскай, асабліва ў першай і апошняй частках, якія і з’яўляюцца дэ-факта выкладаннем пабудак і мэт публікацыі. Апрача гэтага, успаміны вельмі суб’ектыўныя. Яны не столькі прысвечаны падачы факталогіі, колькі апісанню і доказнасці пазіцыі аўтаркі. Таму пры іх выкарыстанні ў даследаваннях крытычны падыход будзе неабходным. Аднак некаторыя карысныя фактаграфічныя звесткі ў іх падаюцца, напрыклад, пра дзейнасць Люцыяна Гадлеўскага як бялыніцкага пробашча, падзел праваслаўных святароў на экс-уніяцкіх і нававысвечаных і розніцу ў іх паводзінах у паўстанні, масавасць сялянскага антыпаўстанцкага руху на Магілёўшчыне, месца прыбыцця трох афіцэраў — будучых камандзіраў паўстанцкіх атрадаў — у Сенненскі павет і іх далейшы шлях, некаторыя абставіны зняволення ў Магілёве, прыбыццё Міхала Аскеркі ў губерню напярэдадні выступлення і інш. Інакш кажучы, у будучых даследаваннях гісторыі паўстання 1863–1864 гадоў на Магілёўшчыне выкарыстанне гэтых мемуараў будзе з’яўляцца абавязковым.

*Дзмітрый МАТВЕЙЧЫК*

*Юзэфа, народжаная Свентарэцкая, Абязерская*

## ПАКУТНІЦКІЯ ГАДЫ[17]

Слаўных дзён спачылі лёсы,
Друз магіл забыць прымусіў.
Я не плачу, я смяюся,
А ў вачах застылі слёзы...[18].

Таго, што адбывалася ў польскіх сэрцах па ўсім абшары былой Рэчы Паспалітай у хвіліну, калі газеты данеслі пра першыя варшаўскія падзеі ў лютым 1861 года[19], не здолее апісаць ніводнае пяро. Электрычная іскра, якая прабегла па ўсіх польскіх землях, сутрасаючы іх па ўсім абшары з аднолькавай сілай, пакіне незабыўны ўспамін. Старэйшыя будзіліся, як са сну, і з залітымі слязьмі вачыма віталі «вяртанне хвалі». Ізноў распаленая надзея змагаецца з непакоем і ўсведамленнем таго, што адбылося. Маладыя абдымаліся, кідаючыся адзін аднаму ў абдымкі, маладыя дзяўчыны і падлеткі, сабраныя вакол, пытаючым позіркам вадзілі па тварах, прымаючы ў гэтай урачыстай, хоць яшчэ незразумелай для сябе хвіліне як бы хрост на будучы нацыянальны абавязак польскага жыцця. Хвіліна вялікага злучэння, пасля якой ва ўсёй Беларусі закіпела, як у вуллі, і тыя, што бачылі гэтую хвіліну разам з намі, павінны засведчыць, што тагачаснае беларускае грамадства ні на хвіліну не заплямілася сорамам абыякавасці. Жыццё тут ужо доўгія гады цягнулася ў цяжкай залежнасці ад розных сутрасенняў і палітычных умоў. Магілёўшчына большай часткай была адарваная ад Рэчы Паспалітай падчас першага падзелу краіны: межавы вал першага падзелу праходзіў за Талачыном[20] да Славеняў[21], і да цяперашняга часу бачны з вокнаў вагона Варшаўска-Маскоўскай чыгункі. Гэтая зямля, прыгнечаная больш познімі распараджэннямі і зменамі, рэлігійным пераследам, скасаваннем уніі, закрыццём касцёлаў, кляштараў, польскай школы і асветы, тым не менш цягнулася ўсё яшчэ да культурнага развіцця, трапляючы мімаволі ў летаргічную нерухомасць і знешнюю абыякавасць. Аднак у гэты раз рэха лозунгаў, абвешчаных Напалеонам III, які імкнуўся да вызвалення народаў ад палітычнай залежнасці

---

[17] Obiezierska, J. Męczeńskie lata // Nasze Kresy. Mohylowszczyzna. — Mohylów – Moskwa: [b/w], 1917. — S. 45–51.

[18] Цытата з паэмы «Новыя дзяды. Паэтычны жарцік» (1884 г.) польскага паэта з Украіны Уладзіміра Высоцкага (1846–1894). Ю. Абязерская ў сваім польскамоўным тэксце мяняе ў чатырохрадкоўі, верагодна, свядома для ўзмацнення эмацыянальнага эфекту арыгінальнае словазлучэнне «nasze dzieje» (даслоўна — «наша гісторыя») на «dumne dzieje» («слаўная гісторыя»). Тут і ніжэй вершаваны пераклад выкананы **Дзянісам Лісейчыкавым**, за што хацелася б выказаць яму асобную падзяку.

[19] 13 (25) лютага 1861 г. у Варшаве адбылося святкаванне гадавіны пераможнай для польскай арміі бітвы ля Альшынкі Грахоўскай у 1831 г. Некаторыя яго ўдзельнікі былі арыштаваны паліцыяй. У адказ 15 (27) лютага адбылася шматлюдная дэманстрацыя, на якой гучалі лозунгі з патрабаваннямі сацыяльных рэформаў, грамадзянскіх правоў і вызвалення ўдзельнікаў святкавання. Падчас яе расійскія войскі адкрылі агонь па дэманстрантах, у выніку чаго 5 чалавек былі забіты і некалькі дзясяткаў паранены. Пахаванне забітых адбылося 18 лютага (2 сакавіка) і ператварылася ў чарговую дэманстрацыю. Гэтыя падзеі лічацца пачаткам «маніфестацыйнага перыяду» ў падрыхтоўцы паўстання.

[20] Талачын — цяпер горад, цэнтр раёна Віцебскай вобласці Рэспублікі Беларусь. У сярэдзіне XIX ст. быў мястэчкам у Магілёўскай губерні, падзеленым ракой Друццю на дзве часткі: адна з'яўлялася цэнтрам Стара-Талачынскай воласці Аршанскага павета, другая (пад назвай Зарэчны Талачын) — цэнтрам Зарэчна-Талачынскай воласці Сенненскага павета.

[21] Славені — вёска Зарэчна-Талачынскай воласці Сенненскага павета, цяпер — Слаўнаўскага сельсавета Талачынскага раёна Віцебскай вобласці. У Ю. Абязерскай назва вёскі пішацца ў форме «Славяны» (пол. — Słowiany).

захопнікаў[22], імя Гарыбальдзі[23], што змагаўся за свабоду Італіі, якое з энтузіязмам паўтаралася ўсёй Еўропай, не маглі прайсці па Беларусі незаўважанымі. Варшаўскія падзеі ўразілі ўсіх і моцным пульсам адбіліся па ўсёй Магілёўшчыне і Віцебшчыне.

Адразу ў гэтым жа годзе сельскагаспадарчая школа ў Горы-Горках урачыста святкавала гадавіну лістападаўскага паўстання. Прыгожая імша, праведзеная кс. Манюшкам[24] (у далейшым выгнаннікам), з моладдзю на каленях перад алтаром і жанчынамі ў кунтушах і канфедэратках захавалася да цяперашняга часу ў фатаграфічнай картцы ў пары асоб, якія памятаюць тую хвіліну[25].

З біццём сэрца сочыць Беларусь за далейшым развіццём варшаўскіх падзей. Кожны факт знаходзіў водгалас на Магілёўшчыне. Спявалі гімны ў касцёлах, жанчыны апранулі нацыянальную жалобу, святочным набажэнствам святкавалі гадавіну злучэння Літвы з Польшчай у памятны дзень Ковенскай працэсіі[26]. Спыніліся ўсялякія забавы, на першы план выйшлі лозунгі ахвяр і народнай самаадданасці. Тыя, што тады наведвалі Літву, павінны пацвердзіць, што дух народу паўсюль быў у сваёй аднастайнай узнёсласці, паўсюль меліся аднолькавыя мэты і аднолькавыя мары. Кожны рваўся душой і сэрцам да айчыннай справы ў меру сваіх сіл і развіцця здольнасцяў. Моладзь з Маскоўскага ўніверсітэта, якая тады больш за ўсё наведвала Беларусь, прывозіла на вакацыі і святы самыя свежыя навіны, газеты і брашуры. Беларуска, гэтая бадай самая актыўная ва ўсёй Рэчы Паспалітай «правінцыйная жанчына», рыхтавалася ўсёй душой да вялікай ролі і абавязкаў, якія ўжо так хутка павінны былі пасці страшным цяжарам на яе слабыя плечы. У паветры, насычаным ліхаманкавым чаканнем, можна было адчуць нервовы настрой людзей, *гатовых на ўсё*[27], а ў масах казалі (хоць яшчэ ціха), што ўзброены рух у любую хвіліну пакліча з Варшавы нацыю да барацьбы і *абазначэння межаў былой Польшчы*[28].

---

[22] Сярод кансерватыўнага лагера нацыянальна-вызваленчага руху імператар Францыі Напалеон III карыстаўся рэпутацыяй правіцеля, гатовага прыйсці на дапамогу ў выпадку ўзброенай барацьбы. Гэтыя спадзяванні базаваліся на некаторых неафіцыйных выказваннях самога Напалеона III, аднак былі марныя. Ні ў водным з афіцыйных выступленняў ён не выказваўся падобным чынам і не падпісаў ніводнага адпаведнага дакумента.

[23] Джузэпэ Гарыбальдзі (1807–1882) — лідар італьянскай рэвалюцыі за ўз'яднанне краіны, адзін з найбольш вядомых еўрапейскіх рэвалюцыянераў XIX ст., актыўна супрацоўнічаў з палітычнымі эмігрантамі з зямель былой Рэчы Паспалітай.

[24] Ксёндз горацкага касцёла Аляксандр Манюшка актыўна ўдзельнічаў у падрыхтоўцы выступлення ў Магілёўскай губерні. Падчас паўстання арыштаваны расійскімі ўладамі і ў 1864 г. прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на жыхарства ў Томскую губерню [Восстание в Литве и Белоруссии 1863–1864 гг.: Сб. документов / АН СССР, Ин-т славяноведения и др. — Москва; Вроцлав: Наука, 1965. — С. 479–482; Матвейчык, Д. Ч. Удзельнікі паўстання... — С. 30].

[25] Гэтае паведамленне з'яўляецца адзіным вядомым наконт і святкавання ў Горках гадавіны лістападаўскага паўстання, і існавання фотаздымка, на якім яно выяўлена.

[26] 12 жніўня 1861 г. у Коўне адбылося ўрачыстае святкаванне чарговай гадавіны заключэння Крэўскай уніі як акт пацвярджэння перад Расійскай імперыяй еднасці ўсіх частак былой Рэчы Паспалітай. Яно было праведзенае ў выглядзе касцельных службаў і маніфестацый у розных частках падзеленага на дзве часткі Коўна (адна частка ўваходзіла ў склад Ковенскай губерні, другая — у склад Каралеўства (Царства) Польскага). Розныя працэсіі павінны былі сустрэцца на мосце праз раку Нёман, што павінна было сімвалізаваць адзінства народа падзеленай дзяржавы. Расійскія ўлады не дазволілі здзейсніцца такому сцэнарыю, перакрыўшы праход да моста. Аднак сама працэсія набыла вялікі палітычны рэзананс на ўсіх землях былой Рэчы Паспалітай.

[27] Тут і ніжэй захаваны курсіў, якім вылучаны некаторыя словы і фразы ў першапачатковай публікацыі.

[28] Паводле пашыранага сярод прадстаўнікоў «белага» (кансерватыўнага) лагера паўстанцаў меркавання, паўстанне на розных ускраінах былой Рэчы Паспалітай (Віцебская, Магілёўская, Кіеўская губерні і інш.) неабходна было ўздымаць нават у тым выпадку, калі яно будзе падрыхтавана недастаткова. Планавалася, што гэта павінна стаць важным актам, так бы мовіць, для будучыні

Горы-Горкі з кожнай хвілінай станавіліся больш люднымі, моладзь наплывала ў школы з далёкай Літвы, Жмудзі і нават з Каралеўства. Не толькі сама сельскагаспадарчая вучоба збірала яе ў гэтым раней ціхім месцы...

У Бялынічах[29], гэтай беларускай Чанстахове[30], кс. Люцыян Гадлеўскі[31], пераведзены сюды нядаўна з Кіева, збіраў вакол сябе незлічоныя натоўпы простага люду і пілігрымаў. Як раз тады згарэла амаль усё мястэчка; касцёл з цудоўным абразом Маці Божай[32] быў пашкоджаны, таму патрэбныя сродкі павінны былі паплыць з прыватных складак. Кс. Гадлеўскі, якога апярэджвала з Кіева рэпутацыя ўрадавых праследаў, з усёй энергіяй закруціўся вакол аднаўлення гэтай найпрыгажэйшай святыні: ладзіў латарэі, складкі, прызначаў урачыстыя набажэнствы, на якія з'язджалася вялізная колькасць духавенства, натоўпы інтэлігенцыі з суседніх губерняў прыходзілі пехатой, умацоўваючы тут дух і сустракаючыся паміж сабой. Складкі таксама плылі энергічна[33]. Менавіта тады годны гонару капелан напісаў сваю кнігу для набажэнстваў[34], выдадзеную ў Кіеве, якую распрадаў з мэтай рамонту касцёла і сабраў значную суму. Да цяперашняга часу яе захоўваюць з гонарам у беларускіх дамах, як памятку з Бялынічаў, а ў 1861 годзе не было сям'і, дзе б маці і маладыя дзяўчыны не маліліся б паводле яе. Тады было сорамна прыйсці ў касцёл з малюсенькай кніжачкай сучаснага фармату, як гэта модна цяпер. Уладальніца кнігі кс. Гадлеўскага ужо самім яе валоданнем казала пра сваю маральную годнасць,

аднОўленай дзяржавы (Рэчы Паспалітай), у прыватнасці калі паўстане пытанне пра яе межы, якія павінны праходзіць там, дзе «будуць абазначаны крывёй, пралітай за яе незалежнасць».

[29] Бялынічы — мястэчка, цэнтр воласці Магілёўскага павета, цяпер — горад, цэнтр раёна Магілёўскай вобласці Рэспублікі Беларусь. Галоўнай славутасцю мястэчка быў касцёл і кляштар кармелітаў, закладзеныя яшчэ ў 1620-я гг. і перабудаваныя ў сярэдзіне XVIII ст. у стылі віленскага барока. Тут захоўваўся абраз Божай Маці Бялыніцкай (гл. ніжэй).

[30] Чанстахова (пол. — Częstochowa) — горад Петракоўскай губерні, цяпер — цэнтр павета Сілезскага ваяводства на поўдні Польшчы. Галоўная славутасць Чанстаховы — абраз Божай Маці Чанстахоўскай, які захоўваўся з XIV ст. у кляштары на Яснай Гары і якому прыпісваюцца шматлікія цуды, напрыклад удалая абарона горада ад шведскіх войскаў у лістападзе і снежні 1655 г.

[31] Люцыян Гадлеўскі (пам. у 1876) з'яўляўся актыўным каталіцкім дзеячам свайго часу. У 1848 г. ён падпісаў рэвалюцыйную адозву, за што быў адпраўлены расійскімі ўладамі ў ссылку ў Кіеўскую губерню. У 1853 г. вярнуўся ў Кіеў, дзе карыстаўся вялікімі аўтарытэтам сярод парафіян. З гэтай прычыны ў 1858 г. пераведзены Бялынічы. Падчас паўстання западозраны ў сувязях з паўстанцамі і 27 траўня 1863 г. арыштаваны. Абставіны далейшага лёсу невядомыя, аднак, хутчэй за ўсё, быў вызвалены і не атрымаў ніякага пакарання. Як сведчыць рапарт магілёўскага павятовага спраўніка ад 12 студзеня 1865 г., Гадлеўскі стараўся трымацца далёка ад адкрытых публічных заяў палітычнага характару. У сакавіку 1867 г. яшчэ знаходзіўся на службе ў Бялынічах. Памер у Парыжы [Матвейчык, Д. Ч. Удзельнікі паўстання... — С. 145; НГАБ. Ф. 2001. Воп. 2. Спр. 144. — Справа аб зборы звестак аб дачыненні да паўстання 1863 г. ксяндзоў Бялыніцкага рымска-каталіцкага касцёла. 21.12.1864–29.03.1865. — 14 арк.; Ф. 2001. Воп. 2. Спр. 181. — Справа аб знаходцы ў склепе Бялыніцкага рымска-каталіцкага касцёла Магілёўскага павета куль і свінцу. 08.06.1866–26.07.1867. — 17 арк.; Malej W. Godlewski Lucjan // Polski Słownik Biograficzny. — T. VIII. — Wrocław, etc.: Zakład Narodowy imnienia Ossolińskich, 1959–1960. — S. 179–180]. Гл. іл. 1.

[32] Абраз Маці Божай Бялыніцкай з'явіўся ў першай палове XVII ст. Доўгі час у XIX ст. ён з'яўляўся прадметам спрэчак праваслаўных і католікаў пра тое, каму ён павінен належаць. Абразу прыпісваліся шматлікія цуды, у тым ліку паспяховая абарона Ляхавіцкага замка падчас вайны з Маскоўскай дзяржавай 1654–1667 гг. У 1761 г. абраз быў урачыста каранаваны і з таго часу з'яўляўся адной з самых шанаваных хрысціянскіх святынь Усходняй Беларусі. З яго створаны шматлікія копіі.

[33] Рапарт в.а. бялыніцкага благачыннага Стэфана Багдановіча ад 6 сакавіка 1865 г. цалкам пацвярджае гэтыя словы. Аднак пры гэтым благачынны скардзіцца, што такая актыўная дзейнасць Бялыніцкай каталіцкай парафіі вядзе да пераходу ў каталіцтва шматлікіх мясцовых жыхароў [НГАБ. Ф. 2001. Воп. 2. Спр. 144. Арк. 8 – 9 адв.].

[34] Godlewski L. Książeczka do nabożeństwa ku czci i chwale Boga w św. Trójcy jedynego, N. Maryi Panny, Aniołów i Swiętych Bożych. (Edycja druga). — Kijów: w Drukarni Uniwersyt., 1860. — 886 s.

склад думак і разуменне мэт і абавязкаў, да якіх імкнецца ў жыцці, а такімі былі, гаворым гэта з гонарам і пахвалой, усе жанчыны ў Беларусі. Хто тады бачыў беларуску, якая рыхтуецца да дзеяння, хто ўбачыў яе ў Віцебску і Магілёве на вышыні працы, пакут і цярпімых прыніжэнняў, хто памятае, як яна ідзе ў выгнанне адна альбо за мужам з усмешкай на вуснах і паўнейшым забыццём пра сябе, каму потым было дадзена ацаніць яе працу і трываласць пры паратунку рэшткаў айчыннай зямлі, той не знойдзе для яе іншага выразу, апрача як імя «святой гераіні»[35].

Вываз з Варшавы за мяжу Андрэя Замойскага[36], замахі на жыццё Людэрса[37] і навапрысланага пасля яго ў Варшаву намесніка кн. Канстанціна[38] патрэслі Беларусь да глыбіні. Экзекуцыя Ярашынскага[39] ў Варшаве пакінула вельмі смутнае ўражанне. Адначасова ўрэгулёўвалася справа вызвалення сялян і пасярэднікі, прызначаныя ад польскіх памешчыкаў, старанна ўзяліся за працу. Просты люд не выказваў тады аніякай непрыхільнасці і дрэннага стаўлення ў адносінах да ўладальніка зямлі.

Адкрыта казалі, што на з'едзе ў Парыжы 1857 года[40] адной з умоў міру пасля Крымскай вайны[41] Расіі пастаўлена вызваленне сялян у дзяржаве, адзінай

---

[35] Бялыніцкі касцёл у 1871 г. быў заняты ўночы і заменены праваслаўнай царквой. Кс. Гадлеўскі нядаўна памёр*, яго месца часова замяшчаў кс. Стрыгоцкі, які, збянтэжаны нечаканасцю, так спалохаўся, што аддаў паліцыі ключы, а губернатар Дэмбавіцкі з трыумфам заняў касцёл. Аднак вядома, што імператар Аляксандр II быў моцна раззлаваны такой стараннасцю, губернатар атрымаў за гэта вымову. Кс. Стрыгоцкі быў пераведзены ў Талачын, да канца жыцця быў для ўсіх беларусаў жывым напамінам слабасці характару, такой заганнай для капелана. (Каментар Ю. Абязерскай. — *Д. М.*)

* Л. Гадлеўскі на той час быў жывы (гл. каментар 31), найбольш верагодна, ён ужо проста не служыў у Бялыніцкім касцёле.

[36] Андрэй-Артур Замойскі (1800—1874) — адзін за найбольш аўтарытэтных палітычных дзеячаў у Царстве Польскім напярэдадні паўстання. У 1858—1861 гг. з'яўляўся галоўным заснавальнікам і старшынёй Сельскагаспадарчага таварыства ў Варшаве (больш падрабязна пра яго гл., напрыклад: Łagiewski, S. Andrzej Artur Zamoyski: 1808—1874. — Warszawa: W. Jakowicki, 1917). Цяжка сказаць, што тут Ю. Абязерская мае на ўвазе, калі піша пра яго «вываз» у 1861 г. А. Замойскі выехаў з Варшавы і ўвогуле з Каралеўства Польскага ў Аўстрыйскую імперыю пасля замаху ў яго палацы на жыццё памочніка намесніка Фёдара Бэрга ў жніўні 1863 г.

[37] Аляксандр Людэрс (1790—1874) — расійскі генерал, які з лістапада 1861 да чэрвеня 1862 г. з'яўляўся намеснікам Царства Польскага. Праславіўся жорсткімі захадамі супраць прыхільнікаў ідэі аднаўлення Рэчы Паспалітай і каталіцкага духавенства. Замах на яго жыццё быў зроблены 3 (15) чэрвеня 1862 г. у Варшаве ў Саксонскім садзе афіцэрам расійскага войска ўкраінскага паходжання Андрэем Пацебнем. У выніку быў няцяжка паранены.

[38] Вялікі князь Канстанцін Раманаў (1827—1892), брат імператара Аляксандра II, з'яўляўся намеснікам Царства Польскага з чэрвеня 1862 да кастрычніка 1863 г. Замах на яго быў здзейснены 21 чэрвеня (4 ліпеня) 1862 г. Людвікам Ярашынскім (гл. наступны каментар), аднак атрымаў толькі лёгкую рану.

[39] Людвік Ярашынскі (1840—1862) — варшаўскі кравец і сябра падпольнай арганізацыі горада Варшавы. 21 чэрвеня (4 ліпеня) 1862 г. зрабіў няўдалы замах (стрэліў з рэвальвера ва ўпор) на намесніка вялікага князя Канстанціна і быў арыштаваны. Ваенным судом прысуджаны да смяротнага пакарання і 21 жніўня 1862 г. расстраляны ў Варшаве.

[40] Найбольш верагодна, маецца на ўвазе Парыжская мірная канферэнцыя (альбо Парыжскі кангрэс), якая адбылася не ў 1857, а ў 1856 г., завяршылася падпісаннем 13 (25) лютага мірнай дамовы, якая скончыла Крымскую вайну (гл. наступны каментар). Расія падпісала на ёй невыгодныя для сябе ўмовы, у тым ліку пазбавілася некаторых тэрыторый. Аднак невядома, каб на ёй абмяркоўвалася прыгоннае права ў Расійскай імперыі. Хутчэй за ўсё, Ю. Абязерская перапісвае проста нейкія чуткі.

[41] Крымская вайна (1853—1856) — ваенны канфлікт паміж Расійскай імперыяй з аднаго боку і кааліцыяй дзяржаў (Вялікабрытанія, Францыя, Сардзінія і Асманская імперыя, якім спачувалі Аўстрыйская імперыя і Прусія) з другога. Апафеозам вайны стала высадка саюзных войскаў у Крыме і аблога Севастопаля, якая скончылася паспяхова. Эканамічна адсталая Расійская імперыя вымушана была прызнаць паражэнне ў вайне і падпісаць невыгодную для сябе мірную дамову (гл. папярэдні каментар).

ужо тады ў Еўропе, якая яшчэ мела прыгоннае права. Просты люд ведаў, што памешчыкі-палякі з усёй гатоўнасцю былі гатовыя вырашыць гэтую справу; памяталі, як абіраліся дэпутаты ў губернскія камітэты ўладкавання сялян[42], як тыя ж памешчыкі сардэчна віншавалі сялян у дзень 19 лютага 1861 г.[43] пасля абвяшчэння ў цэрквах атрыманай свабоды. Таму, калі камісіі, а з імі пасярэднікі, пачалі надзяляць зямлёй, просты люд не выказваў ім аніякай непрыхільнасці[44]. Наадварот, у вялікім парадку праводзілі выбары «старшынь і стараст», і толькі пры атрыманні надзелаў выказвалі ваганні, апасаючыся перш за ўсё штогадовых выплат, якія ім здаваліся завышанымі. Пасярэднікі з лёгкасцю спраўляліся; калі ваганні былі больш доўгія, трохі ўздымаючы голас, загадвалі браць зямлю, і такая рашучасць адразу супакойвала селяніна. Сёння старыя, што яшчэ памятаюць тыя хвіліны, з чуласцю ўспамінаюць прозвішчы тых пасярэднікаў, дадаючы: «Ах, чаму ж не загадвалі браць больш!». Таму ўсе нечаканасці, якія падрыхтаваў магілёўскім памешчыкам 1863 год з боку раз'юшанага сялянства, што пайшло спачатку ад старавераў з Інфлянтаў[45], належыць прыпісаць толькі цёмным постацям, для якіх лоўля рыбы ў мутнай вадзе была галоўным інтарэсам і якія не марудзілі адразу пасля выбуху паўстання ў Варшаве.

Мы павінны аддаць справядлівасць, што ніхто з экс-уніяцкіх святароў, якія тады яшчэ пераважна сядзелі ў парафіях Магілёўшчыны, не прынізіўся да падбухторвання простага люду. Наадварот, былі выпадкі, калі яны нават востра прамаўлялі ў цэрквах да збаламучаных парафіян, пагражаючы карай Боскай за фальшывыя даносы і выдуманыя абвінавачванні. На жаль, не можам сказаць такой жа пахва-

[42] Напярэдадні сялянскай рэформы, у 1857–1858 гг., ва ўсіх губернях Расійскай імперыі былі створаны асобныя камітэты, якія павінны былі выпрацаваць свае прапановы аб умовах вызвалення сялян. У склад гэтых камітэтаў уваходзілі выключна памешчыкі і буйныя чыноўнікі і ўнутры іх вялася, як правіла, барацьба паміж рэакцыянерамі і лібераламі. Свае прапановы яны падавалі ў Сакрэтны камітэт па сялянскай справе ў Санкт-Пецярбургу.

[43] 19 лютага 1861 г. расійскім імператарам Аляксандрам II выдадзены маніфест аб скасаванні прыгоннага права. Паводле яго сяляне вызваляліся ад асабістай залежнасці ад памешчыкаў, але зямлёй надзяляліся толькі за выкуп, выплату якога (у выглядзе крэдыту) узяла на сябе дзяржава. У выніку сяляне да 1905 г. плацілі выкупныя плацяжы і працэнты па іх (6 % у год). Аднак рэформа нават у такім выглядзе пасадзейнічала насычэнню ў Расійскай імперыі рынку працы і хуткаму прамысловаму развіццю.

[44] Ю. Абязерская выразна рамантызуе сітуацыю. Напярэдадні і падчас сялянскай рэформы адносіны паміж памешчыкамі і сялянамі абвастрыліся да найвышэйшай ступені, і Магілёўская губерня не была выключэннем. Напрыклад, горацкі земскі спраўнік паведамляў магілёўскаму губернатару 8 лютага 1863 г.: «у цяперашні час адносіны паміж сялянамі і памешчыкамі больш чым непрыязныя» [Паўстанне 1863–1864 гадоў у Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях: Дакументы і матэрыялы Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі / уклад. Д. Ч. Матвейчык; рэдкал.: У. І. Адамушка [і інш.]. — Мінск: А. М. Вараксін, 2014. — С. 279]. У цэлым, на працягу 1861–1862 гг. сяляне бунтавалі ў самых розных мясцовасцях Магілёўскай губерні, пратэстуючы супраць умоў правядзення сялянскай рэформы [гл.: Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861–1862 гг. / Акад. наук СССР, Ин-т славяноведения, Гл. архив. упр. СССР; редкол.: В. Дьяков и др.; подгот.: Л. Аржаева и др. — Москва: Наука, 1964. — С. 595–613].

[45] Інфлянты, альбо так званыя Польскія Інфлянты, — частка Рэчы Паспалітай, якая была захаваная за ёй у выніку некалькіх войнаў са Швецыяй пачатку XVII ст. і знаходзілася ў сумесным кіраванні Каралеўства Польскага і Вялікага Княства Літоўскага. У асноўным ахоплівала частку сучаснай Усходняй Латвіі. У сярэдзіне XIX ст. «інфлянцкімі» ў Віцебскай губерні лічыліся Дынабургскі, Рэжыцкі і Люцынскі паветы. Шляхта гэтых тэрыторый, якая мела нямецкія карані, на працягу XVII–XIX стст. моцна спаланізавалася. Старaверы пачалі масава прыбываць у Інфлянты з другой паловы XVII ст. і на сярэдзіну XIX ст. налічвалі некалькі дзясяткаў тысяч чалавек.

лы пра нававысвячанае для Беларусі праваслаўнае духавенства, якое саджалася ў парафіі па меры смерці ранейшых парохаў.

Просты люд увогуле не мог ненавідзець памешчыка, бо занадта яшчэ свежа быў ва ўсім з ім звязаны. Да таго часу маліўся па-польску, ужываў польскія імёны, вымаўляў іх па-беларуску, не ведаючы ніякіх Сямёнаў, Амосаў, Прось, Настазій і г. д., хрысціўся перад юбілейнымі крыжамі, якія стаялі каля кожнай экс-уніяцкай царквы; на Святую Ганну[46], як гэта мае месца да сённяшняга дня, пехатой ішоў у Марцюхова[47] набожна святкаваць гадавіну скасавання Уніі[48].

Унія скончылася гістарычным пакутніцтвам, смерцю і пакалечаннем бяззбройных людзей, якія супраціўляліся. Нават і цяпер часам здараліся выпадкі, калі падхмелены селянін раптоўна паварочваў з царквы на правы бок, сцвярджаючы, што хоча ісці так, як хадзілі бацькі[49], але святары не рабілі з гэтага шмат шуму, справы заціраліся хутка і гладка з трыумфам для новага дзяржаўнага парадку і спакою папа.

Так праходзіў 1862 год — чакалі, маліліся, хціва расхоплівалі газеты, і паволі зацвярджалася перакананне, што ў патрэбную хвіліну Беларусь выканае нацыянальны абавязак, як належыць адданым сынам Айчыны.

Нібы гром з сабраных на небе хмар прыйшла ў студзені 1863 г. навіна пра паўстанне ў Варшаве[50]. Усе зразумелі, што што-небудзь вялікае і паважнае павінна ў далейшым сустрэць Беларусь. У сакавіку ўжо выразна казалі, што Магілёўшчына са зброяй у руках абазначыць межы былой Польшчы; на пачатку красавіка ў гэтым ужо не заставалася найменшага сумнення. Жанчыны і дзеці ліхаманкава шылі бялізну і рвалі корпію. Вялікдзень, аднак, прайшоў спакойна. Толькі доктар Міхал Аскерка[51], камісар Нацыянальнага ўрада[52], арганізатар руху ў Магілёўскай губерні, некалькіразовым прыездам з Вільні і Мінска ў Магілёў адзначыў актыўную працу па падрыхтоўцы паўстання. У сярэдзіне красавіка з ім

---

[46] Культ Святой Ганны найбольш характэрны для каталіцка-ўніяцкай традыцыі, якая вывела нават пастулат аб беззаганным зачацці не толькі Марыі, але і яе маці Ганны. Дні Святой Ганны адзначаюцца каталіцкай царквой 26 ліпеня і 8 снежня.

[47] Марцюхова — сяло Коханаўскай воласці Аршанскага павета Магілёўскай губерні, цяпер — вёска Кохнаўскага сельсавета Талачынскага раёна Віцебскай вобласці.

[48] У брашуры «Песні набожныя» (1861) маецца радок *«У Марцюхове мы папоў ужо білі / Цябе ад сызмы хацелі адняці...»*. Аднак, якія падзеі далі нагоду для ўключэння згадкі пра іх у прапагандысцкую песню і ў мемуары Ю. Абязерскай, вызначыць не ўдалося.

[49] Маецца на ўвазе розніца ў праваслаўнай і каталіцка-ўніяцкай літургічнай традыцыі хроснага ходу пасля набажэнства ў Вербную нядзелю. У Рускай праваслаўнай царкве ён здзяйсняецца налева пасля выхаду з царквы (супраць руху Сонца), у каталіцкай і ўніяцкай — направа (па руху Сонца).

[50] Паўстанне пачалося ў Варшаве ўночы з 10 на 11 (з 22 на 23) студзеня 1863 г. Штуршком да яго паслужыў пазачарговы рэкруцкі набор. Выступленне не было запланаванае Цэнтральным нацыянальным камітэтам, якое меркавала распачаць узброеную барацьбу толькі ўвесну, і выбухнула непадрыхтаваным.

[51] Міхал Аскерка (1836–1863) — ураджэнец Мінска, выпускнік Слуцкай гімназіі і Маскоўскага ўніверсітэта, доктар, актыўны ўдзельнік арганізацыі паўстання ў Мінскай і Магілёўскай губернях, у апошні перыяд — адзін з кіраўнікоў паўстання ў Цэнтральнай і Усходняй Беларусі, звязаны з Канстанцінам Каліноўскім. Арыштаваны разам з Алімпіяй і Юзэфай Свентарэцкімі (гл. прадмову). Утрымліваўся ў Магілёве, дзе 28 красавіка 1864 г. расстраляны на вучэбнай плошчы за турэмным замкам а 9-й гадзіне [Матвейчык, Д. Ч. Удзельнікі паўстання... — С. 43–44; Gieysztor, J. Pamiętniki... — T. 1. — S. 410–411].

[52] Нацыянальны ўрад (да 10 траўня 1863 г. — Часовы нацыянальны ўрад) — галоўны орган паўстанцкай улады ў 1863–1864 гг. Размяшчаўся ў Варшаве і аб'ядноўваў усе групы, якія дзейнічалі ў розных частках Рэчы Паспалітай і падпарадкоўваліся яму (рэальна ці намінальна). Менавіта яго эмісарамі лічыліся ўсе агітатары і арганізатары паўстання, дзе бы яны ні дзейнічалі, у тым ліку і М. Аскерка.

прыехалі афіцэры Генеральнага штаба Алендскі[53], Жаброўскі[54] і Чыжык[55], усе трое ў далейшым камандзіры атрадаў. З Сенненскага павета з маёнтка Канстантова[56] яны раз'ехаліся ў розныя бакі. Чыжыка сустрэлі ў Сянно асобы, якія яго чакалі. Жаброўскага і Алендскага вывез з Канстантова маршалак Нітаслаўскі[57], уладальнік Скрыдлева[58], накіроўваючыся з імі на Барысаўскі тракт. У любую хвіліну чакалі прыезду Людвіка Звяждоўскага (Тапара)[59], які павінен быў кіраваць горы-горацкім

[53] Антоні Алендскі (каля 1843/1844 – 1864) — выпускнік з чынам падпаручніка 1-га Маскоўскага кадэцкага корпуса, напярэдадні паўстання знаходзіўся на вучобе ў Санкт-Пецярбургскай Міхайлаўскай артылерыйскай акадэміі; падчас паўстання ад Людвіка Звяждоўскага ў Аршанскім павеце атрымаў намінацыю на пасаду памочніка ваеннага начальніка Сенненскага павета К. Жаброўскага (гл. наступны каментар). У гэтай якасці ўзяў удзел у фарміраванні сенненскага паўстанцкага атрада, з якім злучыўся пазней з валосавіцкім атрадам у Барысаўскім павеце. Атрад разбіты 7 траўня ля в. Падбярэззе Барысаўскага павета, а Алендскі трапіў у палон. Расстраляны 30 сакавіка 1864 г. у Мінску [Матвейчык, Д. Ч. Удзельнікі паўстання... — С. 30].

[54] Канстанцін Жаброўскі — паручнік 6-й артылерыйскай брыгады расійскіх войскаў і вучань Артылерыйскай акадэміі; у паўстанні 23 красавіка 1863 г. узначаліў (пад мянушкай «Костка») сенненскі паўстанцкі атрад (гл. папярэдні каментар). Пасля разбіцця атрада пад Падбярэззем некалькі дзён блукаў па лесе, але 13 траўня схоплены сялянамі. 24 чэрвеня 1863 г. расстраляны у Барысаве [Матвейчык, Д. Ч. Удзельнікі паўстання... — С. 216].

[55] Мельхіёр Чыжык — штабс-капітан Маскоўскага грэнадзёрскага вялікага герцага Фрыдрыха Макленбургскага палка; у паўстанні ўзначаліў атрад барысаўскіх паўстанцаў, які злучыўся з вілейскім паўстанцкім атрадам, але быў разбіты 16 траўня 1863 г. ля вёскі Уладыкі Вілейскага павета. З рэшткамі злучанага атрада прабраўся ў Ігуменскі павет і злучыўся з атрадам Станіслава Ляскоўскага. У далейшым схоплены і сасланы на катаргу. Выжыў і пасля чарговай амністыі ў 1878 г. вызвалены ў ссылцы ад нагляду паліцыі з забаронай пражываць у губернях «Заходняга краю». У 1870 г. ажаніўся з дваранкай Станіславай Багуславаўнай Гедройць [Матвейчык, Д. Ч. Удзельнікі паўстання... — С. 30; НГАБ. Ф. 1781. Воп. 36. Спр. 121. — Копіі і выпісы метрычных кніг Іркуцкай парафіі [аб шлюбаваных]. 1855–1872 гг. — Арк. 45].

Больш падрабязна пра дзеянні паўстанцаў на сумежжы Сенненскага, Лепельскага і Барысаўскага паветаў гл.: Матвейчык, Д. Ч. Стварэнне і дзейнасць паўстанцкіх атрадаў на памежжы Барысаўскага, Сенненскага і Лепельскага паветаў у 1863 г. // Гісторыя Друцка-Бярэзінскага краю: матэрыялы Першых грамадскіх навукова-краязнаўчых чытанняў, Мінск — Крупкі — Магілёў, 28 сакавіка — 20 чэрвеня 2015 г. / уклад.: А. П. Аляхновіч; рэдкал. В. У. Арцюховіч [і інш.]. — Мінск: Медысонт, 2015. — С. 181–197.

[56] Канстантова — фальварак Какоўчынскай воласці Сенненскага павета Магілёўскай губерні, цяпер — вёска Какоўчынскага сельсавета Сенненскага раёна Магілёўскай вобласці.

[57] Міхал Нітаслаўскі (нар. каля 1812) да паўстання з'яўляўся віцебскім павятовым маршалкам і актыўна ўдзельнічаў у канспірацыі. Менавіта той факт, што ён адвёз К. Жаброўскага і А. Алендскага са Скрыдлева ў Барысаўскі павет, стаў падставай для яго арышту ў ліпені 1863 г. і перадачы пад следства і суд у Магілёўскія следчую і затым ваенна-судовую камісіі. Больш за год правёў у зняволенні, сцвярджаючы, што не ведаў пра намеры вышэйзгаданых удзельнічаць у паўстанні, і ніякіх доказаў адваротнага знойдзена не было. Таму вызвалены ў верасні 1864 г. і вернуты на месца жыхарства [Матвейчык, Д. Ч. Удзельнікі паўстання... — С. 418; НГАБ. Ф. 3256. Воп. 2. Спр. 44. — Справа аб вызваленні з-пад арышту былога віцебскага павятовага маршалка Нітаслаўскага М. і аб усталяванні за ім строгага паліцэйскага нагляду. 12.08.1864–08.01.1865. — 28+1 арк.].

[58] Скрыдлева — маёнтак Машканскай воласці Сенненскага павета Магілёўскай губерні, цяпер — вёска Замастоцкага сельсавета Віцебскага раёна Віцебскай вобласці. У XIX ст. спадчыннае валоданне роду Нітаслаўскіх.

[59] Людвік Звяждоўскі (1829–1864) — капітан Генеральнага штаба і актыўны ўдзельнік перадпаўстанцкай канспірацыі, глава Літоўскага правінцыйнага камітэта ў Вільні ў пачатковы перыяд дзейнасці. Падчас паўстання атрымаў намінацыю на пасаду магілёўскага ваяводы і кіраваў выступленнем у Магілёўскай губерні, асабіста ўзначальваючы горы-горацкі атрад, пад мянушкай Тапор. 30 красавіка 1863 г. з прычыны неспрыяльнай сітуацыі распусціў атрад і выехаў за мяжу. У лютым 1864 г. у складзе сіл Кракаўскага ваяводства паспрабаваў прабіцца з Аўстрыйскай імперыі ў Каралеўства Польскае, аднак пацярпеў паражэнне, быў узяты ў палон і 23 лютага павешаны ў г. Апатаў [Кісялёў, Г. Звяждоўскі Людвік Міхайлавіч // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. — Т. 3. — Мінск: БелЭН, 1996. — С. 435; Матвейчык, Д. Паўстанне 1863–1864 гадоў... —

атрадам. У Магілёве было вядома, што ў арганізацыю ўступіў кн. Стэфан[60] Любамірскі[61], брат кн. Уладзіслава[62]. Князь Стэфан займаў у той час пасаду губернскага маршалка і быў ужо вядомы ўсяму краю як старшыня магілёўскага камітэта па ўладкаванні сялянскіх спраў. Ігнат Брастоўскі[63], старшыня Цывільнай палаты, прыняў пасаду губернскага ваяводы. Таксама ў арганізацыю ўступілі Чарвінскі[64], Міткевіч Здзіслаў[65] і іншыя. Адзін аднаму паказвалі на дамы памешчыкаў, на якія можна было разлічваць у рашучую хвіліну. Прызначылі нацыянальныя падаткі, а тыя, што ўжо мелі квітанцыі Нацыянальнага ўрада, хваліліся імі перад блізкімі.

Пры такім настоі духу балючым рэхам разнеслася раптоўна па губерні навіна, што ўзбунтаванае сялянства забіла вядомага і вельмі заможнага памешчыка Тадэвуша Чудоўскага[66], а праз пару дзён — памешчыка Ламінскага[67] з фальварка Славені каля

С. 41; Цытовіч С. 1863 год у Горы-Горках быўш. Магілёўскай губ. (Падзеі паўстання) // Запіскі Аддзелу гуманітарных навук. — Кн. 8. — Працы клясы гісторыі. — Т. III. — Менск, 1929. — С. 260–261 і інш.].

[60] У арыгінале памылкова напісана Уладзіслаў (пол. — Władysław).

[61] Стэфан Любамірскі (нар. у 1819) да паўстання займаў пасаду магілёўскага губернскага маршалка і быў адным з найбольш вядомых і ўплывовых людзей у губерні. Аднак звесткі пра яго ўдзел непасрэдна ў паўстанні дастаткова ўрыўкавыя. Пасля паўстання некалькі разоў аддаваўся пад следства і суд, і толькі з трэцяга разу (у 1866 г.) расійскім уладам удалося вынесці абвінаваўчы прысуд. Прызначаны да ссылкі, але ўжо ў 1867 г. атрымаў магчымасць выехаць за мяжу з прычыны дрэннага стану здароўя [Матвейчык Д. Ч. Удзельнікі паўстання... — С. 349; Gieysztor, J. Pamiętniki... — Т. 1. — S. 344].

[62] Уладзіслаў Любамірскі (1824–1882; малодшы брат вышэйзгаданага) да паўстання займаў пасаду аршанскага павятовага маршалка, але большую частку часу праводзіў у Санкт-Пецярбургу. Звестак пра яго дачыненне да падрыхтоўкі паўстання расійскія ўлады мелі яшчэ менш, чым пра папярэдняга. У выніку нічога даказаць не ўдалося, і ён нават не быў арыштаваны [Матвейчык, Д. Ч. Удзельнікі паўстання... — С. 349; Gieysztor, J. Pamiętniki... — Т. 1. — S. 344].

[63] Ігнат Брастоўскі (каля 1819 ці 1825 — 1875), памешчык Сенненскага павета, да паўстання служыў на пасадзе старшыні Магілёўскай палаты крымінальнага (а не цывільнага, як паведамляе Ю. Абязерская) суда. Ён ніколі не быў магілёўскім ваяводам (ім быў Л. Звяждоўскі), а ступень дачынення яго да паўстання застаецца невядомай да гэтага часу. Тым не менш тое, што належаў да канспірацыі, не выклікае сумневаў, бо ў чэрвені 1864 г. быў прысуджаны да «адміністрацыйнага спагнання» і высланы на жыхарства ў Енісейскую губерню. Памёр у Саратаве [Матвейчык, Д. Ч. Удзельнікі паўстання... — С. 86; Gieysztor, J. Pamiętniki... — Т. 1. — S. 412].

[64] Раймунд (Рамуальд) Чарвінскі (нар. у 1836) да паўстання вучыўся ў Горы-Горацкай сельгасакадэміі і належаў да актыўных арганізатараў горы-горацкага паўстанцкага атрада, у складзе якога затым ваяваў і трапіў у палон, будучы схоплены сялянамі. Прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу [Матвейчык, Д. Ч. Удзельнікі паўстання... — С. 607; НГАБ. Ф. 319. Воп. 1. Спр. 479. — Алфавітны спіс асоб, пазбаўленых правоў стану за ўдзел у паўстанні 1863 г. 27.05.1865. — Арк. 33 адв.; Цытовіч, С. 1863 год у Горы-Горках... — С. 272 і інш.].

[65] Здзіслаў Міткевіч да паўстання валодаў фальваркам Ліцвінава Горацкага павета, дзе напярэдадні выступлення Л. Звяждоўскі правёў нараду з камандзірамі будучых атрадаў, і належаў да самых актыўных у перадпаўстанцкай канспірацыі ў губерні. Затым увайшоў у склад горы-горацкага атрада. Канфірмацыяй Мураўёва ад 5 лютага 1864 г. прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў рудніках на 15 гадоў [Матвейчык, Д. Ч. Удзельнікі паўстання... — С. 398].

[66] Чудоўскі Тадэвуш (нар. каля 1818) валодаў маёнткам Чырвонае Чэрыкаўскага павета і быў адным з найбольш актыўных арганізатараў выступлення ў губерні. 29 красавіка 1863 г. спрабаваў прыбыць у свой маёнтак (альбо дагнаць горы-горацкі атрад), але быў затрыманы сялянамі па дарозе, паспрабаваў аказаць супраціўленне, але моцна збіты і памёр на месцы [Матвейчык, Д. Ч. Удзельнікі паўстання... — С. 615; Цытовіч, С. 1863 год у Горы-Горках...; Gieysztor, J. Pamiętniki... — Т. 1. — S. 412; Т. 2. — S. 294 і in.].

[67] Цяжка сказаць, які памешчык Ламінскі тут маецца на ўвазе. У падрыхтоўцы і падтрымцы паўстання ў Магілёўскай губерні ўдзельнічалі двое братоў Ламінскіх, уладальнікаў маёнтка Славені, — Аляксандр Пётр і Антоні, але ніводзін з іх не быў забіты. Яны абодва арыштаваны ў траўні 1863 г., каля года правялі ў зняволенні і затым высланы з радзімы: першы — у Пермскую губерню, другі — у Арэнбургскую [Матвейчык, Д. Ч. Удзельнікі паўстання... — С. 332].

Талачына. Сяляне ўжо пачалі рухацца — іх здолелі пераканаць, што польскі рух, які пачынаўся, меў на мэце ратаванне прыгону, што паўстанне прагне адмяніць указ ад 19 лютага 1861 года...[68].

Дзень 24 красавіка быў прызначаны для выбуху ўзброенага руху. Ведалі, што горы-горацкі атрад будзе самым шматлікім — адначасова чакалі выступлення атраду ў Бешанковічах[69], маёнтку Яснавяльможнага Храптовіча[70], дзе ўсё кіраўніцтва гэтага вялікага ключа была занята палякамі[71]. Хоць гэтая мясцовасць ужо ляжала ў Віцебскай губерні, памежжа Магілёўшчыны аглядалася ў той бок з непакоем. З боку Лёзна[72] таксама былі бачныя пачаткі руху, таму, калі познім вечарам паказаўся месяц на небе, у памешчыцкіх дамах маліліся, выцiралі слёзы і з непакоем чакалі навіны. Вясна была прыгожая, ужо ва ўсім росквіце. Аднак замест радасці ад неспакойных чаканняў раптоўна пасыпаліся, як град, страшныя навіны: у Інфлянтах староверы вялікай хваляй агню і пажараў ішлі на польскія двары. Молі, Плятэры, Буйніцкія і іншыя самыя значныя памешчыкі ледзьве ўратавалі жыццё ўцёкамі[73]. На Магілёўшчыне падбухторанае сялянства з віламі і косамі чакала атрады паўстанцаў, тым часам атакуючы спакойныя двары, вяжучы ўладальнікаў і аддаючы іх у рукі ўлад. За кожнага прывезенага памешчыка губернатар Аголін[74] асабіста выносіў 3 рублі ўзнагароды, дадаючы памятныя словы: «Старайтесь, ребята!». Сяляне са сваёй наіўнасцю пыталі: «Колькі будуць атрымоўваць за яўрэя?». Аднак стараннасць Аголіна стала, відаць, кампраметуючай для тагачаснага ўрада,

[68] Хлуслівы штамп пра тое, што паўстанне — гэта бунт польскіх паноў за аднаўленне прыгону, шырока выкарыстоўваўся расійскай прапагандай падчас і пасля паўстання. Ён вельмі добра накладаўся на напружаныя адносіны паміж памешчыкамі і сялянамі, яшчэ больш абвостраныя правядзеннем у жыццё сялянскай рэформы 1861 г., і садзейнічаў схіленню пазіцыі апошніх на бок Расійскай імперыі. Штамп выразна супярэчыў усім праграмным дакументам паўстанцкіх органаў кіраўніцтва. Напрыклад, самы першы паўстанцкі дакумент — маніфест аб пачатку паўстання ад 10 (22) студзеня 1863 г. — абвяшчаў аб вызваленні сялян ад феадальных павіннасцяў і надзяленні іх зямлёй.

[69] Бешанковічы — мястэчка, цэнтр воласці Лепельскага павета Віцебскай губерні, цяпер — гарадскі пасёлак, цэнтр раёна Віцебскай вобласці.

[70] У 1770-я гг. Бешанковічы перайшлі ў валоданне падканцлера ВКЛ Іаахіма Храптовіча і з таго часу перадаваліся ў спадчыну яго нашчадкам. У сярэдзіне XIX ст., у тым ліку падчас паўстання, маёнтак належаў унуку Іаахіма Міхалу Храптовічу, сябру Дзяржаўнай рады Расійскай імперыі і дыпламату. У Ю. Абязерскай яго прозвішча напісана памылкова як «Хрыстовіч» (пол. — Chrystowicz).

[71] Пра спробу арганізацыі атрада ў Бешанковічах і яго задачы гл.: Матвейчык, Д. Паўстанне 1863–1864 гадоў... — С. 53–54.

[72] Лёзна — мястэчка, цэнтр воласці Аршанскага павета Магілёўскай губерні, цяпер — горад, цэнтр раёна Віцебскай вобласці.

[73] 13 (25) красавіка 1863 г. выступіў дынабургскі паўстанцкі атрад пад камандаваннем Леана Броэль-Плятэра. Яму ўдалося захапіць расійскі транспарт са зброяй, аднак у далейшым яго дзеянні былі паралізаваны шырокім сялянскім рухам. Сяляне, у першую чаргу староверы, былі справакаваны расійскімі ўладамі для супрацьдзеяння паўстанцам. Гэта вылілася ў першую чаргу ў тое, што яны сталі масава нападаць на маёнткі памешчыкаў-каталікоў, рабаваць іх і паліць, а гаспадароў затрымліваць і здаваць расійскім уладам. Памешчык Казімір Плятэр быў забіты, Станіслаў Моль схоплены 14 (26) красавіка, а Казімір Буйніцкі нават пакінуў свае ўспаміны пра гэтыя падзеі [Матвейчык, Д. Ч. Удзельнікі паўстання... — С. 90, 403; Матвейчык, Д. Ч. Успаміны Яўгена Плятэра пра паўстанне 1863–1864 гадоў у Дынабургскім павеце // Асоба і час: Беларускі біяграфічны альманах. — Вып. 6. — Мінск: Лімарыус, 2015. — С. 48–67; Bujnicki, K. Wyjątek z własnoręcznego pamiętnika // Z okolic Dźwiny. — Wilno, 1912. — S. 46–58; тое ж у: Bujnicki, K. Pamiętniki (1795–1875) / wstęp i oprac. P. Bukowiec. — Kraków: Collegium Columbinum, 2001. — 267 s., [8] s. tabl]. Увогуле, падзеі ў красавіку 1863 г. у Дынабургскім павеце з'яўляюцца аднымі з найлепей вядомых у айчыннай гістарыяграфіі паўстання.

[74] Аляксандр Аголін (1821–1911) — сапраўдны стацкі радца, з'яўляўся віцебскім губернатарам з 4 жніўня 1861 г. да 20 траўня 1863 г., калі быў адкліканы з пасады.

бо праз некалькі дзён яго адклікалі з Віцебска, прызначаючы Вяроўкіна[75], жанатага з Далгарукавай[76]. Тое, што адбывалася ў наступныя дні, цяжка апісаць. Двары пусцелі, уладальнікі з дзецьмі ўцякалі ў Магілёў альбо ў недалёкі Віцебск. Орша, Сянно напоўнены да краёў. Гэтыя мястэчкі, што ляжаць на памежжы Міншчыны, будучы сведкамі найбольшага руху перад выбухам, сталі потым часовым месцам ратунку памешчыкаў, якія хаваліся ад сялянскай чэрні. Нам выпала выехаць у Віцебск, дзе ўжо проста раілася ад наплыву насельніцтва. Усе заезныя дамы перапоўненыя, а губернатар Аголін выдаў распараджэнне, якое праз паліцыю прымушала прыбышоў пакінуць горад на працягу 24 гадзін. Большасць легла ў ложкі, робячы выгляд хворых; у гэты час увага Аголіна звярнулася раптоўна на больш важныя справы, а менавіта на прывоз паўстанцаў з разбітага атрада пад Лёзнам[77], арышту капітана Генеральнага штаба Іаахіма Абязерскага[78]. Гэты афіцэр, прызначаны начальнікам Інфлянтаў, прыбыў менавіта да Уладзіслава Солтана[79], ваяводы інфлянцкага ў Чэзьме[80], калі страшная інфлянцкая навала вымусіла яго вярнуцца ў Віцебск для высвятлення далейшага лёсу паўстання. Тут, у гатэлі Брозія[81], прыняты за Тапара, быў арыштаваны паводле загаду Аголіна паліцмайстрам Дышлеўскім[82]. Аддадзены пад ваенны суд, ацалеў праз шчаслівы збег абставінаў; праз год канфірмацыяй Мураўёва быў высланы ў Пермскую губерню. На пахаванне Фелікса Пац-Памарнацкага[83], які памер ад ран, атрыманых у бітве пад Лёзнам, увесь тагачасны Віцебск высыпаў дэманстрацыйна, аддаючы гонар палегламу.

Аднак судныя дні луналі над Віцебскам — усімі трактамі памешчыкі, якія ўцякалі з дзецьмі, перліся ў заезныя двары, апавядаючы розныя прыгоды з сялянамі, якія, паўсюль паставіўшы заставы ў пачатку і ў канцы вёсак, правяралі куфары

---

[75] Уладзімір Вяроўкін (1821–1896), генерал-маёр, з'яўляўся ваенным губернатарам г. Віцебска і віцебскім цывільным губернатарам з 20 траўня 1863 г. да 28 ліпеня 1867 г.

[76] Яшчэ адна памылка ў Ю. Абязерскай. У. Вяроўкін быў жанаты з Лізаветай Дараган (1834–1885), якая не мела дачынення да роду Далгарукавых.

[77] 26 красавіка (8 траўня) 1863 г. ля вёскі Пагосцішча Аршанскага павета, недалёка ад Лёзна, расійскімі войскамі быў атакаваны сумесны аршанска-віцебскі паўстанцкі атрад, які налічваў каля 40 чалавек, пад камандаваннем Ігната Будзіловіча («Каткова»). У выніку атрад быў цалкам разбіты, а большая яго частка трапіла ў палон, была прывезена ў Віцебск і пасаджана ў мясцовую турму [Матвейчык, Д. Паўстанне 1863–1864 гадоў... — С. 44].

[78] Пра яго гл. вышэй.

[79] Уладзіслаў Солтан (1824–1900) — буйны памешчык Рэжыцкага павета, у паўстанні атрымаў намінацыю на пасаду камісара Інфлянцкага ваяводства, аднак нічога істотнага не зрабіў. Расійскія ўлады арыштавалі яго 5 чэрвеня 1863 г., аднак не змаглі нічога даказаць. Таму высланы ў Арэнбургскую губерню «адміністрацыйным парадкам», інакш кажучы, без пазбаўлення правоў стану і канфіскацыі. У 1875 г. атрымаў магчымасць вярнуцца на радзіму [Матвейчык, Д. Ч. Удзельнікі паўстання... — С. 536; Gieysztor, J. Pamiętniki... — T. 1. — S. 408–410]

[80] Памылковае напісанне назвы маёнтка Прэзма (Прэзьма) Рэжыцкага павета, цяпер — сяло Сілмалскай воласці Рэзэкненскага краю Латвіі. Ён належаў жонцы У. Солтана Актавіі, народжанай таксама Солтан, і менавіта тут сямейная пара жыла да паўстання.

[81] У 1837 г. Хрысціян Брозі пераехаў са Швейцарыі ў Віцебск і адчыніў невялікі гатэль у арандаваным доме купчыхі Ардынскай. Тут ён дзейнічаў да 1893 г., калі быў перанесены ў больш аб'ёмны дом купца Вітэнбэрга.

[82] Лейб-гвардыі штабс-капітан Лаўрэнцій Дышлеўскі займаў пасаду віцебскага паліцмайстра з 1862 г. да 1 лістапада 1863 г., калі быў пераведзены на пасаду міравога пасярэдніка 2-га ўчастка Полацкага павета [Памятная книжка Витебской губернии на 1863 год. — Витебск: В типографии губернского правления, [1863]. — С. 84; Памятная книжка Витебской губернии на 1864 год / под ред. А. М. Сементовского. — Санкт-Петербург: В типографии К. Вульфа, 1864. — С. 274].

[83] Дваранін Віцебскага павета Фелікс Пац-Памарнацкі ўваходзіў у склад аршанска-віцебскага паўстанцкага атрада і быў цяжка паранены ў баі пад Пагосцішчам. 27 красавіка (9 траўня) дастаўлены ў віцебскую гарадскую бальніцу і ў гэты ж дзень памёр [Матвейчык, Д. Ч. Удзельнікі паўстання... — С. 436].

і патрабавалі пашпарты, якіх не ўмелі прачытаць, задавольваліся першай лепшай паказанай «павесткай», на якой была бачная ўрадавая пячатка і якой забяспечылі сябе на падарожжа самыя прадбачлівыя. Вёскі ў Беларусі раскіданыя вельмі густа — магчыма ўявіць, колькі часу і цярплівасці патрэбна было, каб праехаць у такіх умовах людзям, якія, разумеючы небяспеку, ведалі, што з кожнай хвілінай справы могуць набыць больш вострую форму. Віцебскія пасярэднікі ўжо амаль у поўным складзе былі арыштаваны ў гатэлі Брозія. З Вільні прыйшла навіна пра прызначэнне Дыктатарам Мураўёва-вешальніка[84], якога апераджала слава лютасцяў, дапушчаных на Каўказе[85]. Потым праз некалькі дзён казалі пра яго прыбыццё ў Вільню; адразу пачаліся экзекуцыі Плятэра ў Дынабургу[86], кс. Станіслава Ішоры[87] ў Вільні, падпісанне 10 прысудаў на смерць адным узмахам пяра з мэтай больш энергічнага абазначэння ўлады[88]. Памешчыкі памежных Сенненскага і Аршанскага паветаў схаваліся пераважна ў Віцебску. З Сянно прыходзілі навіны пра перапаўненне там астрогу да краёў паўстанцамі з разбітага чарнаруцкага атрада[89]. Маёнтак сям'і Сіпайлаў[90] пад Талачыном — Чарнаручча[91] — стаў

---

[84] Міхаіл Мураўёў (1796–1866) атрымаў мянушку Вешальнік у 1833 г., калі паводле яго ініцыятывы ў Гродне быў павешаны ўдзельнік спробы ўзнавіць паўстанне ў Беларусі Міхал Валовіч. Знаходзіўся на пасадзе віленскага генерал-губернатара з 1 траўня 1863 г. да 17 красавіка 1865 г. і праславіўся шматлікімі смяротнымі пакараннямі ўдзельнікаў паўстання, пасля чаго мянушка замацавалася за ім канчаткова. За службу атрымаў графскі тытул і прыстаўку да прозвішча, якое пачало пісацца як Мураўёў-Віленскі (больш падрабязна пра яго гл.: Фядута, А. Profession de foi «чалавека літоўскай бойні» // Мураўёў М. М. Нататкі пра кіраванне Паўночна-Заходнім краем і пра падаўленне ў ім бунту / [прадмова, каментары: А. Фядута]. — Мінск: Лімарыус, 2016. — 221, [1] с., [4] л. іл., партр. — (Беларуская мемуарная бібліятэка)).

[85] Сам асабіста М. Мураўёў не служыў на Каўказе, каб дапускаць нейкія лютасці. Верагодна, тут Ю. Абязерская блытае яго з яго братам Мікалаем, які часта ваяваў на Каўказе ў 1820–1850-я гг. і супраць каўказскіх народаў, і супраць Асманскай імперыі, і з'яўляўся пэўны час імператарскім намеснікам на Каўказе і за ўзяцце фартэцыі Карс у 1855 г. атрымаў адпаведную прыстаўку да прозвішча, якое пачало гучаць як Мураўёў-Карскі (яго біяграфію гл.: Задонский, Н. Жизнь Муравьева. Документально-историческая хроника. — Москва: Современник, 1985. — 446 с.).

[86] Леан Плятэр (1836–1863) узначальваў дынабургскі паўстанцкі атрад і быў схоплены сялянамі праз два дні пасля выступлення атрада. Зняволены ў Дынабургскай фартэцыі і там жа расстраляны 27 траўня 1863 г. (больш падрабязна пра дзейнасць Л. Плятэра і яго расстрэл, а таксама адпаведную гістарыяграфію гл.: Матвейчык, Д. Ч. Успаміны Яўгена Плятэра...).

[87] Ксёндз Станіслаў Ішора (1839–1863) з 1861 г. служыў вікарыем у касцёле ў мястэчку Жалудок Лідскага павета Віленскай губерні. 8 лютага 1863 г. ён зачытаў парафіянам у касцёле паўстанцкі маніфест, за што і быў арыштаваны. 22 траўня (3 чэрвеня) 1863 г. расстраляны ў Вільні на Лукішкаўскай плошчы. Ішора стаў адной з першых асоб, смяротны прысуд якім М. Мураўёў падпісаў асабіста [Восстание в Литве и Белоруссии... — С. 552; Матвейчык, Д. Ч. Удзельнікі паўстання... — С. 250].

[88] Тут бачны, хутчэй, абагульнены вобраз дзеянняў Мураўёва ў першыя тыдні яго прыезду ў Вільню, якія сапраўды характарызаваліся частымі і публічнымі смяротнымі пакараннямі. Аднак падпісаны Мураўёвым дакумент аб адпаведным прысудзе 10 асоб адначасова невядомы.

[89] Паўстанцкі атрад Магілёўскага павета сфарміраваўся 22 красавіка 1863 г. у маёнтку Міхала Макавецкага Чарнаручча Магілёўскага павета (гл. ніжэй) з прыкладна 40 чалавек пад камандаваннем Антонія Палонскага. Ён адразу прыняў рашэнне рухацца на захад у Барысаўскі павет на злучэнне з тамтэйшымі паўстанцамі. Аднак яго існаванне было перапынена 27 красавіка 1863 г., калі ля вёскі Славені Сенненскага павета яго дагнаў і разбіў атрад расійскіх войскаў [Матвейчык, Д. Паўстанне 1863–1864 гадоў... — С. 44–45].

[90] Цяжка сказаць, хто канкрэтна тут маецца на ўвазе, бо ў паўстанні бралі ўдзел некалькі прадстаўнікоў роду Сіпайлаў з Магілёўскай губерні, і невядома, каб хто-небудзь з іх валодаў маёнткамі Славені ці Чарнаручча альбо іх часткай (гл.: Матвейчык, Д. Удзельнікі паўстання... — С. 524).

[91] Чарнаручча — сяло і маёнтак, цэнтр воласці Магілёўскага павета, цяпер — вёска, цэнтр сельсавета Шклоўскага раёна Магілёўскай вобласці.

гістарычным месцам з нагоды праведзенай там бітвы[92]. Горы-горацкі атрад пасля бітвы і ўдалых уцёкаў за мяжу Тапара (палкоўніка Звяждоўскага) апынуўся пераважна ў магілёўскай і бабруйскай турмах[93]. Звязаных памешчыкаў прывозілі сяляне; іх адразу арыштоўвалі і аддавалі пад ваенны суд. Здзіслава Міткевіча дэманстрацыйна, паводле выкліку Мураўёва, павезлі ў Вільню на «допрос» (следства)[94]. Словам, тэрор разліваўся поўнай хваляй, кожную хвіліну прыходзілі навіны пра вываз углыб Расіі на бестэрміновае выгнанне мужчын, жанчын, часам з дзецьмі. Міткевіч, асуджаны Мураўёвым на смерць, браў вельмі актыўны ўдзел у арганізацыйным руху. Сын былога магілёўскага маршалка[95], які меў вялікія сувязі ў Пецярбургу, быў жанаты з прыгажуняй расіянкай, што нарадзілася ад дачкі Качубея[96]. Тая прыняла каталіцызм і стала заўзятай польскай патрыёткай. Яе сувязі вельмі дапамаглі пры ўратаванні жыцця мужа. Вялікая павага мелася да старой жонкі маршалка Міткевіча[97]; не валодаючы рускай мовай, яна выказвала найлепшыя каламбуры. Маладая жонка Міткевіча[98] з 2[99] дачушкамі выехала за мужам у Сібір. Самыя жудасныя навіны ўвесь час ішлі з Інфлянтаў, прыкоўваючы да сябе ўвагу і жахам працінаючы ўсе сэрцы.

Так прайшоў травень, не даючы ані хвіліны супакою. Турма і манастыр Св. Духа на Плашчатцы[100] ў Віцебску перапоўнены. Ваенныя суды пачалі функцыянаваць

---

92 Памылка Ю. Абязерскай. У Чарнаруччы не адбывалася аніякіх баёў, а чарнаруцкі атрад быў разбіты ля вёскі Славені (гл. вышэй).

93 Захопленыя ў палон удзельнікі чарнаруцкага атрада былі пераведзены ў Магілёў, аднак ужо ў хуткім часе, праз перапаўненне ўсіх месцаў, дзе ў горадзе магчыма было ўтрымліваць паўстанцаў, невялікімі партыямі магілёўскія вязні пачалі пераводзіцца ў Бабруйскую фартэцыю.

94 Факт пацвярджаецца дакументальнымі матэрыяламі. Тэлеграма Мураўёва аб выкліку Міткевіча ў Вільню датуецца студзенем (не пазней за 16-га) 1864 г. [НГАБ. Ф. 2001. Воп. 2. Спр. 49. — Справа аб расследаванні дачынення да паўстання 1863 г. князёў Стэфана і Уладзіслава Любамірскіх, іх лакея Лявона Сасноўскага і памешчыка Здзіслава Міткевіча. 02.08.1863–12.04.1866. — Арк. 76].

95 Яна Міткевіча (пам. да 1863) — штабс-капітана, які ў 1832–1839 гг. з'яўляўся аршанскім (а не магілёўскім, як у Ю. Абязерскай) павятовым маршалкам [НГАБ. Ф. 1297. Воп. 1. Спр. 9179. — Справа аб узнагароджанні чыноўнікаў знакамі выдатнасці бездакорнай службы. 15.01.1836–09.06.1838. — Арк. 215 адв. — 216].

96 Качубеі — княжацкі і графскі род буйных памешчыкаў украінскага паходжання, які выводзіўся ад крымскага татарына Кучук-бея, што выехаў у Запарожжа ў сярэдзіне XVII ст. Аднак, імя жонкі З. Міткевіча і яе маці вызначыць не ўдалося.

97 Марыя Якубаўна (дзявочае прозвішча вызначыць не ўдалося). У сям'і мелася яшчэ дачка Марыя (у 1864 г. згадваецца як калека) [НГАБ. Ф. 2003. Воп. 1. Спр. 269. — Справа аб секвестры маёмасці памешчыка Горацкага павета Міткевіча. 11.07.1863–22.09.1866. — Арк. 101–102, 135].

98 Яўгенія Васільеўна Хэлмская выйшла замуж за З. Міткевіча незадоўга да 1855 г. Калі канкрэтна яна выехала за мужам у Сібір (і ці выязджала ўвогуле) невядома, аднак яшчэ ў студзені 1865 г. яна працягвала заставацца ў Магілёўскай губерні, дзе вяла справу аб спагнанні з канфіскаванага маёнтка Ліцвінавічы 25 тыс. рублёў срэбрам як яе пасагу [НГАБ. Ф. 2003. Воп. 1. Спр. 269. Арк. 170 — 171 адв., 188 — 188 адв. і інш.].

99 Паводле паведамлення памочніка горацкага павятовага спраўніка Мікалая Загароўскага ад 29 ліпеня 1863 г., у сям'і было 4 малагадовыя дачкі [НГАБ. Ф. 2003. Воп. 1. Спр. 269. Арк. 62 — 62 адв.]. Магчыма, пры выездзе Я. Міткевіч дзвюх дачок пакінула на ўтрыманні ў каго-небудзь са сваякоў ці сяброў альбо яны памерлі да моманту фактычнай высылкі.

100 Манастыр Святога Духа быў заснаваны яшчэ ў канцы XIV ст. З XVII ст. стаў уніяцкім, з 1839 г. — ізноў праваслаўным, але ўжо да сярэдзіны XIX ст. цалкам заняпаў і быў зачынены, а ў яго будынках размясцілася жаночая турма. Падчас паўстання з прычыны недахопу месцаў для ўсіх зняволеных частку паўстанцаў размяшчалі тут. Аднак не ўдалося вызначыць, якое тут маецца на ўвазе месца пад назвай «Плашчатка».

у поўным складзе[101]. Вязняў падзялялі, адных адсылалі ў Дынабургскую фартэцыю[102], другіх пакідалі ў Віцебску.

У першых днях чэрвеня з Магілёва прыйшла страшная навіна пра асуджэнне Мураўёвым 4 чалавек на расстрэл. Экзекуцыя адбылася адначасова. Немагчыма было пакуль паверыць, аднак, была сапраўды выканана 6 чэрвеня а 10 гадзіне раніцы на плошчы за магілёўскім астрогам. Ахвярамі, якіх для першага агню выбраў намеснік «для радыкальнага лячэння Магілёўшчыны ад нацыянальных мрояў», былі двое афіцэраў, родныя браты Міхал і Ян Манцэвічы, Ільдэфонс Анцыпа і афіцэр Уладзімір Корсак. Першыя двое за год да гэтага скончылі корпус кадэтаў у Полацку, мелі 22 і 23 гады[103]. Анцыпа, 80-гадовы стары, эмігрант, вернуты на радзіму ў 1859 г., камандзір атрада пад Быхавам[104]. Корсак жа, з маёнтка Суяркаўшчына[105], скончыў Полацкі ваенны корпус у 1859 годзе, быў узяты са зброяй у руках разам з Манцэвічамі ў чарнаруцкім атрадзе[106].

З той ніколі незабыўнай хвіліны Магілёў стаў адзінай далінай слёз, смутку і жаху. Не было ў губерні памешчыцкага двара, у якім бы не баяліся за лёс мужа, бацькі, сына, жонкі і нават няпоўнагадовых дзяцей. Горад быў так перапоўнены прыбылым насельніцтвам, а колькасць вязняў такой вялізнай, што апрача астрогу за-

---

[101] У Віцебскай губерні дзейнічалі 2 ваенна-судовыя камісіі — у Віцебску і Дынабургу, заснаваныя пры мясцовых ардanансгаўзах (каменданцкіх упраўленнях). Віцебская — разглядала справы, якія паступалі з Віцебскай следчай камісіі, Дынабургская — з такой самай Дынабургскай. Першая вырашала справы паўстанцаў, якія паходзілі з Віцебскага, Гарадоцкага, Веліжскага і Суражскага паветаў, другая — з Дынабургскага, Рэжыцкага, Люцынскага, Себежскага, Дрысенскага, Полацкага і Лепельскага. Абедзве зачынены ў 1865 г. [Витебская губерния: государственные, религиозные и общественные учреждения (1802–1917) / Т. Е. Леонтьева и др.; составители: Т. Е. Леонтьева, Д. Л. Яцкевич]; Департамент по архивам и делопроизводству Министерства юстиции Республики Беларусь, Национальный исторический архив Беларуси. — Минск: БелНИИДАД, 2009. — С. 117–118].

[102] Дынабургская фартэцыя збудавана на пачатку XIX ст. з мэтай узмацнення заходніх межаў Расійскай імперыі падчас напалеонаўскіх войнаў. У сярэдзіне XIX ст. ужо цалкам страціла сваё ваеннае значэнне і ператварылася ў месца дыслакацыі мясцовага гарнізона расійскага войска і месца зняволення арыштантаў. Падчас паўстання стратэгічны план З. Серакоўскага ўключаў авалоданне паўстанцамі фартэцыі з мэтай захопу мясцовага арсеналу, аднак падобныя планы былі вельмі далёкія ад здзяйснення на практыцы.

[103] Браты Міхал (нар. у 1840) і Ян Алаізі (нар. у 1841) Манцэвічы — выпускнікі Полацкага кадэцкага корпуса (першы — 1859 г., другі — 1861 г.), да паўстання разам служылі ў батарэйнай № 1 батарэі 3-й Зводнай артылерыйскай брыгады. У паўстанні ўступілі ў магілёўскі (чарнаруцкі) паўстанцкі атрад і трапілі ў палон пасля разбіцця атрада ў баі пад Славенямі (гл. вышэй). Следства і суд над імі праведзены вельмі хутка, і ўжо 5 чэрвеня 1863 г. Магілёўскай ваенна-судовай камісіяй былі прызначаны да смяротнага пакарання. Канфірмацыя адбылася ў гэты ж дзень [Матвейчык, Д. Удзельнікі паўстання... — С. 368–369].

[104] Ільдэфонс Анцыпа нарадзіўся ў вёсцы Мілаванне Слонімскага павета і ўдзельнічаў яшчэ ў паўстанні 1830–1831 гг., пасля чаго эміграваў, удзельнічаў у рэвалюцыйных падзеях у 1848 г. у Княстве Пазнанскім; у 1859 г. атрымаў амністыю, вярнуўся на радзіму і пасяліўся ў свайго брата Язафата ў Быхаўскім павеце. У красавіку 1863 г. узначаліў быхаўскі паўстанцкі атрад, які налічваў усяго каля 20 чалавек і быў разбіты ў першай жа сутычцы — 28 красавіка ля сяла Балонаў Сялец (фальварак Неапалітанскі) Быхаўскага павета [Матвейчык, Д. Паўстанне 1863–1864 гадоў... — С. 43; Матвейчык, Д. Удзельнікі паўстання... — С. 37].

[105] Суяркаўшчына — фальварак (спадчыннае ўладанне Корсакаў) Круглянскай воласці Магілёўскага павета, цяпер не існуе (на тэрыторыі Воўкавіцкага сельсавета Талачынскага раёна Віцебскай вобласці).

[106] Уладзімір Корсак (нар. у 1838) — выпускнік Канстанцінаўскага ваеннага вучылішча, з 1858 г. служыў у той жа артылерыйскай брыгадзе, што і Манцэвічы. У паўстанні разам з імі ўвайшоў у склад чарнаруцкага атрада і схоплены пасля бою пад Славенямі. Следства і суд на ім адбыліся разам з Манцэвічамі [Матвейчык, Д. Удзельнікі паўстання... — С. 306].

няты велізарны гмах, які тады называўся казармамі[107] (сёння спалены, а плошчу займае Кінематограф), а таксама частку збудаванняў Дабрачыннасці (Богоугодное заведение)[108]. Там, у драўляным аднапавярховым будынку, побач з капліцай змяшчаліся самыя скампраметаваныя асобы. Адтуль вывезлі ў Кастраму маці расстраляных Манцэвічаў, Фяліцыю Манцэвіч[109]; тут пад ключом сядзелі галоўны камісар Нацыянальнага ўрада Міхал Аскерка, расстраляны ў красавіку 1864 года ў Магілёве; Ануфры Венцлавовіч[110], уладальнік маёнтка Самсонава[111]; Валерыян Галынскі[112]; маршалак Антоні Стахоўскі[113]; жонка маршалка Алімпія, народжаная Аскерка, Свентарэцкая з дачкой Юзэфай[114]; Кацярына Банклеўская[115]; Рамуальд Балбашэўскі[116] і пара вывезеных пазней у выгнанне ксяндзоў[117]. У спавівальнай

[107] Маюцца на ўвазе казармы Магілёўскага батальёна ўнутранай варты, якія актыўна выкарыстоўваліся для ўтрымання вязняў-паўстанцаў да 1864 г.

[108] Найбольш верагодна, маецца на ўвазе будынак Магілёўскага прыказа грамадскай апекі.

[109] Фяліцыя (нар. каля 1817, дзявочае прозвішча невядомае) выйшла замуж за Аляксандра Янавіча Манцэвіча (даслужыўся да чыну калежскага асэсара), аднак да паўстання ўжо была ўдавой і жыла ў фальварку Сенькава Магілёўскага павета; пасля паўстання выслана ў Кастрамскую губерню, дзе памерла ў верасні 1864 г. [Матвейчык, Д. Удзельнікі паўстання... — С. 369; НГАБ. Ф. 3257. Воп. 1. Спр. 35. — Справа паводле распараджэння камандуючага войскамі ў Магілёўскай губерні генерал-маёра Яшвіля аб неадкладнай вытворчасці следства па справе «аб дзяржаўнай здрадзе» падпаручніка Корсака і прапаршчыкаў Манцэвічаў, якія ўтрымліваюцца пад арыштам. 16.05.1863–13.04.1865. — Арк. 43–44, 74 — 75 адв.; [Obiezierska, J.] Na Białorusi... — S. 3].

[110] Памешчык Ануфры Венцлавовіч (каля 1833 — 1883) актыўна ўдзельнічаў у фарміраванні чарнаруцкага атрада, за што арыштаваны і прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу ў фартэцыях на 10 гадоў. Аднак прысуд не мог быць выкананым, бо быў калекай і хадзіў, абапіраючыся на палкі. Пасля атрымання частковай амністыі, у 1875 г. жыў у г. Ніжнім Ноўгарадзе, дзе атрымаў дазвол на пражыванне ў сваіх сваякоў у Мінскай губерні [Матвейчык, Д. Удзельнікі паўстання... — С. 121; Gieysztor, J. Pamiętniki... — T. 2. — S. 298–299].

[111] Самсоны (Самсонава) — фальварак Нежкаўскай воласці Магілёўскага павета, цяпер не існуе (на тэрыторыі Вішоўскага сельсавета Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці).

[112] Валерыян Галынскі да паўстання з'яўляўся адным з найбольш буйных памешчыкаў Магілёўскай губерні — яму належала больш за 20 вёсак у Клімавіцкім павеце (цяпер усе на тэрыторыі Расіі). Невядома, ці меў ён рэальнае дачыненне да паўстання, аднак быў западозраны ў пастаўцы зброі чарнаруцкаму атраду, арыштаваны і паводле рашэння Мураўёва ад 12 снежня 1863 г. высланы «адміністрацыйным парадкам» у Тамбоўскую губерню. Тут у 1865 г. прадаў усе свае ўладанні жонцы надворнага радцы Шарамеццевай [Матвейчык, Д. Удзельнікі паўстання... — С. 150; НГАБ. Ф. 2586. Воп. 1. Спр. 116. Арк. 206, 490 адв.].

[113] Антоні Стахоўскі да паўстання з'яўляўся магілёўскім павятовым маршалкам. Падчас паўстання западозраны ў дапамозе чарнаруцкаму атраду і ў цэлым ва ўдзеле ў канспірацыі. Хоць неабходных доказаў не знайшлося, высланы «адміністрацыйным парадкам» у Арэнбургскую губерню [Матвейчык, Д. Удзельнікі паўстання... — С. 544].

[114] Гэта і ёсць аўтарка гэтых мемуараў і яе маці.

[115] Дваранка Кацярына Банклеўская падазравалася ў дапамозе чарнаруцкаму атраду, была арыштавана і знаходзілася пад следствам у Магілёўскай следчай камісіі, аднак невядома, якое пакаранне на яе накладзена [НГАБ. Ф. 3257. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 168; Ф. 3257. Воп. 1. Спр. 22. — Ведамасць камісіі аб асобах рознага звання, якія знаходзіліся пад следствам, за верасень 1864 г. — Арк. 33 адв. — 34; Ф. 3257. Воп. 1. Спр. 34. Арк. 47, 48].

[116] Дваранін Падольскай губерні Рамуальд Балбашэўскі да паўстання жыў у Мсціслаўскім павеце. Падчас паўстання ўзначаліў невялікую групу паўстанцаў, якая ўвайшла ў чэрыкаўскі (крычаўскі) атрад, а з ім — у горацкі пад камандаваннем Л. Звяждоўскага. Пасля здачы ў палон больш за 2 гады правёў у турме і толькі 26 ліпеня 1865 г. прысуджаны да пазбаўлення правоў стану, канфіскацыі маёмасці і ссылкі на катаргу на заводах на 6 гадоў [Матвейчык, Д. Удзельнікі паўстання... — С. 59].

[117] Цяжка сказаць, каго Ю. Абязерская мае на ўвазе. У 1863–1864 гг. былі арыштаваны і ўтрымліваліся ў Магілёве больш за 10 ксяндзоў Магілёўскай губерні. У самім горадзе вязняў утрымлівалі ў трох месцах — турэмным замку, казармах батальёна ўнутранай варты і будынку

бальніцы і ў шпіталі, якія знаходзяцца на абшары забудаванняў Дабрачыннасці, таксама размяшчалі вязняў. Кіраўніцтва ўзначальваў «смотритель» (турэмны наглядчык) Свідэрскі[118], ранейшы экс-лакей сям'і Стахоўскіх (такія ўжо людзі пачыналі камандаваць намі).

Усім гэтым морам бязмежнага няшчасця, як Анёл нябесны, клапацілася высакародная матрона спадарыня Комар, народжаная Мяшчэрская[119]. Яна жыла толькі справамі грамадства, ведала пра кожнага вязня ў Магілёве, з кожнай партыяй, якія выходзілі штопятніцу ў Сібір, развітвалася і выпраўляла, забяспечваючы самымі патрэбнымі рэчамі, асабліва бялізнай і грашыма. Хай павага і ўдзячнасць землякоў атачае яе імя ў польскім народзе ва ўсе часы.

---

У кастрычніку 63 года мой арышт прывёў мяне ў Магілёў. Адсюль, ад крыніцы ўсяго, што там адбывалася, душа, загартаваная невыказным болем на ўсё жыццё, вынесла нічым нясцертыя ўспаміны бед і няшчасцяў народу, якіх нічога не здолее вырваць з памяці. Усе праведзеныя следствы, камісіі і суды, неспакоі і слёзы невінаватых ахвяр стаяць перад маімі вачыма сёння, як нібыта ўсё адбылося толькі ўчора. Аднак, яшчэ не канец тады гэтай Галгофе... Па ўсёй краіне білі перуны ў выглядзе шыбеніц, на якія ішлі самыя вялікія, самыя высакародныя сыны народу! З Вільні прыходзілі апісанні экзекуцый, якія раздзіралі душу. У пэўны дзень у лютым Магілёў быў узрушаны навіной, што Міхал Аскерка з магілёўскай турмы быў выкліканы ў Вільню на следства. Чым быў гэты выклік? Хто ж не ведаў. Яго сястра Казіміра Галіноўская, жонка ўжо некалькі месяцаў арыштава-

---

ўстаноў дабрачыннасці. Пры гэтым арыштаваных нярэдка перамяшчалі з аднаго месца ў другое. Ю. Абязерская не паведамляе нават, калі яна сама ўтрымлівалася ва ўстановах дабрачыннасці. Вядома, што пэўны час там знаходзіліся згаданы А. Манюшка (сакавік 1864 г.) і ксёндз Радугскага касцёла Гомельскага павета Фелікс Грахольскі (верасень 1863 г.) [Матвейчык, Д. Удзельнікі паўстання... — С. 173, 370; НГАБ. Ф. 2586. Воп. 1. Спр. 116. Арк. 208, 490 адв.; Ф. 3256. Воп. 2. Спр. 54. — Рапарты Прапойскага валаснога праўлення Быхаўскага павета, ваенна-палятовых начальнікаў Быхаўскага і Сенненскага павета і інш. аб нападзенні групай казакоў батальёна ўнутранай варты на чале з есаулам Уласьевым на дамы сялян м. Прапойска, аб самавольнай парубцы лесу сялянамі памешчыка Булгака, аб знойдзенай скрыні з патронамі, кінжаламі, вершамі на польскай мове і нотамі на дарозе ў Сенненскім павеце, аб намеры некаторых зняволеных зладзіць уцёкі, аб пераводзе зняволеных з казарм Магілёўскага губернскага батальёна ў турэмны замак і інш. — Арк. ; Ф. 3257. Воп. 1. Спр. 1. Арк. 84; Ф. 3257. Воп. 1. Спр. 2. — Паведамленне магілёўскага губернатара ў Магілёўскую следчую камісію ад 11 траўня 1863 г. аб перадачы вопісу спраў, якія падлягаюць разгляду камісіі, спісы паўстанцаў, якія знаходзіліся ў паўстанцкім атрадзе ў Чэрыкаўскім павеце, а таксама паўстанцаў, узятых у палон падчас бою ля мястэчка Пагосцішча, спісы асоб, западозраных ва ўдзеле ў паўстанні, перапіска са следчымі камісіямі аб перасылцы палітычных спраў і зняволеных. 12.05.1863–31.07.1863. — Арк. 183 — 183 адв.; Ф. 3257. Воп. 1. Спр. 3. — Паведамленне магілёўскага губернатара Магілёўскай следчай камісіі ад 15 кастрычніка 1863 г. аб заканчэнні палітычных спраў у Магілёўскай і Аршанскай следчых камісіях і перадачы ўсіх спраў Чэрыкаўскай камісіі ў Магілёўскую. 12.05.1863–24.12.1863. — Арк. 208, 210; Ф. 3257. Воп. 1. Спр. 22. Арк. 27 адв. — 28]. Аднак з улікам урыўкавасці захаваных звестак сцвярджаць, што тут маюцца на ўвазе менавіта яны, а не якія-небудзь іншыя вязні-ксяндзы, немагчыма.

118 Яшчэ адна памылка Ю. Абязерскай. Пётр Свідэрскі (каталік) ніколі не займаў пасаду наглядчыка (рус. «смотрителя») магілёўскіх устаноў дабрачыннасці (у той час яе займаў тытулярны радца Руперт Антоні Вартман). У 1861–1866 гг. Свідэрскі з'яўляўся іх аканомам (другая ў іерархіі пасада ва ўстановах) [Памятная книжка Могилевской губернии на 1863 год. — Могилев: В типографии губернского правления, 1862. — С. 75; Памятная книжка Могилевской губернии на 1866 год. — Могилев: Типография Губернского Правления, 1866. — С. 41].

119 Больш дакладна ідэнтыфікаваць асобу не ўдалося.

нага Юльяна[120], шалела ад роспачы. Грамадства маўчала ад страху, вязня вывезлі з астрогу жандары. Успаміны пра гэтага героя падаў «Віленскі ганец» у нумары ад 18 лютага 1908 года[121]. Гэта было адно з самых высакародных сэрцаў, якія тады аддалі сваё жыццё за айчыну. Магілёў, здаецца, ужо нават не здагадваецца, якую важную мае магілу. Аднак набліжаецца час, калі, паводле словаў песні, «Насцеж адчынім долу вязніцы, дзе костак і гнілі водар, І будуць тыя нашы цямніцы — месцам збавення народа!»[122].

24 красавіка 1864 года загад Мураўёва выслаў мяне ў выгнанне. Гэта адбывалася ў той самы дзень, у тую самую гадавіну памятнага дня, калі год таму распачаўся ўзброены рух у Беларусі.

Праз тры дні пасля нашага выезду Міхала Аскерку прывезлі з Вільні ў Магілёў, каб 29 красавіка адвесці яго на плошчу за астрогам (сёння ўжо цалкам забудаваную) на расстрэл. Швагер Аскеркі Юльян Галіноўскі пайшоў з жонкай на пасяленне ў Краснаярск Енісейскай губерні. Вернуты з выгнання ў Магілёў, там скончыў сваё жыццё. Жонка апярэдзіла яго на пару гадоў, сёння яго сын Міхал, цёзка слаўнага дзядзькі, з'яўляецца адвакатам у Магілёве.

---

Пададзеныя тут успаміны, скарочаныя да межаў кароткага нарысу, няхай у цяперашнюю хвіліну, калі лёс нашага народу праз 54 гады, урэшце, здаецца, будзе вырашаны, звернуць думку чытача-беларуса на гэтую непараўнальнай велічы эпоху самаадданасці і ахвяр, пакладзеных з поўным усведамленнем тагачаснымі пакаленнямі на алтар айчыны.

Пэўна, ужо незваротна мінулі часу крытыкі і судоў над перажытымі тады няшчасцямі. Факт застанецца фактам, што межы былой Рэчы Паспалітай былі абазначаны ў 1863 годзе. З таго часу Беларусь страціла Бялынічы; плаціла кантрыбуцыю[123] за сваю польскасць і каталіцызм; падлегла ўказу ад 10 снежня[124], прымусовому

---

[120] Тытулярны радца Юльян Галіноўскі (нар. каля 1833) да паўстання служыў сакратаром Магілёўскай крымінальнай палаты. Уваходзіў у склад горацкага паўстанцкага атрада і пасля яго роспуску здаўся расійскім уладам. Канфірмацыяй Мураўёва ад 11 ліпеня 1864 г. прысуджаны да ссылкі на жыхарства ў Енісейскую губерню [Матвейчык, Д. Удзельнікі паўстання... — С. 148; НГАБ. Ф. 3256. Воп. 2. Спр. 38. — Справа аб пазбаўленні дваранскага звання і ссылцы на пасяленне ў аддаленыя месцы Сібіры, Томскую, Табольскую і Пермскую губ. 15 удзельнікаў паўстання 1863 г. 29.05.1864–04.08.1864. — 44+2 арк.].

[121] Гл. вышэй.

[122] Радкі з верша польскага паэта Вінцэнта Поля (1807–1872) «Святкаванне першай гадавіны 29-га лістапада ў Германскім Саюзе» са зборніка «Песні Януша», выдадзенага ў Парыжы ў 1833 г.

[123] Разнастайныя зборы, якія былі ўведзены Мураўёвым з памешчыкаў «польскага паходжання» Беларусі і Літвы, абгрунтоўваліся неабходнасцю спагнання з неспакойнага краю кантрыбуцыі за панесеныя дзяржавай матэрыяльныя выдаткі на задушэнне паўстання (іх колькасць гл.: Паўстанне 1863–1864 гадоў у Віцебскай, Магілёўскай і Мінскай губернях... — С. 74–75). На самай справе іх галоўнай мэтай было змяншэнне эканамічнай дамінацыі каталіцкіх памешчыкаў у краіне. У сувязі з вялікай эфектыўнасцю такога сродку, зборы былі захаваныя і пры наступных генерал-губернатарах, а некаторыя з іх працягвалі спаганяцца да 1890-х гг.

[124] Указ ад 10 снежня 1865 г. адным са сваіх палажэнняў загадваў усім уладальнікам зямлі, сасланым у Сібір і цэнтральныя губерні Расіі «адміністрацыйным парадкам», прадаць свае маёнткі на працягу двух гадоў — да канца 1867 г. Аднак на практыцы ён быў рэалізаваны толькі часткова. Ужо пры генерал-губернатары Эдуардзе Баранаве (на пасадзе з 9 кастрычніка 1866 г. да 2 сакавіка 1868 г.) пачалі разглядацца варыянты перанясення тэрміну продажу, а пры яго наступніку Аляксандру Патапаве рэалізацыя ўказу ў частцы прымусовага продажу была дэ-факта спынена (гл. яшчэ наступны каментар).

пазбаўленню зямлі, забароне палякам пакупкі маёнткаў[125]; несла ўсе службовыя абмежаванні і рэлігійны перaслед, якія тычыліся Польшчы за тое, што хацела быць Польшчай і не перастала быць Польшчай. Сам урад быў вымушаны ўрэшце свята паверыць у гэта, працуючы так моцна над русіфікацыяй Беларусі для знішчэння ў ёй усяго, што дала польская культура далучанай Ягайлам Літве і Русі. Нягледзячы на ўсё гэта, мы не перасталі, не перастанем быць палякамі. Няхай тыя, што для акрэслення сваёй нацыянальнасці да гэтага часу ў Беларусі называюць сябе *тутэйшымі*, з увагай і сабранай думкай задумаюцца сёння над гэтай праўдай. Гэта важная справа, а будучыня можа нам падрыхтаваць яшчэ шмат нечаканасцяў.

Свята веручы ва Уваскрашэнне Айчыны, мы таксама хочам верыць, што змяшэнне нацыянальных паняццяў апошніх гадоў, выкліканае поўным заняпадам нацыянальнага выхавання ў Беларусі, хутка праміне, як цяжкі і пакутлівы сон.

[125] Паводле аднаго з палажэнняў указа ад 10 снежня 1865 г., асобам «польскага паходжання» забаранялася набываць (галоўнае — купляць) у Беларусі і Літве зямельную ўласнасць апрача як у спадчыну. Гэтая частка ўказа цалкам выконвалася да 1905 г., што стала адной з падстаў скарачэння памешчыцка-каталіцкага землеўладання ў Беларусі, хоць з іншага боку, дамінацыю ў гэтай галіне менавіта памешчыкаў-католікоў (асабліва ў заходняй, паўночнай і цэнтральнай частках Беларусі) ліквідаваць падобныя дзеянні расійскіх улад не здолелі.

# Юбілейнае:
# 200 год
# Таварыству філаматаў



# АДАМ СУЗІН: НЯЎРЫМСЛІВЫ ЗМОЎШЧЫК-КАНСПІРАТАР ЦІ ЗАКЛАДНІК АБСТАВІН?

У адрозненне ад мноства іншых актыўных удзельнікаў філамацкіх/філарэцкіх таварыстваў асоба Адама Сузіна да гэтага часу так і не стала аб'ектам асобнага даследавання як з боку беларускіх, так і з боку замежных гісторыкаў. Яго постаць звычайна знаходзіцца ў цені сяброў-паплечнікаў: Т. Зана, А. Міцкевіча, І. Дамейкі, Я. Чачота і інш. Разам з тым роля і ўплыў Адама ў гэтым гроне адзначаецца многімі ўдзельнікамі тых падзей. Акрамя таго, у біяграфіі нашага героя хапае белых плямаў, загадак і розначытанняў, якія падштурхнулі двух аўтараў гэтага артыкула аб'яднаць свае высілкі ў спробе спасцігнуць тайну нашага выбітнага земляка.

Супярэчнасці адносна біяграфіі Адама Сузіна пачынаюцца з даты яго нараджэння. Згодна з *Польскім біяграфічным слоўнікам* Адам з'явіўся на свет у 1800 г.[1], у той час як беларускі даследчык Валянцін Грыцкевіч, які працаваў з адпаведнымі метрычнымі кнігамі былога Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва СССР у Ленінградзе, выявіў запіс аб хрышчэнні Адама, датаваны 1799 годам: «1799 года, снежня 30 дня ахрышчана немаўля імем Тэафіл Адам Багуслаў, сын капітана Дамініка і Эўгеніі (Эўлаліі) Сузіных»[2]. Месцам нараджэння з'яўляецца маёнтак Куліноўшчына, што тады знаходзіўся ў Кобрынскім павеце Гродзенскай губерні (цяпер тэрыторыя Ярэміцкага сельсавета Кобрынскага раёна Брэсцкай вобласці). Сядзіба Сузіных размяшчалася ў непасрэднай блізкасці ад сяла Буховічы, дзе Адам і быў хрышчаны. Цікаўнасць выклікае і той факт, што ў той час у Буховічах не было парафіяльнага касцёла, а дзейнічала ўніяцкая царква і дамініканскі кляштар. Паколькі В. Грыцкевіч сцвярджае, што А. Сузін быў хрышчаны ў царкве, то можна меркаваць, што гэтая працэдура адбылася ў грэка-каталіцкім храме.

Сям'я Сузіных належала да ліку збяднелай шляхты. Дзед Адама (таксама Адам) займаў пасаду кобрынскага гродскага суддзі[3]. Бацька — Дамінік Сузін абраў вайсковую службу. У часы Рэчы Паспалітай ён атрымаў чын капітана артылерыі. Пасля трэцяга падзелу некаторы час выконваў функцыі ад'ютанта пры двары Станілава Аўгуста Панятоўскага ў Гародні, у далейшым займаўся пераважна гаспадаркай, а таксама абіраўся на некаторыя выбарныя пасады, сярод іншага харунжага Ваўкавыскага павета Гродзенскай губерні[4]. Сям'я ў Дамініка і Эўлаліі была досыць вялікая. Праўда, адносна яе складу таксама існуюць пэўныя розначытанні. Апошнія не тычацца сясцёр Адама. Іх у яго было чатыры (захаваліся імёны Магдалены, Тэафілы і Юлі). А вось адносна існавання брата ёсць сур'ёзныя разыходжанні. У полькай гістарычнай літаратуры сцвярджаецца, што ў 1802 г. у Сузінаў нарадзіўся яшчэ адзін хлопчык Міхал, які ў далейшым вучыўся ў Варшаўскім універсітэце[5]. Аднак гэты факт не знаходзіць свайго пацверджання ў архіўных крыніцах. Так, падчас адмысловага следства 1833 г. пры пошуку слядоў Яна Сузіна, які разам з Адамам Пішчатоўскім падчас паўстання 1830–1831 гг. забіў рускага афіцэра, брэсцкі земскі спраўнік адназначна засведчыў, што Дамінік «мае аднаго сына Адама, які

1 Borowczyk, J. Suzin Adam // PSB. T. 46. — S. 105.

2 Грицкевич, В. От Немана к берегам Тихого океана. — Минск, 1986. — С. 136.

3 Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродне (далей НГАБ у Гродне). Ф. 24, воп. 7, спр. 287, арк. 110.

4 Быховцев, Н. Волковыщина: 120 лет в Российской империи. — Минск, 2015. — С. 514;

5 Borowczyk, J. Suzin Adam // PSB. T. 46. — S. 105.

ў Арэнбургу»[6]. Няма ўзгадак аб яшчэ адным сыне Дамініка і ў маёмасных дакументах таго часу[7].

Несумненна, сям'я зрабіла значны ўплыў на станаўленне маладога Адама. Але не меншую (калі не большую) ролю ў гэтым працэсе адыгралі навучальныя ўстановы, у якіх той атрымліваў адукацыю. Першай з іх, згодна з больш познімі сведчаннямі Адама, быў пансіянат Шымона Залескага. На жаль, аўтарам не ўдалося дакладна вызначыць яго месцазнаходжанне. Вядома, што досыць працяглы час Залескі заедваў падобнай навучальнай установай, што месцілася ў Бодаках Бельскага павета. Але гэта быў пансіянат, прызначаны выключна для дзяўчатак.

Наступным, несумненна больш важным этапам на адукацыйным і жыццёвым шляху А. Сузіна стала Свіслацкая гімназія. Выбар на яе карысць быў абумоўлены не толькі яе геаграфічным размяшчэннем. У Свіслачы, на ўскраіне Белавежскай пушчы, у гэты час знаходзілася адна з найлепшых у сваёй катэгорыі навучальных устаноў у краі. Яе паспяховасці і, адпаведна, папулярнасці паспрыяла некалькі чыннікаў, сярод якіх на першае месца трэба паставіць асобу тагачаснага ўладара мястэчка Вінцэнта Тышкевіча. Менавіта пры яго актыўнай падтрымцы і асабістым патранажы тут у 1804 г. была створаная гімназія, якая атрымала статус губернскай.

Гэта быў важны крок на шляху секулярызацыі сярэдняй адукацыі на беларускалітоўскіх землях, якая ў той час працягвала захоўваць пераважна клерыкальны характар. Заслуга В. Тышкевіча заключалася ў тым, што ў сітуацыі недахопу фундушэй у тагачаснай Віленскай навучальнай акрузе, ён аказаў значную матэрыяльную падтрымку дадзенаму праекту. Сярод іншага ён ахвяраваў два драўляныя будынкі для навучэнцаў і яшчэ некалькі — для выкладчыкаў, забяспечваў апошніх прадуктамі альбо выплочваў па 50 дукатаў нежанатым, пастаўляў дровы для апалу памяшканняў, фундаваў бібліятэку, у якой на 1806 г. налічвалася каля 10 000 тамоў разнастайных кніг, у розныя іншыя спосабы падтрымліваў навучэнцаў і настаўнікаў гімназіі[8]. Ад часу заснавання гэтай навучальнай установы тут існаваў фізічны кабінет з адпаведным абсталяваннем па электрычнасці, гальваніцы, газах, механіцы, ціску і пад., а таксама мелася мінералагічная калекцыя[9].

Адам Сузін паступіў у гімназію ў 1815 г. (імаверна адразу ў 2-і ці 3-і клас). Вялікі ўплыў на юнака зрабілі выкладчыкі, якія працавалі тут у гэты час. Высокі прафесіяналізм апошніх пацвярджаецца як успамінамі былых навучэнцаў, так і тагачаснымі афіцыйнымі дакументамі. Сярод іншага варта ўзгадаць імёны дырэктара Яцака Крусінскага — вядомага педагога (20 гадоў выкладаў у Варшаве) і навукоўца (з'яўляўся членам Варшаўскага таварыства сяброў навук і Парыжскага таварыства гальвіністаў), Ігната Шыдлоўскага — знанага літаратара і прафесара Віленскага ўніверсітэта, знакамітага філолага Максіміліяна Якубовіча — выкладчыка лацінскай і грэчаскай моў, у будучыні прафесара Кіеўскага і Маскоўскага ўніверсітэтаў, аўтара граматык польскай і лацінскай моў[10]. Тут, у Свілачы, у Адама выявілася схільнасць да фізіка-матэматычных дысцыплін, выкладанне якіх, акрамя вышэй узгаданага Я. Крусінскага, забяспечвалі выдатныя педагогі Ян Вольскі

---

6 НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 351, арк. 172.

7 НГАБ у Гродне. Ф. 89, воп. 1, спр. 7, арк. 23–24.

8 Kaszuba, Jan. Wspomnienia o Świsłoczy// Kłosy. — 1887. — № 1150. — S. 26; Патоцкі, Л. Успаміны пра Тышкевічаву Свіслач, Дзярэчын і Ружаны. — Мінск, 1997. — С. 39–40; Быховцев, Н. Свислочская гимназия // Ваўкавышчына. Краязнаўчы часопіс. — 2011. — № 11. — С. 1, 9.

9 Быховцев, Н. Свислочская гимназия // Ваўкавышчына. Краязнаўчы часопіс. — 2011. — № 11. — С. 9.

10 [D. c. n.] Świsłocz, kilka wspomnień // Kłosy. — 1879. — № 744. — S. 222; Łuczakówna, H. Wiktor Heltman 1796–1874. — Poznań, 1935. — S. 9.

і Антон Сухадольскі. У апошняга вучні ў шостым класе практыкаваліся нават у рашэнні задач па балістыцы.

Не дзіва, што Свіслач у хуткім часе стала адным з галоўным асяродкаў прыцягнення найлепшай моладзі Гродзенскага і Брэсцкага рэгіёнаў, а таксама Піншчыны і Валыні. У сценах вучэльні панаваў дух сапраўднага братэрства, як у вучнёўскім асяроддзі, так і ў адносінах паміж навучэнцамі і настаўнікамі[11]. Апошнія на занятках па гісторыі і літаратуры ў той ці іншай форме прапаведвалі ідэі рэчпаспалітаўскага патрыятызму. Несумненна, гэтая атмасфера паспрыяла ўзнікненню ў гімназіі нелегальных таварыстваў вучнёўскай моладзі.

Падобныя згуртаванні пад назвамі *навуковага* і *маральнага* ўтварыліся ў сценах свіслацкай вучэльні ў 1819 г. Першае з іх складалася з вучняў старэйшага 6-га класа, а апошняе з выпускнікоў, якія заставаліся пры школе ў якасці гувернёраў-рэпетытараў для гімназістаў малодшых класаў. Згодна са сведчаннямі старшыні *маральнага* таварыства Якуба Абрамовіча, яго сябры збіраліся на вучнёўскіх кватэрах кожную сераду для чытання і абмеркавання сваіх уласных сачыненняў. Для надання згуртаванню нейкіх арганізацыйных формаў, тут выдаваліся фармальныя патэнты з адмысловай пячаткай і эпіграфам на лацінскай мове «*Virtus amicitiam, gignit et continet*», вяліся пратаколы пасяджэнняў[12]. *Навуковае* таварыства згодна са сваім статутам ставіла перад сабою мэту ўдасканалення навучэнцаў у роднай славеснасці. Абедзве арганізацыі праіснавалі нядоўга — цягам аднаго навучальнага года. Але нягледзячы на такі непрацяглы тэрмін іх дзейнасці, нешматлікасць і адмежаванасць ад нейкіх праяў палітычнай скіраванасці, расійскае самадзяржаўе ўбачыла ў іх выпадку палітычную «крамолу», якая падрывала падставы дзяржаўнага ладу. Вызначальным тут быў нелегальны характар іх дзейнасці, а таксама словы «шчасце, свабода і вольнасць», які прысутнічалі ў статуце *маральнага* аб'яднання[13]. Менавіта праз следства па гэтым прадмеце царскія ўлады здолелі выйсці на троп існавання ў Вільні нелегальных студэнцкіх таварыстваў філаматаў і філарэтаў.

У ліку выкрытых членаў свіслацкіх тайных згуртаванняў імя А. Сузіна не фігуравала. У 1819/20 навучальным годзе ён ужо не з'яўляўся вучнем гімназіі. Але повязь паміж Адамам і гэтымі арганізацыямі, хоць дакументальна і не пацверджаная, але ўсё ж такі прасочваецца. Па-першае, гэта вынікае з таго, што большая частка ўдзельнікаў гэтых таварыстваў былі альбо яго блізкімі сябрамі (Ігнат Качальскі, Тадэвуш Зялінскі, Ян Янкоўскі[14]), альбо аднакласнікамі, альбо землякамі (браты Гельтманы). Па-другое, ужо ў Свіслачы Адам набыў рэпутацыю аднаго з лідараў моладзі, які карыстаўся безумоўным маральным аўтарытэтам[15]. Цяжка сабе ўявіць, што дзве арганізацыі маглі ўзнікнуць адначасова ў адным месцы без ідэйнага натхняльніка. Па-трэцяе, пра сувязь паміж Сузіным і *маральным* таварыствам сведчыць факт выяўленай уладамі перапіскі паміж яго сакратаром І. Качальскім

[11] [D. c. n.] Świsłocz, kilka wspomnień // Kłosy. — 1879. — № 745. — S. 237.

[12] Быховцев, Н. История просвещения на Волковыщине до 1915 г. — Минск, 2014. — С. 277, 280; К истории тайных обществ и кружков среди литовско-польской молодежи в 1819–1823 гг. — Варшава, 1898. — С. 12.

[13] К истории тайных обществ и кружков среди литовско-польской молодежи в 1819–1823 гг. Варшава, 1898. — С. 5.

[14] Ян Янкоўскі (1804–?) — сын уніяцкага святара Войскай царквы, брат пісьменніка Плакіда Янкоўскага. Адам і Ян былі былі знаёмы з дзяцінства. У адным з лістоў Адам называў маці Яна сваёй другой мамай. Менавіта Адам увёў Я. Янкоўскага ў таварыства філарэтаў. Я. Янкоўскі быў першы, хто выкрыў перад следствам факт існавання таемных студэнцкіх арганізацый у Свіслачы і Вільне.

[15] Kaszuba, Jan. Wspomnienia o Świsłoczy // Kłosy. — 1887. — № 1150. — S. 26.

і Адамам, у якой яны абменьваліся інфармацыяй аб дзейнасці студэнскіх саюзаў у Свіслачы і Вільні[16]. Абапіраючыся на гэты факт, адзін з найбольш аўтарытэтных польскіх даследчыкаў асобы А. Міцкевіча і ўсяго філамацка-філарэцкага асяроддзя Станіслаў Пігань, лічыць, што А. Сузін выконваў ролю пасярэдніка паміж тайнымі саюзамі моладзі ў Вільні і Свіслачы[17].

Паспяховае заканчэнне Свіслацкай гімназіі адкрывала перад Адамам шырокія перспектывы: ён мог распачаць службовую кар'еру, абіраць, а таксама быць абраным на розныя пасады ў сістэме мясцовага шляхецкага кіравання[18]. Але ён крочыў іншым шляхам. У 1819 г. ён становіцца студэнтам Віленскага ўніверсітэта.

У тыя часы гэтая вучэльня мела статус найлепшай вышэйшай навучальнай установы Расійскай імперыі. У першую чаргу дзякуючы няўрымслівым захадам куратара Віленскай навучальнай акругі Адама Ежы Чартарыйскага ўніверсітэт стаў цэнтрам прыцягнення найлепшых розумаў і асветы краю. Навучанне тут вялося ў класічных заходнееўрапейскіх традыцыях. Яго якасць забяспечвалі прафесары-выкладчыкі, многія з якіх знаходзіліся ў авангардзе развіцця навуковых ведаў у сваёй галіне. Асабліва гэта тычылася фізіка-матэматычнага факультэта, дзе ў той час ззялі зоркі хіміка, медыка і асветніка Анджэя Снядэцкага і ксяндза-батаніка Станіслава Юндзіла. Гэтыя постаці сваімі ведамі і талантам папросту ўзвышаліся над іншымі выкладчыкамі дадзенага аддзялення[19]. Магчыма, далёка вядомая слава гэтых імёнаў і падштурхнула Адама Сузіна да абрання фізіка-матэматычнай спецыялізацыі. Магчыма, пэўную ролю тут адыгралі іншыя чыннікі, пра якія мы не ведаем. Мы толькі адзначым, што студэнтамі старшага курса фізіка-матэматычнага факультэта на той час ужо былі Тамаш Зан і Адам Міцкевіч.

Новае, універсітэцкае жыццё цалкам паглынула Адама. Ён з запалам аддаўся вучобе і навуковай дзейнасці[20]. Пра апошняе, між іншым, сведчаць не толькі ўспаміны яго сяброў, але факт друкавання ў «*Dzienniku Wileńskim*» яго работы, прысвечанай разбору ньютанаўскіх тэорый аб святле і сіле цяжару[21]. Як вынікае з яго фармулярнага спіса, за гады вучобы ён «*праслухаў курсы: фізікі, хіміі, батанікі, заалогіі, мінералогіі, вышэйшай чыстай і прыкладной матэматыкі, механікі, логікі і па аддзяленні фізіка-матэматычных навук прызнаны вартым ступені кандыдата, у якім званні зацверджаны г. Міністрам духоўных спраў і народнай асветы з правам на чын 10 класа*».Таксама, як і многія іншыя студэнты з больш бедных сямей, ён сумяшчаў вучобу з рэпетытарскай дзейнасцю. Вядома, што ў Вільні сярод яго вучняў быў пляменнік надворнага саветніка Баранкевіча, а ў 1821–1823 гг. працаваў гувернёрам дзяцей самога Міхала Клеафаса Агінскага ў яго маёнтку Магільна, што месціўся ў Себежскім павеце Віцебскай губерні (цяпер Пскоўская вобласць).

Віленскі ўніверсітэт першых двух дзесяцігоддзяў свайго існавання вызначаўся духам свабоды, патрыятызму і нават вальнадумства. У яго сценах і вакол яго гуртавалася масонскія саюзы (напрыклад, шубраўцы, ложа «Школа Сакрата» і інш.), якія нават мелі свой друкаваны орган [«Wiadomości Brukowe» («Вулічныя навіны»)]. Усё гэта ў сукупнасці з іншымі фактарамі стварала падставу для ўзнікнення нелегальных таварыстваў студэнцкай моладзі.

---

16 Borowczyk, J. Rekonstrukcja procesu filomatów i filaretów 1823–1824. — Poznań, 2003. — S. 752.

17 Pigoń, S. Bochaterski więzień // Głosy z przed wieku. — Wilno, 1924. — S. 44.

18 [D. c. n.] Świsłocz, kilka wspomnień // Kłosy. — 1879. — № 744. — S. 223.

19 Dunajówna, M. Tomasz Zan: lata uniwersyteckie, 1815–1824. — Wilno, 1933. — S. 14.

20 Odyniec, A. E. List otwarty do redaktora Tygodnika Ilustrowanego // Tygodnik Illustrowany. — 1880. — № 215. — S. 82.

21 Borowczuk, J. Suzin Adam // PSB. T. 46. — S. 105.

У 1816–1817 гг. А. Міцкевіч, Т. Зан, А. Петрашкевіч, Э. Палушынскі, Б. Сухецкі, Ю. Яжоўскі стварылі суполку, галоўнай мэтай якой было «практыкаванне ў навуцы і літаратуры», а таксама маральнае ўдасканаленне яе сябраў[22]. Мы не будзем падрабязна спыняцца на аналізе праграмных дакументаў таварыства *філаматаў*, яго дзейнасці і эвалюцыі поглядаў яго ўдзельнікаў. Гэтыя праблемы грунтоўна даследаваны і маюць багатую гістарыяграфію. Тут мы толькі адзначым, што паступова філаматы пад уплывам розных фактараў — масонства (праект К. Кантрыма і Я. Шымкевіча), павеваў іспанскай, італьянскай і партугальскай рэвалюцый — прыйшлі да ідэі адыходу ад тайных формаў дзейнасці да больш адкрытых з мэтай асветы народа.

Асоба Адама Сузіна не магла не прыцягнуць увагі кіраўнікоў нелегальных таварыстваў. Як і ў Свіслачы, Адам у Вільні хутка набывае рэпутацыю аднаго з галоўных маральных аўтарытэтаў у студэнцкім асяроддзі, трацейскага суддзі. Да яго звярталіся па вырашэнне розных спрэчак, ацэнку тых ці іншых учынкаў і нават літаратурных твораў[23]. Таму яшчэ да ажыццяўлення фармальнай працэдуры па прыёме Адама ў сваё кола, ён лічыўся цалкам сваім сярод філарэтаў[24]. А ўжо ў кастрычніку 1820 г. А. Сузін становіцца паўнапраўным сябрам дадзенага таварыства.

Па сваёй структуры філарэты складаліся з некалькіх саюзаў, кожны з якіх адпавядаў таму ці іншаму факультэту ўніверсітэта. Тыя, у сваю чаргу, маглі дзяліцца на больш дробныя аддзяленні. Напрыклад, у фізіка-матэматычнага факультэта іх было тры — *зялёны*, *ружовы* і *малінавы*. А. Сузін далучыўся да *зялёнага* саюза. Але выключна рамкамі *зялёных* дзейнасць Адама не абмяжоўвалася. Ён наведваў паседжанні іншых таварыстваў. Напрыклад, адзіны захаваны пратакол *блакітнага* саюза, які аб'ядноўваў літаратараў-паэтаў, быў напісаны рукой Сузіна. У хуткім часе стаўшы, фактычна, жывым увасабленнем тых прынцыпаў, якія філарэты прапаведвалі, ён рупліва дбаў аб пашырэнні ўплыву і шэрагаў гэтага кола. З яго ініцыятывы і па яго рэкамендацыі ў гэтую сям'ю трапіла некалькі новых асоб, сярод якіх, што праўда, быў і Адамаў сябра з дзяцінства — Я. Янкоўскі, той самы, які першы на следстве здрадзіць нелегальным студэнцкім арганізацыям.

З мэтай пашырэння свайго ўплыву філаматы / філарэты прадпрымалі захады па вывучэнні краю, у якім ім у будучыні давялося б дзейнічаць. Імі была распрацаваная адмысловая інструкцыя для геаграфічнага апісання мясцовасці (парафіі, павета), якая была пасля нелегальна надрукаваная ў базылянскай друкарні ў Вільні. Згодна з ёю, кожны філарэт, які выязджаў на вакацыі, абавязкова павінен быў зрабіць дакладнае апісанне сваёй ваколіцы, якое змяшчала б статыстычныя звесткі аб дэмаграфіі, эканамічным развіцці, а таксама дадзеныя аб маральным стане насельніцтва[25]. Таксама ўдзельнікі тайных таварыстваў заахвочваліся вывучаць народны фальклор, побыт і мінулае народа. Згодна са сведчаннямі Т. Зана, «*студэнты ахвотна карысталіся сялянскай простай мовай*», гэта значыць беларускай мовай[26]. І Сузін не быў тут выключэннем. Вядома, што ў адпаведнасці з узгаданай інструкцыяй ён падчас свайго знаходжання ў маёнтку Магільна графа Агінскага

[22] Соколова, М. Общественные объединения и движения в Беларуси в конце XVIII — начале XX века: проблемы становления гражданского общества. — Минск, 2002. — С. 32–33; Філаматы і філарэты: зборнік. — Мінск, 1998. — С. 7–8.

[23] Odyniec, A. E. List otwarty do redaktora Tygodnika Ilustrowanego // Tygodnik Illustrowany. — 1880. № 215. — S. 81–82.

[24] Pigoń, S. Bochaterski więzień // Głosy z przed wieku. — Wilno, 1924. — S. 47.

[25] Mościcki, H. Z filareckiego świata. Zbiór wspomnień z lat 1816–1824. — Warszawa. 1924. — S. 20; Towarzystwo filomatów. — Kraków, 1924. — S. XXXI.

[26] Грицкевич, В. От Немана к берегам Тихого океана. — Минск, 1986. — С. 97.

3

100

128

# ФОРМУЛЯРНЫЙ СПИСОКЪ

о

Службѣ и достоинствѣ
бывшаго Бухгалтера Оренбург-
ской Пограничной Коммиссіи
Коллежскаго Секретаря Ада-
ма Демьянова сына Сузина.

Составленъ въ Генварѣ Мѣсяцѣ 1843. года

| Чинъ, имя, фамилія, должность и отправляемая имъ нынѣ служба, сколько отъ роду лѣтъ и какого вѣроисповѣданія? | Изъ какого званія происходитъ | Есть ли за нимъ, за родителями его или если женатъ, за женою недвижимое имѣніе? | | | | Когда въ службу вступилъ и въ оной какими чинами, въ какихъ должностяхъ и гдѣ проходилъ, также не было ли какихъ отличныхъ по службѣ дѣяній и не былъ ли особенно, кромѣ чиновъ, чѣмъ награжденъ и въ какое время? | Годы |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | У родителей и у самого его | | У жены буде женатъ | | | |
| | | Родовое | Благопріобрѣтенное | Родовое | Благопріобрѣтенное | | |
| Коллежскій Секретарь Адамъ Доминиковъ сынъ Сузинъ отъ роду 42 лѣтъ вѣроисповѣданія Римско-католическаго. | Изъ дворянъ. | | | | | По окончаніи Наукъ въ Гродненской Гимназіи, вступилъ студентомъ въ Виленскій университетъ, гдѣ слушалъ курсы физики, химіи, ботаники, зоологіи, минералогіи, высшей чистой и прикладной Математики, Механики, Астрономіи и Логики и по отдѣленію физико-математическихъ наукъ, признанъ достойнымъ степени Кандидата въ каковомъ званіи утвержденъ Г. Министромъ Духовныхъ дѣлъ и Народнаго просвѣщенія съ правомъ на чинъ 10. класса.<br><br>Въ 1824 году присланъ былъ въ Оренбургъ отъ Литовскаго Военнаго Губернатора по Высочайше | |

зрабіў апісанне не толькі парафіяльнага мястэчка Сакольнікава, але і павятовага горада Себежа. Пра тое, што Адам быў вялікім аматарам і знаўцам фальклору і народнай паэзіі, у адным з лістоў засведчыў усё той жа Т. Зан[27].

Калі царскія ўлады натрапілі на троп нелегальных студэнцкіх саюзаў у Вільні, А. Сузін быў адным з першых, хто апынуўся ў кіпцюрах следства. Ужо 28 жніўня на імя рэктара ўніверсітэта, а пасля (31 жніўня) на імя гродзенскага губернатара былі высланыя загады аб арышце Адама і дастаўцы яго з усімі знойдзенымі пры ім паперамі ў следчую камісію «так, каб ён не меў ні з кім зносін»[28]. У Вільні Адам спачатку трымаўся ў дамініканскіх мурах, а пасля быў пераведзены ў базыльянскія.

Сярод папер, выяўленых паліцэйскімі пры Сузіне, аказаўся пратакол *блакітнага* саюза, напісаны рукой Адама. Гэтая знаходка была несумненнай удачай для следчых органаў, бо дакументальна пацвярджала факт існавання тых згуртаванняў. Але нягледзячы на такую цяжкую ўліку, у асобе Сузіна старшыня следчай камісіі М. Навасільцаў сустрэў годнага апанента. На допытах Адам не толькі адмаўляўся назваць новыя, невядомыя імёны, але і цалкам аспрэчваў сваю датычнасць да нейкіх нелегальных саюзаў і іх існаванне ўвогуле. Аб упартасці з боку А. Сузіна быў нават праінфармаваны цэсарэвіч Канстанцін у Варшаве. Апошні загадаў застрашыць заўзятага вязня пазбаўленнем дваранскай годнасці і больш жорсткімі для таго наступствамі[29]. Тым не менш выкліканы паўторна на допыт 5 лістапада 1823 г., тады, калі ўся справа аб філарэтах перастала для царскіх уладаў быць тайнай, а ў камісіі з'явіліся новыя доказы «віны» Сузіна, той застаўся верным сябе і не пайшоў на супрацоўніцтва са следчымі[30].

Менавіта падчас шматмесячнага працэсу над удзельнікамі тайных студэнцкіх таварystваў найбольш рэльефна выявіліся асабістыя якасці і характар Адама. Акрамя безумоўнага іх лідара Т. Зана, менавіта А. Сузін сваім асабістым прыкладам, нязломнай воляй натхняў і падтрымліваў іх. «*Сузін звярнуўся да мяне з патэтычнай прамовай, дадаючы мне ўпэўненасці, заклікаючы да цярпення, каб ні пагрозамі застрашыць, ні ліслівасцю расчуліць не даваўся і пад.*», — узгадваў філарэт Отан Слізень[31]. Такое захаванне свайго цёзкі высока ацаніў Адам Міцкевіч, які вывеў яго пад сваім імем у III частцы «*Дзядоў*», у так званай турэмнай сцэне[32]. Акрамя таго, славуты паэт і сябра па няшчасці незадоўга да іх высылкі падчас адной з апошніх сустрэч прысвяціў Сузіну сваю імправізацыю, у якой, падсумоўваючы іх агульную няшчасную долю, адзначыў, што сярод іх быў толькі адзін, хто «*смела цярпеў і маўчаў на допытах*», і гэта быў сам Сузін[33]. І таму, калі б можна было параўнаць філаматцкую / філарэцкую структуру з чалавекам, то яе галавой, несумненна, быў Т. Зан, сэрцам — А. Міцкевіч, а Сузін выконваў не менш важную функцыю маральнага рэгулятыва, а менавіта сумлення.

Следства над студэнтамі Віленскага ўніверсітэта цягнулася са жніўня 1823 г. да вясны 1824 г. Галоўным інквізітарам, абвінавальнікам і суддзёй у гэтым працэ-

[27] Żywot i korespondencye Tomasza Zana. — Kraków, 1863. — S. 48.

[28] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 2, спр. 246, арк. 36; Dr. Szeliga [Beliński J.]. Proces Filaretów w Wilnie. Dokumenta urzędowe z «Teki» rektora Twardowskiego. — Kraków, 1890. — S. 229.

[29] К истории тайных обществ и кружков среди литовско-польской молодежи в 1819–1823 гг. — Варшава, 1898. — С. 42.

[30] Pigoń, S. Bochaterski więzień // Głosy z przed wieku. — Wilno, 1924. — S. 59.

[31] Ślizeń, O. Z pamiętnika (1821–1824). // Z filareckiego świata. Zbiór wspomnień z lat 1816–1824. — Warszawa. 1924. — S. 132.

[32] Міцкевіч, А. Дзяды. — Т. II. — Менск, 1999. — С. 41.

[33] Odyniec, A. E. List otwarty do redaktora Tygodnika Ilustrowanego // Tygodnik Illustrowany. — 1880. — № 215. — S. 82.

се выступіў сенатар М. Навасільцаў. Мы не будзем падрабязна спыняцца на тых асабістых матывах, якімі ён кіраваўся ў гэтай справе. Яны добра вядомыя. Тут мы зазначым, што з падачы англамана і былога ліберала Навасільцава ўсе ўдзельнікі тайных таварыстваў былі падзеленыя на тры ступені віны:

«*Першая віна заключаецца ў самім заснаванні таемных таварыстваў. Яно было насуперак строгім забаронам з боку ўніверсітэцкага начальства заводзіць якія-небудзь таемныя супольнасці і супроць дадзенага ў тым урачыстага абяцання ўсімі студэнтам, пры запісванні імёнаў сваіх ва ўніверсітэцкі спіс, або так званы Альбум.*

*Другая віна складаецца ў супрацьзаконным прысваенні сабе, без дазволу і ведама свайго начальства, і праз хітрыя і патаемныя сродкі, самаадвольнага ўплыву над адукацыяй юнацтва, у намеры змяніць спосаб вучэння, яго мэту і напрамкі розумаў. Звыш таго, у відавочным выяўленні намераў, што супярэчылі відам і намерам Урада.*

*Трэцяя віна — у чытанні на сходах філарэтаў дзёрзкіх і зневажальных супраць расейцаў напоўненых вершаў і ў выказванні прывітанняў і прамоў, супраціўных вернасці Расійскаму Прастолу.*

*...Пад трэцяю ступень віны трапляюць сябры таварыства: Іван Чачот, Адам Сузін і Іван Янкоўскі*»[34].

Але канчатковыя прысуды, якія былі вынесеныя 7/29 жніўня 1824 г. і ўжо праз тыдзень зацверджаныя Аляксандрам I, абсалютна не адпавядалі гэтым крытэрыям віны. Як вядома, найбольш жорсткай ступені адказнасці былі падвергнутыя Т. Зан, Я. Чачот і А. Сузін — ссылка ў Сібір у спалучэнні з затачэннем у крэпасці. На першы погляд, такі суровы вырак у дачыненні да Адама выклікае пэўнае здзіўленне. Сузін не быў у ліку заснавальнікаў гэтых арганізацый ці іх ідэйным натхняльнікам. Ён не ўзначальваў іх, а фармальна быў іх сябрам не самы працяглы час. Вельмі сумнеўным і бяздоказным выглядае абвінавачванне камісіі ў тым, што ў прамовах і вершах гэтага студэнта ўтрымліваліся «*дзёрзкія і непрыстойныя супраць расейцаў*» выказванні[35]. Як нам падаецца, сапраўдная прычына падобнага жорсткага прысуду крыецца не ў юрыдычнай плоскасці. Фактычна, гэта была асабістая помста М. Навасільцава за тую нязломнасць і заўзятасць, якую Адам прадэманстраваў падчас допытаў, за тое, што «калі ім [разам з Я. Чачотам. — *Аўтары*] на следстве рабілі пагрозы і грубасць, яны адказалі пагардай»[36].

Менавіта ад часу следства і яго завяршэння зорка Сузіна заззяла на небасхіле пакутнікаў за Айчыну на поўную моц. 10 кастрычніка 1824 г. А. Сузін разам з сваімі таварышамі па няшчасці Т. Занам і Я. Чачотам пачалі свой шлях у далёкую і невядомую Сібір. Хоць з геаграфічнага пункту гледжання гэты рэгіён адносіцца да паўднёвага Уралу і мяжуе з казахскімі стэпамі, тым не менш у тагачасных уяўленнях нашых землякоў гэта была Сібір. Фактычна, яны былі першымі, хто праклаў туды дарогу ў XIX ст. Пасля гэтым жа шляхам на ўсход пацягнуцца тысячы і тысячы іншых ахвяр царскага рэжыму: удзельнікі нацыянальна-вызваленчых паўстанняў, тайных «змоў» і арганізацый, эмісары і іх памагатыя і шмат хто яшчэ. У якасці спосабу іх дастаўкі ўлады вызначылі перасылку ў суправаджэнні жандараў. Згодна з рапартам віленскага ваеннага губернатара Рымскага-Корсакава, Т. Зан меў з сабой 400 рублёў асігнацыямі, Я. Чачот — 195 рублёў асігнацыямі і 5 срэбных,

34 К истории тайных обществ и кружков среди литовско-польской молодежи в 1819—1823 гг. Варшава, 1898 — С. 74.

35 Тамсама; Dr. Szeliga [Beliński J.]. Proces Filaretów w Wilnie. Dokumenta urzędowe z «Teki» rektora Twardowskiego. — Kraków, 1890. — S. 318

36 Massalski, T. E. Z pamiętników (1799—1824) // Z filareckiego świata: zbiór wspomnień z lat 1816—1824. — Warszawa. 1924. — S. 299.

Сузін — 100 асігнацыямі і рубель срэбрам[37]. Паездка ажыццяўлялася на кібітцы па маршруце *Ашмяны — Мінск — Орша — Смаленск — Вязьма — Масква*. Канчатковым пунктам прызначэння быў Арэнбург.

У мемуарнай літаратуры першай паловы XIX ст. захаваліся супярэчлівыя ацэнкі падобнага спосабу перасылкі. Так, удзельнік «змовы» Шымана Канарскага, Юстын Руцынскі ва ўспамінах з жахам згадвае свой шлях з Кіева да Табольска: *«Я быў закуты ў паўпудовыя (8 кілаграм) кайданы, пасаджаны ў кібітку між двух жандараў і вывезены ў невядомы і нявызначаны абшар... Вандроўка... да Табольска цягнулася 20 дзён. За гэты час ніводзін з нас не адпачываў і не толькі не мяняў бялізну, але закуты ў кайданы, не здымаў абутку»*[38]. У той жа самы час Браніслаў Залескі, які таксама быў высланы ў Арэнбург прыводзіць іншыя факты і, адпаведна, іншыя ацэнкі. На яго думку, хуткая язда на паштовых у кібітцы *«не была такой жудаснай»*. Нават суправаджэнне жандараў мела некаторыя выгоды, калі з імі ўдавалася ўсталяваць нармальны кантакт: *«бывалі выпадкі, што калі за грошы, прызначаныя для харчавання вязня (2 ½ кап.) ледзьве сухога хлеба здабыць было можна...* [жандары] *самі складваліся, угаворваючы, каб вязень прыняў іх ахвяраванне...»*[39]. Карціну вандроўкі, якая мала чым адрознівалася ад звычайнага падарожжа на паштовых, пакінула ва ўспамінах пісьменніца і ўдзельніца спіса Ш. Канарскага Эва Фелінская[40].

Сузін, Зан і Чачот правялі ў дарозе больш за два месяцы. 22 снежня 1824 г. вязні былі дастаўлены ў Арэнбург. Адсюль для адбыцця першай часткі пакарання яны былі адасланыя ў крэпасць Кізіл (хоць некаторыя даследчыкі ў выпадку Сузіна ўказваюць на крэпасць Орск[41]), размешчаную за 60 вёрстаў ад губернскага цэнтра. Тут Адам у адпаведнасці з прысудам быў вытрыманы 6 месяцаў у затачэнні, а пасля знаходзіўся ў г. Орску на пасяленні пад наглядам паліцыі. Дадзены від пакарання прадугледжваў пэўную свабоду асуджанага і нават матэрыяльную дапамогу дзяржавы. Згодна з адпаведнымі спісамі паднаглядных асоб, Адам *«паводзіў сябе сціпла і добра»* і атрымліваў 50 капеек у суткі ад казны[42].

Пасля адбыцця першай часткі пакарання таварыства ссыльных філаматаў распалася. Гэта адбылося як у прамым, так і ў пераносным сэнсе. Ян Чачот быў пераведзены ва Уфу, Тамаш Зан апынуўся ў Арэнбургу (Сузін пасля далучыўся да яго). Але акрамя адлегласці, іх падзялілі і ідэйныя разыходжанні. Апошнія тычыліся стратэгіі паводзін ссыльных. Ян Чачот абраў, так бы мовіць, «пустэльніцкі» лад жыцця, абмежаваўшы свае стасункі з навакольным светам да мінімуму. Гэта было звязана з тым, што навакольнае рускае асяроддзе ўспрымалася ім як варожае. Супрацьлеглы падыход дэманстраваў Т. Зан. Ён не толькі не пазбягаў кантактаў з навакольным светам, але і сам першы ішоў на супрацоўніцтва. Дзякуючы сваім талантам, ведам і няўрымслівасці ён у хуткім часе атрымаў магчымасць на практыцы рэалізаваць свой патэнцыял, тым самым заслужыўшы ўсеагульную пашану і любоў[43]. Гэтае супрацьстаянне і дыскусія (у якой браў удзел нават А. Міцкевіч) мела вельмі важ-

[37] Mościcki, H. Pod znakiem Orła i Pogoni. — Kraków, 1915. — S. 134.

[38] Кодан, С. Сибирская ссылка участников оппозиционных выступлений и движений в Царстве Польском 1830–1840-х гг. [Электронны рэсурс]. Рэжым доступу: http://lib.pomorsu.ru/exile/Polska_ssylka/Kodan.doc.

[39] Zaleski, B. Wygnańcy Polscy w Orenburgu // Rocznik Towarzystwa historyczno-literackiego w Paryżu. R. 1866. — S. 90.

[40] Felińska, E. Wspomnienia z podroży do Syberji i pobytu w Berezowie. — Wilno, 1850. — S. 4–20.

[41] Śliwowska, W. Zesłańcy polscy w Imperium Rosyjskim w pierwszej połowie XIX wieku. — Warszawa, 1998. — S. 584.

[42] Грицкевич, В. От Немана к берегам Тихого океана. — Минск, 1986. — С. 137.

[43] Janik, M. Dzieje polaków na Syberii. — Kraków, 1928. — S. 102; Zaleski, B. Wygnańcy Polscy w Orenburgu // Rocznik Towarzystwa historyczno-literackiego w Paryżu. R. 1866. — S. 82–83.

нае значэнне. Менавіта ў яе межах была выпрацаваная тая канцэпцыя паводзін, якой цягам усяго XIX ст. кіраваліся новыя і новыя пакаленні палітычных ссыльных з розных рэгіёнаў былой Рэчы Паспалітай.

Ад самага пачатку знаходжання ў ссылцы, яшчэ да выхаду Т. Зана з турмы, А. Сузін адназначна абраў для сябе мадэль, якая ў хуткім часе дазволіла яму дабіцца павагі і любові навакольных. Як і Тамаш, ён займаўся адукацыйнай дзейнасцю: навучаў дзяцей каменданта крэпасці, палкоўніка Ісаева, таго самага, у якога праз 20 гадоў жыў Т. Шаўчэнка. Як і сябра, ён пастуціў на дзяржаўную службу і прысвяціў сябе вывучэнню маладаследаванага рэгіёна, браў актыўны ўдзел у грамадскім жыцці. Шмат у чым дзякуючы стараннням Тамаша, Адаму ўдалося дабіцца пераводу з Орска ў губернскі Арэнбург. Але яго адносіны з Т. Занам гэтага перыяду таксама нельга ідэалізаваць. Нягледзячы на тое што досыць часта сябры жылі пад адным дахам, дзённік Зана раскрывае існаванне значных супярэчнасцей паміж імі. *«Прыехаў Сузін. Наша сустрэча не была пяшчотнай, напэўна, таму, што не маем нічога агульнага, каб нас прыемнае звязвала. Напэўна, павінен настаць разрыў у прывыканні, некаторая пустэча ў пачуццях неспасціжнага і, хоць усімі знакамі паказваў сваё да мяне прыхільнасць і павагу. <...> Нашыя спрэчкі з Сузіным не мелі прыемных вынікаў, ён мяркуе і дзейнічае згодна набытых правілаў, я часцей за ўсё — паводле пачуццяў, а таксама мараў»*[44]. І разам бавяць вольны час, так (пачатак чэрвеня 1829 г.) чытаем: *«Лепшай часткай часу можна лічыць тую, якую праводзім з Адамам на шпацырах у гаі і гутарках. Шчыра яму распавядаю і запісваю* [у дзённік]. *<...> Добра з Адамам, толькі тое дрэнна, што абодва глядзім на рэчы з розных бакоў і кожная размова пераходзіць у спрэчку»*[45]. Тамаш Зан лічыў свае спрэчкі з ім карыснымі: *«Дыспуты з Адамам — вечныя, аднак яны трымаюць мае думкі ў тонусе»*[46]. Як гэта ні дзіўна, але гэтыя супярэчнасці садзейнічалі большаму іх збліжэнню: *«Частыя спрэчкі і супярэчнасці з Адамам Сузіным, здаецца, што з Божай дапамогай дапамагаюць узаемнаму збліжэнню, асабліва калі будуць больш памяркоўнымі, спагадлівымі і добразычлівымі»*[47].

У Расійскай імперыі ссылка, акрамя галоўнай карнай функцыі, несла ў сябе яшчэ некалькі спадарожных. Сярод іншага пры дапамозе гэтай меры пакарання ўлады імкнуліся каланізаваць велізарныя абшары, што знаходзіліся за Уралам. Таму мясцовая адміністрацыя ахвотна прыняла паслугі высокаадукаваных «злачынцаў». Яшчэ перад высылкай філарэтаў з Вільні кожнаму з іх было акрэсленае кола іх імавернага прымянення. Зыходзячы з «выдатных ведаў матэматычных навук» Адама было рэкамендавана задзейнічаць у інжынерным корпусе дарог і камунікацый[48]. Але на месцы ўлады знайшлі яму іншае выкарыстанне. Першага красавіка 1829 г. па прадпісанні арэнбургскага ваеннага губернатара Сузін быў прыняты ў пагранічную камісію канцылярыстам звыш штату[49]. У далейшым ён займаў пасады архіварыуса, казначэя і з 1832 г. бухгалтара. У 1832 г. арэнгбурскі ваенны губернатар П. Сухцелен хадайнічаў перад імператарам аб прысваенні Адаму належнага яму як магістру філасофскіх навук чыну калежскага сакратара (X клас). Але Мікалай II такой згоды не даў, надаўшы таму самы нізкі службовы ранг калежскага рэгістратара (XIV клас). І толькі дзякуючы пратэкцыі новага губернатара В. Пяроўскага, які высока цаніў

[44] Zan, T. Z wygnania. Dziennik z lat 1824–1832. — Wilno, 1929. — S. 156.
[45] Ibidem S. 170, 171.
[46] Ibidem S. 177. (верасень 1829).
[47] Ibidem S. 190.
[48] Dr. Szeliga [Beliński J.]. Proces Filaretów w Wilnie. Dokumenta urzędowe z «Teki» rektora Twardowskiego. — Kraków, 1890. — S. 323.
[49] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 11, спр. 1334, арк. 128–129.

здольнасці ссыльных «палякаў», у 1835 г. Адам урэшце атрымаў чын калежскага сакратара[50].

Але выключна выкананнем службовых абавязкаў жыццё Сузіна ў Арэнбургу не абмяжоўвалася. Па-першае, у ссылцы ён працягваў самаадукацыю: шмат чытаў як мастацкай, так і навуковай літаратуры па розных сферах. Акрамя таго, займаўся перакладамі з французскай мовы. Вядома, што разам з іншым ссыльным графам Янам Хадкевічам яны працавалі над кнігай мадам дэ Сталь «Аб Германіі», а таксама (ужо без Хадкевіча) над творамі іншых французскіх аўтараў (Б. дэ Сен-П'ера і А. дэ Бальзака), але, на жаль, іх пераклады так і не скончыў. Па-другое, веданне французскай мовы давала яму магчымасць знайсці дадатковую крыніцу даходу. Багатыя арэнбуржцы з ахвотай наймалі А. Сузіна для прыватных урокаў сваім дзецям.

Па-трэцяе, Адам браў актыў удзел у жыцці мясцовай «палоніі». У сувязі з раскрыццём іншых канспіратыўных арганізацый на тэрыторыі Літвы і Беларусі, задушэннем паўстання 1831 г., экспедыцыяй Заліўскага, колькасць землякоў, што прымусова траплялі ў арэнбургскі край, увесь час павялічвалася. Ссыльныя арганізоўвалі вечарыны, на якіх актыўна абмяркоўвалі розныя грамадскія, навуковыя, літаратурныя і, пэўна, палітычныя пытанні, разам святкавалі рэлігійныя святы, спявалі: «Сузін нават тры ноты здабыў з свайго музычнага голасу», — зазначыў пасля адной з такіх вечарын Т. Зан у лісце да Я. Хадкевіча ў 1835 г.[51]. Тут нельга не адзначыць тую важную ролю, якую адыгрываў у жыцці мясцовай супольнасці ссыльных ксёндз Міхал Зялёнка, высланы з Гродна за кантакты з эмісарамі ў 1833 г. Акрамя таго, Сузін, як і многія іншыя ссыльныя, не цураўся расійскага грамадства: музычныя салоны і вечары, тэатральнае жыццё і пастаноўкі аматарскіх спектакляў, балі ў губернатара і багатых гараджан і падобнае былі часткай яго штодзённага жыцця.

Па-чацвёртае, Адам Сузін актыўна ўдзельнічаў у вывучэнні малавядомага краю. Падчас сваіх паездак па наваколлі ён праводзіў геалагічныя, батанічныя, заалагічныя і этнаграфічныя даследаванні. Выяўленыя падчас гэтых росшукаў матэрыялы пасля перадаваліся ў створаны Т. Занам краязнаўчы Арэнбургскі музей. У 1834 і 1835 г. разам з тым жа Занам з ініцыятывы міністра фінансаў Я. Канкрына і па распараджэнні Пагранічнай камісіі, здзейсніў вандроўку на поўдзень і на ўсход ад Уральскіх гор. Сярод іншага ім прадпісвалася ажыццявіць пошук мінеральных выкапняў, скласці мінералагічную карту рэгіёна і пад. Падчас гэтых падарожжаў Сузін меў магчымасць дасканальна азнаёміцца не толькі з флорай, фаўнай і геалагічнымі адметнасцямі рэгіёна, але і з людзьмі, што там пражывалі. У выніку гэтых кантактаў Адам стаў карыстацца значным аўтарытэтам сярод мясцовых плямён казахаў (кіргізаў) і башкір. Неаднойчы яму даводзілася выступаць у якасці пасярэдніка-суддзі падчас міжплемянных канфліктаў.

Асобна ў шэрагу разнастайных экспедыцый, што ажыццявіў Адам, стаіць яго вандроўка 1834 г. Згодна з афіцыйнай версіяй, яна была здзейсненая з медыцынскімі мэтамі — «дзеля лячэння кумысам». І сапраўды, нататкі, што пакінуў наш герой, сведчаць аб наяўнасці ў яго сур'ёзных праблем са здароўем. Аднак, акрамя асноўнай, гэтае падарожжа мела яшчэ і іншыя, палітычныя мэты. Справа ў тым, што ў гэты час царызм праводзіў актыўную экспансіўную палітыку ў дадзеным рэгіёне. Незадоўга перад гэтым руская экспедыцыя пад кіраўніцтвам прыродазнаўцы і вандроўніка Р. Карэліна заснавала на ўсходнім беразе Каспійскага мора крэпасць Нова-Пятроўск, што выклікала абурэнне хівінскага хана. Таму «*бухгалтару*

[50] Тамсама. Арк. 129–130.

[51] Śliwowska, W. Zesłańcy polscy w Imperium Rosyjskim wpierwszej połowie XIX wieku. — Warszawa, 1998. — S. 585.

*Пагранічнай камісіі А. Сузіну было даручана разведаць становішча, даведацца аб адносінах казахаў і хівінцаў, як да пабудовы крэпасці, так і да ліквідацыі самастойнага Малодшага жуза*»[52]. Гэтае сваё падарожжа Сузін пазней апісаў у нататках «Падарожжа ў кіргізскія стэпы, якое адбылося ў 1834 годзе», што былі надрукаваныя ў варшаўскім часопісе «Kronika Rodzinna» (1870, № 17–20; 1871, № 22–24) пад крыптанімам «Adam S.». Нягледзячы на тое што запісы аўтара носяць у асноўным апісальны характар, у іх утрымліваецца досыць цікавая інфармацыя пра лад жыцця тагачасных жыхароў стэпаў, іх звычаі, а таксама раслінны свет.

Па-пятае, важным эпізодам у жыцці А. Сузіна ў Арэнбургу быў яго арышт 26 кастрычніка 1833 г. Абвінавачванні, якія былі прад'яўлены яму і ягоным паплечнікам (Т. Зану, Я. Віткевічу, В. Івашкевічу), тычыліся ні многа ні мала іх спробам сумесна з іншымі ссыльнымі ў Омску, Астрахані і Екацярынбургу ўзняць паўстанне з мэтай адзялення Сібіры ад Расійскай імперыі. Згодна з логікай следства ў гэты час ва ўсіх гэтых гарадах (і не толькі) была створаная разгалінаваная канспіратыўная сетка, якая рыхтавала ўзброенае паўстанне з мэтай тэрытарыяльнага расколу імперыі. Да сёння ў гістарычнай літаратуры няма адзінага адказу на пытанне аб рэальнасці існавання падобнага спіса і яго планах. Так, дарэвалюцыйны гісторык В. Пато лічыў усю гэтую змову штучна раздзьмутай справай, якая не мела пад сабой ніякіх падстаў[53]. З ім не пагаджаецца адзін з найбольш дасведчаных знаўцаў польскага вызваленчага руху перыяду імперыі У. Дзякаў[54]. У сваіх работах ён прыводзіць аргументы на карысць таго, што падобная канспірацыя сапраўды мела месца і што Арэнбург быў важнай яе часткай. У сваю чаргу, гэтыя высновы аспрэчваюцца ў працы іншага аўтарытэтнага гісторыка, найбольш вядомага даследчыка польскай ссылкі XIX ст. прафесара В. Слівоўскай, якая палічыла неабходным прысвяціць разбору дадзенага моманту асобны раздзел у манаграфіі «Уцёкі з Сібіры»[55]. Падзяліся меркаванні наконт гэтага эпізоду ў жыцці А. Сузіна і ў аўтараў гэтага артыкула. Адзін з іх у асноўным прымае аргументы У. Дзякава і лічыць такі сцэнар разгортвання падзей цалкам верагодным. Другі аўтар з ім не пагаджаецца і салідарызуецца з пунктам гледжання В. Слівоўскай.

Што не выклікае сумнення, дык гэта тое, што ключавую ролю ў вырашэнні гэтай справы адыграла пазіцыя арэнбургскага генерал-губернатара В. Пяроўскага, які вельмі прыхільна ставіўся да польскіх ссыльных. Следства праводзілася досыць фармальна. Спачатку затрыманых апытаў іх добры знаёмы (і адначасова знакаміты лінгвіст) Уладзімір Даль, а на наступны дзень перад камісіяй склаў сваё сведчанне Т. Зан[56]. Дзякуючы яго эквілібрыстычным тлумачэнням, а таксама гатоўнасці следчага органа на многае заплюшчваць вочы ўсе затрыманыя па гэтай справе ў Арэнбургу былі прызнаныя невіноўнымі і ў хуткім часе вызваленыя.

Дадзены выпадак не паўплываў на кар'еру А. Сузіна: ён і надалей карыстаўся прыхільнасцю з боку мясцовага начальства. Менавіта дзякуючы хадайніцтвам генерал-губернатара В. Пяроўскага Адаму быў нарэшце нададзены адпаведны яго адукацыі чыноўніцкі ранг, а ў 1835 г. ён нават атрымаў права на месячны адпа-

[52] Грицкевич, В. От Немана к берегам Тихого океана. — Минск, 1986. — С. 135–136.

[53] Потто, В. Ссыльные поляки в Оренбурге // Исторический вестник. — 1889. — № 12. — С. 584–606.

[54] Сапаргалиев, Г.; Дьяков, В. Общественно-политическая деятельность ссыльных поляков в дореволюционном Казахстане. — Алма-Ата, 1971. — С. 42.

[55] Śliwowska, W. Ucieczki z Sybiru. — Warszawa. 2005. — S. 52.

[56] Śliwowska, W. Zesłańcy polscy w Imperium Rosyjskim w pierwszej połowie XIX wieku. — Warszawa, 1998. — S. 704.

чынак дзеля наведвання на радзіме хворага бацькі[57], адкуль своечасова вярнуўся. У траўні 1837 г. праз старанні ўсё таго ж В. Пяроўскага ён атрымаў «Вышэйшы» дазвол на звальненне з службы ў Арэнбургскай губерні і, што найбольш важна, права на яе працяг у любым іншым месцы імперыі «альбо вярнуцца на радзіму»[58]. Фактычна, гэта была амністыя. У ліпені 1837 г. Сузін канчаткова звальняецца са службы ў Пагранічнай камісіі «па дамашніх абставінах».

Як гэта ні дзіўна, вяртанне на радзіму прынесла Адаму не толькі радасць сустрэч з роднымі, блізкімі і сябрамі, але і многія праблемы, з якімі ён не сутыкаўся, знаходзячыся ў Арэнбургскім краі. Паколькі ён быў былым палітычным ссыльным, то адносіўся да той катэгорыі асоб, за якімі ў заходніх губернях імперыі абавязкова ладзіўся галосны палітычны нагляд. У сваю чаргу, гэтая мера прадугледжвала абмежаванне ў свабодным перамяшчэнні па рэгіёне (кожны раз неабходна было пытацца на дазвол у губернатара ці генерал-губернатара), а таксама да забароны на некаторыя віды дзейнасці, пра што гаворка пойдзе ніжэй. Таксама пасля вяртання дамоў перад Адамам вельмі надзённа паўстала праблема свайго матэрыяльнага забеспячэння. Як вядома, яго бацька Дамінік валодаў двума невялікімі маёнткамі ў Кобрынскім і Брэсцкім паветах. Згодна з архіўнымі дадзенымі, у 30–60-я гг. XIX ст. у валоданні Адама заставаўся толькі адзін з іх, а менавіта Залешаны (іншая назва — Хадасы Горныя), што знаходзіўся на Брэстчыне[59]. Дакументы сведчаць, што гэта была гаспадарка, якая месцілася непадалёк ад Камянца і за 40 вёрстаў ад павятовага горада Брэста. Агульная колькасць карыснай панскай зямлі ў ёй складала толькі 93 дзесяціны, меўся памешчыцкі двор, пры якім было запісана 5 рэвізскіх душ, дзве драўляныя сядзібы, амбары, стайня, іншыя гаспадарчыя пабудовы і, натуральна, карчма. Усяго за Адамам лічілася тры цяглыя двары (15 рэвізскіх душ)[60]. Сукупны гадавы даход маёнтка ў 40-я гг. XIX ст. складаў 99 рублёў, з якіх яшчэ трэба было заплаціць земскі падатак. Цікава, што другой часткай вёскі Хадасы (Залешаны) ў 1850-я — пачатку 1860-х гг. валодаў стрыечны брат Адама — Аўгусцін Сузін[61], які за датычнасць да справы эмісара Рэра ў 1846 г. быў высланы таксама ў Арэнбургскі край. Што праўда, у адрозненне ад брата Аўгусцін як былы вайсковец быў аддадзены ў салдаты ў дзейную армію і браў удзел у ваенных дзеяннях (вярнуўся ў 1856 г.).

Зразумела, што бацькоўская спадчына не магла пракарміць Адама. Асабліва надзённа матэрыяльнае пытанне паўстала пасля таго, як праз 7 гадоў пасля вяртання з ссылкі (1842 г.) ён змяніў свой кавалерскі лад жыцця, ажаніўшыся з малодшай сястрой свайго блізкага сябра (таксама філамата/філарэта) Антона Эдварда Адынца — Каралінай[62] (Т. Зан быў шаферам на тым вяселлі). Таму ён быў вымушаны заняцца пошукам іншых, альтэрнатыўных крыніц існавання. Яшчэ знаходзячыся ў Арэнбургу, Сузін і Зан блізка сышліся з графам Янам Хадкевічам, які таксама адбываў там пакаранне. Можна меркаваць, што ўжо тады яны атрымалі запрашэнне пасля вызвалення наведаць і пажыць у адным з маёнткаў графа. У тыя часы Хадкевічам належылі разлеглыя зямельныя валоданні на тэрыторыі сучаснай

57 НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 11, спр. 1334, арк. 129–130.

58 НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 11, спр. 1334, арк. 130–131.

59 НГАБ у Гродне. Ф. 10, воп. 13, спр. 252, арк. 1; Ф. 89, воп. 1, спр. 7, арк. 23–24; Ф. 24, воп. 7, спр. 287, арк. 110; Ф. 1, воп. 21, спр. 100, арк. 105–106.

60 НГАБ у Гродне. Ф. 96, воп. 1, спр. 706, арк. 1–29.

61 НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 27, спр. 783, арк. 3; Ф. 1, воп. 28, спр. 724, арк. 1, 3, 9, 11, 12, 14, 18, 30, 38, 40; Ф. 1, воп. 28, спр. 973, арк. 27–28; Ф. 10, воп. 13, арк. 1; Ф. 931, воп. 1, спр. 25, арк. 1, 8.

62 [D . c. n.] A. E. Odynec // Kłosy. — 1885. — № 1057. — S. 222.

Украіны і Беларусі (у тым ліку ў непасрэднай блізкасці ад сузінаўскіх Залешанаў). З пэўных прычын суб'ектыўнага характару Тамаш дадзенай прапановай не скарыстаўся (хоць падобныя намеры ў яго былі[63]). Затое яе з удзячнасцю прыняў Адам. У студзені 1838 г. ён накіроўваецца ў адну з рэзідэнцый Хадкевічаў — Млынаў, дзе планаваў знайсці працу ў хімічнай лабараторыі графа Аляксандра Хадкевіча. Але пасля раптоўнай смерці апошняга быў вымушаны выконваць абавязкі гувернёра Баляслава — малодшага брата Яна Хадкевіча. У хуткім часе з уласнае ініцыятывы Адам адмовіўся ад гэтай работы, але застаўся ў Млынаве, заняўшыся ўпарадкаваннем хатняга архіва князёў. Аднак у гэты момант у яго жыццё, якое толькі пачалося наладжвацца, ужо не ў першы раз умяшаліся палітычныя абставіны: 20 ліпеня 1838 г. царскія ўлады зноў яго арыштоўваюць. З Млынава пад наглядам яго перавозяць у Луцк, а адтуль — у кіеўскую крэпасць.

Падставай для арышту і далейшага зняволення А. Сузіна на гэты раз сталі абвінавачанні ў яго датычнасці да арганізацыі Шымона Канарскага. Гэтай постаці апошнім часам айчыннымі гісторыкамі аддаецца досыць шмат увагі[64]. Таму мы не будзем падрабязна спыняцца на адметнасцях функцыянавання створанага ім тайнага таварыства «Судружнасці польскага народа» і мэтах, якія яно перад сабой ставіла. Адно адзначым, што гэтая разгалінаваная падпольная сетка складалася з некалькіх студэнцкіх таемных колаў, жаночага філіяла і тэрытарыяльных аддзяленняў на землях сучаснай Беларусі, Літвы і Украіны.

Допыт Сузіна праводзіў сам кіеўскі генерал-губернатар Дзмітры Бібікаў. Паколькі адказы, дадзеныя Адамам падчас гэтага этапу следства, маюць вялікую цікавасць для лепшага разумення яго і яго атачэння, аўтары палічылі неабходным прывесці іх цалкам у дадатку [**гл. дадатак 1**]. У цэлым сведчанні больш ставяць пытанні, чым даюць адказ. З аднаго боку, згодна з імі, былы філарэт не меў ніякага дачынення да канспірацыі Ш. Канарскага. Але з другога — яго сустрэчы і перапіска з такімі яе актыўнымі ўдзельнікамі, як І. Радзевіч (адзін з найбольш блізкіх паплечнікаў Канарскага і яго давераная асоба), Л. Орда (сакратар Кобрынскага аддзялення таварыства), І. Былевіч (сакратар Луцкага аддзялення), пакідаюць шмат пытанняў. Дарэчы, шмат пытанняў засталося і ў царскіх уладаў. Незадаволеныя вынікамі допытаў, яны вырашылі прыбегнуць да больш дзейсных метадаў, а менавіта вочных ставак з галоўнымі фігурантамі гэтых спраў у надзеі, што апошнія выведуць Сузіна на чыстую ваду. А паколькі на той час дадзеныя асобы трымаліся ў Вільні, дзе таксама дзейнічала аналагічная камісія па той жа справе, то было вырашана Адама таксама накіраваць у гэты горад.

Тут за яго ўзяліся новыя следчыя. Іх цікавілі самыя дробныя дэталі і падрабязнасці: хто што каму казаў, перадаваў, калі гэта адбылося, што значаць тыя ці іншыя словы і выразы ў тым ці іншым лісце, з кім і калі сустракаўся і г. д. і г. д. Акрамя звы-

[63] Śliwowska, W. Zesłańcy polscy w Imperium Rosyjskim w pierwszej połowie XIX wieku. — Warszawa, 1998. — S. 704.

[64] Луговцова, С. «Заговор Конарского» и его организатор на страницах следственного дела 1838–1839 гг. (По материалам Литовского государственного исторического архива в г. Вильнюсе) // Российские и славянские исследования. — Вып. 5. — Минск, 2010. — С. 106–112; Луговцова, С. «Заговор Канарского»: Мозырское демократическое общество и его участники // Працы гістарычнага факультэта БДУ: навук. зб. — Вып. 5. — Мінск, 2010. — С. 297–315; Луговцова, С. Заговор Конарского и его участники: Ян Былевский // Працы гістарычнага факультэта БДУ: навук. зб. — Вып. 6. — Мінск, 2011. — С. 153–164; Ильин, А. Деятельность «Содружества Польского народа» на Брестско-Пинском Полесье // Российско-польский исторический альманах. — Вып. V. — Ставрополь, Волгоград, Москва, 2011. — С. 108–122; Радзюк, А. Дзейнасць арганізацыі Канарскага на Гродзеншчыне // Культура, наука, образование в современном мире. — Гродно, 2009. — С. 153–158.

чайных допытаў у Адама адбылося некалькі вочных ставак з Л. Ордам, І. Былеўскім, І. Радзевічам і самім Ш. Канарскім [**гл. дадатак 2**]. Але, нягледзячы на ўсе старанні, нават пасля гэтых следчых працэдур новых улік супраць Сузіна здабыць не ўдалося. Таму яго зноў перавозяць у Кіеў. Тут 5 лютага 1839 г. быў вынесены канчатковы вердыкт. У ім Адам не быў аднесены ні да якой катэгорыі «віны» і безумоўна апраўданы. 19 лютага прысуд быў канфірмаваны Мікалаем І. Адзіным спагнаннем, якому Сузін быў падвергнуты, стаў паліцэйскі нагляд (пад якім ён і без таго знаходзіўся). Акрамя таго, як і іншыя ўдзельнікі гэтага працэсу, ён павінен быў вярнуць казне ўсе грашовыя выдаткі, якія тая панесла на арганізацыю ўсіх судова-следчых мерапрыемстваў. У гэтую суму ўваходзілі камандзіроўкі чыноўнікаў, транспарціроўка арыштанта з месца на месца, рахунак за знаходжанне ў турме і пад.

Пастанова аб абавязковым вяртанні следчых выдаткаў ускладніла і без таго нялёгкае матэрыяльнае становішча Адама. Вышэй ужо пісалася, што бацькоўскі маёнтак Залешаны не мог забяспечыць больш-менш прыстойнага існавання. Таму Сузін, як і большасць мясцовай шляхты ў падобнай сітуацыі, заняўся пошукамі месца службы. Далейшая чыноўніцкая кар’ера ў дзяржаўнай сістэме больш яго не вабіла. Ён абраў іншы шлях. У 1842 г. падчас выбараў, што адбыліся на сейміке брэсцкага павятовага дваранства, ён быў абраны дэпутатам на губернскі аналагічны сход. Такім чынам, перад ім адкрывалася рэальная перспектыва заняць адну з выбарных пасад на губернскім ці павятовым узроўні. На пачатку 1843 г. ён у складзе брэсцкай дэлегацыі прыбыў у Гродна «для ўдзелу ў пастановах і выбарах дваранства»[65]. Аднак да самой працэдуры галасавання ён дапушчаны так і не быў. Бар’ерам на шляху ў гэтым кірунку стаў царскі ўказ ад 24 сакавіка 1842 г. аб недапушчэнні да выбараў дваранства асоб, якія былі датычныя да паўстання 1831 г. і тайных таварыстваў. Марнымі аказаліся спробы Адама знайсці праўду, спасылаючыся на тое, што ў 1839 г. ён атрымаў звальненне з Пагранічнай камісіі ў Арэнбургу «з дазволам працягнуць службу, дзе пажадае»[66]. Вышэйшыя органы былі непахісныя і патрабавалі замяніць яго кандыдатуру на іншую, больш лаяльную. У выніку Адам да ўдзелу ў наступным этапе выбараў дапушчаны не быў. У гэтым эпізодзе таксама хацелася б звярнуць увагу на тое, што Сузін, нягледзячы на досыць кароткі час яго знаходжання на радзіме і свой нізкі, у параўнанні з іншымі землеўладальнікамі, матэрыяльны дастатак, карыстаўся сярод мясцовага дваранства безумоўным аўтарытэтам і даверам.

Аб далейшым жыцці Адама вядома не шмат. Як большасць сяброў яго маладосці, з тых, што засталіся на радзіме, ён цалкам адышоў ад палітычнай дзейнасці, сканцэнтраваўшыся на здабытку хлеба надзённага. Дзеля гэтых мэт у пошуках службы ён у 1841 г. прыязджаў у Вільню, дзе меў магчымасць ізноў сустрэцца з Т. Занам. Пасля няўдачы на дваранскіх выбарах яму ўдалося атрымаць пасаду адміністратара ў адным са староставаў разлеглых валоданняў Л. Вітгенштэйна (верагодней за ўсё, Геняйцішкі ў Віленскай губ.[67]). Тут ён заняўся ўпарадкаваннем сялянскіх павіннасцей і плацяжоў. Прыступіў Адам да выканання гэтай працы з уласцівай яму бесстароннасцю і справядлівасцю. Але такі падыход не спадабаўся дзяржаўцы староства, які высунуў супраць яго абвінавачанні ў «дэмагагічнай дзейнасці». Аднак князь Л. Вітгенштэйн у гэтым канфлікце, безумоўна, падтрымаў Сузіна[68]. Доказам апошняга з’яўляецца і тое, што на працягу наступных 20 гадоў Адам працягваў сваю службу ў парадзівілаўскіх валоданнях на розных пасадах. І толькі

[65] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 11, спр. 1334, арк. 87.

[66] Тамсама. Арк. 124, 127, 272.

[67] НГАБ у Гродне. Ф. 1, воп. 21, спр. 100, арк. 105–106.

[68] Odyniec, A. E. List otwarty do redaktora Tygodnika Ilustrowanego // Tygodnik Illustrowany. — 1880. — № 215. — S. 82

тады, стомлены і прыгнечаны хваробамі, ён падаў у адстаўку. Апошнія гады свайго жыцця Адам разам з жонкай правёў у Варшаве каля дачкі[69] і ўнукаў. Калі-нікалі ў якасці аднаго з нешматлікіх застаўшыхся ў жывых філамацка-філарэцкага кола браў удзел у грамадскіх мерапрыемствах (сустрэча з І. Дамейкам і пад.). Аднак праблемы са зрокам усё больш і больш абмяжоўвалі яго ў падобных кантактах. Памёр Адам 11 снежня 1879 г. у Варшаве і быў пахаваны на Павянзкоўскіх могілках.

Прадстаўлены аналіз жыцця і дзейнасці Адама Сузіна так і не дае адназначнага адказу на пытанне, кім жа быў ён насамрэч: няўрымслівым канспіратарам ці закладнікам склаўшыхся абставін. Адзін з аўтараў артыкула перакананы, што наш герой прыклад харызматычнага змагара і неперуўзыдзенага змоўшчыка, чыя роля (з прычыны яго ўмення хаваць тайны) да сёння з'яўляецца незаслужана недаацэненай. Іншы ж аўтар лічыць (і тут ён салідарны з блізкім сябрам і адначасова швагрaм Адама А. Э. Адынцом), што той быў закладнікам абставін, якія выпрабоўвалі яго цягам большай часткі жыцця. Што не выклікае сумненняў, дык гэта тое, што Сузін быў адметнай постаццю сваёй эпохі, якая з часам ператварылася ў адзін з яе сімвалаў, чалавекам нязломнага духу і волі, асобай неверагоднай маральнай чысціні. Менавіта дзякуючы такім, як ён, быў закладзены філамацка-філарэцкі міф, у якім чэрпалі крыніцу натхнення новыя і новыя пакаленні змагароў за свабоду сваёй зямлі.

*Аляксандр ІЛЬІН,*
*Алесь РАДЗЮК*

## ДАДАТАК 1

*Находившемуся Волынской Губернии Дубенского Уезда в имении Млынов у помещиков Графов Ходкевичей Дворянину Г-ну Коллежскому Секретарю Адаму Сузину*

*Июля 21 дня 1838 года*

*Запрос*[70]

*1. Я собственно не имею никакого имения, но за отцом моим состоит Гродненской губернии в Брестском уезде деревня Залешаны из шестнадцати душ состоящая.*

*2. На звание Гувернера хотя теперь не имею позволения, но имея университетскую степень, что по Высочайшем о сем предмете учреждениям, мог бы оное получить.*

*3. В Млынове я нахожусь с Генваря м-ца текущего года. Хотя мне прежде предлагаемо было от Графа Ходкевича заняться обязанностию Гувернера при малолетнем Болеславе*[71]*, его брате, но я, находя сие занятие отяготительным для моего здоровья, по кратковременном испытании оставил сие намерение и до времени, по просьбе Графа Ходкевича, занимался укладыванием бумаг, касающихся его имения.*

*4. После истечения трёхмесячного срока данному мне из Брестского Земского Суда билету, я замедлил исходатайствовать для себя новый, потому что я полагал, что, полученная мною из Оренбургской Пограничной Комиссии, отставка может служить мне в качестве паспорта.*

[69] Яго дачка Міхаліна Сузіна пабралася шлюбам з А. Фішарам, польскім патрыётам, які, як і яго цесць, быў таксама высланы ў Арэнбургскую губерню. Цікава, што ён таксама вучыў дзяцей каменданта Орскай крэпасці Д. Ісаева і таксама ўвёў у яго дом свайго сябра — Тараса Шаўчэнку.

[70] Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Украіны (далей ЦДГАУ). Ф. 470, воп. 1, спр. 159, арк. 12–29.

[71] Граф Баляслаў Хадкевіч (1826–1867) — сын Аляксандра Хадкевіча і яго другой жонкі.

## ПОСЛЕДНИЕ ГОДЫ

В конце 1912 г. Осип Лазаревич отметил свое семидесятилетие. Журнал «Минские врачебные известия» опубликовал краткий отчет о чествовании доктора[64], процитировав адрес, поднесенный юбиляру Обществом минских врачей:

«Общество Минских врачей неоднократно пользовалось случаями для оценки Вашей плодотворной врачебной деятельности. Как учредителя и чрезвычайно полезного члена Общества оно вписало Вас в число своих почетных членов; оно избрало Вас в президенты и вице-президенты Общества; оно глубоко скорбело, когда болезнь отрывала Вас от работы; оно искреннее радовалось, когда Вы со свежими силами снова возвращались в его среду».

Друзья и почитатели доктора Лунца собрали 1800 р., предназначаемые на стипендию его имени при каком-нибудь учебном заведении по его выбору. Осип Лазаревич выразил свою глубокую благодарность и заявил, что эту сумму он предназначает на стипендию при минском еврейском ремесленном училище.

Заметка кончается упоминанием о том, что в торжестве «принял участие и проживающий в Москве сын О. Л. д-р мед. Р. О. Лунц».

После революции 1917 г. многое, разумеется, переменилось. Исчезла с политической арены кадетская партия, была «перепрофилирована» хоральная синагога. Но доктор Лунц продолжал оставаться одной из центральных фигур общественной жизни Минска. Выступая в 1922 г. на праздновании шестидесятилетнего юбилея Общества минских врачей, председатель ЦИК БССР Червяков сказал: «Я помню: в 1919 г., когда под Минском происходили бои, а над городом летали польские аэропланы, члены общества доктор Лунц и доктор Балковец приходили на заседание Наркомпроса и настаивали на организации Белорусского государственного университета»[65]. По некоторым сведениям, Лунц входил в белорусскую комиссию по организации главного вуза республики.

Жил он по-прежнему в доме № 89, только здание числилось уже не по Захарьевской, а по Советской улице[66]. Продолжая заниматься лечебной деятельностью, он, конечно, не мог уже в силу возраста принимать активное участие в работе Общества минских врачей, оставаясь, тем не менее, его почетным председателем[67]. На открытии юбилейного заседания Общества 29 января 1927 г., когда председательствующий профессор Титов «упомянул, что среди присутствующих находится один из учредителей О-ва, ныне почетный председатель его, д-р О. Л. Лунц, все собрание поднялось со своих мест и устроило д-ру Лунцу бурную овацию»[68]. А заседание, состоявшееся 11 февраля, «было посвящено чествованию д-ра О. Л. Лунца по поводу 60-летия его врачебной деятельности в гор. Минске. Юбиляру был поднесен адрес, в котором О-во врачей особенно подчеркнуло любовь д-ра Лунца к науке, не утраченную им в преклонном возрасте, а также его корректные и сердечные отношения к товарищам»[69].

---

[64] Минские врачебные известия. — 1913. — № 1.

[65] Медицинский вестник. — 2008. — № 29 (863). 18 июля.

[66] Список членов Научного общества минских врачей на 1-е января 1929 г. В книге: Научное общество минских врачей: 1928 г.: протоколы заседаний. — Минск: издание Общества врачей, 1929. — С. 87.

[67] Там же. С. 82.

[68] Там же. С. 3.

[69] Там же. С. 4.

Видимо, это было одно из последних появлений Осипа Лазаревича Лунца на публике. Он скончался в 1930 г. (точную дату смерти еще предстоит установить) в возрасте 87 лет. Похоронили доктора Лунца, скорее всего, на еврейском кладбище, которое через полвека было снесено «благодарными потомками».

Но память о замечательном враче жива.

## ПОСЛЕСЛОВИЕ

Расхожее выражение «на детях гениев природа отдыхает» нужно все-таки употреблять с осторожностью. Вот успешный купец Лазарь Лунц, который понимал, что сыну нужно дать хорошее образование. Вот Осип Лунц, который более шестидесяти лет приносил ощутимую пользу минчанам — и как медицинский, и, что не менее важно, как моральный авторитет. Вот его сын Роман — врач-педиатр высшего класса, которого вспоминают и через семьдесят лет после его смерти. Вот его дочь Ольга — музыкант, знаток языков. Вот его внук Казимир — полиглот, как его мать. И даже Даниилу Лунцу нельзя отказать в таланте медика — только вот талант этот он поставил, к огромному сожалению, на службе неправому делу.

И вот что еще интересно. Смотрите, как разошлись от доктора Минского реального училища круги... не по воде, конечно, по окружающему нас миру. Скрябин, Плеханов, Цветаевы, отец и сын Самойло — это только первый, очевидный и самый близкий ряд. А сколько еще выдающихся людей находятся от стоящего в центре этих кругов Осипа Лунца на расстоянии двух-трех рукопожатий?

Поневоле вспомнишь знаменитое: «Нет человека, который был бы как Остров, сам по себе, каждый человек есть часть Материка, часть Суши». И мы на этой Суше тоже стоим.

Автор выражает искреннюю благодарность:

Луиджи Марино, главе Ассоциации культуры «Максим Горький» (Неаполь, Италия), много лет дружившему с Казимиром Кобылянским и сообщившему немало интересных фактов его биографии;

Сергею Шупе, переводчику, прояснившему множество нюансов, связанных с книгой «Минск — город и мать»;

Михаилу Борцу, коллекционеру из Санкт-Петербурга, приславшему сканы открыток, отправленных дочерьми О. Л. Лунца.

*Вадим ЗЕЛЕНКОВ*

# ГІСТОРЫК У ВЫСЫЛЦЫ:
# ДА БІЯГРАФІІ МІХАЛА ШЫМЯЛЕВІЧА

Біяграфія Міхала Шымялевіча друкавалася ў № 6 «АіЧ»[1] і «Лідскім Летапісцы»[2] таму ва ўступе да рукапіснай працы гісторыка я зраблю толькі некалькі заўваг.

**Міхал Шымялевіч** (18.10.1879–11.01.1969) — найлепшы лідскі гісторык XX ст. Вышэйшую адукацыю атрымаў у Кракаве да 1914 г. Аўтар шэрагу кніг і артыкулаў, якія сталі падмуркам навуковага вывучэння гісторыі Лідчыны.

У 1940 г. Міхал Шымялевіч быў вывезены ў Казахстан, ягоны дом плошчай 71,41 м$^2$ у Лідзе быў канфіскаваны. 13 красавіка 1940 г. сям'і «ворагаў народа» з Заходняй Беларусі, каля 130 тысяч чалавек, у асноўным жанчыны і дзеці, былі дэпартаваныя ў неабжытыя раёны паўночнага ўсходу СССР. Гэта была не першая і не апошняя высылка — вывозіць людзей пачалі яшчэ восенню 1939 г.

Насельніцтва не разумела, што адбываецца. Як гэта можна хапаць людзей і вывозіць невядома куды? Сяргей Пясецкі, сам відавочца тых падзей, у рамане «Чалавек, перамянёны ў ваўка» перадаваў размовы насельніцтва Заходняй Беларусі на гэты конт:

*«— Калі б так за польскім часам людзей хапалі халера ведае за што і везлі на смерць, дык што б пісалі тады газеты? Сабраліся б бабы з усяго горада і венікамі такую паліцыю ў туалет загналі б! А зараз трэба маўчаць, бо заб'юць!*

*[...]*

*— Як спраўна яны гэта робяць! — здзіўляўся сусед Юзафа.*

*— Мелі дваццаць два гады практыкі.*

*— Нашто ім забіраць людзей адсюль? У саміх няма чаго есці!*

*— Не ведаеш нашто? — тлумачыў мужчына ў шэрым паліто. — У іх чалавек таннейшы за каня. Дадуць яму суп з бруквы — і ён будзе рубіць лес. Заробяць на кожным, пакуль не памрэ»*[3].

У 1950-я гг. Міхал Шымялевіч апісваў высылку ў лісце да былога суседа па Лідзе Вітольда Драмовіча. Інфармацыя гэтага ліста дадае шмат важкага да надрукаванай тут працы, і таму я дазволю сабе працытаваць вялікую частку:

*«Я 13 красавіка 1940 года быў вывезены разам з сваёй жонкай і малодшай дачкой, жонкай польскага афіцэра на ўсход.*

*Разам з намі было вывезена з Ліды і павета некалькі тысяч душ. Вывезеных раскідалі па некалькіх раёнах Паўночнага Казахстана. Каля тысячы нашых людзей яны пасялілі ў Палудзінскім раёне Паўночна-Казахстанскай вобласці, за 40 кіламетраў ад Петрапаўлаўска. Тут няшчасныя людзі рассяліліся па вёсках у жабрацкіх хатках, збудаваных з вялікіх неабпаленых цаглін з гліны, гною і саломы. Тыя бедныя хаткі мелі дахі з плеценых лазовых матаў, змазаных глінай. У хатках крайняя беднасць, і мы, колькі там жылі, жылі толькі з таго, што прадавалі сваю вопратку за бульбу, малако і вельмі рэдка за нейкі кілаграм мукі. Нашы людзі, а гэта былі практычна ўсе жанчыны з дзецьмі, жонкі паліцыянтаў, афіцэраў, сяржантаў, урадоўцаў, якія на вайне з Гітлерам былі забітыя, забраныя да няволі нямецкай або забраныя Саветамі, сядзелі ў вязніцах ці лагерах у Катыні, Казельску, Старабельску і іншых месцах. Мужчын было вельмі мала, і то адны дзяды. Хто мог, пайшоў на працу. Хто*

[1] Гл: Лаўрэш, Леанід. Пра Міхала Шымялевіча: Крэскі да біяграфіі найлепшага гісторыка горада Ліды // Асоба і час: Беларускі біяграфічны альманах. — Вып. 6. — Мінск, 2015. — С. 133–165.

[2] Гл: Лаўрэш, Леанід. Міхал Шымялевіч // Лідскі летапісец. — 2016. — № 1(73). — С. 45–58.

[3] Piasecki, S. Człowiek przemieniony w wilka.— Warszawa, 2000. — S. 14, 16.

*рабіў у гразі і вадзе цэглу, хто запісаўся ў калгасы або саўгасы. Я атрымаў працу пры інжынерах, якія шукалі нафту ў стэпах Казахстана. Хадзіў з усёй партыяй па стэпах, начаваў у палатках. Што чалавек зарабляў, тое з'ядаў і не наядаўся. Лета было гарачае. 40 гр. цяпла.*

*Прыйшла зіма, снежная, марозная і доўгая. Мароз трымаўся 30–40 гр. Нашы людзі вымушаны былі разам з усімі ісці на цяжкія работы — ачышчэнне снегу з чыгуначнай каляі, на будоўлі нафтавых вышак, і ўсё гэта ў холадзе, у голадзе і практычна задарма. Прыйшла вясна 1941 г., толькі распачаліся летнія работы, як выбухнула вайна Сталіна з Гітлерам. Рускіх людзей пабралі ў войска, а нас, не пытаючыся, ці хочам, ці жадаем, запакавалі на цягнікі і вывезлі за паўтары тысячы кіламетраў у Кустанайскую вобласць і пасялілі ў палатках над рэчкай Таболам ды пагналі на работы — капаць і ўкладваць баласт на будоўлі новай чыгункі. Там зноў у гразі, у голадзе, у вошах правялі некалькі месяцаў.*

*Напалі на нас розныя азіяцкія хваробы, язвы, сверб і ліха ведае што. Ледзь восенню вырваліся з таго пекла і па вялікіх муках жменька нас вярнулася ў Паўночны Казахстан. Там мы пагінулі б, бо за першы год толькі з нашай групы палякаў памерла 50 чалавек, пераважна з голаду. Але Пан Бог усё-ткі выказаў сваю міласэрнасць. Генерал Сікорскі дамовіўся са Сталіным, выпусцілі польскіх вязняў, генерал Андэрс пачаў фармаваць там польскую армію, а нас, палякаў, Амерыка і Англія ўзялі пад сваю апеку. Далі нам сякую-такую дапамогу, і мы пачалі аджываць. Але калі наша польскае войска аказалася выпраўленым у Іран за Каспійскае мора, то Саветы ўсіх тых, хто не пайшоў у войска (жанчын, дзяцей, старых) затрымалі ў сябе ў якасці закладнікаў. Абвясцілі сваімі падданымі і загадалі выдаць нам савецкія пашпарты, як іх падданым. Плач, енк, што ўжо ніколі не вернемся да сваёй Айчыны. Сам я проста не хацеў гэтага прымаць і падгаворваў іншых, каб супраціўляліся і не бралі. Цвердзіў усім, што над намі апякуецца Англія і Амерыка і наш урад у Лондане. І нам не дадуць згінуць у Саветах. Суцяшаў, што ўсе вернемся ў Польшчу. За гэта мяне пасадзілі ў вязніцу на дзесяць гадоў. Цягалі мяне па вязніцах і следствах практычна ўвесь 1943 год і ў канцы вывезлі ў лагер на поўдзень ад Караганды. Зімой, пры 30 гр. марозу, вязлі нас пяць сутак у вагонах для жывёлы на кавалку сухога хлеба і вядры халоднай вады з лёдам. У тым падарожжы адмарозіў сабе ногі. Потым сядзеў пару месяцаў на раздзельным пункце ў Карабасе, адкуль мяне з чорнымі гнілымі пальцамі на нагах перавезлі ў шпіталь у Далінцы. Там мне ампутавалі вялікія пальцы на нагах, а астатнія палячылі, але і цяпер заўсёды мне баляць ногі, асабліва на халоднае надвор'е. Пяць гадоў ганялі мяне там з лагера ў лагер, жыў тыя пяць гадоў без кашулі, у падранай, смярдзючай ватоўцы і ў такіх жа портках. У канцы 20 сакавіка 1948 г., роўна праз пяць гадоў вывезлі мяне разам з іншымі, не здольнымі да працы (па амністыі), у Польшчу»*[4].

Пасля нармалізацыі адносін паміж урадам Польшчы ў Лондане і Сталіным, Шымялевіч быў прызначаны польскай амбасадай сваім прадстаўніком у Палудзенскім раёне і надрукаваныя ніжэй спісы ссыльных лідзян паходзяць ад спісаў, якія ён рыхтаваў для польскага ўрада. Адсюль і стандартнае для Другой Рэчы Паспалітай вызначэнне: паляк — рыма-каталік, беларус — праваслаўны.

Трэба зазначыць і змены ў самаідэнтыфікацыі былога сябра Таварыства беларускай школы і лідскага раднага ад беларусаў Міхала Шымялевіча. Пад уздзеяннем «рэальнага сацыялізму» ў гэтых спісах ён вызначае сваю сям'ю якраз як палякаў — рыма-каталікаў.

---

[4] Лаўрэш, Леанід. Пра Міхала Шымялевіча: Крэскі да біяграфіі найлепшага гісторыка горада Ліды // Асоба і час: Беларускі біяграфічны альманах. — Вып. 6. — Мінск, 2015. — С. 144–145.

Дарэчы, у выбарным спісе 1907 г. «другога з'езда гарадскіх выбаршчыкаў» у Дзяржаўную думу пад № 1152 Шымялевіч Міхал Іванавіч запісаны летувісам[5]. А ў выбарным спісе 1912 г. «асоб, якія маюць права удзельнічаць у другім з'ездзе гарадскіх выбаршчыкаў», у Дзяржаўную думу пад № 1379 Шымялевіч Міхал Іванавіч пазначаны ўжо як беларус[6]. Вышэйшая адукацыя дазволіла асэнсаваць лідзяніну сваё месца ў свеце, да таго ж з 1907 да 1912 г. беларускі рух зрабіў велічэзны крок наперад. Суседка Шымялевіча лідзянка Я. Ярмант успаміналa, што пры канцы 1930-х гг. нацыянальнае самавызначэнне было наступным: *«Калі пана Шымялевіча пыталіся пра яго нацыянальнасць, той заўсёды адказваў, што ён "тутэйшы". Гэта быў, на нашу думку, арыгінальны, але досыць поўны адказ. Ён побытам тутэйшы, здаўна жыве ў гэтым горадзе, і яго не цікавілі нацыянальнасці іншых жыхароў»*[7].

З'яўляецца загадкай, як Шымялевіч захаваў гэты тэкст пасля таго, як быў арыштаваны і пасаджаны ў лагер, і як ён вывез яго з сабой у 1948 г. Але на волі ён прывёў свае запісы ў парадак і дэпанаваў іх у Фондзе Асалінскіх, які знаходзіўся тады ва Уроцлаве — горадзе, дзе разам з сваёй сям'ёй жыла яго сярэдняя дачка Зоф'я Багаткоўская.

Зразумела, што ў тыя часы, калі лідзянін пісаў і дэпанаваў свой тэкст, ён павінен быў улічваць, што ў Польшчы таксама панавала камуністычная дыктатура.

Па маіх падліках, Шымялевіч дае звесткі пра не меней як 708 чалавек высланых у Палудзенскі раён. Дакладную колькасць ссыльных падлічыць немагчыма, бо аўтар часта піша прозвішча сасланага «з сям'ёй». Колькі чалавек было у такой сям'і — невядома. Акрамя сасланых, Шымялевіч дае звесткі пра некалькі сотняў арыштаваных чальцоў сямей тых, каго саслалі, і, такім чынам, з ягонага тэксту мы даведваемся пра лёс каля адной тысячы чалавек. Абсалютная большасць ссыльных Палудзенскага раёна Казахстана з Лідчыны, але былі людзі з суседніх паветаў і Украіны. Нацыянальны склад сасланых:

палякаў-католікаў — 511;
беларусаў-праваслаўных — 111;
яўрэяў — 76;
мясцовых татар — 5;
украінцаў (грэка-католікаў і праваслаўных) — 5.

Шымялевіч піша і пра ссыльных, якія вызначылі сябе: *«праваслаўны, але паляк»* ці *«рыма-католік, але беларус»*. Напрыклад, Аляксандр Кунцэвіч, настаўнік, падпаручнік рэзерву, *«выражаў нежаданне служыць у польскай арміі, бо лічыў сябе беларусам, а жонка лічыла сябе тутэйшай»*. А сям'я Крыпцаў лічыла сябе і беларусамі, і палякамі адначасова.

Сярод арыштаваных сваякоў тых, каго выслалі, у асноўным мужчыны. Сярод арыштаваных — афіцэры, паліцыянты, чыноўнікі, леснікі, шмат звычайных земляробаў. Зразумела, што ў сваёй большасці сем'і паліцыянтаў ды чыноўнікаў — палякі, рымакатолікі, але ў спісе ёсць і беларуская сям'я паліцыянта Фёдара Баркоўскага.

Савецкая ўлада не прызнавала за палякаў тых, хто нарадзіўся ў Расіі, напрыклад: *«Болтуц Клара (Клаўдзія), нарадзілася ў Расіі, пасля замуства прыняла рымакаталіцызм, аднак выехаць у Польшчу ёй не дазволілі»*.

Самая старая ссыльная Стэфанія Шалевіч з Юндзілаў, дачка Юзафа і Анны, 1853 г. н., самыя маладыя нарадзіліся ўжо ў цягніку: *«падчас транспартавання ў Палудзенскі раён у 1940 г. у Вольгі нарадзіўся сын Аляксандр, які памёр 17 красавіка 1941 г., — беларуска»*.

---

[5] Виленские губернские ведомости. — № 57, 21 июля 1907. — С. 13.
[6] Виленские губернские ведомости. — № 61, 1 августа 1912. — С. 28.
[7] Ярмонт, Е. В тени замка Гедемина. — Лида, 1995. — С. 46.

Сярод сасланых былі і вядомыя ў горадзе людзі, напішу толькі пра некаторых з іх.

Так, менавіта з працы Шымялевіча мы даведваемся пра лёс роднай сястры і брата Алаізы Пашкевіч (Цёткі). Добра абазнаны ў беларускай культуры, ён піша, што Стэфанія Сапоцька (1860 г. н.) — гэта старэйшая сястра Алаізы Пашкевіч: *«Стэфанія паходзіць з ваколіцы Пешчын Васілішскай гміны, з дому Пашкевіч. Была замужам за Сапоцькам у фальварку Шымкаўшчынаса Сабакінскай гміны. Удава. Яе малодшая сястра Алаіза Пашкевіч, у замустве Кайрыс, знаная беларуская паэтка з псеўданімам "Цётка" з віленскіх "Нашай Долі" і "Нашай Нівы", якая памерла ў часы Першай сусветнай вайны»*. Маючы больш за 80 гадоў, Стэфанія Сапоцька ў ссылцы, тым не менш, працавала вартаўніком у калгасе. У 1946 г. выехала ў Польшчу. Інфармацыю пра Войцаха Пашкевіча Шымялевіч падае, верагодна, са слоў сястры, бо яго не было ў Казахтане: *«Войцах Пашкевіч, 1872 г. н., падпаручнік рускага войска, жыў у Катлове пад Вільняй, у Рудамінскай гміне. Арыштаваны ў 1939 г., загінуў»*. Лёс сястры і брата класіка беларускай літаратуры стаў вядомы толькі дзякуючы працы Міхала Шымялевіча[8].

Патрапіла ў ссылку і сям'я вядомага лідскага сябра КПЗБ Антона Перавознага (сам ён загінуў у лагеры). Антон Перавозны — адзін з арганізатараў вялікага лідскага страйку 1936 г. Калі лідараў гэтага страйку пачалі судзіць, рабочы Перавозны хацеў уцячы ў СССР, каб ваяваць у Іспаніі, але быў арыштаваныя каля польска-савецкай мяжы. Польскі суд тады апраўдаў Перавознага, але хутка Саветы самі прыйшлі ў Ліду, і камуністы атрымалі ад іх тое самае, што і паліцыянты з суддзямі: ужо 30 кастрычніка 1939 г. камуніст Заходняй Беларусі Перавозны быў арыштаваны і пазней загінуў у лагерах. Дарэчы, нацыянальнасць беларускага актывіста і яго сям'і ў спісах таксама вызначаецца як *«палякі рыма-каталіцкага вызнання»*.

Са спіса даведваемся пра вываз у Казахстан Сабіны Шкоп — уладальніцы вядомай у Лідзе кніжнай крамы, якая знаходзілася недалёка ад Фарнага касцёла.

Узгадваюцца браты Прыбыткі — суддзя Юльян і краязнавец Антон Прыбытка. Антон Прыбытка, сын генерал-маёра рускай арміі Аляксандра Прыбыткі. У 1920–1930-я гг. неаднаразова выбіраўся ў Лідскую гарадскую раду, быў лаўнікам Лідскага магістрата і выдатным лідскім краязнаўцам, старшынёй Лідскага краязнаўчага таварыства. Аўтар шэрагу артыкулаў і кнігі «Кароткі турыстычны даведнік па Лідскім і Шчучынскім паветах» (1936). Пры канцы 1930-х гг. працаваў над вялікай манаграфіяй аб Лідскім і Шчучынскім паветах. 20 чэрвеня 1941 г. вывезены ў Мінусінскі край. Далейшы лёс невядомы.

З тэксту Шымялевіча даведваемся пра лёс сям'і лідскага пасла ў апошні польскі сейм Брыльскага: *«Муж Брыльскай — настаўнік гандлёвай гімназіі ў Лідзе ксяндзоў піяраў, пасол у астатні сейм, арыштаваны восенню 1939 г., з лагера прыбыў да сям'і на будаўніцтва чыгункі Акмолінск — Карталы ў вёску Гарадзішча... Чалябінскай вобласці»*.

Працы Шымялевіча ў польскіх архівах мною шукаліся мэтанакіравана і дастаткова працяглы час. Я ўдзячны свайму сябру з Варшавы Янушу Сегеню, без якога немагчыма было б атрымаць копіі тэкстаў лідскага гісторыка. Дарэчы, дзед Януша Сегеня — сусед і блізкі сябра Міхала Шымялевіча.

Напісанне і захаванне гэтай працы — сапраўдны навуковы подзвіг найлепшага лідскага гісторыка XX ст. Менавіта з такім вызначэннем Міхал Іванавіч Шымялевіч назаўжды ўвайшоў у гісторыю нашага горада.

---

8 Гл: Лаўрэш, Леанід. Лёсы родных Алаізы Пашкевіч // Лідскі Летапісец. — 2016. — № 3(75). — С. 15–16.

*Міхал Шымялевіч*

*Пераклад, каментаванне*
*і ўступны артыкул*
*Лявона ЛАЎРЭША*

## ВЫСЯЛЕННЕ Ў КАЗАХСТАН У 1940 Г. ЗНАЧНАЙ ЧАСТКІ ЖЫХАРОЎ ЛІДСКАГА ПАВЕТА[9]

У Сярэднюю Сібір — у Томскі і Табольскі край, першымі выселілі ўсіх вайсковых асаднікаў і былых леснікоў з іх сем'ямі. Не прызвычаеныя да клімату і жыцця там, яны працавалі і паміралі ў сібірскай тайзе.

Памятаю, стаяў моцны мароз. Разам з дарослымі вывозіліся малыя дзеці, яны і спарахнелыя старыя хутка паміралі. Не давалі нават хлеба. З таварных вагонаў на станцыі Ліда маці высоўвалі рукі і лямантавалі — дайце за грошы малака для хворага дзіцяці, дайце лекі. Каля вагонаў нельга было збірацца: вагоны атачала строгая ахова. З вагонаў вынеслі некалькі трупаў памерлых дзяцей. Гэта быў цягнік, які вывозіў людзей Ваўкавыска. Тое ж было і з іншымі цягнікамі.

Узімку 1939–1940 гг. у Лідзе не хапала хлеба, солі, цукру, паліва, тлушчаў і нават бульбы. Немагчыма было купіць ніякую вопратку ці абутак. Нешта яшчэ можна было купіць патаемна — з-пад палы. Аднак для афіцэраў (камандзіраў і начальнікаў Чырвонай арміі) меўся ахоўны і добра забяспечаны таварамі з нацыяналізаваных прадпрыемстваў такі сабе гандлёвы дом. Сюды нельга было заходзіць пабочным. Новыя паны рабілі прыёмы, балі і вечарыны, а іх дамы, якія прыехалі з усходу, былі ўбраны ў тутэйшыя начныя кашулі і ў свае родныя валёнкі, бо пантофляў для ўсіх іх не хапала — так і танцавалі на сваіх вечарынах.

Вакол Ліды рабаваліся двары. У лістападзе адбыліся выбары дэлегатаў, якія меліся ехаць у Беласток пастанавіць там тое, што будзе патрэбна. Калі пыталіся ў агітатараў, для чаго тыя выбары, адказвалі: выбары каб выбраць дэлегатаў. З'ехаліся і пастанавілі далучацца да «матери».

Усю зіму з усходу па шашы з боку Ліпнішкаў і паўднёва-ўсходняй шашы з боку Навагрудка на захад, да Гродна, каціліся хваля войскаў: танкі, артылерыя, бясконцыя калоны аўтамабіляў, тысячы жалезных бочак бензіну. Людзі выходзілі паглядзець на гэтую сілу. Хто ж можа яе зламаць? Тым не менш былі і такія, якія казалі, што хутка ўсяму гэтаму будзе канец.

У сакавіку па горадзе паплыла таямнічая вестка, што чыгуначнікі на станцыі Ліда рыхтуюць таварныя цягнікі да далёкага падарожжа, робяць у вагонах нары, ставяць печкі, робяць дзіры замест туалетаў і г. д. Рыхтуюцца да другой хвалі выгнання. Але ж каго будуць вывозіць? Арыштаваных у Лідзе і павеце пасля заканчэння допытаў везлі на суд у Мінск а потым накіроўвалі на поўнач і на паўночны ўсход. Але куды павязуць на гэты раз? Шчаслівыя былі тыя, хто меў хоць нейкае дачыненне да тэрыторый Гданьскага калідора і Познанскага ваяводства: яны выдавалі сябе за даўніх грамадзян Германіі, падавалі дакументы ў гарадскую нямецка-савецкую камісію па рэпатрыяцыі і атрымлівалі дазвол на выезд за Буг.

А тым часам на вёсцы ішла шалёная агітацыя за стварэнне калгасаў, сяляне забівалі войтаў (Ліпнішкі), паліцыянтаў, рабавалі двары больш багатых гаспадароў. Шалела НКУС і насустрач незлічоным эшалонам, якія везлі войскі на захад, ішлі бясконцыя эшалоны з арыштаванымі на ўсход.

---

[9] Michał Szymielewicz. Wysiedlenie do Kazachstanu w r. 1940 znacznej części mieszkańców powiatu lidzkiego // Fundacja-Zakład narodowy im. Ossolńskich. Katalog Rękopisów akcesyjnych Akc. 26/56. S. 9–89.

Смутная і трагічная была восень і зіма 1939–1940 гг., сумныя святы Божага Нараджэння і Вялікадня не прынеслі спакою. Наступіў шэры, але цяплейшы красавік[10].

***Такушынскі Саўхоз № 299, Пошта Такушы***

**Вёска Трызень (Дырэкцыя саўгаса)**

Вячарак Яніна з Кянцеў, 1908 г. н.

Яе дачка Данута Марыя, 1927 г. н.

Яніна цяжка працавала на будаўніцтве ў саўгасе ў 1942 г. Выконвала абавязкі памагатай раённага прадстаўніка польскага ўрада. У 1943 г. прыехала ў Такушы. Данута Марыя вучылася ў 7-класнай школе ў саўгасе, з 1943 г. — у такушоўскай сярэдняй школе. У Польшчу выехалі ў 1946 г.

Муж Вячорак Радаслаў, 1896 г. н., старшы вахмістр 13 узвода палявой жандармерыі ў Лідзе. У 1939 г. быў арыштаваны, падобна, быў у Асташыне[11]. Падобна, меўся ліст, што ў 1941 г. ён уступіў у польскую армію. Больш ніякай інфармацыі няма.

Палякі, рыма-каталікі.

Мікалаеўская Ядвіга, 1904 г. н., краўчыха.

Муж Францішак Мікалаеўскі, 1896 г. н., вахмістр 13 узвода палявой жандармерыі ў Лідзе. 10 кастрычніка 1939 г. арыштаваны ў Лідзе. У 1941 г. уступіў у польскую армію, выпадкова даведаўся пра месца жыхарства жонкі, прыязджаў у Трызень. У 1942 г. забраў яе ў дзейную армію.

Палякі, рыма-каталікі.

Яжоўскі, афіцэр польскай арміі, верагодна, паручнік, лётчык. Прыбыў сюды з лагера ў 1941 г. і на пачатку 1942 г. выехаў у дзейную польскую армію. Ніякай дадатковай інфармацыі няма.

Казюн Хэлена, 1893 г. н.

Дачка Яўгенія, 1918 г. н.

Дачка Марыя, 1927 г. н.

Сын Ян, 1927 г. н.

Сын Леан, 1919 г. н. Жонка Леана, Наталля, 1918 г. н. Іх дачка Людміла, 1940 г. н.

Дачка Яўгенія выйшла замуж за савецкага грамадзяніна Гісамадзінава — татарына.

Леан працаваў у саўгасе конюхам. Марыя, Ян і Яўгенія працавалі ў саўгасе.

З вёскі Шчэніцы Берштаўскай гміны Гродзенскага павета.

Муж Казюн Хэлены, Мікалай Казюн, 1891 г. н., селянін. Арыштаваны 22 снежня 1939 г. Загінуў.

Беларусы, праваслаўныя.

**Вёска Грынёўка**

Драздоўская Валерыя, 1904 г. н.

Сын Збігнеў, 1929 г. н.

Сын Мечыслаў, 1936 г. н.

Дачка Зоф'я, 1942 г. н.

Слабая здароўем Драздоўская працавала звычайнай рабочай у саўгасе. Напрыканцы была звольненая ад цяжкай працы і працавала ў садку. Сын Збігнеў з 1942 г. працаваў у саўгасным садзе. Драздоўская памерла. Яе дзеці прыехалі ў Польшчу ў 1946 г.

[10] Заўвага: уступная частка напісана ўрыўкамі і яўна не закончана. Адсутнічае, напрыклад, апісанне высялення. Аўтар адразу пераходзіць да спісаў выселеных лідзян. — *Л. Л.*

[11] Лагер у Асташыне.

Яўген, муж Драздоўскай, 1904 г. н. Настаўнік агульнаадукацыйнай школы ў Шчучыне. Арыштаваны 14 снежня. Пры канцы 1941 г. прыехаў да сям'і з лагера і на пачатку 1942 г. з'ехаў у дзейную польскую армію.

Палякі, рыма-каталікі.

Гмітрак Анастасія.

Дачка Ядвіга.

Муж — паліцыянт, арыштаваны ў 1939 г.

Прыбылі сюды летам 1942 г. разам з маладым інжынерам Віктарам Казловым, савецкім грамадзянінам, за якога Ядвіга выйшла замуж. Разам з імі жыла маці. Тут у Ядвігі нарадзілася дзіця.

Палякі, рыма-каталікі.

**Вёска Круглае**

Блажэўская Ядвіга, 1892 г. н.

Сын Павел, 1924 г. н.

Дачка Апалонія, 1925 г. н.

Усе трое працавалі звычайнымі рабочымі ў саўгасе. Павел і Апалонія вучыліся ў сярэдняй школе ў Гродне.

Яўген, 1885 г. н., муж Блажэўскай, паліцыянт мястэчка Астрына Шчучынскага павета. Арыштаваны 29 кастрычніка 1939 г. Загінуў.

Выехалі ў Польшчу ў 1946 г.

Палякі, рыма-каталікі.

**Ферма Янсан (саўгасная ферма № 1)**

Андруконіс Эльяш, 1898 г. н.

Яго жонка Уладзіслава, 14.10.1900 г. н.

Дачка Вацлава, 1924 г. н.

Дачка Ірэна, 1927 г. н.

Дачка Анастасія, 1929 г. н.

Маці мужа Катажына, 1866 г. н.

Бацька і дачка Вацлава працавалі звычайнымі рабочымі ў саўгасе, Ірэна — нянькай у саўгасных яслях.

Андруконіс Эльяш, селянін, жыхар вёскі Пасада Радунскай гміны Лідскага павета. Быў войтам сваёй гміны, арыштаваны 24 сакавіка 1940 г. Да сям'і ў Казахстан прыехаў з лагера ў 1942 г.

Выехалі ў Польшу ў 1942(?) г.

Палякі, рыма-каталікі.

Гук Юзаф, 1890 г. н.

Яго жонка Марыя, 1892 г. н.

Дачка Хэлена 1921 г. н.

Дачка Яніна, 1925 г. н.

Юзаф Гук, селянін, уладальнік надзелу зямлі ў вёсцы Рыўконты, гміна Новы Двор Шчучынскага павета. Арыштаваны 29 лістапада 1939 г. за тое, што, каб даведацца пра лёс расстралянага пляменніка Вацлава Гука (1911 г. н.), селяніна з вёскі Малінаўкі і брата жонкі Гіля Юзафа з вёскі Малінаўкі той жа гміны, напісаў прашэнне.

Юзаф Гук і дочкі Хэлена і Яніна працавалі ў саўгасе як звычайныя рабочыя. У 1946 г. выехалі ў Польшчу.

Палякі, рыма-каталікі.

Юрэвіч Леакадзія, 1909 г. н.
Сын Караль, 1938 г. н.
Муж Зыгмунт Юрэвіч, 1905 г. н., сын уладальніка фальварка Вышпаль (у Баранавіцкім павеце), арыштаваны ў кастрычніку 1939 г. Загінуў.
У 1941–1943 гг. працавала як прачка на... у саўгасе. Выехала ў Польшчу ў 1946 г.
Палякі, рыма-каталікі.

Куліноўская Антаніна, 1900 г. н.
Сын Збігнеў, 1927 г. н.
Сын Аляксандр, 1928 г. н.
Сын Ежы, 1932 г. н.
Сын Юзаф, 1935 г. н.
Дачка Зоф'я, 1937 г. н.
Сын Багдан, 1930 г. н., памёр у Казахстане ў 1940 г. ад запалення лёгкіх.
Муж Леан Куліноўскі, 1902 г. н., паручнік рэзерву, ваенны асаднік, войт радунскай гміны Лідскага павета, арыштаваны ў Вільні ў студзені 1940 г., загінуў.
Маці з сынамі Збігневам і Аляксандрам працавалі ў саўгасе як звычайныя рабочыя. Выехалі ў Польшчу.
Палякі, рыма-каталікі.

Бярцэвіч Марыя, 1899 г. н.
Сын Чэслаў, 1933 г. н.
Сын Мар'ян, 1926 г. н.
Дачка Ядвіга, 1930 г. н.
Дачка Ганна, 1936 г. н.
Муж Станіслаў Бярцэвіч, 1893 г. н., бухгалтар маёнтка Нача Радунскай гміны. Арыштаваны 20 сакавіка 1940 г. Загінуў.
Маці з сынам Мар'янам працавалі ў саўгасе як звычайныя рабочыя. Выехалі ў Польшчу ў 1946 г.
Палякі, рыма-каталікі.

Масявіч Наталья, 1915 г. н.
Дачка Яўгенія, 1939 г. н.
Маці і бацька Наталлі: Гайжэўская Стэфанія, 1889 г. н. Ян Гайжэўскі, 1880 г. Ян Гайжэўскі, хворы на рак страўніка, не мог працаваць, аднак, аблаяны «лодырем» і «дармоедом», ледзь перасоўваючы ногі, быў прымушаны працаваць. 18 верасня 1942 г. падчас працы галодны, босы і амаль што голы прастудзіўся і 28 верасня таго ж года памёр... Летам 1942 г. Наталья Масявіч, як прафесійная настаўніца, пачала працаваць кіраўніком падрыхтоўчай школы ў саўгасе. <...>
Муж Антон Масявіч, 1909 г. н., паходзіў з мястэчка Ліпнішкі Лідскага павета, працаваў настаўнікам у вёсцы Дубель Жалудоцкай гміны. Загінуў падчас вайны з немцамі ў 1939 г.
Гайжэўскі паходзіў з ваколіцы Даўгялы Лідскага павета.
Палякі, рыма-каталікі.

Урублеўская Юніна, 1897 г. н.
Дачка Галіна, 1923 г. н.
Сын Зянон, 1928 г. н.
Муж Адам Урублеўскі, 1895 г. н., паліцыянт у мястэчку Нача Лідскага павета. Арыштаваны 24 сакавіка 1940 г. Прыехаў да сям'і ў 1941 г.... з'ехаў у дзейную польскую армію.

Маці з дачкой Галінай у 1942 г. працавала ў саўгасе, потым перапселена ў Такушы. Палякі, рыма-каталікі.

Магільніцкая Ганна, 1905 г. н.
Сын Лангін Пётр, 1928 г. н.
Сын Станіслаў, 1936 г. н.
Муж Апалінары Магільніцкі, селянін, уладальнік надзелу зямлі ў ваколіцы Міцканцах Каняўскай гміны Лідскага павета, 1900 г. н. Арыштаваны 23 сакавіка 1940 г. Ганна Магільніцкая жадала даведацца пра лёс сваіх сваякоў — селяніна Фелікса Магільніцкага (37 гадоў), арыштаванага 23 сакавіка 1940 г. у Міцканцах, Станіслава Баковіча (28 гадоў) і Бенядзікта Масола (31 год), арыштаваных у той жа ваколіцы і той жа дзень. Усе яны загінулі.
Маці Магільніцкая... і сын Лангін Пётр працавалі ў саўгасе звычайнымі рабочымі. Станіслаў падчас этапу з Ліды ў Такушы захварэў на запаленне вачэй і аслеп.
Выехалі ў Польшчу ў 1946 г. Палякі, рыма-каталікі.

Грабоўская Элеанора, 1906 г. н.
Яе маці Кучынская Вікторыя, 1871 г. н.
Муж Грабоўскі, паліцыянт у Лідзе, адразу арыштаваны, у 1941 г. уступіў у польскую армію, у 1942 г. прыехаў у саўгас і забраў з сабой у армію сыноў.
Вікторыя Кучынская напісала запыт пра лёс сына — Генрыка Кучынскага, паліцыянта ў Клецку, расстралянага ў верасні 1939 г.
Элеанора працавала ў саўгасе звычайнай рабочай. Сыноў Рамуальда Рышарда (1926 г. н.) і Ежы Анастаса (1928 г. н.), якія былі юнакамі, іх бацька забраў з сабой у польскую армію.
Элеанора з маці выехалі ў Польшчу ў 1946 г.

Квяцінская Генуэфа, 1911 г. н.
Сын Здзіслаў, 1930 г. н.
Дачка Рамуальда, 1932 г. н.
Муж Квяцінскі Міхал, 1912 г. н., служыў у 5-м лётным палку ў Лідзе. Арыштаваны 26 студзеня 1940 г. Загінуў. Генуэфа Квяцінская напісала запыт пра лёс брата мужа Яна Квяцінскага, афіцэра рэзерву, які знаходзіўся ў Казельскім лагеры.
Маці працавала як звычайная рабочая ў саўгасе. Выехалі ў Польшу ў 1946 г. Палякі, рыма-каталікі.

Коркуць Хэлена, 1880 г. н.
Паходзіць з ваколіцы Міцканцы Каняўскай гміны Лідскага павета.
Полька, рыма-каталічка.

Бучынская Зоф'я, 1880 г. н.
Яе сын Мечыслаў Бучынскі (1908 г. н.) 26 студзеня 1940 г. арыштаваны ў ваколіцы Даўгялы Лідскага павета. Загінуў.
Нягледзячы на ўзрост і хваробы, працавала ў саўгасе.
Полька, рыма-каталічка.

Камароўская Катажына, 1902 г. н.
Муж, Ян Камароўскі, паліцыянт у Лідзе, арыштаваны ў кастрычніку 1939 г., загінуў.
Працавала ў саўгасе. У 1942 г. пераехала працаваць у Акмолінск.
Полька, рыма-каталічка.

Навакунская Ганна, 1920 г. н.

Сын Ежы, 1937 г. н.

Паходзіла з Начы Лідскага павета.

У 1941–1942 гг. была дэлегаваная ад саўгаса і працавала ў Петрапаўлаўску на заводзе па перапрацоўцы нафты.

Полька, рыма-каталічка.

**Вёска Самрына (Такушынскі саўгас, ферма № 2)**

Ганевіч Аляксандра, 1882 г. н.

Дачка Скалімоўская Зоф'я, 1907 г. н. Вяла ўлік буйной рагатай жывёлы на ферме Ямрына (ферма № 2), выехала ў Польшчу ў 1946 г.

Муж Скалімоўскі, паліцыянт у Лідзе, у 1939 г. з'ехаў у Летуву. Загінуў.

Палякі, рыма-каталікі.

Качмарская Гертруда, 1900 г. н.

Сын Віктар, 1922 г. н.

Дачка Барбара, 1933 г. н.

Муж, Качмарскі, паліцыянт на пенсіі, арыштаваны ў 1939 г. у Лідзе, загінуў. Сын Віктар у лютым 1942 г. добраахвотнікам пайшоў у польскую армію.

Маці працавала ў саўгасе, перавозіла малако з фермы. Выехала з дачкой у Польшчу ў 1946 г.

Палякі, рыма-каталікі.

Вітэк Яніна з Абрэмскіх, 1908 г. н.

Сын Мечыслаў Казімір, 14 гадоў.

Сын Генрык Пётр, 12 гадоў.

Сын Мар'ян, 10 гадоў,

Сын Эдвард, 8 гадоў.

Пляменніца Рэгіна, 16 гадоў.

Пляменніца Яніна, 6 гадоў.

Пляменніца Зоф'я, 1 год.

Муж Пётр Вітэк некалі быў паліцыянтам. Пакінуў горад і знаходзіўся невядома дзе.

Яніна Вітэк з дзецьмі працавала ў саўгасе на гадоўлі свіней. Зоф'я памерла ў 1941 г. выехалі ў Польшчу ў 1946 г.

Палякі, рыма-каталікі.

Шольпа Апалонія, 1907 г. н.

Сын Веслаў, 1938 г. н.

Муж — сяржант 77 пяхотнага палка ў Лідзе, арыштаваны ў Лідзе ў 1939 г.

Пасвіла і гадавала цялят у саўгасе. Выехала ў Польшчу ў 1946 г.

**Ферма Шпіляркі (Такушінскі саўгас, ферма № 3)**

Вамперская Зоф'я, 1862 г. н.

Сын Ян, 1890 г. н.

Дачка Стэфанія, 1891 г. н.

Пры іх была Зарэмба Станіслава (1873 г. н.) з Варшавы, маці зяця Вамперскай, памерла ў 1945 г. Зоф'я Вамперская памерла ў 1943 г. Ян Вамперскі, бухгалтар, працаваў як звычайны рабочы. Стэфанія Вамперская (закончыла гімназію з залатым медалём, два гады вывучала гуманістыку ў Віленскім універсітэце імя Стафана Баторыя) без перарыву, з 1940 г. працавала як звычайны рабочы. Стала жылі ў Вільні. У гміне Васілішкі мелі дробную нерухомасць Вампершчыну.

Зарэмба — капітан, зяць Зоф'і Вамперскай, жыве ў Англіі.

Сын Вітольд — капрал артылерыі, арыштаваны ў Вампершчыне 10 лістапада 1939 г. Прыбыў з лагера ў Казахстан пры канцы 1941 г. На пачатку 1942 г. з'ехаў у польскую дзейную армію.

Выехалі ў Польшчу ў 1946 г.

Аляксандра Пілецкая, 1896 г. н.

Маці яе мужа, Пілецкая Магдалена, памерла ў вёсцы Ліцвінаўцы, дзе яны першапачаткова былі паселены. Магдалена Пілецкая, з роду Саліёці, нарадзілася ў Італіі ў 1865 г. Памерла 26 жніўня 1940 г. Падчас этапу ўсю дарогу пакутавала ад спазмаў страўніка, яе стогны былі чуваць ў суседніх вагонах.

Аляксандра Пілецкая працавала ў калгасе ў Ліцвінаўцы як звычайная рабочая. Разам з мужам выехала ў Польшчу ў 1946 г.

Муж, Пілецкі Віктар, бухгалтар у Лідзе і ўладальнік часткі маёнтка Сукурчы Лідскай гміны. Арыштаваны ў верасні 1939 г., прыехаў у Ліцвінаўку ў 1941 г. У 1942 г. добраахвотнікам пайшоў у польскую армію. Але праз узрост (1897 г. н.) быў звольнены. Быў у лагеры ў Карела-Фінскай Рэспубліцы. У 1942 г. працаваў у Ліцвінаўцы вадавозам. Разам з жонкай пераведзены на ферму № 3, тут працаваў як звычайны рабочы. Віктар памёр у Польшчы ў 1947 г. Яго брат Яўген служыў польскім войску.

Кавальчук Браніслаў, 1893 г. н.

Яго жонка Браніслава, 1909 г. н.

Дачка Хэлена, 1937 г. н.

Першапачаткова паселены ў вёсцы Стаханавец, адкуль у 1941 г. прыехалі на ферму № 3. Браніслаў Кавальчук калека — грыжа. Працаваў у Стаханаўцы ў калгасе, а потым на № 3 ферме як звычайны рабочы. Тамсама працавала і яго жонка.

Паходзяць з вёскі Стадаляны гміны Астрына. Яго браты: Юзаф, капітан палка пяхоты, у 1939 г. забраны ў савецкую няволю, быў у Старабельску; Валерыян, настаўнік, падпаручнік рэзерву, патрапіў у лагер у Казельску. Абодва загінулі. Усе трое па паходжанні земляробы, у сваёй вёсцы мелі надзелы зямлі. Палякі, рымакатолікі.

Выехалі ў Польшчу ў 1946 г.

Багатка Марыя, 1860 г. н.

Як нявестка Ганна, 1895 г. н.

Дачка Ганны Ніна, 1927 г. н.

Дачка Ганны Марыя, 1937 г. н.

Сын Ганны Аляксей, 1930 г. н.

Сын Ганны Валерый, 1932 г. н.

Сын Ганны Мікалай, 1936 г.

Маці Ганны і старэйшыя дзеці працавалі на ферме як звычайныя рабочыя.

Сяляне вёскі Міцкевічы Баранавіцкага павета, дзе мелі сялянскі надзел зямлі. Муж Ганны Раман Багатка арыштаваны 18 лістапада 1939 г., загінуў.

Беларусы, праваслаўныя.

Пугач Алены, 1895 г. н.

Сын Міхал, 1933 г. н.

Дачка Ларыса, 1933 г. н.

Дачка Ганна памерла ва ўзросце 1 года ў 1940 г. Гэлена стала працавала на ферме, Міхал — час ад часу.

Муж Базыль арыштаваны 18 лістапада 1939 г., загінуў ва ўзросце 36 гадоў. Сялянская сям'я, мелі малы надзел зямлі ў вёсцы Міцкевічы Баранавіцкага павета.

Беларусы, праваслаўныя.

Пугач Стэфанія, 1900 г. н.

Сын Юрый, 1928 г. н.

Сын Аляксей, 1930 г. н.

Сын Уладзімір, 1932 г. н.

Дачка Марыя, 1934 г. н.

Дачка Сафія ад запалення лёгкіх памерла ва ўзросце 4 гадоў у 1941 г.

Стэфанія працавала тут як пастух. Сыны Юрый і Аляксей працавалі час ад часу.

Муж Мацей Пугач арыштаваны 18 лістапада 1939 г., загінуў ва ўзросце 38 гадоў. Сялянскай сям'я, мелі дробны надзея зямлі ў вёсцы Міцкевічы Баранавіцкага павета.

Беларусы, праваслаўныя.

Снігір Юзаф, 1893 г. н.

Жонка Марыя, 1899 г. н.

Дачка Ядвіга, 1824 г. н.

Дачка Зоф'я, 1927 г. н.

Дачка Гэлена, 1932 г. н.

Дачка Ванда, 1935 г. н.

Сын Мечыслаў, 1937 г. н.

Брат Юзафа Станіслаў, паручнік польскай арміі, у 1939 г. патрапіў у нямецкі палон. Дачка Юзафа Ядвіга ў 1942 г. з'ехала ў дзейную польскую армію.

Земляробчая сям'я, мела дробны надзел зямлі ў вёсцы Стадаляны Астрынскай гміны.

Юзаф Снігір і яго сын Ян стала працавалі на ферме, дачка Зоф'я працавала час ад часу. У 1942–1943 гг. Юзаф адбыў 1 год пазбаўлення волі па выраку суда... за крадзеж старога ворка.

Выехалі ў Польшчу ў 1946 г.

Палякі, рыма-каталікі.

**Вёска Кальцоўка (3-я ферма)**

Ваўчкевіч Антон, 1880 г. н..

Жонка Вольга, 1886 г. н.

Сын Антон, 1920 гн.

Сын Міхал, 1926 г. н.

Дачка Марыя, 1922 г. н.

Дачка Зінаіда, 1924 г. н.

Дачка Ніна, 1927 г. н.

Дачка Юлія, 1929 г. н.

Надзея, 1932 г. н.

Жонка сына Яна Альжбета, 1916 г. н.

Іх сын Ян, 1938 г. н.

Пляменнікі Антона Ян і Радзівон Ваўчкевічы арыштаваны ў студзені 1940 г. Сям'я земляробаў, у вёсцы Крупіцы Воля Арлянскай гміны мела надзел зямлі. Антон Урублеўскі і яго сын Ян былі леснікамі ў занёманскіх лясах маёнтка Ліпічна князя Святаполк-Чацвярцінскага.

Ян і Радзівон загінулі. Марыя выйшла замуж за савецкага грамадзяніна.

Бацька Антон Урублеўскі працаваў час да часу. Сын Антон працаваў кавалём у саўгаснай кузні, дзеці Марыя, Зінаіда, Міхаіл працавалі звычайнымі рабочымі ў саўгасе. Юлія пасвіла кароў, а пляменніца Надзея вазіла ваду. Нягледзячы на іх жаданне выехаць у Польшчу, улады, не маючы добрых работнікаў, спасылаліся на тое, што яны беларусы, а не палякі, і не дапусцілі іх да рэпатрыяцыі. Толькі пляменніца Альжбета с сынам Янам, для якіх здабылі дазвол на часовы выезд, змагла даехаць з рэпатрыянтамі да Баранавічаў. Далейшы яе лёс невядомы.
Беларусы, праваслаўныя.

Шнітко Уладзімір, 1906 г. н.
Працаваў як звычайны рабочы ў калгасе. Прыбыў з лагераў у 1942 г.
Беларус, праваслаўны.

Шпінальская.
Сын Багуслаў.
Сын Збігнеў.
Муж Шпінальскай — паліцыянт у Лідзе. Інтэрнаваны ў Летуву. Загінуў.
Першапачаткова жылі на 3-й ферме. Працавалі звычайнымі рабочымі. У 1941 г. вывезены на будову чыгункі Акмолінск — Карталы.

Крыдаль (маці).
Чатыры дачкі.
Працавалі як звычайныя рабочыя ў саўгасе. У 1941 г. вывезены на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы.
Муж Здзіслаў Крыдаль, уладальнік маёнтка Сабакінцы ў Шчучынскім павеце.
Палякі, рыма-каталікі.

### *Палудзенска-цэнтральны раён*

Гансёнак Марта, 40 гадоў.
Сын Януш, 15 гадоў.
Працавала ў хаце. Сын Януш вучыўся ў сярэдняй школе ў Палудзене. У 1941 г. вывезены на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы і жылі ў вёсцы Гарадзішча.
Муж — палкоўнік Гансёнак, камандзір 77 п. п. у Лідзе. У 1939 г. патрапіў у савецкую няволю. Загінуў. Напачатку быў Старобінскім лагеры. Сп. Марта 9 красавіка 1940 г. атрымала ліст ад мужа, у якім той пісаў, што іх кудысьці вывозяць і, покуль ён не дашле новага адраса, пісаць яму не трэба (з ліста Люцыны Сяніцкай ад 11.09.1940 г.).
Палякі рыма-каталіцкага вызнання.

Сяніцкая Люцына, 24.12.1911 г. н.
Яе маці, Юзэфа Ізабела Хагемаер (1885 г. н.), удава па Аляксандру. У 1941 г. вывезены на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы.
Муж Ян Сяніцкі, паручнік 77 п.п. У 1939 г. патрапіў у савецкую няволю. Загінуў. Люцына Сяніцкая ў 1940 г. працавала медсястрой у Палудзенскім шпіталі.
Палякі рыма-каталіцкага вызнання.

Петрашкевіч Міхал, 1873 г. н.
Жонка Вераніка (Вера), 1880 г. н.
Дачка Ідалія Станкевіч, 1912 г. н.
Сын Ідаліі Станкевіч, Збігнеў Антоні, 1938 г. н.
Муж Ідаліі і бацька Збігнева Антонія — Францішак Станкевіч (1904 г. н.), настаўнік агульнаадукацыйнай школы. Паручнік рэзерву, у савецкай няволі з 1939 г., загінуў.

Міхал Петрашкевіч — правізар, меў аптэку ў Васілішках. Першапачаткова жылі ў вёсцы Раёўцы, адкуль іх у 1941 г. перавезлі ў Палудзен. Вераніка, як фельчар, тут працавала ў амбулаторыі, а Ідалія Станкевіч (магістр фармакалогіі) працавала медсястрой у раённым шпіталі. Міхаіл Петрашкевіч памёр у Палудзене. Выехалі ў Польшчу ў 1946 г.

Палякі рыма-каталіцкага вызнання.

Вельгуш Зянон, 1918 г. н.

Прыбыў сюды з лагера ў 1941 г. Працаваў фурманам у раённай спажывецкай кааперацыі (Райпотребсоюз). Паходзіў з вёскі Антось з-пад Бродаў. Напісаў запыт пра лёсы бацькі Ігната (1888 г. н.), штабнога вахмістра, маці Зоф'і і сястры Марыі (1928 г. н.).

Украінец, грэка-католік.

Выехаў у Польшчу ў 1946 г.

Гярэга Іван, 1915 г. н.

Прыбыў сюды з лагера ў 1941 г. Працаваў у Райпатрэбсаюзе ў Палудзене. Праз памылку на працы ў 1942 г. асуджаны на 4 месяца пазбаўлення волі.

Украінец, грэка-католік.

Байкальская Іда, 1893 г. н.

Сын Шлёма, 1916 г. н.

Сын Бэнцян, 1920 г. н.

Дачка Фейга, 1921 г. н.

Дачка Чэрня, 1921 г. н.

Муж Абрам Байкальскі (1893 г. н.) цырульнік і адначасова начальнік добраахвотнай пажарнай дружыны ў мястэчку Жалудок. Арыштаваны 23 студзеня 1940 г.

Першапачаткова жылі ў вёсцы Савецкае. У 1941 г. іх перасялілі ў Палудзен. Шлёма ў 1941 г. працаваў бухгалтарам сярэдняй школы, потым бухгалтарам раённага шпіталя, у 1942 г. бухгалтарам на пошце. Бэнцян у 1941–1942 гг. — цырульнік у арцелі «Заря» ў Палудзене, у тым жа 1942 г. цырульнік у чыгуначнай тэхнічнай школе ў Петрапаўлаўску. Фейга — цырульніца ў арцелі «Заря», Чэрня — кравец у той жа арцелі.

Яўрэйская сям'я. Выехалі ў Польшчу ў 1946 г.

Гурвіч Мойша (1900 г. н.) — інжынер-механік абутковай фабрыкі «Ардаль» у Лідзе. Арыштаваны ў Лідзе, прыбыў у Палудзен у 1941 г.

Яго жонка Бейла, 1907 г. н.

Іх дзеці Ірэна (1931 г. н.) і Ліля (1933 г. н.).

Бацькі Бейлы Гурвіч:

Страшун Хаім, 1876 г. н.

Яго жонка Рабека, 1879 г. н.

Страшуны прыбылі сюды разам з дачкой.

Бейла Гурвіч працавала машыністкай у канторы МТС (машына-трактарнай станцыі) у Палудзене. Мойша Гурвіч у 1942 г. працаваў як звычайны рабочы на высечцы лесу.

Яўрэйская сям'я.

Дубчанская Энла, 1914 г. н.

Дачка Рыма, 1935 г. н.

Дачка Міна, 1937 г. н.

Муж пячнік Шмуль Дубчанскі (1912 г. н.) арыштаваны ў Лідзе 14 кастрычніка 1939 г., загінуў.

Цыгельніцкая Хая, 1907 (?) г. н.

Сын Зэлік, 1914 г. н.

Дачка Хая, 1910 г. н.

Сын Цевель Цыгельніцкі арыштаваны ў Лідзе ў 1939 г., адбываў пакаранне ў Барнауле.

Каплінская Дора, 1908 г. н.

Дачка Руф, 1938 г. н.

Муж, Леан Каплінскі (1908 г. н.), лекар, паручнік рэзерву, у савецкай няволі з 1939 г., загінуў. Жылі ў мястэчку Васілішкі. У Казахстане першапачаткова жылі ў вёсцы Давыдаўка, у 1940 г. пераселеныя ў Палудзен.

Турэцкая Люба, 1912 г. н.

Муж Мойша Турэцкі 1906 г. н., электраманцёр у Лідзе. Арыштаваны 14 кастрычніка 1939 г., загінуў.

Кушчэлевіч Міна, 1903 г. н.

Прыбыла сюды з лагера ў 1941 г. Працавала статыстыкам у райздраве.

Кушчэлевіч Вольф, 70 гадоў. Бацька Міны, паселены ў Мікалаеўцы, у 1940 г. пераселены ў Петрапаўлаўск.

Муж Леў Кушчэлевіч, інжынер, суўладальнік фабрыкі «Полгум» у Лідзе (аптэчная гума). Міна Кушчэлевіч арыштавана ў Лідзе ў 1939 г. Расшуквала арыштаваных Беньяміна Ландо і Зэлмана Штэйнберга — сваіх дзядзькоў з Ліды. Штэйгберг знайшоўся ў калгасе пад Табольскам.

Юхновіч Дора, 1907 г. н., прыбыла сюды з лагера ў 1941 г.

Стукальскі Хаім, прыбыў з лагера ў 1942 г.

Зярніцкі Вольф, 1905 г. н., прыбыў з лагера ў 1942 г.

Гофман, капітан польскай арміі.

Прыбыў з лагера а 1941 г., з'ехаў у польскую дзейную армію. Паляк, рыма-каталік.

Гемпель, капітан польскай арміі.

Прыбыў з лагера ў 1941 г., з'ехаў у польскую дзейную армію. Паляк, рыма-каталік.

Горжка Браніслаў, 1883 г. н.

Прыбыў з лагера ў 1941 г. Лажаў хворы ў раённым шпіталі. Быў паліцыянтам у Монас..., што на Цярнопальшчыне. Дачка працавала тамсама бухгалтарам на тытунёвай фабрыцы. Шукаў жонку Апалонію (1885 г. н.), арыштаваную ў 1940 г., і сына Казіміра (1914 г. н.), камандзіра артылерыйскага ўзвода.

У 1942 г. працаваў чыгуначнікам у Палудзене, зімой 1942/43 г. жыў у Фурманаўцы, у 1944 г. памёр у раённым шпіталі ў Палудзене.

Паляк, рыма-каталік.

Гарыман Якаў, сын Ісака, 58 гадоў.

У Палудзен прыбыў з лагера, хворы на нефрыт, 3 студзеня 1942 г. лёг у раённы шпіталь і 5 студзеня памёр.

Паляк іудзейскага веравызнання, сын доктара медыцыны, стары жыхар горада Львова...

**Вёска Варашылаўка**

Ромер з дзецьмі.
Жонка паліцыянта з Ліды.
У 1941 г. вывезена на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы.
Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Новак з сынам.
Жонка ўнтэр-афіцэра 5 лётнага палка ў Лідзе. Дачка Міхала (Казіміра?) Мілана і Ганны з Шыткоўскіх, Ліда, Зарэчча. У 1941 г. вывезена на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы.
Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

**Вёска Раеўка**

(Усе вывезены на будоўлю чыгункі ў 1941 г.)

Захарская Станіслава.
Дачка Яніна.
Муж — наглядчык у лідскай турме. Арыштаваны ў 1939 г.
Палякі, рыма-католікі.

Вышагроўская Марыя.
Муж — паліцыянт на пенсіі з Васілішак. Арыштаваны ў 1939 г.
Палякі, рыма-католікі.

Зялкоўская Ванда.
Дачка Хэлена.
Муж Францішак Зялкоўскі — сяржант 77 п. п. у Лідзе, застаўся ў зоне нямецкай акупацыі.
Палякі, рыма-католікі.

Сямашка Зоф'я.
Дачка Эла.
Муж — паліцыянт на пенсіі з Ліды, арыштаваны ў 1939 г., загінуў. Сын Эдвард Сямашка не вярнуўся з баёў кампаніі 1939 г.
Палякі, рыма-католікі.

Крэнтоўская Анеля.
дачка Данута-Анна.
Муж Станіслаў Крэнтоўскі — адміністратыўны рэферэнт лідскага староства. Пасля ўваходжання ў Ліду савецкага войска яшчэ некалькі дзён працаваў у старостве, але 23 верасня 1939 г. быў арыштаваны. Загінуў.
Маці Анелі Крэнтоўскай працавала ў лясніцтве «Доўгі гай» бухгалтарам. У жніўні 1940 г. арыштавана за агітацыю і абласным судом у Петрапаўлаўску прагаворана па арт. 58–10 КК на 7 гадоў пазбаўлення волі. Па амністыі 1941 г. прыбыла ў Палудзен, але дачкі не знайшла, бо яна разам з іншымі сем'ямі вывезена на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы. Паехала на гэтую будоўлю, забрала дачку Дануту Ганну і пасялілася ў Кустанаі, дзе дачка вучылася сярэдняй школе, а маці працавала...
Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Маскалюнец Марыя.
Дзеці ад першага мужа:
дачка Вераніка
сын Ежы.

Муж — паліцыянт у Лідзе, арыштаваны ў 1939 г.
Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Манейкоўская Ганна.
Сын Мечыслаў Казімір.
Сын Раман.
З Васілішак. Вывезены разам з дачкой Хэленай Роўбай.
Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Роўба Хэлена.
Дачка Эва Яніна Тэрэса.
Яе муж Роўба — афіцэр польскай арміі. Арыштаваны ў 1939 г. у Вілейцы. Загінуў.
Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Лысік Станіслава.
Сын Рышард.
Дачка Крысціна.
Дачка Хэлена.
Муж Станіслаў Лысік — супрацоўнік пошты з Васілішак. Арыштаваны ў 1939 г., быў у лагеры ў Архангельску.
Палякі, рыма-каталікі.

Івінская Марыя.
Сын Яўген.
Дачка Ядвіга.
Яе муж Івінскі, паліцыянт, арыштаваны ў 1939 г. Пасля амністыі 1941 г. патрапіў у Палудзен і ў пошуках сям'і паехаў на будаўніцтва чыгункі Акмолінск — Карталы.
Палякі, рыма-каталікі.

Грозмані Юзэфа.
Сын Уладзіслаў.
Муж — уладальнік фальварка Лябёдка ў Васілішскай гміне.
Палякі, рыма-каталікі.

Ходараўская Зоф'я.
Сын Зыгмунт.
Муж — паліцыянт на пенсіі, арыштаваны ў Васілішках, прыехаў да сям'і на чыгунку Акмолінск — Карталы.
Палякі, рыма-каталікі.

Бляхоўская Анеля.
Сын Здзіслаў.
Дачка Генрыка.
Дачка Ядвіга.
Дачка Яніна.
Муж — паліцыянт, інтэрнаваны ў Летуве ў 1939 г. У 1941 г. прыехаў да сям'і на чыгунку Акмолінск — Карталы.
Палякі, рыма-каталікі.

Дамброўскі Казімір з жонкай Н., абое старыя, каля 60 гадоў.
Дзеці засталіся ў Лідзе. Сын — паліцыянт у Любліне.
Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Рухлевіч Антон.

Жонка Ганна.
Сын Антон.
Сын Н. арыштаваны як паліцыянт у 1939 г.
Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Кульбацкі Юзаф.
Жонка Ганна.
Дачка Хэлена.
Сям'я з мястэчка Васілішкі, дзе мела дробную нерухомасць. Два сыны служылі ў дзяржаўнай паліцыі, арыштаваны ў 1939 г., знаходзіліся ў лагеры ў Архангельску.
Палякі, рыма-католікі.

Усе сем'і выгнаннікаў, якія жылі ў Раеўцы, 24 чэрвеня 1941 г. вывезены на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы, і ніхто з іх у Палудзенскі раён не вярнуўся.

**Вёска Заматаеўка**

Рагінь Адальфіна, дачка Стэфана, 1914 г. н.
Дачка Тэрэза, 1932 г. н.
Дачка Ядвіга, 1935 г. н.
Сын Зянон, 1937 г. н.
Сялянская сям'я з вёскі Дубічы, гміна Забалаць. Муж Казімір Рагінь — ляснік дзяржаўных лясоў, арыштаваны ў Аранах у 1940 г. Загінуў.
Маці працавала ў калгасе. Вярнуліся ў Польшчу ў 1946 г.
Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Вашчыла Канстанты, сын Антона, 1857 г. н.
Жонка Ганна, дачка Філіпа, 1867 г. н.
Сын Аляксандр, 1903 г. н.
Сялянская сям'я. Мела надзел зямлі ў вёсцы Зінавічы Ваверскай гміны. Аляксандр Вашчыла арыштаваны ў 1939 г., знаходзіўся ў лідскай вязніцы. Сюды прыбыў з лагера ў 1941 г., працаваў фурманам у калгасе.
Яго жонка Галіна ва ўзросце 29 гадоў памерла 15 жніўня 1941 г. ад голаду. Іх дачка Марыя памерла ад голаду і нэндзы 10 жніўня 1941 г.
Беларусы, праваслаўныя.

Валяўская Аліцыя.
Дачка Яніна.
Маці яе Пшадзецкая Ванда.
Муж Н. валодаў зямлёй у фальварку Сіткаўцы Астрынскай гміны.
Вывезены на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы ў 1941 г.
Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Садкоўскі Казімір, сын Адама, 45 гадоў.
Дачка Рэгіна.
Яе маці, жонка Казіміра, Садкоўская Катажына, 40 гадоў, памерла тут без аніякай дапамогі з нэндзы ў 1941 г.
Садкоўскі — уладальнік малога надзелу зямлі ў ваколіцы Малая Нявіша Васілішскай гміны.
Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Эйсмант Геня.
З Сабакінскай гміны, полька, рыма-каталічка.

Больт Магдалена.
Дачка Часлава.
Дачка Данечка.
З вёскі Зінавічы Васілішскай гміны. Палякі рыма-каталіцкага вызнання.

Сем'і Валяўскія, Садкоўскія, Эсманты і Больт 24 чэрвеня 1941 г. вывезены на будаўніцтва чыгункі Акмолінск — Карталы, і ніхто з іх не вярнуўся ў Палудзенскі раён.

**Вёска Літвінаўка**

Шыманская Станіслава.
Сын Эдмунд, 12 гадоў.
Дачка Ірэна, 18 гадоў.
Муж, Генрык Шыманскі, паліцыянт у Лідзе, арыштаваны ў 1939 г., загінуў.
Эдмунд быў вучнем агульнаадукацыйнай школы ў Лідзе, памёр тут... 26 чэрвеня 1940 г. Пры канцы 1940 г. Ірэна была застрэленая калгаснікам Іванам Бондарам, якога абласны суд у Петрапаўлаўску за гэта прыгаварыў да 1 года пазбаўлення волі.
Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Старчэўская з дзецьмі.
Муж — паліцыянт у Лідзе, арыштаваны ў 1939 г., загінуў. Падобна, прыбыў з лагера і знайшоў сям'ю на чыгунцы Акмолінск — Карталы ў 1941 г.
Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Антановіч.
Жонка.
Дачка.
Антановіч — цырульнік у Лідзе, арыштаваны ў 1940 г., знайшоў жонку з дачкой у 1941 г. на чыгунцы Акмолінск — Карталы. У 1946 г., як рэпатрыянты, прыехалі ў Польшчу і пасяліліся ў Сопаце.
Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Сем'і Шыманскія, Старчэўскія, Антановічы ў 1941 г. вывезены на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы і ў Палудзенскі раён не вярнуліся.
П. С. Пілецкія адсюль былі пераведзены на ферму № 3 саўгаса.

**Вёска Скварцоўка**

Рашкоўская Хэлена.
Дачка Стэфанія.
Дачка Ядвіга.
Муж Рачкоўскі быў турэмным наглядчыкам у Лідзе, арыштаваны ў 1939 г.
Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Шчэнсновіч Ядвіга з Ёдкаў, памерла ў Іране.
Дачка Зоф'я.
Муж Войцах Шчэнсновіч, былы гродскі суддзя ў Лідзе, потым адвакат, арыштаваны ў 1939 г., памёр у лагеры.
Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Папкоўская Ганна.
Яе сёстры: Шаблоўская Яніна, Шаблошская Хэлена.

Муж Вінцэнт Папкоўскі, былы гродскі суддзя ў Гродне, потым натарыус у Лідзе, грамадскі дзеяч. Арыштаваны ў 1939 г.
Палякі, рыма-католікі.

Тумілевіч Яніна, дачка Браніслава і Міхаліны.
З Ліды. Браты: Рышард Тумілевіч, капітан полькай арміі, Антон Тумілевіч, паліцыянт.
Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Усе вышэйпералічаныя асобы 24 чэрвеня 1941 г. былі вывезены на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы.

**Вёска Сяргееўка**

Кацінба Яніна, 1906 г. н.
Сын Ян, 1939 г. н.
Муж — падпалкоўнік 77 п. п. у Лідзе, патрапіў у нямецкую няволю.
Палякі, рыма-католікі.

Юрусь Стэфанія, 1913 г. н.
Дачка Аліна, 1939 г. н.
Муж — маёр 77 п. п. у Лідзе, патрапіў у нямецкую няволю.
Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Бацька Яніны Кацінбы і Стэфаніі Юрусь — капітан польскай арміі Вільтас, былы капельмайстар 77 п. п. у Лідзе, арыштаваны ў 1939 г., у 1941 г. з лагера ў Мурманску прыехаў на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы (Гарадзішча) да дачок, дзе яны працавалі на падсыпцы баласту і на іншых земляных работах.

Шкоп Сабіна, 1902 г. н.
Уладальніца кнігарні ў Лідзе. Муж Ежы Шкоп у 1939 г. выехаў з Ліды ў Вільню, загінуў.
Палякі, рыма-католікі.

Марчэўская Ганна.
Дачка Ірэна.
Сын Артур Марчэўскі юнаком пайшоў добраахвотнікам у польскую армію, арыштаваны ў 1939 г., загінуў.
Палякі, рыма-католікі.

Скакоўская Ада, 1916 г. н.
Полька, рыма-каталічка.

Усе вышэйпералічаныя асобы 24 чэрвеня 1941 г. былі вывезеныя на будаўніцтва чыгункі Акмолінск — Карталы.

Урбановіч Марыя, 1889 г. н.
Дзеці: Геня, 1922 г. н.; Эдвард, 1924 г. н.; Данута, 1930 г. н.; Марыя, 1935 г. н.
Муж Міхал Урбановіч — даглядчык турмы ў Лідзе, арыштаваны 20 снежня 1939 г., загінуў. Сын Эдвард як добраахвотнік у Палудзене 10 лютага 1942 г. запісаўся ў фармаванае польскае войска, але праз праблемы ў сям'і быў звольнены ад прызыву. Эдвард Урбановіч, былы вучань дзяржаўнай гімназіі ў Лідзе, працаваў у кацельні кузні. Генавефа, хворая на сухоты, працавала ў кацельні як звычайная рабочая. Маці Марыя працавала тамсама. 24 чэрвеня 1941 г. былі вывезены на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы на раку Табол, адкуль вярнуліся восенню таго ж года.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Зглічынская Эдмунта.
Дзеці: Эдмунт, 1930 г. н.; Ірэна, 1937 г. н.
Эдмунда, покуль мела сілы, працавала ў калгасе.
Муж Стэфан Зглічынскі — паліцыянт на пенсіі, уладальнік дома ў Лідзе, арыштаваны 17 снежня 1939 г.
Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Жак Хэлена, 1907 г. н.
Дзеці: Рышард 1934 г. н.; Леакадзія, 1937 г. н.
Жак Хэлена працавала ў калгасе.
Муж Станіслаў Жак (1904 г. н.) — наглядчык турмы ў Лідзе, арыштаваны 17 кастрычніка 1939 г. У 1942 г. атрымалі вестку, што знаходзіцца ў польскай арміі.
Палякі, рыма-католікі.

Точка Марыя з Хрышчановічаў (Ліда, Маргі).
Дзеці: Яніна, 14 гадоў; Ганарата, 12 гадоў.
Муж Точка, сержант 77 п. п. у Лідзе, у 1939 г. патрапіў у савецкую няволю, у 1942 г. атрмалі вестку, што знаходзіцца ў польскай арміі.
Палякі, рыма-католікі.

Улевіч Ганна, 1905 г. н.
Дочкі: Зоф'я, 1935 г. н.; Марыя, 1939 г. н.
Муж Ежы Улевіч, рамеснік у Лідзе... арыштаваны 15 кастрычніка 1939 г., загінуў.
Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

### Вёска Камыштова

Танюкевіч Ян, сын Мацея і Хэлены, 1912 г. н.
Капрал рэзерву 23 палка ўланаў. Браў удзел у кампаніі 1939 г. Паходзіў з вёскі Жукаўшчына Валожынскага павета. У 1940 г. арыштаваны, знаходзіўся ў лагеры Тагер пад Уладзівастокам. Прыбыў сюды ў ліпені 1942 г., працаваў у калгасе цесляром.
Паляк, рыма-католік.

### Сяло Такушы

Яшунас Адальфіна, 65 гадоў.
Сын Уладзіслаў, 40 гадоў.
Сын Канстанты Яшунас арыштаваны ў Лідзе 15 снежня 1939 г. Другі сын... загінуў у кампаніі 1939 г. Уладзіслаў Яшунас 10 лютага 1942 г. як добраахвотнік хацеў ісці ў дзейную польскую армію, але з прычыны скалечанай рукі яго не мабілізавалі.
Першапачаткова паселены ў вёсцы Мікалаеўцы, у 1941 г. пераселены ў Такушы. Уладзіслаў працаваў у 1942 г. ... на земляных работах пры школе і адначасова быў памочнікам у раённага прадстаўніка польскай амбасады. У 1946 г. прыбылі ў Польшчу, у горад Шчэцін.
Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Віткоўскі Юзаф, 1892 г. н.
Жонка Станіслава, 1897 г. н.
Сын Цэзарый, 1934 г. н.

Звольнены з лагера ўступіў у польскую армію, куды выехала жонка з сынам. Другі сын Ежы Збігнеў Віткоўскі (1923 г. н.), вучань, загінуў на польскім караблі ў кампанію 1939 г.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Станкевіч Ядвіга, 1899 г. н.

Дзеці: Януш, 1924 г. н.; Барбара, 1926 г. н.; Ганна, 1929 г. н.

Муж Антон Станкевіч, сержант 77 п. п., прыбыў з лагера ў 1941 г., забраў сына Януша і дачку Барбару і з'ехаў у дзейную польскую армію ў 1942 г. (паручнік 77 п. п. пісаў да Міхала Шымялевіча, што Януш Станкевіч загінуў у Італіі ў 1944 г.).

Маці працавала на земляных работах пры школе ў 1942 г. У 1946 г. выехалі ў Польшчу.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Ігначэўская Ванда, 1909 г. н.

Дачка Крысціна Халіна, 1934 г. н.

Муж Вацлаў Ігначэўскі — сяржант польскай арміі, у 1941 г. з лагера пайшоў у дзейную польскую армію. Жонка з дачкой з'ехалі да яго ў жніўні 1942 г.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Кілян Ірэна, 1920 г. н.

Сын Міраслаў, 1937 г. н.

Яе маці, Акаліцкая Клеменціна, 1937 г., цётка Казіміра Акаліцкая, 1883 г. н.

Працавалі ў калгасе і элеватары ў Такушах. Муж Войцах Кілян, 1909 г. н., сяржант 77 п. п., з лагера пайшоў у дзейную польскую армію.

У 1946 г. выехалі ў Польшчу.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Федзяшка Яніна, 1907 г. н.

Дзеці: Ежы, 1930 г. н.; Леанард, 1932 г. н.; Аліцыя, 1938 г. н.

Працавала ў 1942 г. на высечцы лесу. Муж Юзаф Федзяшка, сяржант 77 п. п. у Лідзе, арыштаваны 5 снежня 1939 г., прыбыў у лагер у 1941 г. і ў студзені 1942 г. з'ехаў у дзейную польскую армію.

У 1946 г. выехалі ў Польшчу.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Дэнбская Леакадзія, 1908 г.

Сыны: Генрык, 1931 г. н.; Юзаф, 1934 г. н.; Тадэвуш, 1937 г. н.

Муж Ян Дэнбскі, 1899 г. н., сяржант польскай арміі, з лагера пайшоў у дзейную польскую армію.

Леакадзія Дэнбская ў 1942 г. працавала... на чыгунцы Петрапаўлаўск — Омск. У 1946 г. выехалі ў Польшчу.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Сухан Аляксандра, 1904 г. н.

Дзеці: Халіна, 1922 г. н.; Рышард, 1925 г. н.; Ірэна, 1924 г. н.

Пры Аляксандры Сухан была яе сястра Гарадкевіч Зоф'я, 1906 г. н.

Першапачаткова былі паселены ў Мікалаеве, у 1941 г. пераведзены ў Такушы, Халіна і Зоф'я працавалі на элеватары ў Такушах. Муж Мухан Караль — старшы сяржант 77 п. п. У 1939 г. з Ліды з'ехаў у Цэнтральную Польшчу.

У 1946 г. выехалі ў Польшчу.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Адамовіч Казіміра, 1910 г. н.
Сын Гіпаліт, 1930 г. н.
Пры ёй маці, Герштыноўская Марыя, 1885 г. н.
Першапачаткова паселены ў вёсцы Сяргееўцы, у 1941 г. перасялены ў Такушы. Муж Адамовіч Уладзіслаў у 1941 г. інтэрнаваны ў Летуве, у 1941 г. з лагера пайшоў у дзейную польскую армію ўзводным.
Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Плаўская Станіслава, 1914 г. н.
Сын Рышард, 1935 г. н.
Муж Юзаф Плаўскі, унтэр-афіцэр памежнай аховы на Памор'і, у 1939 г. патрапіў у нямецкую няволю, загінуў.
Першапачаткова паселены ў вёсцы Сяргееўцы, у 1941 г. пераведзены...
У 1946 г. выехалі ў Польшчу.
Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Пілецкая Катажына, 1912 г. н.
Дзеці: Багуслава, 1936 г. н.; Багдан, 1937 г. н.
Працавала ў 1942 г. на пасадзе бухгалтара на элеватары ў Такушах. У 1942 г. выехала да мужа. Муж Аляксандр Пілецкі, прыехаў з лагера і ўступіў у дзейную польскую армію.
Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Лазіцкі Стэфан, 1915 г. н.
Яго сёстры: Антаніна, 1924 г. н.; Леакадзія, 1929 г. н.
Антаніна Лазіцкая ў 1942 г. працавала на элеватары ў Такушах. Іх бацька Лазіцкі Браніслаў (1894 г. н.) — паліцыянт, загінуў. Стэфан Лазіцкі ў 1942 г. уступіў у дзейную польскую армію.
Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Барысевіч Генавефа, 1911 г. н.
Пры ёй дзеці ад першага шлюбу яе мужа: Збігнеў, 1932 г. н.; Данута, 1934 г. н.
Працавала на элеватары ў Такушах. Муж Вітольд Барысевіч — паліцыянт у Баранавічах, загінуў у 1939 г.
Выехалі ў Польшчу ў 1946 г.
Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Баркоўскі Федар, 1888 г. н.
Жонка Марыя, 1900 г. н.
Дачка Алена, 1923 г. н.
Сын Ян, 1926 г. н.
Арыштаваны ў 1939 г. як паліцыянт, прыехаў да сям'і ў 1941 г. Бацька працаваў як шавец, дзеці — на розных работах. Дачка Алена і сын Ян у 1943 г. уступілі ў дзейную польскую армію. Таму іх бацька і маці атрымалі дазвол на выезд у Польшчу і выехалі туды ў 1946 г.
Беларуская сям'я праваслаўнага веравызнання.

Ліхвяровіч Марыя, 1895 г. н.
Дзеці: Тадэвуш Пётр, 1929 г. н.; Марыянна, 1930 г. н.
Муж Ліхвяровіч Антон (1893 г. н.), паліцыянт. Арыштаваны 13 снежня 1939 г. у Жалудку, загінуў. У 1942 г. маці працавала... Выехалі ў Польшчу ў 1946 г.
Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Пшыбыляк Ядвіга, 1900 г. н.

Дзеці: Зянон, 1923 г. н.; Марыя, 1925 г. н.

Муж Пшыбыляк Станіслаў, 1896 г. н., паліцыянт, у 1939 г. інтэрнаваны ў Летуве, у 1941 г. з лагера ўступіў у польскую армію. Сын Зянон уступіў у польскую армію ў 1942 г.

Маці ў 1942 г. працавала на элеватары ў Такушах. У 1946 г. выехалі ў Польшчу.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Стрыец Хэлена, 1902 г. н.

Дзеці: Халіна, 1931 г. н.; Рышард, 1932 г. н.

Муж Стрыец Ян (1890 г. н.), паліцыянт у Дакудаве, арыштаваны ў Лідзе 14 снежня 1939 г., загінуў. Маці ў 1942 г. працавала. Выехалі ў Польшчу ў 1946 г.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Болтуць Клара (Клаўдзія), 13.10.1898 г. н.

Сыны: Ян, 1920 г. н.; Генрык, 1923 г. н.; Роберт, 1925 г. н.

Першапачаткова паселеныя ў вёсцы Стаханавец, у 1941 г. вывезены на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы. У тым жа годзе вярнуліся ў Стаханавец, а ў 1942 г. Клару Болтуць перавялі ў Такушы. Тут працавала ў калгасе і на элеватары. Нарадзілася ў Расіі, пасля замуства прыняла рыма-каталіцызм, аднак выехаць у Польшчу ёй не дазволілі.

Сын Ян Болтуць пры ссылцы з Ліды 13 красавіка 1940 г. збег з вагона. Потым наведаў маці і братоў у Казахстане, некалькі разоў наведаў Стаханавец, завербаваўся на Балхашбуд, дзе загінуў.

Муж, Ян Болтуць, паліцыянт на пенсіі, арыштаваны ў Лідзе ў 1939 г., з лагера ўступіў у польскую армію, хоць не меў аднаго вока. Два разы прыязджаў у Стаханавец. Забраў з сабой сыноў Генрыка і Роберта. У 1942 г. быў у Тэль-Авіве ў Палесціне.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Светлік Хэлена, 1896 г. н.

Сыны: Эдмунд, 1925 г. н.; Ксаверы, 1928 г. н.

Муж Светлік Эдвард (1890 г. н.), уладальнік фальварка Ксаверполь у Баранавіцкім павеце. Арыштаваны 20 верасня 1939 г., загінуў.

Маці працавала на элеватары ў Такушах. Выехалі ў Польшчу ў 1946 г.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Пшыбытка Ганна, 1909 г. н.

Муж Пшыбытка Станіслаў, чыноўнік на пенсіі. Арыштаваны ў Лідзе 19 верасня 1939 г.

Працавала ў калгасе ў Такушах. Выехала ў Польшчу ў 1946 г.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Асадэра Зоф'я, 1906 г. н.

Дзеці: Халіна, 1927 г. н.; Яўген, 1931 г. н.

Жылі ў засценку Дайбішкі пад Астрыной разам з сваякамі Бутрымовічамі.

Першапачаткова паселеныя на 2-й ферме саўгаса, у 1941 г. пераведзены ў Такушы. Працавала ў саўгасе. Хворая. <...> Муж Асадэра Аляксандр (1899 г. н.) ляснік-выбракоўшчык, арыштаваны ў Скрыбаўцах 8 красавіка 1940 г.

Беларуская сям'я праваслаўнага веравызнання.

Сянюк Антон, 1905 г. н.

Жонка Марыя, 1911 г. н.

Дачка Ніна, 1933 г. н.

Тры сям'і — Сянюк, Курыла, Ксенжык — паходзілі з ваколіц Крайняга Става і Грыбачова, уцяклі на ўсход у бок Луцка, Дубна, Роўна перад нямецкім наступам разам з іншымі сем'ямі. Пасля 17 верасня, пасля заняцца гэтых тэрыторый Чырвонай арміяй, іх вывезлі за Урал. У 1942 г. гэтыя сем'і працавалі ў геолагавыведцы ў Палудзенскім раёне.

Украінцы, праваслаўныя.

Вадзон Стэфан.

Працаваў у геолагавыведцы... Прыбыў у 1942 г.

Дашкевіч Марыя, 1907 г. н.

Два разы выходзіла замуж за савецкіх грамадзян і два разы разводзілася, каб мець права, як грамадзянка Польшчы, атрымаць дапамогу. У 1942 г. выслана ў Какчэтаў.

Муж Мамед Дашкевіч (1900 г. н.) арыштаваны ў Лідзе 30 верасня 1939 г., загінуў.

Полька, рыма-каталічка.

Перавозная Адэля, 1909 г. н.

Муж Антоні Перавозны (1903 г. н.) арыштаваны ў Лідзе 30 кастрычніка 1939 г., загінуў. У 1941 г. выйшла замуж за савецкага грамадзяніна.

Палякі рыма-каталіцкага вызнання.

**Яўрэйскія сем'і, грамадзяне Польшчы**

Шапіра Рабека, 1872 г. н.

Дачка Діна, 1911 г. н.

Муж Якаў Шапіра, 1873 г. н., арыштаваны ў Лідзе 7 студзеня 1940 г., памёр у Мінскай турме ад знясілення: пабожны сіяніст, адмаўляўся ад некашэрнага харчавання, харчаваўся толькі хлебам і... вадой.

Шмуйлевіч Ліба, 1898 г. н.

Дзеці: Лейзель, 1922 г. н.; Фрыда, 1925 г. н.

Муж Якаў Шмуйлевіч, купец у Лідзе, у 1939 г. укрыўся ў Вільні.

Ліба Шмуйлевіч увесну 1942 г. разам з некаторымі працоўнымі млына ў Такушах прэвентыўна арыштавана па справе крадзяжу збожжа і мукі, а ў 1944 г. выпушчана.

Рабіновіч Айзік, 1921 г. н.

Прыбыў сюды ў 1942 г.

Рубіновіч Арон-Давід, 1882 г. н.

Жонка Элка, 1885 г. н.

Дзеці: Фейга, 1914 г. н.; Вольф, 1923 г. н.; Юндаль, 1926 г. н., Сара, 1921 г. н.

Першапачаткова гэтая сям'я была паселеная ў вёсцы Мастаўцы, адкуль у 1941 г. пераведзены ў Такушы. Арон-Давід з дзецьмі працаваў у калгасе, пільнаваў бульбу і г. д.

Дачка Сара Рубіновіч арыштавана ў Лідзе 14 сакавіка 1940 г. У 1943 г. прыбыла сюды з лагера, распавядала, што вярнулася з вайны — быццам партызаніла супраць немцаў.

Рафаловіч Эла, 1900 г. н.

Сыны: Зэльман, 1927 г. н.; Мардух, 1930 г. н.

Працавала на элеватары ў Такушах і ў геолагавыведцы.

Муж Мойша — купец, у 1939 г. укрыўся ў Вільні.

Матэцкая Ребэка, 1864 г. н.
Жонка яе сына Саламея-Крэйна, 1901 г. н.
Дзеці: Ісак, 1932 г. н.; Хаім, 1936 г. н.
Першапачаткова былі паселеныя ў вёсцы Раўкіна, пераселены ў Такушы ў 1941 г. Працавала на элеватары. Сын, муж Крэйны, Саламон Матэцкі (1901 г. н.), арыштаваны ў Лідзе 17 снежня 1939 г., памёр у лагеры.

Шыменьчык Сара, 1890 г. н.
Сын Юзаф, 1923 г. н.
Дачка Малка, 1925 г. н.
Сын Лазарь Сыменчык (13.01.1913 г. н.), фармацэўт, меў аптэку ў мястэчку Азёры (Гродзенскі павет), загінуў у польскім войску ў кампаніі 1939 г.

Мікуліцкі Зусель, 1885 г. н.
Жонка Міна, 1888 г. н.
У 1942 г. пільнаваў бульбу ў калгасе Такушы, жонка Міна — працавала прыватна як краўчыха. Іх сын Саламон Мікуліцкі (1917 г. н.), звычайны рабочы ў Лідзе, арыштаваны 13 снежня 1939 г.

Ганусовіч Юдыта, 1897 г. н.
Дзеці: Хая, 1924 г. н.; Ісак, 1927 г. н.; Ізраіль, 1931 г. н.
У 1940 г. паселены ў вёсцы Макушы, пераселены ў Такушы ў 1941 г. Муж, Мойша Ганусовіч з Дзятлава Слонімскага павета, арыштаваны 14 сакавіка 1940 г.

Каплан Абрам, 1909 г. н.
Жонка Рабека, 1911 г. н.

Ліпнішскі Шыман, 1886 г. н.
Дочкі: Бэла, 1923 г. н.; Бася, 1910 г. н.
Солтыс мястэчка Воранава ў Лідскім павеце, арыштаваны ў чэрвені 1940 г. Сюды прыбыў у 1942 г. Муж Басі, Лейба Ліпнішскі, кравец у Лідзе, арыштаваны 14 снежня 1939 г. Пры іх дачка Бэла. У 1942 г. Бася выехала ў Барнаул.

Ілютовіч Мера, 1901 г. н.
Дзеці: Абрам, 1924 г. н.; Хаім, 1930 г. н.; Мойша, 1931 г. н.
Маці мужа, Сара Ілютовіч (1885 г. н.), дачка Файвеля.
Першапачаткова паселеныя ў вёсцы Скварцэвічы, пераведзены ў Такушы ў 1941 г.
Муж Мардух Ілютовіч (1906 г. н.), сталяр. Арыштаваны ў Лідзе 20 верасня 1939 г., загінуў. Сара Ілютовіч, хворая, доўгі час была ў раённым шпіталі... а ў 1942 г. патрапіла ў дом інвалідаў.

Абрамовіч Гіта.
Дочкі: Пэся, Сара.
Муж арыштаваны ў 1939 г. Першапачаткова паселены ў вёсцы Макушы, пераведзены ў Такушы ў 1941 г.

Айзікавіч Голда, 1910 г. н.
Дзеці: Фейга, 1931 г. н.; Хана, 1934 г. н.; Мойша, 1937 г. н.
У 1940 г. паселены ў вёсцы Мальцаўцы, у Такушы пераселены ў 1941 г. Муж Мойша Айзікавіч (1906 г. н.) арыштаваны ў Лідзе ў 1939 г., загінуў.

Крупскі Рафал, 1921 г. н.
Прыбыў з Ліды ў 1941 г., уцёк ад немцаў.

Язерская Хена, 1910 г. н.
Прыбыла з Ліды ў 1941 г. Уцякла ад немцаў.

Дубінская Сара-Лея, 1878 г. н.
Сын Бяцола Дубінскі, 1916 г. н., сталяр у Лідзе, арыштаваны 12 снежня 1939 г.

**Вёска Ак-Куль**

Яскевіч Францішка.
Дачка Леакадзія, 9 гадоў, памерла ў 1941 г.
24 чэрвеня 1941 г. вывезена на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы.
Муж Антоні Яскевіч арыштаваны ў 1940 г.

**Лясніцтва. Кардон**

Бохан Аляксандр, 1904 г. н.
Жонка Яніна, 1908 г. н.
Працаваў у лясніцтве бухгалтарам. Аляксандр — беларус праваслаўнага веравызнання, Яніна — полька рыма-каталіцкага веравызнання.

**Вёска Мятлішына**

Вайцэхоўская Надзея, 1908 г. н.
Сыны: Ежы, 1929 г. н.
Генрык, 1935 г. н.
Муж Юзаф Вайцэхоўскі, паліцыянт. Арыштаваны 18 верасня 1939 г.
Працавалі ў калгаснай млячарні. У 1941 г. былі вывезены на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы і вярнуліся ў Мятлішыну восенню таго ж года.
Польская сям’я рыма-каталіцкага веравызнання.

Турлевіч Антон, 1905 г. н.
Паходзіў з Станіславаўскага павета. Быў у лагеры. Сюды прыбыў у 1942 г.
Працаваў кавалём у калгасе.
Паляк рыма-каталіцкага веравызнання.

Свянтонь Юзаф, 1906 г. н.
Жонка Ванда, 1908 г. н.
Сын Чэслаў, 1931 г. н.
Працаваў прыватна як шавец, а потым у калгасе цесляром. Жонка працавала ў калгаснай млячарні. Паходзілі з Браніслава Ропчыцкага павета. Рушылі на ўсход як уцекачы.
Польская сям’я рыма-каталіцкага веравызнання.

Сабонька Уладзіслаў, 1909 г. н.
Працаваў у калгасе кавалём. Прыбыў з лагера ў 1942 г. Паходзіў з Фірлеёва Рагатынскага павета.
Паляк, рыма-католік.

Рабіньска Зоф’я, 1903 г. н.
Дзеці: Лідзія Міхаліна, 1924 г. н.; Марыя, 1937 г. н.; Багуслаў, 1930 г. н.; Збігнеў, 1934 г. н.; Любамір, 1936 г. н.
Маці з дачкой Лідай працавала ў калгасе.
Муж Рабіньскі — зборшчык складак у страхавой касе ў Лідзе. Арыштаваны ў 1939 г.
Польская сям’я рыма-каталіцкага веравызнання.

Карцэль Станіслаў, 1922 г. н.

Працаваў кавалём у калгасе. Паходзіў з Міколіч-Надрурнай (?). Прыбыў сюды ў 1942 г.

Паляк, рыма-католік.

Мікша Вацлаў, 1910 г. н.

Жонка Генавефа, 1911 г. н.

Дзеці: Станіслаў 1911 г. н.; Марыя, 1939 г. н.; Юльян, 1938 г. н.

Маці Міхаліна Мікша, 1873 г. н.

Мікша Фяліцыя (з Гайжэўскіх), жонка Браніслава Мікшы — брата Вацлава Мікшы.

Дзеці Фяліцыі Мікшы: Халіна, 1933 г. н.; Ірэна, 1936 г. н.; Яніна, 1942 г. н.

Вацлаў Мікша працаваў у калгасе цесляром.

Муж Фяліцыі і брат Вацлава Мікшаў Браніслаў Мікша — сяржант польскай арміі, арыштаваны ў 1939 г. Сям'я мела нерухомасць у вёсцы Янушышкі Радунскай гміны, адкуль у 1940 г. была вывезеная. Пры адсутнасці мужа Фяліцыя Мікша выйшла замуж за савецкага грамадзяніна Палішчука, ад якога мела дачку Яніну. У 1942 г. Браніслаў Мікша ўступіў у польскую дзейную армію і прыехаў сюды, каб забраць сваю сям'ю, дараваў жонцы здраду і жадаў прызнаць Яніну за сваю дачку. Фяліцыя на гэта не згадзілася і вырашыла застацца з дзецьмі ў маці Палішчука, які быў прызваны ў Чырвоную армію і, падобна, загінуў. Браніслаў у роспачы з'ехаў у войска, пакінуўшы сваіх дзяцей пад апеку брату Вацлаву.

N. B. Старая Міхаліна Мікша памерла там у 1945 г. Сын Вацлаў Мікша прызваны ў армію, загінуў у 1944 г. Браніслаў Мікша з баямі прайшоў Азію, Афрыку і Еўропу, пасля вайны асеў у Англіі. Яго жонка з трыма дзецьмі прыехала ў Польшчу і тут выйшла замуж і ўжо мае сына.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Насовіч Рамуальд, 1879 г. н.

Жонка Агата, 1883 г. н.

Насовіч працаваў цесляром у калгасе. Сын Станіслаў Насовіч, студэнт Віленскага ўніверсітэта імя Стафана Баторыя, падпаручнік польскай арміі ў рэзерве, арыштаваны 23 сакавіка 1940 г. Станіслаў Насовіч з лагера ўступіў у польскую армію. Ваяваў у Азіі, Афрыцы, Еўропе. Пасля вайны «пасяліўся ў Англіі, але [потым] пераехаў у Канаду».

Сям'я мела надзел зямлі ў Радуні.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Грэляк Юзэфа, 1898 г. н.

Дзеці: Мар'ян, 1924 г. н.; Антон, 1930 г. н.; Леанарда, 1922 г. н.; Ірэна, 1926 г. н.

Муж Грэляк, паліцыянт у мястэчку Радунь, арыштаваны ў 1939 г., з лагера ўступіў у польскую армію і прыехаў да сям'і. Сын Мар'ян у 1942 г. уступіў у польскую армію. Дачка Леанарда тут выйшла замуж за савецкага грамадзяніна, але ў 1942 г. разам з маці і іншымі з'ехала да бацькі.

Ірэна працавала ў калгасе.

**Вёска Якаўлеўка**

Урублеўская Яна, 1901 г. н.

Дзеці: Мар'ян Казімір, 1922 г. н.; Данута, 1921 г. н.; Аляксандра, 1925 г. н.

Маці Яны Урублеўскай Элеанора Радомская, 1876 г. н.

Мар’ян Казімір і Данута працавалі ў экспедыцыі па пошуку нафты. Мар’ян Казімір у лютым 1942 г. добраахвотна хацеў пайсці ў польскую армію, але яго не прызвалі праз стан ягонай сям’і. Аляксандра мела хворы хрыбетнік і шмат гадоў ляжала, у такім стане была вывезеная ў 1940 г.

Польская сям’я рыма-каталіцкага веравызнання.

Чыжэўскі Міхал, 76 гадоў.

Памёр у петрапаўлаўскім доме старцаў у 1941 г.

Паляк, рыма-католік.

Мальвінская Станіслава, 1905 г. н.

Дзеці: Ірэна, 1931 г. н.; Пётр, 1932 г. н.; Уладзіслаў, 1937 г. н.; Паўліна, 1927 г. н.

Маці і Паўліна працавалі ў калгасе.

Муж Баніслаў Мальвінскі, знаны ў межах горада Ліда дзеяч левіцы, арыштаваны ў 1939 г., загінуў.

Польская сям’я рыма-каталіцкага веравызнання.

Ніжэй пералічаныя сем’і жылі ў вёсцы Якаўлеўка і 24 чэрвеня 1941 г. былі вывезеныя на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы.

Кучынская Марыя, 1889 г.

Дзеці: Ян, 1922 г. н.; Хэлена, 1926 г. н.; Юзэфа, 1928 г. н.; Станіслаў, 1923 г. н.

Муж Ян Кучынскі арыштаваны ў Лідзе ў 1939 г.

Польская сям’я рыма-каталіцкага веравызнання.

Гурна Тэафіла, 1909 г. н.

Дочкі: Данута, 1933 г. н.; Юзэфа, 1936 г. н.

Муж паліцыянт Гурны арыштаваны ў Лідзе ў 1939 г., у лагера прыехаў на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы і тут знайшоў сям’ю

Польская сям’я рыма-каталіцкага веравызнання.

Бацькі Тэафілы Гурнай:

Разбіцкая Вікторыя, 1884 г. н.;

Разбіцкі, паліцыянт, арыштаваны ў Лідзе ў 1939 г., з лагера прыехаў на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы.

Дачка Станіслава, 1922 г. н.

Польская сям’я рыма-каталіцкага веравызнання.

Эндзерналік Марыя, дачка Юзэфа, 1920 г. н.

Брат Ендзерналік, сяржант 77 п. п. у Лідзе, загінуў у кампаніі 1939 г.

Полька, рыма-каталічка.

Кавалёва (з Гаеўскіх) Зоф’я, 55 гадоў.

Муж Васіль Кавалёў, чыгуначнік у Лідзе, арыштаваны ў 1939 г., загінуў.

Зоф’я Кавалёва, полька, рыма-каталічка.

**Вёска Новы Бут**

Арлоўская Антаніна, 1912 г. н.

Сын Мечыслаў (перарабіў сваё імя на Вячаслаў), 1931 г. н.

Першапачаткова паселена ў вёсцы Давідаўка, адтуль узята на будоўлю чыгункі, потым пераведзена ў Палудзенскі раён у вёску Новы Бут, дзе працавала ў малочарні.

Муж Браніслаў Арлоўскі, харунжы польскай арміі, з вёскі Канюхі Лябёдскай гміны Лідскага павета. У 1941 г. з лагера ўступіў у дзейную польскую армію, адтуль дапамагаў жонцы значнымі сумамі грошаў. Падобна, як канцылярыст працаваў пры штабе.

**Вёска Давідаўка**

Ляпеша Людвік, 1879 г. н.

Дачка Ядвіга, 1924 г. н.

Ягоная жонка і маці Ядвігі — Канстанцыя з Сінкевічаў, 1890 г. н., памерла ў раённым шпіталі Палудзена ад запалення лёгкіх.

Сын Уладзіслаў Ляпеша, чыноўнік староства Гродзенскага павета. Арыштаваны ў Гродне ў верасні 1939 г. Знаходзіўся ў лагеры на Поўначы.

Бацька працаваў аднаасобна як пячнік, а дачка — у калгасе і на высечцы лесу.

Сям'я мела сялянскі надзел зямлі ў вёсцы Дварчаны Васілішскай гміны.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Якубоўская Фяліцыя, 1899 г.

Дзеці: Абубікір, 1922 г. н.; Алі, 1930 г. н.; Зейнаб, 1924 г. н.; Халіма, 1926 г. н.

Муж Рамуальд Якубоўскі, турэмны ахоўнік у Свянцянах, арыштаваны ў снежні 1939 г., загінуў. Сын Абубікір 10 студзеня 1942 г. добраахвотнікам запісаўся ў дзейную польскую армію. У лютым выехаў у армію і служыў у кавалерыі.

Фяліцыя Якубоўская пасля арышту мужа жыла ў ваколіцы Сандукоўшчына васілішскай гміны, адкуль у 1940 г. разам з дзецьмі вывезена ў Казахстан.

Першапачаткова паселены ў вёсцы Стаханавец, у 1941 г. вывезены на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы, потым аселі ў вёсцы Давідаўка. Зейнаб і Халіма ў 1942 г. працавалі на высечцы лесу ў калгасе і падраблялі швачкамі.

Татарская сям'я мусульманскага веравызнання.

Яновіч Кацярына, 1903 г. н.

Дзеці: Надзея, 1936 г. н.; Марыя, 1936 г. н.; Аляксандр, 1935 г. н.; Рыгор, 1933 г. н.

Муж Яновіч, арыштаваны ў вёсцы Збляны Беліцкай гміны, загінуў.

Працавалі ў калгасе на высечцы лесу.

Беларуская сям'я праваслаўнага веравызнання.

Яновіч Антаніна, 1870 г. н.

Дачка Кацярына, 1913 г. н.

Працавала ў калгасе і на высечцы лесу. Сям'я паходзіла з Беліцкай гміны Лідскага павета, беларусы праваслаўнага веравызнання.

Наўроцкая Марыя, 1900 г. н.

Дзеці: Хэлена,1926 г. н.; Яніна, 1928 г. н.; Ядвіга, 1931 г. н.; Чэслаў, 1939 г. н.

Муж Наўроцкі арыштаваны ў 1939 г., у 1941 г. прыбыў сюды з лагера, забраў дзяцей і разам з імі паехаў у дзейную армію. Сям'я паходзіла з вёскі Чаплічы Беліцкай гміны Лідскага павета.

Маці памерла 30 красавіка 1941 г. ад бранхіту ў раённым шпіталі ў Палудзене. Першапачаткова паселены ў вёсцы Пачаткава, потым у Стаханаўцы, адкуль у 1941 г. пераселены ў Давідаўку. Вывезены на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Велясь Марыя, полька рыма-каталіцкага веравызнання.

Ялішэўская, жонка паліцыянта, рыма-каталічка.
Юрась? Дзіця 3 гадоў. Невядома чыё, падобна, маці збегла падчас вывазу. Памёр.

Шмігера Фяліцыя, 1905 г. н.
Дзеці: Элеанора, 1922 г. н.;
Бацька Фяліцыі Аляксандр, 1860 г. н. Памёр 30 студзеня 1941 г. ад запалення.
Сям'я паходзіла з ваколіцы Глебаўцы Васілішскай гміны.
Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Кульбацкі Сільвестр, 1870 г. н.
Сын — паручнік 5 лётнага палка ў Лідзе, загінуў у кампаніі 1939 г. Паходзіў з Васілішак.
Пры вывазе па чыгунцы апекаваўся старой палкоўнічыхай Мартай Сансёркай і паручнікавай Люцынай Сяніцкай. Восенню 1941 г. яшчэ быў разам з імі ў вёсцы Гарадзішча...
Паляк рыма-каталіцкага веравызнання.

**Вёска Мальцаўка**

Харлінская Хэлена.
Дзеці: Яніна Ірэна, 1939 г. н.; Тадэвуш.
Муж Харлінскі, паліцыянт у Лідзе, у 1939 г. з'ехаў у Цэнтральную Польшчу пад нямецкую акупацыю. На пачатку 1941 г. Харлінская атрымала дазвол на выезд да мужа. Выбух вайны 22 чэрвеня 1941 г. перашкодзіў гэтаму, і яна з дзецьмі вывезена на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы.
Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

**Вёска Краснапёраўка**

Рэвенскі Юзаф, 1870 г. н.
Жонка Марыя, 1873 г. н.
Іх нявестка: Рэвенская Ірэна, 1909 г. н.
Яе дзеці: Ганна, 1934 г. н.; Станіслаў, 1937 г. н.
Іх дачка: Варапай-Гардзіевіч Хэлена, 1910 г. н.
Яе дзеці: Пётр Януш, 1934 г. н.; Збігнеў Валеры, 1936 г. н.; Леан Пётр, 1980 г. н.
Юзаф Рэвенскі валодаў фальваркам Мікулін у Баранавіцкім павеце. Сын Уладзіслаў Рэвенскі ў 1939 г. — капітан польскай арміі, ваяваў і застаўся ў Англіі. Зяць Варапай-Гардзіевіч, таксама капітан, загінуў у кампаніі 1939 г.
Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Ніжэй пералічаныя сем'і, якія жылі ў вёсцы Краснапёраўка, 24 чэрвеня 1941 г. былі вывезены адтуль на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы:

Вяжутовіч Ірына, 1904 г. н.
Дачка Таццяна, 1925 г. н.

Урбановіч Надзея, дачка Міхала, 1905 г. н.

...Ілья Антановіч, 1867 г. н.
Яно нявестка Мяланья, 1890 г. н.

Навакоўская Юлія, 1896 г. н.

Марцінкевіч Юлія, 1900 г. н.
Сын Францішак, 1934 г. н.

Каравайка Анастасія, 1901 г. н.
Дзеці: Люцыян, 1924 г. н.; Марыя, 1929 г. н.

Дагліс Зузана, 1901 г. н.
Дачка Ядвіга, 1934 г. н.

Буякоўская Агата, 1901 г. н.
Дзеці: Ян, 1926 г. н.; Ірэна, 1928 г. н.

Прыбытка Ганна, 1905 г. н.
Дачка Данута (ці Ванда ?), 1925 г. н.
Жонка ўладальніка маёнтка Кажамякі гміны Новы Двор Юльяна Прыбыткі (1883 г. н.) (сын генерал-маёра Аляксандра Прыбыткі), віцэ-старшыні лідскага аддзела Віленскага акруговага суда, арыштаванага ў 1939 г. і хутка памерлага ў турме.

**Вёска Масалаўка**

Браты Аляксандр, 1919 г. н., і Фёдар, 1921 г. н., Мармышы.
Іх маці Мармыш Антаніна памерла тут 23 сакавіка 1941 г., маючы 43 гады, ад запалення лёгкіх.
Іх бацька Ян Мармыш арыштаваны ў 1940 г., з лагера пайшоў у дзейную польскую армію...
Абодва браты... працавалі ў калгасе. У 1941 г. былі вывезены на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы на рацэ Табол, адкуль вярнуліся ўвосень таго ж года.
Беларуская сям’я праваслаўнага веравызнання.

**Вёска Стаханавец**

Ніжэй пералічаныя сем’і 24 чэрвеня 1941 г. вывезены на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы.

Мурына Ганна, 1900 г. н.
Дзеці: Вера, 1925 г. н.; Антаніна, 1926 г. н.; Уладзімір, 1930 г. н.
Муж Іван Мурын быў арыштаваны ў 1939 г. 10 верасня 1941 г. у пошуках сям’і прыбыў з лагера на чыгунку Акмолінск — Карталы, з’яўленне савецкага вязня на ўчастку на рацэ Табол выклікала сапраўдную сенсацыю. Яму патлумачылі, што ягоная жонка з дзецьмі працуе на іншым участку чыгункі — на 37-м кіламетры от Карталы, у вёсцы Гарадзішча... Чалябінскай вобласці.
Паходзілі з вёсцы Жомайдзі Беліцкай гміны Лідскага павета.
Беларуская сям’я праваслаўнага веравызнання.

Урбан Антаніна, 1880 г. н.
Дзеці: Яўген, 1912 г. н.; Уладзімір 1922 г. н.; Соф’я, 1931 г. н.; Генадзь, 1940 г. н.
З Беліцкай гміны Лідскага павета.
Беларуская сям’я праваслаўнага веравызнання.

Коцман Ядвіга, 1912 г. н.
Дзеці: Герасім, 1933 г. н.; Вячаслаў, 1937 г. н.; Яраслаў, 1940 г. н.
Яраслаў памёр 15 мая 1941 г.
З Беліцкай гміны Лідскага павета.
Беларуская сям’я праваслаўнага веравызнання.

**Вёска Самадураўка, ці Новагеоргіеўка**

Шэшка Міхал, 1870 г. н.
Жонка Мяланья, 1880 г. н.

Сыны: Ян, 1906 г. н.; Рыгор, 1916 г. н.; Язэп, 1908 г. н.

Жонка Язэпа Анастасія, 1910 г. н.

Іх дзеці: Галіна, 1931 г. н.; Надзея, 1933 г. н.

Мелі сялянскі надзел зямлі ў вёсцы Гардзееўцы Лябёдскай гміны. Сын Язэп Шэшка арыштаваны ў 1940 г. 13 красавіка 1940 г. сям'я вывезена ў Палудзенскі раён і паселена ў вёсцы Самадураўцы. Дарослыя працавалі ў калгасе як цесляры і на палявых працах. 24 чэрвеня 1941 г. адтуль уся сям'я вывезена на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы на рацэ Табол. Тут Міхал Шэшка захварэў на апендыцыт і памёр 12 ліпеня 1941 г. у чыгуначным шпіталі станцыі Карталы. 24 верасня таго ж года сям'я вярнулася назад. Сюды ў 1941 г. з лагера прыйшоў Язэп Шэшка. Пасля гэтага ўся сям'я была вывезеная ў капальню вугалю ў Карагандзе.

Беларусы праваслаўнага веравызнання.

Шалевіч Ванда, 1904 г. н.

Сын Вальдэмар, 1927 г. н.

Сын Анджэй Юзаф, 1930 г. н.

Пры ёй маці яе маці, Няхрэбецкая, 1870 г. н., і маці мужа, Стэфанія Шалевіч з Юндзілаў, дачка Юзафа і Ганны, 1853 г. н.

Муж Станіслаў Шалевіч, уладальнік маёнтка Хацяновічы Жалудоцкай гміны, у верасні 1939 г. з'ехаў у Вільню, загінуў. Падчас высылкі ў вагоне сын Анджэй Юзаф захварэў на запаленне вачэй. ...У вёсцы Самадураўцы 12 ліпеня 1941 г. памерла Стэфанія Шалевіч. У 1944 г. памёр Анджэй Юзаф. Ванда Шалевіч і сын Вальдэмар працавалі на самых цяжкіх работах у калгасе. У 1946 г выехалі ў Польшчу.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Сабатоўская Тэрэза, 1902 г. н.

Дзеці: Кшыштаф, 1927 г. н.; Яўгенія, 1929 г. н.; Тэрэза, 1939 г. н.; Барбара, 1937 г. н.

Муж Альфонс Сабатоўскі, паліцыянт, кіраўнік фонду беспрацоўных у Лідзе, уладальнік пляца і дома ў прыгарадным раёне Сойкішкі. Арыштаваны 26 верасня 1939 г. З лагера ўступіў у дзейную польскую армію.

Маці з старэйшымі дзецьмі працавала ў калгасе на самых цяжкіх работах. З'ехалі ў Польшчу ў 1946 г.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Сцяпуль Антаніна, 1904 г. н.

Дачка Яніна, 1929 г. н.

Муж Ян Сцяпуль, 1901 г. н., арыштаваны 28 кастрычніка 1939 г. у вёсцы Халечына Лябёдскай гміны, дзе валодаў дробным надзелам сялянскай зямлі.

Маці працавала ў калгасе. У 1941 г. была вывезеная на будаўніцтва чыгункі Акмолінск — Карталы і вярнулася восенню таго ж года. Выехалі ў Польшчу ў 1946 г.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Карабач Надзея, 1883 г. н.

Дапамагала калгаснікам у хатняй гаспадарцы і гадавала іх дзяцей. У 1941 г. была вывезеная на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы на рацэ Табол, вярнулася восенню таго ж года.

Беларуска праваслаўнага веравызнання.

Раткевіч Валянціна, 1884 г. н.

Муж Юзаф Раткевіч, 1872 г. н., селянін, уладальнік дробнага надзелу зямлі ў вёсцы Ішчалняны Лябёдскай гміны. Арыштаваны ў 1939 г., загінуў.

Дапамагала калгаснікам у хатняй гаспадарцы і гадавала іх дзяцей.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

**Сяло Бугровае**

Северская Хэлена, 1885 г. н.

Дзеці: Баляслаў, 1918 г. н.; Рышард, 1926 г. н.; Ядвіга, 1917 г. н.; Сабіна, 1925 г. н.

Муж Рышард Северскі арыштаваны ў Лідзе 20 кастрычніка 1939 г. Таксама пры пераходзе дэмаркацыйнай лініі 17 сакавіка 1940 г. быў арыштаваны і сын Зыгмунт (1920 г. н.).

Баляслаў і Рышард працавалі слесарамі ў МТС у Бугровым. Сабіна дапамагала ў працы раённаму прадстаўніку польскай амбасады, выехала ў Іран у 1942 г.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Марцінкевіч Марыя, 1902 г. н.

Яе сын Генрык, 1936 г. н.

Муж Марцінкевіч, паліцыянт у Лідзе, у 1939 г. інтэрнаваны ў Літве.

Марыя працавала на маслабойні ў Бугровым. Выехала ў Польшчу ў 1946 г. 24 чэрвеня 1941 г. была вывезеная на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы на рацэ Табол, адкуль вярнулася ў Палудзенскі раён восенню 1941 г. У лютым 1943 г. у Бугровым памёр яе сын Генрык.

Полька рыма-каталіцкага веравызнання.

Буш Мікалай, 1905 г. н., брат Марыі Марцінкевіч.

Слесар і манцёр. Працаваў на маслабойні як механік.

Да сястры прыехаў на пачатку 1942 г. Летам таго ж года арыштаваны і праз некалькі тыдняў звольнены. У красавіку 1943 г. паўторна арыштаваны па артыкуле 58–10 за агітацыю — хваліў нямецкую зброю. 15 чэрвеня таго ж года абласны суд у Петрапаўлаўску прыгаварыў яго 10 гадоў пазбаўлення волі. Пры канцы 1944 г. памёр у лагеры Карталы.

Паляк, але праваслаўнага веравызнання.

Загула Браніслава, 1904 г. н.

Дзеці: Яўген, 1928 г. н.; Уладзіслава, 1931 г. н.

Муж Антон Загула нарадзіўся 20 снежня 1901 г., селянін з ваколіцы Пузэлі Каняўскай гміны, арыштаваны ў 1940 г., загінуў. Дачка Уладзіслава памерла 15 красавіка 1942 г. у Бугровым. Хлопец Яўген падчас вяртання з будаўніцтва чыгункі ў 1941 г. на буферах вагона адмарозіў пальцы і ў чыгуначным шпіталі яму ампутавалі частку далоні.

Першапачаткова паселены ў Бугровым, 24 чэрвеня 1941 г. вывезены з дзецьмі на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы на рацэ Табол, адкуль вярнуліся восенню 1941 г. Працавала ў маслабойні. Выехалі ...

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Яноўская Магдалена з Зэлікаў, 1882 г. н.

Яе сыны — афіцэры польскай арміі: Вітольд Яноўскі-Зэлік, падпаручнік артылерыі з Свіслачы каля Ваўкавыска, загінуў 28 верасня 1939 г. у Лодзі. Баляслаў Яноўскі, падпаручнік 77 п. п., загінуў 14 снежня ў Лідзе.

Выехала ў Польшчу ў 1886 г.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Браты: Войсят Чэслаў, 1927 г. н., і Войсят Зянон, 1930 г. н.

Іх бацька Вацлаў Войсят з ваколіцы Пузэлі Каняўскай гміны арыштаваны ў Аранах у 1940 г. Падчас вывазу 13 красавіка 1940 г. іх мачаха збегла, а яе пасынкаў — дзяцей 13 і 10 гадоў — вывезлі ў Казахстан. Дзеці як маглі працавалі ў калгасе. Малодшы нейкі час знаходзіўся ў дзіцячым доме ў Петрапаўлаўску.

Польская сям’я рыма-каталіцкага веравызнання.

Ляшкевіч.

Дачка.

Муж Ляшкевіч, каняўскі чыноўнік (?), паручнік рэзерву, у 1939 г. патрапіў у савецкую няволю. Вясной 1942 г. з лагера прыехаў у Бугровае і забраў сям’ю з сабой у польскую армію.

Польская сям’я рыма-каталіцкага веравызнання.

Драўніцкая Марыя.

Яе муж Драўніцкі, паліцыянт у Лідзе, у 1939 г. інтэрнаваны, у 1941 г. з лагера ўступіў у дзейную польскую армію. У 1942 г. прыехаў у Бугровае, разам з жонкай з’ехаў у армію.

Вывезена з Бугровага на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы над ракой Табол. Вярнулася восенню 1941 г. Працавала ў маслабойні.

Кунцэвіч Генавефа, 1910 г. н.

Дачка Крысціна, 1939 г. н.

Жылі ў вёсцы Баяры, адкуль 13 красавіка 1940 г. былі вывезеныя ў Палудзенскі раён Казахстана. 24 чэрвеня 1941 г. вывезена на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы над ракой Табол. Пасля вяртання працавала на маслабойні.

Муж Аляксандр Кунцэвіч, настаўнік, падпаручнік рэзерву. Арыштаваны ці патрапіў у няволю (невядома) і 24 верасня 1941 г. з лагера прыбыў на раку Табол да жонкі і дачкі, разам з імі праз некалькі дзён прыехаў у Палудзенскі раён. 10 лютага 1942 г. пайшоў у войска. Летам 1942 г. прыехаў у Бугровае і забраў з сабой у армію жонку з дачкой. Выяўляў нежаданне служыць у польскай арміі, бо лічыў сябе беларусам, а жонка лічыла сябе тутэйшай.

Сям’я рыма-каталіцкая.

Коркуць Ганна.

Дачка Крысціна, 1937 г. н.

Муж Вінцэнт Коркуць арыштаваны ў 1940 г. Крысціна памерла ў 1940 г. У 1941 г. Ганна Коркуць вывезена на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы.

**Вёска Шалучына**

Зора Марыя, 1919 г. н.

Дачка Данута.

Сястра мужа Ганна, 1896 г. н., рэўматычка, не магла не толькі працаваць, але і хадзіць.

Муж Браніслаў Зора, настаўнік агульнаадукацыйнай школы ў Дамброве Жалудоцкай гміны, у 1939 г. патрапіў у нямецкую няволю, загінуў.

Марыя Зора працавала ў калгасе. У 1942 г. была кіраўніком польскай падрыхтоўчай школы ў Шалучыне.

Польская сям’я рыма-каталіцкага веравызнання.

Сцяпан Лапата, 1900 г. н.

Жонка Вера, 1905 г. н.

Дачка Надзея, 1939 г. н.

У ссылцы працавалі ў калгасе. Паходзілі з вёскі Анацкія Дакудаўскай гміны. Сцяпан Лапата арыштаваны 14 снежня 1939 г., а жонка з дзіцем 13 красавіка 1940 г. вывезена ў Палудзенскі раён, адтуль 24 чэрвеня 1941 г. — на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы над ракой Табол. На адваротным шляху ў Палудзенскі раён, у Акмолінску, прыбыўшы з лагера, Сцяпан Лапата спаткаў жонку з дачкой і разам з імі пасяліўся ў вёсцы Шалушына.

Беларусы праваслаўнага веравызнання.

Пацэвіч Вітольд, 1902 г. н.

Жонка Казіміра, 1904 г. н.

Дзеці: Вацлаў, Антон, Станіслава.

У ссылцы працавалі ў калгасе. Сям'я з вёскі Вугольнікі Сабакінскій гміны. Вітольд арыштаваны 1 снежня 1939 г. і прыехаў у Казахстан з лагера.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Петраш Марыя, 1888 г. н.

Дзеці: Аляксандра, 1920 г. н.; Мікалай, 1932 г. н.; Яўгенія, 1928 г. н.

Маці мужа Мар'яна, 1874 г. н.

У ссылцы працавалі ў калгасе. Муж Ян Петраш арыштаваны 10 кастрычніка 1939 г., загінуў. Сям'я паходзіць з вёскі Нецяч гміны Гарадзішча Баранавіцкага павета, дзе мела сялянскі надзел зямлі.

Беларусы праваслаўнага веравызнання.

Вераб'ёва Вольга, 1904 г. н.

Дочкі: Зіна, 1929 г. н.; Ніна, 1932 г. н.; Люба, 1937 г. н.; сын Мікалай, 1933 г. н.

Падчас транспартавання ў Палудзенскі раён у 1940 г. у Вольгі нарадзіўся сын Аляксандр, які памёр 17 красавіка 1941 г.

Сям'я з вёскі Падстарыні Баранавіцкага павета, дзе мела сялянскі надзел зямлі. Лукаш Вераб'ёў (1898 г. н.), муж Вольгі, арыштаваны 24 лістапада 1939 г., загінуў. У ссылцы працавалі ў калгасе.

Беларусы праваслаўнага веравызнання.

Тамко Вольга, 1914 г. н.

Дачка Лідзія, 1932 г. н.

Сын Аляксандр, 1934 г. н.

У ссылцы працавалі ў калгасе. Сям'я з мястэчка Гарадзішча Баранавіцкага павета, дзе мела сялянскі надзел зямлі. Муж Вольгі Васіль Тамко арыштаваны 13 лістапада 1939 г., загінуў.

Беларусы праваслаўнага веравызнання.

Хвалько Ева, 1915 г. н.

Сын Аляксандр, 1939 г. н.

У ссылцы працавала ў калгасе. Сям'я паходзіць з мястэчка Гарадзішча Баранавіцкага павета, дзе валодала сялянскім надзелам зямлі. Муж Евы Мікалай Хвалько арыштаваны 1 снежня 1939 г., загінуў.

Беларусы праваслаўнага веравызнання.

**Вёска Савецкае**

Дабравольская Ганна, 1904 г. н.

Дочкі: Ядвіга, 1925 г. н.; Яніна, 1928 г. н.; Уладзіслава, 1930 г. н.

Маці са старэйшымі дочкамі працавала ў калгасе. Сям'я паходзіць з мястэчка Молчадзь Баранавіцкага павета. Муж Ганны Уладзіслаў Дабравольскі, служачы турмы ў Баранавічах, арыштаваны ў 1939 г., з лагера 9 студзеня 1942 г. добраахвотнікам пайшоў у польскую армію.

Выехалі ў Польшчу ў 1946 г.

Палякі рыма-каталіцкага веравызнання.

Асцілка Аляксандр, 1912 г. н.

Асцілка Мікалай, 1914 г. н., брат.

Працавалі ў калгасе. Паходзілі з мястэчка Молчадзь Баранавіцкага павета, дзе мелі сялянскі надзел зямлі. Іх брат, Міхал Асцілка, 1907 г. н., арыштаваны 28 верасня 1939 г., загінуў.

Беларусы, праваслаўныя.

Маркевіч Ян, 1894 г. н.

Жонка Аляксандра, 1902 г. н.

Дзеці: Ян, 1922 г. н.; Аляксандр, 1925 г. н.; Міхал, 1926 г. н.; Андрэй, 1935 г. н.; Мікалай, 1936 г. н.; Алена, 1929 г. н.; Еўфрасіння, 1937 г. н.

Першапачаткова аселі ў вёскі Казахстанец, адтуль 24 чэрвеня 1941 г. вывезены на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы, адтуль ад'ехалі 24 верасня 1942 г. у Палудзенскі раён і былі паселены ў вёсцы Савецкае. Працавалі ў калгасе.

Сям'я паходзіць з вёскі Філонаўцы Дакудаўскай гміны Лідскага павета, мела сялянскі надзел зямлі, да якой брат Яна дакупіў зямлю каля Дакудава. Ян Маркевіч і тры старэйшыя сыны — музыканты. У іх хаце часта гасцілі чыноўнікі з Ліды — аматары палявання. Ян арыштаваны 17 лістапада 1939 г., прыбыў да сям'і на пачатку 1942 г.

Беларуская сям'я праваслаўнага веравызнання.

Руткоўская Надзея.

Сын Генрык, 4 гады, памёр 13 студзеня 1941 г.

Муж Антон Руткоўскі, паліцыянт у Молчадзі Баранавіцкага павета, арыштаваны ў 1939 г., загінуў. Надзея 24 чэрвеня 1941 г. вывезена на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

**Вёска Ленінка**

Міхайлоўская з дзецьмі.

Муж Міхайлоўскі (Міхалоўскі?) маёр 77 п. п. у Лідзе, загінуў у кампаніі 1939 г. Міхайлоўская была вывезена на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

**Вёска Шалегіна**

Карабач Аляксандра з дзецьмі.

Муж Карабач арыштаваны ў Беліцкай гміне Лідскага павета ў 1939 г. У 1941 г. з лагера прыбыў да сям'і на будоўлю чыгункі.

24 чэрвеня 1941 г. вывезена на будаўніцтва чыгункі Акмолінск — Карталы.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

**Вёска Мікалаеўка**

Усе ніжэйпералічаныя сем'і 24 чэрвеня 1941 г. былі вывезеныя на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы. Каля 15 іншых сем'яў, паселеных тут у 1940 г., перараселены ў іншыя вёскі.

Брыльская з дзецьмі.

Муж Брыльскай — настаўнік гандлёвай гімназіі ў Лідзе ксяндзоў піяраў, пасол у астатні сейм, арыштаваны восенню 1939 г., з лагера прыбыў да сям'і на будаўніцтва чыгункі Акмолінск — Карталы ў вёску Гарадзішча... Чалябінскай вобласці.

Разам з Брыльскай вывезена чужая для яе Дзевярын Клара, якую Брыльская ўтрымлівала з міласэрнасцю. У 1940 г. Брыльская працавала ў экспедыцыі па пошуках нафты.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Два браты Бярнацкія з жонкамі і дзецьмі.

Адно дзіця памерла ў 1941 г.

Бацька братоў Бярнацкіх ажаніўся з сялянкай з мястэчка Астрына, таму гэтыя сем'і праваслаўнага веравызнання, лічылі сябе беларусамі. У Астрыне мелі сялянскі надзел зямлі. За нейкую правіну на будаўніцтве чыгункі абодва браты былі пазбаўлены волі і патрапілі ў Карагандзінскі лагер.

Маркевіч з дачкой.

Настаўніца з мястэчка Васілішкі. Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Дудзіцкая Юзэфа з дзецьмі.

Працавала ў 1940 г. у экспедыцыі па пошуку нафты як звычайная рабочая.

Муж Юльян Дудзіцкі, фельчар і ўладальнік дома ў Лідзе па вуліцы Тыльзіцкай, арыштаваны ў 1939 г. У 1941 г. па амністыі выйшаў з лагера і патрапіў у шпіталь горада Туржкула Каракалпакскай АССР. Яго жонка з дзецьмі з будоўлі чыгункі пад Карталамі ўвосень 1941 г. разам з іншымі сем'ямі патрапіла ў Самаркандскую вобласць на станцыю Джума... калгас Шаркідус. Не ведаючы, што жывуць блізка, пры дапамозе маёй карэспандэнцыі злучыліся: Дудзіцкі прыляцеў жа жонкі на самалёце. Разам выехалі ў польскае войска ў Іране.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Левандоўская, жонка афіцэра.

Санкоўская Таццяна, дачка Міхала.

Дзеці: Чэслаў, 8.03.1913 г. н. (у Рызе, сын Міхала Шостака); Аліцыя, 1938 г. н.

Муж — настаўнік агульнаадукацыйнай школы ў мястэчку Орля Шчучынскага павета.

Пароўская Антаніна, дачка Адама, 27.10.1915 г. н. (у Варшаве).

Дзеці: Збігнеў, 1933 г. н.; Ежы, 1934 г. н.; А... , 1935 г. н.

Жонка брата Сабіна Пароўская.

Бондар.

Айвоўская.

**Вёска Карахстан**

Лейзяровіч Іцка.

**Вёска Раўкава**

Прыбытка Эва, 1885 г. н.
Дачка Ядвіга, 1918 г. н.
Сын Януш, 1923 г. н.
Другая дачка Кастравіцкая Аліна, 1913 г. н.

Яе сыны: Кшыштаф Нарымунд, 1936 г. н.; Аляксандр Караль, 1938 г. н.

Эва Прыбытка — удава па с. п. Эмілію Прыбытку, уладальніку маёнтка Хадзілоні ў Сабакінскай гміне.

Яе зяць Кастравіцкі, сын Амброзія Кастравіцкага, лекара (Белагруда Тарноўскай гміны), падпаручнік рэзерву польскай арміі, пасля катастрофы 1939 г. ратаваўся ў Вільні, загінуў.

Ядвіга Прыбытка ў сакавіку 1943 г. адмовілася ад савецкага пашпарта і грамадзянства і таму па артыкуле 192-а КК была на два гады пазбаўлена волі. Тэрмін адбыла цалкам.

Брат яе бацькі Юльян Прыбытка — віцэ-прэзідэнт лідскага аддзела Віленскага акруговага суда, памёр у лагеры, а другі брат, Антон Прыбытка, 20 чэрвеня 1941 г. быў вывезены ў Сібір, у Мінусінскі раён Краснаярскага краю.

Першапачаткова паселены ў вёсцы Давыдаўцы, у 1940 г. пераселены ў вёску Фурманаўку, а ў 1942 г. — у вёску Раўкіна. Аліна Кастравіцкая ў 1941 г. знаходзілася ў шпіталі для нервовахворых на станцыі Аляксееўка. У 1940–1941 гг. Ядвіга працавала ў экспедыцыі па пошуку нафты (нефтеразведка) як звычайная рабочая, потым была вучнем геалогіі на бурыльнай вежы ў Санкіне. У 1942 г. Ядвіга працавала таксама як звычайная рабочая ў такой жа экспедыцыі ў Чалябінскай вобласці, а адтуль разам з экспедыцыяй прыбыла ў Палудзенскі раён, дзе ў тым жа годзе разам з ёй хадзіла на працу і сястра Аліна Кастравіцкая.

Выехалі ў Польшчу ў 1946 г.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Доўнар-Запольская Элеанора, 1895 г. н.

Дзеці: Вацлаў, 1923 г. н.; Ядвіга, 1924 г. н.

Муж Юзаф Доўнар-Запольскі, паліцыянт на пенсіі і ўладальнік асабістага дома ў Лідзе па вуліцы Лідскай. Арыштаваны 12 красавіка 1940 г., загінуў.

Сын Вацлаў 10 лютага 1942 г. добраахвотнікам пайшоў у польскую армію.

У 1940–1941 гг. працавалі тут на вырабе саману для калгаса. У 1942 г. Элеанора працавала поварам у Раўкіна... а Ядвіга працавала на агародзе базы экспедыцыі па пошуку нафты ў Петрапаўлаўску.

За адмову ад савецкага пашпарта і грамадзянства ў 1943 г. народны суд у Палудзене прыгаварыў на два года пазбаўлення волі Ядвігу (па артыкуле 192-а КК). Тэрмін адбыла цалкам.

Выехалі ў Польшчу ў 1946 г.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання, прыбылі ў Ліду з ваколіц Мінска ў 1920 г.

Рушкіна Юдзель, 1898 г. н.

Двое яе малых дзяцей: Янкель і Мойша, трэцяе дзіця памерла па дарозе.

Юдзель Рушкіна памерла 18 красавіка 1941 г. Рушкіна пахавана на могілках у Казахстане. Двое малых дзяцей забралі ў дзіцячы дом у Петрапаўлаўску, дзе яны яшчэ знаходзіліся ў 1943 г. Далейшы лёс невядомы. Старая бабуля Кейла Крыніцкая... каля года знаходзілася ў палудзенскім раённым шпіталі, памерла 10 студзеня 1942 г.

Паходзяць з мястэчка Астрына. Муж арыштаваны ў 1939 г., загінуў. 13 красавіка 1940 г. Рушкіна выехала ў Гродна, каб адведаць мужа ў турме, перад гэтым яна адвезла дзяцей на станцыю Ражанка да бабулі. Старая бабуля Кейла Крыніцкая (маці Рушкінай, жонка Арона) мусіла добраахвотна ехаць з дзецьмі ў Казахстан у Палудзенскі раён. Пасля вяртання ў Астрыну з дазволу ўладаў маці паехала за дзецьмі.

Яўрэйская сям'я.

Пацатуй.

Дзеці: Тадэвуш, Юрак, Хэлена, Ірэна.

Муж Пацатуй арыштаваны ў 1939 г.

24 чэрвеня 1941 г. вывезена на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

**Калгас № 79**

Юрэвіч Хэлена, 1909 г. н.

Сыны: Тадэвуш, 1933 г. н.; Збігнеў, 1934 г. н.

Маці Хэлены Ляшкевіч Ядвіга, 1882 г. н.

Муж Аляксандр Юрэвіч, 1911 г. н., падпаручнік рэзерву, настаўнік агульнаадукацыйнай школы ў ваколіцыВаўчкі, гміна Орля, у 1939 г. патрапіў у савецкую няволю. Знаходзіўся ў Казельскім лагеры.

Працавала ў 1940–1942 гг. у тым жа калгасе, а летам 1942 г. у Петрапаўлаўску на агародзе нафтабазы.

Выехалі ў Польшчу ў 1946 г.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Шафарэвіч Вінцэнт, 1880 г. н.

Жонка Браніслава, 1883 г. н.

Дочкі: Марыя, 1924 г. н.; Браніслава, 1928 г. н.

Бацька, як фельчар, працаваў лекарам. Дачка Марыя працавала ў калгасе, а ў 1942 г. агародзе базы нафтавыведкі ў Петрапаўлаўску.

Сям'я паходзіць з вёскі Моцявічы Жалудоцкай гміны, дзе мела сялянскую гаспадарку. Сын Юзаф Шафарэвіч, 1911 г. н., паліцыянт, арыштаваны 15 снежня 1939 г., загінуў.

Дачка Браніслава таксама працавала ў калгасе. 2 снежня 1941 г. ад інфаркту памерла Браніслава, а 15 сакавіка 1942 г. ад запалення лёгкіх памёр Вінцэт. Дочкі Марыя і Браніслава ў 1946 г. выехалі ў Польшчу.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Сапоцька Стэфанія, 1860 г. н.

Працавала вартаўніком у калгасе.

Паходзіць з ваколіцы Пешчына Васілішскай гміны, з дому Пашкевіч. Была замужам за Сапоцькам у фальварку Шымкаўшчына Сабакінскай гміны. Удава. Яе малодшая сястра Алаіза Пашкевіч, у замустве Кайрыс, знаная беларуская паэтка з псеўданімам «Цётка» з віленскіх «Нашай Долі» і «Нашай Нівы», якая памерла ў часы Першай сусветнай вайны.

Брат Стэфаніі, Войцах Пашкевіч, 1872 г. н., падпаручнік рускага войска, жыў у Катлове пад Вільняй, у Рудамінскай гміне. Арыштаваны ў 1939 г., загінуў.

Стэфанія ў 1946 г. выехала ў Польшчу.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Тарашчык Александра, 1885 г. н.

Муж Міхал Тарашчык, 1890 г. н., арыштаваны 28 студзеня 1940 г. Земляроб, меў уласную гаспадарку ў вёсцы Бакшты Васілішскай гміны. Загінуў.

Працавала ў калгасе, слабая, шмат часу хварэла, памерла ў шпіталі ў Петрапаўлаўску.

Беларусы праваслаўнага веравызнання.

Анцулевіч Адальфіна.

Дзеці: Хэлена, Ядвіга, Часлаў, Рышард.

У 1940 г. працавала ў калгасе. 24 чэрвеня 1941 г. вывезены на будаўніцтва чыгункі Акмолінск — Карталы.

Муж Ануфры Анцулевіч, селянін, меў гаспадарку ў фальварку Вайнаполь Лябёдскай гміны, дзе і арыштаваны 24 студзеня 1940 г.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

**Вёска Самарка**

Рытар Элеанора, 1905 г. н.

Дзеці: Станіслаў, 1926 г. н.; Залiслава, 1933 г. н.

Муж Андрэй Рытар — паліцыянт, у 1939 г. інтэрнаваны ў Літве. У 1942 г. знайшоўся ў польскім войску. Жылі ў мястэчку Дварэц Навагрудскага павета, потым у Лідзе.

Элеанора разам з сынам працавала ў калгасе.

У 1946 г. выехалі ў Польшчу.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

**Вёска Фурманаўка**

Чайко Міхал, 1881 г. н.

Жонка Паўліна, 1989 г. н.

Дзеці: Францішак, 1922 г. н.; Стэфан, 1927 г. н.; Станіслаў, 1929 г. н.; Ядвіга, 1923 г. н.

Чыгуначнік, уладальнік дома ў Лідзе. Сын Ян Чайко меў вышэйшую адукацыю, закончыў Віленскі ўніверсітэт імя Стафана Баторыя і працаваў сакратаром школьнага інспектара ў Лідзе. Арыштаваны ў 1939 г. З лагера ўступіў у польскую армію, дзе перанёс плямісты тыф.

Францішак Чайко 10 студзеня 1942 г. як добраахвотнік запісаўся ў польскую армію, але быў звольнены ад прызыву па сямейных абставінах.

Міхал Чайко, сын Францішак і Ядвіга працавалі ў экспедыцыі па пошуку нафты і на нафтаздабычы ў Санкіне, Фурманаўцы і г. д. Бацька пасля доўгай хваробы памёр тут 6 сакавіка 1942 г.

У 1946 г. выехалі ў Польшчу.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Урублеўскі Ігнат, 1884 г. н.

Жонка Грызельда, 1890 г. н.

Дочкі: Марыя, 1915 г. н.; Браніслава, 1917 г. н.; Генавефа, 1920 г. н.

Чыгуначнік, уладальнік дома ў Лідзе. У 1939–1940 гг. дочка Марыя працавала касіркай на станцыі Ліда, Браніслава — на пошце ў мястэчку Радунь. Генавефа вучылася ў ліцэі ў Лідзе, арыштаваная ў 1939 г., прыбыла да бацькоў восенню 1941 г.

Першапачаткова паселены ў Самрыне на 2-й ферме саўхоза, потым, у 1940 г., пераселены ў Фурманаўку. Працавалі: бацька і дачка Марыя і Браніслава ў экспедыцыі па пошуку нафты, а з восені 1940 г. — на нафтаздабыўчай вежы ў Санкіне і Фурманаўцы. Бацька кіраваў стайняй, Марыя — сакратарка-бухгалтарка, Браніслава — вучаніца геалогіі. ...У красавіку 1942 г. Марыя і Генавефа з'ехалі ў польскую армію, а восенню таго ж года бацька, маці і дачка Браніслава — у Юнгёл (?), дзякуючы узятым запасам усе дабраліся да Ірана.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Радзевіч Эдвард, 1909 г. н.

Жонка Генавефа, 1911 г. н., дачка Міхала і Паўліны Чайко.

Сын Рышард,1940 г. н.

У 1939–1940 гг. Эдвард служыў на чыгунцы. 13 красавіка 1940 г. пры вывазе сям'і Чайко... быў змушаны добраахвотна паехаць у выгнанне разам з жонкай. Эдвард Радзевіч працаваў у Палудзене маляром. У 1942 г. добраахвотнікам пайшоў у польскую армію. Жонка і сын выехалі ў Польшчу з сям'ёй Чайко ў 1946 г.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Вятрыноўская Антаніна, 1890 г. н.

Дачка Бэштэйн Ванда, 1914 г. н., яе дачка Аліцыя Заліслава, 1937 г. н.

Муж Антон Вятрыноўскі, 1887 г. н., паліцыянт на пенсіі, уладальнік дома ў мястэчку Молчадзь Навагрудскага павета. У... 1939 г. арыштаваны і загінуў.

Муж Ванды Бэштэйн — сакратар гміны ў Молчадзі, у 1939 г. з'ехаў у мястэчка Жырмуны Лідскага павета на сваю гаспадарку.

Першапачаткова паселены ў вёсцы Ленінка, у 1940 г. пераведзены ў Фурманаўку. Старая Вятрыноўская з дачкой працавалі ў 1940 г. у экспедыцыі па пошуку нафты, у 1941–1942 гг. дачка працавала на вежы нафтаздабычы ў Санкіне і Фурманаўцы. 24 чэрвеня 1941 г. вывозіліся на будаўніцтва чыгункі Акмолінск — Карталы, адкуль вярнуліся ў Фурманаўку.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Пенкась Пётр, 1895 г. н.

Жонка Зоф'я, 1902 г. н.

Дзеці: Эдвард, 1923 г. н.; Леапольд, 1925 г. н.; Элеанора, 1927 г. н.; Ежы, 1942 г. н.

Пётр Пенкась служыў паліцыянтам, у 1939 г. быў інтэрнаваны ў Літве. Яго жонка ў лютым 1942 г. нарадзіла хлопца, якога назвалі Ежы. Пакуль была ў Петрапаўлаўску, да дзяцей прыбыў муж, Пётр Пенкась. Пасля лагера ён хацеў ісці ў армію, але не ўзялі па ўзросце. Сын Эдвард добраахвотнікам пайшоў у польскую армію. Ежы гадавала Элеанора.

Зоф'я Пенкась з дзецьмі першапачаткова паселены на 2-й ферме саўгаса... працавала з сынам Эдвардам, а потым на пошуку нафты і вежы нафтаздабычы ў Санкіне, дзе Эдвард быў вучнем геалогіі. У 1942–1943 гг. бацька Пётр і сын Леапольд працавалі на той жа нафтаздабычы ў Фурманаўцы і Дубороўцы. У 1941 г., 24 чэрвеня, маці Пенкась разам з дзецьмі была вывезена на будоўлю чыгункі Аксолінск — Карталы, адкуль вярнуліся ў Фурманаўку восенню 1941 г. У 1945 г. Зоф'я Пенкась памерла. У 1946 г. Пенкась з дзецьмі выехаў у Польшчу.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Лораш Зоф'я, 1905 г. н.

Дзеці: Генрык, 1927 г. н.; Ірэна, 1928 г. н.

Муж Вінцэнт Лораш — старшы сяржант 77 п. п. у Лідзе, уладальнік дома ў горадзе, арыштаваны ў снежні 1939 г., загінуў.

Першапачаткова паселены ў вёсцы Самарцы, потым у Фурманаўцы. Працавала ў калгасе, а потым на здабычы нафты ў Фурманаўцы і Дуброўцы.

Выехалі ў Польшчу ў 1946 г.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Крыпец Галіна, 1887 г. н.

Сын Пётр, 1919 г. н.

Дачка Люба Ілюкевіч, 1917 г. н., яе сын Тадэвуш, 1936 г. н.

Калісьці жылі ў Варшаве, дзе муж Галіны Крыпец працаваў на чыгунцы. Пасля выхаду на пенсію пераехалі ў Дакудава Лідскага павета на сялянскую гаспадарку. Сын Раман Крыпец, варшаўскі шафёр, быў арыштаваны на дэмаркацыйнай лініі на рацэ Буг. Зяць Эжмунд Ілюкевіч, муж Любы, кравец, арыштаваны ў 1939 г., загінуў. Галіна Крыпец евангелісцка-рэфарматарскага веравызнання выйшла замуж за праваслаўнага Крыпца і прыняла праваслаўе. Люба выйшла замуж за католіка Ілюкевіча і прыняла рыма-каталіцкую веру. Сын Тадзік быў ахрышчаны як католік. Сям'я лічыла сябе і беларусамі, і палякамі. Пётр Крыпец у студзені 1942 г. добраахвотна запісаўся ў польскую армію, але вярнуўся назад, бо, як беларуса, яго не прынялі.

Першапачаткова паселены ў вёсцы Шэлегава, у 1940 г. пераселены ў Фурманаўку. Пётр Крыпец і Люба Ілюкевіч працавалі на пошуку нафты, а потым на нафтаздабычы ў Санкіне, Фурманаўцы і Дуброўцы. У 1941 г. 24 чэрвеня вывезены на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы, адкуль вярнуліся ў Фурманаўку.

Выехалі ў Польшчу ў 1946 г.

Дэмбінская Зоф'я, 1906 г. н.

Дзеці: Крысціна Любаміра, 1925 г. н.; Хэлена Урсула, 1936 г. н.; Рамуальд Конрад (Мацак), 1927 г. н.

Муж Дэмбінскі, сяржант 77 п. п., кіраўнік ваеннага кааператыва, у 1939 г. сышоў у зону нямецкай акупацыі за Буг. У 1941–1942 гг. жыў у Замосці, больш ніякіх звестак пра яго няма.

Першапачаткова паселены ў вёсцы Ленінец, восенню 1940 г. пераведзены ў Фурманаўку. Зоф'я працавала ў экспедыцыі па пошуку нафты (нефтеразведка) і на вежы нафтаздабычы ў Санкіне і Фурманаўцы. Мела слабое здароўе, але дадаткова падпрацоўвала краўчыхай... Памерла ў 1945 г. Крысціна ўступіла ў польскую дывізію імя Касцюшкі.

Рамуальд Конрад з Хэленай Урсулай у 1946 г. выехалі ў Польшчу.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Міхневіч Рышард, 1909 г. н.

Яго маці Ганна.

Рышард — настаўнік агульнаадукацыйнай школы і кіраўнік харцараў у г. Лідзе. Арыштаваны 13 кастрычніка 1939 г., з лагера ў 1941 г. прыбыў да маці... Добраахвотнікам запісаўся ў польскую армію, але яму адмовілі па стане здароўя.

Ганна першапачаткова ў 1940 г. паселена ў вёсцы Якаўлеўцы, у 1942 г. разам з сынам пераселены ў вёску Фурманаўку. Рышард працаваў на нафтаздабычы.

N. B. З дня арышту да 22 чэрвеня 1940 г. знаходзіўся ў лідскай турме. Потым быў пераведзены ў Барысаў, быў там да 13 верасня 1940 г. Адтуль праз Маскву высланы ў Усць-земскі лагер пад Котлас. 26 жніўня 1941 г. прыехаў да маці. <...>

Выехалі ў Польшчу ў 1946 г.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Міхал Шымялевіч, сын Яна, 1879 г., уласнік малой нерухомасці ў г. Лідзе, вул. Гражыны, 17, юрыст-натарыус.

Жонка Хэлена з Таўгінаў, 1880 г.

Дачка Ганна Махніц, 1912 г.

Усе разам вывезены з Ліды 13 красавіка 1940 г. Прыбылі на станцыю Такушы 20 красавіка і першапачаткова былі адвезены ў Такушанскі саўгас на ферму № 1,

потым на ферму № 2 у Самрыне, адкуль пераведзены ў вёску Мікалайчыкі, а ў канцы, увосень 1940 г., у вёску Фурманаўку.

Міхал Шымялевіч і Ганна Махніц у 1940 г. працавалі ў экспедыцыі, якая шукала нафту, а напрыканцы года, у лістападзе і снежні, на нафтаздабычы ў Санкіне на падрыхтоўцы вугля. Вясной 1941 г. зноў з дачкой пачаў працаваць у экспедыцыі па пошуку нафты — сейсмічная нафтавыведка. Аднак 24 чэрвеня разам з іншымі сем'ямі наша сям'я была вывезеная на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы над р. Табол, каля вёскі Аксуф'я за 156 км ад Карталы. Працавалі тут на падрыхтоўцы баласту да вагонаў, капанні равоў. Пасля амністыі 1941 г. 24 верасня быў вызвалены ад працы і, вытрымаўшы цяжкую дарогу, увечары 19 кастрычніка прыехалі на ст. Такушы, а на наступны дзень да Фурманаўкі.

Міхал Шымялевіч 16 сакавіка 1942 г. атрымаў ад дэлегата Польскай амбасады ў Петрапаўлаўску Вітольда Плоцкага намінацыю на пасаду прадстаўніка ў Палудзенскім раёне (?). Гэтая намінацыя пацверджана Польскай амбасадай у г. Куйбышаве і прызнана савецкім Міністэрствам замежных спраў — намеснікам Вышынскага. На гэтай пасадзе працаваў да свайго арышту.

Міхал Шымялевіч — уласнік малой нерухомасці ў г. Лідзе, вул. Гражыны, 17, працаўнік натарыяльны.

Брат Павел Шымялевіч, капітан на пенсіі польскага войска, 10 лютага 1940 г. з жонкай Наталляй і цешчай Марыяй Кодрыч быў вывезены з сваёй вайсковай асады Стралеч у Брэсцкім павеце ў сібірскую тайгу: «горад Тайшет Иркуцкай вобласці, посёлак Удачный», потым у пасёлак Тапарок. Павел Шымялевіч з жонкай Наталляй засталіся ў Англіі (служыў у Арміі Андэрса).

Зяць Адам Махніц, сын Францішка (г. Копчыцы), кадравы паручнік 77 п. п. у Лідзе. Пасля катастрофы 1939 г., у кастрычніку, вярнуўся да жонкі ў Ліду і быў арыштаваны 14 снежня 1939 г., асуджаны на 10 гадоў у красавіку 1940 г., праз Мінск, Віцебск і Пецярбург засланы на Беламорканал, па адрасе: «Карэла-Финская ССР. Станция Май-Губа, Кировской жел. дор. Почтовый ящик 251/7. Лагерный пункт № 9. Унижма. Квартал 29». Пасля амністыі 24 верасня 1941 г. прыбыў у вёску Фурманаўку і 10 студзеня 1942 г. з'ехаў у польскую армію па адрасе: «5 дывізія, 17 полк стральцоў. Узбекская ССР. Бухарская область, город Шахрисябзь, пошт. ящ. 210 Д» (каля горада Кітаб, на афганскай мяжы). 16 сакавіка 1942 г. да яго прыехала жонка Ганна Махніц. Ваяваў у Сірыі, Палесціне, Егіпце, Італіі, дзе быў паранены, застаўся з жонкай у Англіі.

Сярэдняя дачка Зоф'я з мужам Генрыкам Багаткоўскім і сынам Земавітам у 1939 г. жылі ў Варшаве, а з 1941 г. — у Ловічы.

Старэйшая дачка Марыя Вось у першых днях лютага 1940 г. перайшла праз дэмаркацыйную лінію праз Буг у Варшаву.

Брат Ян Шымялевіч загінуў пад акупацыяй на крэсах усходніх. Яго жонка Зоф'я Шымялевіч з Макаревічаў і сын Аляксандр Шымялевіч, студэнт санітарнай школы падхарунжых, загінулі ў паўстанні 1944 г. у Варшаве.

Міхал Шымялевіч быў арыштаваны 20 сакавіка 1943 г. у Такушах за адмову прыняць савецкі пашпарт і грамадзянства, за агітацыю — намаўленне іншых ссыльных не прымаць гэтыя дакументы. 15 чэрвеня 1943 г. абласным судом у Петрапаўлаўску, грунтуючыся на артыкулах 192а і 58–10 КК, прыгавораны да 10 гадоў пазбаўлення волі, 5 гадоў пазбаўлення грамадзянскіх правоў і канфіскацыю маёмасці. Адбываў тэрмін у Карлагу Карагандзінскай вобласці на пунктах: Карабас, Далінка, Джастас, Канспай, СПО, зноў Канспай, зноў СПО, потым Канспай, МПУ-плаціна, «Новая

Стройка», Кокс, зноў «Новая Стройка» і зноў плаціна. Заўсёды прызнаваўся інвалідам 4 катэгорыі. 20 сакавіка 1948 г. быў адасланы на СПО, потым на Карабас, потым у Брэст — заўжды пад аховай. 20 мая 1948 г. прыбыў у Сопат да дачкі Марыі Вось і жонкі Хэлены.

Пасля арышту мужа жонка Хэлена Шымялевіч у галечы і голадзе, хворая дачакалася выезду ў Польшчу. 15 мая 1946 г. прыбыла да дачкі Марыі Вось у Сопат.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Вайткевіч Эдвард Мар'ян, 1892 г. н.

Дырэктар камунальнай касы ў Лідзе. Арыштаваны ў студзені 1940 г. Прыгавораны да пазбаўлення волі. Знаходзіўся ў лагеры... (Урал). Прыбыў у Фураманаўку восенню 1941 г. і атрымаў пасаду бухгалтара «вышки» — вежы нафтаздабычы. Жонка і сын загінулі.

Памёр на поўдні Казахстана ў 1945 г.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Ніжэйпералічаныя сем'і 24 чэрвеня 1941 г. вывезены на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы і адтуль не вярнуліся.

Качаноўская Зоф'я, 45 гадоў.

Дзеці: Люцыян, 18 гадоў; Яніна, 16 гадоў; Станіслава, 9 гадоў.

Муж Качаноўскі (Качан?) з братамі жыў у Беліцкай гміне ў фальварку Саламянка. Выконваў абавязкі войта гміны. У чыгуначным інцыдэнце страціў ногу. Арыштаваны ў 1939 г., загінуў.

Першапачаткова паселены ў вёсцы Шалегіна, у 1940 г. пераведзены ў вёску Нікадзімаўку. Люцыян і Яніна ў 1940–1941 гг. працавалі ў экспедыцыі па пошуку нафты, а потым на вежы нафтаздабычы ў Санкіне.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Майнуш Стэфанія, 43 г.

Дзеці: Міраслаў, 18 гадоў; Уласта, 20 гадоў; Ганна, 16 гадоў.

Бацька Караль Майнуш, грамадзянін Чэхаславакіі, у Першую сусветную вайну ажаніўся ў Расіі (быў у няволі як жаўнер аўстрыйскай арміі) з мясцовай дзяўчынай, у 1919 г. асеў у Лідзе і працаваў краўцом. Арыштаваны ў 1939 г., у 1941 г. з лагера прыехаў да сям'і і адтуль уступіў у Чэхаславацкую армію ў СССР.

Паселены спачатку ў Палудзене, у 1941 г. перасёлены ў Фурманаўку. Міраслаў працаваў у экспедыцыі па пошуку нафты. Маці з дочкамі працавалі краўцамі.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Барташэвіч Зоф'я, 29 гадоў.

Сын Рамуальд, 8 гадоў.

Маці Зоф'і Рагойша Разалія, 50 гадоў.

Муж Барташэвіч, чыгуначны ахоўнік у Стоўпцах, арыштаваны 17 верасня 1939 г. і расстраляны. Муж Разаліі Рагойшы — уладальнік дома ў Лідзе на Пясках, чыгуначнік на пенсіі. Маці Разалія добраахвотна паехала з дачкой у выгнанне. У 1941 г. яе муж выслаў ім дазвол вярнуцца ў Ліду, але выбух вайны 22 чэрвеня не дазволіў скарыстацца гэтым.

Маці з дачкой працавалі ў экспедыцыі па пошуку нафты, а зімой на вежы нафтаздабычы ў Санкіне. Першапачаткова жылі ў вёсцы Ленінцы, а потым у Фурманаўцы.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Бахняк Таццяна, 30 гадоў.

Яе маці Ганна, 55 гадоў.

Муж Міхал Бахняк, паліцыянт станцыі Скрыбаўцы. Арыштаваны ў 1939 г., з лагера прыбыў да жонкі на чыгунку Акмолінск — Карталы.

Таццяна працавала ў экспедыцыі па пошуку нафты, першапачаткова паселены ў вёсцы Казахстан, а потым у Фурманаўцы.

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання...

Пянткоўская, 45 гадоў.

Дочкі: Рэгіна, 18 гадоў, Станіслава, 15 гадоў.

Муж Уладзіслаў Пянткоўскі, паліцыянт у Лідзе, інтэрнаваны ў 1939 г. у Літве, загінуў. Дачка Рэгіна, вучаніца дзяржаўнай гімназіі ў Лідзе, была арыштаваная разам з некалькімі дзясяткамі вучняў і вучаніц у 1939 г. Пасля некалькіх тыдняў зняволення выпушчана з турмы.

Першапачаткова паселены на ферме Самрына, у 1940 г. пераведзены ў Фурманаўку. Маці працавала ў экспедыцыі па пошуку нафты. Восенню 1941 г. пасля будоўлі чыгункі Акмолінск — Карталы трапілі на поўдзень: «Узбекскай ССР, Самаркандская область, ст. Джума, Санчикульский сель. Совет, колхоз Илим».

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Трацяк Юзаф, 1912 г. н.

Жонка Яніна з Доўнар-Запольскіх, дачка Элеаноры і Юзафа, 1921 г. н.

Юзаф — працаўнік лётнага парку ў Лідзе. У Лідзе жыў з бацькамі жонкі, і былі вывезены разам з Доўнар-Запольскімі.

Паселены ў вёсцы Раўкіна, потым пераведзены ў Фурманаўку, дзе Юзаф Трацяк працаваў на вежы нафтаздабычы («Бурвышка»).

Польская сям'я рыма-каталіцкага веравызнання.

Роўба Станіслаў, 20 гадоў.

Вучань дзяржаўнай гімназіі ў Лідзе. Бацька — паліцыянт (з ваколіцы Раўбы Лябёдскай гміны, інтэрнаваны ў Літве).

Паселены ў вёсцы Казахстан, працаваў у экспедыцыі па пошуку нафты. У 1940 г. перасэлены ў Фурманаўку. Вывезены на будоўлю чыгункі Акмолінск — Карталы, у 1941 г. вярнуўся ў Палудзен. У лютым 1942 г. добраахвотнікам уступіў у польскую дзейную армію.

Паляк рыма-каталіцкага веравызнання.

NB: Ванда Прыбытка, Ядвіга Шчасновіч, Сабіна Шкоп, Марта Гансёнак, Люцына Сініцкая восенню 1941 г. мелі адрас: «Кустанайская область, Орджоникидзский район, Красноармейское почтовое отд. Строймост 67 километр».

# АСУДЖАНЫ БЕЗ СУДА
## Браніслаў Пяткевіч (1918–2005)

У 2001 годзе полацкі краязнаўца Міхась Баўтовіч[1], які ў той час узначальваў гарадскую арганізацыю партыі БНФ, дазнаўся з крымінальнай хронікі ў раёнцы, што ў Полацку злавілі на графіці прадстаўніка арганізацыі «Край» Алега Пяткевіча. Міхасю захацелася сустрэцца, каб пазнаёміцца і, можа, прыцягнуць яго да франтоўскай дзейнасці. Праз службу даведак вузла сувязі ўдалося адшукаць тэлефон Пяткевіча.

Згадвае Міхась Баўтовіч: «Я некалькі разоў патэлефанаваў, а жонка ўсё казала, што Алега няма дома. Урэшце пашэнціла датэлефанавацца і дамовіцца аб сустрэчы. Алег быў часова беспрацоўным, грошай не было, двое дзетак, жыццё нялёгкае. Паразмаўляўшы, я не стаў яму нічога прапаноўваць, зважыўшы, што ў чалавека і так хапае праблемаў. Ён пачаў казаць, што бацька піша вершы, і паказаў сшытак. І мы дамовіліся аб сустрэчы з бацькам».

У гэтай сустрэчы ў вёсцы Бабынічы браў удзел і я. Вынікам спаткання стала маё інтэрв'ю з Браніславам Пяткевічам, якое было надрукаванае ў газеце «Витебский курьер» у 2002 годзе. Пры развітанні Браніслаў Пяткевіч перадаў мне некаторыя матэрыялы са свайго архіва, якія перадусім датычныя сяброства з паэтам Сяргеем Новікам-Пеюном.

### АСУДЖАНЫ БЕЗ СУДА

Браніславу Пяткевічу 84 гады. Ён жыве ў вёсцы Бабынічы пад Полацкам. Нягледзячы на ўсе цяжкасці, якія яму выпала пераадолець у жыцці, застаўся вясёлым аптымістам. Ён прызнаецца, што дажыў да сваіх гадоў толькі таму, што мае лёгкі характар, які не дазваляў яму драматызаваць жыццёвыя выпрабаванні. А выпрабаванняў на ягоным шляху хапала. Чаго вартыя толькі гулагаўскія гады! Браніслаў Антонавіч трапіў у рукі НКУС у Віцебску, дзе вучыўся ў зоаветінстытуце.

**Аснова, так бы мовіць, падмурак чалавека, на якім ён будзе стаяць усё сваё далейшае жыццё, закладаецца ў дзіцячыя гады. Чым яны былі асаблівымі для вас?**

Мой дзед разам са сваімі братамі ў XIX стагоддзі набыў фальварак Міхайлова побач з вёскай Любча ў Мінскай губерні непадалёк ад мястэчка Зембін — прыгожай мясціны на беразе рэчкі Гайна. Там і нарадзіўся мой бацька, які быў малодшым у сям'і. Уся вялікая сям'я была каталіцкага веравызнання. У Зембіне мой бацька ўпадабаў дзяўчыну Адэлю Скуратовіч, у 1907 годзе яны ажаніліся. У 1909-м нарадзіўся першы сын — Антось. Але тут пачалася Першая сусветная вайна, бацьку забралі на фронт. Вярнуўся ён паранены і з трыма Георгіеўскімі крыжамі. Мой бацька быў вельмі працавітым чалавекам. Наёмных працаўнікоў не трымаў, сам упраўляўся. Мы жылі не вельмі заможна, але быў дастатак, усяго хапала. У 1912 годзе нарадзілася мая сястра Ядзя, у 1915 — Стэфа, у 1918 — я. У нашай сям'і былі строгія парадкі, ніхто не брыдкасловіў, бацька не злоўжываў гарэлкай. Гэткае вы-

[1] Міхась Баўтовіч (1957) — полацкі краязнаўца і выдавец. Працуе начальнікам дыспетчарскай службы полацкага гарадскога раёна электрасетак. Займаецца даследаваннямі Полацка і наваколляў, аддаючы перавагу канфесійнай гісторыі горада і Полаччыны. Падрыхтаваў да друку і выдаў кнігу Івана Дэйніса «Полацкая даўніна» (2007), аўтар уступу, каментараў, рэдактар і выдавец кнігі В. Пануцэвіча «Сьвяты Язафат, архіяпіскап полацкі» (2000). Аўтар кніг «Вянок акафістаў» (1999), «Полацкія пакутнікі» (2000), «Эпісталяцыя Сьвятога Язафата» (2006).

хаванне атрымаў і я. Калі прыйшла рэвалюцыя, бацька не быў яе прыхільнікам. Бальшавікі пачалі абразаць зямлю, нам пакінулі толькі восем гектараў, забралі лес, ён і цяпер ёсць пад Зембінам, сасновы, кіламетраў пяць ад Міхалова, людзі да сёння завуць яго лесам Пяткевіча.

**Ці пачувалася ваша сям'я беларускай? Ці, можа, трымалася польскіх традыцыяў, бо былі каталікамі?**

Мой бацька быў на 100 працэнтаў русіфікаваны. У нас было ўсё па-руску. Добра памятаю, як прыйшлі запісваць мяне ў школу. Восенню 28-га года мы крылі саломай хлеў, я сядзеў на даху, тут прыйшла якаясь жанчына і сказала, што яна запісвае ў школу, маўляў, у якую я хачу: у польскую ці беларускую. Мае сёстры Ядзя і Стэфа вучыліся ў польскай школе, якая знаходзілася ў 15 кіламетрах ад нашай хаты, у вёсцы Адамарына. Я сказаў той жанчыне, што хачу толькі ў беларускую. Зараз разумею: гэта адбылося на геннай глебе. Ніякая русіфікацыя, ніякія абставіны навакольнай рэчаіснасці не павярнулі мяне ад беларушчыны, ад роднага. Хаця я зусім не ўсведамляў, што ёсць нейкая Беларусь.

**Як склаўся лёс вашага бацькі?**

У Любчу пачалі завітваць розныя агітатары ажно з самога Барысава. Мой бацька і некаторыя іншыя вяскоўцы не верылі іхнім казкам. Спачатку запісаліся ў калгас тыя, што нічога не мелі, галота. У 1931 годзе, 1 мая, адбыўся першы выезд калгаснікаў у поле. Яны выйшлі на агароды вяскоўцаў, а любчанцы сагналі іх з поля. У той дзень мой бацька быў у Зембіне. Мясцовы камуніст Дабрыцкі данёс, што арганізатарамі контррэвалюцыі ў Любчы былі Антось Пяткевіч, Васіль Жукавец і Лявон Мезін. Іх паклікалі ў сельсавет, паразмаўлялі і адпусцілі. Затым прыязджаў следчы. Ён пагражаў і казаў, каб бацька, адмовіўшыся ад сваёй упартасці, пайшоў у калгас. Бацька на тое сказаў: «Лучше пять лет концлагерей, чем идти в ваш колхоз». Бацьку забралі, далі тры гады. Спачатку ён быў у Мінску. Маці ездзіла некалькі разоў на спатканні. Затым ён патрапіў на Маскоўскі канал, які капалі ўручную, месца называлася Дзмітрыеўскі першы лагер. Бацька пісаў пісьмы, я адпісваў. У 33-м годзе яго вызвалілі, і ён прыехаў дамоў. У калгас яго не бралі, нікуды не бралі. Ездзіў у розныя мясціны, шукаў працу, нідзе не бралі. Адзін час нават хацеў скончыць жыццё самагубствам. Але неяк пашанцавала, у 1937 годзе ўладкаваўся ў леспрамгас у Талачыне. Гэтак выжыў.

**Як вы трапілі ў Віцебск?**

Я скончыў сямігодку ў 1934 годзе. Падаў дакументы ў Барысаўскі медыцынскі рабфак. За веды мяне залічылі адразу на трэці курс. Я ўладкаваўся ў Стара-Барысаве на кватэры ў Марачынскай, нашай далёкай сваячніцы, яна працавала на тэлефонным камутатары. У цёткі Марачынскай было тры дачкі, у адну з іх я закахаўся, у Аню, яна вучылася на другім курсе нашага рабфака. Неяк да яе стаў хадзіць бухгалтар любчанскага калгаса, жанаты, ён пачаў мяне пераследваць. Напісаў у рабфак, што мой бацька — вораг народа. Мне прыйшлося развітацца з месцам вучобы. У «Звяздзе» я прачытаў, што Віцебскі зоаветінстытут запрашае на шасцімесячныя курсы тых, хто хоча ў яго паступіць. У Віцебску я пачаў займацца літаратурай, наведваў тэатр. Друкаваўся ў «Чырвонай змене», гарадскіх газетах. Слухаў лекцыі Дорскага пра тэатр. Хадзіў на кансультацыі ў рэдакцыю мясцовай газеты «Витебский пролетарий» да Браніслава Люгоўскага[2], бачыў Юрку

[2] Браніслаў Люгоўскі (1908 — пасля 1941) — актыўны ўдзельнік літаратурнага жыцця Віцебска ў 1920–1930-я гг. Нарадзіўся ў Віцебску. Пачаў рэгулярна друкавацца з 18 гадоў. З 1925 г. быў сябрам

Віцьбіча[3], драматурга Курдзіна[4]. Пры газеце «Витебский пролетарий» працаваў літаратурны гурток, кіраваў ім Браніслаў Люгоўскі. Я пісаў толькі па-беларуску. На паседжанні гуртка прыходзіў Віцьбіч, сціплы малады чалавек, але быў добра апрануты. Курдзін працаваў ветэрынарным лекарам, лячыў вайсковых коней.

**Як здарылася, што вы трапілі ў рукі НКУС?**

Я з'яўляўся рэдактарам насценнай газеты заатэхнічнага факультэта. У адным з нумароў напісаў матэрыял пра тое, што асобныя выкладчыкі паводзяць сябе непрыстоўна, прывёў прыклады. Неўзабаве ў «Витебским пролетарии» з'явіўся артыкул, у якім паведамлялася, што мой бацька быў асуджаны за контррэвалюцыйную дзейнасць. Газета выйшла 12 лістапада 1937 года[5], а 19 лістапада я ўжо быў арыш-

---

віцебскага філіяла «Маладняка», уваходзіў у аддзяленне Асацыяцыі пралетарскіх пісьменнікаў. У 1932 г. быў прызначаны ўпаўнаважаным Саюза савецкіх пісьменнікаў па Віцебскай акрузе. У 1933 г. у суаўтарстве з Рыгорам Жалезняком выдаў у Віцебску зборнік паэзіі на беларускай мове «Першы вытап». У 1935 г. паступіў на гістарычны факультэт Віцебскага педінстытута, які закончыў праз чатыры гады. Пасля вучобы пачаў працаваць у ветэрынарным інстытуце, дзе загадваў кабінетам марксізму-ленінізму. Пасля Усебеларускага з'езда ў 1937-м віцебскае аддзяленне ССП і яго кіраўнік былі востра раскрытыкаваныя. Люгоўскага абвінавачвалі ў адсутнасці ўвагі да літаратараў-пачаткоўцаў, развале літаратурных гурткоў на вытворчых прадпрыемствах і ўвогуле ў бяздзейнасці, прыпісалі ініцыятыву самаліквідацыі аддзялення. Такія абвінавачванні на той час былі вельмі небяспечныя. Тым больш што ў 1937-м ужо быў арыштаваны брат паэта. Як склаўся надалей лёс Браніслава Люгоўскага, невядома. Апошняя згадка пра яго адносіцца да 1941 г.

[3] Юрка Віцьбіч (1905–1975), сапраўднае імя — Серафім Аляксандравіч Шчарбакоў. Нарадзіўся ў мястэчку Веліж тагачаснай Віцебскай губерні ў сям'і праваслаўнага святара. У родным горадзе закончыў педагагічны тэхнікум. Працаваць настаўнікам, аднак, не дазволілі — меў варожае савецкай уладзе сацыяльнае паходжанне. Служыў у войску, дзе быў карэспандэнтам армейскай газеты. У сярэдзіне 1930-х гг. выехаў у Маскву, спачатку працаваў на будоўлі, пазней уладкаваўся на хімічную фабрыку. Уваходзіў у літаб'яднанне «Узвышша». Першае апавяданне з'явілася ў 1929 г. на старонках часопіса «Узвышша». У 1932 г. выйшла кніга прозы «Смерць Ірмы Лаймінг». У 1937 г. — другая кніга прозы «Формула супраціўлення касцей». У 1939 г. быў прыняты ў СП СССР. Напярэдадні Другой сусветнай вайны жыў у Віцебску. У студзені 1941 г. быў арыштаваны органамі савецкай бяспекі. Пасля акупацыі Беларусі нямецкімі войскамі застаўся ў Віцебску. Браў удзел у беларускім культурным жыцці. У 1943 г. перавёз з Віцебска ў Полацк парэшткі Еўфрасінні Полацкай. Пасля 1943 г. пераехаў з сям'ёй у Мінск. У 1944 г. выехаў на Захад. У пасляваенны час жыў у Германіі. Рэдагаваў і выдаваў беларускі царкоўна-рэлігійны часопіс «Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі» (1946–1947). У 1946 г. разам з Н. Арсенневай стварыў літаратурнае аб'яднанне «Шыпшына», старшынёй якога стаў. У 1946–1950 гг. рэдагаваў друкаваны орган згуртавання — літаратурна-мастацкі часопіс «Шыпшына». На пачатку 1950-х гг. пераехаў у ЗША. Памёр у 1975 г., пахаваны на беларускіх могілках у Саўт-Рыверы.

[4] Дзмітрый Курдзін (1899–1937). Псеўданімы: А. Сапёлка; Антон Сапёлка. Нарадзіўся ў вёсцы Дзмітрычукі Каменскага павета Пензенскай губерні, цяпер Каменскі раён Пензенскай вобласці, Расія. Вучыўся ў Саратаўскім ветэрынарным інстытуце, які закончыў у 1925 г. Накіраваны ў Беларусь. Служыў ваенным ветэрынарным урачом у Мінску, потым у Віцебску. Выкладаў у Віцебскім ветэрынарным інстытуце. Літаратурную дзейнасць пачаў як паэт, выступіўшы з вершамі ў перыядычным друку ў 1925. Пісаў на рускай і беларускай мовах. Сапраўдную літаратурную вядомасць Курдзіну прынесла п'еса «Міжбур'е», якая ўпершыню была пастаўлена Е. Міровічам у 1929 г. (БДТ-1). П'есу з поспехам ставілі тэатры Масквы, Ленінграда, Баку, Смаленска, Ульянаўска, Саратава і інш. У 1932 г. была пастаўленая яго п'еса «Контратака», у 1934 — «Чалавек вырашае» (БДТ-2). Аўтар п'ес «Азеляненне цэха» (1935) і «Алюр. Тры крыжы». Арыштаваны 12 жніўня 1937 г., расстраляны. Рэабілітаваны ў 1957 г.

[5] Гэты артыкул у газеце «Віцебскі пролетарый» насамрэч быў надрукаваны ў нумары за 25 кастрычніка 1937 г. Вось гэты данос у газеце, за які Браніслаў Пяткевіч патрапіў у Гулаг.

**Вылазка ворага ў газеце**

У ветзоаінстытуце доўгі час арудавалі ворагі народа, шкодзілі ў рабоце інстытута, засмечвалі яго варожымі элементамі. Партыйная і камсамольская арганізацыі і зараз не ліквідуюць шкодніцтва, і таму не дзіўна, што ворагі працягваюць беспакарана сваю антысавецкую работу.

таваны. У камеры сустрэў шмат знаёмых людзей, напрыклад, дацэнта дыягностыкі Верамейчыка, які мне сказаў, што, «не скончыўшы інстытут, я паступіў адразу ў акадэмію». Следчы на першым допыце задаваў пытанні і запісваў. Спытаў: «Колькі ў бацькі было зямлі?» Я кажу: «Восемь гектараў». Ён піша: «Восемдзесят». Я пачаў абурацца. Ён тлумачыць: «Хочаш, каб застаўся цэлы, не аднеквайся, усё роўна адсюль ніхто не выходзіў». Затым ён наставіў на стол розных прысмакаў — ежа і таксама цыгарэты — і кажа: «Я сыду, а ты напішы спіс тых студэнтаў, якія расказваюць антысавецкія анекдоты або незадаволены савецкай уладай, а тады бяры са стала ўсё, што пажадаеш». Калі ён вярнуўся, дык пабачыў, што я нічога не крануў, але і не напісаў ніводнага прозвішча. Следчы кажа: «Бачу, што ты добры хлопец, я цябе не пашлю на Пячору, паедзеш у Паўночны Казахстан, там лягчэй выжыць». Я падпісаў усе паперы і пачаў рыхтавацца да суда. Але ніякага суда не было. Прыехаў «чорны воран», і з НКУС мяне адвезлі ў турму. Там былі жахлівыя ўмовы, камера перапоўнена, мне знайшлі месца пад нарамі. Некаторыя вар'яцелі, у нашай камеры адзін нябога ўвесь час грукаў у дзверы і крычаў: «Пусціце, тут мая хата», другі пляваўся і нешта бесперапынна мармытаў. Я апынуўся ў адной камеры з дырэктарам навукова-даследчага інстытута жывёлагадоўлі Камінскім, прафесарам філасофіі Бжозе[6], якога яшчэ нядаўна вазілі на самалёце з Віцебска ў Мінск чытаць лекцыі ў сталічным універсітэце, ды з іншымі вядомымі людзьмі. Шмат хто «закладаў» не толькі таварышаў па службе і выпадковых знаёмых, але і бацькоў. Праўда, здараліся і гераічныя ўчынкі. Пазней, ужо на этапе, я пачуў гісторыю пра віцяблянку Зінаіду Качан. Яе мужа, дацэнта мікрабіялогіі, арыштаваў НКУС, маладую жанчыну неўзабаве выклікалі на агульны камсамольскі сход, на якім яна павінна была адрачыся ад мужа і назваць яго ворагам народа. Яна мужна сказала,

---

Газета інстытута не толькі не мабілізуе студэнтаў на павышэнне рэвалюцыйнай пільнасці, на выкарчоўванне контррэвалюцыйных элементаў, а наадварот, яна прадстаўляе гэтым варожым элементам трыбуну ў газеце. Прывядзем прыклад. Кіраўнік кафедры нармальнай анатомікі Руцько, карыстаючыся палітычнай слепатой кіраўнікоў інстытута, вядзе адкрытую контррэвалюцыйную агітацыю на занятках і ў кафедры, робіць паклёп на беларускі народ. Студэнты сігналізавалі аб гэтым парткому, але нам. сакратара парткома Галькевіч, ён-жа рэдактар газеты, не толькі не выкрыў Руцько, але прадставіў трыбуну ў газеце для яго варожай агітацыі.

Руцько і цяпер не спыняе свае антысавецкія справы. На днях на занятках была новая варожая вылазка Руцько. Ён вучыць студэнтаў не супрацiўляцца варожым элементам. Аб гэтым таксама ведае Галькевіч, але мер не прымае.

Газета таксама папулярызуе Ермаловіча-антысеміта, які вядзе антысавецкую агітацыю. Газета прадстаўляе трыбуну для ворагаў, перапісваючы іх контррэвалюцыйныя лозунгі. Характэрна, што з 12 вялікіх заметак ні слова аб падтрыхтоўцы да выбараў у Вярхоўны Савет. Такое становішча і ў іншых газетах. Ці выпадкова гэта? Не выпадкова. Газета зоатэхнічнага факультэта змясціла антысавецкія карыкатуры. І хто кіруе гэтай газетай? Намеснік рэдактара газеты Піткевіч камсамолец, бацьку якога асудзілі як ворага калектывізацыі. Яму даручана кіраваць газетай. Усе гэтыя варожыя справы творацца на вачах у кіраўнікоў партыйнай і камсамольскай арганізацыі інстытута, якія толькі бездапаможна разводзяць рукамі.

Сакратар камітэта камсамола т. Гурэвіч, ведаючы аб Піткевічу, не знаходзіць патрэбным заняцца гэтым пытаннем. Кіраўнікі партыйнай і камсамольскай арганізацый павінны панесці поўную адказнасць за тую шкодную лінію, якую заняла газета ветзоаінстытута.

Вайман

[6] Пры стварэнні Віцебскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута ў 1934 г. у ліку іншых кафедраў была ўтвораная і кафедра сацыяльна-эканамічных навук. На ёй студэнты вывучалі філасофію і палітычную эканомію. Навучальны працэс забяспечвалі два выкладчыкі: загадчык кафедры Ю. Бжозе вёў філасофію, яго калега Рабіновіч — палітычную эканомію. У 1937/38 навучальным годзе загадваць кафедрай стаў кандыдат філасофскіх навук С. Аздуні. Ю. Бжозе ў шэрагу іншых віцебскіх выкладчыкаў быў рэпрэсаваны, рэабілітаваны толькі пасля 1956 г.

што ніякі ён не вораг, паклала камсамольскі білет і дэманстратыўна сышла са сходу. Уначы арыштавалі і яе.

Ніякага суда нада мной не было, праз нейкі час, ужо ў лютым, мне паказалі маленькую лаканічную паперку, якая сведчыла, што за контррэвалюцыйную дзейнасць Браніслаў Пяткевіч асуджаны на дзесяць гадоў лагероў...

*Следчы не падмануў хлопца: канвой, у які патрапіў Браніслаў Пяткевіч, сапраўды накіравалі ў Казахстан. Неўзабаве Пяткевіч патрапіў у новы этап, які накіроўваўся на Далёкі Усход. Зняволеных прывезлі ў дзікую тайгу, дзе яны павінны былі пабудаваць новы лагер, а затым распачаць будаўніцтва аднаго з участкаў чыгункі з Камсамольска ў Тайшэт. Новы лагер атрымаў назву Сопкапіль. Пасля чыгункі Пяткевіч будаваў порт на рацэ Амур, аўтамабільную дарогу з Сібіры ў Магадан. Апошнім месцам зняволення Пяткевіча быў прыіск на Калыме, шахта № 5. І там яму нарэшце пашанцавала: мясцовай амбулаторыі быў патрэбны санітар. З яго асабовай карткі кіраўніцтва лагера даведалася, што хлопец вучыўся ў ветэрынарным інстытуце, — няважна, што рыхтаваўся лячыць жывёл, галоўнае — меў нейкія ўяўленні пра медыцыну. Браніслаў Пяткевіч сёння прызнаецца, што насамрэч ніякіх уяўленняў не меў, не ведаў нават, як робяцца звычайныя ўколы. Але адмовіцца ад такой прапановы было раўназначна адмове ад жыцця. Вельмі хутка дапытлівы хлопец, які вучыўся дзе з кніг, дзе з парадаў калег, стаў аўтарытэтным лекарам. Менавіта Пяткевіч уратаваў жыццё беларускага паэта Сяргея Новіка-Пеюна[7], узяўшы змучанага хлопца, які патрапіў на Калыму з чарговым этапам у 1946 годзе, да сябе ў амбулаторыю ў памочнікі.*

*Браніслаў Пяткевіч выйшаў на волю ў 1947 годзе. Здолеў аднавіцца ў Віцебскім ветэрынарным інстытуце адразу на 3-і курс, закончыў яго з чырвоным дыпломам. Затым працаваў у шматлікіх беларускіх калгасах і саўгасах галоўным заатэхнікам. З-за сваёй біяграфіі меў шмат праблемаў, таму часта мяняў месца працы. Апошнія 20 гадоў жыў з сям'ёй у Бабынічах і працаваў у калгасе імя Мялешкі. Некалі калгас гэты быў моцны і вядомы на ўсю Беларусь, у гаспадарцы трымалі 2000 галоў буйной рагатай жывёлы. Цяпер засталося 100 буронак. Браніславу Пяткевічу балюча глядзець на заняпад і руйнаванне беларускай вёскі. Свае пачуцці і думкі ветэран пераплаўляе ў вершы і нататкі, якія час ад часу змяшчае на сваіх старонках газета «Наша Ніва».*

Размаўляў Алесь Козік,
*«Витебский курьер», 30.04.2002*

---

[7] Сяргей Новік-Пяюн (1906–1994) — паэт, аўтар песень. Нарадзіўся ў вёсцы Лявонавічы Слуцкага павета Мінскай губерні, цяпер Нясвіжскі раён Мінскай вобласці. У 1926 г. стварыў у роднай вёсцы хор (з 1963 г. народны) і тэатр. Арганізаваў гурток Таварыства беларускай школы, беларускую бібліятэку і тайныя школы ў Лявонавічах і наваколлі, за што ў 1926 г. высланы польскімі ўладамі ў Свеце над Віслай. У 1927–1931 гг. супрацоўнік віленскага часопіса для дзяцей «Заранка». Пасля вяртання ў родныя мясціны ў 1931 г. зноў арыштаваны і высланы пад нагляд паліцыі ў Слонім. Разам з жонкай Людмілай у 1938–1939 гг. выдаваў польскамоўную газету «Gazeta Slonimska». Чарговы раз арыштаваны польскімі ўладамі ў сакавіку 1939 г.; зняволены ў турме ў Баранавічах. Вызвалены пасля прыходу Чырвонай арміі. У 1939–1940 гг. працаваў у сістэме народнай адукацыі, потым дырэктарам Слонімскага раённага краязнаўчага музея. У чэрвені 1941 г. разам з І. Стаброўскім выратаваў экспанаты музея, схаваўшы іх на ўскраіне горада. Падтрымліваў сувязі з партызанамі. У 1943 г. арыштаваны СД, адпраўлены ў лагер смерці Калдычэва. 4 ліпеня 1944 г. падчас расстрэлу групы вязняў (600 чалавек) паранены, прыкінуўся мёртвым, што яго і выратавала. Пасля вызвалення Слоніма працаваў дырэктарам Слонімскага гістарычна-краязнаўчага музея. 14 снежня 1944 г. арыштаваны органамі НКУС; 24 сакавіка 1945 г. ваенным трыбуналам асуджаны за «здраду радзіме» на 10 гадоў пазбаўлення волі і адпраўлены на Калыму. Вызвалены і рэабілітаваны ў перыяд з 5 лістапада да 18 снежня 1958 г. У 1959 г. вярнуўся ў Беларусь. Жыў у Слоніме, Нясвіжы; з 1960 г. — у Мінску. Напісаў болей за сто песень. Пахаваны на могілках у в. Лявонавічы.

## НОВІК-ПЯЮН НА КАЛЫМЕ

(урывак з будучай кнігі «Наш дваццаты век»)

Восенню 1946 года, а дакладней, у лістападзе ў амбулаторыі сустрэліся мы...

Перада мной стаяў звычайны зняволены, якіх я набачыўся досыць. Апрануты ён быў па-летняму, але гэта былі не лахманы, а чыстая лагерная абмундзіроўка б/у. Шапка-аблавушка, яшчэ нядрэнная. Ён яе зняў з галавы і камечыў у руках.

— Добры дзень, — ціхенька сказаў ён.

Я адказаў на яго прывітанне запрашэннем сесці на тапчан. Ён не сядаў. Таптаўся на месцы.

— Што баліць? — запытаўся я.

— Усё баліць, доктар, асабліва сэрца сціскае, не магу дыхаць...

— Пухліна на нагах бывае? Ацёкі...

— Бываюць ацёкі, доктар, — і ледзь чутна дадаў: — Я вельмі слабы, не магу нават хадзіць, не хапае паветра...

— Распранайцеся! Паслухаю сэрца. — Я ўзяў са стала фанендаскоп і накіраваўся да яго. Ён зняў з сябе фуфайку, палажыў яе на край тапчана, потым сцягнуў з сябе верхнюю і ніжнюю кашулі. Ён быў вельмі схуднелы. Косткі яго цела выпіралі тонкую скуру ва ўсіх яго частках. З далейшых маіх роспытаў мне стала вядома, што гэты жывы шкілет — мой зямляк і яму зараз сорак гадоў. Я зарэгістраваў: Новік Сяргей Міхайлавіч, 1906 года нараджэння, артыкул 58—1а, дзесяць гадоў. Я падумаў, што шчодрасць нашага «вусатага» вялікая, не шкадуе нікому, адвальвае і адвальвае пад завязку. Ацёкаў у Сяргея на целе не было. Твар — палатно, ні крывінкі. Праз свой фанендаскоп я з вялікай цяжкасцю ўлоўліваў сваімі вушамі «жыццё сэрца» свайго пацыента. Яно, як слабенькае птушаня, недзе ледзь ціўкала ў хілых грудзях гэтага шкілета.

— Можаце адзецца, — сказаў я. — На работу вам пакуль што не хадзіць! — Даў каманду санітару адвесці Сяргея ў барак «слабасілкі».

Этап, з якім прыбыў сюды Новік, доўжыўся больш як паўгода. Чыгунка, параход, аўтамашыны, пехата. Трэба мець вялікае шчасце жывому дабрацца да нашага лагера праз розныя лабірынты пякельнай дарогі. Не кожнаму выпадае такое. Шмат і вельмі шмат белых чалавечых костачак засталося на гэтай дарозе смерці. Магчыма, археолагі будучыні разам з касцямі маманта ў вечнай мерзлаце Калымы ці Індзігіркі знойдуць і гэтыя костачкі нашых сучаснікаў ды напішуць навуковыя працы пра іх.

Праз некаторы час я больш зблізіўся з Сяргеем. Мне стала вядома, што ён — паэт, культурны дзеяч Заходняй Беларусі; трохі малюе, мае каліграфічны почырк. Пераследаваўся за сваю беларускую дзейнасць у панскай Польшчы. Не ўзлюбілі яго і нямецкія фашысты ды хацелі знішчыць, але нашы партызаны вызвалілі з-пад расстрэлу. А цяпер гэты чалавек вось тут, у стане ворагаў новай савецкай улады. Выходзіць, Новік не прызнае ні нямецкай, ні савецкай! Што за чалавек? Што яму трэба?

Аказваецца, яму трэба справядлівасць, сапраўдная справядлівасць, якой яшчэ ён не сустракаў у гэтым свеце.

Мы ж жылі ў той час у акружэнні недаверу і зайздрасці, калі можна было купіць і прадаць некаторыя дробныя душы за адну панюшку табакі, калі мана і падман узводзіліся ў дзяржаўны ранг жыцця.

Адным словам, ні пілсудчыкам, ні гітлераўцам, ні сталінцам Новік-Пяюн не падыходзіў да двара. Таму ён, тройчы выгнаннік, і апынуўся тут далёка-далёка ад сваёй Слонімшчыны.

Тады мяне мала цікавіў яго палітычны светагляд. Ён быў мой зямляк, беларус. Яму трэба дапамагчы зберагчы свае костачкі. А калі ён мае нейкае дачыненне да мастацкага беларускага слова, то мне гэта яшчэ больш пасавала.

Чалавек, які любіць паэзію наогул, ужо сам становіцца паэтам сваёй душой. Такім быў і я. Мае першыя настаўнікі ў гэтым сэнсе былі Колас і Купала, затым Пушкін і Лермантаў. Яшчэ будучы хлопчыкам, я штосьці крэмзаў на паперы і сам. Але асаблівага майго таленту паэта не развілося. Хаця ён жыве і зараз у нейкім прагным жаданні творчасці.

У Віцебску ў дні майго студэнцтва, у тыя памятныя трыццатыя гады, я рэгулярна чытаў газету «Чырвоная змена». Яна мяне пазнаёміла тады з Сяргеем Дарожным[8], Тодарам Кляшторным[9], Алесем Звонакам[10]. Гэта былі нашы паэты-камсамольцы, і наша моладзь іх любіла. Мы нават спявалі Кляшторнага:

Як поле ніва рослае,
Як маладосці пульс,
Красуй ардэнаносная
Краіна Беларусь!

І вось гэтая мая знаходка тут, на Калыме, Новіка-Пеюна была вялікай для мяне, неацэннай. Мала таго што ён беларус — ён паэт. А калі душы ва ўнісон, то не прыходзіць нават сон. Я даведаўся ад яго пра ягоныя Лявонавічы, пра той хор, які ён стварыў, пра тое, што ён не толькі стварае вершы, але і музыку для іх напявае.

Але ж тут лагер зняволеных. Тут не гадуюць паэтаў, а выціскаюць з чалавека ўсе яго жыватворныя сокі. П'юць яго кроў у імя вытворчых планаў. І калі мой хворы крыху ачомаўся, то над ім навісла пагроза апускання ў шахту шукаць золата.

Начальнік лагпункта ўжо неаднойчы мне напамінаў аб гэтым. Я маўкліва выслухоўваў начальніка і маўкліва абдумваў выйсце з гэтай крытычнай сітуацыі. Як вядома, з любой сітуацыі ёсць выйсце. Няма на свеце ніводнага начальніка, якога нельга аб'ягорыць. За зонай лагера наша бальніца, у якой я раней працаваў, і там цяпер мае сябры-калегі. Я ўзяў і паслаў да іх на кансультацыю Сяргея з яго агульным захворваннем сэрца. І яго забралі назаўсёды з нашага лагпункта. Хутка ён стаў там медыцынскім статыстам, дзе не толькі выжыў, але і дачакаўся сваёй волі.

О, калі б ведаў Сталін пра такое наша «злачынства», ён бы, напэўна, ад злосці памёр бы значна раней.

[8] Сяргей Дарожны (1909–1943). Сапраўднае імя — Сяргей Міхайлавіч Серада. Паэт, перакладчык. Арыштаваны ДПУ СССР 29 жніўня 1936 г. Асуджаны як «сябра антысавецкай нацдэмаўскай арганізацыі» на 8 гадоў пазбаўлення волі. Быў абвінавачаны ў падрыхтоўцы замаху на першага сакратара ЦК КП(б)Б Мікалая Гікалу, пра якога збіраў матэрыялы для кнігі. Накіраваны на будаўніцтва Камсамольска-на-Амуры. Загінуў у Ніжне-Амурскім канцэнтрацыйным лагеры.

[9] Тодар Кляшторны (1903–1937) — паэт, перакладчык. Арыштаваны 3 лістапада 1936 г. у Мінску. Асуджаны пазасудовым органам НКУС 29 кастрычніка 1937 г. як «член антысавецкай арганізацыі» да вышэйшай меры пакарання з канфіскацыяй маёмасці.

[10] Алесь Звонак (1907–1996) — паэт, драматург, перакладчык, тэатразнавец. У лістападзе 1936 г. арыштаваны, у 1937 г. асуджаны на 10 гадоў зняволення, якое адбываў у лагерах Магаданскай вобласці. Пасля адбыцця тэрміну працаваў геолагам аб'екта, галоўным геолагам прадпрыемства (Магаданская вобласць). 29 снежня 1954 г. Вярхоўным судом рэабілітаваны. З 1955 г. жыў у Мінску.

## ГЕРОЯМ КАЛЫМЫ

*Найлепшаму сябру па катарзе*
*Сяргею Новіку-Пеюну*

«Ад родных ніў, ад роднай хаты»,
Дзе пахнуць вечнасцю дымы,
Звазілі сталінскія каты
Людзей у пашчу Калымы.
А там пад катаржным цяжарам
Не кожны быў душою раб
І не даваў загаснуць марам,
Каб захаваць надзеі скарб.
Душыла цемра падзямелля,
Кайло, лапата, цяжкі лом,
Канвою дзікае вяселле,
Пагарда панская са злом.
Масква плыла у п’яным блудзе,
Дзе зграя тлумная пачвар
Сваё тварыла правасуддзе
Бяз кроплі жалю для ахвяр.
І хто стрымаў свае устоі
У гэтай немачы густой,
Сапраўды выйшаў у героі
З душой багатай, не чужой.
Пра іх дабром я адзавуся,
Бо іхны быў і мой цяжар,
Калі мы з глебы Беларусі
Праз пекла неслі песень дар.

*2 сакавіка 1992 г.,*
*в. Бабынічы Полацкага раёна*

## ФАШЫЗМ І КАМУНІЗМ

Аснова адна ў абедзвюх структур:
Крывёю ўзведзены гмах дыктатур.
І той жа на шыі працоўных цяжар,
Дэгенерацыя генаў пачвар.
Адна пуцявіна іх партый вяла,
Каб розум былога панішчыць датла.
Хто з імі не ехаў і сцяг іх не нёс,
Таму разбівалі ў камерах нос.
Плёў лапці нягоды мілітарызм,
З’яднаны вар’яцтвам фашызм-камунізм,
Пакуль не спаліў павуцінне прамень
І вывеў на сцэну наш сённяшні дзень.
Дарэшты ваўчыны не змецены дот
І памяць нам раніць калючкамі дрот.
Ці трэба нам сёння, дарэчы, турма,
Калі палітвязняў ідэйных няма?
Больш шпег нам замежны бяду не нясе,

Сяброўства паднялі на шчыт балазе.
Ці будзе трывалым наш антыфашызм,
Што сам па сабе адпадзе бандытызм?
Не будзе, канешне, бо прошлага цень,
Яшчэ не растраціў атрутны струмень.
Смярдзець яшчэ доўга нам будзе фашызм
І ставіць рагаціну экс-камунізм,
Каб гэту заразу ад блуду стрымаць
Дзяржаве патрэбна ў кратах турма.

*18 сакавіка 1992 г.*
*в. Бабынічы — Вуглы*

## ПЛАЧ ПА ІМПЕРЫІ

*На шостым з'ездзе народных*
*дэпутатаў Расеі ў Маскве*

Плача гарачая, плача халодная,
Асірацелася, вечна галодная
Й неабсяжная Русь.
Вельмі аслабла штыковая гвалтыка,
Выйшла на тракты Еўропы Прыбалтыка,
Скінула сон Беларусь.
Глебу ачысціла груда-ільдзіна,
Выцерла слёзы Дняпру Украіна,
Здзейсніў нястрымнае час.
Самачышчэнне ад гнілі інвазіі
Хваля прынесла свядомасці Азіі,
Крылы расправіў Каўказ.
Не памагла й маны артылерыя,
Бо на пяску ўзрастала імперыя,
Прагны тэрор-ленінізм.
Людзі не мелі спагады і ласкі,
Ляскалі колы па бруку без змазкі,
Стопар заціяў механізм.
Плачуць на з'ездзе сваім дэпутаты,
Вернуцца зноўку пустымі дахаты,
Скрэпяць маўчаннем адчай.
Ім не пражыць без дарэмнай кармушкі,
Прэч адыходзяць рэспублікі-служкі,
Кажуць: Расея, бывай!
Можа напіцца вады-кока-колы
Ды паглядзець на гісторыі кола,
Крыкнуць Івану: стрымай!
Не падступіцца — нязломныя спіцы...
Хто затрымае падолам спадніцы
Дзетак народных, чужых?
Можа, й зменяць няшчасныя лёсы
Граблі з плугамі, сцюдзёныя росы,
Фермерскай долі гужы.

Манкі нябеснай ніхто не рассее
І для цябе, дарагая Расея,
Як ты тут хочаш, гадай!
Трэба засеяць уласную ніву,
Моцна трымацца за конскую грыву,
Выпечы свой каравай.

*21–22 красавіка 1992 г.*
*в. Вуглы Полацкага раёна*

## ЛІСТЫ І ПАШТОЎКІ АД СЯРГЕЯ НОВІКА-ПЕЮНА ДА БРАНІСЛАВА ПЯТКЕВІЧА

Паштоўка. Мінск, 7.11.1966 г.

п/о Толкочевичи, Минской области, Уздзенский район.

Петкевичу Браниславу Антоновичу

Узаемна віншую са святам Вялікага Кастрычніка, жадаю добрага здароўя і выдатных поспехаў на новым месцы працы.

Сяргей Новік-Пяюн

Паштоўка. Мінск, 13.09.1985 г.

Даражэнькі Браніслаў!

Віншую Цябе з днём нараджэння — 23 верасня, — зычу добрага здароўя і выдатных поспехаў у творчасці.

Ці Ты атрымаў мой ліст, дзе я напісаў Табе, як я «трапіў» у Саюз пісьменнікаў.

Прывітанне Тваёй жонцы.

Усім сэрцам Твой

Сяргей Новік-Пяюн

Паштоўка. Мінск, 23.04.1987 г.

Дарагі Браніслаў!

Віншую Цябе і Тваю дарагую сям'ю з святам 1 мая, зычу добрага здароўя і ўсяго найлепшага.

Пасылаю Табе свае «Зорачкі ясныя» і кнігу К. Я. Шышыгінай[1] «Музы Нясвіжа».

У мінулым 1986 годзе споўнілася 60 гадоў Лявонавіцкаму народнаму хору, які я стварыў 18 ліпеня 1926 года. Міністэрства культуры СССР мяне ўзнагародзіла адзнакай «За достижение в самодеятельном художественном творчестве».

Што новага ў Цябе?

З сардэчным прывітаннем і ўдзячнасцю

Твой Сяргей Новік-Пяюн

Паштоўка. Мінск, 6.09.1987 г.

Дарагі Браніслаў!

Віншую Цябе з днём нараджэння — 23 верасня, — зычу добрага здароўя і выдатных поспехаў у творчасці.

---

(1) Клаўдзія Якаўлеўна Шышыгіна-Патоцкая (1935–2005) — беларуская краязнаўца, аўтарка кніг па гісторыі Нясвіжа, роду Радзівілаў і іхняга замка.

Шчыра дзякуй Табе і Тваёй жонцы Глафіры за павіншаванне з днём майго нараджэння. Дзякуй за выратаванне мяне ад пагібелі на суворай Поўначы, бо каб не Ты, не адзначаць бы мне сваё 81-годдзе.

Што новага ў цябе? Ці пішаш, друкуеш? Дзе зараз Тваe сыны і дачка? У мяне дрэнна з вачыма — Калыма «бокам вылазіць». Лечыць мае вочы прафесар Бірыч П. В.

З сардэчным прывітаннем

Твой Сяргей Новік-Пяюн

Ліст. Беларусь, г. Менск, 13 лістапада 1991 года (надрукаваны на друкарцы).

Добры дзень, дарагія мае Сябры Глафіра і Браніслаў!

Шчыра дзякуй за ліст ад 9 лістапада 1991 года, які я атрымаў сёння, 13 лістапада 1991 году, і зараз жа пішу адказ, спяшаюся, бо ў панядзелак, 18 лістапада 1991 году, еду зноў у лякарню на 5-ты курс лячэння вачэй, якія мне папсавалі гестапаўцы ў 1943-м годзе. Ад 1988 году я не магу пазбавіцца ад лякарняў. У Маскве мне рабілі аперацыю ў інстытуце вочных захворванняў імя Гельмгольца. Але лекар не дарабіла цалкам аперацыю і адаслала мяне на лячэнне ў Менск. Дай, Божа, здароўя маладой лекарцы, якая выратавала мне вочы. А 17-га траўня 1990 году ў сваёй кватэры я ўпаў і зламаў левае бядро. Увесь 1990 год я праляжаў у лякарні, а вярнуўшыся дадому, сем разоў падаў і пашкодзіў бядро яшчэ. З хаты нікуды не магу выходзіць. Дапамагаюць мне студэнты, прыхільнікі маёй літаратурнай творчасці.

Пасылаю Табе Твой рукапіс гімну «Жыві, Беларусь!», 3 (тры) экзэмпляры гэтага гімну, перапісаныя на машынцы, выпіску з «Народнай газеты» аб умовах конкурсу гімна Рэспублікм Беларусь, канверты. Запоўні тыя месцы, якія не напісаў я, напішы «ДЭВІЗ» і адашлі ў канверце, які я пасылаю, у Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. Калі сёння да мяне прыйдзе студэнтка, мая літаратурная выхаванка, папрашу яе адаслаць Табе, даражэнькі Браніслаў, бандэроль. Ад 27-га жніўня 1991 году мне пайшоў 86-ты год.

Чытаць і пісаць мне цяжка, свайго почырку я не магу пазнаць — пішу наўздагад. Яшчэ трэба прайсці два курсы лячэння вачэй, апрача гэтага мяне чакае аперацыя. Калыма пакінула свой жудасны след.

Зычу Табе і Графіры добрага здароўя і ўсяго найлепшага.

Усім сэрцам Ваш

Сяргей Новік-Пяюш

Ліст. г. Менск, 5 сакавіка 1992 года (надрукаваны на друкарцы).

Даражэнькі Браніслаў!

Шчыра дзякуй Табе за ліст ад 2-ІІІ-1992 году, які я атрымаў сёння і сёння ж пішу адказ. Сардэчна дзякую за верш «Героям Калымы». Прачытаў гэты верш па тэлефоне маім дарагім сябрам пісьменнікам сп. Пархуце Яраславу Сільвестравічу, сп. Дамашэвічу, дзвюм настаўніцам беларускага ліцэю, і ўсім Твой верш спадабаўся. Я перапісаў яго на машынцы і пасылаю Табе 2 асобнікі. Калі хочаш, можаш пасляць у ЛІМ або ў «Наша слова» (220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13). Там працуюць нашы хлопцы сп. Віктар Шніп, сп. Алесь Карлюкевіч. «Наша слова» — штотыднёвік Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

Мая кніга вершаў «Песні з-за кратаў» мелася выйсці з друку да майго юбілею — 85-годдзя з дня нараджэння і 66-годдзя літаратурнай дзейнасці. Кнігарня пісьменнікаў ужо прыймала заказы (між іншым заказаў было больш, як тыраж). Але кніга дагэтуль не выйшла. Выпадкова я даведаўся, што замест асобнай кнігі мае вершы

вырашылі змясціць у... калектыўным зборніку. Я напісаў пратэст з нагоды гэтага здзеку да Ст. Шушкевіча[11], А. Бутэвіча[12], Н. Гілевіча[13], В. Зуёнка[14] і дырэктара выдавецтва «Мастацкая літаратура» Грышановіча[15]. Першы адгукнуўся Н. С. Гілевіч. Нарэшце, пасля таго як двое літаратараў пайшлі да галоўнага рэдактара выдавецтва і з абурэннем сказалі, што напішуць калектыўны пратэст, мне прыслалі з выдавецтва ліст, што «кніга Сяргея Новіка-Пеюна выйдзе асобнай кнігай, рыхтуюць яе». Я напісаў да загадчыка рэдакцыі паэзіі Дайнекі Л. М. з просьбай паведаміць мне дату, год, квартал калі кніга ўбачыць сьвет. Чакаю адказу.

Я вельмі рады, што Тваё здароўе «задавальняючае». Я пахваліцца не магу: у Бараўлянах я прайшоў пяць курсаў лячэння вачэй пасля аперацыі ў Маскве ў інстытуце Гельмгольца. 17 траўня 1990 г. у сваёй кватэры я ўпаў і зламаў левае бядро. Ужо пасля лякарні я сем разоў падаў на тую хворую нагу, і дасюль яна, нага, мяне трывожыць. Я нікуды не хаджу, мяне даглядае мая літаратурная выхаванка, якая жыве з бацькамі блізка ад маёй кватэры. 15 гадоў яна сябруе са мной: з малой дзяўчынкі яна стала студэнкай і сёлета заканчвае Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, філалагічны факультэт. Яе запрасілі ў беларускі ліцэй, дзе яна ўжо выкладае беларускую мову. Калі 17 траўня 1990 году я ўпаў і праляжаў на падлозе 4 (чатыры) гадзіны, каб не гэтая студэнтка, я б не пісаў сёння гэты ліст — яна выратавала мяне ад сьмерці. Вось гэткія мае справы.

Памерла мая сястра Алеся ў г. Тейкове (Расея), куды яе забрала з родных Лявонавічаў дачка, якая там працуе лекарам. Тая сястра ў Слоніме, у якой Ты быў некалі, хварэе. Яе завуць Каця.

Калі ласка, перадай маё прывітанне Тваёй жонцы Глафіры Дзмітраўне. Бывай! Зычу Табе новых творчых поспехаў.

Твой друг

Сяргей Новік-Пяюн.

*Падрыхтаваў да друку Алесь АРКУШ*

---

[11] Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч (1934) — навукоўца і палітык, першы кіраўнік незалежнай Беларусі, адзін з трох удзельнікаў падпісання Белавежскіх пагадненняў аб юрыдычным замацаванні распаду СССР. Сын рэпрэсаванага беларускага пісьменніка Станіслава Пятровіча Шушкевіча. У 1992 г. — старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

[12] Анатоль Бутэ́віч (1948) — пісьменнік, палітык і дыпламат. У 1992 г. — міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

[13] Ніл Гілевіч (1931–2016) — паэт і грамадскі дзеяч, народны паэт Беларусі (1991). У 1992 г. — старшыня пастаяннай Камісіі Вярхоўнага Савета БССР па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны.

[14] Васіль Зуёнак (1935) — беларускі паэт. У 1992 г. — старшыня праўлення Саюза беларускіх пісьменнікаў.

[15] Валер Грышановіч (1947) — паэт. З 1987 г. — быў дырэктарам выдавецтва «Мастацкая літаратура».

# «ЛІСТ ТРОХ»: ЗМЕСТ ПА-ЗА ПАЛІТЫКАЙ
## З рассакрэчаных матэрыялаў партыйнага расследавання

Вокладка гэтай архіўнай справы сама па сабе — дэтэктыўная гісторыя. Сінім хімічным алоўкам, вялікімі літарамі — загаловак: «Справа Дудара», ніжэй: «ЦКК-НК», яшчэ ніжэй — «1927». Паверх алоўка, ужо чарнілам, цвёрдым, з націскам, почыркам, па-руску: «Материал о нацдэмах», па цэнтры: «1. Зарецкий (Косенков), 2. Александрович Андрей, 3. А. Дудар». Яшчэ ніжэй: «на 135 лістах». «Начато 12–1928–1-1929». На папке штампы: «Партархив ЦК КПБ Белоруссии, ф. 15, оп. 28, связка 1, дело 5», два штампы Магілёўскага партархіва, сігнатуры якіх перакрэслены і нечытэльны. Папка ўзята ў белы пераплёт Нацыянальнага архіва, злева ў верхнім куце — яшчэ адзін штамп: «Рассекречено». Тут захоўваюцца дакументы, сабраныя партыйнай камісіяй, якая расследавала справу «ліста трох пісьменнікаў».

Як вядома, 1 снежня 1928 года ў № 278 «Савецкай Беларусі» быў надрукаваны ліст[1], які падпісалі студэнты літаратурна-лінгвістычнага аддзялення педагагічнага факультэта БДУ — літаратары Андрэй Александровіч[2], Алесь Дудар[3] і Міхась Зарэцкі[4]. Пратэстуючы супраць «упартага цкавання беларускіх пісьменнікаў-студэнтаў», якое «найбольш яскрава выявілася ў заметцы, змешчанай у № 1 насценгазеты педфака “Кузня асьветы” пад назвай “Фрагменты из жизни 2-го курса литературного отделения”», літаратары аб’яўлялі аб сваім выхадзе з БДУ, у якім «беларускіх пісьменнікаў абвінавачваюць у групавой “замкнутости”, быццам не разумеючы таго, што з першых дзён паступлення ў універсітэт ніводзін студэнт не можа быць аднакава дружным як з тымі, з якімі ён не калькі год працаваў, так і з тымі, якіх ён першы раз бачыць у вочы. Беларускіх пісьменнікаў абвінавачваюць у “белорусском шовинизме”, не маючы на гэта абсалютна ніякіх падстаў, калі не лічыць таго, што гэтыя пісьменнікі, не ў прыклад іншым, усюды і заўсёды гавораць па-беларуску. Беларускіх пісьменнікаў абвінавачваюць у тым, што яны чыста апранаюцца, носяць гальштукі, каўнерыкі, капелюшы, акуляры (які злачынны “шык”!), маюць на галаве валасы і ў кішэні насавыя хусцінкі. Беларускіх пісьменнікаў абліваюць памыямі самай бруднай хуліганскай лаянкі, абзываюць “животными”, раўняючы з “собаками” і ўжываючы іншыя непрыстойныя ў сценах універсітэта прыёмы». Ліст меў вялікі розгалас, яго (з адпаведнымі, вядома ж, каментарамі) перадрукавалі замежныя газеты, таму ЦК КП(б)Б неадкладна арганізавала партыйную камісію па расследаванні і стану беларусізацыі на педфаку БДУ, і настрояў студэнцтва, і асабістых матываў фігурантаў дадзенай справы. Партыйнае расследаванне мела вынікам публікацыю пакаяннага ліста за подпісам тых жа аўтараў[5].

Шырокаму колу даследчыкаў матэрыялы гэтай папкі пакуль што не былі даступныя ў поўным аб’ёме. Адразу пасля рассакрэчвання з ёй працаваў дырэктар НДІ дакументазнаўства і архіўнай справы, выбітны даследчык Расціслаў Платонаў. Ён жа падрыхтаваў для публікацыі[6] асобныя матэрыялы з яе: уласна «Ліст трох», то бок заяву Андрэя Александровіча, Алеся Дудара і Міхася Зарэцкага пра выхад з БДУ праз цкаванне беларускіх пісьменнікаў, стэнаграму паседжання Фрунзенскага райкама партыі з асуджэннем Міхася Зарэцкага, пратакол агульнага студэнцкага сходу, на якім учынак трох пісьменнікаў падпаў пад жорсткую крытыку і некаторыя публікацыі ў тагачаснай прэсе, сабраныя партыйнай камісіяй.

Некаторыя дакументы з папкі апублікаваныя таксама ў зборніку «Белорусизация: 1920-е годы» (БДУ, 2001): зноў жа сам «Ліст трох», публікацыя «Звязды» з абмеркаваннем гэтага ліста, заява студэнтаў-узвышаўцаў у падтрымку «ліста трох» (была дасланая ў «Савецкую Беларусь» у самым разгары скандалу, выкліканага лістом, аднак надрукавана не была) і, нарэшце, пакаянны ліст Александровіча, Дудара і Зарэцкага з прызнаннем уласных памылак. Як вынікае з гэтых публікацый, у выніку скандалу, звязанага з «Лістом трох», член партыі Міхась Зарэцкі быў спачатку выключаны з КП(б)Б, потым — адноўлены са строгай вымовай пасля згоды падпісаць ліст-пакаянне; Андрэю Александровічу, які на той час быў кандыдатам у члены партыі, працягнулі кандыдацкі стаж, адмовіўшы на некаторы час у прыёме; Алесь Дудар, як непартыйны і механічна выбыўшы з камсамолу за «няўплату ўзносаў», абышоўся без пакаранняў, але менавіта гэтую гісторыю яму прыпомнілі ў ДПУ ў першых радках праз чатыры месяцы, адпраўляючы ў высылку ў Смаленск за верш «Пасеклі край наш папалам».

Хутчэй за ўсё, мэты, якія ставілі перад сабой публікатары матэрыялаў, не прадугледжвалі паўнаты раскрыцця тэмы. Засяродзіўшыся на палітычным аспекце падзеі, даследчыкі вырашылі пакінуць па-за ўвагай «чалавечыя» дакументы з рассакрэчанай папкі: паказанні аўтараў ліста, водгукі студэнтаў, якія друкаваліся падчас скандальнага расследавання ў насценгазеце БДУ, сведчанні відавочцаў, у якіх раскрываецца «чалавечая» падаплёка легендарнага ліста, і нават — уласна змест таго артыкула насценгазеты, які і стаў пускавым механізмам самай громкай паэтычна-палітычнай справы часоў беларусізацыі.

Болей за тое. У абедзвюх публікацыях месцяцца фактаграфічныя памылкі. Не падаючы зместу фельетона «Фрагменты», публікатары цытуюць урыўкі з яго у каментарах, выпускаючы з увагі, што фельетонаў было два. Адзін — памянёны, апублікаваны ў газеце «Кузьня асьветы». Другі — вусны, прачытаны ад імя рэдкалегіі на агульным сходзе студэнцтва, які адбыўся ўжо пасля публікацыі «Ліста трох». І ў каментарах Р. Платонава, і ў заўвагах складальнікаў зборніка «Белорусизация» змест другога фельетона выдаецца за змест фельетона першага, што сур'ёзна скажае сутнасць канфлікту, бо Александровіч, Дудар і Зарэцкі пісалі свой «Ліст трох» менавіта пасля першага фельетона, у той час як другі фельетон, цытаваны, той самы, у якім утрымліваюцца абразлівыя закіды ў бок Максіма Багдановіча, стаўся ўжо рэакцыяй на іх гарачы пратэст.

Між іншым сапраўдная гісторыя «Ліста трох» — гэта не зусім палітычная гісторыя. Палітычную афарбоўку ёй прыдалі адпачатку самі аўтары, для якіх было важна прыцягнуць увагу грамадства да беларусізацыі ў БДУ, а потым — адпаведныя таварышы з адпаведных структур, калі прачыталі ў ім і нязгоду з палітыкай партыі, і разыходжанне з генеральнай лініяй. Сапраўдныя вытокі «Ліста трох» палягаюць у сферы звычайных чалавечых адносін і, як часцяком бывае, тычацца зусім не Александровіча, Дудара і Зарэцкага, якія кінуліся на абарону годнасці беларускага пісьменніцкага цэху, хоць першапачаткова канфлікт на педфаку БДУ распачынаўся як прыватны канфлікт між іншымі людзьмі і па іншых прычынах. Гэты відавочны «люфт» паміж чалавечымі прычынамі падзеі і яе палітычнымі наступствамі ў гісторыі «Ліста трох» падаецца нам таксама вартым даследчыцкай увагі.

У дадзенай публікацыі ўпершыню прыводзіцца ўласна тэкст фельетона «Фрагменты из жизни 2-го курса литературно-лингвистического отделения» ў тым выглядзе, як ён быў перадрукаваны па патрабаванні камісіі, друкаваныя ў насценгазеце «Кузьня асьветы» і дасланыя ў рэдкалегію лісты ад студэнтаў, паказанні па дадзенай справе Александровіча, Дудара і Зарэцкага, вытрымкі з «Высноў Камісіі аб правядзенні беларусізацыі ў БДУ», а таксама вытрымкі з даклада аб выкладанні літаратуры на

педфаку БДУ, з якіх высвятляюцца некаторыя абставіны канфлікту ў студэнцкім асяроддзі (усе дакументы — ф. 15 п, воп. 28, спр. 5). Таксама да публікацыі дададзена спраўка Праўлення БДУ датычна заяў аб выхадзе Дудара, Александровіча і Зарэцкага, якая захоўваецца ў фондзе 205 (фонд БДУ). Неабходныя заўвагі да тэкстаў дадзены ў каментарах. Правапіс дакументаў захаваны, акрамя выпадкаў, калі аўтарская лексіка, арфаграфія і пунктуацыя ўскладняе чытанне і разуменне тэксту.

*Ганна СЕВЯРЫНЕЦ*

* * *

## *ФРАГМЕНТЫ ИЗ ИСТОРИИ 2 КУРСА ЛИТ. ОТДЕЛЕНИЯ*

*Ничто не вечно. Гераклит.*

*Жил умный человек — Дарвин — и умер.*
*Умный человек был Дарвин и умные слова говорил он.*
*Человек — казал Дарвин, социальное животное.*
*Верно ли говорил старичок — увидим.*

*Мыслю — значит, существую. Декарт.*

***Будем мыслить.***

*Человек — социальное животное.*
*Все поэты — люди.*
*Все люди социальные животные*
*...социальные или нет — увидим.*

*Математика — наука точная. Физмат.*

*На 2 курсе лит. линг. отделения значительную часть составляют писатели[7], они же — «письменники» (они — не поэты), они же «молодняковцы» и прочие «цы».*

*Пропорция приблизительно следующая:*

*Что за штука на педфаке*
*Объясни мне это,*
*Кинеш палкою в собаку –*
*Попадешь в поэта.*

*Пропорция есть отношение. (Курс арифметики Киселева).*

*Поговорим об отношениях.*

*И разлучища овец от козлищ*
*Матфей 25:32*

*Если войдешь в аудиторию 2 курса литературно-лингвистического отделения — увидишь.*

*Одесную профессорского столика стоят парты.*

*Ошую упомянутого столика — тоже.*

*И сидят на этих партах люди — студенты.*

*При чем: с одной стороны — бритые, стриженые, в косоворотках, в косынках, в шинельках, в сапогах, в ботинках (словом, студенты).*

*С другой стороны сидят — щёголи (не смешивайте со щеглами) — длинноволосые, в шляпах, в галстуках, в джимми[8], с тросточками, кой-кто — в окулярах.*

*Что за странное разделение? Увидим.*

*Смотри в корень вещей.*
*К. Прудков*[9].

*Необходимым аксессуаром писательской профессии издавна считаются длинные волосы.*

*Доказательство:*

*«Поразил он меня длинными поэтическими волосами». А. Мариенгоф.*

*«Длинные волосы и говорит вполголоса. Должно быть, писатель». А. Блок.*

*«Длинные дьячковские волосы говорили о его профессии». М. Горький.*

*Довольно? Хватит — дальше.*

*О культуре писателя говорится давно. Писатель должен быть культурным — это аксиома. Но что значит быть культурным? Лев Толстой боролся с культурой и ходил в рубашке и босой. Писатели 2 курса лит. отделения ходят в шляпах, галстуках и джимми.*

*Значит, они борются — за культуру.*

*Логично? Дальше...*

*Пушкин говорил: «ты царь, живи один». Кому говорил это Пушкин? Поэту. Наши письменники поэты? Да.*

*Поэтому — на 2 курсе лит. отделения письменики отделились в совершенно особую группу. Эта группа живет своей, изолированной от студенческого коллектива жизнью, имеет свои собственные, замкнутые интересы. Так: по поэтике ими по инициативе П. Шукайло организована отдельная группа, в которую вошли все упомянутые, и никто из посторонних в список этой группы не включался.*

*Характерно, что сам организатор этой группы, мотивировавши организацию её какими-то особенными познаниями письменников в области поэтики — остался — волею провидения, на 1 курсе на 2 й год.*

*Все студенчество 2 курса лит. отд. делится на поэтов — и прочих. Слово «письменники» — немножко ругательное.*

*Среди письменников процветает белорусский шовинизм.*

*Конкретно: к профессору, ведущему семинарий по русской литературе, предъявляются требования читать по-белорусски, если профессор неправильно произносит белорусское слово — его поправляют, сопровождая поправку ехидным смешком.*

*Доказательство:*

*Посиди у нас на лекциях.*

*«Факты вещь упрямая». Ленин.*

*М. Ю. Лермонтов говорил о поэте, что «когда молчит его святая лира» и «душа вкушает сладкий сон», то «средь детей ничтожных мира быть может всех ничтожней он».*

*Нужно думать, что святая лира наших поэтов упорно молчала весь прошлый год. Ибо как тогда объяснить ничтожную их успеваемость? Факт: на 10 оставленных на повторительный курс 6 мест падает на письменников*[10].

*И это при наличии гос. стипендии и литературного приработка, и повальном уклонении от работы по факультету.*

*Имеющий уши да слышит*

*Человек есть социальное животное.*

*Все поэты — животные. Это мы знаем.*

*Социальные ли это животные — мы видим.*

*Уже не ошибся ли старичок — это мы видим.*

***Ы. И. Й.***[11].

*__Ад рэдакцыі.__ Не выказваючыся па сутнасці артыкулу, рэдакцыя павінна адзначыць ненармальнасьць становішча, занятага маладымі пісьменнікамі ў нас на факультэце. Лічучы гэта хваравітым зьявішчам нашай студэнцкай грамадскасці, рэдакцыя просіць студэнтаў выказацца па гэтым пытанні.*

*НАРБ, ф. 15 п, воп. 28, спр. 5, арк. 71—75.*

* * *

## *НЕ ЗАМАЗВАЦЬ РАССЛАЕННЕ*

*Рэдкалегія «Кузьня асветы» зрабіла безумоўна правільны крок, зьмясціўшы ў першым нумары газеты «Фрагменты из истории 2-го курса литературного отделения».*

*Рэдкалегія не вынесла ў першым нумары сваёй думкі па сутнасці фельетону і паасобных яго дэталях. Рэдкалегія дазволіла сабе толькі ў самай агульнай форме падкрэсліць «ненармальнасць становішча, занятага маладымі пісьменнікамі ў нас на факультэце», і кінуць кліч судэнцкай грамацкасці аб дапамозе ёй.*

*Водгукі мы атрымалі. Частку іх мы змяшчаем.*

*Усе карэспандэнцыі, за выключэннем аднэй, пацьвярджаюць няспрэчны факт, існавання двух паасобных груп на 2-м курсе літаратурнага аддзялення.*

*Рэдакцыя атрымала звесткі аб новым канфлікце, які адбыўся на 2 м курсе літаратурнага аддзялення на семінарыі па заходне-еўрапейскай літаратуры.*

*ГЭТЫ АСНОЎНЫ ФАКТ РАССЛАЕННЯ МЫ ЛІЧЫМ ДАКАЗАННЫМ.*

*Звадзіць гэты буйнешы факт да дробязяў: «шляп, джыммі і тростачак» і нават, некаторых грубасцяў фельетону і з-за гэтага ламаць коп’я, але разам з гэтым замазваць бясспрэчны факт адарванасці часткі маладых паэтаў ад студэнцкай масы, — значыцца, — рабіць злачынства ў адносінах да нашай пралетарскай грамадскасці.*

*Такую памылку зрабілі некаторыя нашы тт і, у тым ліку, аўтары адпаведных артыкулаў у газетах «Рабочы» і «Савецкая Беларусь».*

*Характэрна, што рэдкалегія «Кузьня асьветы» атрымала толькі адну карэспандэнцыю ад пісьменьнікаў, пацьвярдзіўшы між іншым, што «Фрагменты» «пакрылі» пісьменьнікаў у многім па-праўдзе, астатнія пісьменнікі маўчалі, і толькі два з іх знайшлі неабходным пытанне яшчэ сырое, па якому ні рэдкалегія, ні студэнцтва не вынеслі яшчэ сваёй думкі, — перанесці ў тэндэнцыознай форме ў Усебеларускі друк, туды, дзе па тэхнічных прычынах няма магчымасці шырока дыскусіраваць па гэтаму пытанню.*

*Мы лічым праблему далучэньня маладых пісьменьнікаў да грамадскасці факультэту, праблему ўстанаўленьня ўзаемаразуменьня і ўзаемадапамогі паміж пісьменнікамі і астатнім студэнцтвам — праблемай вялікай грамадскай важнасці. Мы лічым, што яшчэ да гэтага часу ледзяная сьцяна намі не разбіта. Мы ня ў якім выпадку не абвінавачваем у гэтым усіх пісьменьнікаў, мы лічым, што бяда не толькі ў пісьменніках адных.*

*Рэдкалегія зрабіла памылку, не падкрэсліўшы ў сваёй заўвазе да артыкула «Фрагменты» безпадстаўнага, падагульніваючага характару яго. Гэта дало магчымасць пад сцягам абароны усёй групы пісьменьнікаў у цэлым — захавацца і такім адзінкам, адносіны якіх да студэнцтва, паводзіны якіх у быту магчыма было характэрызаваць «шчэ больш рэзка, такім адзінкам, якія, магчыма, з’яўляюцца паклоннікамі Багемы».*

*З другога боку ўсё гэта дало магчымасць застацца незачэпленымі ўпартым ворагам беларусізацыі — студэнтам, адзінкам, якія сваёй шкодніцкай працай яшчэ больш абвастроўваюць становішча.*

*Зразумела, што Рэдкалегія ні ў якім разе не можа згадзіцца з артыкулам тав. Злянеўскай, якая лічыць, што «ніякага антаганізму паміж пісьменнікамі і студэнтамі няма».*

*І – галоўнае, што мы павінны зразумець. Справа не ў шляпах і тростачках, а ў сталай ідэалогіі абодвух груп. Толькі ідэалогія можа падзяляць людзей на групы і толькі ў ёй трэба шукаць тлумачэнні для усіх фактаў.*

*Якія адхіленні ад правільнай пралетарскай ідэалогіі маюцца як сярод некаторых часткі пісьменьнікаў, так і студэнцтва — вось тая вось, навокал якой павінна вярцецца дальнейшае абгаворванне «Фрагментаў» у газеце і на тым сходзе 2-га курсу лін.-літ. аддзялення, які склікае рэдкалегія ў бліжэйшы час.*

## СЕМЕЙСТВЕННЫЙ ПАРНАС

*Усе пададзеныя факты па існасці «Фрагментаў» верны. Трэба да гэтага дадаць яшчэ наступнае. «Аўтаномная» група пісьменнікаў-літэратараў 2-га курсу аб'ядnae не толькі пісьменікаў, якія зараз відаць, або якія хоць калі вытыкаліся на літаратурным кругавідзе, але і радню пісьменніцкіх колаў. Гэта ўжо зусім сямейственны Парнас.*

*З пачатку навуковага году можна было прабачыць такое выасабленне, а зараз ужо пара, тт пісьменнікі, разгледзецца і зразумець карыкатурнасць сваёй адгароджанасці. З'явіўся фельетон, і здавалася з таго часу ўжо можна было б зрабіць што-кольвеча, а наш «семейственный парнас» забраніраваўся і ні слуху, ні духу.*

*Я прашу рэдкалегію па добраму рупару перадаць мой кліч гэтай групе студэнтаў: НЕ ЗАМЫКАЙЦЕМСЯ ТАВАРЫШЫ, ВЕРЦЕ, ШТО ВАША МУЗА АД ГЭТАГА ПА ЯКАСЦІ НЕ СТРАЦІЦЬ НІЧОГА!*

*М. Ш.*

## НА ШИПКЕ ВСЁ СПОКОЙНО

*«Чалавек сацыяльная жывёліна. Усе паэты жывёліны, толькі не сацыяльныя». Вось да чаго зводзіцца сэнс адпаведных радкоў «Фрагментаў»....*

*Няўжо нават самая несацыяльная жывёліна магла дадумацца да такога абсурда.*

*Студэнты 2 га курсу літаратурна-лінгвістычнага аддзялення падзяляюцца аўтарам на «звычайна смяротных» — «в косынках, косоворотках, сапогах» і ганарыстых, абуржуазіўшыхся шчогалёў-пісьменнікаў у шляпах і гальштуках.... С тросточкамі в руках».*

*«Лев Толстой боролся с культурой и ходил в рубахе и босой.... Писатели ходят в шляпах и джимми, значит, они борются за культуру» — гіранічна абвяшчае аўтар.*

*Ні ў якім разе нельга лічыць правільным самы факт адзеваньня гальштукаў і шляп — выключна пісьменьнікамі, а касаваротак і касынак — «звычайнымі смяротнымі». За апошні час мы маем ВЫРАЗНЫЯ ІМКНЕННІ СТУДЭНТАЎ ДА АКУЛЬЦІВІРАВАННЯ СВАЙГО НАДВОРНАГА ВІДУ, ІМКНЕННЯ БОЛЬШ ПРЫЛІЧНА АПРАНУЦЦА. Мы ня можам ставіць гэтага факту ў упрок ні «студэнтам-людзям», ні студэнтам-пісьменьнікам, бо імкненне да прылічнай вопраткі ёсць, безумоўна, адзін з момантаў культурнасці чалавека.*

*НІЯКАГА АНТАГАНІЗМУ ПАМІЖ СТУДЭНТАМІ-ПІСЬМЕНЬНІКАМІ І НЕ ПІСЬМЕНЬНІКАМІ НА 2 КУРСЕ ЛІТАРАТУРНАГА АДДЗЯЛЕННЯ НЯМА, такжа сама, як няма размежаваньня студэнтаў на паэтаў і не-паэтаў пры падзеле на групы па паэтыцы.*

*Тав. Шукайла ня прымушаў усіх паэтаў запісацца ў першую групу і не забараняў наведваць яе «звычайным смяротным». У групу запісваліся студэнты, якія ў адпаведнасці*

*з вольным часам маглі яе наведваць. І той факт, што ў ёй апынуліся амаль усе пісьменнікі, яшчэ нічога не гаворыць аб размежаванні студэнцкай масы.*

*Заява аўтара «Фрагментаў» АБ ПРАЦЬВЯТАННІ БЕЛАРУСКАГА ШАВІНІЗМУ СЯРОД ПІСЬМЕНЬНІКАЎ — У КОРНЕ НЯПРАВІЛЬНА.*

*Ніколі ад прафэсара, які чытае свой прадмет на расейскай мове, не патрабавалі чытаць па-беларуску.*

*Што датычыцца «поправочек», «сопровождаемых ехидненькім смешком», дык трэба сказаць, што некаторыя з прафесароў, яшчэ ў дастатняй ступені не ўладаўшыя беларускай мовай, самі просяць студэнтаў унасіць папраўкі ў няправільнасці іх мовы. Зусім натуральна, што папраўкі ідуць пераважна з боку пісьменнікаў, як добра ведаючых беларускую мову.*

*Ніякіх шовіністычных, «ехидных смешков» тут, зразумела, няма.*

*Бурны пратэст студэнцтва, якім было сустрэнута выступленне беларускіх паэтаў на адным з вечароў мінулага году — мае зусім іншыя корні. ЁН ЗЬЯЎЛЯЕЦЦА ВЫНІКАМ НЕЗАДАВАЛЬНЕННЯ ЗАПЫТАННЯЎ СТУДЭНЦТВА БЕЛАРУСКАЙ ПАЭЗІЯЙ.*

*Дзіўна, аднак жа, што на дыспуце «Чаго мы патрабуем ад нашага пісьменніка» студэнты, запамятаўшы, як відаць, аб сацыяльным значэнні языка, добрасумленна трымалі яго за зубамі.*

*Бясспрэчным і надзвычай важным пунктам «Фрагментаў» зьяўляецца акадэмічная паспяховасць пісьменнікаў: застаўленне на 2-гі год, за рэдкім выключэннем, зьяўляецца хранічным фактам.*

*Мы ня можам з гэтым мірыцца. Наш пралетарскі пісьменнік, за кошт дзяржавы пасылаемы ў ВНУ, павінен апраўдаць сабе. Ён павінен быць глыбока, усебакова развітым чалавекам.*

*Неабходна выявіць прычыны гэтай непаспяховасці і павесці рашучую барацьбу за ПІСЬМЕНЬНІКА-ПЕРАДАВІКА НА АКАДЭМІЧНЫМ ФРОНЦЕ.*

***Зелянеўская***

## *ГВАЛТ*

*У мінулым нумары «Кузьня асьветы» быў змешчаны памфлет на «маладнякоўцаў» і іншых «цаў», словам, на пісьменнікаў. У многім іх абвінавачваюць.*

*У МНОГІМ ПА ПРАЎДЗЕ.*

*Але закранутыя ў фельетоне пытанні нехаця даюць патрэбу закрануць і працілеглае пытанне — беларусізацыі.*

*Чаму іншы раз і каму-небудзь зручна назваць «маладнякоўцаў» і іншых «прастых смяротных» у вядомых абставінах «белшовіністамі». Гэта зручна таму, што іншы раз можна гэтым самым вельмі спрытна замазаць свой грэшок, прыкрыць тэндэнцыі арыентацыі на расейскае. Мы не супроць расейскага ў чым-небудзь іншым, але не ў спаборніцтвах моў. І не гледзючы на беларусізацыю, наглядаюцца дрэныя вынікі. Паспрабуйце прыслухацца ў карыдоры Університэту: колькі працэнтаў студэнтаў гавораць па-беларуску?*

*Жах.*

*Паспрабуйце прыслухацца, колькі студэнтаў на заліках адказваюць па-беларуску?*

*Гвалт.*

*У студэнцкай сталоўцы — колькі можна пачуць беларускіх галасоў? Сьлёзы. Зусім малая колькасць. А тутэйшыя менскія жыхары? А прыватныя кватэранты? Яны — амаль ніяк не гаворацць па-беларуску. Горш таго, не умеюць. Калекі.*

*А МАЛА НАСТАЎНІЦ І НАСТАЎНІКАЎ ПАЕХАЛІ НА ПРАЦУ КАЛЕКАМІ? Варта ўспомніць веснавыя нумары Звязды і настаўніц.*

*Беларуская мова робіцца мовай афіцыяльнай. Яна ўжываецца на сходах, на паседжаннях і іншых урачыстасцях. А калі прыслухацца — і там такая бедната, такая мізэрнасць гэтае мовы. Пратакольнасць, канцэлярская спецыфічнасць і абмежаванасць — яе рамкі.*

*Мова не вывучаецца. Не ўдасканальваецца. Студэнты ў сваёй мове няпісьменныя. Варта толькі паглядзець на аб'явы, што вісяць на сценах БДУ (а іх нямала на расейскай мове), і нямала знойдзецца там памылак. Факты — «вещь упрямая».*

*Ня дзіва, што «маладнякоўцы» і іншыя «цы» выносяць пажаданні, каб выкладчыкі выкладалі па-беларуску, бо гэта адзін з сродкаў беларусізацыі студэнцтва.*

*Беларусізацыя — няўхільная задача нашага выхаваньня. Пра яе трэба пісаць, гаманіць, правадзіць у жыцьцё і не даваць магчымасці прыкрывацца контр-тэрмінамі. А МОЎ НА СПАБОРНІЦТВА НЕ ВЫПУСКАЦЬ.*

***Гудальскі***

### *ГРУБАЕ АБАГУЛЬНЕНЬНЕ*

*Фэльетон, які змешчаны ў апошнім нумары «Кузьні асьветы», зрабіў, як мне здалося, рознае ўражаньне на чытача. Адны лаялі і аўтара, і газету, другія ўхмыляліся ў няіснуючы вус. 3-ці галосна выражалі сваё задавальненне. Мы падыдзем зусім аб'ектыўна на ацэнкі гэтага фельетону, гэта значыць — выказацца аб тым, ці меліся факты, закранутыя фельетонам.*

*Ня трэба скрываць, што на нашым 2 курсе літ. аддзялення сапраўды маецца расслаеньне на 2 групы, і што адносіны аднэй групы да другой абвеяны даволі вострым холадам. Яшчэ да гэтага часу, нават пасля 2-хмесячнага прабываньня у сценах БДУ, ні адзін з бакоў не зрабіў больш-менш яскравых папытак падыйсці адзін да другога. Ні гара да Магамету, ні Магамет да гары.*

*Праўда і тое, што пачатак такому няпрыгожаму расслаеньню даў «і ныне благополучно здравствующий» «акадэмік» у двукосьсях ШУКАЙЛА. Ён, як не прыкра, складаючы групу, РАБІЎ БУКЕТ (шуткуючы ці сур'ёзна) з асоб, якія, па яго думках, былі вытрыманы акадэмічна і ідэалагічна, а для большага хараства букету дадаў некалькі «роз» (адна з іх, кажуць, з графскіх пакояў). Гэтыя розы, аднак, скора пачалі ўцякаць ад Шукайлаўскага букету, і калі аўтар закрануў пытанне аб белшовінізму, дык тэму для такога пытаньня зноў такі даў той жа акадэмік Шукайла: гэта ён у кожным сказаным па-расейску слове бачыў «русацяпства».*

*Але яго ўжо няма («царства яму нябеснае»). Аўтар «Фрагментаў» усё ж зрабіў памылковае раўнанне: ШУКАЙЛА = усе іншыя пісьменнікі. Слаб на вывады аўтар.*

*Што датычыцца гальштукаў, валасоў, галіфэ і інш — дык гэта дробязі — мажліва сярдзітыя, але не астраўмныя. Ніхто нічога не сказаў бы аўтару «Фрагментаў», каб ён пачапіў не адзін, а два гальштукі, спераду і ззаду, адпусціў бы кітайскія косы і нават апрануўся б у жаночыя панталоны.*

***Без подпісу***

*НАРБ, ф. 15 п, воп. 28, спр. 5, арк. 57–59.*

* * *

### *З Вывадаў Камісіі аб выкладанні літаратурных дысцыплін на педфаку (вытрымкі)*

*Прыходзіцца канстатаваць, што справа выхавання моладзі ў напрамку марксісцка-ленінскай тэорыі стаіць там не на адпаведнай вышыні. Факты, якія там адбываюцца за апошнія часы, яскрава аб гэтым гавораць. Напрыклад, на паседжанні прадметнай камісіі літаратурнага аддзялення пры абгаворванні літаратуразнаўства, зачытанай тав. Фогтам, адбыліся спрэчкі. Тав. Фогт адстаіваў марксісцкі метад у літаратуры, аппанентамі яго быў студэнт 2 курсу педфаку Пальчык, які адхіляў марксісцкі метад, а стаяў толькі на вывучэнні форм. Яго падтрымаў выкладчык Барычэўскі, які працягваў псіхолёгічны і інш. методы, часткова адстойваў усе гэтыя метады і Замоцін. Студфракцыя, якая там была, не дала належнага адпору, нават партыйцы і камсамольцы не рэагавалі на гэта і не лічылі неабходным паведаміць аб гэтым бюро ячэйкі.*

*/…/ Якія адносіны да літаратуры мае формула «абшчэсьцьвеннае быціе адзначае сьвядомасць» — кажа студэнт і працягвае: «статья Ленина о Толстом есть лишь заурядная публицистика, но не критика».*

*/…/ Кіраўнікі-выкладчыкі не прыстасаваліся к марксісцкаму метаду, а вядуць заняткі па старынушке. Найбольш адмоўнымі ў гэтых адносінах выяўляюцца: Барычэўскі, які лётае ў аблаках, прыхільнік эстэтыкі і Пушкіна, Вазьнесенскі, які з'яўляецца фармалістам, і Бабарэка, але сапраўдны твар апошняга яшчэ дакладна не выяўлен.*

*НАРБ, ф. 15 п, воп. 28, спр. 5, арк. 41.*

* * *

### *ТЭЗІСЫ камісіі, вылучанай ЦК КПБ і НКА ў зьвязку з лістом трох пісьменьнікаў (Зарэцкага, Дудара і Александровіча) (вытрымкі)*

***Нацыянальны склад педфаку:***

| *Аддзяленні педфаку* | *1927/28* | *1928/29* | *Павяліч, %* |
|---|---|---|---|
| *Літаратурнае* | *66,4 %* | *70,3 %* | *3.9 %* |
| *Сацыяльна-гістарычнае* | *47,7 %* | *54,1 %* | *6.4 %* |
| *Фізмат і прыродазнаўч* | *68,2 %* | *70,1 %* | *1.9 %* |

***Нацыянальны склад выкладчыкаў педфаку***

| *гады* | *пасада* | *беларусаў* | *яўрэяў* | *расійцаў* | *палякаў* | *іншых* | *Усяго* |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| *27/28* | *Прафесароў* | *6* | *1* | *13* | *–* | *1* | *21* |
| | *Дацэнтаў* | *16* | *8* | *5* | *–* | *1* | *31* |
| | *Асістэнтаў* | *9* | *7* | *4* | *2* | *–* | *22* |
| *28/29* | *Прафесароў* | *6* | *2* | *11* | *1* | *1* | *21* |
| | *Дацэнтаў* | *14* | *10* | *6* | *–* | *2* | *32* |
| | *Асістэнтаў* | *9* | *7* | *4* | *2* | *–* | *22* |

***Уладанне беларускай мовай навуковымі працаўнікамі ў 1927/28***

*Прафесары — 41,6 %*
*Дацэнты — 66,6 %*
*Асістэнты — 96,6 %*

*Між іншым з агульнай колькасці — 14 асоб навуковых працаўнікоў-партыйцаў на педфаку на белмову перайшлі толькі 5 асоб, што складае 35,7 % ад агульнай колькасці іх.*

*На паседжаннях дэканату педфаку з 6 асоб, уваходзячых у склад дэканату, стала карысталіся белмовай 4 асобы, пратаколы вяліся і вядуцца на беларускай мове.*

*Гутаркі студэнтаў у штодзённым жыцці ўсяго ўніверсітэту і па-за універсітэтам вядуцца ў падаўляючай масе на расейскай мове.*

*З варожых настрояў трэба адзначыць антысемітызм, сіянізм, дрэнныя, а падчас і варожыя настроі да беларусізацыі. Меліся адкрытыя варожыя заявы «мы, как истинно русские люди, против белорусизации». Значная частка студэнтаў лічыць белмову прадметам, аўдыторнай мовай, па-за мурамі аўдыторыі белмовы не ўжывае. Былі выпадкі, калі студэнты-практыканты на запытанні вучняў на белмове давалі адказы на расейскай мове.*

*У выяўленні і вывучэнні фактаў хворых настрояў у бок беларускага шавінізму не было дастатковай сур'ёзнасці. Паводзіны студэнта Шукайлы пры падборы групы па паэтыцы (імкненне да абмежаваньня ад студэнцкай масы пісьменнікаў), яго ідэолёгічны твар у час выступленьня на семінарскіх занятках і сходах мала вывучаны, як мала вывучаны з боку палітычнага светапогляду і лініі нацпалітыкі тыя студэнты-беларусы, якія вакол яго групаваліся. Такая хадзячая з боку Шукайлы класіфікацыя выкладчыкаў і дакладчыкаў, высупаўшых на расейскай мове, як «русацяп», «русацяпства», з грубай прапановай гаварыць па-беларуску павінна мець пэўныя крыніцы ў самім універсітэце.*

### *АБ УЗАЕМААДНОСІНАХ*

*Па літаратурнаму стану, аб'ёму і колькасці твораў і значымасці іх асабліва вылучаюцца студэнты-пісьменнікі Зарэцкі, Александровіч, Крапіва і Дудар.*

*Па матар'яльнаму становішчу студэнты-пісьменнікі (беларускія) з'яўляюцца ў сярэднім больш забяспечанымі, чым іншыя студэнты (персональные стыпендыі, літаратурны прыработак).*

*Пісьменнікі-беларусы, як правіла, у час акадэмічных заняткаў, на семінарыях, на сходах, дыспутах, вечарох і ў штодзённым жыцці карыстаюцца беларускай мовай.*

*Акадэмічная паспяховасць студэнтаў, якія ўваходзяць у пісьменніцкія аб'яднанні, у сярэднім не горш, чым паспяховасць іншых студэнтаў. Факт, прыведзены ў фельетоне «Фрагменты», аб акадэмічнай непаспяховасці пісьменнікаў, не адпавядае сапраўднасьці: засталося на другі год не 6, а 2.*

*Назіраюцца фармальныя адносіны з боку студэнтаў-пісьменьнікаў да грамадскай працы па заданьням студэнцкіх арганізацый. Гэтыя адносіны яны тлумачаць тым, што літаратурная творчасьць з'яўляецца таксама адным з відаў грамадскай працы.*

*Беларуская мова пісьменнікаў і выпадкі бестактоўных папытак з боку некаторых пісьменнікаў браць на сабе актыўную ролю у правядзеньні беларусізацыі (Шукайла, Адамовіч і інш.) і побач з гэтым наяўнасьць настрояў сярод часткі студэнтаў вялікадзяржаўна-расейскага шавінізму і варожасці да беларусізацыі.*

*НАРБ, ф. 15, воп. 28, спр. 5. арк. 16–26.*

* * *

### *[Тлумачэнні А. Александровіча для партыйнай Камісіі]*

*Становішча беларусізацыі ў БДУ кепскае. У мінулым годзе ў паказальнай школе студэнты-практыканты Слонімчык і Кушнер вялі гутаркі з вучнямі на расейскай мове, калі я зрабіў заўвагу на гэта, мне адказалі: «пусть мне раньше язык раскусят, а потом я буду говоріть на белорусском языке». Я расказаў аб гэтым у СБ, Алёша*[12] *напісаў фельетон аб гэтым выпадку, у выніку прафком абвясьціў мне вымову за тое, што я паміма яго даў матар'ял у газету. Вымову потым зьнялі, але яна красавалась у насьценнай газеце 5 месяцаў.*

*У гэтым годзе на семінары па беларускай літаратуры студэнтка 4 курсу Князева робіць папытку чытаць даклад на рускай мове аб творчасці Багдановіча, я пратэстую, лічачы ненармальным, што студэнтка апошняга курсу лінг-літ аддзялення будзе рабіць даклад аб беларускай літаратуры на рускай мове. Даклад здымаецца, але на ячэйцы, у парадку спрэчак, мне пускаецца кпіна і абвінавачванне ў беларускім шавінізму.*

*Бюро ячэйкі перад праверкай кандыдацкага складу партыі дае мне характарыстыку: «да партыйных абавязкаў адносіцца між іншым, ніякай грамадскай працы не вядзе, пісацельская абасобленасць», супроць такой характарыстыкі агульны сход партыйцаў пратэстуе, справа пападае ў Камісію пры ЦК КПБ, дзе характарыстыка мяняецца, але парттройка ўсё ж такі на падставе гэтых вывадаў прыпісвае мне недысцыплінаванасць.*

*Выпуск Фрагментаў я расцаніў як вылазку расейскага шавінізму, цкаваньне студэнтаў-пісьменьнікаў. Аб неабходнасці рэагаваць на заметку я гаварыў з т. Стасевічам*[13] *(ЦК КПБ), у прыватнай гутарцы з Карасём (сакратар бюро кал. унів. ячэяк) і т. Марокай (сакратар ячэйкі пэдфаку), але з боку студэнцкай арганізацыі ніхто не прыняў крокаў да выпраўлення памылак рэдкалегіі.*

*На літ. аддз. універсытэту ў выкладанні літаратуры, пры апрацоўцы яе шырока развіваецца ідэалізм, партыйная і камсамольская частка студэнцтва разьвіта слабей мяшчанскай часткі, а таму не можа даць адпору апошнім, на што я ўказваў партыйнай камісіі па вывучэнню пытання аб ідэёлогічных настроях сярод студэнцтва.*

*Увесь гэты комплекс фармальных адносін да беларусізацыі з боку універсітэцкіх арганізацыяў, а таксама беспадстаўных і частых выпадаў супроць мяне з боку гэтых жа арганізацыяў — сталі немагчымыя ўмовы далей заставацца ў БДУ.*

*Іншыя пісьменнікі па сутнасці заявы аб нашым выхаду з універсітэту і з фактамі, прыведзенымі ў заяве, згодныя, але форму нашага пратэсту лічаць неправільнай, што відаць з іх пісьма, зачытанага на сходзе БДУ.*

*На агульны сход Пэдфаку, дзе абгаворваўся наш выхад з Універсітэту, я не пайшоў нарачыта, бо чакаў варожых адносін да мяне студэнцтва. Быць там, быць грамадскі асуджаным я не хацеў, паколькі гэта ўбіла б канчаткова мой аўтарытэт, а для гэтага прычын ніякіх няма, каб яго ўбіваць.*

*Мая партыйная, савецкая і грамадская дзейнасць у «Маладняку», у часопісу «Бальшавік Беларусі», у бытнасць рэдактарам газеты ў Калінінщчыне, праца ў ЦК Камсамолу — паказвае, што я даручаную працу выконваў. У маёй літаратурнай працы крытыка не адзначала ідэалёгічных ухілаў.*

*У БДУ, у парадку грамадскай працы, я згадзіўся весці партыйны аддзел часопісу «Чырвоны спецыяліст», які вёў да выхаду з Універсітэту.*

*Зараз думаю ехаць у Ленінград ці Маскву працягваць вучобу.*

*А. Александровіч*

*НАРБ, ф. 15, воп. 28, спр. 5, арк. 64–65.*

* * *

### *[Тлумачэнні А. Дудара для партыйнай Камісіі]*

*13-12-28*

*Беларусізацыя на пэдфаку БДУ стаіць далёка не на тым узроўні, на якім павінна была б стаяць і як аб гэтым інфармуюць афіцыйныя ўстановы БДУ. Заметка, якая з'явілася нядаўна ў газеце, гаворыць, што частка прафесуры перайшла ўжо на беларускую мову, дацэнты і асістэнты перайшлі на беларускую мову цалкам. Але гэта не адпавядае сапраўднасці: з прафесуры выкладаюць па-беларуску толькі Піятуховіч, Шчакаціхін, Бузук і Барычэўскі, а з дацэнтаў толькі 4, вельмі цікава, што дацэнт Быхаўскі, выхаванец БДУ, працуючы ў ім некалькі гадоў і камуніст, ня толькі не імкнецца перайсці на беларускую мову, але часамі выяўляе і адмоўныя адносіны да яе. Праф. Васілеўскі яшчэ ў мінулым годзе рабіў беларускіх пісьменнікаў аб'ектамі для пастаянных кпінаў, пры кожным выпадку іранізуючы з самага слова «пісьменнік» накшталт будучага аўтара Фрагментаў. Характэрная гісторыя таксама з дацэнтам Воўкам-Левановічам*[14]*. Яго дзейнасць атрымала адпаведную ацэнку ў пастановах Камісіі НКА і ў выступленні тав. Баліцкага на з'ездзе працаўнікоў мастацтва.*

*Беларусізацыя студэнцкіх арганізацый яскравей усяго адбілася на насценнай газеце «Кузьня Асветы». Газета больш чым напалову выпускаецца на расійскай мове, а пісьменнасць матэр'ялаў на беларускай мове і самая мова іх стаяць на ніжэйшым узроўні, чымся ў любой сямігодцы. Тое самае з рознымі апавяшчэннямі, афішамі і г. д. Сярод студэнцтва вельмі рэдка даводзіцца чуць беларускую гутарку (аб гэтым пісалася і ў насценнай газеце), нават сярод студэнтаў-лінгвістаў апошніх курсаў, якія праз 1-2 гады атрымаюць годнасць выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры. Можна налічыць толькі вельмі нязначны процант уладаючых беларускаю моваю. Усе пастановы аб беларусізацыі фактычна застаюцца на паперы і многія студэнты нават бравіруюць сваімі адносінамі да беларусізацыі (справа Слонімчыка і Кушнэра, у якой студэнцкія арганізацыі вынеслі беспадстаўны выгавар студэнту Александровічу за тое, што ён давёў да ведама фельетаніста Алёшы аб гэтым факце).*

*«Фрагменты» толькі аформілі той настрой мяшчанскіх груп студэнцтва, які існаваў і раней. Фельетон напісаны на расійскай (і даволі непісьменнай) мове, выявіў настроі якраз тае групы студэнцтва, якая і раней адносілася да беларускіх пісьменнікаў свысака і, магчыма, з некатораю зайздрасцю: адгэтуль нацягванне неіснуючых фактаў. Беларускія пісьменнікі на 2 курсе, зьвязаныя 3-4 гадоваю супольнаю працаю, трымаліся разам, але адразу ўстанавілі сувязь з тэю часткаю студэнцтва, якая на іх не касаурылася і фактаў беларускага шавінізму нават аўтары «Фрагментаў» ня здолелі знайсці па тэй простай прычыне, што не было гэткіх фактаў.*

*Адносіны студэнцкіх арганізацый да «Фрагментаў» выявіліся даволі яскрава. Аб «Фрагментах» было даведзена да ведама адпаведных асоб: тав. Стасевіч абяцаў умяшацца ў гэту справу і паправіць яе. Але пасля гэтага студэнцкія арганізацыі далі рэдкалегіі поўную магчымасць весці далей цкаванне пісьменнікаў, што яна ў наступным жа нумары і зрабіла. Тав. Карась зманіў, калі сказаў, што ў наступным нумары газэты памылка рэдкалегіі была папраўлена. Як з'яўленне «Фрагментаў», так і наступны нумар выклікала значнае ажыўленне сярод пэўных груп студэнцтва: цэлымі днямі каля заметак таўклося мешчаньнё і захаплялася імі, іншыя прыходзілі па дватры разы. Пісьменнікі сталі асяродкам асаблівай увагі. Фельетоны ў «Рабочым», «Савецкай Беларусі» не зрабілі ніякага ўжытку і стварылася немагчымая для працы атмосфэра: кпіны ў вочы і за вочы, чуць не паказванне пальцамі. Любы адказ на сходзе ці ў адпаведнай газеце мог бы прывесці толькі да новага цкавання і да новай урачыстасці*

*мяшчанскіх груп студэнцтва. Усё гэта разам узятае прымусіла нас пакінуць універсітэт для таго, каб шукаць магчымасці вучыцца ў іншым месцы, але дзеля таго, што становішча на пэдфаку БДУ гэтым не мянялася, да чаго мы ніякім чынам не маглі заставацца роўнадушнымі, мы зьмясцілі ў друку наш ліст аб прычынах нашага выхаду, каб зьвярнуць увагу грамадскай думкі ў першую чаргу студэнцтва БДУ на тую ганебную справу, якая робіцца ў сьценах універсітэту. Я асабіста катэгарычна пратэстую супроць спроб некаторых таварышаў увязаць наш выхад з маім «выступленнем» па пытаньнях тэатру[15], бо самая дыскусія па маяму нібыта выступленню вялася на падставе некаторых невыразных фармулёвак у маім артыкуле, і наступны мой артыкул па гэтым пытаньні ня быў змешчаны. Таксама лічу, што не адно з выступленняў і ні адна з рэзалюцый, вынесеных на сходах па пытаньні аб нашым выхадзе, не далі па сутнасці ні аднаго адказу на пастаўленыя намі ў нашым лісце пытаньні, а наадварот імкнуліся замазаць існуючае становішча і прадставіць яго ў беспадстаўна оптымістычным асьвятленьні.*

*Алесь Дудар*

*НАРБ, ф. 15 п, воп. 28, спр. 5, арк. 59–61.*

* * *

### *[Тлумачэнні М. Зарэцкага для партыйнай Камісіі]*

*У першыя дні пасьля залічэння ў Універсітэт нельга адразу азнаёміцца з усімі студэнтамі, з гэтае прычыны ў пачатку трымаеш сувязь з старымі знаёмымі па тэхнікуму ці пісьменнікамі. Грамадскую працу я вёў з самага пачатку году — рэдагаваў часопіс «Чырвоны спецыяліст».*

*Выхад «Фрагментаў» быў нечаканым, артыкул паставіў у дзікае становішча: студэнты ў першую чаргу з'яўляюцца нашымі чытачамі, а мы пастаўлены перад імі жывёламі, сабакамі», «прывелігіраванымі панічамі». Гэты артыкул чыталі ўсе студэнты, прыходзіла з вуліцы чытаць шмат народу, пры сустрэчах знаёмыя не давалі пакою рознымі расспросамі. Мы, пісьменьнікі, такое цкаваньне і цваканьне лічылі недапусьцімым здзекам і ў зьвязку з гэтым зьвярнуліся да т. Стасевіча, апошні назваў выпуск «Фрагментаў» безобразьем і сказаў, што памылка будзе выпраўлена.*

*Пасьля такой лаянкі ў насьц. газеце я лічыў для сябе непатрэбным пісаць апраўярджэньне, лічачы, што гэтую памылку павінна выправіць сама рэдакцыя. Сакратару б. к. т. Карасеву, праўда у прыватнай гутарцы, я гаварыў, што выпуск «Фрагментаў» з'яўляецца праявай мяшчанскай стыхіі. Пасьля выпуску «Фрагментаў» у БДУ мне займацца было вельмі кепска, але я яго не пакідаў. У другім нумары насьценгазеты з'явіўся артыкул рэдкалегіі, які фактычна сьцвярджаў галоўныя думкі Фрагментаў і абяцаў студэнцтву зрабіць над пісьменнікамі грамадскі суд, паставіўшы гэтае пытанне на абгаворванне агульнага сходу студэнцтва, чаго мы не маглі дапусціць, паколькі гэта магло выліцца ў форму «гражданской казні». Гэтым артыкулам н. г. працягвала цкаваньне нас.*

*Такія паводзіны насьц. газеты мы расцанілі як вылазку клясавага ворагу, вылазку расейскага шавінізму, на што партыйныя і грамадскія органы універсітэту не звярнулі ўвагі.*

*Побач з гэтымі вылазкамі расейскага шавінізму ў БДУ амаль адсутнічае беларусізацыя. Выкладанне лекцый прафесарамі і дацэнтамі, за выключэннем некалькіх асоб, гутарка студэнцтва, чытанне значнай часткі дакладаў праходзіць на расейскай мове, беларусізацыя праходзіць фармальна, а друк інфармуецца, што ўсе дацэнты і прафесары выкладаюць на белмове.*

*Падачай лісту ў СБ аб выхадзе з БДУ мы мелі на мэце, у парадку самакрытыкі, заявіць пратэст савецкай грамадскасці супроць цкавання пісьменнікаў і дэкаратыўнай беларусізацыі БДУ. У партыйныя арганізацыі я лічыў непатрэбным у другі раз зварачацца, пасля заявы т. Стасевічу, які, я лічыў, выказаў погляд партыі на Фрагменты.*

*Ліст у «Савецкую Беларусь» мы пісалі ўпаўне прадумана, мы дапускалі магчымасць яго скарыстання клясавымі ворагамі, але не ў большым разьмеры, чым яны скарыстоўваюць любы адмоўны факт, які паяўляецца ў друку ў парадку самакрытыкі.*

*Тэарэтычныя погляды наконт шляхоў разьвіцця тэатру, мастацтва, значэння перакладное літаратуры ў разьвіцці беларускай культуры я выказаў у прывітаньні з'езду БЕЛАПП і выступленні там, якое засьценаграфіравана. Гэтыя спрэчкі ніякай сувязі з выхадам з Універсітэту не маюць. Па гэтых пытаннях неабходна пагаварыць у партыйных колах, іх нельга вырашаць пасьпяховым абвінавачваннем у ухілах, як гэта зрабілі тт. Сянкевіч і іншыя.*

*У клюбе Карла Маркса, на літаратурным дыспуце, я гаварыў, што ня ўсім пісьменнікам удаецца адбіць сучасны момант у сваіх творах, што можна пісаць аб нядаўна мінулым і гэтым прыносіць карысць пралетарскай культуры.*

*У партыі я з 1923 году, з 20 па 26 год служыў у Чырвонай Арміі, быў там чырвонаармейцам 6 м, настаўнікам, загадчыкам клюбу. Пішу з 1921 году. У сваіх творах праводжу марксісцкі светапогляд. Пасьля Чырвонай Арміі працаваў у БДВ, ЦК і СБ. Лічу немагчымым зараз вярнуцца ў БДУ, зварот туды будзе для мяне азначаць маральную смерць, бо гэты зварот асудзіць мяне на пастаянныя здзекі, насмешкі і г. д.*

*М. Зарэцкі (подпіс)*

*НАРБ, ф. 15, воп. 28, спр. 5, арк. 22–23.*

* * *

### *ВЫВАДЫ КАМІСІІ ЦКК*
### *аб лісту трох пісьменьнікаў, зьмешчаным у газеце «Савецкая Беларусь»*

*Расследаваўшы факты па сутнасці лісту трох студэнтаў БДУ, змешчанага ў газеце «Савецкая Беларусь» ад 4 снежня г. г. Камісія ЦКК КПБ адзначае:*

*1. Абвінавачванне аўтарамі лісту Ун-ту ў неправядзеньні беларусізацыі — з'яўляецца беспадстаўным, па сутнасці неправільным і яўна паклёпніцкім. Наадварот, БДУ у цэлым, педфак, на якім аўтары лісту займаліся ў асаблівасці, маюць значныя поспехі у правядзенні беларусізацыі. Змешчаны ў газетах ліст ад усяго студэнцтва ў адказ на ліст трох студ. пісьменьнікаў — з'яўляецца правільным, даючы рашучы адпор і абвяржэньне заяўленням аб тым, што як быццам у беларускім ун-це няма належных умоў для заняткаў бел. пісьменьнікам.*

*2. Падача лісту ў газету партыйцамі, Зарэцкім і Александровічам і падпісанне гэтага лісту разам з беспартыйным Дударом, з апэляцыяй да савецкай грамадскасці, мінуючы партыйную арганізацыю Ун-ту і наогул парторганы, з'яўляюцца ўчынкам антыпартыйным, актам палітычна шкодным, адыгрываючым на руку клясаваму ворагу, адбіваючы варожыя пралетарыяту правыя нацыянал-дэмакратычныя тэндэнцыі сярод некаторай часткі беларускіх пісьменнікаў, а таксама адбіваючы настроі пралетарска-неўстойлівай часткі студэнцтва, якія паддаюцца ўплыву дробна-буржуазнай стыхіі.*

*3. Разам з гэтым сярод студэнцтва Педфаку мелі мейсца асобныя факты, за апошнія часы абазначыліся больш шырока рознага роду ўхілы ад правільнай большэвіцкай*

*лініі ў правядзеньні нац. палітыкі і праяўленьне велікарускага шавінізму, беларускага нацыяналізму і яўрэйскага шавінізму і моманту антысемітызму. Прыймаемыя меры з боку бюро калектыву, праўленнем Ун-ту і студ. арганізацыямі — не былі дастатковымі, каб вывучыць прычыны і своечасова знішчыць гэтыя варожыя небяспечныя праяўленьні ўхілаў. Недастаткова завострывалася ўвага у практычным правядзеньні правільна намечаных мерапрыемстваў па правядзеньню нац. палітыкі і інтэрнацыянальнаму выхаваньню студ. масы.*

*4. З боку рэдкалегіі насьценгазеты «Кузьня асветы», бязумоўна, былі дапушчаны грубыя памылкі: зьмешчэнне фельетону «Фрагменты», у недапусьціма грубай форме і з недапусьцімым абагульніваньнем прыведзеных фактаў, распаўсюджваймых на ўсіх пісьменнікаў, несуадпаведнасць некаторых фактаў сапраўднасьці, адсутнасьць яскрава-мэтавай палітычнай устаноўкі ў гэтым фельятоне, выклікала ў свой час законнае абурэнне часткі студэнцтва пісьменнікаў і што з боку бюро парт. калектыву ня было дадзена належнага напрамку і яскравай, чоткай устаноўкі у вырашэнні гэтага пытання, а таксама ў высвятленні і зьнішчэнні маючыхся недахопаў у палітычным выхаванні і быту студэнцтва. Разам з паказаньнямі на адмоўныя бакі ў быце асобнай часткі студэнцтва пісьменнікаў, як та: абасобленасць — парт. ячэйкі і студэнцкія арганізацыі не заўважылі палітычнай сутнасці фельетону «Фрагменты» (вылазка расійскага шавінізму), зьмяшчэнне яго на расійскай мове, накіравана супроць беларускай часткі студ-ва лін.-літ аддзялення пачынаючых пісьменнікаў).*

*5. Ганарыстыя адносіны з боку асобнай часткі беларускіх пісьменнікаў да ўсёй масы студэнцтва, ігнарыраванне парт. арганізацыі і студ. арганізацый з боку Зарэцкага і Александровіча — комчванства, непрыняцце ўдзела ў сходах у час разбору іх лісту сведчыць аб іх адмяжованасці ад асноўнай пралетарскай масы студэнцтва, што ў сваю чаргу паказвае на нездаровыя ўзаемаадносіны унутры студэнцтва, паміж паасобных груп, якія не абмяжоўваюцца аўтарамі лісту, і што гэта з'явішча своечасова з боку партыйных арганізацый ня было заўважана і ня было прынята мер барацьбы з гэтымі з'явішчамі.*

*Згода. Тэхсэкратар.*

*НАРБ, ф. 15 п, воп. 28, спр. 5, арк. 10.*

* * *

*№ 32/16*
*29-12-1928*

*У НКА БССР*

*Праўленне БДУ паведамляе, што студэнтамі Педфаку беларускімі пісьменнікамі тт. Александровічам, Дайлідовічам (Дударом) і Зарэцкім былі пададзены заявы аб выдачы ім асабовых дакументаў і аб выключэнні іх з ліку студэнтаў.*

*З тэй прычыны, што тт. Александровіч і Дайлідовіч за дакументамі не з'явіліся, гэтыя лічацца студэнтамі, што-жа датычыцца студэнта Зарэцкага, то апошнім ніякіх дакументаў, апрача заявы і анкеты пры паступленні ў гэтым годзе прадстаўлена не было. Тав. Зарэцкі сваю анкету забраў назад.*

*Нам. рэктара БДУ (подпіс)*
*Сакратар па студ. справах Нестеров*

*НАРБ, ф. 205, воп. 1, спр. 615, арк. 32.*

## Каментары

[1] У разгорнутых паказаннях па справе СВБ, дадзеных у чэрвені 1930 г., Алесь Дудар апісвае свой удзел у напісанні «Ліста трох»: «За два дні да зьмяшчэння гэтага ліста я прышоў на кватэру да Андрэя Александровіча і застаў там Зарэцкага. Гутарка ішла на тэму аб выпадах супроць пісьменнікаў у насьценгазэце БДУ. Зарэцкі і Александровіч паведамілі мне аб тым, што яны рашылі кінуць унівэрсітэт і перайсці вучыцца ў другі, хаця б на Украіну. Адчувалася, што ініцыятыва гэтага прадпрыемства належыць Александровічу. Апрача таго, яны рашылі зрабіць гэта дэманстрацыйна, каб зьвернуць увагу грамадзкасьці на непарадкі ў справе беларусізацыі БДУ (мы лічылі, што гэта так і ёсьць). Мне засталося толькі далучыцца да іх, і мы ўмовіліся сабрацца на другі дзень у Зарэцкага. Улічваючы, што, калі справа з лістом стане вядомай, то нам не дадуць яго надрукаваць, мы ўмовіліся трымаць гэта ў строгім сакрэце. На другі дзень сабраліся ў Зарэцкага і напісалі ліст. Пісалі яго калектыўна, абгаворваючы кожную фразу і дзеля гэтага "працавалі" даволі доўга. Назаўтра раніцою пайшлі ўсе разам да Чарота і зьвярнуліся да яго прыблізна з такою прамоваю: "Мы ад цябе ніколі нічога не прасілі і не патрабавалі, дык зрабі нам таварыскую ўслугу раз у жыцьці — надрукуй гэты ліст". Чарот заікнуўся быў наконт таго, што, можа, не варта было б рабіць гэта, бо будзе вялікі скандал, але мы яму і гаварыць не далі. Тады Чарот паклікаў сэкратара рэдакцыі і аддаў яму ліст для пасылкі ў друкарню. Аднак мы баяліся, каб Чарот не сазваніўся з кім па тэляфону, і дзеля гэтага рашылі вачэй з яго не спускаць. І сапраўды некалькі разоў на працягу дня Чарот памыкаўся пазваніць па тэляфон і стараўся як-небудзь нас выкурыць. Але мы хадзілі за ім назіркам. Пасьля працы прышоў яшчэ Прышчэпаў, які аднёсься спачуваючы да нашай думкі, але знайшоў, што яна была занадта рэзка выражана. Здаецца, падышоў яшчэ Алесь Адамовіч, і тады мы усе разам выбраліся на кватэру да мяне і забралі Чарота, каб ён не змог затрымаць ліста. У мяне наладзілі закуску (выбралі маю кватэру, бо там нідзе паблізасьці няма тэляфона) і выпусьцілі Чарота толькі тады, калі былі спакойны, што ён ужо ня здолее затрымаць ліст». (Міхнюк, У. Арыштаваць у высылцы. Мінск, 1996, с. 71–72). Цікава параўнаць распавед А. Дудара з наступным сведчаннем: «Намеснік старшыні Белпайгандлю, а да гэтага супрацоўнік Белдзяржвыдавецтва П. В. Ільючонак, арыштаваны ў 1930 г. па справе так званага "Саюза вызвалення Беларусі", так пераказваў следчаму размову з рэдактарам газеты "Савецкая Беларусь" Міхасём Чаротам (М. С. Кудзелькам): Чарот, нібыта, сказаў, што свядома не паведаміў у ЦК аб лісце, бо вельмі хацеў, каб ён быў надрукаваны. "Когда ему задал тов. Василевич вопрос: "Почему ты поместил письмо?", то он, Куделько, ответил: "Если бы я пришел в ЦК согласовывать, то письмо не разрешили бы печатать, потому я и не согласовывал"» (Платонаў, Р. Палітыкі. Ідэі. Лёсы. Мінск, 1996).

[2] Александровіч Андрэй Іванавіч (1906–1963) — беларускі паэт, крытык, публіцыст. Адзін з арганізатараў «Маладняка», рэдактар часопіса «Малады араты». Удзельнік «маладнякоўскага» байкоту супраць Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу ў 1926 г. Член БелАПП. Кіраваў распрацоўкай нарматыўнага руска-беларускага слоўніка (1937) (між іншым, не маючы пры гэтым ні адпаведных ведаў, ні адпаведнай адукацыі). Член-карэспандэнт АН БССР, намеснік старшыні Праўлення СП БССР (1934–1937), дырэктар Інстытута мовы БелАН. Арыштаваны ў 1938 г., асуджаны на 15 гадоў лагераў. Рэабілітаваны ў 1955 г.

[3] Дудар (Дайлідовіч) Алесь Аляксандравіч (1904–1937) — беларускі паэт, празаік, крытык, перакладчык. Удзельнік тэатральнай трупы У. Галубка. Заснавальнік аб'яднання «Маладняк», адзін з самых актыўных і вострых крытыкаў 1920-х гг. (пад псеўданімам Тодар Глыбоцкі). Арыштаваны 20 сакавіка 1929 г. за верш «Пасеклі край наш папалам», высланы ў Смаленск. Паўторна арыштаваны ў высылцы ў 1930 г. па справе СВБ. Пасля вяртання з высылкі ў асноўным займаўся перакладамі. Трэці раз арыштаваны ў 1936 г., катаваны, расстраляны 29 кастрычніка 1937 г.

[4] Зарэцкі (Касянкоў) Міхась Яўхімавіч (1901–1937) — беларускі празаік, драматург, перакладчык, крытык. З 1924 г. — член «Маладняка», уваходзіць у ЦБ, 1926–1927 гг. — рэдагуе часопіс «Маладняк». У 1927 г. ініцыюе ўтварэнне суполкі «Полымя». У 1929 г. выключаны з ВКП(б). Арыштаваны ў 1936 г. Расстраляны 29 кастрычніка 1937 г.

[5] А. Дудар тлумачыў: «Хуткая наша "здача" ў гэтым выступленьні тлумачыцца тым, што "здаўся" Александровіч, а Зарэцкі і я былі падзелены тым, што Зарэцкі быў камуністам, а я тады ўжо фактычна выбыў з камсамолу. З гэтага часу ў мяне і ў Зарэцкага стварылася антыпатыя ў адносінах да Александровіча. Антыпатыя гэта зьявілася па сутнасьці ня толькі цяпер, але, у мяне, прынамсі наспявала ўжо і раней» (Міхнюк, У. Арыштаваць у высылцы. С. 74).

[6] Платонаў, Р. Ліст трох: партыйнае расследаванне // Платонаў Р. Палітыкі. Ідэі. Лёсы. Мінск, 1996. С. 127–139.

[7] На памянёным у артыкуле другім курсе літаратурна-лінгвістычнага аддзялення педфака БДУ ўвосень 1928 г. сярод іншых навучаліся пісьменнікі Ядвіга Бяганская, Пятро Глебка, Пётр

(Алесь) Звонак. Іх былыя аднакурснікі-маладнякоўцы Макар Шалаеў, Янка Скрыган (Відук) і Паўлюк Шукайла былі пакінутыя на другі год на першым курсе. Міхась Зарэцкі паступіў адразу на гэты другі курс у 1928 г. У гэты ж час на трэцім курсе навучаліся: К. Крапіва (Атраховіч), А. Дудар (Дайлідовіч), Тодар Кляшторны, Ісідар Плашчынскі, Сямён Хурсік. На чацвёртым — Андрэй Александровіч, Янка Бобрык (гл. спісы студэнтаў літаратурна-лінгвістычнага аддзялення, НАРБ, ф. 205, воп. 1, спр. 315, арк. 32–35). Як бачым, канфлікт не абмяжоўваўся межамі памянёнага ў загалоўку другога курса.

[8] Джымі (шымі) — лакавыя мужчынскія чаравікі з даўгімі насамі. Дарэчы, звычайны «аксесуар» моднікаў на карыкатурах у тагачасных часопісах.

[9] Так у тэксце. Правільна — К. Прутков.

[10] На другі год пасля вывучэння праграмы першага курса былі пакінуты Шалаеў, Скрыган і Шукайла. Калі гэты спіс разглядала партыйная камісія, птушачкі і тлумачэнне «можна лічыць пісьменнікамі» былі пастаўлены толькі насупраць прозвішчаў Скрыгана і Шалаева. Шукайла ў «пісьменнікі» не патрапіў (НАРБ, ф. 15, воп. 28, спр. 5, арк. 44).

[11] Аўтарамі артыкула з'яўляліся студэнты другога курса літаратурна-лінгвістычнага аддзялення Снадскі і Іофе.

[12] Алёша — псеўданім А. Вольнага (Ажгірэя), беларускага паэта, крытыка, сцэнарыста, пад якім ён выступаў як фельетаніст у «Савецкай Беларусі».

[13] Стасевіч — тагачасны сакратар АПА ЦК КП(б)Б.

[14] Воўк-Левановіч Іосіф Васільевіч (1891–1943) — беларускі мовазнаўца, выкладчык кафедры гісторыі беларускай мовы БДУ. Адзін з актыўных праціўнікаў дзяржаўнай палітыкі беларусізацыі, з гэтай прычыны — адыёзная фігура для студэнцкіх пісьменніцкіх колаў.

[15] Маюцца на ўвазе артыкулы А. Дудара «Даволі анекдотаў» і «Таптанне на месцы», надрукаваныя пад псеўданімам «Тодар Глыбоцкі» ў межах так званай тэатральнай дыскусіі, падчас якой А. Дудар і М. Зарэцкі пратэставалі супраць несамастойнасці беларускіх тэатраў у фарміраванні кіна- і тэатральнага рэпертуару, супраць перавагі рускіх п'ес перад п'есамі беларускімі.

# У ЦЯНІ КІПАРЫСАЎ
## Па слядах аднаго прысвячэння

У гэтай літаратуразнаўчай гісторыі, жанр якой вызначаны вядомым даследчыкам літаратуры І. Л. Андронікавым як «дэтэктыў без злачынства», звычайны для такіх гісторый зачын.

Доўгі час імя, пастаўленае Уладзімірам Дубоўкам перад паэмай «Там, дзе кіпарысы», выдадзенай ЦБ «Маладняка» ў 1925 годзе, заставалася загадкай для даследчыкаў. Сярод калег Дубоўкі па творчым цэху, крытыкаў, публіцыстаў, грамадскіх дзеячаў і беларускіх культурнікаў дваццатых К. Станкевіч не быў заўважаны, няма згадак пра яго ў аўтабіяграфічнай прозе паэта і ўспамінах сучаснікаў. Дзіўна! Дубоўка не толькі выносіць ягонае імя ў прысвячэнне — персанальна Кастусю Станкевічу адрасуецца ўступ да паэмы, у якім згадваюцца незразумелыя шараговаму чытачу, але чытэльныя для адрасанта і адрасата дэталі. Чалавек, значыцца, зусім невыпадковы ў жыцці Уладзіміра Дубоўкі.

Тым не менш у надрукаваных матэрыялах, датычных біяграфіі паэта, згадка пра К. Станкевіча была толькі адна. «Маю да цябе просьбу, — піша Дубоўка 7 лютага 1929 года да Адама Бабарэкі. — У Менску ў нейкім магазіне прадаюцца дываны каляровыя ў беларускім стылі, тканыя з стругавіньня (з дрэва). Такі дыван бачыў я ў Равенскага, яму прывёз Станкевіч. Калі ты ня знойдзеш сам — запытайся ў яго» (ARCHE, 2009, № 11–12, с. 439).

Нейкі час прозвішча Станкевіч звязвалася даследчыкамі з аднакурснікам У. Дубоўкі па Нова-Вілейскай настаўніцкай семінарыі: на агульным фотаздымку семінарыстаў-выпускнікоў 1918 года ў другім шэрагу першым справа мы бачым М. О. Станкевіча. Яшчэ адзін Станкевіч, праўда, не М. і не К., а Г., вучыўся ў 1925 годзе ў Камуністычным універсітэце народаў Захаду, дзе выкладаў Дубоўка, і тэарэтычна мог мець дачыненне да памянёных дываноў, а можа, і да К. Станкевіча. Менавіта гэтыя два Станкевічы ў якасці дапушчэння названы каментатарам у публікацыі «Чытаючы Дубоўкаў эпісталяр» (ARCHE, 2009, № 11–12).

Пазней раскрыліся некаторыя, не заўсёды пацверджаныя дакументальна, факты біяграфіі К. Станкевіча. У каментарах да двухтомнага выдання твораў У. Дубоўкі В. Жыбуль піша: «Станкевіч Кастусь — настаўнік, выпускнік мінскага Беларускага педагагічнага інстытута, разам з У. Дубоўкам працаваў у Прадстаўніцтве БССР у Маскве. Яму прысвечана паэма У. Дубоўкі "Там, дзе кіпарысы" (1925). У 1933 г. быў рэпрэсаваны, высланы. Сяброўскія дачыненні У. Дубоўкі і К. Станкевіча працягваліся і ў 1970-я гг., захавалася іх ліставанне».

Інфармацыя пра арышт і высылку ў 1933 годзе пакуль не спраўджваецца ані пошукам па матэрыялах, сабраных і апублікаваных Л. Мараковым, ані пошукам па дакументах расійскага «Мемарыялу», таму гэты шлях высвятлення біяграфічных дадзеных пра К. Станкевіча аказаўся пакуль тупіковым.

Затое ў звязку з тэмай рэпрэсій, аднак у іншым кантэксце імя Кастуся Станкевіча адшукалася ў рукапісах жонкі Дубоўкі, ва ўспамінах «Мае санаторыі і курорты», якія друкаваліся з купюрамі ў часопісе «Маладосць» (1994) і газеце «Голас Радзімы» (1995). Прозвішча К. Станкевіча якраз трапіла ў ненадрукаваную частку ўспамінаў, таму адшукаць яго можна было толькі ў архіўнай справе, якая перахоўваецца ў ЦНБ НАН РБ імя Я. Коласа: «Друзья и товарищи не показывались. Советоваться было не с кем. Один Купцевич вёл себя благородно и, я бы сказала, мужественно, часто приезжал узнать, нет ли чего нового и когда мне нужно было идти куда-то

по делам В. Н. и некуда было девать Алика, он ходил с ним на это время гулять на сквер. Кажется, он посоветовал мне обратиться к Адамовичу, который тогда работал в Москве, в Сахарном тресте. Адамович сказал: попробуйте поискать его в Минске. Один из друзей В. Н., Станкевич Константин, только что вернулся из Минска, и я пошла к ним в надежде получить хоть какие-нибудь сведения. Он спал или притворился, что спит в другой комнате. Или я, не дождавшись, открыла туда дверь, или жена, чувствуя неловкость за него, и я видела его лежащим на кровати лицом к стене. На мой вопрос, не знает ли он чего-нибудь о Володе, он, даже не повернувшись, пробормотал что-то нечленораздельное. Я встала и пошла к выходу» (ЦНБ НАН РБ, ф. 14, воп. 1, адз. зах. 838, арк. 10 адв., 11).

У гэтым самым архіве захоўваецца і адзіны вядомы ліст К. Станкевіча да У. Дубоўкі, які згадваў В. Жыбуль у сваім каментары: гэта дзве старонкі звычайных фармулёвак, прыдатных колішнім сябрам, якія не бачыліся больш за сорак гадоў. З гэтага ліста ўскосным чынам даследчыку становіцца вядомым год нараджэння К. Станкевіча (ліст датаваны 1963 годам, а ў тэксце згадваецца 70-годдзе адрасанта) і імя ягонай жонкі — Наталля Андрэеўна.

І гэта ўся інфармацыя, якую можна адшукаць у друку і ў справах асабістых фондаў Уладзіміра Дубоўкі, якія захоўваюцца ў БДАМЛМ (ф. 27) і ЦНБ НАН РБ (ф. 14).

Не густа.

Аднак у нас ёсць зачэпка — Паўнамоцнае Прадстаўніцтва Беларусі пры ўрадзе РСФСР, дзе, па звестках В. Жыбуля, К. Станкевіч працаваў разам з У. Дубоўкам на пачатку дваццатых. Менавіта яна і стала ключом да разгадкі.

У архіўным фондзе пад нумарам 15, які захоўваецца ў НАРБ і складаецца з некалькіх важкіх тамоў, падклеены тысячы папер, якія адлюстроўваюць кіпучую дзейнасць гэтага незвычайнага знешнепалітычнага ведамства маладой Беларускай рэспублікі. Уладзімір Дубоўка афіцыйна працаваў тут на пасадзе сакратара з 1923 года, а наведваў будынак Прадстаўніцтва, спачатку проста звяртаючыся за неабходнымі паперамі, а потым — беручы самы актыўны ўдзел у вірлівым жыцці «выспы беларушчыны» ў Маскве — з 1921 года.

Для нашай гісторыі, якую мы нарэшце распачынаем, надзвычай важна ўявіць сабе гэтую прастору — будынак беларускага Паўпрэдства.

Яго можна пабачыць і сёння: кампактны жоўценькі асабнячок за вытанчанай чыгуннай агароджай па вуліцы Малой Нікіцкай, 18 у Маскве. На жаль, нельга трапіць усярэдзіну: цяпер там пасольства Лаоса. Пабудаваны ў 1899 годзе па праекце архітэктара А. Э. Эрыхсана, гэты асабняк — адна з першых маскоўскіх будынін у стылі мадэрн. Да рэвалюцыі гэты і суседні, пад нумарам 16, будынкі належалі сям'і Фэрстар-Міхельсонаў, з 1918-га ў іх месціліся розныя савецкія дзяржаўныя ўстановы, а ў 1921-м сюды заехала беларускае Паўпрэдства.

У дакладной запісцы А. Чарвякова, пададзенай у НКЗС РСФСР, значыцца: «*Занимаемый Представительством особняк используется очень интересно. В комнатах, пригодных для канцелярии, помещается: канцелярия Представительства, Московские конторы Уполномоченных НКВтБел, СНХБ, НКПрода, НКПроса, Московская контора Центробелсоюза, Рабочей кооперации, Лесбела. Все названные учреждения имели свои отдельные аппараты и помещения. Теперь их канцелярский аппарат объединён, открывается значительная экономия средств и сил. В остальных комнатах живут сотрудники перечисленных учреждений и персонал, обслуживающий дом. Одна комната занимается председателем ЦИК БССР Червяковым и одна предназначена для приезжих из Белоруссии в командировку. Ввиду незначительной жилой площади Представительства было произведено расширение её присособленных для жилья некоторых*

*нежилых складочных помещений. <...> В вечерние часы канцелярия используется для культурных целей: чтения лекций по белорусоведению, занятий белорусско-еврейской драматической студии, очередных заседаний белорусских научных обществ и т.п»* (НАРБ, ф. 15, воп. 1, адз. зах. 125, арк. 5).

Між іншым, мэбляваны асабняк быў па дарэвалюцыйных яшчэ канонах: у Нацыянальным архіве Беларусі (ф. 15, воп. 1, адз. зах. 125, арк. 13–15) захоўваецца і падрабязны, па пакоях, вопіс казённай мэблі Прадстаўніцтва. Дубовыя крэслы і шафы, крышталёвыя жырандолі, люстэркі ў рамах... На першым паверсе — 12 пакояў, ванная, калідор, пярэдняя (вешалка з люстрам і шафа дубовая, вешалка стаячая дубовая, ліхтар, дыван), на антрэсолях — яшчэ тры пакоі, тры і ў сутарэнні, побач з пральняй і кухняй. На вуліцы — склеп, веранда і сад.

Дык вось камендантам усяго гэтага багацця і быў Кастусь Восіпавіч Станкевіч, былы настаўнік, выпускнік Мінскага настаўніцкага інстытута, а цяпер — студэнт Маскоўскага інстытута шляхоў зносін, будучы інжынер-чыгуначнік.

Да таго, як гэты, па мерках супрацоўнікаў Прадстаўніцтва, не надта малады ўжо чалавек патрапіў у кампанію маладых беларусаў, каменданта будынка папросту не было, як не было і бухгалтара. З усімі гэтымі абавязкамі спраўляўся сам Паўнамоцны Прадстаўнік БССР у РСФСР Міхась Мароз. У 1921 годзе яму споўнілася ўсяго толькі 25, але ён з размахам і імпэтам вырашаў як бягучыя справы сваёй установы, так і сур’ёзныя знешнепалітычныя праблемы. Сакратаром пры паўпрэдзе працаваў Міхась Юшкевіч (у 1923 годзе ён саступіў сваё сакратарскае месца Дубоўку), равеснік Мароза, таксама студэнт МДУ. Крыху старэйшы за абодвух Рыгор Парэчын выконваў абавязкі юрыста і замяняў Мароза падчас камандзіровак. Тры чалавекі — і мільён пытанняў: сабраць звесткі пра ўсіх беларусаў, якія працуюць у дзяржаўных установах маладых савецкіх рэспублік, і вярнуць іх на Беларусь, якая ачуньвае пасля Сусветнай, Грамадзянскай і польскай войнаў, дапамагчы бежанцам, выбіць для Беларусі ўсё, што можна выбіць з цэнтра — грузавыя аўтамабілі, медыкаменты, чыгуначныя вагоны, прадукты, жалеза, нават мыла і цвікі, правесці перамовы з пасламі і консуламі братэрскіх рэспублік і не надта сяброўскіх буржуазных дзяржаў, адстойваць беларускія інтарэсы перад урадам РСФСР на шматлікіх нарадах і паседжаннях, урэшце, вярнуць вывезеныя за Першай сусветнай царкоўныя званы... Дзіва што раз-пораз сярод папер Паўпрэдства сустракаюцца, прыкладам, такія:

*«№ 1062 В Деканат ФОН 1-го Московского государственного университета*

*Полномочное представительство Белорусской С. С. Республики просит освободить от сдачи 3 зачётов к 1 ноября ответственных партийных работников Представительства тт. Мороза М. И., Поречина Г. Е. и Юшкевича М. В., в виду того, что все названные товарищи, зачисленные в Университет весною, по независящим от них причинам не имели возможности прослушать полностью лекций ни по одному предмету. Все три тт. посещают в данное время Отделение Внешних Сношений.*

*ПолпредМороз*

*Секретарь Юшкевич» (НАРБ, ф. 15, воп. 1, спр. 14, арк. 693).*

Таму, натуральна, патрэба ў адказных, хвацкіх, моцных людзях у Прадстаўніцтве была.

Кастусь Станкевіч трапіў сюды даволі дзіўным чынам.

У 1921 годзе ён жыў ва Уфе — апынуўся там бежанцам. Настаўніцкая праца аказалася не па ім, і ён паступіў на першы курс Уфімскага палітэхнікума. Увесну гэтага года Паўпрэдства шукала кантакты беларусаў, якія працавалі ва Уфе і хацелі б вярнуцца дадому. Нейкім чынам сувязь з імі ўсталяваў і пачаў актыўна

падтрымліваць якраз Кастусь Станкевіч. Менавіта ён стаў тым чалавекам, хто дапамог Прадстаўніцтву вывезці з Уфы на Беларусь 90 былых бежанцаў — 27 настаўнікаў з іх сем'ямі. Сабраць іх, аформіць на кожнага паперы, якія дазвалялі б звальненне з уфімскіх школ і перавод на радзіму, узгадніць спісы, аформіць праязныя дакументы (вялікая складанасць у 1921 годзе!), суправадзіць да Масквы два арандаваныя Прадстаўніцтвам вагоны, якія на вузлавых станцыях трэба своечасова прычапіць да патрэбнага паравоза... Усё лета цягнулася кампанія па вяртанні ўфімскіх беларусаў, каардынаваў якую Кастусь Станкевіч. Нарэшце рэпатрыянты дабраліся да Масквы і адправіліся на Менск, а Станкевіч застаўся пры Паўпрэдстве.

Далей дадзім слова дакументам.

* * *

*30-7-1921*

*Удостоверение*

*Полномочное Представительство Белорусской ССР в РСФСР настоящим удостоверяет, что тов. Станкевич Константин Иосифович действительно крестьянин дер. Карчево Минской губернии Новогрудского уезда Циринской волости, родившийся в 1893 году августа 6 дня. Тов. Станкевич в 1912–1915 году действительно был учителем Карчевской земской народной школы, а в 1918 году закончил Минский учительский институт и был учителем школы 2 й ступени. Настоящее удостоверение выдано тов. Станкевичу на основании представленной им справки Самарского уголовного розыска о краже у него подлинных документов, удостоверявших его происхождение, образовательный ценз и год рождения, и на основании сведений, имеющихся у представительства.*

*Полпред Мороз*
*Секретарь Юшкевич*

НАРБ, ф. 15, воп. 1, спр. 14, арк. 502.

* * *

*В ГЛАВПРОФОБР*
*30-7-1921*

*Полномочное представительство Белорусской ССР в РСФСР вызвало тов. Станкевича, как ценного для Белоруссии работника, в г. Москву для работы в белорусском НКО при Наркомпросе РСФСР и в самом представительстве. Но так как тов. Станкевич состоит студентом Уфимского Политехникума, то представительство Белреспублики, не желая отрывать его от высшей школы из-за острой нужды Белоруссии в инженерах, просит КЛАВПРОФОБР оказать содействие в зачислении тов. Станкевича и его жены в один из Московских институтов на строительную специальность.*

НАРБ, ф. 15, воп. 1, спр. 14, арк. 503.

* * *

*29 августа 1921*
*№ 1164*

*В СУЩЕВСКО-МАРЬИНСКИЙ*
*СОВЕТ Р. К. ДЕПУТАТОВ*
*ЖИЛИЩНЫЙ ОТДЕЛ*

*Полномочное представительство Белорусской ССР просит отдел срочно предоставить квартиру на четыре человека для семьи Станкевича К. О., вызванного из Уфы в Москву для работы в Представительстве.*

*Срочность предоставления квартиры вызвана тем, что тов. Станкевич находится в настоящее время на вокзале и не может приступить к выполнению своих обязанностей, а также тем, что в семье имеется грудной ребенок. При этом представительство замечает, что ходатайство о квартире для тов. Станкевича было возбуждено перед Отделом в начале августа задолго до его приезда в Москву.*

*ПолпредМороз*

НАРБ, ф. 15, воп. 1, спр. 14, арк. 682.

* * *

*29-8-1921*

*В ОБЩИЙ ОТДЕЛ НКИД*

*Во исполнение соображений моих о предоставлении Полномочному представительству Белорусской ССР полностью особняка по М. Никитской, 18 от 15 августа сего года за № 1027 настоящим прошу: 1. Назначить комендантом особняка сотрудника Представительства тов.Станкевича Константина Осиповича; 2. Освободить срочно комнаты, занятые гр. гр. Яблонским и Миниксом, как людьми, не имеющими никакого отношения к НКИД. 3. Прикомандировать к особняку прачку.*

*ПолпредМороз*

НАРБ, ф. 15, воп. 1, спр. 14, арк. 685.

* * *

*6-9-1921*
*№ 1248*

*В Правление Московского института инженеров путей сообщения*

*Полномочное Представительство Белорусской ССР в РСФСР настоящим просит вас принять в число студентов Института сотрудника Представительства Станкевича Константина Иосифовича.*

*Как белорус, тов. Станкевич вызван Представительством для работы в Москву из г. Уфы, где он состоял студентом Уфимского политехникума.*

*Принимая во внимание, что т. Станкевич как беженец-белорус, сын бедного безземельного крестьянина, окончивший Минский Учительский институт и прослушавший один курс Уфимского политехникума, по мнению Представительства является вполне достойным кандидатом в Институт и по своему социальному положению, и по подготовке.*

*ПолпредМороз*
*СекретарьЮшкевич*

НАРБ, ф. 15, воп. 1, спр. 14, арк. 709.

Клопат пра дабрабыт свайго каменданта чырвонай ніткай праходзіць праз тамы дакументаў Прадстаўніцтва: бывае, шукаюць магчымасцяў адправіць у санаторый жонку Станкевіча Наталлю, у якой праз частыя галадоўкі, мацярынства і цяжкія ўмовы жыцця ва Уфе дыягнаставана малакроўе, бывае, просяць выдзеліць месца ў дзіцячым садку на Нікіцкай побач з Прадстаўніцтвам малой дачушцы, таксама Наталцы. Але і камендант бесперапынна клапоціцца пра дабрабыт даверанага будынка і ягонай бухгалтэрыі: з таго моманту, як ён бярэцца за свае абавязкі, унутраныя паперы Паўпрэдства набываюць жалезную логіку.

Таму менавіта Станкевіча прызначаюць упаўнаважаным павільёна Беларусі, які павінен адкрыцца разам з іншымі павільёнамі ў амбітным комплексе Усерасійскай сельскагаспадарчай выставы ў 1923 годзе.

Усерасійская сельскагаспадарчая і саматужна-прамысловая выстава адкрылася ў Маскве 19 жніўня 1923 годзе на Вераб'ёвых гарах і была першым маштабным мерапрыемствам такога кшталту. Менавіта з яе пасля выраслі УСГВ і ВДНГ. Спецыяльна для выставы былі пабудаваныя Трыумфальная арка, Летні тэатр, вакзал, лекцыйная аўдыторыя, дзясяткі павільёнаў, пешаходны мост цераз Крымскі Вал, рэстаран і стадыён, а гэтаксама — павільёны саюзных рэспублік і краёў. Выстава працавала некалькі месяцаў і атрымала вялікі розгалас не толькі ў савецкіх рэспубліках, але і агулам у свеце.

Падрыхтоўка да выставы супала з практыкай у інстытуце, і Станкевіч не спаў суткамі: удзень займаўся справамі павільёна, уночы заступаў на вахту на чыгунцы. Паўпрэду Марозу нават давялося пісаць паперу ў дэканат, каб студэнту Станкевічу працягнулі тэрмін абароны практыкі.

У выпісцы з журнала наведванняў беларускага павільёна УСГВ трэцяй рэплікай занесена рэпліка Уладзіміра Дубоўкі: «*Беларусы паказалі на выстаўцы толькі частку, нават нязначную, таго, што яна мае і гэта дае шмат цікавага і каштоўнага. Будзем спадзявацца, што ў наступныя разы мы займём сваімі экспанатамі [нрзб] належнае нам месца*». Іншыя запісы дзівяць разнастайнасцю ўражанняў*: ««Теперь я буду знать, как живут белоруссы». Шестой отряд юных пионеров, Бубликова Ксения; «В павильоне "Белоруссия" нашему отряду понравилась главным агрономия, наш отряд узнал, какая там находится почва и что на ней возделывают. Мы узнали, насколько трудолюбивые белоруссы, которые на такой песчаной земле сеют хлебные злаки». Пионер от Бауманского района К. Шашкин; «Если бы деньги, что стоило все это, купить два трактора, то белоруссы показали бы больше [нрзб] (без подписи); «Белорусский павильон как нельзя более хорошо, как нельзя более правильно свидетельствует о глубокой нищете Белоруссии и слишком мало говорит о культурных возможностях этого края». Белорусс Б. Корольков; «Мое мнение, что очень и очень хорошо устроено, великолепие. Благодаря тому, кто устроил эту выставку» (подпись нрзб); «Привет Белоруссия от великоросса» (подпись нрзб); «Хай жыве Беларусь»; «Мы работницы очень восхищены выставкой. Не думали, что мы увидим в своей Республике такое великое дело. Очень нам все понравилось, и благодарим всех за труды и старания, какие положены здесь, простите, если что не так написано»; «Был, вполне ознакомился и остался вполне доволен. Екатерин Рабфаковец»; «И не хорошо, и мало, и безсистемно». Завед. домпросвет. Петроград; «Имеются вкусные вещи, но нам недоступно»; «Белорусский павильон все-таки, надо сказать, опережает жизнь Белоруссии*» (НАРБ, ф. 15, воп. 1, спр. 48).

Прозвішчы каменданта Станкевіча і сакратара Дубоўкі стаяць побач у бухгалтарскіх справаздачах — і ведамасцях на атрыманне контрамарак на гастролі беларускіх тэатраў, на сур'ёзных паперах і хуліганскіх запытах кшталту «Полномочное представительство просит выдать десять вёдер пива» (НАРБ, ф. 15, воп. 1, спр. 38, т. 2, арк. 679). Маладыя, амбітныя, таленавітыя людзі ў самым сэрцы новай сталіцы, у самым віры новага жыцця — гэта было сапраўднае, шчырае і вясёлае сяброўства, на якое такім шчодрым бывае студэнцкая маладосць.

У 1924 годзе Паўпрэдства зачыніцца, і адшукаць звесткі пра Станкевічаў стане цяжэй. І тут нам на дапамогу прыйдзе не вельмі важная на першы погляд інфармацыя з памянёнага ліста нашага героя да Уладзіміра Дубоўкі — імя жонкі Кастуся Станкевіча, Наталлі Андрэеўны.

У спісе беларусаў, якія едуць з Уфы, складзеным Станкевічам яшчэ ў 1921 годзе, Наталля Станкевіч пазначана і сваім дзявочым прозвішчам — Рыхтар, з дадаткам — «дачка прафесара Пермскага ўніверсітэта». Болей гэтае прозвішча нідзе фігураваць не будзе, і нездарма. Уводзім у пошукавік «Андрэй Рыхтар», дадаём «Пермскі ўніверсітэт» — і вельмі лёгка адшукваем бацьку Наталлі: выбітнага расейскага вучонага-фізіёлага Андрэя Аляксандравіча Рыхтара (1891–1947), спачатку прафесара, а потым рэктара (1921–1923) Пермскага ўніверсітэта, заснавальніка кафедры анатоміі і фізіялогіі раслін, акадэміка АН СССР. Ад 1905 года А. А. Рыхтар — надворны саветнік, нашчадак санавітага роду: ягоны бацька Аляксандр Фрыдрых фон Рыхтар — тайны саветнік, сябра савета міністэрства фінансаў Расійскай імперыі, дырэктар дэпартамента акладных збораў. Во якую нявесту здабыў сабе за Уралам звычайны беларускі хлопец з Карчова!

Пакуль Станкевічы так-сяк з дапамогай беларускага Паўпрэдства ўладкоўваюцца ў Маскве, Андрэй Рыхтар займае высокія пасады ў Пермскім універсітэце, у 1924 годзе яго запрашаюць узначаліць кафедру анатоміі і фізіялогіі раслін у Саратаве, у 1929-м абіраюць членкарам АН СССР, у 1931-м Рыхтар пераязджае ў Маскву, у МДУ. Тут у яго ўжо тры ўнукі Станкевічы: Наталка, Алачка, Валерык. У 1932 годзе нараджаецца чацвёрты, Жэнька. Пэўна, Станкевічам няблага жывецца цяпер, побач з бацькам і цесцем.

Але час такі, што любы дабрабыт — да пары. У 1938 годзе Андрэй Рыхтар публічна выступае з рэзкай крытыкай навуковых пазіцый акадэміка Лысенкі — і атрымлівае адпаведны адказ: 26 ліпеня ў «Праўдзе» друкуецца ліст у рэдакцыю за подпісам супрацоўнікаў Інстытута фізіялогіі раслін — «Ілжэнавуковыя метады акадэміка Рыхтара». Яго здымаюць з пасады дырэктара інстытута і, дзякуй Богу, на гэтым супакойваюцца. Дажыць свае гады прафесару шанціць побач з роднымі.

Напэўна, не цяжка сёння адшукаць унукаў і праўнукаў Канстанціна Восіпавіча Станкевіча — у кожным разе, на сайце «Радавод» нехта вельмі дасведчаны і акуратны выклаў падрабязную інфармацыю пра генеалогію Станкевічаў, а таксама фотаздымкі Андрэя Рыхтара, ягонай дачкі Наталлі і зяця Канстанціна Восіпавіча. Існуе і да сёння працуе на дыпламатычнай ніве прыгожы, акуратны асабняк Паўпрэдства на на Малой Нікіцкай. Не спыняюць плённай навуковай працы кафедры фізіялогіі раслін у Пярмі, Саратаве і Маскве. Навечна занатавана ў гісторыі беларускай літаратуры імя Канстанціна Станкевіча — сяброўская ўдзячнасць выбітнога паэта Беларусі Уладзіміра Дубоўкі.

Гісторыя бліжэй, чым падаецца.

*Ганна СЕВЯРЫНЕЦ*

# УЛАДЗІМІР ДУБОЎКА І МІКОЛА РАВЕНСКІ ВА ЎЗАЕМНЫХ ЗГАДКАХ-УСПАМІНАХ

На эміграцыі Уладзіміра Дубоўку і яго творчасць ведалі і любілі. Да сёння захаваліся самаробныя зборнічкі-перадрукі «Credo», «Стромы», «Налі», якія вырабляў пісьменнік Антон Даніловіч (Янка Золак). У найбуйнейшых эміграцыйных газетах «Бацькаўшчына» і «Беларус» змяшчаліся асобныя вершы: «На сьвята Алеся Гаруна — у Маскве 2 красавіка 1922 году»[1], «Ня дзівіся»[2], «Плач навальніцы»[3], «Пра ганарыстага каня»[4], «Пра дзяўчыну ды кілім», «Мой запавет» (пераклад з Ю. Славацкага)[5], «У дарозе»[6], «Чаму-ж гэта ў сэрцы вясновы ўздым?»[7], «Чые рукі прыгажэйшыя?»[8], «Я шкадую...»[9]. Праўда, у адрозненне ад Янкі Купалы, Уладзіміра Жылкі, Алеся Гаруна асобнага зборніка паэты суродзічы на Захадзе так і не выдалі.

Няшмат прысвячалася Дубоўку і адмысловых артыкулаў: акрамя біяграфічнага нарыса[10], можна згадаць хіба фельетон Кастуся Акулы ў звязку з публікацыяй у «Голасе Радзімы» (№ 94) матэрыялу пра паэму Байрана ў перакладзе Дубоўкі[11] ды палеміку з Міхасём Мушынскім вакол паэмы «Плач навальніцы»[12].

Што праўда, Уладзімір Дубоўка меў бадай персанальнага даследчыка ў асобе Антона Адамовіча. Дастаткова паглядзець на іменны паказнік збору прац «Да гісторыі беларускае літаратуры» (Мінск, 2005), каб зразумець, чым была для эміграцыйнага крытыка творчасць былога сябры — па «Узвышшы» і ў жыцці.

З лічанага мемуарнага пра Уладзіміра Дубоўку варта спыніцца на ўспаміне кампазітара, хормайстра Міколы Равенскага (1886–1953). Равенскі, які нарадзіўся ў в. Капланцы Ігуменскага павета (сёння Бярэзінскі раён Мінскай вобл.), у 1903–1914 гг. кіраваў хорам пры мужчынскім манастыры ў Мінску. У 1915 г. закончыў рэгенцкія курсы ў Маскве, а ў 1930 г. — Маскоўскую кансерваторыю. Ад гэтага маскоўскага часу і паходзіць знаёмства і супрацоўніцтва Міколы Равенскага з Уладзімірам Дубоўкам. Дзеячы жылі ў адным будынку — у Прадстаўніцтве БССР на Нікіцкай вуліцы[13]. Вынікам стаўся вялікі хор «О, Беларусь, мая шыпшына» (загінулы ў Беларусі, ён быў пазней адноўлены на эміграцыі), «Ліпнёвы гімн» і, вядома, опера «Браніслава».

Ва ўспаміне «Аб працы над операй "Браніслава"», апублікаваным у 1986 г. у газеце «Беларус», Мікола Равенскі згадваў:

---

[1] Беларус. № 350. Жнівень 1988. С. 6.
[2] Бацькаўшчына. № 25–26 (307–308). 24 чырвеня 1956. С. 5.
[3] Бацькаўшчына. № 9 (12). 25 сакавіка 1948. С. 4.
[4] Бацькаўшчына. № 41–42 (427–428). 2 лістапада 1958. С. 4.
[5] Бацькаўшчына. № 47–48 (483–484). Каталіцкія Каляды 1959. Літаратурны дадатак. С. 4–5.
[6] Бацькаўшчына. № 20 (406). 18 траўня 1958. С. 3–4.
[7] Бацькаўшчына. № 20 (406). 18 траўня 1958. С. 3.
[8] Бацькаўшчына. № 1–2 (485–486). Праваслаўныя Каляды 1960. С. 5.
[9] Бацькаўшчына. № 20 (406). 18 траўня 1958. С. 4.
[10] Бацькаўшчына. № 41–42 (427–428). 2 лістапада 1958. С. 4.
[11] Козыр, Міхась. Масква, твайму хвальшу няма межаў! // Бацькаўшчына. № 10 (545). 5 сакавіка 1961. С. 3.
[12] Загорны, Арсень. Супраць каго паўстаньне? // Беларус. № 344. Люты 1988. С. 3.
[13] Мароз, Уладзімір. Калі б нават ён быў аўтарам аднае песні... // Беларусь — Бельгія: Грамадска-культурнае ўзаемадзеянне: матэрыялы Міжнароднага круглага стала. Мінск, 18–19 мая 2001 г. — Мінск: Беларускі кнігазбор, 2002. — С. 212.

*«У 1929 г. у ліпені, будучы ў Маскве, Галадзед зрабіў прапанову Ўладзімеру Дубоўку напісаць такое лібрэта, каб опэра была арыгінальным беларускім творам, а мне — стварыць адпаведную да гэтага музыку. Прапанова гэтая была вельмі ахвотна намі прынятая, і мы паабяцалі Галадзеду неадкладна ўзяцца за працу. Сродкі на гэта былі адпушчаныя, хоць і не ў вялікай суме, але на першы пачатак былі яны зусім дастатковыя.*

*Першым нашым заданьнем было адшукаць адпаведны зьмест лібрэта. Пасьля доўгіх пошукаў і абмеркаваньняў сюжэту будучага лібрэта мы ўрэшце спыніліся на Дубоўкавай паэме "Браніслава". На аснове гэтае паэмы мы дэтальна распрацавалі плян опэры, якая мелася складацца з трох актаў, устанавілі пэрсанажы ды заплянавалі дэкарацыю да кажнага акту. Разыходжаньні між паэмай і лібрэта выйшлі даволі вялікія ў ходзе разьвіцьця пэрсанажа опэры, а галоўнае ў завайстрэньні драматызму й трагізму.*

*Ня маючы пад рукамі адпаведных народных матываў, мы пастанавілі паехаць на месяц у Магілёўшчыну для запісу патрэбнага народна-песеннага матар'ялу. Між іншага, у часе гэтае паездкі Дубоўка напісаў словы "Ліпнёвага гімну", а я музычна яго аформіў. Гэты гімн быў выдрукаваны, распаўсюджаны й выкананы ў свой час хорам у Менску, але ў хуткім часе ён быў забаронены й сканфіскаваны.*

*Вярнуўшыся з Магілёўшчыны ў Маскву, Дубоўка ўзяўся за працу над лібрэта. Асаблівая роля прызначалася лерніку: гэта быў самастойны нумар і служыў уступам да опэры. Сьпеў лерніка пры закрытай заслоне мусіў сканцэнтраваць слухача да ўспрыняцьця опэры. (Сьпеў лерніка пачынаўся словамі "Многа Бог прарокаў меў, пасылаў па сьвеце іх...».)*

*Па некаторым часе Дубоўка прыносіць поўны тэкст для лерніка, які складаўся з 8–10 зваротак і вызначаўся сваім іншасказальным характарам, але быў цесна зьвязаны са зьместам опэры, у якой Браніслава ўцелаўляла Беларусь, а пан (імя ягонага не памятаю) — Расею...»*[14].

Пазней шляхі кампазітара і паэта разышліся. У 1930 г. па заканчэнні кансерваторыі Мікола Равенскі вярнуўся ў Мінск, дзе стаў выкладаць у Мінскім музычным тэхнікуме, Беларускай кансерваторыі. Уладзімір Дубоўка яшчэ ўлетку 1930 г. быў арыштаваны па справе «Саюза вызвалення Беларусі». Мікола Равенскі, у тым ліку і праз знаёмства з Дубоўкам, таксама зведаў ціск. У 1938 г. ён быў выключаны з Саюза кампазітараў, у той жа час быў арыштаваны і расстраляны яго брат Антон[15]. Пачатак вайны ў пэўным сэнсе выратаваў кампазітара. Падчас нямецкай акупацыі ён жыў у Чэрвені, быў рэгентам царкоўнага хору. Ад лета 1944 г. апынуўся на эміграцыі. Працаваў рознарабочым на тартаку каля Мюнхена. У 1950 г. пераехаў у Лювен (Бельгія), арганізаваў Беларускі студэнцкі ансамбль пры Лювенскім універсітэце, аднак працаваў нядоўга — памёр у 1953 г. Калі меркаваць па ўспамінах, што былі апублікаваныя больш як праз 30 гадоў пасля смерці Равенскага, пра Уладзіміра Дубоўку ён усё ж не забываўся.

Як выглядае, памятаў пра кампазітара і паэт. У фондзе Уладзіміра Дубоўкі ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва захоўваецца ліст да Ніны Ватацы, дзе згадваецца знаёмства з Міколам Равенскім.

---

[14] Равенскі, Мікола. Аб працы над опэрай «Браніслава» // Беларус. № 332. Сьнежань 1986. С. 4.

[15] Равенская (Аляксеенка), Вольга. Згадкі пра Міколу Равенскага // Беларусь — Бельгія: Грамадска-культурнае ўзаемадзеянне: матэрыялы Міжнароднага круглага стала. Мінск, 18–19 мая 2001 г. — Мінск: Беларускі кнігазбор, 2002. — С. 155.

*«НАВУКОВАМУ СУПРАЦОЎНІКУ*
*БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАЙ БІБЛІЯТЭКІ*
*тав. Н. Б. ВАТАЦЫ*

*ВЕЛЬМІ ПАВАЖАНАЯ НІНА БАРЫСАЎНА!*

*У часе маёй маладосці ў Маскоўскай кансерваторыі вучыўся беларускі кампазітар Мікола Якаўлевіч РАВЕНСКІ. Я быў знаёмы з ім асабіста, напісаў для яго лібрэта паводле сваёй паэмы «Браніслава», на якое ён пачаў ствараць аднайменную оперу. А наогул, у часе свайго навучання ён працаваў вельмі плённа, стварыў больш трох дзясяткаў розных музычных твораў, многія з якіх выконваліся на канцэртах беларускіх. У пачатку 1930 г. я выехаў з Масквы і вярнуўся назад аж у 1958 г. За гэты адрэзак часу пра кампазітара я нічога не чуў і не ведаў. Бываючы ў Мінску пасля 1958 г. я некалькі разоў пытаўся ў старых жыхароў Мінску пра лёс кампазітара, а — самае галоўнае — пра лёс ягоных музычных твораў, але ні ад кога ніякіх звестак не атрымаў.*

*Значна пазней, у творы мінскага пісьменніка Новікава «Руіны страляюць» я прачытаў, што антыфашысты-падпольшчыкі спыняліся, між іншым, на кватэры Лены Равенскай. Лена — гэта кампазітарава дачка ад першага шлюбу. Але, паколькі я бываў у Мінску наездамі, хварэў, нічога не даведаўся і пра лёс Лены Равенскай.*

*У 1970 г., калі некаторыя газеты адзначалі маё 70-годдзе, да мяне, праз рэдакцыю газеты «ЛіМ» прыйшоў ліст з Англіі ад дакторкі Таццяны Аляксандраўны РУТКОЎСКАЙ, якая напісала мне гэты свой ліст, прачытаўшы артыкул пра мяне ў «ЛіМе».*

*З гэтага ліста я даведаўся, што*

*1) Т. А. Руткоўская — пляменніца кампазітара, што яна была ў часе вайны гвалтам вывезена ў Нямеччыну, прайшла праз нямецкія лагеры, а адтуль уцякла на Захад;*

*2) што яна працуе дакторкай медыцыны;*

*3) што яе дзядзька — кампазітар М. Равенскі памёр у Бельгіі 9 сакавіка 1953 г. і пахаваны ў Лювене;*

*4) што частка ягонай творчай спадчыны перахоўваецца ў яе;*

*Што зборнік народных песень у апрацоўцы нябожчыка ў яе гвалтам узялі нейкія белаэмігранты*[16]*, але яна дала публікацыю ў тамтэйшых газетах* *<u>і забараніла друкаваць гэты зборнік</u>;*

*5) што ў часе пасля 1930 г. кампазітар ажаніўся быў другі раз і ад гэтага шлюбу ў г. ЧЭРВЕНІ ў яго засталіся дзве дачкі — Оля і Людміла.*

*Разам з тым, яна прыслала мне фотакопію адной арыі з оперы «Браніслава».*

*Вось жа мне і думаецца, што Вашай установе пэўна было зручней сабраць у сябе ўсю творчую спадчыну нябожчыка кампазітара. Пра рукапісы, якія засталіся ў БССР, пэўна, можна даведацца праз дачку ад першага шлюбу Лену Равенскую, калі яна не загінула ў часе вайны, альбо ад дачок ад другога шлюбу — Олі і Людмілы (першы арыенцір — г. Чэрвень).*

*Калі б удалося знайсці дачок, тады яны, як спадчынаёміцы кампазітара, маглі б вельмі проста і лёгка атрымаць усё ад сваёй стрыечнай сястры дакторкі Т. А. Руткоўскай. Што датычыцца забранага ў яе зборніку песень, дык і яго, з юрыдычнай дапамогай, напэўна можна адабраць у незаконных уладальнікаў.*

[16] Насамрэч частку творчай спадчыны Міколы Равенскага захавалі ў сябе беларускія студэнты ў Лювене, якія доўгія гады рабілі намаганні па яе публікацыі. Таццяна Руткоўская, фактычна, ніяк не была звязаная ні з беларускай грамадой у Бельгіі, ні з беларусамі ў Вялікабрытаніі, дзе пэўны час жыла.

*Даруйце, Ніна Барысаўна, што я турбую гэтым пытаннем менавіта Вас, але апошнім часам я пачаў хварэць і сам не магу займацца такой справай. Тым больш, што для гэтага, як мне думаецца, патрабуецца ініцыятыва не прыватнай асобы, а аўтарытэтнай установы.*

*Дадаю Вам адрас дакторкі Т. А. Руткоўскай.*

*З пашанаю да Вас і з пажаданнем усяго самага найлепшага»*[17].

У якасці каментара да ліста можна сказаць, што дачка Міколы Равенскага ад першага шлюбу Лена загінула ў часе вайны, малой памерла і адна з дачок ад другога шлюбу — Людміла. А вось згаданая ў лісце Вольга Равенская (Аляксеенка) звязала сваё жыццё з музыкай, закончыла ў Мінску кансерваторыю і спявала ў хоры Уладзіміра Роўды.

Што зрабіла Ніна Ватацы з нагоды ліста Уладзіміра Дубоўкі, мы не ведаем. Ёсць звесткі, што творчая спадчына Міколы Равенскага пасля яго смерці была падзеленая паміж Таццянай Руткоўскай і беларускай грамадой. Што сталася з першай часткай — дакладна невядома, а вось другая, відавочна, праз былых беларускіх студэнтаў у Лювене трапіла ўрэшце ў Беларускі інстытут навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку. У 2005—2008 гг. з выкарыстаннем гэтых дакументаў у Мінску выйшлі публікацыі Збору твораў Міколы Равенскага[18]. Сёння ж БІНіМаўскія дакументы кампазітара паступова перадаюцца ў Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, дзе ў перспектыве можа быць створаны і асобны фонд кампазітара. Такім чынам, лёсы творчай спадчыны Уладзіміра Дубоўкі і Міколы Равенскага аб'ядноўваюцца ў межах аднаго архіва.

*Наталля ГАРДЗІЕНКА*

---

[17] БДАМЛМ. Ф. 27. Воп. 3. Спр. 14. Арк. 1—2.

[18] Равенскі, Мікола. Вакальныя творы / Мікола Равенскі; пад рэд. Г. Каржанеўскай; Бел. Ін-т Навукі і Мастацтва (Нью-Ерк), Бел. Капэла. — Мінск: Тэхналогія, 2005. — 26, [1] с.: ноты; Равенскі, Мікола. Літургічныя творы / Мікола Равенскі; рэдкал.: К. Насаеў, В. Скорабагатаў; Бел. Ін-т Навукі і Мастацтва (Нью-Ёрк), Бел. Капэла. — Мінск: Тэхналогія, 2005. — 90 с.: ноты; Равенскі, Мікола. Беларускія народныя песні / Мікола Равенскі; рэдкал.: Віктар Скорабагатаў (гал. рэд.) [і інш.]; Беларус. ін-т навукі й мастацтва. — Мінск: Тэхналогія [і інш.], 2008. — 190, [1] с.: іл., ноты.

# «ТАКІ КРЫХУ СУЧАСНЫ КСЁНДЗ»
# Лісты Ларысы Геніюш да ксяндза Міхала Варанецкага

Архівы захоўваюць у сабе скарбы, на якія можна трапіць зусім выпадкова. Пры даследаванні прасапаграфіі рымска-каталіцкага духавенства ў паваеннай БССР у якасці пунктаў для пошуку матэрыялаў былі вызначаны і архівы каталіцкіх манаскіх ордэнаў, нешматлікія члены якіх працавалі на Беларусі. Сярод іх былі езуіты, францысканцы, некалькі салезіянцаў і місіянераў. Адным з апошніх быў ксёндз Міхал Варанецкі (1908–1998), святар, член ордена місіянераў св. Вінсэнта дэ Поль (місіянераў). Матэрыялы, якія засталіся пасля смерці ксяндза М. Варанецкага і захоўваліся ў Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне, былі перададзеныя ў архіў, што знаходзіцца ў цэнтры правінцыі, у Кракаве (Archiwum księży misjonarzy w Krakowie na Stradomiu).

Асоба ксяндза Варанецкага ўжо цікавіла даследчыкаў[1]. Пачынаючы з часоў Другой сусветнай вайны святар працаваў на Беларусі — у Лыскаве і Ружанах. У 1949 г. быў асуджаны на 25 гадоў выпраўленча-працоўных лагераў і 5 гадоў пазбаўлення грамадзянскіх правоў. Адбываў пакаранне ў Джэзказгане ў 1949–1956 гг., пра што пісаў ва ўспамінах, якія ўжо выдадзены ў Польшчы[2]. Падчас сваёй працы ў Ружанах (магчыма, падчас выездаў у Зэльву) святар пазнаёміўся з Ларысай Геніюш (1910–1983) — беларускай паэткай, празаікам, грамадскай дзяячкай, вядомай па ўдзеле ў працы ўрада БНР у эміграцыі. У 1948–1956 гг. — палітычны вязень, адбывала пакаранне ў лагерах Інты і Абедзі (Комі АССР) і ў Мардоўскай АССР. Пасля вызвалення ў 1956 г. пасялілася ў Зэльве, дзе і пражыла ўсё астатняе жыццё.

Сярод разнастайных дакументаў, якія датычаць жыцця і дзейнасці ксяндза Варанецкага (персанальныя дакументы: атэстаты, характарыстыкі, пашпарты; распараджэнні касцёльных улад і г. д.) у асобную папку ў групе «карэспандэнцыя» вылучаны лісты Ларысы Геніюш.

Папка «Woroniecki Michał IV/3 Korespondencja. Listy Łarysy Geniusz. 1974–1982» утрымлівае 22 лісты ад Ларысы Геніюш да кс. Міхала Варанецкага. Храналогія лістоў ахоплівае перыяд з 1974 да 1982 г. Ліставанне не было рэгулярнае: так, на 1974 г. прыпадае 2 лісты, пасля наступае перапынак да 1977 г. за які сабрана 7 лістоў, у 1978 атрымана 5, у 1979 — 2, у 1980 — 2, у 1981 — 2 і ў 1982 — 2. У калекцыі маецца ліст сястры Марыі Пяста да кс. Варанецкага, які той выкарыстаў як чарнавік для адказу Ларысе Геніюш.

Усе лісты напісаны ад рукі, на паперы фармату А4. Да некаторых лістоў (нумары 10, 20, 21, 22) далучаны віншавальныя паштоўкі. Лісты 9 і 14 складаюцца з паштоўкі і верша, нумар 3 — з ліста, паштоўкі і верша, а нумары 11, 17, 18, 19 — толькі з паштовак. Усе 22 лісты і паштоўкі напісаныя рукой паэткі. Далучаныя да лістоў нумар 3, 9, 14 вершы друкаваныя на машынцы на паперы фармату А4. Мова ўсіх лістоў — польская (вершы — па-беларуску). Частка лістоў перасылалася поштай з адраса паэткі ў Зэльве — вул. Савецкая, 7а — на адрас святара ў Ружанах: вуліца Першамайская, 12. Частка лістоў перадавалася разам са знаёмымі,

[1] Makarczyk, J. Ks. Michał Woroniecki: kapłan, zesłaniec, artysta / J. Makarczyk. — Warszawskie Studia Pastoralne. — 2012. — № 16. — S. 87–118.

[2] Ks. Michał Woroniecki CM. Powierż Panu swą drogę. W łagrze Dżezkagan Rudnik (1949–1956) / M. Woroniecki. — Lublin: Norbertinum, 2011.

і пазначалася на капэрце «Праз ветлівасьць / przez grzeczność». На капэртах прысутнічаюць нататкі ксяндза.

Да некаторых лістоў паэтка далучала свае вершы (цытуюцца ў тэксце). Таксама ў калекцыі маюцца дзве яе дзіцячыя кніжкі: «Казкі для Міхаські» і «Добрай раніцы, Алесь!»[3].

Эпісталярная спадчына Ларысы Геніюш ужо неаднойчы публікавалася ў часопісах, у 2010 г. выйшаў альманах «Асоба і час», цалкам прысвечаны паэтцы, а ў 2005 і 2012 гг. былі выдадзеныя зборы яе лістоў[4]. У 2015 г. убачыла свет кніга «Духу магутныя чары. Ларыса Геніюш ва ўспамінах, лістах, архіўных матэрыялах»[5]. Перапіска з ксяндзом Варанецкім у тыя выданні не трапіла. Пра Міхала Варанецкага паэтка згадвала ў лісце 15 кастрычніка 1978 г. да Дануты Бічэль «Сяньня быў ліст ад кс. Варанецкага з Ружан. Гэта вельмі цікавы, інтэлігентны і такі крыху сучасны ксёндз. Ён цікавіцца і мастацтвам, і архітэктурай, і разумее маю беларускасьць. Кожны год амаль яны нас адведваюць з айцом Станіславам з Брэста. Запавядаюць свой візыт і цяпер. Цешуся вельмі, бо ўносяць упэўненасьць, спакой у маё сэрца»[6].

Калекцыя была прадстаўленая навуковай супольнасці на міжнароднай навуковай канферэнцыі «Гісторыя беларускай літаратуры: стан і перспектывы даследавання (да 135-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа»[7], што адбывалася ў Мінску 15–16 лістапада 2017 г. Лісты друкуюцца ўпершыню. Пераклад на беларускую мову зроблены аўтарам.

*Раіса ЗЯНЮК,*
Інстытут гісторыі Нацыянальнай
акадэміі навук Беларусі[8]

[3] Геніюш, Л. Казкі для Міхаські. — Мінск: Беларусь, 1972. — 30 с.; Геніюш, Л. Добрай раніцы, Алесь! — Мінск: Мастацкая літаратура, 1976. — 16 с.

[4] Асоба і час: Біяграфічны альманах. Ларыса Геніюш. — Мінск: Лімарыус, 2010. — Вып. 3. — 454 с.; Геніюш, Л. А. Лісты з Зэльвы. — Гародня (Гродна); Wrocław: Гарадзенская бібліятэка, 2012. — 449 с. ; Геніюш, Л. Каб вы ведалі: з эпісталярнай спадчыны. — Мінск: Лімарыус, 2005. — 447 с.

[5] Духу магутныя чары. Ларыса Геніюш ва ўспамінах, лістах, архіўных матэрыялах / укл., прадм., камент. М. Скобла. — Мінск: Лімарыус, 2015. — 415 с.

[6] Асоба і час: Біяграфічны альманах. Ларыса Геніюш. — Мінск: Лімарыус, 2010. — Вып. 3. — С. 130

[7] «Z głębokim szacunkiem do Ojca»: лісты Ларысы Геніюш да ксяндза Міхала Варанецкага / Р. Зянюк // Гісторыя беларускай літаратуры: стан і перспектывы даследавання (да 135-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа): Матэрыялы Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі (Мінск, 15–16 лістапада 2017 г.) / Цэнтр даследаванняў бел. культуры, мовы і літ. Нац. акадэміі навук Беларусі. — Мінск: Права і эканоміка, 2017. — С. 70–75.

[8] Матэрыялы выяўлены падчас стыпендыі Muzeum Historii Polski ў 2017 г.

**Ліст 1**

На капэрце:

Geniusz Łarysa 11.III.1974 + odpowiedź na liście s. Marii Piasta z 14.III.74 (рукой ксяндза).

Ружаны, высокапаважанаму Айцу праз ветлівасьць.

11/III.74 г.

Wielebny Ojcze!

Dziękuję Ojcom za miłą wizytę. Czuję się trochę posiloną. Proszę przebaczyć nam skromność naszych «apartamentów» i przyjęcia i zajęcia za którym mnie Ojcowie zostali. Takie jest życie w jego realności. Wzruszona jestem modlitwą Ojca, pamięcią o mnie. Dzisiaj odjechała od nas p. Klimowiczowa — z Wilna (z otoczenia ks. Stankiewicza[9] i Szutowicza[10] kiedyś) dużo rozmawiałyśmy. Sprzedała ona dużo książek p. Lidzii Zbrylewicz. Mówiła, że moi znajomi z Mińska boją się pokazać do nas bo nazywają mnie «Białoruski Sołżenicyn». Myśle, że drogi Ojciec tego się nie zalęknie, ale na wszelki wypadek uprzedzam. Ojcze ja zapomniałam i imię Ojca i nazwisko. Proszę je mnie napisać, ale tylko przez swego drogiego posłańca (nie przez pocztę!). Czy Ojciec dozwoli mnie latem kiedyś przyjechać ze znajomymi z Гродна i z Zelwy żeby ochrzcić ich dzieci? Jest to b. ważne Ojcze! Ja o to Ojca serdecznie proszę. 8/III był dzień urodzin męża[11], on czuje się nie źle. Oboje czujemy się «dziwnie». Ojcze szanowny, drogi jeszcze raz dziekuję za wszystko. Chcę być pewna że w każdych okolicznościach życia Ksiądz nigdy nie odmówi mnie swojej modlitwy i wiernej przyjaźni.

Z wielkim szacunkiem i uznaniem do Ojca

Łarysa Geniusz

P. S. Mąż serdecznie Ojca pozdrawia
Pozdrowienia Ojcu Łazarowi.

*Вялебны Ойча!*

*Дзякую Айцам за мілы візіт. Адчуваю сябе трохі падмацаванай. Прашу прабачыць нам сціпласць нашых «апартаментаў», прыёму і занятку, за якім мяне Айцы засталі. Гэта жыццё ў яго рэальнасці. Я ўзрушана малітвай Айца, памяццю пра мяне. Сёння паехала ад нас пані Клімавічова — з Вільні (з колішняга акружэння ксяндзоў Станкевіча і Шутовіча), мы шмат размаўлялі. Яна прадала шмат кніжак пані Лідзіі Збрылевіч. Казала, што мае знаёмыя з Мінска баяцца ў нас паказацца, бо называюць мяне «беларускі Салжаніцын». Думаю, што дарагі Айцец не спалохаецца гэтага, але на ўсялякі выпадак папярэджваю. Ойча, я забылася Вашае імя і прозвішча. Калі ласка, напішыце мне іх, але толькі праз свайго дарагога пасланца (не па пошце!). Ці дазволіць Айцец мне летам як-небудзь прыехаць разам са знаёмымі з Гродна і з Зэльвы, каб пахрысціць іх дзяцей? Гэта вельмі важна, Ойча! Сардэчна Вас аб гэтым прашу. 8/III быў дзень народзінаў мужа, ён адчувае сябе нядрэнна. Абое адчуваем сябе «дзіўна». Шаноўны і дарагі Ойча, яшчэ раз дзякуй за ўсё. Хачу быць пэўнай, што ў розных акалічнасцях жыцця Ксёндз ніколі не адмовіць мне ў сваёй малітве і верным сяброўстве.*

*З вялікай павагай і прызнаннем да Айца.*

*Ларыса Геніюш.*

*P. S. Муж перадае сардэчныя прывітанні.*
*Прывітанне Айцу Лазару.*

[9] Ксёндз Адам Станкевіч (1891 (1892) — 1949) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч, гісторык і літаратуразнавец.

[10] Ксёндз Віктар Шутовіч (1890–1960) — святар, педагог, публіцыст.

[11] Янка Геніюш (1902–1979) — беларускі грамадскі дзеяч, вязень.

**Ліст 2**

На капэрце:
24.III.1974 (рукой ксяндза).
Яго Міласьці Айцу М. В. (праз ветлівасьць)

Zelwa, 24/III. 74 r.

Wielebny Ojcze!

Dziś zjawiła się nasza miła Kyzynka z listem, ślicznym obrazkiem, i «delikatesem» od Ojca. Bardzo dziękuję za miłą uwagę. Co do chrztu, to może oboje rodzice nie będą w stanie przyjechać, a może ja jakoś «wypłące się» z tego, i oni poradzą sobie sami. W każdym razie chcę żeby Ojciec wiedział że możemy kiedyś tak mianowicie przyjechać.

A na Msze to ja przyjadę napewno kiedy pociepleje. Oboje jesteśmy teraz chorzy. Czasem dziwimy się: co to za choroby? Ostatnio pisał syn, chce nas na jesień zabrać do siebie. Rozmyślamy nad tem, bo boimy się żeby nie poszkodził sobie i wnukom. Życie jest, naprawdę, bardzo skompłikowane, ale pomału wyjaśnia się horyzont, i jest nadieja że ludzie zostaną ludźmi. Narazie (неразб.) nas trochę spokojniej. Rozzłościło tylko naszych „bosów" to że nasi „суайчыннікі" z Australii poslali nam telewizor (Rubin 205). Miał być na 8/III (dzień urodzin męża) ale niema go do dzisiaj i jak niektórzy tu prorokują, — nie będzię. Staram się być spokojną. Ojcze, prosze nie zapominać o mnie w swoich modlitwach... Ja to zawsze odczuję jak siłę w nielekkim życiu. Życzę Ojcu zdrowia i miłej wiosny.

Z niezmiernym szacunkiem,

Łarysa Geniusz.

P. S. Mąż Ojca serdecznie pozdrawia, a oboje pozdrawiamy ks. Stanisława.

(Дапісана ксяндзом — przez R... (неразб.). 31.V.74.)

*Вялебны Ойча!*

*Сёння з'явілася ў нас наша мілая кузінка з лістом, мілым абразком і «далікатэсам» ад Айца. Вялікі дзякуй за прыемную ўвагу. Што да хросту, то можа абое з бацькоў не змогуць прыехаць, а можа, я неяк «вывяжуся» з гэтага і яны самі дадуць сабе рады. У любым выпадку хачу, каб Айцец ведаў, што мы можам калісьці менавіта так прыехаць.*

*А на Св. Імшу то я прыеду абавязкова, калі пацяплее. Мы цяпер абое хворыя. Часам здзіўляемся: што гэта за хваробы? Апошнім часам пісаў сын, хоча нас восенню забраць да сябе. Разважаем пра гэта, бо баімся, каб не нашкодзіў сабе і ўнукам. Жыццё сапраўды вельмі складанае, але паволі яснее далягляд, і ёсць надзея, што людзі застануцца людзьмі. Пакуль што ў нас трохі спакайней. Раззлавала толькі нашых «босаў», што нашы суайчыннікі з Аўстраліі выслалі нам тэлевізар (Рубін 205). Павінен быў дайсці на 8/III (дзень народзін мужа), але да сёння яго няма, і, як некаторыя прарочаць, — і не дойдзе. Я стараюся быць спакойнай. Ойча, прашу не забывацца пра мяне ў сваіх малітвах... Я гэта заўсёды адчую як сілу ў нялёгкім жыцці. Зычу Айцу здароўя і прыемнай вясны.*

*З нязмернай павагай*

*Ларыса Геніюш.*

*P. S. Муж перадае сардэчныя прывітанні, а мы разам перадаём прывітанні ксяндзу Станіславу.*

**Ліст 3**

На капэрце:

30.III.1977 (рукой ксяндза).

Wielebnemu Ojcu Michałowi Woronieckiemu w Rużanach[12] (przez grzeczność) / Зэльва, вул. Савецкая, 7 а.

***Паштоўка***

Zelwa 1977 Wielebny Ojcze! Zasyłamy Ojcu serdeczne życzenia wesołych Swiąt! Wielkanoc, największe święto Słowian niech będzie Ojcu radosnym i pełnym jasnych nadziei!

Z szacunkiem Geniuszo <...>.

*Вялебны Ойча! Дасылаем Айцу сардэчныя пажаданні Радасных Святаў! Вялікдзень, найвялікшае свята славян, няхай будзе Айцу радасным і поўным ясных спадзяванняў!*

*З павагай, Геніюш(...)*

***Ліст***

Zelwa, 30/III. 77 r.

Wielebny Ojcze!

Serdecznie dziękuje Ojcu Michałowi za pamięć o nas. Było mnie przyjemnie słyszeć że Ojciec jest zdrów i pracuje, chwali Boga i pomaga dobrym słowem i czynem swej pastwie. U nas nie jest zbyt dobrze: mąż jest od dłuższego czasu poważnie chory. Już nie pracuje. Ma mocną zaduchę i emfizemę płuc. Ja całą zimę prawie miałam nogę w gipsie (upadłam razem z drabiną ze strychu) ale to była trochę połamana trochę stopa, więc zażyło wszystko i teraz „biegam jak zając”. Oboje leżeliśmy i pomagała nam tylko sąsiadka b. nieszczęśliwa w życiu. Inni ludzie boją się, jak Ojcu wiadomo, przestąpic nasz próg, ale książeczka „Dobraj ranicy, Aleś” wyszła! Z wielką przyjemnościa posyłam ją Ojcu! Napisałam ją dla swego drugiego wnuka — Alesika. Jej wydanie liczę jak cud, bo inaczej nikt mnie nigdzie nie drukuje. Zasyłam Ojcu i jeden z ostatnich swoich wierszy. Jeśli się nadarzy okazja Ojcu być blizko nas to proszę zawsze liczyć nasz dom swoim! Życzymy Ojcu zdrowia i szczęścia i wszystkiego co przynosi ludziom radość i daje siły do życia.

Z szacunkiem i życzliwością oddani Geniuszowie.

*Вялебны Ойча!*

*Сардэчны дзякуй, Ойча Міхале, за памяць пра нас. Было мне прыемна чуць, што Айцец здаровы і працуе, славіць Бога і дапамагае добрым словам сваёй пастве. У нас не вельмі ўсё добра: муж даўно хварэе. Ужо не працуе. У яго моцная адышка, і эмфізэма лёгкіх. Я амаль усю зіму мела нагу ў гіпсе (звалілася разам з драбінай з даху), але гэта была толькі трохі паламаная ступня, таму ўсё зажыло і цяпер бегаю «як заяц». Мы абое ляжалі ў ложку, і дапамагала нам толькі суседка, вельмі нешчаслівая ў жыцці. Іншыя людзі баяцца, як Айцец ведае, пераступіць наш парог, але кніжачка «Добрай раніцы, Алесь!» ужо выйшла. З вялікім задавальненнем дасылаю яе Айцу! Я напісала яе для свайго другога ўнука — Алесіка. Яе выданне лічу цудам, бо інача́й ніхто і нідзе мяне не друкуе. Дасылаю таксама і адзін з апошніх сваіх вершаў. Калі будзе ў Айца аказія быць недалёка ад нас, прашу заўсёды лічыць наш дом сваім! Зычым Айцу здароўя і шчасця і ўсяго, што прыносіць людзям радасць і дае сілы да жыцця.*

*З павагай і прыязнасцю адданыя Геніюшы.*

(Да ліста дададзены верш «Сьвяты вечар», друкаваны на машынцы.)

[12] На капэрце — w Ryżanach.

***Тэкст***

СЬВЯТЫ ВЕЧАР

Сьвяты вечар і[13] цепліцца ціхая радасьць,
Глядзіць першая зорка з нябёс на палі,
Нарадзілася сяння Дзіцятка і праў[14]да,
Несьмяротнасьць з цярпеньняў на нашай зямлі!
Сэрцы поўныя веры, любові, спакою,
Вечар радасьць пасеяў і зло перамог,
Ступняў неба кранае душа чысьцінёю,
Нарадзіўся ў ясьлях Збавіцель і БОГ!
/Нарадзіўся ад Маці ў ясельках БОГ/
Ля авечак Дзіця, не ў багатай сьвятліцы,
Бы Ягнятка на сене ля Матчыных рук,
І ідуць пастушкі, каралі пакланіцца,
Усемагутнаму Богу, гдзе быдла мест слуг.
Ужо нельга скрамней, там, гдзе беднасьці немач,
Новы сьвет аб'явіўся і праўд адкрыцьцё,
Нарадзілася ласка і сьветлая Веліч
І суровую сьмерць паканала жыцьцё.
Веліч гэтая ў праўдзе ў законах нябесных
У безсільлі Дзіцятка на грэшнай зямлі,
І ляжаць перад Дзецям дары каралеўскія,
І стаяць на каленях прад Ім каралі.
Усе скарбы нішто перад БОГАМ і вечнасьцю,
І няма большай сілы, вялікшых ідэй,
Перад ціхай любоўю, дабром, чалавечнасьцю,
Што яднае прад Богам, як брацьцяў, людзей.
І прымае Дзіцятка зямныя прызнаньні,
І над ясьлямі сьветлая зорка гарыць,
І выходзіць Дзіцятка са злом на змаганьне,
Каб калісьці цярпеньнем жыцьцё адкупіць.
І няма пры ім вояў, ніколі не будзе!
І дынараў не будзе пры ім, серабра,
Усеж пойдуць за ім да апошняга людзі,
За ідэямі праўды, любові, дабра.
Будзе цяжка, не раз будзе людзям трывожна,
Йсьці дарогай, якую назначыў ХРЫСТОС,
Усеж скорыцца зло і Хрыстос пераможа,
Бог, што ў ясьлях радзіўся, сканаў і ўваскрос!
Сьвяты Вечар, на небе зара зазіяла,
Йсьці да праўды Хрыстовай, то з цьмы да сьвятла,
І няма мудрацоў, каб яго паканалі,
Для зямлі і для неба ёсць праўда адна.
Сьвяты Вечар, ужо людзі за стол пасядалі,
У сэрцах вера ў Хрыста, цішыня перамог,
Будзе мір і любоў, будзе вера і слава,
Нарадзіўся ў ясьлях Збавіцель і БОГ!!!

(Ад рукі дапісана: Ларыса Геніюш, Верш напісаны на Каляду 1976–77 г.)

[13] У тэксце, набраным на машынцы, усе *і* напісаныя прапіснымі — І.
[14] У тэксце, набраным на машынцы, нідзе не прастаўленыя *ў*, толькі *у*.

**Ліст 4**

На капэрце:
4.IV.1977 (рукой ксяндза).
Rużany Oj. M. Woronieckiemu (przez grzeczność).

Zelwa, 4/IV 77 r.

Wielce szanowny i drogi Ojcze!

Zdaje się mnie że nie jestem już tak samotna, kiedy wiem, że Ojciec choć czasem wspiera mnie myślą swoją, swoją modlitwą. Dziękuję Ojcu!

Boże mój, jak ciężko jest człowiekowi kiedy jest zupełnie sam i gdyby nie wiara w Boga i w myśl ludzką uszlachetnioną czasem chrześcijaństwa, byłoby naprawdę źle! A ta świadomóść że czasem trzeba wytrwać i i żeby ludzie wytrwali być ludźmi... W takie, właśnie, *(...) uste* (неразб.) szlachetną i wielkoduszną podporą jest błogosławieństwem.

Najgorsze jest to że zdrowie nie służy, a zrobiono jeszcze tak mało... Z domu nie wyjezdzam prawie, bo jest to trochę niebiezpieczne, a głównie to że muszę być każdą chwilę przy mężu, staram się wypełnić swe obowiązki, bo czyż mozna inaczej?

Jak Ojciec ma dużo pracy! Czy Ojciec daje rady? I jak ze zdrowiem? Z całej duszy życzę Ojcu sił, bo ludziom jest b.potrzebne dziś światło. Wczoraj w cerkwi było pełno ludzi, i tyle ż „wierboczek" z miłością umiejętnie ubranych, tyle ż serc pragnących łaski i miłości Bożej.

Ojcze drogi proszę uważnie przejrzeć moją małą książeczkę którą posłałam Ojcu. Niektórym ona się b.podoba.

Bylibyśmy b.szczęśliwi widzieć Ojca u nas i kiedy los skieruje Ojca drogi w nasze strony proszę wstąpić do nas choć na króciutko. Cieszę się że jest wiosna, tak potrzebne są kwiaty bo z nimi rozmawiam czasem. Dziękuję za książkę. Malarz nie pozbawiony wielkiej miłości i glębokiej inteligencji. Życzymy Ojcu i p. Ludwikowi jeszcze raz — Wesołych Świąt! Z niezmiernym szacunkiem L. Geniusz.

На першай старонцы дапісана: Mąż mój szczerze Ojca pozdrawia.

*Вельмі шаноўны і дарагі Ойча!*

*Здаецца мне, што я ўжо не такая самотная, калі ведаю, што Айцец хоць часам падтрымлівае мяне сваёй думкай, сваёй малітвай. Дзякую Айцу!*

*Божа мой, як цяжка, калі чалавек зусім адзін, і калі б не вера ў Бога, у думку чалавечую, узбагачаную хрысціянскім часам, было б зусім дрэнна! А гэта свядомасць, што часам трэба вытрымаць, і каб людзі вытрымалі быць людзьмі... Менавіта ў такія (неразб.) шляхетная і вялікадушная падпора з'яўляецца блаславеннем.*

*Найгоршае — гэта тое, што здароўе не дапамагае, а зроблена яшчэ так мала! З дому я амаль не выязджаю, бо гэта трохі небяспечна, а галоўнае — гэта тое, што я павінна быць кожную хвіліну каля мужа, стараюся выконваць свае абавязкі, бо ці ж можна іначай?*

*Як у Айца шмат працы! Ці Айцец дае рады? І як са здароўем? Ад усёй душы зычу Айцу шмат сілаў, бо людзям сёння вельмі патрэбна святло. Учора ў царкве было поўна людзей, і столькі ж «вербачак» з любоўю ўмела ўпрыгожаных, і столькі ж сэрцаў, якія жадаюць ласкі і любові Божай.*

*Дарагі Ойча, прашу ўважліва паглядзець маю малую кніжачку, якую я даслала Айцу. Некаторым яна вельмі падабаецца.*

*Мы б былі вельмі радыя бачыць Айца ў нас, калі толькі лёс накіруе дарогі Айца ў наш бок, калі ласка, зазірніце да нас хоць на хвілінку. Цешуся з вясны, так патрэбныя кветкі, бо з імі часам размаўляю. Дзякую за кніжку. Мастак не пазбаўлены вялікай любові і глыбокай інтэлігенцыі. Зычым Айцу і пану Людвіку яшчэ раз — Радаснага Свята! З нязмерным шацункам Л. Генiюш.*

На першай старонцы дапісана: *Мой муж перадае Айцу шчырыя прывітанні.*

**Ліст 5**

На капэрце:
21.V.1977 (рукой ксяндза).
Łarysa Geniusz

Zelwa 21/V 77 r.

Wielebny Ojcze!

Bardzo często o Ojcu myśle i rada jestem zawsze usłyszeć o Ojcu choć słowo. U nas jak zawsze. Siedzę tylko w domu i do Wołkowyska pojechać bez przygod nie obejdzie się. Mąż poprawił się trochę. Jest b.nerwowy bo mało kto do nas zagląda. Jeden „towarzysz" przyznał się że mu nierekomendował do nas zachodzić instruktor rajkomu... Zachodzą tylko prości ludzie, czasem małe dzieci. Modlę się i temu jakoś żyję. Mam dużo pracy w ogrodzie. Czy przyjadą dzieci jesienią nie wiemy. Mówią tu różnie ale boję *(ці bоją — неразб. — Р. З.)* się że będę bardzo „krzyczeć" i to przed konferencją w Bułgarii i w Jugosławii. Ze zdrowiem trochę lepiej. Jemy tylko produkty ze sklepu. Przekonaliśmy się że to jest najlepiej. Mamy wielką radość. Odnaleźli się dzieci mego brata Andersowca[15]. Do znajomych w Brukseli zjawił się trzeci syn brata Aleks (jak brat). Podobno b.inteligentny 20-letni chłopiec. Jest ich 6 braci i siostra. Żadnej słowiańskiej mowy nie znają. Aleks mówi dobrze po francuzsku. Szukał nas. W Belgii był jako sekretarz jakiegoś poselstwa na europejskiej konferencji. Był krótko bo wracał do Łondynu. Gorzej jest to że ich brat rozwiódł się z ich matką, i ma już drugą rodzinę. Mam adres Aleksa i jego matki. Już napisałam przy cudzej pomocy. Dziękowałam dobremu Bogu na kolanach że zachował nasz rod. Chłopiec chce przyjechać tu i i do syna na przyszły rok. Boję się że go tu nie puszczą. Dobrze że teraz syn nasz nie będzie sam. Noga moja już nie boli. Nie mam też listów od dalekich swoich przyjaciół. W ogóle mam b.mało listów z Polski idą czasem cały miesiąc! Reklamowałam to, więc teraz w ogóle — giną! Ślicznie kwitną tulipany, jak nigdy! Patrzę na kwiaty i odczuwam mądrość i miłość Stworzyciela. Jakoś nic, nic się nie boję. Pewnego razu w sklepie ukazał mnie jeden drab drugiemu. Ten się obrócił, i „wyrzekł" — „пусть ещё поживёт", więc proszę sobie wyobrazić jak mnie tu słodko, na naszej drogiej ziemi dziadów i pradziadów.

Dziś posadziłam pomidory. Barzo czekam wnuków. Ale boję się, naprawdę się boję synowej. Jest i nadal obywatelką ZSRR i nie jest naszym przyjacielem niestety. Jest z domu baptystów, ale kojarzy to jakoś z miłością do sił „прогрессивных".

Ojcze drogi, życzę Ojcu dobrego zdrowia i dużo, dużo sił. Proszę czasem wspomnieć o nas w swoich modlitwach. Ja to odczuję i będzie mnie lżej. Ja jestem b.rada że mam w Ojcu i Ojcu Stanisławowi swoich przyjaciół, do których mogę choć myślą się zwrócić.

Proszę pamiętać o mnie, bo Bóg wie jak się tu wszystko ułoży.

Z szacunkiem i wielką szczerością do Ojców.

Larysa Geniusz.

*Вялебны Ойча!*

*Вельмі часта думаю пра Айца і заўсёды цешуся даведацца пра Айца хоць слова. У нас як заўсёды. Сяджу толькі дома, і ў Ваўкавыск нават з'ездзіць без прыгод не атрымліваецца. Муж трохі папраўіўся. Ён вельмі нервовы, бо мала хто да нас заглядае. Адзін «таварыш» прызнаўся, што яму не рэкамендаваў да нас заходзіць інструктар райкама... Заходзяць толькі простыя людзі, часам малыя дзеці. Малюся і дзякуючы гэтаму неяк жыву. Маю шмат працы ў садзе. Ці прыедуць восенню дзеці — не ведаем.*

[15] Самы малодшы брат Ларысы Геніюш — Аляксей (1923–2010). Брат Аркадзь загінуў у бітве пад Монтэ-Касіна.

*Рознае тут гавораць, але баюся (неразб.), што будуць надта «шумець», і гэта перад канферэнцыяй у Балгарыі і ў Югаславіі. Са здароўем трохі лепей. Ямо толькі прадукты з крамы. Мы пераканаліся, што так найлепш. У нас вялікая радасць. Знайшліся дзеці майго брата-андэрсоўца. Да знаёмых у Брусэлі прыйшоў трэці сын брата Алекс (як і брат). Здаецца, вельмі інтэлігентны 20-гадовы хлопец. Усяго іх 6 братоў і сястра. Аніводнай славянскай мовы не ведаюць. Алекс добра размаўляе па-французску. Шукаў нас. У Бельгіі быў як сакратар нейкага пасольства на еўрапейскай канферэнцыі. Быў нядоўга, бо вяртаўся ў Лондан. Горш тое, што іх брат развёўся з іх маці, і ўжо мае другую сям'ю. Маю адрас Алекса і яго маці. Ужо напісала з чужой дапамогай. Я на каленях дзякавала добраму Богу, што захаваў наш род. Хлопец хоча прыехаць сюды і да сына на наступны год. Баюся, што яго сюды не пусцяць. Добра, што цяпер наш сын будзе не адзін. Нага мая ўжо не баліць. Не атрымліваю таксама лістоў ад сваіх далёкіх сяброў. Увогуле, вельмі мала маю лістоў, з Польшчы ідуць часам цэлы месяц! Казала пра гэта, то цяпер увогуле — знікаюць! Прыгожа цвітуць цюльпаны, як ніколі! Гляджу на кветкі і адчуваю мудрасць і любоў Стварыцеля. Неяк нічога, нічога не баюся. Аднаго разу ў краме паказаў на мяне адзін хуліган іншаму. Той адвярнуўся і пастанавіў: «пусть ещё поживёт», таму можаце сабе ўявіць, як мне тут хораша, на нашай дарагой зямлі дзядоў і прадзедаў.*

*Сёння пасадзіла памідоры. Вельмі чакаю ўнукаў. Але баюся, сапраўды баюся нявесткі. Яна і надалей застаецца грамадзянкай СССР і не стала, на жаль, нашым сябрам. Паходзіць з сям'і баптыстаў, але суадносіць гэта неяк з любоўю да сіл «прогрессивных».*

*Дарагі Ойча, зычу Айцу добрага здароўя і шмат-шмат сіл. Прашу часам узгадаць пра нас у сваіх малітвах. Я гэта адчую і будзе мне лягчэй. Вельмі радуюся, што маю ў сябрах Айца і Айца Станіслава, да якіх магу хоць у думках звярнуцца.*

*Прашу не забывацца пра мяне, бо Бог яго ведае як тут усё складзецца.*

*З павагай і шчырасцю да Айца.*

*Ларыса Геніюш.*

## Ліст 6

На капэрце:

3.VII.1977 (рукой ксяндза).

Ojcu M. Woronieckiemu w Rużanach (przez grzeczność).

Zelwa, 3/VII. 77 r.

Wielebny Ojcze!

Zawsze cieszy nas kiedy słyszymy, że Ojciec jest zdrów, że wszystko jest spokojnie, dobrze. Żałuję tylko że nie mogę przyjechać, zobaczyć się z Ojcem. Mężowi znowu jest gorzej. Denerwuje się że choroba nie ustępuję, że wnuk Michaś nie barzo słucha rodziców, że jest mało listów od dzieci i t.p. Radością jest list od żony brata, od dzieci. Są po całym świecie. Ryszard jest z żoną w Australii, Robert teraz w Nigeryi, Janina jedzie na lato do Francji. Mali chłopcy są przy matce. Listy są serdeczne, ciepłe. Gorżej jest to że prawie nie znam angielskiego. Bardzo niepokoje się o męża. Dziś nie byłam nawet w cerkwi, bo czuł się źle, i w ogóle mojej nieobecności nie znosi.

Zawszę myślę że Wasze z Ojcem Stanisławem dobre życzenia i modlitwy są z nami, że nie jesteśmy już aż tak bardzo samotni. Tu też teraz odnoszą się do nas z większą uwagą, choć mało kiedy zwracam się do nich z prośbą. Ostatnio prosiłam o opał z lasu, bo piece są stare i i węgiel w nich źle się pali. Mąż raz na 10 dni trochę chodzi do ambulatorium.

Z powrotem go przywożą. O jutrze nie myślę bo co już Pan Bóg da. Czasem są listy od dalekich przyjaciół. Z Mińska teraz nie pisze nikt. Bardzo już jesteśmy „strzeżeni" aż śmiech bierze z tego. Jak dobrze że jest w naszym życiu Chrystus, jak wzór dla nas jak żyć, i jak cierpieć i spodziewać się na co. Jednym słowem, Ojcze drogi staramy się do końca być ludźmi, jak nas uczono kiedyś. Życzę Ojcu wszystkiego dobrego od Boga i będę wdzięczna losowi kiedy Was uwidzę u siebie. Mąż mój serdecznie Ojców podrawia. Zawsze oddana Łarysa Geniusz.

*Вялебны Ойча!*

*Мы заўсёды вельмі радуемся, калі чуем, што Айцец здаровы, што ўсё спакойна і добра. Шкадую толькі, што не магу прыехаць убачыцца з Айцом. Мужу ізноў горш. Разражняецца, што хвароба не адступае, што ўнук Міхась не вельмі слухаецца бацькоў, што мала лістоў ад дзяцей і г. д. Радасцю з'яўляюцца лісты ад жонкі брата, дзяцей. Раскіданыя па ўсім свеце. Рышард з жонкай у Аўстраліі, Роберт цяпер у Нігерыі, Яніна едзе на лета ў Францыю. Малыя хлопцы пры маме. Лісты заўсёды цёплыя, сардэчныя. Дрэнна тое, што я амаль не ведаю ангельскай. Вельмі непакоюся пра мужа. Сёння не была нават у царкве, бо дрэнна сябе адчуваў, і ўвогуле не пераносіць маю адсутнасць.*

*Заўсёды думаю, што Вашы з Айцом Станіславам добрыя пажаданні і малітвы з намі, што мы не зусім адны. Тут цяпер адносяцца да нас з большай увагай, хоць я амаль не звяртаюся да іх з просьбамі. Апошні раз прасіла дроваў з лесу, бо печкі старыя і вугаль у іх дрэнна гарыць. Муж раз на 10 дзён пацыху ходзіць у амбулаторыю. Назад яго прывозяць. Пра заўтрашні дзень я ўжо не думаю, што Пан Бог дасць. Часам прыходзяць лісты ад далёкіх сяброў. З Мінска цяпер ніхто не піша. Надта ж мы ўжо «ахоўныя», яж смех разбірае. Як добра, што ёсць у нашым жыцці Хрыстос, як узор для нас як жыць, і як цярпець, і спадзявацца на штосьці. Адным словам, дарагі Ойча, стараемся да канца заставацца людзьмі, як нас калісьці вучылі. Зычу Айцу ўсяго добрага ад Бога і буду ўдзячна лёсу, калі Вас убачу ў сябе. Муж мой перадае сардэчнае прывітанне Айцам. Заўсёды Ваша Ларыса Геніюш.*

**Ліст 7**

На капэрце:
19. VIII.1977 (рукой ксяндза).
Ojcu Michałowi Woronieckiemu w Rużanach
Лариса Генюш (рукой ксяндза).

Zelwa 19/VIII. 77 r.

Wielebny Ojcze!

Wciąż myślę o tym jak to w ciężką chwilę czasem posyła Pan Bóg dobrych i drogich ludzi w nasz dom. Było mnie miło widieć Ojców u siebie i było to bardzo potrzebne. Dziękuję za to że przynieśliście nam przyjaźń swoją, szczere i dobre słowo. Przez parę dni przyjechali Dzieci i Wnucy. Chudzi, zmęczeni, zapracowani, zabiegani. Jeszczę śpią. Jutro odjeżdżają. Syn nawet nie wychodził z domu. Trochę sprzeczali się z Ojcem na temat medycyny, bo mąż to jest taki przyczepialski, trochę zły. A w ogóle jest dobrze że choć trochę byliśmy razem pod jedną strechą. Michaś starszy barzo ciekawi się Pismem Świętym. Często coś cytuje. Jest naprawde przystojny i to nagania strach na nas bo życie jest życie. Mały chodził po mleko i kupił u dzieci pieska za 5 kopiejek! Piesek jest śliczny i wszyscy mają radość z niego. Do tego jest już u nas trzy koty!

Proszę Boga żeby i ich chronił, żeby prostował ich zawiłe życiowe drogi. Przesyłamy podziękowanie i najlepsze życzenia Ojcu Stanisławowi. Jak dobraliście się do domu? Będziemy szczęśliwi jeszcze niegdyś widzieć drogich Ojców w swoim domu. Z wdzięcznością i wielkim szacunkiem, Geniuszowie.

*Вялебны Ойча!*

*Усё думаю пра тое, як у цяжкія хвіліны часам пасылае Пан Бог добрых і дарагіх людзей у наш дом. Прыемна мне было бачыць Айцоў у сябе, і было гэта вельмі патрэбна. Дзякуй за тое, што прынеслі ў наш дом сяброўства сваё, шчырае і добрае слова. Праз некалькі дзён пасля прыехалі дзеці і ўнукі. Худыя, замучаныя, запрацаваныя, забеганыя. Яшчэ спяць. Заўтра ўжо паедуць. Сын нават не выходзіў з дому. Трохі спрачаўся з бацькам на медыцынскія тэмы, бо муж такі ўедлівы, трохі злы. А ўвогуле добра, што хоць трохі мы пабылі разам пад адным дахам. Старшы, Міхась, вельмі цікавіцца Святым Пісьмом. Часта нешта цытуе. Ён сапраўды вельмі прыгожы, і гэта выклікае ў нас страх, бо жыццё — гэта жыццё. Малы хадзіў па малако і купіў у дзяцей шчанюка за 5 капеек! Шчанюк вельмі мілы і ўсіх вельмі весяліць. Да таго ў нас ужо ёсць тры каты!*

*Прашу Бога, каб іх захаваў, каб рабіў роўнымі іх заблытаныя жыццёвыя шляхі. Дасылаем падзяку і найлепшыя зычэнні Айцу Станіславу. Як вы дабраліся дадому? Будзем шчаслівыя яшчэ калісьці бачыць Айцоў у нашым доме. З удзячнасцю і вялікай павагай Геніюшы.*

**Ліст 8**

На капэрце:
29.IX.1977 po wizycie z ks. Staniaławem Łazarem z Brześcia (рукой ксяндза).
Wielebny Ojciec Michał Woroniecki w Rużanach

Zelwa, 29/IX. 77 r.

Drogi Ojcze Michale!

Pada deszcz, kroczy jesień smutna i zmuszająca do kontemplacji. Mam dziś okazję powinszować Ojca z dniem św. Michała. Z dniem Patrona. Niech Ojcu wszystko sprzyja od zdrowia zaczynając. Niech praca Pasterza przynosi płody ludziom i dodaje im sił w bezdrożu.

U nas wszystko na oko spokojnie, a w gruncie rzeczy bardzo jakoś dziwnie. Listy od dzieci brata z Anglii w ogóle nie przychodzą! Niepokoimy się bardzo. Dostaliśmy zaproszenie do Detroitu[16]. Opłacają nam podróż. Nam tu radzą nawet nie rozpoczynać starań w tym kierunku, żeby nie poszkodzić sobie jeszcze bardziej. Mężowi nie jest lepiej, ale i gorzej mu nie jest. Mnie mocno boli głowa, źle z serdcem. Wiem, że trzeba jeszcze trochę wytrzymać, coś jeszcze powiedzieć, napisać, dlatego staram się jeszcze żyć, choć najmniejszego strachu nie mam przed odejściem na zawsze. Zdaje się, że zmęczyłam się trochę. Z ciekawością obserwuję czyny polskiego duchowieństwa. To jest wspaniałe i inaczej nie można! Wokół mnie dużo intryg, ale wszystko przychodzi do norm, bo podstaw dla prześladowania naprawdę nie ma. Gorzej to że czasem prześladują bez powodu. U dzieci tym czasem spokojnie. Starszy wnuk Michaś był w letnim obozie baptystów w Gdańsku (matka jest baptystką). Jest przesiąknięty chrześcijańskim duchem. Nadal jest prawosławnym. Sama krętemi uliczkami zaniosłam go aby ochrzcić, i dziś proszę Boga żeby ich nie opuszczał. Wystawieni są na niebiezpieczeństwa zewsząd, bo są moimi wnukami. Dziś zauważa się

[16] Верагодна, ад Людмілы Бакуновіч, з якой паэтку звязвалі прыяцельскія адносіны.

wielki wpływ wiecznej chrześcijańskiej mądrości na intelektualne życie inteligencji. Z rostem humanizmu i kultury w ogóle trudno już pominąć Chrystusa — Prawdę — Prawd. Często myśle — co będzie jutro? Mało gdzie wychodze i nikt u nas nie bywa, ale odczuwam jakąś nieufność „silnych" naszego czasu. Tym czasem wszelka moja czynność ogranicza się do pielęgnowania chorego, kapryźnego i nie zawsze rozumiejącego drastyczność dzisiejszego dnia męża. Chcę temu podołać, a tam dalej co już Bóg pośle. Ojcze Michale, gdy mnie jest najgorzej, ja myślę o was życzliwych i dobrych, i mnie jest lżej być sobą. Dziękuję Ojcom za życzliwość i przyjaźń. Rozmawiam z jesienią, z deszczem i z niebem. Mało czytam i mało kogo widuje z ludzi. Postarali się o to aby zerwać nam wszystkie kontakty ze światem. Okazują na nas palcami jak na tych, co nie kochają, nie chcą rozumieć „dosiągnięć" dzisiejszej rzeczywistości tu na ziemi naszych przodków. Niech dobry Bóg przedłuży Ojcu dni, a ja dziękuję Ojcu za to że Ojciec jest skałą o którą mogę się duchowo oprzeć kiedy mnie wszystko zawodzi i tylko jakaś wielka i światła prawda nakazuje być dobrą, wyrozumiałą i wytrwać. Tak chciałabym być w kościele w ten dzień. To jest niemożliwością ale możliwe jest miłować, myśleć i być duszą z dobrymi ludźmi dopóki jesteśmy żywi. I za to dzięki Bogu! Serdecznie pozdrawiamy Ojca Stanisława i polecamy się waszej pamięci i choć czasem modlitwie.

Wasi Geniuszowie.

P. S. Jeszcze raz dziękuję za miłą wizytę.

*Дарагі Айцец Міхал!*

*Ідзе дождж, крочыць сумная восень, якая змушае да сузірання. Маю сёння аказію павіншаваць Айца з днём святога Міхала. З днём Апекуна. Няхай усё Айцу спрыяе, ад здароўя пачынаючы. Няхай праца Пастыра прыносіць плён людзям і дадае ім сілы на бездарожжы.*

*У нас усё выглядае нібыта спакойна, а насамрэч неяк дзіўна. Лісты ад дзяцей брата з Англіі ўвогуле не прыходзяць! Вельмі непакоімся. Мы атрымалі запрашэнне ў Дэтройт. Падарожжа нам аплацяць. Нам тут раяць нават не пачынаць спрабаваць дзейнічаць у гэтым кірунку, каб не нашкодзіць сабе яшчэ больш. Мужу не становіцца лепш, але і горш не становіцца. Мне моцна баліць галава, дрэнна з сэрцам. Ведаю, што трэба яшчэ трохі вытрымаць, штосьці яшчэ сказаць, напісаць, таму стараюся яшчэ жыць, хоць аніякага страху не маю ў сабе перад адыходам назаўсёды. Здаецца, што стамілася трохі. З цікавасцю назіраю за дзеяннямі польскага духавенства. Гэта цудоўна і інакш не можна! Навокал мяне шмат інтрыг, але ўсё ўваходзіць у норму, бо падставаў да пераследу сапраўды няма. Горш тое, што часам пераследуюць без прычыны. Тым часам у дзяцей усё спакойна. Старэйшы ўнук Міхась быў у летнім лагеры баптыстаў у Гданьску (яго маці — баптыстка). Ён прасякнуты хрысціянскім духам. Застаецца праваслаўным. Сама занесла яго заблытанымі вулачкамі, каб пахрысціць, і сёння прашу Бога, каб Ён іх не пакідаў. Яны падвяргаюцца небяспецы адусюль, бо яны мае ўнукі. Сёння бачны вялікі ўплыў вялікай хрысціянскай мудрасці на інтэлектуальнае жыццё інтэлігенцыі. З развіццём гуманізму і культуры ўвогуле цяжка ўжо абмінуць Хрыста — Праўду — Праўд. Часта думаю — што будзе заўтра? Мала куды выходжу, і ніхто ў нас не бывае, але адчуваю нейкі недавер з боку «моцных» нашага часу. Тым часам уся мая актыўнасць зводзіцца да догляду за хворым, капрызным і часта не разумеючым суровасць сённяшняга дня мужа. Хачу з гэтым справіцца, а там далей што ўжо Бог спашле. Ойча Міхале, калі мне зусім дрэнна, то я ўспамінаю пра вас, зычлівых і добрых, і лягчэй мне тады быць сабой. Дзякую Айцам за зычлівасць і сяброўства.*

*Размаўляю з восенню, з дажджом і небам. Мала чытаю і мала каго бачу з людзей. Пастараліся абарваць нам усе кантакты са светам. Паказваюць на нас пальцамі, як на тых, якія не любяць, не разумеюць «дасягненняў» сённяшняй рэчаіснасці тут, на зямлі нашых продкаў. Няхай Добры Бог прадоўжыць Айцу яго дні, а я дзякую Айцу за тое, што Айцец з'яўляецца той скалой, на якую я магу духоўна абаперціся, калі мяне ўсё падводзіць, і толькі нейкая вялікая і светлая праўда наказвае быць добрай, разумеючай і вытрымаць. Вельмі хацела б быць сёння ў касцёле. Гэта немагчыма, але магчыма любіць, думаць і душой быць з добрымі людзьмі, пакуль мы жывыя. І за гэта Дзякуй Богу! Перадаем сардэчныя прывітанні Айцу Міхалу і даручаем сябе вашай памяці і хоць часам малітве.*

*Вашы Геніюшы.*

*P. S. Яшчэ раз дзякуй за прыемны візіт.*

**Ліст 9**

На капэрце:
"i ostatni mój wiersz" 19.XII.1977 (рукой ксяндза).
Пружанский р-н
Ружана
Первомайская № 12
Воронецкий Михаил
/ 231930 Л.

***Паштоўка***

Zelwa 1977–78 r.

Wielebny i drogi Ojcze!

Zasyłamy Ojcu najlepsze nasze życzenia świąteczne, a Nowy Rok niech Ojcu przyniesie dobre zdrowie i radość z ofiarnej i wzniosłej pracy dla ludzi. Byliśmy radzi widzieć Ojca w naszym domu. Jeszcze chodzimy, myślimy, znaczy — żyjemy!

Z głębokim szacunkiem,

Geniuszowie.

P. S. Załączam ostatni swój wiersz.

*Вялебны і дарагі Айцец!*

*Дасылаем Айцу нашы найлепшыя святочныя зычэнні, а Новы год няхай Айцу прынясе добрае здароўе і радасць з ахвярнай і ўзнёслай працы для людзей. Мы былі рады бачыць Айца ў нашым доме! Яшчэ рухаемся, думаем, а значыць — жывем!*

*З глыбокай павагай*

*Геніюшы.*

*P. S. Дадаю апошні свой верш.*

***Верш*** (асобны аркуш, друкаваны на машынцы)

З НАМІ БОГ

Каляда, Каляда, зьзяе зорка ўрачыста[17],
Блаславенная ўзнёсласьць славутых хвілін,

[17] Гэтаксама, як і ў папярэднім выпадку, тэхнічныя магчымасці машынкі не дазвалялі прастаўляць *ў*. Паўсюль выкарыстана *у* і прапіснае *і* (*I*).

У скромных ясьлях ляжыць ля Марыі прачыстай
Богам пасланы, нованароджаны Сын.

Ад шчасьлівай Сямейкі сьвятло праменее,
Пастушкоў пакланеньні, дары каралёў,
Слова сталася целам, збыліся надзеі,
Абяцаны Сын Божы на землю прыйшоў.

Чаму столькі трывог, чаго Ірад баіцца,
Цар магутны, азброяны сёння дрыжыць,
А Дзіцятку ідуць мудрацы пакланіцца,
Што ля Маці ў ясьлях быдлячых ляжыць.

Ён не зброяй прыйшоў заваёўваць дзяржавы,
На чало залатую карону надзець,
Яму з церняў наложаць карону няслаўна,
Ведучы ў страшны час на пакутную сьмерць.

За людзей будзе сьведама йсці на распяцьце,
І пакорна ўспрыме назначаны лёс,
Навучаць будзе сьвет, што ўсе людзі ёсьць брацьця,
І што роўныя ўсе перад БОГАМ з нябёс!

Яго моц у дабрыні, Яго сіла у слове,
Што плыве з найсьвяцейшых, прачыстых крыніц,
Яго веліч ў цярпеньні, у няземскай любові,
— Ён любоўю прыйшоў гэты сьвет пакарыць.

Нават у дарозе пакутнай, знешняй,
Калі ўся ад гневу зямля задрыжыць,
Пад крыжа свайго непасільнай ношай,
Ён род чалавечы паблагаславіць...

І не ўпадзе ніхто у яго абароне,
Ён стане найболей нявіннай з Ахвяр,
І Яго толькі кроў з-пад цярнёвай кароны,
Сплыве кроплямі болю на змучаны твар!

Ён з мёртвых устане, уваскрэсьне з магілы,
Любоў пераможа і лютасьць, і здзек,
І будзе магутнай духоваю сілай,
З Маці народжаны БОГ-ЧАЛАВЕК!

Мінаюць вякі, а змаганьне трывае,
Зло з дабром ў людзкіх сэрцах сутычкі вядуць,
Усе адныя сурова Яго распінаюць,
А другія, як Ён, на пакуты ідуць.

Ён не сеяў крыві, а лагодзіў цярпеньні,
Ён не нішчыў, а мёртвых к жыцьцю падымаў,
І ісьці будуць людзі за ім ў захапленні,
Бо інакшай дарогі да міру няма!

Несьці людзям дабро і любоў сеяць у сэрцы,
І ахвярна за ўсіх на пакуты пайсьці,
Гэта веліч і чын непадуладныя сьмерці,
Наша вера і шчыт чалавечы ў жыцьці!

Што ж, забіць, укрыжаваць, эта не перамога,
А канец сярод страшных, бясконцых трывог,
А за людзкасьць сканаць сьмерць, дастойная БОГА,
І найбольшая ў сьвеце з усіх перамог!

А пакуль зьзяе зорка, Вячэра, калядкі,
І вялікае Сьвята прыйшло на парог,
Туліць ў ясьлях Марыя Сьвятое Дзіцятка,
І пяюць пастушкі: з намі БОГ, з намі БОГ!

(Падпісана рукой: Ларыса Геніюш 1977–78 г.)

**Ліст 10**

На капэрце:
20.III.1978 (рукой ксяндза).
225154
Р-н Пружаны,
г/п. Ружаны,
ул.Первомайская 12
М. Воронецкий
/ 231930

***Паштоўка***

Zelwa 1978

Serdecznie winszujemy drogiego Ojca ze Świetem Pańskiego Zmartwychwstania! Z miłością do Ojca i glębokim szacunkiem

Geniuszowie.

*Сардэчна віншуем дарагога Айца са Святам Уваскрасення Пана! З любоўю да Айца і глыбокай пашанай Геніюшы.*

***Ліст***

Zelwa 20/III. 78 r.

Drogi Ojcze!

Życzymy Ojcu Wesołych Świąt! Dobrego zdrowia, radości z pracy szlachetnej i wzniosłej, pogody ducha w dzień Pańskiego Zmartwychwstania i zawsze! A miła książeczka leży na moim stole i często po nią wyciągam rękę. Jest przyjacielem dla mnie jakich postracałam narazie w życiu.

Zimą oboje poważnie chorowaliśmy. Doglądałam, mimo wszystko, męża. Jest teraz bardzo kapryźny, często niesprawiedliwy i niedelikatny. Kiedy mnie jest bardzo potrzebne czyjeś rozumne słowo i przyjazna ręka i ja się zwracam do książek. One tylko rozwiewają zmierzch i znowu robi się — jasno. Wczoraj płakałam. Tak mało znam angielski, że nie mogłam przeczytać listu od synowej mego brata, Kim. Powiadomiła nas, że mają dziecko, syna, i nazwali go Jan-Tomas. Robert teraz pracuje w Nigeryi i ma wrócić do domu. „He

is a diver" — pisze Kim. Ja zrozumiałam że Robert (najstarszy syn brata) jest księdzem. U nas w gimnazium był język niemiecki, łacina. Angielski znam tylko z kursów a uczyć się już późno. Widocznie dlatego płaczę. Jestem bardzo szczęśliwa, że gdzieś żyją, rodzą się moi krewni i że starają się choć duchowo być z nami. U dzieci narazie wszystko dobrze. Michaś, starszy wnuk, kończy w tym roku liceum i marzy o tym jak postąpić na weterynarię... Nie chce być lekarzem jak ojciec i dziadek. Podobały się im moję noworoczne wiersze. Było ich trzy. Jesteśmy bardzo sami. Czasem troche pomaga Zosia[18], ale niechętnie... Raptownie zdechł nam nasz sliczny pies-owczarka, i nasze котki. W psu straciliśmy przyjaciela. Pada śnieg trochę. Na duszy jest spokojnie i biało. Ojciec się napewno przemęczył. Jak ze zdrowiem? Jak czuje się drogi ks. Stanisław? Nie miałam od niego odpowiedzi, więc nie piszę. Pozdrawiamy go! Z glębokim szacunkiem do Ojca, Geniuszowie.

*Дарагі Ойча!*

*Жадаем Айцу Вясёлых Святаў! Добрага здароўя, радасці з працы шляхетнай і ўзнёслай, добрага настрою у дзень Уваскрасення Пана і заўсёды! А мілая кніжачка ляжыць на маім стале і часта да яе звяртаюся. Яна мой сябар, якіх я шмат цяпер пагубляла ў жыцці.*

*Зімой мы абое сур'ёзна хварэлі. Даглядала, нягледзячы ні на што, мужа. Ён цяпер вельмі капрызны, часта несправядлівы і недалікатны. Калі мне вельмі патрэбнае чыёсьці разумнае слова і сяброўская падтрымка, я звяртаюся да кніжак. Яны рассейваюць змрок, і зноў становіцца светла. Учора плакала. Так дрэнна ведаю ангельскую мову, што не магла прачытаць ліст ад нявесткі майго брата, Кім. Яна напісала, што ў іх ёсць дзіцятка, сын, і назвалі яго Ян Томас. Роберт цяпер працуе ў Нігерыі і павінен вярнуцца дадому. «He is a diver», — напісала Кім. Я зразумела, што Роберт (старэйшы сын брата) — ксёндз. У нас у гімназіі была нямецкая мова і лаціна. Ангельскую ведаю толькі з курсаў, а вучыцца ўжо позна. Напэўна, таму плачу. Я вельмі шчаслівая, што недзе жывуць, нараджаюцца мае родныя і што стараюцца хоць духоўна быць з намі. У дзяцей цяпер усё добра. Міхась, старэйшы ўнук, заканчвае ў гэтым годзе ліцэй і марыць аб тым, як паступіць на ветэрынарыю... Не хоча быць доктарам, як бацька і дзед. Спадабаліся ім мае навагоднія вершы. Было іх тры. Мы вельмі самотныя. Часам дапамагае Зося, але не хочучы... Нечакана здох наш прыгожы сабака-аўчарка і нашыя коткі. У сабаку мы страцілі сябра. Трохі сыпле снег. На душы спакойна і бела. Айцец, напэўна, стаміўся. Як са здароўем? Як сябе адчувае дарагі ксёндз Станіслаў? Не было ад яго адказу, таму не пішу. Перадаем яму прывітанні! З глыбокай павагай да Айца Геніюшы.*

[18] Зося Каліноўская, жыхарка Зэльвы.

**Ліст 11**

На капэрце:

Od p. Łarysy Geniusz poetki i jej męża. Poetka białoruska niezależnego myślenia i słowa. Zelwa 27.III.1978 (рукой ксяндза).

225154 р-н Пружаны

Ружаны,

ул. Первомайская

Михаил Воронецкий

/ 211930

***Паштоўка 1***

Życzymy pomyślności Ojcu Michałowi na tej światłej drodze szerzenia miłości, światła i zgody między ludźmi żeby rozum pokonywał instynkty i zwyciężała prawda i dobro... Ogrome dosiągnięcia chrześcijańskiej kultury są jak szlachetny metal którego nie zdoła zniszczyć ni rdza ni czas. Przetrwa jak prawda! Ludziom potrzebny Ojciec.

*Зычым усяго найлепшага Айцу Міхалу на гэтай светлай дарозе пашырэння любові, святла і згоды паміж людзьмі, каб розум перамагаў інстынкты і перамагала праўда і дабро... Агромныя дасягненні хрысціянскай культуры — гэта як каштоўны метал, якога не здолее знішчыць ані іржа, ані час. Вытрымае, як праўда! Людзям патрэбны Айцец.*

***Паштоўка 2***

Zelwa 27.III.78 r.

Życzymy Ojcu dużo plonnych, szczęśliwych lat życia! Życzymy zdrowia i twórczej pogody ducha!

Żyjemy tu we wzajemnej trwodze o zdrowie i życie. Jeżeli nadarzy się możliwość bez uszczerba kapłańskim obowiązkom Ojców to b.prosimy nie zapominać o nas. Jesteśmy tu na łasce Boga zawsze w ufności że zło nas nie zniszczy, chociaż ono nas nie omija. Trzymamy się wierząc w dobro na ziemi pomimo wszystko.

Z głębokim szacunkiem Geniuszowie.

*Зычым Айцу шмат плённых, шчаслівых гадоў жыцця! Зычым здароўя і творчага настрою!*

*Жывем тут ва ўзаемным клопаце пра здароўе і жыццё. Калі атрымаецца без шкоды для святарскіх абавязкаў Айцоў, то вельмі просім не забывацца пра нас. Мы тут жывем ласкай Божай, заўсёды ў даверы, што зло нас не знішчыць, хоць яно нас і не абыходзіць. Трымаемся, верачы ў дабро на зямлі, нягледзячы ні на што.*

*З глыбокай павагай Геніюшы.*

**Ліст 12**

На капэрце:
Łarysa Geniusz 15.VI. 1978 (рукой ксяндза).
225154
р-н Пружаны
Ружаны,
ул. Первомайская 12
Михаил Воронецкий
/ 211930

Zelwa 15/VI. 78 r.

Ojcze wielebny!

Zasyłam Ojcom najserdeczniejsze pozdrowienia. Dziękuję za pamięć, która krzepi mnie, dodaje sił. Czujemy się odpowiednio naszemu wiekowi plus choroby i inne dolegliwości. Na chleb wystarcza, dzieci i wnucy czasem piszą. Inaczej prawie nie mamy listów. Cała moja uwaga jak Ojciec widział skierowana na to żeby jakoś-takoś czuł się mój mąż. Robią nam czas od czasu injekcje czegoś od serca i in. Chciałabym to serce mieć lepsze. Inaczej jesteśmy tu jak w worku i żadne sprawy do nas nie dochodzą. Pogorzyła się pogoda i oboje mocno to odczuwamy. Wnuk nasz zdał maturę tymczasem a jak z nim będzie dalej naprawdę nie wiemy. Życzyłabym mu inną mieć babcię... Oczekujemy ich latem i proszę Boga żeby się skońcył ten „jaszczur". Podobno niegdyś się skończy i nasi będą mogli przyjechać.

Cieszę się praciwotością (oprócz pasterskiej) i rozmaitością zaciekawień Ojca. Wasz region jest b.ciekawy swoją pozostałością starej architektury, takiej nie standartowej, pełnej natchnienia. Obecnie czytam Raspucina „Pożegnanie z Maciorą". Wprost „wywraca" duszę. Pisze b.dobrze. Odczuwa się tam sumienie.

Kwitną piwonje. Są śliczne i jest ich dużo. Jeśli ma Ojciec cybulki tulipanów to proszę mnie trochę przywieźć ze sobą. Mogą być zwyczajne. Zawsze będą inne niż moje. Wzamian dam Ojcu swoich.

Bardzo, barzo czekamy na przyjazd drogich Ojców. Serdecznie dziękuję za modlitwę, za duchową opiekę i życzę Ojcom dobrego zdrowia. Cieszę się że jest choć jeden nowy kapłan! Szczęść mu Boże! Jestem jakoś dobrej myśli. Tyle pokoleń złożyło się żeby człowiek był człowiekiem i to ma swój skutek. Pozdrawiamy Ojców serdecznie i bardzo czekamy. Zawsze pelni szacunku Łarysa i Jan Geniuszowie.

*Ойча вялебны!*

*Дасылаю Айцам самыя шчырыя прывітанні. Дзякую за памяць, якая ўмацоўвае мяне, дадае сілаў. Мы адчуваем сябе адпаведна з узростам плюс хваробы і іншыя недамаганні. На хлеб хапае, дзеці і ўнукі часам пішуць. Больш практычна не атрымліваем лістоў. Уся мая ўвага, як Айцец бачыў, скіравана цяпер на тое, каб хоць больш-менш адчуваў сябе мой муж. Робяць нам час ад часу ін'екцыі чагосьці ад сэрца і іншага. Хацела б я гэтае сэрца мець трохі лепшае. У астатнім мы тут як у мяху, і ніякія справы да нас не даходзяць. Пагоршылася надвор'е, і абое моцна гэта адчуваем. Унук наш тым часам здаў выпускныя экзамены, а што з ім далей будзе — сапраўды не ведаем. Я б яму жадала мець іншую бабулю... Чакаем іх летам, і я прашу Бога, каб скончыўся той «яшчур». Здаецца, некалі скончыцца, і нашы змогуць прыехаць.*

*Цешуся працавітасцю (апрача пастырскай) і разнастайнасцю зацікаўленняў Айца. Ваш рэгіён вельмі цікавы сваімі помнікамі архітэктуры, такой нестандартнай, поўнай натхнення. Я цяпер чытаю Распуціна «Развітанне з Мацёрай». Проста выварочвае душу. Піша вельмі добра. Адчуваецца там сумленне.*

*Квітнеюць півоні. Вельмі прыгожыя і іх шмат. Калі мае Айцец цыбулькі цюльпанаў, прашу прывезці мне трохі. Могуць быць самыя простыя. Усё адно будуць іншыя, чым мае. Узамен дам Айцу сваіх.*

*Вельмі, вельмі чакаем прыезду дарагіх Айцоў. Сардэчна дзякую за малітву, за духоўную апеку і зычу Айцам добрага здароўя. Цешуся, што ёсць хоць адзін новы святар! Шчасці яму Божа! Пераканана, што ўсё будзе добра. Столькі пакаленняў складася, каб чалавек быў чалавекам, і гэта мае свае вынікі. Перадаём прывітанні Айцам і вельмі чакаем. Заўсёды поўныя павагі Ларыса і Ян Геніюшы.*

**Ліст 13**

На капэрце:
17.X.1978 (рукой ксяндза).
225154
Ружаны,
р-н Пружана
ул. Первомайская № 12
Михаил Воронецкий
/ 211930

Zelwa, 17/X 78 r.

Wielebny i drogi Ojcze!

Jest śliczny jesienny dzień. Uroczyście wyglądają złotem rozmalowane drzewa. Jeszcze ciepło, łagodnie w przyrodzie i tak cicho, cicho. Nie mogę dzisiaj nie napisac Ojcu. Rozdzielam z drogim Ojcem radość i wzruszenie, że właśnie Polak teraz będzie błogosławił „urbi et orbi" z Watykanu, z apostolskiej stolicy[19]! Wielki to zaszczyt, równocześnie wielka odpowiedzialność przed całym światem chrześcijańskim i niechrześcijańskim. Wiem jak się wybiera papież i podobny wybór liczę wolą Boga.

Zarówno gonor jak i odpowiedzialność za sprawiedliwość, postęp i pokój w całym świecie spływa teraz na wszystkich którzy wierzą. Jestem dobrej myśli, ponieważ u steru stał człowiek, który dobrze zna wartość i dobra i zła. Szczęść Mu Boże!

Jest jeszcze rano. Mąż już wstał na śniadanie i widzę że czuje się lepiej. Czasem wychodzi na ganek, nawet potrafi dojść do bramki. Serdecznie dziękuję za list. Jeżeli będzie możliwość przyjechać do nas, to będziemy b.radzi widzieć Ojców u siebie. Trochę krępuję mnie to czy będę mogła akurat dostojnie i dobrze przyjąć drogich gości. Bywa różnie ale wiem że Wy wszystko mnie darujecie i atmosferę choroby w domu i skromny stół i smutku obrazki z naszego tu szarego codziennego życia. Ja, to zawsze dziękuję Bogu że jest tak, jak jest.

Dziś nie mogę o niczym innym myśleć jak o Janie Pawle II i o tem jakie to będzie mieć skutki w nasz niespokojny czas. Religia rozszerza spokój w duszach ludu, hamuje ich namiętności, i kieruje pastwę na drogę miłości, prawdy i pokoju, a tego dziś trzeba.

Jeszcze raz witam Ojca w tą wielką i wspaniałą chwilę, kiedy uroczyście oznajmiono zdziwionemu światu że znowu jest Papież! Bardzo chciałabym widzieć Ojców ale tylko jeśli to nie sprawi Ojcom trudności. Polecamy się pamięci i modlitwom Ojca i życzymy wszelkiej pomyślności. Zawste oddani Geniuszowie.

*Вялебны і дарагі Ойча!*

*Сёння прыгожы восеньскі дзень. Урачыста выглядаюць золатам размаляваныя дрэвы. Яшчэ цёпла, мякка ў прыродзе, і так ціха-ціха. Не магу сёння не напісаць Айцу. Падзяляю з Айцом радасць і ўзрушэнне, што цяпер менавіта паляк будзе блаславўляць*

[19] Гаворка пра абранне Караля Вайтылы Папам Рымскім (Ян Павел II) 16 кастрычніка 1978 г.

доўгімі цёмнымі вейкамі. Каб новая каляжанка ў Саюзе ня чулася нясвойска, ён у той вечар ёю заапекаваўся»[9].

Другая сусветная вайна перакроіла жыццёвыя планы Часлава Найдзюка, як і мільёнаў іншых людзей. Адданы беларушчыне, ён ідзе на працу ў цывільную адміністрацыю, створаную нямецкімі акупантамі ў Беларусі. Бліжэй да сваіх... Працуе міравым суддзёй у Вілейцы, узначальвае мясцовы аддзел Беларускай народнай самапомачы.

Паваенныя эміграцыйныя шляхі прыводзяць яго ў 1949 годзе ў Амерыку. Юрыдычная адукацыя, такімі вялікімі высілкамі набытая сялянскім сынам у прэстыжным універсітэце на Бацькаўшчыне, тут не мае ніякай цаны. Дыплом мае быць амерыканскі! Пачынаць уладкоўваць сваё жыццё давялося з нуля — вучыць ангельскую мову ды набываць нейкую прафесію, ужо сёння мець абы-якую працу дзеля кавалка хлеба і даху над галавой. Бо зваротнай дарогі няма. А людзі вакол жывуць спакойна, камфортна, знешне — бесклапотна... Сотні беларусаў-інтэлектуалаў сутыкнуліся тады з падобнымі праблемамі. Старэйшыя так і не здолелі высока падняцца па сацыяльнай лесвіцы. Пры тым, што матэрыяльна большасць уладкавалася някепска. Вядома, з часам. Часлаў пастаянна меў праблемы з працай. Мяняў месцы час ад часу, месяцамі быў беспрацоўны, стараўся крыху прафесійна падвучвацца вечарамі. А для душы актыўна займаўся грамадскай дзейнасцю. Ажыццяўляў, пафасна кажучы, місію свайго эмігранцкага пакалення: паставіць Беларусь на мапу свету. Ён належаў да так званай БЦРаўскай плыні, нават меў афіцыйную «пасаду» — прадстаўнік Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі на штат Каліфорнія[10]. Аднак у сапраўднасці яго праца не была вузкапартыйнай. Адчуваецца, што віленскае асяроддзе зрабіла яго сведамым і талерантным змагаром за агульнанацыянальныя інтарэсы. Часлаў Найдзюк праз усё сваё амерыканскае жыццё ўмела камунікаваў з прадстаўнікамі іншых нацыянальных груп, годна прадстаўляў Беларусь на розных мітынгах ды сустрэчах, выступаў свайго кшталту беларускім паслом «добрай волі» ў каліфарнійскім асяродку. І, разумеючы сілу друкаванага слова, пісаў інфармацыйныя нататкі для газетаў, у першую чаргу — для «Беларуса» (газета выдавалася якраз прадстаўнікамі БНРаўскай плыні, з якой паходзіла, уласна кажучы, і жонка Часлава). Ён шмат чытаў. Мясцовую прэсу, беларускую, польскую, часам — расейскую. Што траплялася. І пастаянна рабіў выразкі, цэлымі пачкамі рассылаў іх тым, каму, спадзяваўся, менавіта тая ці іншая публікацыя будзе цікавай ды карыснай. Пасылаў сябрам і знаёмым, уласным дзецям, калі яны пайшлі ў самастойнае жыццё.

Яго мяккі, спагадлівы характар быў даспадобы сямейнікам. Сваёй будучай жонцы, Юзэфе, ён зрабіў шлюбную прапанову на трэці дзень іх сустрэчы. (Праўда, перад тым яны нейкі час былі знаёмыя завочна, перапісваліся.) Калі ўжо дарослыя дзеці пыталіся ў бацькі, у чым сакрэт шчаслівага шлюбу, ён заўсёды адказваў: «Кампраміс ва ўсім, удзячнасць і павага, узаемная дапамога». Часлаў з малых гадоў браў дзяцей на розныя імпрэзы. Дзяўчаткі хадзілі абавязкова ў нацыянальных строях, удзельнічалі ў мастацкіх выступах — былі ўдзельніцамі беларускай танцавальнай групы, спявалі, чыталі вершы. Дзеці цанілі ягонае пачуццё гумару і любілі слухаць аповеды пра Беларусь або пра нейкія эпізоды ягонага ўласнага жыцця. Дачка Ядзя прыгадвае: «Мой бацька распавядаў мне: калі я нарадзілася, ён прыгожа апрануўся і акуратна прычасаўся, ідучы на першую сустрэчу са мною. Ён хацеў зрабіць на мяне добрае ўражанне. На жаль, я занадта моцна плакала, каб

[9] Жук-Грышкевіч, Раіса. Памяці Часлава Найдзюка // Беларус. — 1995. — № 423.

[10] Гл.: Гардзіенка, Алег. Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі (БККА). — Смаленск, 2009.

заўважыць у вакне майго прыгожага бацьку. Аднак, вядома, я заўважыла яго пазней, як і тыя іншыя, хто любіць яго, калі ён цярпліва чытаў маю любімую кнігу "Мільёны і мільёны катоў" мільёны і мільёны разоў»[11]. І Карнэля, і Віктар адзначаюць, што бацька (тата!) вучыў іх усяму, што ведаў сам, чытаў ім кнігі, вазіў на розныя заняткі, вучыў вадзіць машыну. Карнэля: «Побач з ім я заўсёды адчувала, што я самы важны чалавек у свеце»[11]. Віктар: «Думаю, што я маю падобны да яго характар — моцны маўклівы тып, упарты час ад часу, летуценнік»[11]. Маючы даволі сціплыя фінансы, Найдзюкі далі прыстойную адукацыю ўсім тром дзецям, а пазней дапамагалі падгадаваць унукаў. І далучалі іх да беларускасці таксама. Так, у студзені 1992 года газета «Беларус» змясціла нататку пра тое, што ў снежні ў дзіцячым садку Політэхнічнай школы ў Пасадэне выступілі Ядзя Найдзюк-Жэнэв'ер з дачкой Шарлотай і бацькам Чаславам. Апранутыя ў беларускім народныя строі, яны распавядалі пра беларускія калядныя традыцыі, спявалі калядкі[12]. (Зазначу, што падобныя сустрэчы — такое сабе рознанацыянальнае асветніцтва — вельмі папулярныя ў амерыканскім грамадстве дагэтуль.)

Дзесяцігоддзямі трымаць беларускасць Чаславе і Юзэфе было вельмі няпроста, бо жылі яны далёка ад месцаў масавага пасялення беларусаў, каліфарнійская грамада была нешматлікая, абазнаных у грамадскай працы было сярод суродзічаў мала. Таму ліставанне з рознымі людзьмі падмацоўвала, трымала ў інфармацыйным полі, выклікала пачуццё лучнасці з аднадумцамі. Словам, давала сілы чуцца патрэбнымі, рабіць беларускую справу, працаваць дзеля беларускай будучыні.

## ЮЗЭФА. СЦЕЖКАМІ ПРАЗ МЕЖЫ І РУІНЫ

На пачатку 1990-х, калі да шырокай грамадскасці ў Беларусі пачалі даходзіць весткі пра жыццё паваеннай эміграцыі, некаторыя імёны дзеячаў замежжа адразу абраслі міфамі і прыгожымі фантазіямі. Вось і Юзэфе «пашанцавала». «Вывучылася на радыстку, скакала з парашутам, параненая, цудам выратавалася...» Такая сабе «радыстка Кэт» з папулярнага савецкага серыяла або сяброўка героя Рычарда Гіра з амерыканскага фільма «Шакал». У рэальным жыцці аднак усё было не так кіношна прывабна, але не менш трагічна.

Юзэфа Брэчка (у шлюбе — Найдзюк) нарадзілася 1 лютага 1927 года ў Мазурках Ляхавіцкага павета. Бойкая, рухавая, з хлапечымі замашкамі, яна не ўседзела дома пасля заканчэння 7 класаў у Ляхавічах. Калі ў часе нямецкай акупацыі пачалі адчыняцца розныя навучальныя ўстановы (паводле дамовы паміж беларускім актывам і акупацыйнымі ўладамі вучні не падлягалі вывазу на прымусовыя працы ў Нямеччыну), Юзэфа Брэчка пайшла вучыцца ў Баранавіцкую гандлёва-адміністрацыйную школу. «Праграма навучання была разлічаная на чатыры гадавыя курсы. Два апошнія курсы рыхтавалі вучняў па спэцыяльнасьцях: стэнографы, адміністратары, тавазнаўцы, стэнографы-сакратаркі»[13]. «Уся школьная моладзь належала да СБМ (Саюза беларускай моладзі. — *В. Т.*). На зборках кіраўнікі вучылі любіць родную мову, літаратуру, гісторыю, вывучалі народныя і патрыятычныя песьні, гаварылі пра патрэбу змагацца за вольную і незалежную Беларусь»[14]. Калі ў 1944 годзе баранавіцкі беларускі актыў пакідаў горад, Юзэфа выехала разам

[11] Chaslav Najdziuk's Eulogy. — April 1, 1995. Часлаў Найдзюк памёр 28 сакавіка 1995 года.

[12] Беларус. — 1992. — № 386, студзень.

[13] Беларус. — 1992. — № 386, студзень.

[14] Юзэфа Найдзюк. Беларуская сярэдняя гандлёва-адміністрацыйная школа ў Баранавічах (1942–1944). Успаміны // Беларус. — 1993. — № 408.

з сям'ёй Хведара Шыбута[15]. (Ёсць меркаванне, што яна кватаравала ў гэтай сям'і.) У дарозе цягнік трапіў пад бамбёжку, і Юзэфа была параненая.

Працоўны лагер каля Трыера ў Заходняй Нямеччыне, дзе апынуліся ўцекачы, аднойчы наведалі вярбоўшчыкі з Дальвіца[16]. І Юзэфа запісваецца да іх на вучобу. Дзяўчат тут рыхтуюць для працы радысткамі пры будучых дэсантных аперацыях, даюць першасныя медыцынскія веды. (Юзэфа Брэчка прыехала ў Дальвіц у кастрычніку 1944 года.) Хоць хлопцы і дзяўчаты супольных заняткаў не мелі, яны пазнаёміліся між сабою і потым усё жыццё цікавіліся лёсам адзін аднаго. Мала ў каго ён стаўся шчаслівым. Хтосьці быў закінуты ў Беларусь з парашутам, хтосьці трапіў на Бацькаўчыну наземным шляхам — і апынуліся яны ў савецкіх турмах або лагерах. Шмат людзей згінула бясследна... «Канец вайны. Родзька[17] ўсіх сабраў і сказаў: "Дзяліцца на маленькія групы і хто куды хоча ісьці, гэта на ўсход ці захад. Падрыхтоўваць глебу для вайны з Саветамі". Бо польская прапаганда (у Лёндане) была: пакончаць з Гітлерам, пойдуць на Сталіна». <...> Недалёка граніцы савецка-амерыканскай нас саветы затрымалі і падзялілі: хлопцы асобна і дзяўчаты таксама паадзіночку. Безумоўна, нас уважалі за рабочых, бо мы былі адзеты цывільна і некаторыя рэчы вайсковыя. Мяне дапытваў і ругаўся на чым свет стаіць, выстрэліў у хаце навокал мяне па сцяне з "зоркі". Нарэшце спытаў, што я буду рабіць. Я адказала: "на Бацькаўшчыну пайду". А ён мне: "Ты ізменіла родзіны і з нашых рук ня выйдзеш, на родзіну не пайдзёш, а на белыя мядзьведзі". Адпусьціў мяне, я выйшла, і зараз жа да мяне падыйшла немка. Яна забрала мяне да сябе і дапамагла ўцячы на амерыканскую зону з сабою, бо яна бальшавікоў ненавідзела. Чаму яна мне такую прыслугу зрабіла, я і сяньня ня ведаю. Сказала ёй, што я беларуска. У дарозе я мусела "граць" ролю дурнаватай, глухаватай. Яна мяне адзела ў сьмешну вопратку, забараняла мыцца, бо каб бальшавікі пазналі, то яе і мяне павесілі б. Там бальшавікі над маладымі немкамі вельмі зьдзекаваліся. Станавіліся ў чаргу, ды яшчэ матак застаўлялі ўсё гэта глядзець»[18].

Апынуўшыся ў амерыканскай зоне, Юзэфа здолела адшукаць беларусаў у лагерах для перамешчаных асобаў, завяршыла сваю сярэднюю адукацыю — закончыла Беларускую гімназію імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне. Была актыўная там у грамадскім жыцці і скаўтынгу. Былыя навучэнкі гэтай гімназіі Юля Андрусышын (тады — Каханоўская) і Ала Орса-Рамана ў размове са мною прыгадвалі Юзэфу: «Была яна старэйшая ад нас, дык мы мала кантактавалі. Яна была нейкая дзіўнаватая... Маўчыць, маўчыць... А то раптам як засьмяецца, слухаючы нашыя размовы». Што ж, яе можна зразумець! Адзінокая, маючы такі страшны жыццёвы досвед, змушаная самастойна выжываць у зруйнаваным паваенным свеце, як магла яна не смяяцца з размоваў наіўных, дагледжаных мамчыных дачушак... У беларускай грамадзе таго часу было даволі шмат хлапцоў, якія выехалі з Беларусі самастойна. Дзяўчат такіх было значна менш.

---

[15] Хведар Шыбут (1900/1901–1990) падчас Другой сусветнай вайны працаваў у цывільнай адміністрацыі ў Беларусі, з 1944 года — у эміграцыі, належаў да БЦРаўскай плыні. У ЗША жыў з 1950 года, быў прадстаўніком Беларускага кангрэсавага камітэта Амерыкі на штат Каларада.

[16] Дальвіц — батальён «Дальвіц», створанае ў ліпені 1944 года вайсковае фармаванне, дзе беларускія нацыянальныя дзеячы імкнуліся рыхтаваць кадры для змагання за вольную Беларусь. Заняткі праводзіліся на базе нямецкай дыверсійна-разведвальнай школы, што існавала ў мястэчку Дальвіц (Усходняя Прусія).

[17] Усевалад Родзька (1920–1946?) — беларускі палітычны, грамадскі і ваенны дзеяч. У згаданы Юзэфаю Найдзюк перыяд быў маёрам дэсантнага батальёна «Дальвіц», адным з намеснікаў начальніка школы, адказным за палітычную падрыхтоўку асабовага складу.

[18] З ліста Юзэфы Найдзюк — 14 жніўня 2004 года, адрасат — Сяргей Ёрш.

Юзэфа бярэцца за любую працу дзеля заробку. Выхавальніца ў дзіцячым садку, нейкі час дапамагае ў адміністрацыі газеты «Бацькаўшчына» і часопіса «Наперад!», працуе ў тэхнічным аддзеле Радыё «Вызваленне». У 1956 годзе эмігруе ў Злучаныя Штаты. Падобна, дапамаглі з выклікам тыя самыя Шыбуты.

Жыццё кардынальна мяняецца. Яна сустракаецца з Чаславам Найдзюком, які старэйшы за яе на 12 гадоў і з якім яна нейкі час ужо мела перапіску. На трэці дзень асабістага знаёмства ён робіць ёй прапанову, яны едуць у Лос-Анджэлес і вянчаюцца ў касцёле Святога Францыска Асізскага. Яны пражывуць у згодзе 39 гадоў (да ягонай смерці), выгадуюць дзвюх дачок (Ядзя, Карнэля) і сына Віктара. Дачакаюцца ўнукаў. (Па Юзэфе сумуюць пяцёра — Шарлота, Вікторыя, Ракель, Мэцью і Джулі.) Зяці — Гай і Дэйл — шмат даведаюцца пра Беларусь і палюбяць беларускія стравы, якімі будзе частаваць іх цешча.

«Юзэфа была сціплай, але ніколі ніхто не панаваў над ёй — у яе было сваё пачуццё ўласнай годнасці, якое не патрабуе карнавальных касцюмаў, аздабленняў або касметыкі. Яна заўсёды вучыла нас ганарыцца тым, кім мы з'яўляемся, і змагацца за тое, у што мы верылі». Так сказалі Юзэфіны дзеці[19]. Пэўная, што кожны з бацькоў хацеў бы пачуць падобнае пра сябе.

## ПАДЗЯКА І НАМЕРЫ

Гэтая публікацыя — штрыхі да «сямейнага партрэта». Можа, калісьці ён напішацца. Але надта ж раскідана ўсё ў прасторы і часе... Вось тут публікуюцца 25 лістоў Часлава Найдзюка з тых 98, якія захоўваюцца ў тэчцы Янкі Запрудніка, 11 лістоў Юзэфы Найдзюк да гэтага свайго гімназіяльнага сябра. Ёсць яшчэ ў мяне яе лісты — адказы на пытанні, якія праслаў Сяргей Ёрш з Беларусі. Пакідаючы іх яму для першапублікацыі, я «пазычыла» толькі пару цытатаў (з дазволу адрасата). Ма́ю цудоўныя Eulogi (панегірыкі, прачытаныя сямейнікамі на развітанні ў пахавальным доме). Аднак для іх апублікавання трэба мець згоду ад дзяцей.

Пару тэкстаў Язэпа Найдзюка (лістоў або фрагментаў) даў для гэтай публікацыі Юры Туронак (праз пасярэдніцтва Міколы Давідзюка).

Не атрымался пакуль дакладна высніць некаторыя факты з жыцця Юзэфінай сястры Марыі ды яе бацькоў. Не прачытаныя яшчэ лісты Часлава і Юзэфы Найдзюкоў да розных эміграцыйных дзеячаў, якія захоўваюцца ў Беларускай фундацыі Крачэўскага ў Нью-Ёрку. З пытальнікам у маіх паперах занатавана імя маці Язэпа і Часлава. Паводле даследчыцы Лены Глагоўскай, яе звалі Людвіка, паводле дзяцей Часлава і Юзэфы — Ядвіга. Адкінуць другі варыянт аўтаматычна не магу: чамусьці ж назвалі першую дачку Ядвігай... А ў іншых польскіх публікацыях згадваецца, што Ядвігаю звалі другую жонку Цыпрыяна Найдзюка.

Усе лісты Часлава і Юзэфы напісаныя класічным правапісам (тарашкевіцаю), хоць часам не зусім паслядоўным. Пры гэтым у лістах Часлава прысутныя цытаты з іншых, яму дасланых, лістоў. І гэта можа быць беларуская лацінка, польская або ангельская мовы. Ён дае цытаты ў арыгінале, значыць, і ён, і ягоныя сябры ведалі тыя мовы. Часлаў больш інфармацыйны, моўна правільны. У Юзэфы адчуваецца большая непасрэднасць, эмацыйнасць, яна ўжывае часам свае, мясцовыя, дыялектныя формы: кароткія канчаткі — грамадск*а* справа, палескую фанетыку — проб*у*вала. Аднак, заўважу, мяккія знакі ставіць больш паслядоўна. Гімназіяльная вывучка, мяркую.

---

[19] Eulogy for Josefa Najdziuk. Read at Funeral Service on November 26, 2004. Юзэфа Найдзюк памерла 19 лістапада 2004 года. Пахаваная побач з мужам на могілках Forest Lawn — Hollywood Hills, Los Angeles, California.

Мая шчырая падзяка ўсім, хто ўсе гэтыя гады дапамагаў мне тэкстамі, парадамі, падказкамі, крытычнымі заўвагамі і проста спачуваннем. Янку Запрудніку, чыя архіўная тэчка легла ў фундамент, Мікалаю Давідзюку, які перадаў мне сваё захапленне асобаю Язэпа Найдзюка / Александровіча, Юрыю Туронку за прадастаўленыя для публікацыі лісты Язэпа Найдзюка, Лене Глагоўскай за парады, літаратуру і фатаграфіі, сям'і Андрусышын і Але Орса-Рамана за ахвяраваныя здымкі, майму сыну Сяргею Трыгубовічу за пастаянную тэхнічную дапамогу — капіяванне, сканаванне і да т. п.

Шануйма сваіх людзей і зробленае імі, дзе б яны ні жылі па волі лёсу.

*Валянціна ТРЫГУБОВІЧ*
2009–2017, Сомэрсэт — Мангасэт

## ЛІСТЫ ЧАСЛАВА НАЙДЗЮКА ДА ЯНКІ ЗАПРУДНІКА

Лёс Анджэлес, 24.II.73

Вельмі пав. сп. др. Запруднік!

Перасылаю пры гэтым новыя выразкі, каторыя шкада выкідваць, ня даўшы Вам магчымасьці хоць перагледзець іх. Мінулы раз я ня меў часу напісаць Вам хоць пару слоў, калі перасылаў падобны матарыял. І цяпер пішу насьпех — так цяжка з часам. 20.II выслаў я Стасю[1] ў газэту свой артыкул аб сьв. памяці Вініцкім[2], а яшчэ раней прасіў яго нешта больш памясьціць у газэце, бо сям'і моцна гэтага хацелася, а нам важна гэта для супрацоўніцтва зь імі. Удава[3] сказала, што яны і Вам выслалі матарыялы нябожчыка да гісторыі бел. эміграцыі. У мяне дзьве пазычаныя кніжкі іх. Можа вы зьвернеце на гэта ўвагу і будзеце ў кантакце з Стасем адносна гэтага. Цяпер едзем на першую лекцыю да ўдавы, якая згадзілася вучыць дзяцей у памяць па мужу.

Ч. Найдзюк

Лёс Анджэлес,11.XII.1975

Вельмі паважаны сп. Запруднік!

Жонка мая заахвоціла мяне павіншаваць Вас і вашу сям'ю з Калядамі і Новым годам і пажадаць Вам усім ад нас усіх усяго найлепшага, перадусім добрага здароўя і шмат сілаў для актыўнага жыцьця і карыснай працы!

У «Беларусе» ізноў павінна быць і нашае грамадзкае сьвяточнае віншаваньне ўсіх. Газэты за лістапад яшчэ няма, і не вядома, як прыйдзе сьнежаньскі нумар.

Затое маем на «пацеху» «Byelorussian Times»[4]. Уважаем двумоўнасьць новай газэты за рэзультат новага разьбіцьця беларускіх выдавецкіх сілаў.

Вельмі прыемна нам за Ваш выступ у Дэтройце і за вестку аб Вашым паглядзе адносна БССР у «Новым Рускім Слове»[5].

Думаю, што Вы чыталі «Хто такія бел. патрыёты»[6].

Нам тут давялося дастаць гэтую брашуру ад знаёмых і яе прачытаць. Вельмі ўдала пададзена аб ёй у «Беларусе».

Я браў удзел у касьцельна-парафіяльных дыскусыйных сходах на агульныя тэмы. Было мне на іх цікава й карысна. Матарыялу дыскусыйнага не перасылаю Вам, бо думаю, што ў Вас няма часу, каб яго чытаць. Выабражаю Вас як чалавека моцна занятага. Нават мне, ужо год безработнаму, цяжка з часам і патрэбамі даваць сабе раду.

У нас амаль спынілася міжнацыянальная супраца, як па лініі партыйна-рэспубліканскай, так і ў рамках арганізацыі «Амэрыканцы за свабоду Паняволеных Народаў»[7]. Час ад часу бываюць міжнац. сходы «Bicentennial Committee»[8].

Моладзь хоча зрабіць каляднае спатканьне.

Прывітаньні знаёмым!

Ч. Найдзюк

Лёс Анджэлес, 11.I.1982

Паважаны сп. Запруднік!

<...>

Абодва арыгіналы выразкаў былі атрыманы ад аўтара ў ягоным лісьце за 20 ліст. мін. г. да дачкі Карнэлі[9], атрыманы 3.XII. Ліст надрукаваны на цэлую бачыну поўнага разьмеру лістка паперы і даволі прыгожы і мілы. Між інш. варта зь яго (ліста Сакрата Яновіча[10]. — *В. Т.*) падаць Вам адну цытату: «Хачу пахваліцца перад Табою сваім добрым супрацоўніцтвам з Тваім дзядзькам[11]. Дапамагаю яму матэрыяламі ў напісанні нарысу па гісторыі Беларусі! Гэта мне вялікі гонар — менавіта дапамагаць такому чалавеку, выдатнаму, якім ён несумненна й ёсьць!».

Тут мне хочацца сказаць, што й мне вялікі гонар памагаць Вам і павіншаваць Вас з рэдактарствам «Беларуса» і падзякаваць за нашую ў ім хроніку. Карнэля выразіла сваё вялікае незадаваленьне, што здымак супольны зь сьв. памяці біскупам Чаславам[12] памешчаны і дрэнна выглядае — жонка й я як маглі бараніліся ад ейнай крыклівай рэакцыі. Тут успомніў Вашу жонку[13], якой жадаю папраўы здароўя, а Вашай дачцы[14] шмат сужэнскага шчасьця!

Наша Карнэля ўлюбілася ў гішпанца й сумуе па ім. Яна была ўдома на Сьвяты й вярнулася да Berkeley[15]. Старэйшая замужняя дачка Ядзя езьдзіць на курсы IBM Computer Programming, якія кончыў ейны муж у мін. годзе, і працуе ў MayCo I. A. Downtown. Сын Віктар езьдзіць другі год да сярэдняй каталіцкай школы. Юзя далей працуе ў Insur.Co на microfilmie. А я мусіў кінуць сваю работу ў фабрыцы 16.X летась і атрымоўваю поўную пэнсію. Стараюся больш чытаць і таму далучаю Вам цікавейшыя копіі і выразкі хоць для Вашага перагляду некаторых, бо не забываюся, што Вы мусіце быць моцна занятым. А мне і без работы не хапае часу. Часткамі чытаю пазычаную кніжку В. Г. Короленко[16] «История моего современника», выд. у Маскве 1965 г., 1054 бач.

8.I атрымалі «Царкоўны сьветач»[17]. 5.I спаткаўся з сп-няй Ірэнай Пануцэвіч[18] з Чыкаго, якая тут пару тыдняў у дачкі памагаць з малым дзіцём. 28.XII быў ліст ад Ларысы Геніюш[19] за 15.XII, у якім яна заценіла: «Шкада і Палякаў і найболей сваіх дарагіх унукаў у Польшчы. Можна сэймікаваць, але ж і працаваць неабходна, інача́й дэмаралізуецца грамадства. А карміць некаму яго трэба». У польскіх дэманстрацыях тут я ня браў удзелу з розных прычынаў, але і не было прапановы на гэта ад нікога. Цяпер цешуся толькі, што змог выкарыстаць дагэтулешнія магчымасьці ў Польшчы для сваіх блізкіх і дарагіх.

Прыміце ад Юзі і мяне найлепшыя прывітаньні і пажаданьні ўсяго найлепшага ў гэтым годзе.

З пашанаю Часлаў Найдзюк.

Лёс Анджэлес, 25.VIII.1982

Вельмі паважаны сп. Запруднік!

Цешуся з Вашага ліста за 12.VIII, атрыманага 18.VIII. Мне цікава, на які адрас найлепш слаць да Вас?!

Малодшую дачку сваю я ўжо па тэлефоне заахвочваў, каб яна пісала ў англамоўную старонку «Беларуса».

Вельмі міла, што Вы гатовіцеся даць адказ на кніжку Лофтуса[20]. Было мне прыемна бачыць, як падало аб ім весткі «Новое Русское Слова», якое магло б здабыцца яшчэ і на большае, бо шмат беларусаў выпісваюць яго. Ці чыталі Вы кніжку Віктара Астроўскага[21] аб антысэмітызме па-ангельску? Таксама ці чыталі перавыдадзеныя: «Гісторыю Беларусі» У. Ігнатоўскага[22] і «Западно-Руссизм» А. Цьвікевіча[23], якія я атрымаў учора ад сп. Жука[24] зь Нямеччыны. Разам зь імі прысланы і часапіс «Наш сьцяг»[25] (Бел. Рэвалюцыянэраў) № 21, год выд. XIX, але з датай Люты 1983. У ім ёсьць перадрукаваныя выразкі з South River'у[26] ў сувязі з Лофтусам, якія я пабачыў першы раз, як сам часапіс. Гэта прыклад слабой сувязі... Таксама ўчора прыйшоў ліст ад брата[27] з Польшчы: правёў ён добра вакацыі і дастаў нагароду з адзнакай з Варшавы за заслугі, а так жа і пачку ад нас. Др. Геніюш[28] таксама атрымаў нашую пачку.

Таксама цікавыя дзьве рэчы ў гэным «Нашым Сьцягу» — арт. аб папе і ліст з Польшчы.

Жадаю Вам, усім з Вамі ўсяго найлепшага.

Часлаў Найдзюк

1.IX.1982

***Выпіска зь ліста Язэпа Найдзюка да Часлава за 6.VII.1977 у зьвязку з брашурай Уладзімера Ладысева «Насуперак волі народа»***[29]

«Ня можна ставіць у адным радзе усіх беларускіх дзеячаў, як гэта зрабіў аўтар успомненай брашуры, і абвінавачваць іх у супрацоўніцтве з Wermachtem і называць іх інфарматарамі польскай дыфэнзывы, польскай разьведкі. На мой пагляд не былі такімі ані Фаб'ян Ярэміч[30], ані кс. Вінцэнты Гадлеўскі[31]. Няведамы такжа ёсьць факт "выключэньня" групы Ярэміча з Беларускага Нацыянальнага Камітэту»[32].

«Людзі, якія праводзілі беларускую дзейнасьць падчас гітляроўскай акупацыі, баранілі інтарэсаў свайго народу, ягоных правоў і дбалі пра ягоную будучыню. Былі гэта беларускія патрыёты. Ганілі яны кожнае гітляроўскае праступства і там, дзе маглі, памагалі камуністам у здабываньні дакумэнтаў або ў іншых абставінах. Я нават ня ёсьць пераконаным, ці галоўныя арганізатары беларускай нацыянальна-сацыялістычнай партыі Акінчыц[33] і Казлоўскі[34] былі запраўды адданымі супрацоўнікамі Wermachtu, хаця беларускія дзеячы ў гутарцы зь імі ўнікалі шчырых высказваньняў на палітычныя тэмы. Аб гэтых справах можна было б пісаць вельмі шмат, але ня ў рамках ліста. Матар'ялу хапіла б на вялікую кнігу».

Лёс Анджэлес, 5.X.1982

Вельмі паважаны др. Запруднік!

Маю да Вас асаблівую просьбу: надрукаваць у «Беларусе» ўспаміны А. Калодкі[35] аб Юстыну Мурашку[36], якія ён пераслаў Вам да друку, а копію іх мне. Чаму я прашу? Я быў памочнікам Ю. Мурашкі ў Ашмяне, дзе ён кіраваў паветам падчас вайны. Быў я на візыце ў яго ў Валожыне, дзе мяне зьдзівіла, калі працаўнікі ўставалі на нашае прывітаньне. Наведаў я яго і сям'ю і ў Канадзе і маю захаваныя ўсе ягоныя лісты. Зараз пасьля ягонай сьмерці я напісаў свае ўспаміны аб ім на падставе ягоных лістоў, але яны не падходзілі да друку. Сп. Калодка напісаў аб ім зусім іначай і ягоныя ўспаміны па-мойму надаюцца да друку. Ён няпэўны гэтага, таму што ў Вас быццам «ляжаць... 4 ці 5» ягоных артыкулаў і «што газэта не паінфармавала яго, ці й што й калі будзе зьмешчана». Да нас дайшла вестка, што перашкода ў ягоных артыкулах: дыскрэдытацыя другіх.

Я прапаную яму згадзіцца на папраўкі рэдакцыі. Відаць, што сп. Калодка зрабіў высілак у сваіх успамінах аб Мурашку, каб яны пайшлі ў друк. Адносіны паміж намі трыма падчас вайны не заўсёды былі згодныя, але час вымагае прабачэньня. Мая сувязь з сям'ёю Мурашкі даўно спынілася, але з сп. Калодкай працягваецца па-сяброўску. Я добра разумею, што ў Вас для газэты няма дастатковай помачы, але трэба зразумець і чуласьць сп. Калодкі, бо ён моцна пацярпеў у нямецкім канцлягеры і страціў сваё здароўе. Я падзіўляю ягоную яшчэ здольнасьць пісаць так шмат.

Мае далучаныя выразкі трактуйце лёгка, можа толькі павярхоўным пераглядам.

Сп. Калодка напісаў, што «Ніва»[37] яму цяпер зусім не падабаецца. Ён хацеў бы, каб хтось даў адпор лятувісам за іхныя прэтэнсіі адносна палажэньня лятувісаў у Падсавецкай Беларусі. Адзін лятувіс напісаў, што тэрыторыі зь лятувісамі былі наўмысьле далучаныя для беларусізацыі, каб пасьля лягчэй было іх русыфікаваць.

Прывітаньні і найлепшыя пажаданьні Вам, Вашай сям'і і суродзічам з Вамі!

Часлаў Найдзюк

Лёс Анджэлес, 28.X.82

Вельмі паважаны др. Запруднік!

Перасылаю Вам пры гэтым вестку аб сваім і жонкі ўдзеле ў вугорскай праграме 24.X, якая хоць пачалася на паўгадзіны пазьней, але затое трывала ўсяго каля 40 мінут. Я стаяў каля помніка са сьцягам, і сонца грэла мне ззаду. Прыехаў дадому спацеўшы. Шмат хто рабіў здымкі, але ў TV паказалі зусім коратка і ня было відаць іншых сьцягоў.

Я даганяючы ўручыў Mc'ke'у адзін з адказаў на абвінавачаньні Лофтуса — ён калісь выкладаў гісторыю ў школе. У адказ ён прасіў мяне галасаваць за рэспубліканскіх кандыдатаў.

Былі надрукаваныя прапановы Польскага Кангрэсу як галасаваць і за каго. Іншых нацыянальнасьцяў не было шмат. Былі адсутныя, нпр. украінцы і лятувісы.

Др. Кляйнота[38] я прасіў, каб ён напісаў George'у Putnam'у[39] аб тым, што адзначэньне Тыдня Паняволеных Народаў прадаўжаюцца штогоду. 30.IX Putnam у сваёй радыёвай праграме ўспомніў, як калісь у ягоным TV студыё адзначаўся Тыдзень і пры гэтым два разы назваў Беларусаў, выгаварываючы «Беларусіан»[40]. Таксама ўспомніў беларусаў і б. мэр Лёс Анджэлесу Yorty 1.X у праграме Putnam'а. Гэта вынік ранейшых кантактаў зь імі.

16.X было мілае спатканьне з сп-вам Каханоўскімі разам з сп. Данчыкам[41].

У мін. нядзелю пазнаёміліся з сп-чняй Ірэнай Кулакоўскай[42] з Аўстраліі разам зь ейнай спадарожніцай украінкай. Адрас наш даў Уладыка Ізяслаў[43], які каля м-ца гасьціў у сьвятара Кулакоўскага.

Мелася быць спатканьне і з др. В. Сянкевічам[44], але абышлося толькі перапіскай зь ім у S. F. (горад Сан-Францыска. — *В. Т.)* і адной тэлефанічнай гутаркай.

Мінулыя два тыдні былі ў нас даволі рухлівымі. Цікава было прачытаць два артыкулы аб беларусах у «Н. Р. Сл.»[45] аб Cliveland'е і выстаўцы ў NY.

Усяго добрага Вам і ўсім з Вамі!

Ч. Найдзюк

Лёс Анджэлес, 5.XI.82

Вельмі паважаны др. Запруднік!

<...>

Пазаўчора атрымалі «Ніву» № 23 (1369). Даўжэйшы час яе не было. У гэтым ёсьць працяг успамінаў В. Склубоўскага[46] — гэта мой калега студэнцкі зь Вільні.

Яго знае сп. Шукелойць[47]. У гэтым адрэзку ўспамінаў апісаны ягоныя натугі здабыць унівэрсытэцкую адукацыю. Я меў палавіну польскай стыпэндыі, г. зн. 60 злотых на м-ц, якую даставў дзякуючы прыхільнасьці дзекана-ўкраінца праф. Панэйкі, якога полька Gaszynska ў Мюнхэне абазвала «polakożercą».

Брат напісаў, што меў боль левай рукі — аказалася ад рэўматызму і ўжо папраўляецца з надзеяй, што вылечыцца поўнасьцю.

Др. Геніюш прасіў прыслаць яму з пачкай 100 канвэртаў, бо ён піша шмат лістоў. Тым часам паслаў яму 40 лятунскай поштай. Брат піша, што сп-ня Ларыса Геніюш атрымоўвае шмат віншаваньняў за ейны новы зборнік.

Учора прыйшоў «Час» Гарошкаў[48]. Жонка ня верыць выпадку з «Tylenol» для а. Кендыша[49], а таксама з апонамі (*оропу — шыны, паланізм*) Уладыкі Ізяслава. У выясьненьні Манькоўскага[50] не сказана, ці хтось зганіў выступ у Таронта ганьбаваньня сьв. пам. Ст. Станкевіча.

Усяго добрага Вам і ўсім з Вамі!

Ч. Найдзюк

Лёс Анджэлес, 28.IV.1983

Вельмі Паважаны Др. Запруднік!

Далучаю Money Order на $20.00 на «Беларуса» (ад сп. Пётры Ерміна[51] — $15.00 і ад сп-ні Бонігны Вініцкай $5.00).

Учора па тэлефоне атрымаў адказ ад American Cultural Organization. Яе каардынатар быў выехаўшы і цяпер у наст. м-цы маецца быць мітынг, на які я прасіў запросіны. Да арганізацыі належаць 70 розных нацыянальных арганізацыяў.

18.IV быў ліст ад брата. Піша: «Грошы і маемасьць ня ёсьць найважнейшымі ў жыцьці. Найважнейшым (ёсьць) павінна быць імкненьне пакінуць па сабе, сваім жыцьці і працы трывалы сьлед»... «Маё жыцьцё не было ані лёгкім, ані спакойным, ані заможным, але аднак цешуся, што пакінуў па сабе сьлед, якога ніхто мне ўжо ня можа адабраць, ані перакрэсьліць».

Яму ўжо цяжка прыпомніць сп. В. Жука-Грышкевіча[52] як майго б. вучыцеля. Піша, што выслаў кніжку С. Яновіча «Самасей» В. Ярмалковічу[53], майму б. аднакласьніку з В. Б. Г.[54]– не гэта нам, а яму «Most przez wieki».

Прачытаў брат кніжку «Rozmowy z Lorentzem», выд. у Варшаве ў 1981. Праф. Lorentz у гадох 1928–35 быў кансэрватарам «zabytków» у Вільні, а пасьля дырэктарам Muzeum Narodowego w Warszawie. У названай кніжцы ён гаворыць аб горы бел. сялян у міжваенных гадах на Віленшчыне і крытычна кажа аб арцыбіскупу Jałbrzykowskim[55]. Паводле брата, апраўізацыя[56] ў Беластоку ёсьць лепшай, бо там праўдападобна ёсьць лепшыя гаспадары гораду. Людзі з нашых старон ёсьць здальнейшымі».

Дык можам цешыцца, што мы здальнейшыя, пэўне і да сварак?!

Прывітаньні і ўсяго добрага ўсім!

Ч. Найдзюк

Лёс Анджэлес, 9.V.1983

Вельмі паважаны др. Запруднік!

Далучаю да гэтага копію апошняга ліста ад сьв. пам. Ларысы Геніюш і адбітак ейнага верша «Еўфрасіння Полацкая» зь ейнага зборніка «На чабары настоена», Мінск 1982, «Мастацкая літаратура». Паколькі нябожчыца ніколі не наракала на свой страўнік, у Юзі паўстала думка, што можа яе прыкончылі...

7.V атрымалі «Царкоўны сьветач» з рэцэнзіяй на кніжку Лофтуса — думаю пару копіяў скарыстаць для высылкі другім.

Заўтра каля поўначы мае прыляцець Карнэля на тыдзень.

Юзя мае ізноў гэты тыдзень вакацыяў. Яна радзіць чытаць кніжку «Literatura na świecie» (Warszawa, listopad 1982, miesięcznik nr. 11/136), асабліва расказ Барыса Мажаева «Od czego się zaczęło» б. 273.

З пашанаю Ч. Найдзюк

Лёс Анджэлес, 26.X.83

Вельмі паважаны др. Запруднік!

«Беларуса» атрымалі 19.X і неадкладна разаслалі або асабіста даручылі. Яшчэ 16.X па тэлефоне сп-ня Зіна Станкевіч[57] Юзі хваліла нумар, а цяпер і мы яго хвалім і дзякуем усім за яго.

За гэты месяц сабралася ў нас нямала розных навінаў. 3.X адаптаваная (прыёмная. — *В. Т.*) дачка хворага ўласьніка дому сказала нам шукаць другой кватэры. Аж да ўчора моцна гэта перажывалі і ўсё выясьнялі. Цяпер маем крыху больш надзеі, што можа яшчэ астанемся на месцы, прынамся на магчыма даўжэйшы час.

У мін. нядзелю старэйшая дачка Ядзя з мужам перанясьліся да купленага дому ў Pasadena, 15 міл. ад нас.

14.X выслаў я ліст сп. Шукелойцю з копіяй ліста ад брата з апісаньнем паховінаў сьв. пам. Мар’яна Пецюкевіча[58].

7.X паслаў я адказ Нікану[59] на ягоны выясьняючы ліст адносна брашуры «Хто такія Крывічы»[60]. У Чыкага я прывітаўся і разьвітаўся з др. Сажычам[61] так як-бы паміж намі нічога не было.

Учора выслаў адказ на ліст Жука — ён стала шмат чаго просіць.

Сп. Б. Кіт[62] прасіў мяне моцна напісаць свае ўспаміны аб Віленскай Беларускай Гімназіі, але маё цяперашняе палажэньне гэтаму зусім не спрыяе.

11.X неспадзявана прыйшла падзяка за спачуваньне па-польску ад удавы Малецкай[63].

14.X прыйшоў кароткі ліст ад сп-ні Махнач[64], паведамляючы, што занятыя гасьцямі — швагра з жонкай.

15.X сын Віктар здаваў другі пробны экзамін для каледжа — на 5.XI назначаны трэйці. Дачка Карнэля ўсё яшчэ безработная.

15.X выслалі пачку др. Геніюш. 24.X мелі мілую падзяку па-беларуску ад сваяка з Польшчы. Цікава зацытаваць: «Ty pišaš, Čeś, što palučaješ listy z Bojdataŭ (мая родная вёска) i pišaš da ich cieraz svaju švagierku. Možaš pisać da ich prosta, ciapier užo ruskija nie takija, iak niekali byli i za listy na Sibir nie wywoziać, alie heta Twaja sprawa, iak zrobiš, tak i budzie». Ён ужо з ваеннага пакаленьня.

А. Аляксандру Надсону[65] выслаў арыгінал нямецкага пашпарту маці з пэрыяду I Сусьв. вайны ў 2 мовах: па бел. — лацінкай.

З пашанаю Ч. Найдзюк

Лёс Анджэлес, 9.III.1984

Дарагі Сябра!

Зараз мне трэба падзяліцца з Вамі для мяне вельмі сумнай весткай, атрыманай учора ад братавай, ужо ўдавы, з Польшчы аб сьмерці майго старэйшага брата Язэпа 13-га лютага і аб паховінах яго. Гэты ліст з датай 26.II быў высланы зь Беластоку з адрасу дачкі ўдавы і нябожчыка Люцыны. У ім апісаны дакладна апошнія дні майго брата, які да апошняй хвіліны быў пры сьведамасьці і бачыў свой канец, якога

спадзяваўся шмат разоў на працягу шмат гадоў свайго цяжкага і моцна працоўнага жыцьця.

Памёр дома на вачах жонкі ў прысутнасьці лекара суседа, які сказаў, што ў брата «Obrzęk płuc na skutek nie wydolności krążenia i być może kolejny zawał»*, а лекар скорай помачы застаў брата ўжо нежывым.

Людзі памаглі ёй усё наладзіць. «Pogrzeb był godny tego wspaniałego człowieka, tak pozbawionego egoizmu, tak oddanego swoim bliskim i każdej sprawie, którą podejmował. Z Wilna przyiechała Renia (першая дачка ад першай жонкі) і Janek** (сын). На паховінах была ўся сям'я ўдавы. «...prezes Kujawsko-Pomorskiego Tow[arzystwa] Kultur[alnego], «że nie był na równie podnioslym pogrzebie»... I niezliczone tłumy ludzi z wiązankami kwiatów...»***. Удава абяцала прыслаць тэксты прыгажэйшых пахавальных прамоваў. Адначасова з гэтым лістом да Вас я высылаю спачувальны ліст удаве з запытаньнем, наскольк бяспечна падаваць тут нам публічна ў друку аб брату зь ягонай ранейшай біяграфіяй. Пакуль што глядзіце самі, як лепш і беспячней патрактаваць гэтую маю вестку да часу майго пазьнейшага выясьненьня.

Дачка Люцына з мужам і сынам жывуць цяпер у тым самым доме, што і др. Геніюш. Аб гэтым падаў нам вестку брат у сваім апошнім лісьце за 5.II, атрыманым 20.II, зь якога мы даведаліся, што брат пралежаў у шпіталі 3½ тыдні ад 25.XII.83–18.I.84 і папраўляўся ўдома, стараючыся дастаць скіраваньне да санаторыі. Брат зьмяніў і век сабе, узяўшы мой. Паводле польскай вайсковай кніжкі ягонай у мяне ён нарадзіўся 12.V.1909 у вёсцы Бойдаты воласьці Цярэшкі (пры Польшчы Варэйкі), Ваўкавыскага павету, Беластоцкага ваявод.

Тымчасам усяго Вам добрага!

Ваш Часлаў Найдзюк

**Пухліна лёгкіх, у выніку чаго недастатковы кровазварот і, магчыма, чарговы інфаркт.*

***Пахаваньне было годнае таго цудоўнага чалавека, так пазбаўленага эгаізму, так адданага сваім блізкім і кожнай справе, за якую браўся. Зь Вільні прыехала Рэня (...) і Янэк (...).*

**** Кіраўнік Куяўска-Паморскага Культурнага Таварыства «які ніколі не быў на падобным урачыстым пахаваньні»... І бясконцая чарада людзей з букетамі кветак.*

Лёс Анджэлес, 9.IV.84

Дарагі сябра!

У мін. сыботу 7.IV атрымалі мы «Беларуса» за сакавік і сягоньня выслалі ўсім поштай. <...>

Юзя і я моцна Вам і сябру Шукелойцю ўдзячны за кляпсыдру па нашым дарагім Язэпе. Некаторыя суродзічы прыслалі нам вельмі мілыя спачуваньні: ад сп-ва Кіпеляў[66] — «спачуваньне з поваду сьмерці Вашага Паважанага Брата. Для нашага пакаленьня ягоны падручнік быў альфай і амэгай у нацыянальным узгадаваньні. Гэтаксама я прыпамінаю яго зь Менску — гутаркі з моладзяй, а Зора часта зь ім бачылася ў рэдакцыі. Вечная Яму Памяць!».

Ад сп. Акулы[67]: «Слава яму і вечная, нязгасная памяць. Шмат добрага зрабіў ён для нашай бацькаўшчыны й надзвычайным быў чалавекам — пра яго ўсе мы ведаем. Няхай жа Бог пашле яму царства нябеснае».

Ад І. і К. Касякоў[68]: «Прашу прыняць самыя шчырыя спачуваньні ў Вашай вялікай сямейнай жалобе. Адыход у вечнасьць Вашага брата Язэпа, гэта агульная наша вялікая страта і жалоба».

У мін. сыботу па тэлефоне злажылі свае спачуваньні сп-ва А. і Л. Беленісы[69] з Чыкага.

Удава прыслала выразак зь мясц. газэты з успамінамі і новай біяграфіяй брата і са здымкам. У кароценькім лісьце выразіла яна сваю цяжкую дэпрэсію.

Жадаю Вам і ўсім Вашым блізкім Радаснага Вялікадня!

Ваш Ч. Найдзюк

Лёс Анджэлес, 9.VI.1984

Дарагі сябра Запруднік!

Сабралася ў мяне больш цікавейшых выразкаў, каб пераслаць іх Вам пры гэтым для Вашага перагляду.

Сяньня прыйшлі разам аж 3 розныя № «Нівы» 13, 16 і 18.

Учора атрымаў я ліст ад сп. Лашука[70] ў адказ на мае 2 лісты. Ён доўга не пісаў, бо прадаваў дом і зьмяніў адрас. Зазначыў, што падзіўляе а. Надсона, які спраўляецца сам з усім. Я выслаў яму свой ліст, хоць доўга няма ад яго адказу.

6.VI атрымаў ад Ів. Касяка выясьненьне, што апрацавана ім гісторыя Беларусі, амаль гатова да выданьня, ня ёсьць пераробкай гісторыі майго брата — а толькі разьдзелы яе апрацаваныя будуць часткай цэласьці разам з навейшай гісторыяй, апрацованай Касяком, які цяпер зьбірае каштарысы для друку яе.

Сп. Лашук ня радзіць друкаваць гісторыю ў Жука.

Сп. Арцюх[71] 5.VI па тэлефоне ганіў «Час» за крытыку Радыя Свабоды, як шкодную і непатрэбную.

З пашанаю Ч. Найдзюк

Лёс Анджэлес, 12.VI.84

Дарагі сябра Запруднік!

Вельмі дзякую Вам, што Вы далі мне магчымасьць пагутарыць па тэлефоне са сп. А. Адамовічам[72] — для мяне гэта была рэдкая нагода, якой не хацелася прапусьціць. Наскольні я правельна зразумеў яго, ён уважае, што трэба перавыдаць і брашуру В. Ластоўскага[73]. «Што трэба ведаць кажнаму беларусу», якая ў мяне захавалася ў трэйцім выданьні, пашыраным Я. Найдзюком і выдадзена ў Берліне 1944 г. пад № 1 Бібліятэчкі каліноўцаў. Заміж копіі яе, я хачу пераслаць горш захаваны экз. арыгінальны, які мог бы аставацца ў зборах Бел. Інстытуту Навукі і Мастацтва[74].

Учора прыйшоў ліст ад сп. В. Шчэцькі[75] з спачуваньнем у страце майго «шанаванага ўсім беларускім грамадзтвам брата-змагара Язэпа. Рабіў Ён колькі дазвалялі сілы і магчымасьці. Ведаем яго працу яшчэ зь Вільні. Хай будзе яму пухам зямелька і спакой душы!». «Нас турбуе таксама лёс Вашае (памылка — гэта брата) працы па гісторыі Беларускае друкарні імя Фр. Скарыны ў Вільні[76]. Нам цяжка меркаваць аб яе выданьні, бо ня ведаем ні памераў працы, а таксама і колькасьці магчымых зьнімкаў. Гэта было б добрым помнікам памяці і Язэпу, жыцьцё якога было павязана з друкарняй, дзе ён праводзіў часта-густа большую частку дня, калі складалі пазагадзінамі нармальнай працы яшчэ і “Шлях Моладзі”[77], а затым і “Шлях беларускага студэнта”[78]. Многа яны ўкладалі сілы і душы. А разам з тым гэта быў бы помнік і нашаму слаўнаму ксяндзу Адаму Станкевічу[79] (абодва нядаўна прысьніліся мне)». «Мяркуючы на розныя спосабы мы пераканаліся, што Вашую (г. зн. брата) працу трэба выдаць такім ці іншым спосабам. Справа ў грошах, якія мы ўклалі ў папярэднія выданьні (звыш 8 000 даляраў, а зьвярнулі тымчасам 700), нашае грамадзтва ня дужа выдаткуе на друкі»... Рукапіс ці машынапіс павінен быць у а. Надсона, ад якога няма аб гэтым адказу.

«П. С. Мы меліся даць кляпсыдру (гэта слова ўжываў сьв. пам. др. Ст. Станкевіч, але мне А. Вініцкі сказаў, што яно значыць што інш.) у «Беларусе» сьв. памяці

Язэпа, аднак спадар Шукелойць неяк нас абыйшоў». Юзя ўважае, што гэта сп. Панькоў[80] можа знаць аб брату, а ня сам сп. Шчэцька.

Далучаны здымак сына Віктара — некаляровага няма, а «graduation» у халаце (у традыцыйнай мантыі выпускніка. — *В. Т.*) дарагі і большы, і мусеў быць зьвернуты. Сын прыняты на матэматычны факультэт (Department of Mathematics of University of California, Santa Barbara). Прадмет — math science з будучай спэц. у Electric Engineering at UCSB.

З пашанаю Ч. Найдзюк

P. S. Victor — мае нагароды (awards Eagles) Track and Field 1983 i Varsity Track 1984 Pater Noster High School.

Лёс Анджэлес, 19.VI.84

Дарагі Сябра Запруднік!

Сабралася ізноў шмат выразкаў — адзін зь іх польскі стары аб Катыні[81] парадзіла мне пераслаць Вам Юзя, бо ў ім даказваецца, што мардавалі выключна жыды-энкавэдысты.

«Беларус» прыйшоў 14.VI і быў разасланы неадкладна з асабістым даручэньнем толькі аднаму сп. П. Ерміну.

У гэты самы дзень прыбыў і ліст ад сп. Жука са спачуваньнем: «Маё глыбокае спачуваньне з прычыны [сьмерці] Вашага брата. У мінулым годзе я атрымаў ад Яго пісьмо, але я ня ведаў, што гэта Ваш брат. Толькі нядаўна я атрымаў кароткую зацемку пра ягоную сьмерць, дзе гаворыцца, што ён жыў пад прозьвішчам... Калі ў наступным годзе гэтая пасьмертная зацемка будзе зьмешчана ў бюлетэні ЖБ[82], ці пісаць, што ён жыў пад другім прозьвішчам..., ці не? У зацемцы падае Ярмаловіч (правільна: Ярмалковіч. — *В. Т.*) дзе ён жыў. Калі Вы дашлеце выразку з газэты аб ягонай сьмерці (копію), дык таксама будзе зьмешчана ў ЖБ. Пра ўсё Вы пастанаўляйце. Аказваецца, што гэта Ваш брат — хай будзе Яму лёгкай чужая зямля, увёў мяне ў літаратуру. Гэта ён паправіў і зьмясьціў мае два літаратурныя творы ў Шляху Моладзі ў 1938–1939».

Тыдзень таму назад быў у мяне Кіт. Чуецца добра. 4.9.84 адбудзецца адкрыцьцё музэя. Сэрца ў мяне слабаватае. 27.7 іду на 4 тыдні на папраўку.

У ліпені завітае да мяне дачка Ільяшэвіча[83] з мужам і сынам, у ліпені прыедзе да мяне паэт зь Беластока Юрка Трачук[84] — «выдаць тут у Нямеччыне (гісторыю Касяка) будзе каштаваць 20.000 дал.»

13.VI быў ліст ад удавы братавай. Яшчэ ўсё цяжка перажывае жалобу. Спадар Туронак[85] маецца напісаць аб Бел. Друкарні імя Фр. Скарыны і хацеў бы, каб яму было ведама, дзе будуць надрукованы падобныя ўспаміны. Ён распрацоўвае біяграфію праф. Іваноўскага[86], аб якім ведама, што ён быў у сувязі з АК[87]. Туронак хацеў бы мець дадзеныя аб абставінах забойства праф. Іваноўскага. Учора ў «Летапісе»[88] № 19 я прачытаў добрую ацэнку Віцьбіча[89] аб праф. Іваноўскім.

«Pomost»[90] прыслаў запросіны на дэманстрацыю 24.VI: «National Renounce Yalta Day» (эмігранты выказвалі пратэст супраць Ялцінскіх пагадненьняў. — *В. Т.*) — можа паеду зь Юзяй. Непрыемна толькі, што падаючы розныя краіны, не падаюць Беларусі — ігнарацыя працягваецца.

16.VI тэлефанавала ўдава Орса[91] і гаварыла зь Юзяй.

Ядзя пакуль што дзяржыцца на новай працы.

З пашанай Ч. Найдзюк

Лёс Анджэлес, 2.VII.1984

Дарагі Сябра Запруднік!

І зноў сабраліся выразкі для Вашага перагляду хоць некаторых падкрэсьляных месцаў. З майго ранейшага «можа» адносна польскай дэманстрацыі 24.VI нічога ня выйшла, бо Юзя неспадзявана ня толькі сама не захацела ехаць са мною, але і мяне «не пусьціла» і я для «świętego spokoju» мусіў здацца. Можа яна і мае рацыю, хоць я ня меўся прымаць актыўнага ўдзелу ў дэманстрацыі.

Удава братавая ў сваім лісьце з 14.VI, атрыманым 25.VI, напісала, што наведаў яе М. Давідзюк[92] і «zrobił kilka zdjęć mogiły»[*] майго брата Язэпа. Ён забраў шмат беларускіх кніжак і між імі энцыкляпедыю, якую дзеці прысылалі зь Вільні. Удава далей яшчэ цяжка перажывае жалобу і мае недамаганьні са здароўем, але ўжо ўзялася парадкаваць кнігазбор і матар'ялы брата майго. «Jestem przytłoczona ilością woluminów»[**]. Яна піша, што хоць ня любіць, але мусіць расставацца з кніжкамі, бо ня можа разьлічаць на дачку, бо яе памешканьне малое (48 $m^2$, wraz z kuchnią, łazienką i przedpokojem)[***]. <...>

Ад 24–28.VI была ў нас дачка Карнэля з Berkeley. Пробавала яна дастаць работу па спэцыяльнасьці, але не змагла. Магчыма праз месяц пераедзе да нас. Ядзя дзяржыцца на новым становішчы, але нядаўна яна і муж страцілі парманэткі — згубілі ці былі ўкрадзены. Сп. А. Калодка гатоў напісаць успаміны аб брату.

P. S. 26 і 27.VI сын Віктар рэгістраваўся ў Santa Barbara на ўнівэрсытэт.

[*] *Зрабіў некалькі здымкаў магілы.*

[**] *Я прыгнечаная колькасьцю тамоў.*

[***] *Уключна з кухняй, ваннай і вітальняй.*

Лёс Анджэлес, 24.X.1984

Дарагі сябра Запруднік!

Праляцела ўжо аж 20 дзён, пакуль я ізноў сабраўся напісаць да Вас. Праўда, 13.X я выслаў Вам здымкі на просьбу Юзі, якая парадкавала альбумы падчас сваіх вакацыяў, і тады на канвэрце толькі пад сваім адрасам зазначыў я Вам, што мы атрымалі «Беларуса» № 321.

Я хацеў бы паслаць закрыта бачыну Яновічу, але чакаю на ягоны адказ ці дайшлі да яго інш. рэчы. Ён выпісаў нам «Ніву» лятунскай поштай, і яна прыходзіць да нас даволі скора і ў лепшым стане, як раней звычайнай, заказной нам др. Ю. Геніюшам, які доўга нічога ня піша, бо мы ня выканалі ягоных просьбаў. А. Калодка напісаў «аб С. Яновічу, відаць, што ён салідны чалавек». А ўдава братавая яшчэ дадала свае заўвагі аб Б. Туронку і Яновічу: «P[an] Jerzy jest cudownym gawędziarzem o wyważonych poglądach i ogromniej wiedzy. Nawet nasz szowinistyczny zięc oświadczył, że z nim by się dogadał, gdyż Janowicza uważa za bardzo zaściankowego. Oczywiście z Janowiczem rozmawia się również dobże, gdyż mowi wspaniałą polszczyzną wyniesioną z polonistyki... Oczywiście nie usiłowałam się z nim skontaktować, chociaż bardzo tego żałuję.» «O J. Kosiaku opinie są kontrowersyjne i podobno w sprawie prof. Iwanowskiego odegrał on niechlubną rolę». «Dlatego zaniepokoiłam się, że książka Ziutka ma wyjść «w przeróbce, razem z nowszą historią opracowaną przez J. Kosiaka». Jako spadkobierca praw autorskich mego Męża zobowiązuję brata Czesława do roli recenzenta tej «pszeróbki». Chodzi o to, aby nie wykastrowano z niej wartości istotnych i nie imputowano autorowi tego, czego nie pisał. Może byłoby dobrze porozumieć się w tej sprawie z dr Kipielem (czy to ten z publicznej biblioteki w NY)... byłam u p. Bergman[93]. Uroiła sobię, że Ziutek informował Wiktora (Jarmałkowicza) o posiadaniu maszynopisu o B. Chadecji, czego nie

potwierdzi ani on, ani Jerzy (Turonek), ani Mikołaj (Dawidziuk) i ja także nic o tym nie słyszałam» ... «Bardzo mnie cieszy ten młody entuzjasta sprawy białoruskiej — uważam go (Dawidziuka) za duchowego syna Ziutka»*. ...Гэта толькі важнейшыя выпісы з апошняга ліста ўдавы, за 16.IX, атрым. 9.X, на які я яшчэ не адказаў.

Не ўсьпяваю нават усяго пераглядаць... Аб сваей прысутнасьці зь Юзяй бяз сьцягу на вугорскай праграме не пішу аддзельна як хроніку, бо ня ведаю, ці Вы будзеце ўважаць гэта за патрэбнае падаваць хоць коратка ў «Беларусе». Былі сьцягі — польскі, чэскі ці лепш чэхаславацкі і летувіскі. Выступалі Pornat, Antonovich, Ferraro, Kernik[94] і інш. — гэты апошні гаворачы аб уніважненьні дагавору ў Ялце, сказаў, каб ня было так, як у палякоў, што 95 % дыскутуюць, а рэшта толькі робяць. Мелі сядзячыя месцы. Не было др. Клейнота, трохі быў dr. Frank [неразб.] (мадзяр), але толькі пастаяў здалёку. Вестка аб Аўдзею[95] некаторых настрашыла.

Усяго добрага Вам і Вашым!

Ч. Найдзюк

* *«Пан Ежы ёсьць цудоўным суразмоўцам з памяркоўнымі паглядамі і аграмаднымі ведамі. Нават наш шавіністычны зяць засьведчыў, што знайшоў бы зь ім агульную мову, тым часам як Яновіча ён лічыць вельмі засьцянковым. Відавочна, што зь Яновічам ён таксама размаўляе добра, з увагі на цудоўную польскую мову, вынесеную тым з навучаньня на паланістыцы. Відавочна, не спрабаваў зь ім наладзіць кантакту, пра што вельмі шкадуе». «Пра І. Касяка меркаваньне спрэчнае і, падобна, у справе праф. Іваноўскага ён адыграў ганебную ролю». «Таму непакоіць мяне, што кніжка Зюлка мае выйсьці перарobленай, разам з новай гісторыяй, апрацаванай І. Касяком». Як спадкаемца аўтарскіх правоў майго мужа даручаю брату Чаславу ролю рэцэнзэнта той «перарoбкі». Гаворка ідзе пра тое, каб не былі скасаваныя ў ёй сапраўдныя каштоўнасьці і не ўстаўлена аўтару тое, чаго ён не пісаў. Можа, было б добра паразумецца ў гэтай справе з др. Кіпелем (каторы з Публічнай бібліятэкі ў Нью Ёрку)... была ў пані Бэргман. Уявіла сабе, што Зюлэк паведаміў Віктару (Ярмалковічу), што мае машынапіс аб Б. Хадэцы, чаго не пацьвярджаюць ані Ежы (Туронак), ані Мікалай (Давідзюк), і я таксама нічога пра тое ня чула»... «Вельмі мяне радуе той малады энтузыяст беларускай справы — лічу яго (Давідзюка) духоўным сынам Зюлка».*

Лёс Анджэлес, 12.II.85

Дарагі сябра Запруднік!

Далучаю да Вашага ведама копіі двох найсьвяжэйшых лістоў з Польшчы добра ведамых асоб.

Такія ж копіі перасылаю я адначасова аддзельна сябру Шукелойцю. Яму і Вам дадаю, што пытаньне, ці запраўды мой брат напісаў новую гісторыю Беларусі, патрабуе выясьненьня. Мне ведама толькі, што ён хацеў пераапрацаваць сваю старую гісторыю, але мне не ўдалося пераслаць яму кніжку яе.

Я думаю, што Вы маеце доступ да кніжкі Аляксандры Бэргманіхі[96] «Sprawy białoruskie w II Rzeczypospolitej» і што будзе ў «Беларусе» крытыка яе. Можа, «Беларуса» маглі б пасылаць на адрас «Нівы». Глядзіце, ці маглі б памагчы др. Ю. Геніюшу адносна спадчыны.

Мы ўжо заказалі залю на 24.III для праграмы 25.III.

Ч. Найдзюк

Лёс Анджэлес, 2.III.85

Дарагі сябра Запруднік!

Я пераслаў сябру Шукелойцю фотакопію ўспамінаў сп. А. Калодкі аб маім брату Язэпу з сваімі заўвагамі аб іх у лісьце і з просьбай іх паправіць і адшліфаваць для «Беларуса».

Зь «Вестак БАЗА»[97] нам прыемна было вычытаць, што маладыя сябры «аспрэчвалі» даклад Лофтуса. Добра было б пачуць дакладна, як яны «аспрэчвалі». Нпр. а.

Сьвятаслаў Коўш[98] прыслаў нам выразак, зь якога відаць, што ён казаў у самаабароне.

Далучаю найсьвяжэйшы выразак аб Артукавічу[99] — падобныя працэсы павінны цікавіць і беларусаў.

Добра было б, каб хто із нашых меў доступ і да Kojak'a[100]. Сяньня па тэлефоне выясьнілася, што беларуска Аляксандра Орлова (Брылеўская) ня бачыла «The Belarus File» і ня знала, калі...

Усяго добрага Вам і Вашым!

Ч. Найдзюк

Лёс Анджэлес, 23.V.86

Дарагі Сябра Запруднік!

Выбачце, што я так доўга не пісаў да Вас, беручы пад увагу Вашае палажэньне з цяжка хворай жонкай. Цяпер Юзя запрапанавала мне пераслаць Вам пры гэтым артыкул аб сыну засуджанага Артукавіча. Юзі дакучае думка, чаму няма дамаганьняў судзіць савецкіх праступнікаў.

Вы пэўне атрымалі копію ліста К. Акулы за 10.V: «Dear Editor...» адносна катастрофы ў Чарнабылю[101]. Я выслаў яе ў рэдакцыі «L. A. Times» і «L. A. Herald Examiner» з дадаткам пра Беларусь, а таксама сп. Я. Арцюху з тым, што ён можа сам захоча зрабіць нешта больш.

15.V атрымалі мы ад сп. Міхалюка[102] кніжку «Роднае слова» Алега Бембеля[103]. Сп. Мойсік[104] пахваліў яе нам як вельмі цікавую, якую варта мець. Юзя адразу яе прачытала і з прызнаньнем. Я яшчэ толькі пачаў яе чытаць і таксама ацэньваю яе як вартасную. Шкада толькі, што яна склеена дрэнна і рассыпалася.

20.V ад сп. Туронка прыйшоў «Беларускі каляндар 1986»[105]. А ў лісьце ад яго за 5.V, атрыманым 13.V, пададзена: «Ёсць надзея, што ўспаміны с. п. Язэпа будуць апублікаваны тут, у спэцыяльным томе Акадэміі Навук, прысвечаным гісторыі беларускае літаратуры. Атрымаў ужо такое даручэнне рэдактара зборніка і, згодна з праектам, павінен да канца году ўвесь матэрыял перапісаць і дапоўніць яго ўступам і каментарамі. Аўтарскія матэрыялы маюць друкавацца на беларускай мове, а ўступ і каментары — на польскай. Таму просьба: напішыце пры нагодзе дакладную дату і месца нараджэння Язэпа. Успаміны маюць быць крыху скарочаны ў параўнанні з рукапісам. Скарачэнні датычыць маюць таго, што не звязана непасрэдна з друкарняй імя Ф. Скарыны ў Вільні, як нпр. даўжэйшыя разважанні пра творчасць Скарыны».

Юзя і я жадаем Вашай жонцы палёгкі, а Вам шмат сілаў у Вашых цяжкасьцях!

Шчыра Вашыя Часлаў і Юзя

Pasadena, 27.V.1991

Дарагі Сп. Янка Запруднік!

Юзя і я надзеемся, што Ваша візыта ў Беларусі адбудзецца памысна і шчасьліва. Дзякуем за «Навіны»[106] і выразак «Belorussia Et tu, Minsk»[107], адбітак якога крыху распаўсюджу. Сёньня напісаў ліст да сябры Шукелойця з просьбай памясьціць мае ўспаміны аб украінскім тут прыяцелю беларусаў Міколе П. Новаку[108] бясплатна з узгляду на іх значэньне грамадзка-нацыянальнае і таму, што ў нас цяжка з грашмі. 20.V атрымалі № 379 «Беларуса» і разаслалі неадкладна. Зьмест яго ёсьць вельмі цікавы ня толькі для нас, але і для другіх. Адзін суродзіч званіў нам, што цяпер за «Голас Радзімы»[109] трэба плаціць. Удава братавая з Польшчы наракае на цяжкасьці і ўспамінае блізкіх у Вільні, якія таксама наракаюць на пагоршаньне палажэньня.

Тут заўважыў плямы, якія зрабілі ўнучкі. Страшэнна рвуцца да паперы і псуюць яе нямала. Толькі ўчора бачыў здымак Кавыля[110] з унукамі ў кніжцы ягоных выбраных твораў, атрыманай з аўтографам ад др. Кіпеля. Чытаю творы ратамі. Даведаўся з жыцьцяпісу Кавыля, што ён мой равесьнік, на колькі м-цаў малодшы. Запомніўся ён мне з South River'у граючым на гармоніку. Ягоны жыцьцяпіс, ці лепш жыцьцёвы шлях падзіву годны. Я ўсё думаю, каб мне раней загразіла высылка, дык я пэўне памёр бы ад аднаго страху! У мяне ніколі не было моцнага здароўя, і я ўвесь час імкнуся выжыць, і можа таму перажываю і забываю...

І таму пісаць успаміны ці гаварыць аб іх даволі цяжка мне. Люблю захопліваццa дасягненьнямі і здольнасьцямі другіх. Зацікаўленьні займаюць мяне моцна.

Будзем чакаць добрых вестак ад вас.

З пашанаю Вашыя Часлаў і Юзя.

Pasadena, 6.IX.1991

Дарагі сп. Запруднік!

Здаецца ўжо даўно не пісаў да Вас. Час праходзіць вельмі скора, асабліва цяпер пад уплывам хуткіх падзеяў у сьвеце, а ў Савецкім Саюзе ў асобнасьці. Неспадзеўкай ёсьць нам вестка, што адыходзіце ад «Беларуса» для пісаньня кніжкі[111]. Юзя і я жадаем Вам добрай памыснасьці ў Вашым новым пляне. З кніжкамі беларускімі адчуваецца пэўнае ажыўленьне. Юзя за тры ночы прачытала раман К. Акулы[112] і чытае ўспаміны Пятроўскага[113]. У мяне не хапае часу на чытаньне і грошаў на куплю некаторых кніжак. На кніжку ўспамінаў брата аб друкарні ў Вільні[114] паслаў а. Надсону $10.00 і ўжо доўга яе ня маю. Затое а. Тамушанскі[115] яе ўжо дастаў, будучы ў Лёндане, і пляную публікаваць яе сэрыямі ў радыёвых перадачах. Меўся ён наведаць свайго бацьку ў Нью-Ёрку, і мне цікава, ці ён бачыўся там яшчэ з кім. Паслаў я яму адбітак артыкулу брата са «Żniča»[116], які далучаю і Вам, падпісаны «J. B-cki», г. зн. «Бойдацкі» ад імя вёскі.

Гэты адбітак рассылаю я і іншым асобам да ведама. Сп. Кавыль адказаў, што на перадрук яго ў «Бел. Думцы»[117] ён мусіць мець згоду Рэдакцыйнай Калегіі. Пазьней буду пашыраць артыкул брата з успамінамі аб дзядзьку сьв. пам. Фаб'яну Ярэмічу. Цяпер пацяшаю сябе надзеяй, што зборы змагу пераслаць да Беларусі.

На першай бач. «L. A. Times» было прыемна бачыць вестку аб дэклярацыі незалежнасьці Беларусі. Учора «Весткі»[118] Міцкевіча падалі на пачатку вестку аб абвешчаньні незалежнасьці Беларусі. Адначасова прыйшоў чэк ад сп-ні Клаўдыі (з дому Шэлест) на 100.00 даляраў для «Беларуса», які далучаю. <...>

З пашанаю Вашы Часлаў і Юзя

9.III.92

Дарагі сп. Янка Запруднік!

Юзя і я дзякуем за копіі аб візыце а. Надсона ў Беларусі. Апошняя вестка аб ягонай паездцы, што яго абакралі. Нам думаецца, што можа ён зашмат праняўся сваёй новай місіяй. Учора я даў копіі нашаму суродзічу Кастусю Стасевічу, які раней зазначыў, што Вы, відаць, чыталі гісторыю Ключэўскага[119]. Гэты суродзіч мае жонку расейку з ранейшымі камуністычнымі сымпатыямі. Ён дае нам некаторыя №№ савецкай прэсы, як «Изьвесьтія», «Правду». Ён заглыбляецца ў мінуўшчыну славянскіх народаў і падае цікавыя дадзеныя. Нпр. ён кажа, што ў Маскве палова, калі ні больш, украінцаў, або што шмат жыдоў, якія выкарысталі свой лік. Мне хочацца падсунуць Вам некаторыя асаблівасьці для пісаньня гісторыі Беларусі, ці бел. адраджэнскага руху.

5.III атрымалі «Беларуса» № 387, які выслалі другім. Адначасова атрымалі «Полацак»[120] № 1 (II) і «Весткі» 236, а 28.II — «Бел. сьвет»[121] 22 (51) у 3 экз. У гэтым апошнім ёсьць цікавыя ўспаміны сьв. п. Мар'яна Пецюкевіча і Міхася Міцкевіча[122]. Маюць яны дакладнасьці, аб якіх я ніколі не дбаў і цяпер не магу апісаць. Выслаў я копіі кніжкі аб 25-ым юбілею Віленскай Беларускай Гімназіі двум асобам: сп-ні Сьвятлане Белай[123], зь якой меў прыемнасьць гаварыць па тэлефоне, і др. Андрэю Майсяёнку[124], якога рэкамэндаваў мне Барыс Кіт. Сп. М. Раецкі[125] зможа пераслаць яму ўспаміны др. Малецкага.

У нас ужо адбыўся збор грошай для сп-ні I. Сьмірноў[126] на Беларусь. Няма весткі, як БАЗА у нас будзе адзначаць угодкі 25 Сакавіка. Пасьля зьнеслаўленьня мяне Славікам Вініцкім[127], мы вырашылі паставіць іх на пробу.

З пашанаю Вашы Часлаў і Юзя.

8.III.1993

Дарагі Сп. Запруднік!

Сабраліся пераслаць Вам пры гэтым абяцаныя старыя расейскія кніжкі гістарычнага характару. Юзя іх прачытала як цікавыя, а ў мяне не хапае часу і сілаў. Каб запоўніць запаснoе месца ў пудэлку, далучаны выразкі.

Прыемна чытаўся Ваш артыкул «Ёсьць такая постаць». Вельмі дакладныя ёсьць успаміны Антона Шукелойця п[ад] з[агалоўкам] «Менск пад немцамі» ў «Нашай Ніве» № 9, 1992. Таксама цікавыя артыкул «Беларус у камандзе «Ленд-ліза» Валенціна Лукашова ў ЛіМ'е ад 20 лістапада 1992 г. Некаторыя старыя №№ газэтаў зь Беларусі перасылае нам сп. Язэп Арцюх. Ужо атрымалі 2 №№ «Нівы» з г. г., дзякуючы сп. М. Давідзюку, які аплаціў ужо і другі квартал для нас. Першы № быў слабейшы, а другі цікавейшы. Паўгода ня мелі «Нівы», бо сп-ня Артымовіч[128] не аплаціла за нас. Ейны верш у № 1 дзіўна цяжкі. «Беларуса» № 398 атрымалі 1.III., але выслалі другім 3.III, бо чуліся дрэнна.

Жадаем добра адсьвяткаваць угодкі Акту 25 Сакавіка і Вялікдзень!

Прывітаньні ўсім родзічам.

З пашанаю Вашы Часлаў і Юзя

## ЛІСТЫ ЯЗЭПА НАЙДЗЮКА ДА ЮРЫЯ ТУРОНКА

Фрагмэнт ліста ад 21.11.1979 (с. 4)

Пасьля спаткаўся з паслом Клюбу «Змаганьне» Ігнатам Дварчанінаў[129] і ўспаміны з гэных спатканьняў асталіся вельмі прыемнымі. Я быў учасьнікам ягоных мітынгаў і недалёк яго ішоў у першамайскай дэманстрацыі, якую санацыйная паліцыя разагнала на Вялікай вуліцы ў Вільні і Дварчаніна пабіла да крыві.

Я прызнаюся, што стараўся памінаць прыкрыя зьявы тагочаснага беларускага жыцьця, ці як вы пішаце справаў пікантных. Ды каб гэта яны былі пікантныя, можна было б пісаць, але найчасцей гэта былі справы трагічныя. Мне здаецца, што да іх ня варта вяртацца. Даволі было грызьні і канфліктаў між беларусамі. Трэба ўспамінаць і шукаць таго, што нас лучыць, а ня дзеліць на ваюючыя між сабой групкі. Гэтае сумнае зьявішча яшчэ паяўляецца на эміграцыі.

Разыход кс. В. Гадлеўскага[130] з кс. А. Станкевічам[131] можна назваць трагічным непаразуменьнем. Розніца ў паглядах была вельмі малая. Кс. А. Станкевіч меў сьветапагляд больш радыкальны, талеранцыйны і трымаўся аднаго напрамку Хрысьціянскай Дэмакрацыі, ды супрацоўніцтва зь летувісамі і ўкраінцамі. Кс. В. Гадлеўскі быў чалавекам артадаксыйным і шукаў супрацоўніцтва зь немцамі. У гэтым

хіба адыграла нейкую ролю жонка інж. Дубейкоўскага — немка. І дзякуючы ёй, так мне здаецца, інж. Дубейкоўскі[132] стаўся сябрам рэдкалегіі «Бел. Фронту»[133]. Інж. Дубейкоўскі, можна сказаць, быў сьвятым чалавекам і нікому не ўваходзіў у дарогу. І ён і М. Шкялёнак[134] выступілі з рэдкалегіі «Бел. Фронту», бо не апрабавалі нападкаў гэтага часапісу на людзей, згуртаваных каля Бел. Народ. Аб'яднаньня (б. БХД). — На гэты раз хіба хопіць. Крыху вестак у гэтых жа справах напішу ў наступным лісьце.

Бывайце здаровы і не забывайцеся пра мяне. Я. Александровіч.

P. S. У справе высланых 200 зл. я зрабіў на пошце рэклямацыю. Цікава, ці Вы ўжо атрымалі іх. Жадаю Вам усяго найлепшага і перасылаю найшчырэйшыя прывітаньні.

Іноўроцлаў, 31.XII.1979

Паважаны і Дарагі Пане Туронак!

Яшчэ раз шчыра дзякую Вам за ўвагі і прысланыя матэрыялы да маіх успамінаў пра Друкарню імя Фр. Скарыны[135]. Дзякуючы ім успаміны выйшлі багацейшымі і лепшымі. Буду Вам яшчэ больш удзячны, калі яны знойдуцца там, дзе трэба. Ілюстрацыі я ўжо выслаў брату з просьбай перадаць іх у музэй, а адтуль могуць быць выкарыстоўваныя нават не адзін раз.

Дзякую Вам такжа за добрыя каляднія і навагоднія пажаданьні. Здароўе маё крыху папраўілася, але ня ёсьць яно добрым і хіба ўжо ня будзе, з увагі на мае 70 гадоў.

Я Вам абяцаў напісаць крыху шырэй пра кс. Вінцука Гадлеўскага. Папробую гэта зрабіць цяпер. Але ня будзе гэта дакладны біографічны артыкул, бо я ня маю аснаўных біографічных даных і ня маю магчымасьці знайсьці іх. Я пастараюся напісаць некаторыя нарысы-ўспаміны, якія могуць быць матэрыялам да ягонай біографіі.

Першы раз спаткаў я кс. В. Гадлеўскага ў нязвычайных абставінах. Было гэта хіба ў 1927 г. (?), калі польскі віленскі акружны суд засудзіў яго за беларускую дзейнасьць у Жодзішках, дзе ён быў пробашчам. Пасьля прысуду, ізноў добра ня памятаю, на 1,5 года вастрогу (?), група беларускіх студэнтаў, сярод якой і я быў, сарганізавала кс. В. Гадлеўскаму пры выхадзе з суду, на вуліцы Адама Міцкевіча, напроці̆ў лукішскага рынку, урачыстае спатканьне. Начале групы быў Франук Грышкевіч — малады беларускі паэт, добры прамоўца і вялікі беларускі патрыёта. Ён прывітаў выходзячага з суду, у таварыстве кс. Адама Станкевіча і пасла Фабіяна Ярэміча[136], кс. В. Гадлеўскага гарачай прамовай і ўручыў вязанку прыгожых кветак. У тым часе з усіх старон — вуліцаў і лукішскага рынку — зьбеглася многа людзей. Ясна, што ані засуджаны, ані ягоная асыста і група моладзі не зышла зь сярэдзіны вуліцы, але начале людзкога натоўпу накіравалася вуліцай Міцкевіча ў напрамку катэдры і замкавай гары. Хутка аднак паявілася санацыйная паліцыя на конях і пачала разганяць гэтую нязвычайную дэманстрацыю. Мусяла яна аж тры разы шарэнгаваць, каб зьліквідаваць ня мілы ёй паход.

Другі раз спатыкаў я кс. В. Гадлеўскага з групай беларускай моладзі, начале з кс. А. Станкевічам і іншымі беларускімі дзеячамі, на віленскай станцыі, калі ён, адседзеўшы прысуджаную яму кару ў варшаўскім вастрозе на Мокотове, прыехаў у Вільню.

Кс. В. Гадлеўскі быў высокага ўзросту, атлетычнай будовы, гаварыў адважна ў беларускім патрыятычным духу і выглядаў на змагара-волата. Узбуджала гэта вялікую пашану, асабліва ў мяне, бо ў міжчасе я даведаўся, што ён быў родам

з Ваўкавыскага павету, з аколіц Поразава ці Падароска. А гэта ж быў і мой павет. Я гэтым нават ганарыўся.

Пасля вастрогу кс. В. Гадлеўскі, па загаду польскіх каталіцкіх касьцельных уладаў, пасяліўся ў Вільні. Адпраўляў ён набажэнствы для каталіцкіх польскіх законніцаў-манашак, а жыў у маленькім пакойчыку на Вострабрамскай вуліцы, амаль тут жа за Вострай Брамай, на поўдзень ад яе. Жыў вельмі скромна, меў пры тым многа часу, дык пісаў артыкулы да «Беларускай крыніцы»[137], «Хрысьціянскай Думкі»[138], «Шляху Моладзі»[139], займаўся беларускай грамадзкай працай і культурнай дзейнасьцю ў Беларускім Інстытуце Гаспадаркі і Культуры[140], а такжа ў Беларускім Нацыянальным камітэце[141]. У сувязі з гэтым я часта з ім спатыкаўся і бываў у ягоным скромным пакойчыку.

Кс. В. Гадлеўскі быў безумоўна адным з выдатнейшых беларускіх дзеячоў сярод беларускай Хрысціянскай Дэмакрацыі і ва ўсёй Заходняй Беларусі. Быў ён аднак артадаксыйны і ня хуткі да якіх-небудзь уступак. Дзеля таго не заўсёды згаджаўся з галоўным правадыром, ідэолёгам і палітыкам БХД кс. А. Станкевічам, нават у дробных справах.

Вось маленькі прыклад. У 1932 г., дакладна 16 траўня, я першы раз жаніўся. (Мая першая жонка — Беларуска, нават з праваслаўных Беларусаў, зь якімі я заўсёды добра жыў, памерла ў Вільні пасьля другой вайны.) Вось жа пасьля шлюбу я запрасіў сваіх найбліжэйшых на скромны пачастунак. Сярод запрошаных былі ня толькі супрацоўнікі з друкарні, але кс. А. Станкевіч, кс. В. Гадлеўскі, інж. А. Клімовіч[142], мгр. Я. Шутовіч[143] і інш. Пачастунак не абываўся без гарэлкі і ў пэўнай хвіліне хтосьці з маладых гасьцей сказаў, што гарэлка горкая. Згодна з народным абычаем маладая пара павінна была асаладзіць яе пацалункам. Кліч горкая падтрымалі амаль усе госьці. Гэта страшна абурыла кс. В. Гадлеўскага. Ён ня толькі запратэставаў і зганіў усіх, але пры гэтым умяшаў маральнасьць і грамадзкія беларускія справы. Але ніхто яго не падтрымаў. Тады кс. В. Гадлеўскі дэманстрацыйна ўстаў ад стала, стукнуў дзьвярыма і выйшаў. Сапсаваў гэтым вясельны настрой, і падзел, які між ім і кс. А. Станкевічам ды ягонымі найбліжэйшымі супрацоўнікамі ўжо існаваў і быў затойваны, выйшаў на вонкі і паглыбляўся. Гэты малы канфлікт найбольш і найцяжэй перажыў мой бацька — просты селянін, каторы на ксяндзоў глядзеў як на сьвятых людзей. Ён тады між іншым сказаў: «І як вы хочаце палепшыць жыцьцё народу і вясьці барацьбу з уладамі, калі ў вас паўстаюць сваркі з такіх благіх прычынаў».

Здарэньне гэтае магло б быць сюжэтам да напісаньня драмы, калі б мы мелі свайго беларускага Высьпяньскага[144].

Падзел у БХД, а фактычна толькі з кс. В. Гадлеўскім, паглыбляўся, калі дзеячы КПЗБ за пасрэдніцтвам Максіма Танка[145], Рыгора Шырмы[146], Сяргея Паўловіча[147], пачалі наведваць дзеячаў БХД, у гэтым ліку і мяне, ды прапанаваць супрацоўніцтва. Дзеячы БХД, а пасля БНА, уважалі, што на некаторых дзялянках, у некаторых справах, як напрыклад у дамаганьні беларускіх школаў, выдавецтве падручнікаў школьных, культурнай беларускай дзейнасьці, палепшаньні долі беларускага насельніцтва, можа быць супрацоўніцтва і супольныя выступленьні. Ясна, без адыходу ад свае праграмы і свае ідэолёгіі, сваіх прынцыпаў. Асабліва часта наведваў мяне малады Бурсэвіч[148] і прыносіў нелегальную камуністычную літаратуру, заўсёды ў рукаве марынаркі. Калі я запытаў, чаму ён носіць у рукаве, выясьніў мне, што з рукава найлягчэй яе выкінуць, калі б заўважыў, што за ім ідзе агент тайнай польскай паліцыі. Аднаго разу Максім Танк прывёў да майго памешканьня якогасьці вельмі важнага камуністычнага дзеяча, высокага росту, брунэта, элеганцка адзетага і інтэлігентнага. Ар’ентаваўся ён ува ўсіх справах. Доўга мы гаварылі на розныя

тэмы, а між іншым хацеў ён і Танк, і Бурсэвіч, які таксама прыходзіў да прыватнага памешканьня, каб мы ў «Шляху Моладзі» надрукавалі дэклярацыю ў справе моладзі. Але ў ёй нічога не гаварылася пра долю беларускае моладзі. Я паставіў тады варунак, што дэклярацыю надрукуем, калі ў ёй будуць парушаныя балючыя справы беларускай моладзі. Але да гэтага не дайшло. Адышоў крыху ад галоўнай тэмы, але хіба не са шкодай зьместу.

Кс. В. Гадлеўскі адкідаў усякія кантакты і гутаркі з камуністамі. Ён аддзяліўся ад БХД-БНА, пачаў выдаваць свой часапіс «Беларускі Фронт» і востра атакаваў між іншым «Шлях Моладзі». На маю долю прышлося бараніцца і адкідаць закіды, што «Шлях Моладзі» пайшоў на службу камуністаў. Закіды былі безпадстаўныя, а наша дыскусія, ці сварка, прыбірала не зусім прыстойныя формы. Гэта было безпатрэбнае марнаваньне месца на шпальтах часапісаў і безпатрэбнае марнаваньне энэргіі і часу. Аж яна давяла да таго, што скаптаваныя ў рэдакцыйную калегію «Беларускага Фронту» інж. Дубейкоўскі і адвакат Мікалай Шкялёнак выступілі з рэдкалегіі «Бел. Фронту». У часе вайны ў 1940 г. (ці на пачатку1941 г.) кс. В. Гадлеўскі выехаў зь Вільні і апынуўся ў Берліне, дзе працаваў у аддзеле гітлераўскай прапаганды, наколькі мне ведама разам з жонкай інж. Дубейкоўскага — немкай — якая хіба ж адыграла ролю пасрэдніка ў навязаньні супрацоўніцтва кс. В. Гадлеўскага з гітлераўскай уладай. Ён верыў, што пры помачы гэтых уладаў будзе магчы вясьці шырокую беларускую работу. Гэтак думала многа іншых Беларусаў. У практыцы, пасьля заняцьця Беларусі гітлераўцамі, гэта ня спраўдзілася, хоць кс. В. Гадлеўскі атрымаў назначэньне на галоўнага інспэктара беларускага школьніцтва ў Менску. Жыў ён тут вельмі скромна ў маленькім пакойчыку пры Інспэктараце на вуліцы Алеся Гаруна 13. Сам сабе прыгатаўляў ежу, але стараўся рабіць як найболей, каб беларускія школы разьвіваліся як найлепш.

У гэты час я ізноў супрацоўнічаў з кс. В. Гадлеўскім, будучы тэхнічным кіраўніком Выдавецтва Падручнікаў і Літаратуры для Моладзі. Пра старыя сваркі мы забыліся. Кс. В. Гадлеўскі ня меў шырокіх магчымасьцяў працы і часта наракаў. Ён пераканаўся, што безпадстаўна з намі сварыўся, ды што надзеі на шырокую беларускую работу пры дурной гітлераўскай уладзе былі абмежаваныя. Ягонае палажэньне ставалася што раз цяжэйшым, бо ня мог рэалізаваць сваіх беларускіх плянаў, ня мог дагадзіць гітлераўскай уладзе, ды праваслаўныя Беларусы ня толькі не падтрымлівалі яго, бачачы ў ім перш за ўсё каталіцкага ксяндза, але падрывалі ягоны аўтарытэт. Да таго ён кожную нядзелю ў каталіцкім касьцёле, напроціў Генеральнага Камісарыяту, адпраўляў набажэнствы і гаварыў патрыятычныя казаньні беларускія, на якія прыходзіла многа людзей. І гэта прычынілася да ягонай ліквідацыі гітлераўскімі агентамі. З поўнай адказнасцю, на заканчэньне гэтага кароткага нарысу, можна сказаць, што кс. В. Гадлеўскі ня быў ворагам беларускага народу, а вялікім беларускім патрыётам і мучаньнікам.

Іноўроцлав, 2.III.1980

Паважаны і Дарагі Пане Туронак!

Мушу прызнацца, што я ўжо прывык да Вашых пісьмаў і адчуваў тугу за весткамі ад Вас. Карыстаньне аднак з архівальных матэрыялаў Delegatury Rządu... і Armii Krajowej, напэўна было важнейшым як пісаньне пісьма да мяне. Цешуся, што Вы там знаходзіце цікавыя матарыялы, ды што думаеце апрацаваць абшырны артыкул, на які з зацікаўленьнем буду чакаць.

У справе кс. В. Гадлеўскага — ці ён у верасьні — кастрычніку 1939 г., а пасьля да чэрвеня 1940 г. быў у Вільні, на жаль нічога не магу сказаць. Проста ня па-

мятаю. Думаю, што весткі аб тым напэўна будуць у кніжцы В. Пануцэвіча[149], аб якой вы ўпамінаеце і якую абавязкова трэба было б пастарацца атрымаць. Я яе ахвотна прачытаў бы. Ці быў кс. В. Гадлеўскі арганізатарам падпольнай Беларускай Незалежніцкай Партыі (БНП) у 1942 г. у Менску, гэтак сама нічога не магу сказаць. Не веру аднак у гэтую вестку. Я быў тады даволі блізкім супрацоўнікам кс. В. Гадлеўскага і нічога ў гэнай справе да мяне не дайшло. Кс. В. Г. быў вялікім патрыётам, чалавекам даволі адважным, але адначасна ўрадаўцам незраўнаважаным.

Ня ведаю, ці Вы чыталі пісьмо Радаслава Астроўскага[150] у справе кс. В. Г., надрукаванае ў «Незалежнай Беларусі» нр. 2 (8) у 1953 г. Яно кідае на кс. В. Г. даволі прыкры цень. Пісьмо гэнае я далучаю Вам, у форме выразка з «Незалежнай Беларусі»[151]. Калі яно Вам будзе патрэбнае, можаце зь яго зрабіць ксэроадбітку, а пасьля арыгінал адаслаць мне. Пісьмо гэнае вельмі прыкрае.

Здаецца, што ў нас падпольныя арганізацыі зачынаюць так размнажацца, як у Палякаў паўстанцы, асабліва powstania wielkopolskiego ў Пазнаншчыне і на Куявах, але цяпер, а не ў 1918–1919 гадох.

Зь вялікім задавальненьнем чытаў я справаздачу з варшаўскага беларускага балю, надрукаваную ў «Ніве»[152]. Вельмі цешуся, што баль удаўся і карыстаўся зацікаўленьнем аж 1200 асобаў. Думалася мне, можа і я калісь з сваёй сямейкай выбяруся на яго, але апошнія мае недамаганьні не даюць на гэта надзеі. Недамагае такжа Мар’ян Пецюкевіч[153]. Паволі зьбліжаемся да апошняе прыстаньні...

Яшчэ адно пытаньне. Я перахоўваю амаль усе нумары менскага «Полымя»[154] з 1968–1971 гг. Можа яны прыдаліся б каму-небудзь ці бібліятэцы БГКТ. Ахвотна іх безплатна пераслаў бы.

Жадаю Вам і Вашым блізкім усяго найлепшага, а такжа перасылаю сардэчныя прывітаньні.

З глыбокай пашанай Язэп Александровіч.

## ЛІСТЫ ЮЗЭФЫ НАЙДЗЮК — ЯНКУ ЗАПРУДНІКУ І ЯГОНАЙ СЯМ’І

Los Angeles, 12.16.1959

Дарагі Янка зь Сямейкаю!

Сапраўды Твой ліст быў вялікаю неспадзеўкаю[155]. Атрымала ўжо і кружэлкі — 10. Аглядала іх, здаецца цэлыя. Ня пробувала, бо ня маем патафону. Кружэлак маем шмат — беларускія ўсе выпускі апрача канадзкіх, а патафону не здабыліся яшчэ набыць. Два гады таму я пісала да Жучкі[156] і прасіла іх, але надзею страціла й не хацела ўжо больш яму пісаць і дакучаць. Янка, скажы, каму слаць грошы за кружэлкі і колькі? Калісьці яны каштавалі па даляру адна, як не мыляюся.

У мяне жыцьцё плыве памаленьку. Ведаеш, што хутка пасьля прыезду ў ЗША як ніхто вышла замуж. На свой лёс наракаць не магу ані чуць. Маю дачку — Ядзю — 2½ гады. Муж[157] беларус, інтэлігентны, добры, разумны, характарам нядрэнны, адным словам ня трэба нічога дрэннага казаць. Пасьля розных турбот, цярпеньняў, перажываньняў і г. д. дачакалася свае сямейкі і спакайнейшага жыцьця. Працую ў іншурансі[158] пры картатэцы на другую зьмену да $11^{30}$ гадзіны ночы. Працу сваю люблю, бо яна досыць лёгкая, чыстая, а навет і цікавая, але зарабляю мала. Муж працаваў цяжка і небясьпечна на самалётнай фабрыцы. Яму нейк ніяк не ўдаецца знайсьці ўмысловае працы. Хаця мае вышэйшую асьвету[159] закончаную дома, а навет і тут коньчыў ён 4 сымэстры бугальтэрыі вечарам, але ўсё нейк перашкоды мае розныя, каб знайсьці працу ў бюры, сама галоўнае ня мае практыкі ў гэтым краі і гады, бо ж у яго гадох трэба мець практыку, ды ня маем і знаёмства, каб

заракамандавалі. На фабрыцы зарабляў ён добра, але ж часта яго звальняюць. У гэтым годзе быў звольнены два разы й цяпер не працуе, і не дастае жаднай помачы. Жывём з майго заработку. Багацтваў ніякіх ня маем апрача аўта і старых мэбляў, але абы здароўе, гэтым не праймаемся, калісьці жылося шмат горш. Цешуся, што крыху сваім[160] дапамагла. Вось там дык бяда!

У Los Angeles нашых суродзічаў вельмі мала, ды і тыя не надта жывуць у згодзе й маюць ахвоту грамадзка працаваць. Вось хочуць жыць спакойна ды крытыкаваць, але сяк-так сёе-тое робім. За мой прыезд зладзілі два разы — 25 Сакавіка[161], ялінку, угодкі сьмерцяў — Багдановіча[162] й Коласа[163], выставу, угодкі Слуцкага Паўстаньня[164] (рафарат напісала й чытала я), а цяпер рыхтуемся да ялінкі.

Каб была сіла, дык можна было б дзе рэпразантавацца, але ж, бяда, няма. Нашы людзі любяць толькі крытыкаваць. Расчаравалася я моцна. Напрыклад, падрыхтоўка да Слуцкага Паўстаньня, той ня можа напісаць рэфарату, той ня хоча, а трэйцяму ня трэба. Выскачыла я, як «Філіп з канапель» — напісала, прачытала. Моцна прыдрацца не маглі да зьместу рэфарату й чытаньня, дык проста ў вочы пачалі, «што муж напісаў або перапісала з другое прэсы» і г. д. Ясна, гэтым не праймаюся, толькі сэрца баліць, што некаторыя ў пратэнсыях вялікіх дзеячаў, а самі нічога ня хочуць рабіць, крытыкуюць другіх і г. д.

Другія ж нацыянальнасьці працуюць і сваіх шануюць.

Дык жа, Янка, перадавай прывітаньні ўсім!

Пішэце. Калі ласка, прышлі адрыс сп. Б. Рагулі[165].

З глыбокай пашанаю да Вас усіх. Ваша Юзя зь сям'ёю.

27.11.1970

<...>

У нас нічога асаблівага, восень, пачынаюцца халады (у нашым каліфарнійскім разуменьні). Дзеці пайшлі, бязумоўна, у школу, дні, як заўсёды, занятыя штодзённымі турботамі і заботамі. Грамадска справа слаба двігаецца, бо ж так усе заняты сваімі асабістымі справамі, што ні ад нікога няма помачы. Усё ляжыць на нас адных, а іншыя народы робяць і шмат пасьвячаюць на гэта і часу, і працы, і грошаў. Напрыклад, у прошлу нядзелю была я на ўкраінскім мадэлі [дэманстрацыя модаў], зьмешаным з канцэртам. <...>

Таксама залучаю ліст Л. Генію ш, пісаны да маёй сястры[166], таксама для цікавасьці і прашу пасьля прачытаньня мне яго зьвярнуць.

Янка, я маю просьбу, я вычытала, што выдадзена кружэлка хору Жарава[167], дзе сп. Конюх[168] выконвае і беларускія (здаецца «Магутны Божа»). Калі б змаглі дастаць мне гэту кружэлку, дык была б вельмі ўдзячна. Безумоўна, належнасьць зараз жа па атрыманьню яе заплачу. Таксама вычытала, што наша моладзь з Клівэлянду выдае ці выдала часапіс. Калі ёсьць, калі ласка, прышліце. <...>

2.14.1971

<...>

Дзякаваць Богу ані мы, ані нашы суродзічы наразі помачы не патрабуюць[169]. Нейк як прачувалася, што завісла няшчасьце над намі. У нас асабіста быў нядобры настрой, бо муж звольнены ізноў з работы. Наагул шмат усюды звальненьняў пачалося, нягледзячы што прэзыд. Ніксан абяцаў аб паправе працы. Вось раніца 9-га лютага, муж устаў, я зьбіралася, раптам пачалося калаціцца, гудзець, сьвятло тухнуць, настольная лямпа ўпала, гадзіньнік упаў, дзеці пачалі плакаць, усё трасецца страшна, мой малы трось ся ад страху даўжэйшы час, як асінавы ліст. Навет

я спалохалася, каб якаясь хвароба не прычапілася да яго. Гэта трывала толькі адна мінута. Цэнтр гэтага няшчасьця пачаўся прыблізна 20–30 міль ад Лёс Анджэлесу, гэта Сан Фэрнэндо Вэлы. Пацярпелі страшна й суседзкія гарады, як Бурбанк, Студыё Сыты, часткова Галівуд, нейк па-markdown. Мы, і здаецца ўсе нашы суродзічы жывы, вялікіх стратаў ня маюць, апрача некаторым пабілася пасуда ці гаршчочкі ад кветак. Або раскалоліся каміны ці лопнылі сьцены або столь, але гэта ўсё маленькае і нязначнае. Гэта шчасьце ў няшчасьцю, бо каб землятрус быў а 8 г., дык было б шмат больш і забітых, і раненых, бо шмат-шмат па бюрах і фабрыках машыны былі перавернуты. Адным словам, адна мінута прынясла вялікія страшныя шмат каму няшчасьці. У нас асабіста толькі комін раскалоўся і ўжо паправілі, і ў спальні лопнула сьцяна, але гэта замажам. Трасло 3 дні, але памаленьку й нязначна. Праракуюць, што будзе яшчэ горшы, страшнейшы. Адным словам, няма спакойнага куточка ва ўсёй Каліфорні.

Цяпер усё ў руху па-старому. Я працую, як раней. Будзем рыхтавацца да 25 Сакавіка. Ларыса[170] прыслала яшчэ 3 кніжкі. Залучаю ад мужа артыкул, можа ён Табе будзе цікавы. <...>

12.22.1971

<...>

Нас замучылі турботы штодзённага жыцьця. Дом, дзе мы жывём, за адзін год тры разы перапрадаваўся, і апошні гаспадар быў зажадаў ад нас выбрацца, быццам бы яму нашая кватэра падабаецца, дык шуканьне памешканьня замучыла нас, бо ў гэтай ваколіцы якраз мала было адпаведных кватэр, нарэшце нейкае як бы 2 спальні за $130 у месяц знайшлі, два блёкі ад нас, ужо было арганізавана ўсё да перанясеньня, але ў апошні дзень перад гэтам нехта на злосьць хварбаю вымазаў ва ўсіх трох пакоях каўры і сьцены, дык мы адказаліся, баяліся браць і муселі ўсё адклікаць. Пасьля расказалі гэту гісторыю гаспадару і запрапанавалі мы яму больш плаціць, і вось ад студзеня будзем плаціць $115 у месяц (плацілі $85), але пэўныя выгоды маем: блізка нянька, аўтабусы, школы і знанае суседзтва. Міленьцявы сёстры[171] амаль год бяз працы, наагул безрабоцьце вельмі вялікае і ўсё дарагое. Як бачыце з прэсы, нашае грамадзкае жыцьцё паправілася.Сталі крыху ўсе памагаць. Сп. Вініцкі[172], дзякаваць Богу, аджыў, аднавілася сыботня школа, што нас цешыць. Яны гэты дом прадаюць і купілі за 60 тысяч. Л. Геніюш прыслала 6 беларускіх кніжак і кружэлку плястычну новага мужчынскага мадэрнага ансамблю[173] з вусамі, але ня кудлатыя, каторыя выконваюць народныя песьні пад музыку «амэрыканску», дзеці захоплены гэтай кружэлкай.

Янка, маю вяліку просьбу, прышлі, калі ласка, тасьму «Мяцеліцы», падобна як Ты калісь прыслаў «Лявоніхі» і «Крыжачка». Будзем удзячны. Каця В. зьбіраецца навучыць[174]. Бязумоўна, прадстаў рахунак, бо і за прошлыя не заплачана. Залучаю копію верша Л. Г.[175].

<...>

12.30.71 г.

Дарагі Янка!

Напэўна Вы ўжо атрымалі мой ліст, зьнімкі ды копію верша Л. Геніюш. Сяньня ізноў пішу пару слоў.

Учора атрымалі мы ліст ад сп. Ю. Луцкевіча[176] з сумнай весткай аб сьмерці др. Глеба Багдановіча[177]. Я яго знаю, калісьці разам былі. Ён заслужаны змагар за нашу Бацькаўшчыну, паляцеў, быў на Сібіры, страціў здароўе, а цяпер і жыцьцё. Хаця ты

яго ня ведаеш, але прашу дай пачытаць сп. Я. КахаНоўскай[178], і перашлі др. Барысу Рагулі. Перапісваю дакладна частку ліста Ю. Луцкевіча.

«1-га кастрычніка мы страцілі аднаго з найлепшых сваіх сяброў — памёр Глебка Багдановіч. Ён даўно хварэў на стэнакардыю са склерозам каранарных крывяносных начыньняў. У гэты дзень якраз споўнілася 10 год з дня ягонага жанімства. Ён з'езьдзіў у Менск на нейкае сабраньне, купіў жонцы пярсьцёнак, вярнуўся дамоў, яму зрабілася блага, сьціснула сэрца, цераз гадзіну страціў прытомнасьць, а каля поўначы памёр. І хаця каля яго круцілася пяць дахтароў, але зрабіць нічога не змаглі. Дыягназ вядомы.

Зь Вільні прыехаў яго брат Алік з жонкай і сынамі, я зь Лёнькам[179], Тонік[180]. Хавалі ў Рудзенску[181] ў нядзелю 3-га кастрычніка. Сабралася амаль усё мястэчка. Гроб нясьлі аж да могілак на руках. Яго там вельмі любілі й шанавалі, простыя людзі казалі: "Ня было ў нас раней такога дохтара дый больш ня будзе!".

Засталася жонка — Маруся, сынок Слаўка — школьнік, маленькая дачушка — Ірынка. Вельмі шкада Глебку, яшчэ не стары быў (58 гадоў). Але што ж зробіш!?!

Працаваў ён да апошняга дня, лячыў людзей, ратаваў ад сьмерці, а сябе захаваць ня змог. Хай жа яму пухам будзе родная беларуская зямелька, якую ён так любіў!»

Янка, няхай нашы айцы адслужаць паніхіду (ён праваслаўны).

З пашанай Ю. Найдзюк

P. S. Гэту вестку паслала я і др. С. Станкевічу. Юзя.

3.15.72

<...>

Янка, вялікая просьба да Вас ад сп. Каці Вініцкай. Калі ласка, апішы фігуры «Мяцеліцы». Цікава, ці пробувалі Вы танцаваць пад кружэлку канадыйскай аркестры[182]? Усё ж такі добра было б, каб Вы змаглі адбіць гэты танец на тэйпе, як папярэднія нам зрабілі, яны нас ратуюць. Як-нібудзь адудзячымся! Будзем сьвяткаваць Угодкі Сакавіковыя — 26-га. Моцна заняты. Кожну суботу Чэсь вязе дзяцей да Вініцкіх, на лекцыі беларускай мовы. Дзякаваць Богу, сп. Вініцкі так паправіўся, што можа вясьці школку, а Каця набрала ахвоты вучыць танцы. Цяжка, але яны праяўляюць цяпер ахвярнасьць, бо ў іх хаце ўсё адбываецца, ды ўсе хлапцы — амэрыканцы. У траўні мае быць рэспубліканска выстава з мастацкімі выступамі, маемся і мы браць удзел, таму Каця хоча падрыхтаваць «Мяцеліцу».

Цяпер адбываецца ў нас савецка выстава. Мы яе аглядалі. Трэба плаціць за ўступ \$1.00. Рэчы пераважна старынныя, 15—16, 17, а навет 5 вякоў з дадаткамі вырабаў цяперашніх рэспублік. Зь Беларусі былі сэт (камплект. — *В. Т.*) шклянкаў і 3 шкляныя талеркі, далікатна работа (з Гродна), праца саломкі зь Менску таксама выканана добра. На прадажы некаторыя рэчы ёсьць — дарагія, але на жаль беларускага нічога. Ад мужа залучаю розных выразкаў і інфармацыяў... <...>

4-29-76

<...>

Сьвяты Сакавіковы прайшлі магчыма, але людзей мала. На жаль некаторыя людзі ня хочуць хоць адзін раз у год пасьвяціцца.

Маладцы Вашы дзяўчаткі[183], усюды бяруць удзел, дай Бог ім сілы надалей!

У нас у гэтым годзе пагода зімой была цёплая, аднак шмат людзей навокал хварэлі грыпам — flu і ў тым ліку мы. Чэсь быў амаль паўтара года без працы, а цяпер, дзякаваць Богу, другі тыдзень як працуе. Працу знайшоў праз агенцыю, якой трэба плаціць чуць што цэлы месячны заработак, разложаны на 3 месяцы. На жаль,

здаецца ад нас ніхто на Ваш фэстываль[184] (12-га чэрвеня) ня зможа прыехаць. Паперша, у нас яшчэ школьны год не закончаны. Я і Ядзя (старэйша дачка) зьбіраемся на зустрэчу[185] ў верасьні. Ужо зрабілі рэзэрвацыю на самалёт (чартар). Хоць матэрыяльна цяжка, але хочацца спаткацца з сваімі пасьля так шмат гадоў, хаця і ня ўсёй сям'ёй, ды паказаць беларускае дзецям. Карнэля[186] ня можа, бо мае ў маі паездку з школай. <...>

Los Angeles, 6.6.1976

Даражэнькія Оля, Янка і дзяўчаткі!

Шчыра дзякуем за ліст, просім прыслаць выданыя праклямацыі ды запісы, аплату перашлём. Жадаем памыснасьці ў фэстывалю! Ад нас паедзе толькі Клаўдыя Шэлест[187], просім прыняць яе, яна актыўна. На жаль, больш ніхто ня можа, бо ў нас школьны год яшчэ не закончаны. Затое я і Ядзя (старэйша) прыедзем на з'езд, надакучым Вам усім, бо я буду круціцца 2 тыдні, а Ядзя будзе тры, хоча тыдзень пасьвяціць наведаць сваіх сяброўак па школе. Едзем «чартарам», таму зьвязаны з часам, але напалавіну таней. Занятыя і мы вельмі, бо нас мала дык амаль усё на нашых плячах ляжыць. Адным словам, брак усяго, асабліва часу і энэргіі. Агульна дзякаваць Богу памаленьку й кідаемся. Дзеткі вучацца добра, Чэсь ужо другі месяц як працуе, знайшоў працу праз агенцыю, а я на старым мейсцы, ужо мінула 18 гадоў.

22-га і 23-га ў нас быў інтэрнацыянальны фэстываль, у якім і мы бралі ўдзел — у выставе. І наша выстава выглядала прыгожа. Апісанне падалі ўжо ў газэту. Учора і сяньня адбываецца ўкраінскі фэстываль — прыгожы, але мы ім, на жаль, раўняцца ня можам, бо нас мала, ды і тыя абыякавы, але робім, што можам. Залучаю для цікавасьці ўкраінскую брашурку ды артыкульчык зь інтэрнацыянальнага фэстывалю.

Мы атрымалі сумную вестку, што 27-га студзеня сёлета ў Вільне памёр Антон Шантыр[188], ён быў высланы на Сібір і адбыў гэтую катаргу 10 гадоў, меў слабое здароўе і тое страціў, і ўвесь час мучыўся ды пакінуў у вялікім смутку старэнькую матку[189]. Прыкра і жаль, што ад нас адыходзяць на векі дзеячы нашай Бацькаўшчыны.

Дык жа жадаем Вам усім усяго добранькага, здароўя, памыснасьці. Выяжджаем 24-га жніўня а 2 pm (а другой гадзіне па паўдні. — *В. Т.*).

Прывітаньні ўсім! Цалуем моцна! Вашыя Найдзюкі.

11.17.77

<...>

Асобныя мейсцы ў Савецкай выставе мелі армяне і ўкраінцы. Абслугі іх было каля 100 асоб — беларуса ні аднаго. Нашыя экспанаты раскіданы разам з расейскімі і не напісаны, што зь Беларусі, ці беларускія, і мала. Як скрыначкі, відокі. З кружэляк толькі апошні «Песьняры». Не аднае на беларускай мове кніжкі і наагул навет на расейскай мове ня бачыла кніжак беларускіх пісьменнікаў ці паэтаў, апрача Быкава[190]: «Яго батальён» у расейскай мове. Жыдоўска выстава ў тым самым будынку, толькі асобны ўход на другім паверсе і адзін пакой.

Украінскі праваслаўны сьвятар з цэркві Сьв. Андрэя ў дэманстрацыі спаліў савецкі сьцяг, топчучы яго і прамаўляючы. Летувісы два разы спалілі, але нідзе ў прэсе не было сказана ці паказана ў ТВ аб іх. У будучым напішам больш. Ольгі Корбут[191] ня пусьцілі чамусьці. <...>

Бяз даты [ускосна датавана — 1978 г.]

<...>

Нядаўна прыпадкам у ўкраінскім цэнтры спаткаліся мы з Мілевічам Юркам[192], я думаю, памятаеце іх? Яго старэйшы брат быў у першым гімназійным выпуску, а сястру яго Галю выкінулі за паводзіны, а ён вучыўся з Тамарай, Гэрцяй. Ён па справе гандлю прыязджаў з украінцам у ЗША. Зьмяніўся — лысы, грубы, як калодка. Казаў, што ўсе яны трое жанатыя з аўстралійкамі, бацькі іх памерлі, а яны зь беларусамі нічога ня маюць, хаця сябе яшчэ лічаць беларусамі.

Мы занятыя, як заўсёды. Дэманстравалі — супраць Брэжнева[193] ў п'ятніцу і сыботу, а ў нядзелю трэба будзе ўзяць удзел у парадзе новага мэра — чорнага. Дзяўчаты вучацца добра, а сын горш, а мы, дзякаваць Богу, працуем, слабеем і старэем, але гэтую старасьць вельмі заўважаеш па другіх. <...>

9-24-1991

<...>

У прошлу нядзелю — 22-га г. г. мы дэманстравалі разам з украінцамі за свабодную Беларусь зь сьцягам і транспарэнтамі, а пасьля гэтага аднавілі аддзел — БАЗА[194]. Старшыня — Вітаўт Тумаш[195], заступнік — Кастусь Вайцяхоўскі[196], скарбнік — Каця Вініцкая[197]. Аб гэтым апіша ўсё сп. Арцюх[198].

Цяпер, Янка, прабач, крыху аб прыкрым. Сп. Ганэцкі[199] і званіў, і пісаў (ліст — коп'ю яго залучаю Табе). Бачыш, ён прычапіўся да выдуманага слова «Беларусісты». Праўда, і мы яго першы раз чуем, ды і нам яно не падабаецца, але пра гэта ніколі нікому не зьвяртаем увагі, і другім газэтам, як «Ніва»[200], дзе шмат палянізму і русіцызму. Можа мілы Бог дасьць, Бел. акадэм'я супольна ўложаць сапраўдны беларускі правапіс і граматыку. <...>

*Падрыхтоўка да друку Валянціны ТРЫГУБОВІЧ*

## Каментары да лістоў

[1] Стась, Станіслаў Станкевіч (1907–1980) — грамадска-палітычны дзеяч, навуковец, на той час рэдактар газеты «Беларус».

[2] Алесь (Аляксей) Вініцкі (1891–1972) — беларускі грамадскі дзеяч, настаўнік паводле адукацыі, аўтар трохчасткавай кнігі «Матар'ялы да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне ў 1939–1951 гадах» (Лос Анжэлес, 1968). Перавыдадзена ў Мінску ў 1994 годзе.

[3] Бянігна Вініцкая — жонка Аляксея Вініцкага.

[4] «The Byelorussian Times = Беларускі час = Час» — двухмоўная газета, якую ў 1975–1987 гадах прыватна выдаваў у Нью-Ёрку д-р Расціслаў Гарошка (нар. 1938), грамадскі і царкоўны дзеяч, старшыня БАЗА (1971–1975). Выйшла 60 нумароў. Дапамагалі сыну Мікола Гарошка (1902–1979), былы пражскі студэнт-антыкамуніст, грамадскі дзеяч, старшыня БАЗА (1949–1952, 1965–1967), і маці — Зінаіда Гарошка (1905–1983), настаўніца, рэлігійна-грамадская дзяячка. Паводле задумы, новае выданне мелася даваць больш грамадска-палітычнай інфармацыі, чым газета «Беларус», якая пад рэдактарствам С. Станкевіча хілілася ў літаратурна-мастацкі бок.

[5] «Новое русское слово» — газета расейскамоўнай эміграцыі, заснаваная ў Нью-Ёрку ў 1910 годзе. Праз некалькі месяцаў пасля адзначэння свайго 100-годдзя спыніла выхад.

[6] «Хто такія беларускія патрыёты?» Івана Сачанкі — брашура з «Бібліятэчкі газеты "Голас Радзімы"» (гл. спасылку 107), звыклыя для таго часу савецкія прапагандысцкія нападкі на «бебурнацаў» — беларускіх буржуазных нацыяналістаў.

[7] Americans for Freedom of Captive Nations — грамадская агульнаамерыканская арганізацыя, у якую ўваходзілі некалькі дзясяткаў нацыянальных арганізацый (у тым ліку і беларускіх).

[8] Bicentennial Committee — ЗША рыхтаваліся святкаваць 200-годдзе сваёй дзяржавы ў 1976 годзе, беларусы ўдзельнічалі ў гэтых урачыстасцях.

[9] Карнэля — малодшая дачка Юзэфы і Часлава Найдзюкоў. Існавала такая завядзёнка ў падсавецкіх краінах: каб не быць абвінавачаным у кантактах з «ворагамі народа», а такімі лічылі амаль усіх паваенных эмігрантаў, людзі пасылалі лісты іх дзецям (або жонкам).

[10] Сакрат Яновіч (1936–2013) — польска-беларускі пісьменнік, грамадскі дзеяч, апошнія гады жыў у родным мястэчку Крынкі на Беласточчыне (Польшча).

[11] Язэп Найдзюк (1909–1984) — старэйшы брат Часлава Найдзюка. Пасля Другой сусветнай вайны жыў у Польшчы пад імем Язэп Александровіч.

[12] Біскуп Часлаў Сіповіч (1914–1981) — беларускі каталіцкі біскуп, рэлігійны і культурны дзеяч, заснавальнік бібліятэкі-музея імя Францішка Скарыны ў Лондане (1971). Здымак, пра які ідзе гаворка ў лісце, перадрукавалі ў «Хроніцы беларускага жыцьця на чужыне (1945–1984)» Міколы Панькова (Мінск, 2001) на с. 230, пры гэтым Карнэля памылкова названа Кацярынай.

[13] Жонкаю Янкі Запрудніка была Вольга Харытончык (1928–1987), яны былі знаёмыя з часоў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы (Заходняя Нямеччына).

[14] Газета «Беларус» у № 296 (студзень 1982) павіншавала Ніну, старэйшую дачку Янкі і Вольгі Запруднікаў, якая закончыла Нью-Ёркскі ўніверсітэт і выйшла замуж.

[15] Berkeley — горад у Заходняй Каліфорніі (ЗША).

[16] В. Г. Караленка (1853–1921) — расейскі пісьменнік, публіцыстычная і грамадская дзейнасць якога была ў канфрантацыі з царскім рэжымам. Згаданая кніга — праца апошніх гадоў яго жыцця (1906–1921) засталася незавершанай.

[17] «Царкоўны сьветач» — царкоўна-грамадскі часопіс, які выдавалі ў Саўт-Рывэры (гл. спасылку 26) у 1951–1988 гадах.

[18] Ірэна Пануцэвіч (да шлюбу — Будзька) — беларуская грамадская дзяячка на эміграцыі, жонка Вацлава Пануцэвіча.

[19] Ларыса Геніюш (1910–1983) — беларуская паэтка, вязень Гулагу, пасля вяртання ў Беларусь жыла ў Зэльве пад наглядам і ціскам уладаў, аднак працягвала пісаць вершы, успаміны і ліставалася з сябрамі па ўсім свеце.

[20] Джон Лофтус, былы следчы Міністэрства юстыцыі ЗША, напісаў кніжку «Беларускі сакрэт» («The Belarus Secret», New York, 1982), у якой абвінаваціў амерыканскія разведвальныя службы ў супрацоўніцтве з нямецкімі калабарантамі — беларусамі, якім было дазволена пасяліцца ў ЗША. Ён заявіў, што такіх па-над 300 асобаў, аднак прозвішчаў назваў толькі пяць. Выступы Лофтуса па тэлебачанні і радыё мелі шырокі рэзананс, яны былі зняпраўджаныя як беларусамі-эмігрантамі, так і шматлікімі амерыканскімі журналістамі і даследчыкамі, аднак падхопленыя савецкай прапагандай і не забытыя дагэтуль.

[21] Віктар Астроўскі (1912–1975) — грамадскі дзеяч, публіцыст, сын Радаслава Астроўскага.

[22] Усевалад Ігнатоўскі (1881–1931) — беларускі грамадскі і палітычны дзеяч, гісторык. Старшыня Інбелкульта, першы прэзідэнт Акадэміі навук БССР, першы дырэктар Інстытута гісторыі АН БССР.

[23] Аляксандр Цвікевіч (1888–1937) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч, гісторык, юрыст, філосаф, публіцыст. Міністр замежных справаў ва ўрадзе БНР (1921–1923). Пасля II Усебеларускай канферэнцыі ў Берліне (1925) пераехаў з сям'ёю ў Мінск.

[24] Сп. Жук — пад гэтым прозвішчам хаваецца Юры Попка (1912–1990), які, падобна, любіў гульню з псеўданімамі (Б. Журбовіч, Юры Жывіца, Язэп Белавежскі, Кастусь Каліна), ствараючы такім чынам вобраз чалавека-аркестра, імітуючы дзейнасць цэлай арганізацыі. Нарадзіўся Юры Попка на Пружаншчыне, ад 1944 года жыў у Нямеччыне.

[25] «Наш сьцяг» = Our Banner = Unsere Fahne — Ворган Беларускіх Рэвалюцыянэраў — часопіс, які выходзіў у Заходняй Нямеччыне ў 1965–1989 гадах. Сталай перыядычнасці не меў, мяняліся таксама загалоўкі, падзагалоўкі.

[26] South River (Саўт-Рывэр) — паселішча ў штаце Нью-Джэрзі, якое атрымала статус гарадка ў 1897 годзе. Паваенная беларуская эміграцыя ўтварыла тут вялікі грамадскі асяродак: пабудавала царкву Св. Еўфрасінні Полацкай і Беларуска-Амерыканскі грамадскі цэнтр.

[27] Брат з Польшчы — раней згаданы Язэп Найдзюк (гл. спасылку 11).

[28] Д-р Юрка Генiюш (1935–1985), сын Ларысы Генiюш, лекар i пiсьменнiк, якi жыў у Беластоку (Польшча).

[29] «Насуперак волi народа» Уладзiмiра Ладысева — брашура з «Бiблiятэчкi газеты “Голас Радзiмы”» (Мiнск).

[30] Фаб’ян (Фабiян) Ярэмiч (1891–1958) — грамадска-палiтычны дзеяч, пасол польскага Сейма трох склiканняў (1922–1935), старшыня Беларускага пасольскага клуба (1925–1930), адзiн з заснавальнiкаў Вiленскай друкарнi iмя Францiшка Скарыны, дзядзька братоў Найдзюкоў.

[31] Кс. Вiнцэнты Гадлеўскi (1888–1942) — беларускi святар i палiтык, адзiн з лiдараў Беларускай хрысцiянскай дэмакратыi. У часе Другой сусветнай вайны працаваў галоўным школьным iнспектарам у Мiнску, кантактаваў з Язэпам Найдзюком у справе выдання падручнiкаў. Згiнуў у гестапа.

[32] Беларускi нацыянальны камiтэт (БНК) — каардынацыйны прадстаўнiчы орган беларускiх партый i арганiзацый, дзейнiчаў у Вiльнi ад 1921 года. У 1938 годзе забаронены польскiмi ўладамi. У лiпенi 1941 года БНК аднавiлi, Язэп Найдзюк быў яго сакратаром.

[33] Фабiян Акiнчыц (1886–1943) — грамадска-палiтычны дзеяч, iнiцыятар стварэння i старшыня Беларускай нацыянал-сацыялiстычнай партыi, быў кiраўнiком беларускага бюро прапаганды пры Мiнiстэрстве прапаганды Нямеччыны. Забiты савецкiмi партызанамi ў Мiнску.

[34] Уладзiслаў Казлоўскi (1896–1943) — беларускi дзеяч, адзiн з заснавальнiкаў Беларускай нацыянал-сацыялiстычнай партыi (1934–1937). У часе Другой сусветнай вайны быў рэдактарам «Беларускай газеты» (Менск). Забiты савецкiмi партызанамi.

[35] Аляксандр Калодка (1911–1985) — беларускi дзеяч, закончыў Вiленскi ўнiверсiтэт, юрыст. У часе Другой сусветнай вайны працаваў у адмiнiстрацыi Вiлейскай акругi. Арыштаваны немцамi ў 1943 годзе, зведаў канцлагеры Асвенцiм i Бухенвальд. З 1948 года жыў у Аўстралii.

[36] Юстын Мурашка (1890–1952) — беларускi грамадска-палiтычны дзеяч, успамiн-некралог А. Калодкi аб iм быў надрукаваны ў «Беларусе», № 305 (кастрычнiк 1982).

[37] «Нiва» — штотыднёвая беларуская газета, якая выдаецца ў Беластоку (Польшча) з 1956 года.

[38] Д-р Кляйнот (dr. Olgierd J. Klejnot) — прэзiдэнт Калiфарнiйскага аддзялення грамадскай арганiзацыi «Амерыканцы за свабоду паняволеных народаў», сябрам праўлення якога быў Часлаў Найдзюк.

[39] George Putnam — мясцовы журналiст (Калiфорнiя), прыхiльны да праблемаў беларускай дыяспары.

[40] Паваенная эмiграцыя паслядоўна змагалася за ўжыванне назваў «беларус», «Беларусь», каб выразна адрознiвацца ад «рашэн» (расiйскi, Расiя).

[41] Юля Андрусышын (да шлюбу — Каханоўская) i Юзэфа Найдзюк (да шлюбу — Брэчка) сябравалi з часу Беларускай гiмназii iмя Янкi Купалы (Заходняя Нямеччына), iх дзецi — Данчык i Карнэля — лiсталiся нейкi час. Данчык быў госцем i спяваў на вяселлi старэйшай дачкi Найдзюкоў Ядзi ў 1980 годзе.

[42] Iрэна Кулакоўская — дачка беларускага святара а. Аляксандра Кулакоўскага з Аўстралii, якi належаў да Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (БАПЦ).

[43] Уладыка Iзяслаў — Iван (Ян) Бруцкi (1926–2007), iнжынер, займаўся грамадскай працай, у тым лiку ўзначальваў аддзел БАЗА ў Калiфорнii. У 1979 годзе ў Дэтройце быў рукапаложаны ў святара. Епiскап Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (з 1981), мiтрапалiт БАПЦ (з 1984).

[44] Вiктар Сянькевiч (1926 — пасля 1994) — беларускi грамадскi дзеяч, гiсторык, публiцыст. Нарадзiўся на Глыбоччыне. Вучыўся ў Лювенскiм унiверсiтэце (Бельгiя), завяршыў вышэйшую адукацыю ў Гiшпанii. Разам з Янкам Сурвiлам вёў штодзённыя беларускiя перадачы на Гiшпанскiм радыё (1958–1965), супрацоўнiчаў з Радыё «Вызваленне» (Свабода) пад псеўданiмам Язэп Барэйка.

[45] Маецца на ўвазе раней згаданае «Новое русское слово» (гл. спасылку 5).

[46] Вiнцук Склубоўскi (1911–2002) — выпускнiк Вiленскага ўнiверсiтэта, юрыст, актывiст студэнцкага руху. Па вайне жыў у Польшчы. Быў сябрам Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ), у 1966–1969 гадах яго старшынёй.

[47] Антон Шукелайць / Шукелойць (1915–2017) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч, старшыня Беларуска-Амерыканскага задзіночання (1975–2007).

[48] Маецца на ўвазе газета «Беларускі час» — гл. спасылку 4.

[49] Васіль Кендыш (1908–2003) — мітрафорны протаіерэй, у той час быў сакратаром кансісторыі БАПЦ. Газета падала інфармацыі пра тое, што яму былі прысланы па пошце атручаныя лекі, а Уладыку Ізяславу парэзалі шыны на стаянцы аўто. У святле тагачаснага царкоўнага закалоту гэта магло ўспрымацца як выпады «варожага боку».

[50] Пётра Манькоўскі (1916–2002) — грамадскі і царкоўны дзеяч, публіцыст, як вернік належаў да парафіі св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне (Нью-Ёрк).

[51] Пётра Ермін (1915–1986) — шчыры беларускі патрыёт, нарадзіўся на Палессі, «быў настаўнікам на Бацькаўшчыне, вуглякопам у Бельгіі, чорнарабочым у Чыкага, красьляром у Лос-Анджэлесе» — так напісаў пра яго ў некралогу Ч. Найдзюк.

[52] Вінцэнт Жук-Грышкевіч (1903–1989) — грамадска-палітычны дзеяч, навуковец. Старшыня Рады БНР (1970–1982).

[53] Віктар Ярмалковіч (1917–1997) — беларускі краязнавец, гісторык, педагог. Закончыў Віленскую беларускую гімназію (1938), Віленскі ўніверсітэт (1941), юрыст. Быў сябрам Беларускага студэнцкага саюза. Зведаў польскі лагер у Картуз-Бярозе, двойчы — савецкія лагеры. Пасля вызвалення (1956) выехаў у Польшчу.

[54] Віленская беларуская гімназія (1919–1944) — навучальная ўстанова гуманістычнага профілю, змешанага тыпу (вучыліся хлопчыкі і дзяўчынкі). З 1924 года ўсе прадметы выкладаліся па-беларуску. Гэта была сапраўдная кузня беларускай інтэлігенцыі, найперш заходнебеларускай. Пры гімназіі існаваў прытулак для дзяцей-сіротаў, заснаваны кс. А. Станкевічам. Магчыма, Часлаў Найдзюк быў у ліку яго выхаванцаў.

[55] Віленскі біскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі (1876–1955) вельмі варожа ставіўся да Беларускай хрысціянскай дэмакратыі.

[56] Aprowizacja (польск.) — забеспячэнне харчамі.

[57] Зінаіда Станкевіч (да шлюбу — Сініцына, 1909–1988) — настаўніца прыродаведы паводле адукацыі, грамадская дзяячка, жонка Станіслава Станкевіча.

[58] Мар'ян Пецюкевіч (1904–1983) — беларускі этнограф. Вучыўся, жыў, працаваў у Вільні. У 1949 годзе быў рэпрэсаваны. Пасля вызвалення і рэабілітацыі выехаў у Польшчу. Працаваў у музеі ў Торуні.

[59] Мікола Нікан (1908–1999) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч, жыў у Аўстраліі.

[60] «Хто такія крывічы» — брашура (14 с.), у якой працягвалася спрэчка паміж «крывічамі» і «зарубежнікамі», дзвюма варагуючымі між сабой часткамі беларускай эміграцыі, даваліся біяграфічныя звесткі пра асобных лідараў.

[61] Язэп Сажыч (1917–2007) — грамадска-палітычны дзеяч, лекар паводле адукацыі, старшыня Рады БНР (1982–1997).

[62] Барыс Кіт (1910–2018) — беларускі навуковец і грамадскі дзеяч. Падчас нямецкай акупацыі займаўся беларускім школьніцтвам. З 1948 года жыў у ЗША, у 1972 годзе пераехаў у Нямеччыну.

[63] Язэп Малецкі (1906–1982) — грамадска-палітычны дзеяч, лекар паводле адукацыі. З 1949 года жыў у Аўстраліі. Выдаў кнігу ўспамінаў «Пад знакам Пагоні» (Таронта, 1976).

[64] Ванда Махнач (да шлюбу — Чарнецкая, 1919–2007) — ахвярная грамадская дзяячка, вучылася ў Віленскім універсітэце (медыцына), была сябрам Беларускага студэнцкага саюза. У ЗША жыла ў Чыкага.

[65] А. Аляксандар Надсон / Надсан (1926–2015) — святар, грамадскі дзеяч, вядомы беларусіст. Апостальскі візітатар для беларусаў-каталікаў замежжа. Жыў у Лондане (Вялікабрытанія).

[66] Сп-ва Кіпеляў — маецца на ўвазе Зора (да шлюбу — Савёнак, 1927–2003) і Вітаўт (нар. 1927) Кіпелі, актыўныя грамадскія дзеячы, навукоўцы-беларусісты, выпускнікі Лювенскага ўніверсітэта.

[67] Кастусь Акула (сапр. Аляксандр Качан, 1925–2007) — беларускі грамадскі і культурны дзеяч, журналіст, пісьменнік, выдавец. Жыў у Канадзе.

[68] І. і К. Касякі — маюцца на ўвазе Іван і Крыстына. Іван Касяк (1909–1989) — палітычны і рэлігійны дзеяч, архітэктар паводле адукацыі. Узначальваў сакратарыят Беларускай Цэнтральнай

Рады (БЦР) у 1948–1951 гадах, Беларускі кангрэсавы камітэт Амерыкі (БККА) у 1957–1989 гадах. Крыстына Жэндрыхова (лекар паводле адукацыі) была яго другой жонкай.

[69] Антон і Людвіка Бяленісы — сям'я актыўных у беларускім жыцці асобаў (жылі ў Чыкага); Людвіка (да шлюбу — Будзька, 1911–2002) — грамадская дзяячка, знаўца народнага мастацтва і яго папулярызатар.

[70] Аляксандар Лашук (1909–1997) — беларускі грамадскі дзеяч, шматгадовы старшыня Рады БНР у Вялікабрытаніі, жыў у Лондане.

[71] Язэп Арцюх (1922–2013) — грамадскі дзеяч, інжынер паводле адукацыі, адзін з трох заснавальнікаў англамоўнага квартальніка «Belarusian Review» (1989), да 2002 года— яго рэдактар-выдавец.

[72] Антон Адамовіч (1909–1998) — літаратуразнавец, пісьменнік, на эміграцыі адзін з ідэалагічных лідараў БНР.

[73] Вацлаў Ластоўскі (1883–1938) — гісторык, этнограф, пісьменнік, палітычны дзеяч, прэм'ер-міністр урада БНР (1919–1923), акадэмік Акадэміі навук БССР (1928).

[74] Беларускі інстытут навукі і мастацтва (БІНіМ) — заснаваны ў 1951 годзе ў Нью-Ёрку як грамадская навукова-культурная арганізацыя. Зарэгістраваны ў 1953 годзе з правам дзейнасці па ўсёй тэрыторыі ЗША. Філіі ў Нямеччыне (1962–2011) і Канадзе (з 1967). Дырэктар БІНіМа — Вітаўт Кіпель (з 1982).

[75] Васіль Шчэцька (1923–2011) — грамадскі і царкоўны дзеяч, выпускнік Лювэнскага ўніверсітэта (адзін з славутай «дванаццаткі»).

[76] Беларуская друкарня імя Францішка Скарыны ў Вільні (1926–1940), заснаваная прыхільнікамі Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, шмат зрабіла для пашырэння беларускамоўнага друку, найперш у Заходняй Беларусі.

[77] «Шлях Моладзі» — грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс, які выдаваўся ў Вільні ў 1929–1939 гадах. Друкаваўся беларускай лацінкай і кірыліцай. З верасня 1937 года выходзіў два разы на месяц. Першым рэдактарам быў Мар'ян Пецюкевіч, з 1930 года— Язэп Найдзюк.

[78] «Шлях беларускага студэнта» — штомесячны дадатак да часопіса «Шлях Моладзі», выдаваўся з 1938 года.

[79] Кс. Адам Станкевіч (1891–1949) — беларускі грамадска-палітычны, рэлігійны і культурны дзеяч, адзін з заснавальнікаў і лідараў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі.

[80] Мікола Панькоў (1911–1995) — архівіст, бібліёграф, пісьменнік, чыімі высілкамі гісторыя беларускай эміграцыі занатавана ў «Летапісе» (гл. спасылку 88).

[81] Катынь — мясцовасць у Смаленскай вобласці (Расія), што стала сімвалам масавага забойства людзей і хлусні. У Катынскім лесе ў 1940 годзе супрацоўнікамі НКУС СССР было расстраляна амаль 15 тысяч польскіх грамадзянаў — пераважна палонных вайскоўцаў, сярод якіх былі і этнічныя беларусы. Толькі ў 2010 годзе Дзяржаўная Дума Расіі прызнала гэты масавы расстрэл «злачынствам сталінскага рэжыму». А Камісія Кангрэса ЗША па Катыні (1951) прыйшла да падобнай высновы яшчэ паўстагоддзя таму.

[82] Бюлетэнь Беларускай Цэнтральнай Рады — «Жыве Беларусь». Выдаваўся ў Саўт-Рывэры, штат Нью-Джэрзі. Галоўны рэдактар — Кастусь Каліна (Юры Попка). Выйшла 12 нумароў (1976–1986).

[83] Хведар Ільяшэвіч (1910–1948) — паэт, журналіст, грамадскі дзеяч. Выпускнік Віленскага ўніверсітэта. Падчас Другой сусветнай вайны быў рэдактарам газеты «Новая дарога» (Беласток). Загінуў у аўтакатастрофе ў Нямеччыне. У 1981 годзе газета «Беларус» (№ 289) змясціла абвестку пра тое, што дачка паэта шукае і збірае бацькаву спадчыну. Да гэтага далучыўся Юры Попка (Ch. Schuk), стваральнік беларускага музея ў Ляймене (Нямеччына). Падказку пра адзін з адрасоў архіва Ільяшэвіча падаў Уладзімір Брылеўскі («Беларус», № 293). Справа зацягнулася...

[84] Юрка Трачук — у той час журналіст тыднёвіка «Ніва» (Беласток, Польшча).

[85] Юры Туронак (нар. 1929) — гісторык, беларускі грамадскі дзеяч. Закончыў Галоўную школу планавання і статыстыкі ў Варшаве (1952). З пачатку 1960-х гадоў займаецца гістарычнымі даследаваннямі. У 1986 годзе абараніў доктарскую дысертацыю «Беларусь пад нямецкай акупацыяй» і гэтым увёў у навуковыя даследаванні альтэрнатыву савецкім поглядам на шмат якія падзеі Другой сусветнай вайны. Жыве ў Польшчы.

[86] Вацлаў Іваноўскі (1880–1943) — беларускі нацыянальны дзеяч. Падчас Другой сусветнай вайны быў бурмістрам Мінска. Забіты пры нявысветленых дарэшты варунках. Пахаваны на мінскіх Кальварыйскіх могілках.

[87] Армія Краёва (Armia Krajowa) — узброеная падпольная арганізацыя, якая дзейнічала на акупаванай нацысцкай Нямеччынай тэрыторыі Польшчы і частцы тэрыторый Беларусі, Украіны, Летувы, ставіла мэту аднаўлення Польшчы ў межах 1939 года. Абараняючы польскія інтарэсы, АКаўцы даволі актыўна змагаліся з беларускім нацыянальным рухам, вынішчалі яго дзеячаў, настаўнікаў, праваслаўных святароў, часам і проста беларусаў-вяскоўцаў рознага ўзросту.

[88] «Летапіс жыцьця беларускай эміграцыі» (рэд. М. Панькоў, В. Шчэцька) — адноўленае ў 1984 годзе выданне Л. Галяка (№ 1 – 1947 г.). Выходзіла да 1991 года, ад верасня 1985 года мела назву «Летапіс беларускай эміграцыі».

[89] Юрка Віцьбіч (сапр. Серафім Шчарбакоў, 1905–1975) — пісьменнік, грамадскі і культурны дзеяч, рэдактар і выдавец.

[90] Ruch Społeczno-Polityczny Pomost — польска-амерыканская грамадская арганізацыя, запачаткаваная ў Чыкага ў 1979 годзе, дзейнічала да абвяшчэння ў Польшчы свабодных выбараў (1989).

[91] Наталля Орса (да шлюбу — Сазановіч, 1903–1990) — настаўніца, жонка Аляксандра Орсы (1896–1959), дырэктара Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы, якую закончыла і Юзэфа Брэчка (у шлюбе — Найдзюк). Праз усё сваё жыццё Н. Орса займалася выхаваннем маладога пакалення, узгадаваннем беларускіх патрыётаў, маральна падтрымлівала сваіх былых вучняў.

[92] Мікола Давідзюк (нар. 1944) — мастак, беларускі грамадскі дзеяч, закончыў Вышэйшую мастацкую школу ў Лодзі (Польшча, 1969) і працуе ў ёй выкладчыкам (у 1990-я гады школа была перайменаваная ў Акадэмію мастацтва), прафесар жывапісу.

[93] Аляксандра Бергман (дзявочае — Кучкоўская, 1906–2005) — дзяячка рэвалюцыйнага і нацыянальна-вызвольнага руху ў Заходняй Беларусі, гісторык, публіцыст. Жыла ў Польшчы. Друкавалася і ў беларускіх перыёдыках.

[94] Прамоўцы — тут: прадстаўнікі розных нацыянальных груп, якія ў Амерыцы супольна выступалі з антысавецкіх пазіцый, супраць бальшавіцкага паняволення сваіх народаў, айчынаў.

[95] Іван Аўдзей, які належаў да саўт-рывэрскай беларускай грамады, у выніку разборак, што пачаліся пасля выхаду ў свет кнігі Джона Лофтуса «The Belarus Secret», быў дэпартаваны ў краіну, з якой прыехаў у ЗША, дакладней — у Нямеччыну.

[96] Гл. спасылку 93.

[97] «Весткі БАЗА» («Весткі й паведамленьні аддзелу Беларуска-Амерыканскага Задзіночаньня Нью Ёрку») — інфармацыйнае выданне, запачаткаванае ў 1982 годзе. Цяпер выходзіць як орган Беларуска-Амерыканскага згуртавання «Пагоня».

[98] А. Святаслаў Коўш (1919–1997) — сын святара Аляксандра Каўша; закончыў Віленскі ўніверсітэт, юрыст, сябра Беларускага студэнцкага саюза. У 1969–1976 гадах быў настаяцелем парафіі Св. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле (Нью-Ёрк), у 1976–1986 гадах служыў у Саўт-Рывэры.

[99] Артукавіч — да арганізаванай беларускай грамады, выглядае, не належаў, але таксама стаўся ахвяраю Джона Лофтуса.

[100] Kojak — персанаж тэлесерыяла «The Belarus File», у якім былі эпізоды, знятыя паводле кнігі Джона Лофтуса.

[101] Прадстаўнікі беларускай эміграцыі першымі ў Заходнім свеце паднялі праблему чарнобыльскіх наступстваў для Беларусі, звяртаючы ўвагу на тое, што радыяцыйныя выкіды найбольш забрудзілі менавіта нашу тэрыторыю, чым стварылі велізарную пагрозу для яе жыхароў. Фармальна ж аварыя адбылася ва Украіне, і таму першая дапамога і спачуванне свету былі накіраваныя туды.

[102] Янка Міхалюк (1922–1995) — старшыня Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі (1970–1995).

[103] Алег Бембель (нар. 1939) — філосаф, паэт, публіцыст, з 1996 года — насельнік праваслаўнага манастыра ў Жыровічах (Гродзенская вобласць), інак Мікалай. У 1985 годзе яго аналітычная праца пра стан беларускай мовы («Роднае слова і маральна-эстэтычны прагрэс»), успрынятая ў БССР як дысідэнцкая, была надрукаваная ў Лондане.

[104] Янка Мойсік (нар. 1956) — тагачасны рэдактар беларускага сектара Радыё Ватыкана.

[105] Беларускі каляндар 1986 — маецца на ўвазе каляндар кніжнага фармату, які штогод выдавала Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ) у Беластоку (Польшча). Першы быў на 1957 год.

[106] Маюцца на ўвазе «Навіны Беларускага народнага фронту “Адраджэнне”», якія пачалі выходзіць у Мінску з 1988 года, калі паўстаў Аргкамітэт БНФ.

[107] У назве артыкула, відавочна, быў скарыстаны класічны выраз Цэзара: «і ты, Брут...». «Нож» — прага незалежнасці з боку Беларусі — для Крамля быў поўнай нечаканасцю.

[108] Гэтыя ўспаміны ў газеце, падобна, апублікаваны не былі. Аднак пра свайго прыяцеля Міколу Новіка аўтар пісаў і раней. Напрыклад, інфармацыя пра святкаванне 50-годдзя яго грамадска-палітычнай дзейнасці была апублікаваная ў «Беларусе», у № 217, 220 (фота).

[109] «Голас Радзімы» — тыднёвік Беларускага таварыства па культурных сувязях з суайчыннікамі за мяжой (кароткая назва — Беларускае таварыства «Радзіма»), які друкаваўся ў Мінску і быў прызначаны для чытачоў за межамі Беларусі. Як прапагандысцкае выданне ён рассылаўся ў савецкі час бясплатна.

[110] Міхась Кавыль (сапр. Язэп Лешчанка, 1915–2017) — паэт, грамадскі дзеяч, рэдактар, па вайне жыў у Саўт-Рывэры (штат Нью-Джэрзі, ЗША).

[111] Гаворка ідзе пра будучую кнігу Янкі Запрудніка «Belarus at a Crossroads in History». Boulder — San Francisco — Oxford, 1993.

[112] Маецца на ўвазе раман Кастуся Акулы «За волю» (Таронта, 1991).

[113] Ян Пятроўскі (1905–2002) — рэлігійны і грамадска-культурны дзеяч, пісьменнік, перакладчык, выдавец. У 1991 годзе выйшаў другі том яго «Мэмуараў».

[114] Гаворка ідзе пра кнігу «Беларуская друкарня імя Францішка Скарыны ў Вільні (1926–1940)» Станіслава Цыпрыяновіча (Язэпа Найдзюка), якая выйшла ў Лондане ў 1991 годзе.

[115] А. д-р Роберт Тамушанскі (1940–1996) — кіраўнік беларускай праграмы Радыё Ватыкана.

[116] Żnič — рэлігійна-грамадскі часопіс, які выдаваў беларускаю лацінкаю ў Рыме ў 1950–1975 гадах доктар тэалогіі Пётр Татарыновіч (1896–1978), святар, грамадскі і культурны дзеяч, прыхільнік беларусізацыі царкоўнага жыцця. Выйшла 120 нумароў.

[117] «Беларуская думка» = Byelorussian Thought — грамадска-палітычны і літаратурна-мастацкі часопіс, Нью-Ёрк — Саўт-Рывэр, з 1960 года (з 1994 — Belarusian Thought).

[118] Гл. «Весткі БАЗА» (спасылка 97). Аляксандр Міцкевіч (1919–2015) быў іх выдаўцом-рэдактарам на працягу 15 гадоў.

[119] Васілій Ключэўскі (1841–1911) — вядомы расейскі гісторык, які асноўным фактарам гісторыі Расеі лічыў каланізацыю.

[120] «Полацак» = Połacak — штомесячнік, выдаваўся ў Кліўлендзе (штат Агаё, ЗША) у 1991–1997 гадах; выйшла 43 нумары.

[121] «Беларускі сьвет»= Byelorussian World — выходзіў у Дэтройце (штат Мічыган, ЗША) у 1963–1991 гадах (з перапынкамі).

[122] Міхась Міцкевіч (1897–1991) — наймалодшы брат Якуба Коласа, грамадскі і царкоўны дзеяч, школьны інспектар у часе Другой сусветнай вайны, рэдактар і выдавец на эміграцыі.

[123] Святлана Белая — рэдактар часопіса «Полацак» (гл. спасылку 120).

[124] Андрэй Майсяёнак (нар. 1943) — навуковец у галіне біяхіміі, член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (2000), актыўны краязнавец. У згаданы час быў сябрам гарадзенскага клуба «Паходня».

[125] Міхась Раецкі (1927–2003) — беларускі грамадскі дзеяч, шматгадовы старшыня Беларускага аб’яднання ў Заходняй Аўстраліі, арганізатар беларускай праграмы на мясцовым радыё.

[126] Ірына Смірноў (да шлюбу — Каляда) — актыўная беларуская грамадска-культурная дзяячка. Жыве ў Кліўлендзе. Пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС стала арганізатарам аздараўлення ў замежжы беларускіх дзяцей, найперш з малазабяспечаных сем’яў і дзіцячых дамоў.

[127] Яраслаў Вініцкі — малодшы сын Аляксея Вініцкага (гл. спасылку 2).

[128] Надзея Артымовіч (нар. 1946) — беларуская паэтка з Беласточчыны (Польшча).

[129] Ігнат Дварчанін (1895–1937) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч, навуковец, пісьменнік. Доктар філасофіі (Прага, 1925). У 1928 годзе абраны ў польскі сейм ад Наваградка.

У 1930 годзе асуджаны польскімі ўладамі на восем гадоў турмы (працэс па справе Беларускага клуба «Змаганьне»). У выніку абмену палітзняволенымі паміж Польшчай і СССР праз два гады апынуўся ў савецкім Гулагу. Расстраляны. «Змаганьне» — Беларускі сялянска-рабочы пасольскі клуб, дэпутацкая фракцыя польскага сейма ў 1928–1930 гадах.

[130] В. Гадлеўскі — гл. спасылку 31.

[131] А. Станкевіч — гл. спасылку 79.

[132] Лявон Вітан-Дубейкаўскі (1869/1867–1940) — беларускі паэт, архітэктар. Закончыў Акадэмію архітэктуры ў Парыжы (1909). Удзельнік беларускага нацыянальна-культурнага руху.

[133] «Беларускі фронт» — газета, якая выдавалася ў Вільні на беларускай мове (1936–1939). Выступала ў падтрымку ідэй БНР.

[134] Мікола Шкялёнак (1899–1946) — беларускі грамадскі і палітычны дзеяч, гісторык, журналіст. Закончыў Віленскі ўніверсітэт (1932). У 1936 годзе быў адным з заснавальнікаў арганізацыі Беларускі нацыянальны фронт, членам рэдкалегіі яе органа — газеты «Беларускі фронт».

[135] Друкарня імя Францішка Скарыны — гл. спасылку 76.

[136] Фабіян Ярэміч — гл. спасылку 30.

[137] «Biełaruskaja krynica» («Беларуская крыніца») — штотыднёвік, орган Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. Выдаваўся на беларускай мове, карыстаўся як лацінкай, так і кірыліцай. Выходзіў у Петраградзе (1917), Менску (1918), Вільні (1919–1940) з перапынкамі. Да 1925 года меў назву «Крыніца».

[138] «Chryścijanskaja Dumka» («Хрысціянская думка») — рэлігійны часопіс беларусаў-католікаў, які з 1928 года выдаваўся ў Вільні пад рэдакцыяй ксяндза Адама Станкевіча.

[139] «Шлях Моладзі» — гл. спасылку 77.

[140] Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры — культурна-асветная арганізацыя ў Заходняй Беларусі (1926–1936).

[141] Беларускі нацыянальны камітэт — гл. спасылку 32.

[142] Адольф Клімовіч (1900–1970) — грамадскі дзеяч, журналіст, выдавец.

[143] Мгр. Янка Шутовіч (1904–1973) — беларускі літаратуразнавец, выдавец, грамадскі і культурны дзеяч. Закончыў Віленскі ўніверсітэт (1934). У 1935–1939 гадах выдавец і рэдактар часопісаў «Калосьсе», «Шлях Моладзі».

[144] Станіслаў Выспянскі (1869–1907) — польскі драматург, паэт, мастак і тэатральны дзеяч.

[145] Максім Танк (сапр. Яўген Скурко, 1912–1995) — беларускі і савецкі паэт, перакладчык, грамадскі дзеяч.

[146] Рыгор Шырма (1892–1978) — беларускі харавы дырыжор, фалькларыст, грамадскі і музычны дзеяч.

[147] Сяргей Паўловіч (1875–1940) — багаслоў, педагог, перакладчык, дзеяч у галіне царкоўнай асветы.

[148] Максім Бурсэвіч (1890–1937) — дзеяч беларускага нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, педагог, публіцыст. Уваходзіў у кіраўніцтва Беларускай сялянска-работніцкай Грамады. Быў арыштаваны польскімі ўладамі, прыгавораны да васьмі гадоў турэмнага зняволення. У выніку абмену палітычнымі вязнямі паміж Польшчай і СССР апынуўся ў Гулагу, быў расстраляны.

[149] Вацлаў Пануцэвіч (Папуцэвіч, 1911–1991) — беларускі палітычны і рэлігійны дзеяч, гісторык. Пасля 1949 года жыў у Чыкага (ЗША). Плённа працаваў як даследчык і асветнік. Цяжка сказаць, пра якую менавіта кнігу ідзе гаворка.

[150] Радаслаў Астроўскі (1987–1976) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч. Дырэктар Віленскай беларускай гімназіі (1924–1936). Віцэ-старшыня Беларускай сялянска-работніцкай Грамады (1925–1927). Прэзідэнт Беларускай Цэнтральнай Рады (абраны ў Мінску ў снежні 1943). У згаданы час жыў у эміграцыі.

[151] Газета «Незалежная Беларусь» — цэнтральны орган Беларускага вызвольнага руху. У 1952–1954 гадах выдавалася ў Нямеччыне.

[152] «Ніва» — гл. спасылку 37.

[153] Мар'ян Пецюкевіч — гл. спасылку 58.

[154] «Полымя» — літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны штомесячны часопіс, выдаецца з 1922 года ў Мінску на беларускай мове.

[155] З ліста, на які адказвае Юзэфа, пачалося шматгадовае ліставанне сям'і Найдзюкоў (Юзэфы і Часлава) з Янкам Запруднікам. Юзэфа і Янка былі знаёмыя яшчэ з Беларусі, вучыліся абое ў Баранавічах. Потым давучваліся ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне, нейкі час працавалі ў газеце «Бацькаўшчына» (Мюнхен). У ЗША апынуліся ў розных кутках: Янка Запруднік жыў у Нью-Ёрку, Юзэфа Найдзюк (Брэчка да шлюбу) — у Каліфорніі. Відавочна, што Часлаў пазнаёміўся з Янкам завочна і зрабіўся сталым карэспандэнтам газеты «Беларус» не без уплыву сваёй жонкі. (Той ліст Янкі Запрудніка апублікаваны ў ягонай кнізе «Па гарачых слядах мінуўшчыны. Мае лісты 1952–1959 гг.». Мінск, 2015. С. 527–528.)

[156] Янка Жучка — колішні аднакласнік, з 1945 года яны разам вучыліся ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы (Рэгенсбург, Міхельсдорф). Пасля заканчэння Лювенскага ўніверсітэта жыў у Бельгіі.

[157] Газета «Бацькаўшчына» ў № 43 (325) за 21 кастрычніка 1956 года паведаміла, што Юзя Брэчка выйшла замуж і павіншавала яе.

[158] Insurance (англ.) — страхаванне, тут: у страхавой кампаніі.

[159] Часлаў Найдзюк (1915–1995), муж Юзэфы, у 1940 годзе закончыў Віленскі ўніверсітэт імя Стафана Баторыя (Сцяпана Батуры), праўнік / юрыст.

[160] Усё жыццё Найдзюкі, маючы невялікія заробкі, дапамагалі пасылкамі сваякам і сябрам у Польшчы і Беларусі.

[161] 25 Сакавіка паваенная эміграцыя штогод святкуе як Дзень незалежнасці Беларусі.

[162] Максім Багдановіч (1891–1917) — паэт, класік беларускай літаратуры.

[163] Якуб Колас (сапр. Канстанцін Міцкевіч, 1882–1956) — народны пісьменнік БССР, класік беларускай літаратуры.

[164] Слуцкае паўстанне, дакладней, Слуцкі збройны чын — узброеная барацьба беларусаў (найбольш — жыхароў Случчыны) супраць бальшавіцкай Чырвонай арміі ў лістападзе — снежні 1920 года.

[165] Барыс Рагуля (1920–2005) — вайсковы і грамадска-палітычны беларускі дзеяч. Лекар паводле адукацыі. Знаёмы Юзэфы з часоў Другой сусветнай вайны.

[166] Ларыса Геніюш (1910–1983) — беларуская паэтка, вязень Гулагу (Інта, Абезь...), пасля вяртання на радзіму перапісвалася і сустракалася з Юзінай сястрой Марыяй, таксама былой зняволенай у Інце.

[167] Хор Жарава — хор данскіх казакоў Сяргея Жарава, створаны ў эміграцыі ў 1921 годзе, быў адным з самых вядомых рускіх хораў у свеце.

[168] Пётра Конюх (1910–1994) — оперны спявак, бас. Нарадзіўся ў мястэчку Турэц Карэліцкага раёна. Быў у Арміі Андэрса. З 1958 года — саліст хору данскіх казакоў Сяргея Жарава. Браў чынны ўдзел у беларускіх імпрэзах. Сярод запісанага ім на кружэлкі — беларускія народныя песні, «Магутны Божа» Арсенневай — Равенскага і інш.

[169] Гаворка ідзе пра землятрус у ваколіцах Лос-Анджэлеса.

[170] Маецца на ўвазе Ларыса Геніюш.

[171] Міленьцявы сёстры — магчыма, маюцца на ўвазе сёстры кампазітара і музыканта Алімпа Мяленьцева Нона і Валянціна.

[172] Аляксей Вініцкі — гл. спасылку 2.

[173] Гаворка ідзе пра ансамбль «Песняры», які ў тыя гады набіраў папулярнасць.

[174] Каця Вініцкая (нявестка Аляксея Вініцкага, жонка яго сына Яраслава) — актыўная грамадская дзяячка, узялася тады вучыць з дзецьмі народныя танцы — «Лявоніху», «Мяцеліцу», «Крыжачок». Пазней гэтая танцавальная група, у складзе якой былі і дзеці Найдзюкоў, выступала на розных імпрэзах у штаце Каліфорнія, рэпрэзентуючы беларусаў, іх нацыянальную культуру.

[175] Верш Л. Г. — Ларысы Геніюш.

[176] Юрка Луцкевіч (1920–1992) — старэйшы сын Антона Луцкевіча (1884–1942), пасля вяртання з Калымы ў 1957 годзе жыў у Вільні. Юзэфа пазнаёмілася з ім у часе Другой сусветнай вайны.

[177] Доктар Глеб Багдановіч (1913–1971) — знаёмы Юзэфы з часоў Другой сусветнай вайны.

[178] Яніна Каханоўская — беларуская грамадская дзяячка, маці Юлі (у шлюбе — Андрусышын), сяброўкі Юзэфы з часоў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы.

[179] Лявон Луцкевіч (1922–1997) — малодшы брат Юркі Луцкевіча. Пасля вяртання з лагера жыў у Вільні, быў актыўны ў грамадскім жыцці.

[180] Тонік, Антон Шантыр (1919–1976) — сын Людвікі Сівіцкай (Зоські Верас) і Фабіяна Шантыра.

[181] Рудзенск — гарадскі пасёлак у Пухавіцкім раёне Мінскай вобласці.

[182] Кружэлка канадыйскай аркестры — гаворка, падобна, ідзе пра нейкую кружэлку Беларускага выдавецка-мастацкага клюба «Пагоня» ў Таронта. Магчыма, пра запіс аркестра «Мэлёдыя» пад кіраўніцтвам Б. Лішчонка.

[183] Ніна і Вера Запруднікі разам з бацькамі бралі ўдзел у розных беларускіх імпрэзах.

[184] Беларускі фестываль у Нью-Джэрзі праходзіў 12 чэрвеня 1976 года.

[185] Традыцыйная Сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі ладзіцца кожны цотны год, пачынаючы з 1952 года, на пачатку верасня, бо першы панядзелак месяца (Labor Day у ЗША) — вольны, непрацоўны дзень, што дае магчымасць гуляць тры дні запар. 12-я Сустрэча (1976) праходзіла ў Нью-Брансвіку (штат Нью-Джэрзі).

[186] Карнэля — другая дачка Юзэфы і Часлава Найдзюкоў.

[187] Клаўдыя Шэлест — беларуская грамадская дзяячка.

[188] Гл. спасылку 179.

[189] Людвіка Сівіцкая (1892–1991), больш знаная як Зоська Верас, — беларуская пісьменніца, грамадская дзяячка. Акрамя сына, Антона Шантыра, мела дачку Галіну Войцік. Жыла ў Вільні.

[190] Васіль Быкаў (1924–2003) — празаік, знаны беларускі пісьменнік, вядучым матывам творчасці якога быў чалавек у сітуацыі трагічнага выбару.

[191] Вольга Корбут — беларуская савецкая гімнастка, нарадзілася і вырасла ў Гародні. Алімпійскай зоркай стала пасля Алімпійскіх гульняў у Мюнхене (1972). Была вельмі папулярная ў ЗША не толькі ў асяроддзі беларусаў.

[192] Мілевіч Юрка — былы вучань Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Міхельсдорфе (Нямеччына). Згаданыя далей аднакласніцы: Тамара, відавочна, Карповіч, Гэрця — Гертруда Чарнэцкая.

[193] Брэжнеў Леанід Ільіч (1906–1982) — Генеральны сакратар Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, фактычна кіраўнік дзяржавы. Дэманстрацыя, пэўна, была антысавецкая: пратэст супраць парушэння правоў чалавека ў СССР, супраць акупацыі / каланізацыі Беларусі. Персаніфікацыя ў назве — умоўнасць.

[194] БАЗА — Беларуска-Амерыканскае задзіночанне, найбольшая беларуская грамадская арганізацыя ў ЗША; створана ў 1949 годзе.

[195] Маецца на ўвазе Вітаўт Юрка Тумаш (1946–2006) — сын Вітаўта Тумаша (1910–1998), беларускага грамадска-палітычнага дзеяча, тагачаснага дырэктара Беларускага інстытута навукі і мастацтва (БІНіМ).

[196] Кастусь Вайцяхоўскі (нар. у 1926) — беларускі грамадскі дзеяч.

[197] Каця Вініцкая (да шлюбу — Янцэвіч) — гл. спасылку 173.

[198] Язэп Арцюх — гл. спасылку 71.

[199] Пётр Ганэцкі (1909–1992) — беларускі грамадска-палітычны дзеяч.

[200] «Ніва» — гл. спасылку 37.

# ЗМЕСТ

## СПРАВЫ ДАЎНЯЙ МІНУЎШЧЫНЫ



## ЮБІЛЕЙНАЕ: 200 ГОД ТАВАРЫСТВУ ФІЛАМАТАЎ



## РАДАВОДНАЕ ДРЭВА



## ГАДЫ «ВЯЛІКАГА ТЭРОРА»



## «ПАЧНЕМ ЗБІРАЦЬ ЗЯРНО К ЗЯРНЯЦІ...»

## ДЫЯСПАРА

АСОБА І ЧАС
Беларускі біяграфічны альманах

Заснаваны ў 2009 годзе

Выпуск 8

Адказны за выпуск *М. У. Шыбко*

Мастак *Г. І. Мацур*

Вёрстка і дызайн *В. Я. Нога*

Карэктар *М. М. Шавыркіна*

Падпісана ў друк 07.03.2018. Фармат 70×100 1/16. Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 32,34. Ул.-выд. арк. 29,6. Наклад 299 асоб. Заказ 2737.

Выдавецтва ТАА «Лімарыус». Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вытворцы і распаўсюджвальніка друкаваных выданняў 20.03.2014 за № 1/226.
Вул. Геалагічная, 59, к. 4, п. 29, 220138, г. Мінск.

Таварыства з дадатковай адказнасцю «Новапрынт».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы
і распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/54 ад 25.02.2014.
Вул. Геалагічная, 59, к. 4, п. 10, 220138, г. Мінск.




Малюнак 3. Сукня левіт. Gallerie des modes et costumes français... © Rijksmuseum



Малюнак 4. Сукня П’еро. Magasin des modes nouvelles françaises et anglaises. 19e Cahier. Paris: Buisson, 1789. © Rijksmuseum

*Дзмітрый Матвейчык*

**Юзэфа Абязерская і яе ўспаміны «Пакутніцкія гады» пра паўстанне 1863–1864 гадоў**




Ксёндз Люцыян Гадлеўскі. Дрэварыт Аляксандра Рагульскага для газеты «Tygodnik Ilustrowany» на падставе малюнка Францішка Тэгаццо, 1876 г. (са збораў Нацыянальнай бібліятэкі ў Варшаве)



Доктар Аляксандр Аскерка. Фотаздымак апошняга перыяду жыцця (Gieysztor J. Pamiętniki... T. 1, s. 262)

— 584 —

| Должность, фамилія, имя, отчество, чинъ, ордена и знаки отличія. | Время назначенія въ настоящую должность. | Вѣроисповѣданіе. | Мѣсто воспитанія. | Семейное положеніе. | Получаемое содержаніе. | Лѣта. От ро-ду. | Лѣта. Служ-бы. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| войны 1853—56 г. и усмиренія польскаго мятежа 1863—64 г. | | | | | | | |
| Младшій Ординаторъ Лунцъ, | 1 Октяб. | Е. | Московомъ | Х. | 462р. | 26 | 1 |

Первое упоминание О. Л. Лунца в официальном справочнике («Адрес-Календарь Виленского генерал-губернаторства на 1868 год»)




Захарьевская улица в Минске, слева деревья Александровского сквера. Большое трехэтажное здание на заднем плане – дом Поляка, где размещалась, в частности, мастерская портного Гайнера, белый двухэтажный дом рядом с ним принадлежал О. Л. Лунцу



Здание хоральной синагоги на Серпуховской улице (ныне это Русский театр на улице Володарского, здание перестроено до неузнаваемости)

Принимаются заказы разнаго рода военнаго —) и (— гражданскаго платья.

Большой выборъ разныхъ военныхъ —) и (— гражданскихъ модн. матеріаловъ и офицерскихъ вещей.

Военный и гражданскій портной

Л. Гайнеръ и Сыновья

*Фирма существуетъ съ 1860 г.*

Въ г. Минскѣ, Захарьевская ул., д. Поляка противъ Александровскаго сквера.

Реклама мастерской Гайнера

МѢРЫ БОРЬБЫ

СЪ РАСПРОСТРАНЕНІЕМЪ

ТУБЕРКУЛЕЗА.

*Доктора медицины О. Л. ЛУНЦА.*

МИНСКЪ.
Электро-Типографія Илья Капланъ.
1911 г.

Обложка брошюры О. Л. Лунца (1911)

## *Алесь Аркуш.*
## Асуджаны без суда: Браніслаў Пяткевіч (1918–2005)



Браніслаў Пяткевіч.
Пасля вызвалення. 1960-я гады



ПРОЛЕТАРЫІ УСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

ВІЦЕБСКІ ПРОЛЕТАРЫЙ

ОРГАН ВІЦЕБСКАГА ГАРКОМА КП(б)Б, ГОРСОВЕТА І ГОРПРОФСОВЕТА.

№ 141 (5508). ПАНЯДЗЕЛАК 29 ЧЭРВЕНЯ 1936 ГОДА. ЦАНА 10 КАП.

СТАЛІНСКІЯ КЛОПАТЫ ... АБ ЗАБАР...

У гэтай газеце быў надрукаваны
паклёпніцкі допіс
на Браніслава Пяткевіча



25 кастрычніка 1937 г., № 286 (6890)

ВЫЛАЗКА ВОРАГА У ГАЗЕЦЕ

У ветзооінстытуце доўгі час арудвалі ворагі народа, шкодзілі ў рабоце інстытута і засмечвалі яго варожымі элементамі. Партыйная і камсамольская арганізацыі і зараз не ліквідуюць вынікі шкодніцтва і таму не відаць, што ворагі працягваюць беспакарана сваю антысавецкую работу.

Газета інстытута нетолькі не мабілізуе студэнтаў на павышэнне рэвалюцыйнай пільнасці, на выкарчоўванне контррэволюцыйных элементаў, а наадварот, яна прадастаўляе гэтым варожым элементам трыбуну ў газеце. Прывядзем прыклад. Кіраўнік кафедрай нармальнай анатоміі Рудзько, карыстаючыся палітычнай слепатой кіраўнікоў інстытута вядзе адкрытую контррэволюцыйную агітацыю на занятках і ў кафедры, робіць нападкі на беларускі народ. Студэнты сігналізавалі аб гэтым парткому, але нам. сакратара парткома Гальскевіч ён-жа рэдактар газеты не толькі не выкрыў Рудзько, але прадаставіў трыбуну ў газеце для яго варожай агітацыі.

Рудзько і цяпер не спыняе свае антысавецкія справы. На днях, на занятках была новая варожая вылазка Рудзько. Ён вучыць студэнтаў не супрацьдзейнічаць варожым элементам. Аб гэтым таксама ведае Гальскевіч, але мер не прымае.

Газета таксама папулярызуе Ермаловіча антысеміта, які вядзе антысавецкую агітацыю. Газета прадастаўляе трыбуну для ворагаў, нераспісваючы іх контррэволюцыйныя лозунгі.

Характэрна, што з 12 вялікіх нумароў ні слова аб падрыхтоўцы да выбараў у Вярхоўны Совет. Такое становішча і ў іншых газетах. Ці выпадкова гэта? Не выпадкова. Газета зоатэхнічнага факультэта змясціла антысавецкія карыкатуры. Ім кіруе гэтай газетай. Намеснік рэдактара газеты Піткевіч комсамолец, бацьку якога асудзілі як ворага калектывізацыі. Яму даручана кіраваць газетай. Усе гэтыя варожыя справы творацца на вачах у кіраўнікоў партыйнай і комсамольскай арганізацыі інстытута, якія толькі бездапаможна разводзяць рукамі.

Сакратар камітэта комсамола т. Гуровіч ведаючы аб Піткевічу не знаходзіць патрэбным заняцца гэтым пытаннем. Кіраўнікі партыйнай і комсамольскай арганізацый павінны панесці поўную адказнасць за гэту шкодную лінію, якую вядзе газета ветзооінстытута.

Вайман.

ЗАКОНЧАНА АЛІМПІЯДА МАСТАЦКАЙ САМАДЗЕЙНАСЦІ

22 і 23 кастрычніка праводзілася гарадская алімпіяда мастацкай самадзейнасці. У гэтыя дні на алімпіядзе былі паказаны новыя цікавыя нумары. З іх асабліва след адзначыць рускі танец, які выконваўся т. Навіцкай і Эпрох і соло на мандаліне ў выкананні Козіна, сольнае пяянне (Ананьева — фабрыка імя Клары Цэткін), Шофман — жангліраванне. З чытцоў былі прызнаны лепшымі т. Мітрошанка (медсанпраца) твор Пушкіна «Бахчысарайскі фантан» і т. Храпуновічам (фабрыка імя Клары Цэткін) вершы Маякоўскага «Хорошо» і «Савецкі пашпарт».

У ліку разнастайнага жанра на алімпіядзе былі паказаны некалькі пастановак, з якіх вялікім поспехам у гледача карысталіся пастаноўкі драмгуртка клуба будаўнікоў на...

Нельга прайсці міма факта — адсутнасці паказу на алімпіядзе самадзейнасці такіх буйнейшых калектываў горада, як чыгунка і металісты. Прафарганізацыі чыгункі і завода імя Кірава недаацэньваюць работу мастацкай самадзейнасці.

25 і 26 кастрычніка адбудуцца заключныя вечары паказу лепшых нумароў мастацкай самадзейнасці. У ліку гэтых нумароў хоры калектываў фабрыкі «Сцяг індустрыялізацыі», шчоткамбіната, работнікаў [illegible]гандлю, танцы харавы ансамбль фабрыкі імя Клары Цэткін, сольнае пяянне тт. Бранчонак (фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі»), Зайцавай (шчоткамбінат), Ананьева (фабрыка імя Клары Цэткін) і рад іншых.

Безумоўна з гэтых нумароў многія [illegible]

За гэты паклёпніцкі допіс у газеце
«Віцебскі пролетарый» Браніслаў Пяткевіч
трапіў у Гулаг. 25.10.1937



Дарагі Браніслаў!
Віншую Цябе з днём нараджэння
— 23 верасня, —
зычу добрага здароўя і выдатных
поспехаў у творчасці.
Шчыра дзякую Табе і Тваёй [illegible]
Глафіры за павіншаванне з днём майго
нараджэння. Дзякую за выратаванне
мяне ад пагібелі на суворай Поўначы, бо
каб не Ты, не адзначаў бы мне свае
81-га года. — Што новага ў Цябе? Ці
пішаш, друкуеш? Дзе зараз Твае сын і дачка?
У мяне дрэнна з вачамі. [illegible]
[illegible] Лекцыі мае вочы прафесар Бірыч П. В.
З сардэчным прывітаннем Твой
Сяргей Новік-Пеюн

Сяргей Міхайлавіч Новік-Пеюн г. Мінск

г. Мінск.
6.IX.1987 г.

...Новік-Пеюн Сяргей Міхайлавіч
...220036 г. Мінск-36
вул. Купрыянава 9, кв. 108
тэлефон ...-08-48
ОТПРАВЛЯТЬ ПО ПОЧТЕ ТОЛЬКО В КОНВЕРТЕ

Віншавальная паштоўка
Сяргея Новіка-Пеюна
да Браніслава Пяткевіча. 06.09.1987

***Раіса Зянюк.***

**«Такі крыху сучасны ксёндз»**

**(Лісты Ларысы Геніюш да ксяндза Міхала Варанецкага)**



Кс. Міхал Варанецкі (на пярэднім плане) са святарамі (злева направа) а. А. Івашкевіч, кс. А. Філіпчык, а. А. Дзярдзюк OFMcap, 1988 г. (Архіў місіянераў у Кракаве на Страдаме)




Віншавальная паштоўка з Новым, 1978 годам. (Архіў місіянераў у Кракаве на Страдаме)



Кс. Міхал Варанецкі, Ружаны, ліпень 1985 г. (Архіў місіянераў у Кракаве на Страдаме)

*Лявон Юрэвіч, Наталля Гардзіенка.*
**Епіскап Апанас (Мартас) і яго кніга, або На двух крэслах**



Архіепіскап Апанас (Мартас)



БЕЛАРУСЬ
в исторической государственной
и церковной жизни

Составил и издал
АРХИЕПИСКОП АФАНАСИЙ МАРТОС
инок Почаевской лавры
магистр православного богословия
Варшавского университета
бывший епископ витебский и полоцкий

КНИГА В ТРЕХ ЧАСТЯХ

Буэнос-Айрес. Аргентина
1966
Репринт
Белорусский Экзархат Русской Православной Церкви
Минск, 1990

Тытульны ліст кнігі
архіепіскапа Апанаса (Мартаса)

*Лявон Лаўрэш.*
**Рок плывет над Лидой (Воспоминания Владимира Крушевского)**



Лариса Кончевская (слева) с Владимиром и Любовью Крушевскими. 1982

## *Вера Савина.*
## Андрей Миронов: «Алло? Минск?» (из спектакля «Прощай, конферансье!»)

В студии БТ народная артистка УССР Валерия Заклунная, заслуженный деятель искусств БСС режиссёр Виктор Карпилов, редактор Вера Савина. Запись программы «Наши гости» — Национальный академический театр русской драмы им. Леси Украинки. Киев, 1985(?)





Андрей Миронов (фото из интернета)



Редактор Вера Савина. Запись программы «Наши гости» — московский Театр на Таганке. Студия БТ, 1979



Народный артист СССР Иннокентий Смоктуновский, народная артистка РСФСР Ия Саввина, народный артист РСФСР Владлен Давыдов, редактор Вера Савина, режиссёр Галина Кравченко, сотрудники БТ. После записи программы «Наши гости» — МХАТ СССР им. Горького. БТ, 1985

*Зина Гимпелевич.*
**Дмитрий Романович Каминский (1906–1989): жизнь и музыкальное творчество**



Роберт Каминский (отец Дмитрия).
До 1917 г.



Авторский концерт Дмитрия Каминского
в Белгосфилармонии. 1955



Дмитрий Каминский. 1970

*Валянціна Трыгубовіч.*
**Браты Найдзюкі і жонка малодшага**



Юзэфа Брэчка (справа) і Гертруда Чарнэцкая. Міхельсдорф, 1947



Кіраўнікі скаўтаў: Людміла (Лёдзя) Харытончык, Ада Кабяка, украінец, Юля Каханоўская, Юзя Брэчка. Кеферсфелдэн, Заходняя Нямеччына, 1949



Скаўцкая дружына «Голуб». Першы рад: Насця Краўчэня, Ніна Дудзік, Юзэфа Брэчка, Надзя Дудзік, Арыядна Кабяка; другі рад: Ліда Карпік, Вера Блоцкая, Вера Касавец, Вольга Яўстаф’ева, Мальвіна Бычкоўская, Надзя Русак. Міхельсдорф, канец 1940-х



Юзэфа Брэчка. Заходняя Нямеччына, 1954



Беларуская грамада ў Мюнхене. Юзэфа Брэчка, Барбара Вержбаловіч, за ёй ?, Галіна Ганчарэнка, Станіслаў Станкевіч, Зінаіда Станкевіч, Рыгор Казак (Крушына), Алесь Марговіч, Пётра Сыч, Лена Чайкоўская, унізе – Люба Урыўская, Эльза (будучая жонка Пятра Сыча), Толік Чайкоўскі, Рая Станкевіч. 1955




Язэп Найдзюк
(1909–1984)




Мемарыяльная дошка
на будынку друкарні
ў Інаўроцлаве (Польшча)



Ядзя, Карнэля і Юзэфа Найдзюк.
Каліфорнія, ЗША, 1962




Прадстаўнік БККА на штат Каліфорнія
Часлаў Найдзюк атрымаў з рук бурмістра
горада Лос-Анджэлес Сэма Ёрты
пракламацыю пра абвяшчэнне Дня Беларусі
з нагоды 54 гадавіны абвяшчэння дзяржаўнай
незалежнасці БНР. 1972



Карнэля, Ядзя і Часлаў Найдзюкі
на сустрэчы з заступнікам губернатара
Каліфоніі Эдамам Рэйнэкі
(другі справа) як з кандыдатам
на губернатара на наступных
выбарах. Наладзіла сустрэчу Рада
Рэспубліканскіх спадчынных групаў
акругі Лос-Анджэлес. 1973



Часлаў Найдзюк з дачкою вітаюць
кардынала Міндцэнты пасля багаслужбы. 1974



Галіна Орса і Юзэфа Найдзюк. 1976



Карнэля і Часлаў Найдзюк
ля беларускай экспазіцыі
на інтэрнацыянальным
фестывалі. 1976



Часлаў Найдзюк
з унучкай Шарлотай.
1986